№5 (102)
/верасень-кастрычнік/ 2019

дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Паэзія**

**Уладзімер Арлоў.**
Цвіў скрыпень. *Балада.* / 5
**Васіль Жуковіч.**
Белы гімн. *Вершы.* / 65
**Віктар Ярац.**
Імя на крылах. *Вершы.* / 84
**Андрэй Хадановіч.**
Школа травы. *Вершы з новай кнігі.* / 157
**Антаніна Хатэнка.**
Наросхрыст. *Вершы.* / 178

**Проза**

**Андрэй Федарэнка.**
Жэтон на метро. *Раман. (Пачатак.)* / 14
**Алена Брава.**
Карыятыда ў маціцовых кліпсах.
*Апавяданне.* / 77
**Валеры Гапееў.**
І хай ніхто не пойдзе пакрыўджаным,
або Грак і Монця Хрысцік. *Чытво.*
*(Фрагмент.)* / 94
**Сяргей Рублеўскі.**
Хлюст наезны. *Апавяданне.* / 169

**Дэбют**

**Дар'я Значонак.**
У ноч на сямнаццатага ліпеня.
*Апавяданне.* / 188

**Пераклады**

**Георг Гайм.** Марафон. *Вершы.*
*Пераклад Ганны Янкута.* / 194

**Вытокі**

**Лаўрэнці Зізаній.** Як рыба хвастом надае
свайму целу рух. *Казанне на пахаванні*
*Зоф'і, княгіні Чартарыйскай.*
*Перастварэнне Алеся Разанава.* / 204

**Юры Пацюпа.**
Яшчэ адна ананімная паэма. / 219

**Словы**
Хто ж ён, Анатоль Сыс?
*Гутарка Алеся Ліпая і Анатоля Сыса.* / 228

**Згадкі**
**Валянцін Акудовіч.**
“Крыніца” і “Крыніца”. *З новай кнігі “Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)”. (Працяг).* / 232

**Мастацтва**
**Адам Глобус.**
Пікаса.
*Словы пра найлепшага з мастакоў.* / 251

**Кнігапіс**
**Аляксей Пяткевіч.**
Слова пра Паэта. *Рэцэнзія на кнігу “Як вярталі «Спадчыну»”.* / 261
**Зіна Гімпелевіч.**
Лёс не спыніць. *Рэцэнзія на кнігу Юрася Шамецькі “Непрадказальнае”.* / 265
**Леанід Галубовіч.**
Мера светлага шчырага слова. *Рэцэнзія на кнігу выбранага Уладзіміра Мароза.* / 269

**Дзеяпіс**
*Новыя выданні на кніжных паліцах “Дзеяслова”.* / 275

Уладзімер Арлоў



...можна выйграць вайну
ганебна прайграць мір...

# Цвіў скрыпень

***Балада***

ты стаяў на срэбнай сцежцы
у смарагдавай траве
высокі худы цыбаты
жораў у лёгкай вятроўцы
колеру нефарбаванай сцяны
нашага скарбовага дома
майго першага
маленькага
драўлянага
сусвету

цвіў скрыпень
ты меў свае вечныя
пяцьдзясят пяць
мне было столькі ж

калі я не спадабаўся смерці
ці якраз спадабаўся
карацей ёй заманулася
сустрэцца яшчэ раз

хто была тая медсястра?
стрымгалоў везла мяне
на каталцы ў аперацыйную
голага якім прыйшоў на свет
марэлевыя ножкі
хрызапразавыя вочы
потым знікла
мне патлумачылі
такая ніколі не працавала

да цябе
тая сястрычка
спазнілася
мне ўжо
страшна сказаць
на адзінаццаць гадоў
болей чым табе
ты не любіў
называць мяне на імя
проста *сын* або *сынок*
*сынок* у астатняе лета

тое лета
недзе доўжыцца дасюль
лета калі ты пакутаваў
калі не ўставаў
калі прасіў прынесці
трафейны вальтэр
калі гаварыў са мной
на адной мове
блытаў *цябе* і *табе*

над Дзвіною цвіў скрыпень
я зашпурнуў вальтэр
амаль на сярэдзіну
каб не было спакусы
бо спакуса была
магчыма вальтэр і цяпер
сумуе па тваёй руцэ

ты не паспеў
павандраваць са мной
паспеў пасля восьмага класа
звазіць у Адэсу
пачаставаў бурштынавым вінам
на Ланжэроне
трох глыткоў не хапіла
каля пляжнае бочкі
я ўпотайкі выжлукціў
паўнюткую шклянку
заплыў за хваляломы і буйкі:
зоркі медузаў
касмічныя караблі дэльфінаў
аквамарынавы сусвет
быў створаны адмыслова
дзеля майго заплыву

здагнала сіняя маторка
адзін ратаўнік руды весялун:
*зараз утопім на х..!*
*знойдзем і прэмію атрымаем*
другі чарнявы задума
як мой сябар Вова Цымерман:
*звазжу Ілонку ў Маскву*

думаў яны жартуюць
яны пачалі тапіць
я крычаў
*мой бацька пракурор*
*вас пасадзяць*
*вас расстраляюць*
я выплыў
*калі скажаш бацьку*
*мы цябе бл..дзь*
*самі расстраляем*

ты паспеў павандраваць
без мяне
мяне проста не было
магло не быць ніколі
заўсёды бясконца дзіўлюся
шанцы ўбачыць
як цвіце скрыпень
у кожнага
бясконца блізкія да нуля

заўсёды імкнуся
ісці па тваіх слядах
Дэбрэцэн
твой сябар зайшоў пагаліцца
цырульнік-хартыст
рукою майстра
перарэзаў горла
ад вуха да вуха
на цэлую азярыну крыві
твой *сынок*
ніколі не галіўся
некалі ўбачыш

Эгер
лабірынты вінных скляпоў
ці не графаў Эстэрхазі?
дваццаць сем
п’яных салдацікаў
шчасліва патанулі ў віне
з расстраляных бочак
ты выплыў

(калега Петэр Эстэрхазі
напісаў раман
*Harmonia caelestis**
першая частка
Эстэрхазі легендарныя
другая – бацька-граф
шэдэўральная кніга
чытачы закахаліся ў бацьку
Петэр зазірнуў у архіў
раптам новыя залацінкі?
атрымаў чатыры тэчкі
татка чвэрць стагоддзя
быў агентам іхняга гэбэ
старанным сексотам
даносчыкам інфарматарам
меў узнагароды
стукаў на родных
на сяброў і калегаў
сын быў калегам
ці не таму Петэру так мала?
вечныя
шэсцьдзясят шэсць
як яны сустрэліся *там?*
*Harmonia caelestis?*

калі архівы адчыняццца
ці хопіць мне мужнасці?)

Вена
амерыканцы разбамбілі
Шонбрунскі звярынец
львы і тыгры баранілі горад
разам з нацыстамі
драпежнікаў пастралялі
слана прыпісалі
да твайго дывізіёна
фота з табой на слане
у мяне толькі на вярблюдзе
*Казкі венскага лесу*
на сняданак
сунічныя смочкі

Курфюрстэндам у Берліне
можна выйграць вайну
ганебна прайграць мір

ты не паспеў
паразмаўляць са мной
як дарослы з дарослым
адно тузін згадак
падслуханых
неверагодных
вусцішных
дарагіх
з халадком у сэрцы
з пульсам у скронях
з пачуццём бязважкасці
у хлапечым целе

расстрэльвалі
не толькі бочкі з вінам
*смершавец* сказаў твайму сябру
*аддай мне Дуню*
сябар закруціў дулю
праз тры дні
смяротны вырак:
шпіёніў на абвер

героі *заградатрадаў*
ардэнаносцы
*наступала па балоту*

*а затым пайшла назад*
*у сорак трэцім тую роту*
*расстраляў заградатрад*
цвіў скрыпень
пчолы здзіўлена гайдаліся
на меданосных кветках
асцярожна цалавалі
мёртвыя вусны

чырвонаармейцы
гвалцілі нямецкіх жанчын
аўстрыйскіх таксама
часам зусім юных
проста дзяўчатак
з малаком на вуснах
*колькі ёй было?*
*можа трынаццаць?*
*п’яны мужчына*
*ператвараецца ў аленя*
ты ўратаваў яе?
ці на вайне як на вайне
скрыпень не скажа

ты не сказаў мне
пра тую жанчыну
яе звалі Еўфрасіння
яна хадзіла да цябе ў шпіталь
пасля аперацыі
аднойчы прыйшла ўадначас
з мамай
прынесла табе букет

цвіў скрыпень
пурпуровыя кветкі
вастраносыя лісцікі
бабуля сушыла лісцікі
лекавала запаленні
мама плакала ўвесь вечар
маўчала ўвесь тыдзень
ці ёсць лекі
ад такіх сустрэч?

ты не дачакаўся
маёй першай кнігі
магчыма ты прачытаў яе
як і ўсе наступныя

досыць было б кнігі баладаў
*Паручнік Пятровіч*
*і прапаршчык Здань*
цябе магла прывабіць назва
ты быў лейтэнантам

памятаеш?
у тое лета
я прасіў цябе
калі *пасля*
будзе *працяг*
дай мне ведаць
напрыклад
затэлефануй
на дзень нараджэння

першы раз
тэлефон азваўся
міжгароднім званком
у слухаўцы жыло маўчанне
потым посвіст ветру
шолах хваляў
далёкае рэха
другога разу не было

кожны дзень нараджэння
у чаканні званка
зноў і зноў апынаюся
у тым імгненні вечнасці:
твой вечаровы кабінет
базілікавы абажур
залаты сноп святла
ты пішаш
я на скураной
цынамонавай канапе
яшчэ не ўмею пісаць
малюю
чалавечкаў
домікі
караблікі
караблікаў усё больш
ужо цэлы флот
канапа грэе
кліча карамельную дрымоту
ператвараецца ў карабель
уздымае ветразі

аднойчы
сонечны акрайчык шчасця
гасне
карабель адплывае ў невараць
добра што без мяне
без цябе
без іншых вандроўнікаў
і вандроўніц

у нейкай Маскве
*прынялі пастанову*
не пра твой кабінет
пра ўсе на свеце
кабінеты і канапы
быццам канапы
плавалі пад сваімі ветразямі
кудысьці не туды
цяпер я ведаю
якраз туды і трэба плаваць

кожны дзень нараджэння
плыву
на тваёй цынамонавай канапе
чакаю званка
майму чаканню
хутка споўніцца
пяцьдзясят пяць
магчыма тады

*там*
на срэбнай сцежцы
у смарагдавай траве
яшчэ няма сотавых тэлефонаў
я падбягаю да цябе
абдымаю хлапечае цела
такім ты стаў у тое лета
жораў у лёгкай вятроўцы

цвіў скрыпень
мы гулялі ў шахматы
кожная партыя мела шанцы
стаць фінальнай
ты казаў
*не ўздумай паддавацца*
я больш не гуляў у шахматы

сёння ўранку
тры сцяблінкі скрыпеню
у зялёным збанку
на падвоканні
пурпуровыя кветкі
вастраносыя лісцікі
няўжо Еўфрасіння?

калі мы сустрэнемся
я скажу вам
*зацвіў скрыпень*

---

**Harmonia caelestis* – Нябесная гармонія (лац.)



Андрэй Федарэнка



...мода
выратуе
нашу мову...

# Жэтон на метро

***Раман***

## Частка першая
## НЕСПАКОЙНЫ ВЕЧАР

### I

Бывае, тое, што здавалася вечным, прамільгне за адно чалавечае жыццё, а падзенне znічкі расцягнецца на тысячагоддзі; ад з'явы нібыта глабальнага маштабу з часам у гісторыі не застаецца і следу, і наадварот, якаясь драбяза, узніклая на пустым месцы, пакрысе пачынае павялічвацца, разрастацца, раскручвацца, уцягваючы ў сваю арбіту ўсё новых і новых людзей, заблытваючы іх,ператасоўваючы і прымушаючы рабіць самыя неверагодныя ўчынкі... Так думаў паэт Віктар Рак (псеўданім), які ў расшпіленай белай сарочцы, у шортах, з кубкам кавы ў адной руцэ і з тонкай цыгарэтай у другой стаяў на сваёй зашклёнай,

шырокай і доўгай, амаль летні кабінет, лоджыі, каля расчыненай створкі вакна і пазіраў на нязвыкла ціхі дворык. Было тое сямнаццатага ліпеня дзве тысячы сямнаццатага года (амаль усе крымінальныя гісторыі пачынаюцца з пратакольнай даты, і гэтая не выключэнне), у пятніцу, у дзевяць вечара.

З вышыні шостага паверха відаць была лаўка каля пад'езда, рабіна з аранжавымі, рана паспелымі ягадамі, дзве дарослыя бярозы і дзве маленькія, падвязаныя да калкоў. Машын мала – людзі перад выхаднымі паз'язджалі ў вёскі і на дачы. На прастакутніку аўтастаянкі застыў у пакорлівым чаканні, на спушчаных колах, і яго, Рака, старэнькі Volkswagen Passat, на якім ён даўно не ездзіў. Чорная дарожка асфальту коса перасякала зялёны газон, у канцы дзіцячай пляцоўкі, пустой цяпер, закручвалася правільнай дзявяткай, абгінаючы нерухомыя арэлі і пясочніцу з забытым ярка-чырвоным вядзерцам. Удзень быў дождж, пазбіваў з травы і з дрэў пылок, які цяпер жаўцеў уздоўж бардзюраў і каля ліўнёвак. Ад зямлі падымалася дрыготкая пара. Пахла вымытым лісцем і мокрай травой. Вечаровае сонца хоць і схавалася за суседні дом, але нават нябачнае – свяціла, і паветра было сінаватым, як лёгкі туман ці смуга.

У лоджыю ўляцеў ліпеньскі хрушчык і не мог знайсці расчыненую палавіну акна, біўся аб шкло, поўз угару і падаў зноў на падаконнік. Паэт лёгкімі пстрычкамі памог яму вылецець, прытушыў у бляшаначцы з вадой недакурак – ніколі ў жыцці нічога не выкінуў з балкона, нават скарыстанай запалкі, і, паціраючы рукі, прысеў за стол.

“А пара, – падумаў уголас, – даўно пара ўсур'ёз заняцца прозай!”

Усярэдзіне лоджыя была ўтульная, прасторная; пісьмовы стол, канапка, два крэслы – адно завалена кнігамі, у другое сеў паэт; на стале – лямпа, уключаны ноўтбук, з паўдзясятка гелевых рознакаляровых ручак і стос паперы – чыстай, беленькай, якая так і прасілася, каб хутчэй парушылі яе цноту. Паэт падняў над клавіятурай растапыраныя пальцы, як музыкант над клавішамі раяля...

Тут і ўдарыў ззаду з пакоя ў вушы званок. Стацыянарны тэлефон! Як ён на яго забыўся? Мабільны адключыў, а гэты – хто ім цяпер карыстаецца? Паэту захацелася заціснуць вушы. Як усе творчыя людзі, плюс адзінокія, ды ва ўросце (а было яму за сорак, лепш сказаць – пад пяцьдзясят, ці яшчэ больш дакладна – сорак восем), быў ён маладушны, меў слабыя нервы, да таго ж выдатна ведаў, што ад такіх званкоў – па стацыянарным, увечары перад выхаднымі – нічога добрага не бывае; менавіта такімі званкамі яму паведамлялі пра смерць маці, бацькі, хроснай, пра хваробу стрыечнага брата, – гэта пры тым, што ў яго часта змяняліся нумары, і калі, напрыклад, трэба было паведаміць якую добрую навіну – ніхто не мог дазваніцца, але як толькі здаралася няшчасце, адразу знаходзіўся дабрадзей, ды не адзін, а некалькі, якія адшуквалі яго ў самых неверагодных месцах па любым тэлефоне, каб хутчэй выказаць спачуванне. Цяпер нібыта і не было адкуль чакаць непрыемнасцяў – хоць бы таму, што ў яго больш нікога з блізкай радні не засталося, акрамя цёткі, што жыла дзесь каля Енакіева “на падкантрольнай Кіеву тэрыторыі”, ды яшчэ больш далёкага сваяка, падпалкоўніка міліцыі ў адстаўцы, якога Рак не помніў нават па імені, – а ўмоўны рэфлекс застаўся.

Канечне, можна не браць трубку. Але потым стане сорамна. Цяжка будзе ўклініцца ў працэс. Пачнуцца ўпіканні самога сябе ў маладушшы.

А званок не сунімаўся! Рак асцярожна зірнуў на сіні экранчык. Нумар

незнаёмы. Хутчэй за ўсё якісь нецярплівы аўтар. Трэба адказаць. Вырашыць усё ў пятніцу, бо такія дастануць з-пад зямлі, будуць званіць у суботу, у нядзелю, пакуль не сапсуюць выхадныя. Была яшчэ, праўда, надзея, што памыліліся нумарам. Ён падняў трубку.

– Слухаю вас, – сказаў строга, як у рэдакцыі адказваў аўтарам. Ледзь чутны, бы з таго свету, жаночы голас запытальна назваў яго імя і па бацьку. Ён не пазнаў голасу, але раптам захваляваўся.

– Так. Ён вас слухае.

– Гэта... Алена!

– Лена?

– Міхайлоўская!

Ён успомніў імгненна – далёкую вясну, выступленне ў нейкім паліграфічным каледжы, ці тады яшчэ тэхнікуме, цэлую актавую залу студэнтак-завочніц, і сярод іх адна, белая, поўненькая, з блізарукімі добрымі вачамі, не так прыгожая, як абаяльная, на якую ён увесь час любаваўся; ён і сам быў тады малады, адносна, канечне, трыццаць гадоў роўна. Пасля выступлення падпісаў ёй кнігу, пазнаёміліся і пайшлі гуляць па вячэрнім, нагрэтым за дзень горадзе. Яна аказалася смяшлівай, без комплексаў, жартавала, што калі яны пажэняцца, яна возьме падвойнае прозвішча: як прыгожа будзе гучаць – Алена Рак-Міхайлоўская. А яму было не да жартаў. Ён крыху пабойваўся яе, такой маладой, а калі яна прызналася, што замужам (“за чалавекам, якога не кахаю”, – хутка дадала яна), і не пражыла з мужам і года, першая думка была ўвогуле ад яе адвязацца. У той жа час ён разумеў, што надта спрыяльны момант, гэтая сустрэча, і каб пасля не давялося шкадаваць пра нявыкарыстаны шанц. А з іншага боку, яму не было куды яе весці. У трыццаць гадоў ён не меў кватэры, усё абяцалі, маўляў, дом на падыходзе, ды ўсё адкладвалі, і ён пакуль туліўся ў жанатага сябра. Між тым цямнела, загарэліся ліхтары, ён ліхаманкава думаў, як быць, але яна сама праявіла ініцыятыву – проста ўзяла яго за руку і павяла ў парк, дзе было надзіва нешматлюдна, і там, у глухім кутку, куды не даставала святло ліхтара, яны адшукалі закрытую кустоўем лавачку, засыпаную чаромхавымі пялёсткамі (самога дрэва нідзе не было відаць), на якую прыселі, схаваліся, затаіліся, як школьнікі; як тады пахла чаромхай! якія цёплыя былі ў яе вусны! якое падатлівае, гарачае, маладое цела! – і неяк само сабой адбылося тое, што потым стала адным з самых светлых успамінаў у яго жыцці. Ён напісаў пра гэта верш, “Чаромхавы чад”, паставіў у канцы дату, год, дзень, нават прыблізны час; верш неаднойчы перавыдаваўся ў зборніках, і кожны раз, праглядаючы яго, Рак згадваў сімпатычную Міхайлоўскую, усё чакаў, калі яна абзавецца (так яны дамовіліся – яна яго будзе шукаць, а не наадварот), чакаў пісьмаў і званкоў, а іх не было, яна знікла без следу і без знаку.

– Дык вы помніце мяне?

– Яшчэ як помню, – сказаў ён, зірнуўшы на кніжныя паліцы. – Дзе ж ты была столькі часу?

– А вы дзе былі? Як можна... мы правінцыялы ...куды нам... баялася парушыць... вы такі славуты...

– Дзе ты цяпер?

– Усё там! Жыву. Працую! – гучна гаварыла, амаль крычала Міхайлоўская. У трубцы нешта патрэскавала, папісквала. – Замуж вось выходжу!.. Дачка... амаль дарослая... клас!..

З-за кепскай сувязі яму пачулася не “клас”, а ў “нас” – “дачка дарослая

ў нас". Ён так усхваляваўся, што раптам стала горача вушам; і ўжо тым больш прапусціў пра замужжа. Не кожны дзень і не кожнаму мужчыну ў жыцці даводзіцца чуць падобнае.

– Колькі гадоў?

– Што?

– Колькі ёй гадоў? – закрычаў і ён.

– Сямнаццаць!

Ад хвалявання ў яго адбыўся нейкі збой у памяці. Ён падышоў да кніжнай паліцы (сонца сядала, апошні водбліск яго затрымаўся на шкле расчыненых балконных дзвярэй, і на імгненне Рак, як у люстэрку, убачыў там свой адбітак: падстрыжаная галава з кароткай чупрынкай, твар, знаёмы да кожнай зморшчынкі, кожнай радзімкі, зрэшты, даволі сімпатычны, калі б не вочы: пукатыя, як у рака, заўсёды здзіўленыя, а цяпер яшчэ і ўстрывожаныя). Кніжкі пасыпаліся долу. Ён пацягнуўся да верхняй паліцы, дзе стаялі некалькі новых зборнікаў з "Чаромхавым чадам" і дзе яшчэ вышэй, на самым ражку, вісеў на шаўковай нітцы, прадзетай у дзірачку, звычайны жэтон на метро цёмна-чырвонага колеру, прыціснуў плячом трубку, каб вольнымі былі дзве рукі, выкалупнуў кніжку, адгарнуў старонку з вершам, паглядзеў на дату, дадаў дзевяць. І адразу на душы стала абыякава. Які танны шантаж. Навошта ж так.

– А павінна быць васямнаццаць, – глуха сказаў ён у трубку.

– Чаму?

– Калі, як ты сцвярджаеш, гэта наша дачка...

І прыкусіў язык. Толькі цяпер дайшло, што ён двойчы за хвіліну ўмудрыўся даць маху. Яна зразумела яго.

– Так, – сказала яна ціха. – Усё правільна. Нашай было б васямнаццаць... магло быць.

Ён ветліва-халодным, амаль афіцыйным тонам папрасіў прабачэння за кепскую сувязь і далей слухаў, не перабіваючы. Даведаўся ён, што яна па-ранейшаму працуе ў раёнцы тэхрэдам, была замужам, развялася, муж-раўнівец кінуў яе з малой, дачку гадавала адна, і вось яна вырасла, скончыла школу, ледзь хапіла балаў на журфак, але там яшчэ ўнутраныя экзамены і творчы конкурс у два этапы: сачыненне і "дэманстрацыя навыкаў рэдагавання тэксту", як выказалася Міхайлоўская.

– Ад гэтага будзе залежаць, на бюджэт ці на платнае. Або ўвогуле на філфак. І ну зусім няма каму памагчы!

"Вы толькі і ўспамінаеце, калі вам нешта трэба", – падумаў Рак. Кепская сувязь, гэты то блізкі, то далёкі, то звонкі, то глухі, быццам з таго свету, голас, гэтыя яе амаль плаксівыя інтанацыі, – усё пачынала яго крыху раздражняць.

– Хоць парайце што-небудзь!

Моршчачыся, адводзячы трубку ад вуха, ён вяла паспрабаваў адхрысціцца:

– Дык у чым праблема? У крайнім выпадку хай платнае.

– Платнае для багатых. На платнае да трох тысяч. У год.

– Даляраў?! – ахнуў ён, на гэты раз хутка памножыўшы тры на чатыры.

– На філфак, канечне, менш...

– Дванаццаць тысяч! Але што я магу? Ды і хіба гэта робіцца так хутка? Дзе ж ты... вы раней былі?

– Баялася. Вы такая славутасць, – па другім крузе пайшла яна. – Можа, як-небудзь... мы ж не чужыя людзі...

– Я ніколі ў жыцці гэтым не займаўся.

– Хоць дайце надзею! А калі б гэта была наша дачка? Тады знайшлося б выйсце?

Ён сказаў:

– Паспрабую, але не абяцаю.

– Які вы добры! Я ведала, што вы паможаце!

– Ніякіх гарантый, – паўтарыў ён і, каб хутчэй скончыць: – Тады – да пабачэння?

– Не-не, – спахапілася яна, успомніўшы, што хоць з ветлівасці павінна і ім пацікавіцца. – А самі як? Усё адзін?

Настала яго чарга хоць коратка паспавядацца. Так, адзін, жаніцца не паспеў, доўга не было кватэры, а потым, калі яна з'явілася, не было з кім, больш не падыходзілі на выступленнях маладыя дзяўчаты, а пасля і сама жаніцьба стала нейкай не моднай, – наадварот, пачало лічыцца, што сапраўдны творца павінен быць заручаны толькі з Літаратурай, каб аддаваць усяго сябе творчасці, – словам, было позна.

– Так і жыву, працую ў рэдакцыі ў аддзеле паэзіі, зорак з неба не хапаю, але жыццём задаволены, цаню сваю творчую свабоду... Ну, да пабачэння?

Але Міхайлоўская ўсё адцягвала: "Дзякую, дзякую, што б я без вас рабіла, вы такі ж добры, як і быў!" Зноў ён сказаў: "Да пабачэння?" – і зноў яна: – "Дык, значыць, можна спадзявацца? Можна вам званіць?"

І так некалькі разоў. Калі нарэшце ў трубцы пачулася піканне, Рак з прыкрасцю паглядзеў на стос чыстай паперы, на ноўтбук, дзе даўно ўключыўся рэжым чакання і патух манітор. Засяроджана пасвістваючы, ён дацягнуўся да ражка паліцы, зняў жэтон, пакруціў на пальцы, павесіў назад, выйшаў на лоджыю. У двары ўжо амаль сцямнела. Ён узіраўся ў сіняватыя прыцемкі і думаў: цікава, чаму ён і праўда як бы за нешта адчувае віну?

І тут зноў ударыў ззаду званок. Уся яго вінаватасць знікла без следу. Ён падумаў на Міхайлоўскую: вось людзі, дай палец, кусаюць па локаць! Да яго не адразу дайшло, што гэта не тэлефон, а звоняць у дзверы. Асцярожна, не ўключаючы святло, ён прабраўся ў калідор, зазірнуў у "вочка" – і ўбачыў суседа, які жыў праз вуліцу, старога Самусенку, і пачуў яго гучны басавіты голас:

– Адчыняй, бісаў сын! Я цябе бачыў толькі што на лоджыі!

## II

Некалі даўно гэты Самусенка, Анатоль Фядосавіч яго звалі, выкладаў у іх ва ўніверсітэце старажытную, класічную і сучасную беларускую літаратуру, быў ненамнога старэйшы за студэнтаў, сімпатычны, строгі, высокі ростам; пра яго ведалі, што жанаты, мае сына і дачушку, а таксама, што ён аўтар нейкай надзвычай смелай дысертацыі ці манаграфіі, якую, праўда, ніхто са студэнтаў не чытаў. У Рака засталося ў памяці, як Самусенка хутка заходзіць у аўдыторыю – ад паветранага струменя варушыліся старонкі канспектаў на першых партах, і адразу, яшчэ не дайшоўшы да кафедры, пачынае чытаць па памяці:

З-за рэчкі ціснуцца каровы.
Ідзе наперадзе Красуля,
за ёю Лысая, Рагуля
ды дзве пярэзімкі-цялушкі

іduць у згодзе, як дзве дружкі;
а збоку чмыша бык Мікіта,
хвастом матаючы сярдзіта...

– І гэта ўсяго адна "бедная" беларуская сям'я! – казаў іранічна і чамусьці сярдзіта, як той бык, Самусенка. – Палічыце, і зразумееце, што гаротнасць нашага сялянства моцна перабольшана.

Аднак акрамя гэтай каронкі – цытаты з "Новай зямлі" – на яго занятках панаваў сум. Лекцыі былі сухія. Ад манатоннага, крыху ў нос, голасу ўсе ўпадалі ў санлівасць. Затое на семінарах і іспытах рэзаў ён бязбожна, рабіўся яршысты, уедлівы: не пытаў, а дапытваў; студэнты ад страху называлі яго і Фядос Анатольевіч, і Анатоль Самусеевіч, і нават Майсей Фядосавіч, але ён не папраўляў – каб толькі такія хібы былі ў студэнтаў.

І вось так атрымалася, што ім, былому студэнту і былому выкладчыку, выпала жыць у суседніх дамах.

– Свет цесны, – жартаваў Самусенка, – Беларусь удвая, а Мінск утрая.

Як часта бывае ў мегаполісе, жывучы побач, яны амаль не сустракаліся. Рак ведаў, што Самусенка даўно на пенсіі, дзеці выгадаваліся, дачка-журналістка выйшла замуж за француза і жыла ў Парыжы, затое сын Юра – бацькоўскае гора, шалапут, байкер з банданаю, нідзе не прыткнуты, і чамусьці з гэтым Юркам Рак перасякаўся куды часцей, чым з яго бацькам. Юра неаднойчы заходзіў да Рака і, апусціўшы вочы, прасіў пазычыць грошы. Інтэлігентны, далікатны, мяккі Рак не мог яму адмовіць; між тым байкер, асмялеўшы, рабіўся ўсё больш нахабным, пачаў не проста прасіць, а патрабаваць, – тады толькі паэт парваў з ім адносіны, а неўзабаве даведаўся, што Юра загінуў, разбіўся на матацыкле. Яшчэ праз год адышла ў лепшы свет Самусенкава жонка. Калі-нікалі здалёк Рак бачыў стулены прывід у франтаватым французскім паліто, а потым знік і ён. Ці то з'ехаў да дачкі ў Парыж, ці перабраўся на дачу, ці мо ("грэшнай справаю" думаў Рак) проста памёр. Аж недзе з паўгода назад Самусенка аб'явіўся жывы-здаровы, больш за тое – раптам успомніў пра былога студэнта і панадзіўся хадзіць да яго ў госці.

Рак даўно не бачыў яго, і цяпер быў уражаны, наколькі гады могуць змяняць чалавека. Самусенка нават паменеў ростам, як бы стаптаўся ці як бы зверху ціснуў на яго горб; нос агурком, як у пажылога армяніна, адцягнутыя ўніз вочы-слівы, сівыя рэдкія валасы, мох на вушах, рабацінне на твары не толькі вясной, а ўжо заўсёды. Затое характарам змяніўся мала; у свае семдзясят энергічны, задзірысты, часам нават хамаваты, ён злоўжываў гасціннасцю былога студэнта, пазіраў на яго зверху ўніз, быў упэўнены, што менавіта ён, Самусенка, узгадаваў цэлую плеяду талентаў, у тым ліку і Рака, і што Рак яму да канца жыцця за гэта абавязаны.

Ён бесцырымонна ўвальваўся ва ўтульную кватэрку, якую ахайны гаспадар трымаў у ідэальным парадку; ніколі не пытаючы дазволу, не цікавячыся, ці ёсць у гаспадара вольны час, настрой, жаданне, ён даставаў папку і пачынаў знаёміць Рака з новымі раздзеламі сваёй манаграфіі. Ён працаваў над другой яе часткай, і яму патрэбны былі слухачы. Акрамя жадання паслухаць заўвагі (у сэнсе, пахвальбу), ён меў і больш дальнія планы – спадзяваўся пры дапамозе Рака надрукавацца.

– Свая людына ў рэдакцыі! Мо паможаш, – з лёгкай шапялявасцю ад устаўных метала-керамічных зубоў казаў ён.

Манаграфія была нейкай бясконцай. Ветлівы, бязвольны, далікатны паэт вымушаны быў асалавела слухаць. У яго не хапала смеласці сказаць жвавому дзеду, што ён і без таго наядаецца рукапісамі ў рэдакцыі, стаміўся і проста хоча адпачыць. Калі-небудзь Самусенка, як ён тлумачыў – “для разрадкі”, прыносіў шахматы або карты. У карты ён гуляў яшчэ сяк-так, у шахматы зусім няважна, кампенсуючы слабую гульню эмацыйнымі каментарамі. Ферзя называў каралеваю, слана – афіцэрам, ладдзю – турой або пушкай, замест ракіроўкі казаў – лакіроўка, замест шаха – шаховіч ці шахавенка. Іхнія дыялогі нагадвалі гогалеўскія.

– Дзе ты так у шахматы навучыўся, сам ці памагалі? – абавязкова ў пачатку пытаў Самусенка. А потым цягнуў: – Та-ак... т-э-кс... Шо він робліць, от нярускі... (Нярускімі ён называў усіх, хто не беларусы.)

Рак, ціха, пад нос:

– Канечне, не рускі, я беларускі.

– Шо він робліць, от нярускі...

– Канечне, не рускі, я беларускі. Ракіроўка праз бітае поле не робіцца... Добра, рабіце.

– Шо він, нярускі, робліць... Пачакай, я назад забяру ход... Дзе стаяла? тут? Я пастаўлю там...

Задумваючыся над ходам, Самусенка ссупліваў бровы – так, што выпіналі надброўныя дугі, і Рак, спадцішка на яго пазіркваючы, пачынаў верыць, што чалавек сапраўды пайшоў ад малпы.

– Што ж вы мне тут падрыхтавалі, – казаў ён, – якую пастку?

– Цэ мае сабачэ дзіло, – лагодна адказваў Самусенка. Жарты ў яго былі цяжкія; акрамя звычкі ўплятаць украінізмы, было ў яго яшчэ любімае, на ўсе выпадкі слоўка, якое асабліва раздражняла Рака, – гэта слова “памаглі”. Дзе б што і з кім ні здаралася, ад побытавай непрыемнасці да глабальнага стыхійнага бедства, Самусенка, калі з намёкам, калі з хітрынкай і паніжаючы голас, але заўсёды ўпэўнена, канстатаваў: “Памаглі!”

“Самалёт разбіўся, чулі?”

“Не сам – памаглі”.

“Цунамі ў Японіі...”

“Памаглі”, – адмахваўся Самусенка.

“Ну як ужо тут маглі памагчы?” – не вытрымліваў Рак.

“Экалагічны баланс парушылі”.

Але яшчэ горш, чым карты, шахматы і чытанне манаграфіі было, калі Самусенка прыносіў пляшку самагонкі ці віскі, настройваўся на лірычны лад і хацеў, нават патрабаваў ад Рака шчырай бяседы. Тады для сціплага, сарамлівага, летуценнага паэта пачыналася проста кара егіпецкая. Па-першае, Самусенка быў пераборлівы ў плане закускі, любіў усё, як ён казаў, “вясковае, простае, сапраўднае”, менавіта – сала з часныком і цыбуляй, салёны гурок, яечню на шкварках, – акурат усё тое, чаго далікатны Рак цярпець не мог. “Я не апускаюся да таго, каб у кавярню хадзіць, мне хапае грошы на сваё, натуральнае, – казаў з гонарам Самусенка. – Я абы-чаго есці не буду. Ты мне па-простаму падсмаж пяльменяў з яечняй, – казаў ён, – а не амлет з беконам, ці як у той раз, памятаеш? – кітайскай локшыны з крэветкамі і мідыямі, прыдумаць жа такое!”

Калі-небудзь ён прыносіў загорнуты ў ліст А4 кавалачак белага ці прысыпанага чырвоным перцам вэнджанага сала, нюхаў і цмокаў языком: ах, які водар! на альховых дровах! сала з маёй малой радзімы, землякі з

Ельска прывозяць, прадаюць каля Еўраопта, – прымушаў Рака пакаштаваць, і калі той праз сілу з’ядаў скрылёк, пачынаў чапляцца: “Як можна мужчыну, беларусу, не любіць сала? Ці рэлігія не дазваляе?” Па-другое, варта было яму выпіць, як у яго зусім развязваўся язык і ён пачынаў даставаць Рака больш вытанчана.

– Узяць хоць бы мяне. Вялікая кватэра, была жонка, быў сын, ёсць дачка, і зяць, і ўнучка... А ты! Ні жук, ні рак – а так. Адзін, з музай у беднай спаднічцы... Зрэшты, у мяне падазрэнне, што ты... сам ведаеш. Не той арыентацыі. Усе вы такія – паэты, мастакі, візажысты, стылісты.

Рак панура маўчаў – супраць хамства няма зброі, і толькі зрэдку рабіў слабыя спробы абараніцца: стараючыся таксама гаварыць з іроніяй, казаў, што яго дзеці – у кожным горадзе, дзе ён бываў у камандзіроўках і на выступленнях. Самусенка дабрадушна пасмейваўся:

– Расказвай. Ведаем мы вас, нетрадыцыйных.

– Уявіце сабе...

– Гэта мы ўжо чулі. І спрытныя ж вы на такія штукі! Адкуль што бярэцца? Самі вучыцеся ці памагаюць?

– Не хачу больш з вамі мець...

– Добра, не крыўдуй, веру, веру.

Зрэшты, трэба аддаць яму належнае, ён усё ж неяк адчуваў мяжу і палку стараўся не перагінаць, змяняў тон, прасіў прабачэння, пачынаў хваліць паэта, чытаў на памяць яго вершы, абяцаў уключыць іх у сваю манаграфію, – і добры бяскрыўдны Рак адтайваў. Пасля заднім розумам пакутліва думаў, якую ж яму вынайсці абарону, успамінаў свае палюбоўныя раманы (усе яны былі нейкія несур’ёзныя), даставаў з шуфлядкі і гартаў стары нататнічак з тэлефоннымі нумарамі, якіх даўно не існавала, з жаночымі прозвішчамі, якія даўно былі заменены на мужавыя. Неяк вясной, у красавіку, Самусенка прыйшоў да яго з папкай, але замест манаграфіі дастаў з яе нейкія раздрукаваныя аркушы.

– Што ў мяне ёсць для цябе! – ён са змоўніцкім выглядам хіхікаў, паціраў рукі і нават, разгуляўшыся, даволі балюча ўшчыкнуў Рака за бок. – Каб пасля не казаў, што твой стары выкладчык паганы. Нават не ведаю, чым ты мне аддзячыш.

– Што гэта?

– Падпрацоўка. Ты казаў, хочаш падзарабіць, дык вось табе – выпраўляй русізмы. Знайдзі такое цяпер. Лаві момант, а то жадаючых многа.

– Чыё гэта?

– Якая розніца. Адзін багаты чалавек.

– Ды хто, прозвішча можна сказаць?

– Якая розніца. Ну, Літаў. Так, рускі. Але я за аднаго такога рускага дванаццаць нашых не аддам. Я ў яго быў на віле... Які дом! Умеюць жыць людзі, – Самусенка зацмокаў языком і яшчэ больш стаў падобны на старога армяніна. – Дом, басейн, сад, прыслуга... Умеюць, умеюць жыць.

– Колькі яму гадоў?

– Якая розніца. Твайго веку.

– Пад пяцьдзясят? І толькі пачынае пісаць? Чаму я першы раз пра яго чую?

– Ён не так даўно піша, – махнуў рукой кудысь удалечыню Самусенка, – як толькі пераехаў у Беларусь, тры гады ўсяго.

Рак недаверліва ўзяў раздрукаваныя лісты. Адразу выскачыла, кінулася ў вочы: XII стагоддзе, XV стагоддзе... Ягайла-Скіргайла, Кейстут-Міндоўг...

– Гісторыя? – усклікнуў Рак. Ён нікому не прызнаваўся, але варта было яму ўбачыць рымскія лічбы стагоддзяў, назвы бітваў, імёны князёў і каралёў, як на яго находзіла нейкае здранцвенне. Ён прызнаваў толькі ролю літаратуры ў станаўленні і развіцці нацыі, а ўсе гэтыя тэксты, гэтак званую гісторыю (ды яшчэ беларускую гісторыю, у якой сам Саламон не разбярэцца), лічыў кампіляцыяй з іншых кампіляцый, перапісваннем рознымі аўтарамі аднаго і таго ж тэксту, які пры жаданні можна было адшукаць у самай элементарнай Вікіпедыі.

– Не, – сказаў ён. – Я не гісторык.

– Прычым тут гісторыя? Проста механічнае рэдагаванне, тут не трэба гісторыя.

– Вось што я вам скажу, яшчэ не чытаючы: графаманія! І не думайце, калі ласка, што гэта ўмоўнасць, гэта рэальная хвароба з усімі сімптомамі.

– Не гарачыся. Яшчэ не глянуў, а ўжо гарачышся.

– Я ведаю гэты тып дылетантаў-іншародцаў, для іх усё экзотыка, іх “адкрыцці” – што Якуб Колас і Янка Купала несапраўдныя імёны, або што гістарычная Літва і цяперашняя – дзве вялікія розніцы. Ды хто ён па прафесіі, кім працуе?

– Якая розніца. Нешта звязанае з лесам.

– Так я і ведаў.

– Ну, а калі б ён быў прафесійны гісторык, ты б узяўся? Ну, не хочаш яму, памажы мне. Мяне разгрузі.

– Вас?

– А я табе калі-небудзь памагу.

Пабачыўшы, што Рак завагаўся, Самусенка паднаціснуў, пачаў угаворваць, нарэшце, як апошні аргумент, хутка, нібы баючыся, каб Рак не перадумаў, напісаў зверху на паперчыне суму.

– За адзін аркуш, чатырнаццатым шрыфтам праз паўтара інтэрвалы, а ў кнізе такіх аркушаў мінімум дзесяць.

Рак не паверыў вачам, па мясцовых мерках сума была проста неверагодная. Гэтым не скончылася; Самусенка дастаў некалькі сініх купюр еўра, паклаў на стол і прыціснуў далонню.

– Лічы гэта як ганарар за тваю геніяльную паэзію.

Ведаў, што сказаць. За апошнія гады, а, калі шчыра, дык і за ўсё жыццё Рак не атрымаў ніводнай нармальнай грашовай прэміі (усе былі, як сам ён іранічна казаў, “безалкагольныя”, што значыла – безграшовыя), ніводнага больш-менш прыстойнага ганарару, за які можна было б штонебудзь людскае набыць: машыну, кватэру, ці з’ездзіць у замежнае турнэ, ці нават проста ў адпачынак; ён толькі і быў некалі на возеры Рыца ў Абхазіі, ды яшчэ адзін раз за мяжой, у Мадрыдзе, і то неафіцыйна, не па пісьменніцкай лініі, а па прыватным запрашэнні знаёмага ўкраінца, які там працаваў і жыў.

– Хіба глянуць. Нічога не абяцаю.

Ён, загадзя пераадольваючы непрыязнь да гэтага Літава, узяўся за тэкст. Там быў намешаны боб з гарохам і божы дар з яечняю. Усё сабрана са свету па нітцы, дзе садрана з інтэрнэта, дзе са школьнага падручніка, з наіўнымі тлумачэннямі і выкладкамі. Акрамя таго Раку, які кожны радок выношваў тыднямі (каб пасля яго выкрасліць), асабліва непрыемна было,

што гэты Літаў нават на сваёй роднай рускай мове кідаецца словамі як папала, направа і налева, нібы венікам мяце. Рак перакладаў, правіў і з сорамам бачыў, што пасля яго рэдактуры атрымліваецца яшчэ горш, чым у арыгінале, – а таму быў нямала здзіўлены, калі пасля першай порцыі перакладу Самусенка, які ўзяў на сябе ролю пасярэдніка, аб'явіў, паціраючы рукі, што Літаву страшэнна спадабалася і ён гарыць жаданнем са сваім рэдактарам пазнаёміцца.

– Паглядзіш, які цікавы чалавек. Ну што ты за ламака. Табе трэба ведаць жыццё, быць з народам, бо што ты бачыш, ад чаго ты бярэш творчую энергію – ад разеткі?

Рак як мог аднекваўся, абяцаў і адцягваў, як раптам у канцы вясны гэты Літаў сам да яго заявіўся. Невысокі мацачок, прыкладна аднаго з Ракам веку, у светлым ільняным касцюме, які сядзеў на Літаве як уліты, у моднай, белай без галстука кашулі, жвавы і пругкі – здавалася, калі пастукаць зверху па лысінцы, ён пачне адскокваць ад падлогі, як мячык. Адразу было відаць, што чалавек глядзіць сябе, займаецца спортам і, у адрозненне ад, напрыклад, баязлівага Рака, які звяртаўся да дактароў у самым крайнім выпадку, гэты карыстаецца лепшымі медыцынскімі паслугамі, якія можа дазволіць сабе багаты. Першае, што Літаў сказаў:

– Прабачце, пакуль не ў дастатковай ступені валодаю моваю, – а наступны за гэтым сказ быў такі: – Як вы лічыце, хто лепшы пісьменнік у Беларусі?

Рак уважліва на яго паглядзеў і прамаўчаў.

– А-а, цяжка! Усе творцы, у каго ні пытаю, не могуць адказаць. Ведаеце, чаму? Кожны ў душы лічыць, што ён лепшы.

Ён засмяяўся, паказаўшы два буйныя пярэднія зубы з шчылінкай паміж імі. Далей гэты Літаў нагаварыў кучу кампліментаў, якіх Рак у жыцці не чуў, прызнаваў сваё дылетанцтва, прыніжаў сябе, а Рака і асабліва Самусенку, якога не было тут, узносіў да нябёс; спытаў чамусьці, як Рак ставіцца да кнігі Маўра "Палескія рабінзоны", на развітанне папрасіў падараваць яму кніжку. Пацягнуўшыся да паліцы, Рак зачапіў жэтон, той упаў на падлогу, закаціўся пад шафу. Літаў падняў; толькі і паспеў заўважыць выяву плошчы Якуба Коласа на аверсе, як Рак хутка забраў жэтон і павесіў назад.

– Цікавая рэч, – крыху сумеўшыся ад такога яго рэзкага руху, сказаў Літаў.

Рак адказаў, што нічога цікавага: некалі ў яго была каханая дзяўчына, я правёў яе, назад хацеў ехаць на метро, купіў жэтон, але пайшоў пешкі, а жэтон пакінуў на памяць. А пасля высветлілася, што гэта незвычайны жэтон, выпушчаны да дваццацігоддзя мінскага метро; такіх усяго восем, па ліку першых васьмі станцый.

– Пакуль у мяне адзін, але я не губляю надзеі сабраць яшчэ сем. Праўда, іх з кожным годам становіцца ўсё менш, сціраюцца, губляюцца, выводзяцца з ужытку, ды і калекцыянеры ў шапку не спяць...

– Дазвольце даць вам параду, – фамільярна перабіў Літаў. – Гэта проста: трэба даць абвестку на "Куфры" ці на "Ау".

– Шкада часу.

– Тады я прашу вашага дазволу самому гэта зрабіць. Будзе вам маленькі прэзент.

– Не, дзякуй. Не трэба лішніх клопатаў ні мне, ні вам.

Пабыў ён мала і Раку не спадабаўся.

– Дзе вы яго адкапалі? – пытаў ён потым у Самусенкі.

– А што?

– Слізкі ён нейкі... І гэты зачын, “прабачце, што пакуль не валодаю мовай у дастатковай ступені”. Я сустракаў многа людзей, якія пачыналі, як Літаў, але ні разу не бачыў ніводнага, які б сваю абяцанку выканаў. Гэта проста анекдот, пароль, апазнавальны знак: як толькі чалавек папросіць прабачэння, што “пакуль не валодае”, ён ніколі не авалодвае.

– Цэ творча людына!

– Падазроны нейкі.

– Дык кожны чалавек падазроны. Калі паставіць мэту – у кожнай шафе знойдзеш па шкілету, – у рыфму сказаў Самусенка. – Думаеш, мы з табой для кагосьці не падазроныя?

Рак неяк дзіўна на яго зірнуў; Самусенка не заўважыў гэтага.

– Ды і не надта веру я гэтым дабрадзеям з усходу, – сказаў Рак.

– А дзе ўзяць лепшых? У нас што, ёсць выбар? Каму мы трэба тут? Хто намі цікавіцца? Дзе нашы чытачы, наша дзяржава? Хто дае, да таго і хілімся. Ва ўсе часы былі мецэнаты. Я хачу каб ты адно зразумеў, дзівак-чалавек, рэдактура гэта так, ні пра што, толькі пачатак, праверка нас – мы яму для іншага патрэбны.

– Ды для чаго?

– Якая розніца? Пажывем – пабачым.

## III

Цяпер Самусенка стаяў за дзвярамі, званіў, пастукваў і прасіўся:

– Відчыняй! Я ведаю, ты дома!

Упускаючы яго, Рак падумаў, што, мабыць, упершыню за паўгода гэты прыход дарэчы. “Я памог яму, а цяпер хай ён мне памагае”. Да таго ж цяпер, пасля званка Міхайлоўскай, будзе чым яго крыць, калі ён завядзе сваю песню пра нетрадыцыйную арыентацыю. Сёння Самусенка быў з пустымі рукамі, на прапанову прысесці не звярнуў увагі, аб’явіў, што на хвілінку і па даручэнні “нашага Літвінчыка”, які толькі што яму званіў, “папрасіў забегчы да цябе і папярэдзіць: у нядзелю ў яго фуршэт, у васямнаццаць нуль-нуль, дык каб быў, як штык”.

– Дрэс-код любы, фракі і смокінгі неабавязковыя, – нясмешна пажартаваў Самусенка.

– Пачакайце, які фуршэт, смокінг... Чаму ён сам не патэлефануе?

– А табе можна? Мабільны адключаны, гарадскі заняты.

– У прынцыпе, у мяне былі свае планы.

– Не выдумляй. Хоць паглядзіш, як людзі жывуць. – Самусенка азірнуўся, нібы хацеў пераканацца, што іх ніхто не падслухоўвае, шапнуў па-змоўніцку: – Скончылася наша чаканне! Нарэшце даведаемся, што ён ад нас хоча.

– Ну, я асабіста нічога і не чакаў.

Самусенка быў як на іголках, то парываўся ісці, то марудзіў. Рак вырашыў, што цяпер самы момант, і будзённым, амаль абыякавым голасам паведаміў, што ў яго нечакана адшукалася дачка. “Некалі была каханая дзяўчына, ну і вось – вынік...”

– Мога буты, – толькі і прамармытаў Самусенка, пайшоў да дзвярэй, тады спыніўся і падняў указальны палец. – Успомніў! Яшчэ Літвінчык прасіў персанальна перадаць, што цябе чакае вельмі прыемны сюрпрыз. Будзеш задаволены... Вялікая? Дачка?

– Скончыла школу, паступае на журфак.

– І, я так разумею, цяпер ты павінен памагаць ёй? А помніш, як адмахваўся, не хацеў брацца за рэдактуру?

– Пачакайце!

Бачачы, што стары спяшаецца, Рак сам загаварыў хутка; патлумачыў: ёй трэба прайсці творчы конкурс, ад яго многа залежыць, “дык мо паможаце па старых каналах?”

– Якія каналы, – сказаў Самусенка. – Цяпер заплаці ды вучыся спакойна. Так, па-мойму, сама лепш.

– Лёгка сказаць – заплаці.

– Добра, пазней пагаворым. Пабягу, зараз Літвінчык павінен званіць, – стрымана пахваліўся Самусенка. – Хоча пазнаёміцца з новымі старонкамі манаграфіі. Мо давядзецца ехаць да яго, на ноч гледзячы. Пабягу!

Надзвычай хутка для свайго ўзросту ён выслізнуў з кватэры, а Рак зноў выйшаў на лоджыю. Пра тое, каб спакойна пісаць, не магло быць і гаворкі. Вось яшчэ набыў клопату. “Чаму я ніколі ні ў кога нічога не прашу?”

Ён рана лёг у ложак. Які мітуслівы вечар. Ды і ўвогуле апошнія паўгода.

Яшчэ гэты фуршэт. Нікуды не пайду. Ці схадзіць? Не спалася. “Трэба, трэба ўсур’ёз заняцца прозай”, – праз дрымоту думаў ён. І напісаць раман, прыблізна такі: вось званок, і пазашлюбная дачка прыязджае, і герой бачыць у ёй рысы былога кахання... Не, лепш не дачка, а проста дзяўчына, а ў яго, Рака, няма месца, і яна пасяляецца кватаранткай у аднаго багатага, сквапнага старога, у якога дачка замужам за французам у Парыжы... Глабалізацыя... Раней беларускія дзяўчаты замуж максімум у суседнюю вёску выходзілі, а цяпер па ўсім свеце...

Рак павярнуўся на другі бок – і тут зноў разарваў цішыню тэлефон. Трэці званок за вечар! Рак схапіў трубку. Незнаёмы жаночы голас, даволі прыемны, але ўсхваляваны і, як падалося Раку, з прыбалтыйскім акцэнтам, менавіта – з латышскім; у мужчын-латышоў ён амаль адсутнічае, а ў жанчын моцны.

– Прашу прабачэння за турботы, але вы мне тэрмінова патрэбны. Я жонка вядомага вам Літава, у дадзены момант знаходжуся ў машыне каля вашага пад’езда. Тэрмінова спускайцеся ўніз, – як усе чужаземцы, яна занадта правільна будавала сказы.

– Што здарылася?

– Вас хочуць уцягнуць у вельмі брудную справу. Вы не ведаеце, з кім звязаліся. Тут стаіць пытанне жыцця і смерці.

– Чыім?.. чыіх?

– Калі ласка, спускайцеся ўніз.

Нацягваючы джынсы, Рак блытаўся нагамі ў калашынах, і гэтак сама блыталіся яго думкі. Пачынаецца! Вось яны бокам вылазяць, дармовыя грошы!

## Частка другая

## САМУСЕНКА

### IV

Цяпер наўрад ці хто помніць манаграфію з крыху зацягнутай назвай: "Пейзаж як элемент вечнасці ў беларускай літаратуры ад Мялеція Сматрыцкага да Уладзіслава Сыракомлі. Частка 1"; не знайсці яе і ў інтэрнэце, хаця ў свой час яна нарабіла многа шуму ў літаратурных і гістарычных колах; калі б тады існавалі сацыяльныя сеткі, яна б іх "парвала". Асабліва літаратары былі ў захапленні. Нарэшце тое, чаму большасць з іх прысвяціла жыцці – апісанне прыроды – было на належным узроўні ацэнена і арыгінальна, таленавіта і даходліва пададзена. Усе ў адзін голас прызнавалі, што гэтая смелая навуковая праца яшчэ і з падтэкстам, нясе палітычную афарбоўку; пагаворвалі, панізіўшы голас, што нібы нават спецслужбы ёю цікавяцца, – і не дзіва, бо што такое ў часы сацыяльнай стабільнасці пісаць пра птушачак-траўку-кветачкі? – прыхаваны выклік сістэме; пры хаценні любы пейзаж, любое на першы погляд нявіннае апісанне, калі ўмеючы яго падабраць і падаць, у прамым сэнсе выклікае непажаданыя асацыяцыі: напрыклад, гнеў прыроды лёгка праектуецца на народны гнеў, майстэрскае апісанне завеі, ветру, навальніцы можа разумецца як рэвалюцыйныя выступленні мас, а любаванне кветкамі і траўкаю міжволі наводзіць на думку аб недаўгавечнасці таго ці іншага правадыра, які рана ці позна ў зямлю сыдзе і прахам стане, пакінуўшы пасля сябе толькі гэтую траву, ды кветку, ды шапаценне лісця над галавой.

Аўтар манаграфіі, выкладчык Самусенка А.Ф., і без таго лічыўся вальнадумцам, а пасля манаграфіі ўвогуле стаў ледзь не дысідэнтам, хадзіў героем, ганарыўся – носа не дастаць. Аднак жыццё не стаяла на месцы. Падзеі шпарка развіваліся тады. Змянілася палітычная сістэма, зніклі, як і не было іх, учарашнія правадыры, спецорганам стала не да Самусенкі і не да яго манаграфіі. Тэхніка імкліва пайшла ўгару. Студэнты пачалі пад'язджаць да ўніверсітэта на машынах, карысталіся пейджэрамі, потым мабільнымі тэлефонамі, затым – па ўзрастаючай – смартфонамі, айфонамі, айпэдамі, планшэтамі і іншымі гаджэтамі. На гэтую моладзь ужо не дзейнічаў крытэрый заможнасці: багаты той, у каго многа кароў і цялушак.

Самусенка яшчэ стараўся не адстаць, нават пачаў выпісваць у нататнік і завучваць на памяць новыя словы: мэйнстрым, вэндзінг, дэдлайн, клінэр, мэрчэндайзер, месэдж, хэдлайнер, фрыгалізм і харасмент, але, дайшоўшы да "стартапа", хапіла розуму гэтую справу кінуць. І суцяшэннем яму было, што нішто так хутка не старэе, як неалагізмы, і гэтыя нібыта абавязковыя цяпер словы могуць выпасці з ужытку яшчэ раней, чым саха, каса і бык Мікіта. Ужо смяюцца з нядаўна модных баксаў, пэйджэраў, дыскет, і ніхто не дасць гарантыі, што хутка не пачнуць смяяцца з хайпа, біткойна, рэп-батла і стартапа.

Раптам усё яму абрыдла. Адны й тыя ж з году ў год лекцыі, семінары, разборы – вось як парася разбіраюць – адных і тых жа пісьменнікаў. Ён сяк-так дацягнуў да пенсіі і адразу ж, як колісь казалі, выйшаў у адстаўку, з намерам спакойна працаваць над манаграфіяй. Свабода, незалежнасць, мора вольнага часу агаломшылі яго, узнеслі як на арэлях ці як на марской хвалі. Ён адчуў даўно забытую радасць (апошні раз такая была ў далёкім

дзяцінстве), і да таго гэта было здорава, што нясцерпна захацелася ёю з кім-небудзь падзяліцца, выліць душу. І тут здарылася першая непрыемнасць. Менавіта цяпер, калі яму гэта так трэба было, аказалася, што пагаварыць няма з кім. Ва ўніверсітэце, дзе ён быў спачатку старшынёй, потым членам прыёмнай камісіі, ад сяброў-знаёмых не было адбою; увесь час яму званілі, пісалі, чакалі, прасілі сустрэцца; яго немагчыма было пабачыць аднаго – заўсёды хтосьці пад ручку, адводзіць убок, інтымна нешта нашэптвае. Цяпер, калі ён страціў працу і адначасова пасаду, усё скончылася, і настала нейкае імгненнае, а таму асабліва прыкрае забыццё. Ніхто не прыязджаў, не званіў, не пісаў; на яго пісьмы па e-mail не адказвалі, тэлефонныя званкі скідваліся, а калі хто, заспеты знянацку, адгукаўся, дык чамусьці быў у гэты момант страшэнна заняты і знаходзіў самыя розныя прычыны, каб хутчэй развітацца. Якраз стаяла лета, мо людзі на самой справе былі занятыя дачамі і адпачынкамі, і не да яго ім было, – але ён успрыняў гэта як здраду. Тады ж упершыню і ўзнікла ў яго ўніверсальнае слова на ўсе выпадкі: “памаглі”.

– Не, не проста так мне ўчынены байкот, – казаў ён жонцы.

– А што здарылася? Чаму?

– Памаглі.

– Як? Хто? – занепакоілася жонка.

– Я ведаю хто, – з хітрай усмешкай чалавека, якога не абдурыш, адказаў ён.

Жонка паціснула плячамі. А муж, наваспечаны пенсіянер, ганарлівы, задзірысты, няўрымслівы, нічога лепшага не прыдумаў, як са зларадствам павыдаляць з кампутара e-mail’ы тых, хто яму не адпісваў, а з тэлефона – нумары тых, хто яму не адказваў. Тэлефон служыў яму як гадзіннік, а кампутар – замест газеты.

І далей пайшло як на арэлях ці як на хвалях: угару – уніз, радасць – непрыемнасць. Радасць, бо з дачкою ўсё было ладна: разумная, прыгожая, канчала журфак; непрыемнасць – шалапутны, бесталковы сын, старэйшы за дачку, – як у шаснаццаць гадоў атрымаў правы, павязаў на галаву бандану і сеў на байк, так, здавалася, да трыццаці пяці гадоў не здымаў з галавы банданы і не злазіў з байка, нідзе не працаваў, вёў лёгкае жыццё, а дзе лёгкае жыццё, там, само сабою, алкаголь, наркотыкі; то ён завязваў, то зрываўся, то яго пазбаўлялі правоў і адбіралі матацыкл, то вярталі назад.

Самусенка заўсёды адчуваў нейкую віну перад ім, з горыччу думаў, што мо таму яго Юрка такі, бо ён, бацька, усё жыццё памагаў уладкоўваць чужых дзяцей, а на роднае дзіця забыўся. Вось зноў узнялі ўгару арэлі – удачлівая дачка выйшла замуж за француза і паехала з ім у Парыж, – і адразу ж абрынулася хваля ўніз, на гэты раз не непрыемнасцю, а бядой: трагічна загінуў сын, разбіўся-такі ў аварыі на сваім матацыкле насмерць. Тут раптам адразу ўспомнілі пра Самусенку здрадлівыя сябры-знаёмцы, пачаліся званкі, пасыпаліся спачуванні, роспыты: што, ды як, ды чаму.

– Не сам – памаглі! – казаў Самусенка.

– Як – памаглі?

– Так. Перадазіроўка!

Ён неяк са смакам, ледзь не з гонарам вымаўляў гэтую “перадазіроўку”, нібыта яе трэба было разумець як “мой сын загінуў геройскай смерцю на полі боя: прыкрыў сваім целам варожы дзот”. Толькі-толькі пачалі з жонкаю звыкацца да ціхай, спакойнай адзіноты – і зноў уніз паляцелі арэлі: роўна праз год пасля сына, дзень у дзень, 11 верасня, па-народнаму –

на Галавасека, раптоўна не стала жонкі. Пахавалі яе побач з сынам. На могілках людзей было яшчэ больш, чым на сынавым пахаванні, знаёмых, сяброў, радні, нават дачка з зяцем з Парыжа прыехалі, і ўсе звярталі ўвагу, што Самусенка нават не плакаў, наадварот, трымаўся аж занадта цвёрда і на роспыты зноў адказваў загадкава:

– Памаглі!

– Як гэта – памаглі? Дактары, ці хто?

– Не, не дактары. Я ведаю хто.

Насамрэч у выпадку з сынам, калі ён казаў "памаглі", ён меў на ўвазе, што гэтых адмарожаных байкераў за іх начныя гонкі ніхто не любіць, часта ім ад душы жадаюць хутчэй скруціць шыю, – атрымліваецца, загінуць Юры "памагла" канцэнтрацыя нелюбові да яго; а што да жонкі, тут Самусенка надумаўся, што студэнты, якіх ён некалі так бязлітасна і неабачліва рэзаў, таксама наўрад ці жадалі яму шчасця, хутчэй за ўсё ціхенька праклiналі і такім чынам "памаглі" набліжэнню яго бяды.

І Самусенка зажыў поўным бабылём. З часам ён нават як бы крыху здзічэў, а праз год зусім загнаў сябе ў фізічную і духоўную рэзервацыю. Ён звёў да мінімуму ўсе жаданні, замяніў іх звычкамі і рэжымам. Адзіныя вакенцы, праз якія ён пазіраў у свет, былі кнігі, кампутар, тэлевізія і дзве прагулянкі ад дома да метро, зранку і ўвечары. Адзінокі, стары, нікому непатрэбны, ён туляўся па кватэры і па вуліцы прыгорбленым ценем. На свой знешні выгляд ён махнуў рукою, галіўся раз на тыдзень і, калі пазіраў у люстэрка, заўсёды дзівіўся, чаму так хутка пачало расці шчацінне. Зрэдку выбіраўся на могілкі і хадзіў па дарожках між крыжоў, не ведаючы, што ён тут робіць. Была ў яго дача, і туды ён прыязджаў не часцей, чым раз на год, – нічога не саджаў, траву не касіў, стаяў, тупа глядзеў на лапухі і зноў дзівіўся, як імгненна ўсё прыйшло ў заняпад без жончыных рук.

З людзей ён ні з кім не кантактаваў. Быў у яго сусед, жыў праз вуліцу, былы яго студэнт, паэт, таксама адзінокі; з ім Самусенка не супраць быў бы пасябраваць, але паэт быў яшчэ больш эгаістычны, чым ён сам, заўсёды насцярожаны, нібы некалі раз і назаўсёды нечым напалоханы, – праўда, быў ён выдатны, пранікнёны лірык.

Ад самоты Самусенка нават падумваў завесці сабе сабачку ці ката, калі б не гідлівасць да іх паху. Хутчэй бы ўжо брытанскія вучоныя прыдумалі, а японскія сканструявалі такога робата, ці што, вельмі падобнага на ласкавага ката, але якога не трэба было б выгульваць, які не ліняе і не ходзіць па патрэбе.

Раз зімой, перад Новым годам, ён вырашыў з'ездзіць да "Еўраопта", купіць з машыны ў знаёмага палешука вэнджанага сала і салёных памідораў у вядзерцы, якія вельмі любіў, а заадно, каб крыху развеяцца, паглядзець на елку. Доўга, па-старэчы, апранаўся: абгарнуў шыю шалікам, адзеў падараванае зяцем-французам моднае паліто (прыцiснуўшы шалік падбародкам да грудзей), нацягнуў пальчаткі, насунуў на галаву шапку, не забыў пра кіёк. На вуліцы было здорава, сонечна, марозна. Мароз і снег фільтравалі нават гарадское паветра, і здавалася яно чыстым, бадзёрым. Каля прыпынку сабачка ў камізэльцы купаўся ў гурбе снегу.

Самусенка пад'ехаў на тралейбусе два прыпынкі, задумаўся, ледзь не забыў выйсці, а калі выйшаў, забыў прайсці наперад і зрабіць заўвагу жанчыне-кіроўцы за тое, што рэзка тармозіць на светлафоры. Ён няспешна ішоў да "Еўраопта", механічна, думаючы пра сваё, не прапускаў, як сабака,

ніводнага слупа, чытаў абвесткі з махрамі тэлефонных нумароў (“продам волосы”, “куплю квартиру”), і калі адыходзіў ад слупа, спахопліваўся, што не помніць, што ён толькі што чытаў.

Каля “Еўраопта” стаяў білборд з дзвюх палавін; на адной – хакеісты з клюшкамі і надпіс па-беларуску: “Падтрымаем родную каманду!” – на другой – дзяўчынка гадоў дзесяці і надпіс: “Заплаці аліменты!” Усё было б цудоўна і кранальна, калі б мастак-калажыст не перастараўся і на яго плакаце дзяўчынка, замест таго, каб выклікаць спагаду, выйшла развязна-какетлівай, з недвухсэнсоўнай усмешкай, – здавалася, вось-вось яна падміргне і пакліча ўказальным пальчыкам. Насустрач сярэдзінай тратуара ішоў нападпітку мужчына ў шапцы набакір, у расхлістаным кажусе, і спяваў па-беларуску:

– Толькі з табою мне хочацца быць! Толькі з табою!

Самусенка саступіў яму дарогу і з зайздрасцю падумаў: “І не баіцца, не саромеецца”.

– Шчасце, і гора, і радасць дзяліць – толькі з табою! – не сунімаўся п’яніца; з рота ў яго разам з песняй выходзіла пара.

Самусенка стаяў і глядзеў яму ўслед, пратыкаючы снег кійком. Зайздрасць не адступала. Гэты мужчына быў ненамнога за яго маладзейшы, а такі вясёлы і шчаслівы. Што ў гэтага чалавека ёсць такое, чаго няма ў яго? Адна на ўсіх вуліца, снег, блізкі Новы год, марозік; значыць, можна быць шчаслівым ад мінімальнага, даступнага кожнаму набору маленькіх радасцяў. Чалавеку добра – ён спявае. Як людзі развучыліся адкрыта радавацца; мала таго, само слова шчасце выводзіцца з ужытку, як і слова гора, дарэчы. Не модна ні радавацца, ні бедаваць, застаецца нешта сярэдняе: ні шчасце, ні гора, а абстрактны “поспех”. “Што самае галоўнае ў жыцці?” – “Дабіцца поспеху”, – нават малое дзіця скажа. А што такое поспех – ніхто і не ведае. Вось гэты палескі дзяцюк, таксама яго былы студэнт, у якога цяпер ён купляе сала, паспяховы ён? Гледзячы на яго, ён ні аб чым не шкадуе. Гадоў дваццаць пяць яму, здаровы, вясёлы, просты, галоўнае, не зайздрослівы, што на розуме, тое і на языку. Самусенка і раней любіў з ім пагаварыць, а на гэты раз яшчэ больш затрымаўся, панаракаў на старасць, паскардзіўся на адзіноту.

Вярнуўшыся дамоў, вострым сцізорыкам парэзаў на скрылёчкі сала, памідоры, сеў за стол і пачаў есці, адшчыкваючы пальцамі чорны хлеб, марудна варушачы сківіцамі, гледзячы перад сабой, – еў і адчуваў, як пакрысе пачынае адпускаць яго, нібы прачынаецца ён. Апамятаўся, калі нічога не засталося ні ад сала, ні ад памідораў, ні ад вялікай лусты хлеба. Тады ён сабраў са стала крошкі і высыпаў у рот. А з галавы ўсё не йшоў шчаслівы п’яніца.

Пасля таго выпадку Самусенка пачаў адтаваць. Ён зразумеў, што жыццё не канчаецца ні ў яго ўзросце, ні ў любым іншым узросце. Ён нават змяніў рэжым: пачаў сяды-тады выбірацца ў якую-небудзь рэдакцыю – нічога не прыносіў, а проста каб пагаварыць, пабыць сярод творчых людзей.

## V

У час аднаго з такіх візітаў, ужо ў канцы зімы, Самусенка ў сваім французскім модным паліто, цяпер расшпіленым, сядзеў у рэдакцыі “Гістарычнага часопіса”; маладзенькая рэдактарка за кампутарам уголас

чытала каменты на нейкі антыбеларускі артыкул, – як зайшоў новы, незнаёмы Самусенку чалавек, невысокі мацачок, падобны на крэпенькі грыб, зняў шапку, – адкрылася лысінка, пачаў вітацца з кім за руку, з кім кіўком галавы, прыязна ўсміхаючыся, паказваючы пры ўсмешцы два буйныя пярэднія зубы са шчылінкай паміж імі.

– ...Калі б я быў маладзейшы і жыў у дзевятнаццатым стагоддзі, я б выклікаў яго на дуэль! – рэзка сказаў Самусенка, яшчэ знаходзячыся ў тэме артыкула. Чалавек з цікавасцю, з адабрэннем на яго зірнуў, затрымаў яго руку ў сваёй.

– Літаў.

– Самусенка!

– Дазвольце зрабіць вам запыт...

– Трэба казаць: можна задаць вам пытанне, – паправілі яго.

– Так, дзякую, – ужо звяртаючыся да ўсіх, – за заўвагу і прашу выбачэння, што пакуль не настолькі свабодна валодаю беларускай мовай. Прашу і надалей – папраўляйце, вучыце мяне.

Гаварыў ён па-беларуску з цвёрдым “г” і з мяккім “ч”, замест “ў” – “в”: паехав, прышов, як паляк. “Хто гэта?” – шэптам спытаў у рэдактаркі Самусенка. – “Не ведаю, ходзіць, нешта піша”.

Літаў пачаў з месца ў кар’ер, звяртаючыся і да Самусенкі, і адначасова да ўсіх:

– Можна задаць вам пытанне: чаму няма масавай літаратуры па-беларуску?

– Як няма? – ёсць, – адказалі яму.

– Я маю на ўвазе адзін забойчы бестселер.

– Як няма? – ёсць, – вяла, відаць у соты раз на такім узроўні: “няма – ёсць”, адказвалі яму.

– Каб адзін такі твор, як стрэл, як настольная кніга, хэдлайнер!

Нікому не хацелася ўцягвацца. Нарэшце дзяўчына сказала:

– У нас няма чытацкай масы, якую можна было б прааналізаваць і зразумець, што яна хоча. У нас сто, ад сілы дзвесце чытачоў, якія сумленна чытаюць усё, што мы пішам. Але яны хутчэй блізкія сябры, суаўтары, чым чытачы.

– Чаму так?

– Мова не развіваецца натуральна.

– Не сама – памагаюць! – вырашыў гучна ўмяшацца Самусенка.

– Хто? – павярнуўся да яго Літаў.

– Я ведаю хто. Я скажу, можа быць, крамольную рэч. На маёй роднай Ельшчыне ўся наша вялікая вёска гаварыла выключна па-беларуску...

– Ельшчына? – усклікнуў Літаў. – Не паверыце, але я толькі што вярнуўся з вашых мясцін, з-пад Ельска. Якія там краявіды! Якія людзі!

– Свет цесны, а Беларусь удвая, – адказаў Самусенка, незадаволены тым, што яго перабіваюць. Ён хацеў, каб з яго аповеда атрымалася павучальная гісторыя. – Дык вось, я вучыўся ў цалкам беларускамоўнай школе, усё вакол па-беларуску: на перапынках, на дварэ, дома, кнігі, радыё, тэлевізія – з дзвюх праграм адна беларускамоўная, – і што? Тыя цалкам беларускамоўныя людзі былі анёлы з крыламі? Яны не сварыліся, не біліся, беларускамоўныя дзяўчаты не здраджвалі беларускамоўным хлопцам, і наадварот? У вайну не было калатнечы паміж беларускамоўнымі партызанамі і беларускамоўнымі паліцаямі?

– Што гэта значыць?

– А тое, што ў нас другое стагоддзе адна і тая памылка. Мы думаем, што мова – панацэя. Верым, што калі ўсе загавораць па-беларуску, дык аўтаматычна стануць разумнымі, смелымі і добрымі.

– Цяпер трэнд, – сказала рэдактарка. – Мода выратуе нашу мову. Праўда, гэта будзе ўжо іншая мова і літаратура. Будзе новая літаратура...

– Не будзе, – строга запярэчыў Самусенка. – Ніякай ні новай, ні старой літаратуры ўвогуле не бывае. Ёсць толькі таленавітае і не. Што таленавітае, тое і новае.

– Як разумець вашы словы? – спытаў Літаў.

– А так. Я людына вжэ стара і, можа быць, сучасную літаратуру не разумею, але здаецца мне, што яна ўсё больш робіцца пісьменніцкай – не ў пераносным, а ў прамым сэнсе: пісьменнікі пішуць для пісьменнікаў. Але нават такая літаратура павінна прыносіць найперш эстэтычную асалоду, – сярдзіта казаў Самусенка, – а не пакуты, з якімі чытаеш тэкст, дзе ледзь не кожнае слова ўжыта няправільна, стаіць ракам і бокам і адно на адным едзе, праз якія прадзіраешся, як праз іржавы калючы дрот.

– А скажыце...

Невядома, колькі б яшчэ гэта працягвалася, калі б ім не нагадалі, што яны не ў дыскусійным клубе і перашкаджаюць людзям працаваць. Выйшлі разам. Каля рэдакцыі стаяў джып, Літаў спыніўся каля яго. Не хацелі развітвацца.

– А хто вы? – спытаў Самусенка. – У якой сферы працуеце? Літаратар?

– Не, не ўгадалі.

– Гісторык?

– Не зусім, – ухіліста адказаў Літаў. – А ведаеце, што? Вы вельмі цікавы чалавек. Я маю да вас інтарэс. Ці не згадзіліся б вы з’ездзіць да мяне? Тут зусім недалёка. Хачу параіцца.

Самусенку даўно ніхто нікуды не запрашаў, таму было проста цікава глянуць, як жывуць такія людзі; да таго ж ён вельмі любіў даваць парады.

– Паказаць вам сёе-тое, адну рэч.

– Літаратурную?

– Хутчэй археалагічную.

– Дык вы археолаг?

– Зноў не ўгадалі. Не буду вас мучыць. Я працую ў лесаздабываючым канцэрне, кшталту аўдытара. У вас тут у Беларусі многа лесу, адпаведна, многа нашых філіялаў, дык вось мая праца – ездзіць па рэгіёнах, інспектаваць. Цудоўная магчымасць пабачыць розныя мясціны, гарады, мястэчкі. Нават дзікія астравы, як у Маўра. Прыгажосць, экзотыка, мне, ва ўсялякім разе, падабаецца.

У машыне, прышпільваючыся рамянём, Самусенка паляпаў па скураным сядзенні:

– Вось яшчэ наш беларускі крыж – машыны. Пакуль у беларуса ёсць машына, яго з месца не скранеш.

Па дарозе Літаў расказаў, што сам рускі, родам з Расіі, пабыў паўсюль, аб’ездзіў усю Еўропу, але нідзе не было лепш, чым тут; у Беларусі жыве ўжо тры гады, мае від на жыхарства, які дае права праз дзесяць гадоў стаць законным грамадзянінам.

– Засталося ўсяго сем.

– І за гэты час вы так далучыліся да нашай культуры?

– Лічу сваім абавязкам і доўгам перад краінай, – крыху пафасна адказаў Літаў, – якая мяне прытуліла, хоць бы збольшага, у агульных рысах, ведаць яе мову, гісторыю і народныя звычаі.

Машына выехала на кальцавую. Тут, за горадам, снегу было менш, чым у Мінску. Проста ў лабавое шкло свяціла зыркае чырвонае сонца, якім яно ўмее быць толькі ў канцы зімы. Літаў, не сціхаючы, усё расказваў пра сябе: што сувязей з Беларуссю ў яго ніякіх, але цяга на генным узроўні заўсёды існавала: напрыклад, калі чуў песню па-беларуску, заўсёды падымаўся камяк да горла і "находзіла шчымлівае зачараванне даўнімі, забытымі, як салодкі сон, гукамі, нечакана ўспомненымі, – так ён выказаўся. – Ды і само прозвішча Літаў: Літаўт – Вітаўт – Літ-ва...", а Самусенка адказаў на гэта: "Адзін мой знаёмы філолаг звярнуў увагу, што ў нас амаль няма прозвішчаў з коранем "беларус", напрыклад, Беларусовічаў ці Беларусоўскіх, затое процьма Ліцвіноўскіх і Ліцвіновічаў".

Звярнулі з кальцавой, праехалі кіламетры два ўгару; Самусенка ведаў гэтае месца, праязджаў аўтобусам, калі ехаў на дачу, бачыў, што вялося нейкае будаўніцтва, але, канечне, не мог і падумаць, што неўзабаве сам тут апынецца. Спыніліся перад белай агароджай з рыфлёнага алюмініевага профіля, уехалі праз металічныя вароты ў двор. Захрабусцеў гравій пад коламі. Самусенка выйшаў з машыны. Дзверы гаража рассунуліся. Пакуль Літаў ставіў машыну, Самусенка агледзеўся. На самым высокім месцы стаяў белы трохпавярховы дом пад зялёнай металадахоўкай: першы паверх шырокі, другі меншы, трэці яшчэ меншы; з белымі пузатымі калонамі, з высокімі паўкруглымі вокнамі ў раманскім стылі, з балкончыкамі, агароджанымі ажурнымі чыгуннымі парэнчамі; самы верхні балкон быў закратаваны. Уся сядзіба, уключаючы двор, размяшчалася на схіле, як на невялікіх тэрасах. Ад адной тэраскі да другой каскадам спускалася падмеценая дарожка. На ніжэйшай ад двара тэрасе быў вялікі, авальнай формы, як дзіцячы каток, каркасны басейн (такія Самусенка бачыў у Францыі калі ездзіў да дачкі ў госці), закансерваваны на зіму, закрыты драўлянымі шчытамі; яшчэ ніжэй, пад трыма старымі вербамі, нейкі вадаём – як бы сажалка ці ставок, зацягнуты лёдам пасярэдзіне і з вадой каля берагоў, далей – альтанка, ад якой да самага дальняга кутка агароджы цягнуўся сад, вялікі і непрыгожы зімой, а можа проста занядбаны. Літаў тым часам падышоў да Самусенкі і раўніва сачыў за яго рэакцыяй.

– Як вам?

Самусенка прызнаўся, што чакаў раскошы, а тут – не сказаць, каб вельмі.

– Хаця ў параўнанні з маім лецішчам – канечне.

– І заўважце, усё гэта менш чым за тры гады. Калі нас вазілі па ваколіцах і мы выбіралі месца, жонка хацела на гатовае, нагледзела старую дачу нейкага акадэміка ў Ратамцы; мне таксама спадабалася, я рэтраград у архітэктуры, люблю ампір, манументалізм, – але то была дача, а значыць, маленькі ўчастак, суседзі, да таго ж там раней жылі людзі, а гэта нібы карыстацца скарыстаным, – і я выбраў вось гэтую пустку, як ні адгаворвалі жонка і забудоўшчыкі: маўляў, высокае месца, цяжкі грунт, гліна; затое, казаў я, тут здзічэлы сад, вербы, натуральны вадаём. І цяпер шчаслівы, што нікога не паслухаў. Усяго за тры гады – такі чароўны куточак. І гэта зімой, а летам! Зверху, з мезаніна, – Літаў паказаў на закратаваны балкон, патлумачыў: – адтуль зваліўся будаўнік, таму краты; дык вось, улетку бачна сіняя палоска рэчкі, зялёныя шатры далёкага лесу, залатая

ніва з цяжкім калоссем, па якой у жніўні плывуць камбайны, а зімой, калі снег – белае чыстае поле, якое так супакойвае стомленыя ад кампутара вочы. Дайце слова, што прыедзеце ўлетку! Пасядзім на балконе, пап'ем гарбаты, з сапраўднага меднага самавара, па-маскоўску, доўга, упрыкуску...

Нешта непрыемнае кальнула ў сэрца Самусенку. Што ён нясе? Якая ніва, якія каласы, якая гарбата па-маскоўску?

– Я, гэта, – сказаў ён, каб памяняць тэму, – чакаў, што ў багатых ахова, розныя відэакамеры, сабакі.

– Знайшлі багацея, – засмяяўся Літаў. – Наадварот, мне трэба яшчэ больш грошай – пазарэз прычым. У мяне ў Маскве ёсць адзін... гм, знаёмы, вось там сапраўднае багацце! У мяшчанскім, канечне, разуменні: вілы, яхты, верталёты, самалёты. Дарэчы, у Еўропе ўжо лічыцца непрыгожа, нават непрыстойна быць багатым.

– А хто даглядае гэта ўсё? прыбірае, падмятае? – пацікавіўся Самусенка, гледзячы на чыстую дарожку. – Павінны ж быць нейкія спецыяльныя людзі.

– Увесь мой штат – на паўстаўкі. Інакш дорага. Ёсць дворнік, ён жа шафёр, ён жа садоўнік; ёсць хатняя гаспадыня, яна ж кухарка, толькі не як у серыялах – пастаянна і з пражываннем, а два разы ў тыдзень: прыбраць, нагатаваць абедаў; ёсць доктар – амаль свой, хатні; ёсць настаўніца, прыходзіць да маіх дачушак... А цяпер, калі вы не супраць, пакажу вам свае ўладанні.

І Літаў, не даючы Самусенку апамятацца, падхапіў і павёў яго, прытрымліваючы пад руку. Сцежка вяла ўніз прыступкамі, дзе цаглянымі, дзе драўлянымі, дзе проста выразанымі ў цвёрдай зямлі, зручнымі, так што Самусенка і кійком не карыстаўся, тым больш Літаў памагаў. Спусціліся паўз басейн да стаўка.

– Прыродная сажалка, натуральная, – пахваліўся Літаў, – крынічка пульсуе, паспытайце, папіце, – і Самусенка вымушаны быў нагнуцца, крэкнуўшы ад болю ў спіне, і зачэрпнуць далоняй сцюдзёнай вады, змачыць губы і пахваліць: вада і праўда была смачная, аж саладкаватая, хоць і аддавала талым снегам.

Мінулі сажалку, спусціліся яшчэ ніжэй, да альтанкі, адкуль пачаўся сад з каравымі гэтай амаль бясснежнай зімой дрэвамі. Сцяжынка ў адзін след вяла да кутка агароджы, дзе жаўцелі і цямнелі цэглаю нейкія развалiны. Звонку яны выглядалі як закінуты вясковы пограб ці склеп. Зверху – тоўсты пласт дзёрну. Арачнага тыпу ўваход, цьмянага колеру новыя металічныя дзверы. Літаў стаяў перад імі ў нямым захапленні.

– Вось, – дрыготкім ад гонару голасам паведаміў ён. – Гэта я і хацеў вам паказаць. Разам з участкам зямлі атрымаў у бонус. Спачатку дом планаваўся быць тут, будаўнікі пачалі капаць катлаван і натыкнуліся на такое дзіва. Я ўпэўнены, што гэта асабняк шляхты, парэшткі старадаўняга замка. Можа, тут яшчэ падземны ход да самага Мінска.

– А вы паказвалі яго спецыялістам? – абыякава спытаў Самусенка.

– Знарок не хачу. Сам пакорпаюся ў архівах. Гэта так цікава.

Літаў набраў на смартфоне код. Цяжкія дзверы на пнеўматычных цыліндрах бязгучна расчыніліся. Запахла падзямеллем і будаўнічай вапнаю. Вузкія прыступкі вялі ў выкладзенае клінковаю цэглаю паўкруглае сутарэнне. Цьмяная лямпачка. Ззаду ціха цмокнулі, зачыніўшыся, дзверы. Літаў з Самусенкам спусціліся даволі глыбока па лесвіцы і ўвайшлі ў доўгае, з нізкай столлю, памяшканне. Падвал, ці нейкія лёхі, толькі вялікіх памераў. Святло непрыемнае, зыркае. Не тое што холадна, а стыла. І

крыху вусцішна. Ніводнага гуку жыцця не прасочвалася сюды праз тоўшчу зямлі. Гэта нагадала Самусенку, як іх некалі на занятку па грамадзянскай абароне вадзілі ў бамбасховішча, такое ж прыблізна падзямелле, дзе стаялі тапчаны, кушэткі, плакаты на сценах, шафы з цёмна-балотнага колеру гумавымі супрацьгазамі на паліцах. А тут, у літаўскім "бамбасховішчы", уздоўж адной сцяны былі ўсяго тры доўгія, як більярдныя, сталы-стэнды са шклянымі вечкамі-накрыўкамі, каля другой – столік, крэсла, лямпа.

– Спачатку хацеў зрабіць вінны пограб, – у Літава змяніўся голас, стаў прыглушаны, – тут тэмпература заўсёды аднолькавая, а потым падумаў – павінна ж быць у кожнага свая *personal space*, і зрабіў вось – сабе кабінет. Ідэальнае месца для працы. Мабільнік не бярэ, вай-фай не ловіць, нішто не перашкаджае, поўная ізаляцыя.

– Я б не сказаў, што камфортна, – азірнуўся Самусенка.

– Так. З двара дзверы можна адчыніць толькі на званок з майго мабільнага, знутры – уручную, трэба ведаць код, а я мяняю яго кожны раз, як сюды заходжу. Не пазайздросціў бы я чужому, які тут апынецца. Ад адной клаўстрафобіі можа разарвацца сэрца. – І раптам, гледзячы ўбок, Літаў задумліва, нібы сам сабе, прамовіў: – Вось бачыце, не трэба ні дзевятнаццатага стагоддзя, ні дуэляў, дастаткова паставіць палец на курсор і націснуць – як на курок.

"Ды ён... вар'ят", – халадзеючы, падумаў Самусенка. Але Літаў схамянуўся і пачаў расказваць далей:

– У мяне мара: зрабіць у гэтым сутарэнні музей. Толькі не звычайны краязнаўчы, а музей фальшывак, разумееце? Сабраць рознае "багацце", напрыклад, спарахнелыя паперы, на якіх нібыта вершы і паэмы Міцкевіча на беларускай мове. Нібыта фрывольныя навелы Скарыны. Невядомая аповесць Яна Баршчэўскага, напісаная беларускай кірыліцай. Крыж Еўфрасінні з медзі і з фальшывымі каменнямі, падробныя слуцкія паясы, куча несапраўдных шчарбатых талераў і берасцяных грамат-шыфровак... Разумееце – не музей артэфактаў, а музей падробак!

– Навошта?

– А-а, я чакаў гэтага пытання. Па прынцыпе магнетызму. Вы ведаеце, што рэчы прыцягваюцца? У дзяцінстве ў мяне быў вельмі прыгожы шкляны шарык, і неяк згубіўся ў траве. Я зляпіў з хлебнага мякіша такі самы, кінуў у траву прыблізна на тое ж месца і з першага разу знайшоў, яны ляжалі побач. А то раз на пошце згубілася важнае пісьмо, і вось што я прыдумаў: напісаў і паслаў пісьмо самому сабе. Што вы думаеце – мне аддалі два! Так і тут: можа, падробкі хутчэй прыцягнуць да сябе сапраўднае.

Самусенка адчуў, што яму не хапае паветра. Нясцерпна захацелася адсюль наверх.

– Але я так мала ведаю. Было б здорава, калі б вы з вашым аўтарытэтам, з вашымі ведамі – пагадзіліся быць маім кансультантам. Вучылі б мяне, падказвалі, увялі ў літаратурна-культурны асяродак, пазнаёмілі з творчай элітай. Не за бясплатна, само сабою!

"Не – здаецца, нармальны хлопец", – з палёгкай падумаў Самусенка. Літаў прызнаўся, што спрабуе пісаць кнігу на гістарычную тэму, сабраў усе магчымыя, якія толькі знайшоў у інтэрнэце, гіпотэзы стварэння і гістарычнага, і сацыяльнага развіцця Беларусі, і цяпер прэтэндуе на стварэнне яшчэ адной, сваёй уласнай гіпотэзы.

– Магчыма такое, як вы падлічваеце?

– Лічыце, – паправіў Самусенка, які пакрысе рабіўся самім сабою. – Што ж. Можа, сапраўды чужому відней. Прыйшоў жа некалі збоку рускі Мулявін – і вунь на якую вышыню ўзняў беларускую песню. Мо і вам удасца зрабіць тое самае з гісторыяй.

Дамовіліся, што Літаў будзе даваць яму раздрукаваны тэкст порцыямі раз на месяц

– Толькі я папрашу, хай гэта будзе між намі. Не хачу розгаласу.

– Гэта і ёсць ваша таямніца? – спытаў Самусенка.

– Не, не яна.

## VI

Пасля падзямелля лёгка дыхалася, і белы свет выглядаў прыветна. Сонца, марозік, сіне-пунсовае неба, нават латкі рабога снегу сям-там глядзеліся весела. Было гадзіны дзве дня. Пайшлі назад, падымаючыся па прыступачках угару на пагорак да дома, – гаспадар зноў клапатліва прытрымліваў госця пад руку. Самусенка адчуў нават нейкую прыхільнасць да яго. Калі падышлі да ганка, Літаў спахапіўся:

– Забыў папярэдзіць, у нас лазарэт, дзеці хворыя.

У цёплай вялікай гасцёўні Літаў-гаспадар не паспеў памагчы госцю зняць паліто, як зверху скаціліся па лесвіцы дзве дзяўчынкі, адна шасці, другая чатырох гадоў, босыя, у белых піжамках, круглатварыя, белагаловыя, кучаравыя херувімчыкі, якія нібы сышлі са старадаўняй віньеткі ці з каталіцкай іконы Анёла Ахоўніка. З двух бакоў павіслі на бацьку, ашчаперылі яго.

– Дочкі мае – Іра, Эма. А дзе мама?

Старэйшая дзяўчынка амаль спалохана азірнулася на чужога дзеда, нешта шапнула бацьку на вуха. Літаў чамусьці збянтэжыўся. Правёў госця ў сталоўку, папрасіў пачакаць, сам падняўся з дочкамі наверх. Самусенка агледзеўся. Шторы, прыцішанае святло, вялікае памяшканне. Але не памеры ўражвалі, а абстаноўка: усё цяжкае, груваскае, цёмных і карычневых колераў; старадаўняя мэбля, масіўны круглы стол, з высокімі строгімі спінкамі крэслы; але нічога не цісне, не прыгнятае, не здаецца няўклюдным; нават тоўстыя васковыя свечкі ў цяжкім, на выгляд сярэбраным кандэлябры прыўносілі адчуванне супакою і ўтульнасці. Зверху данесліся галасы: ціхі, вінаваты Літава і звонкі, высокі – жаночы. Самусенка спакойна сядзеў за круглым сталом і чакаў. Нарэшце з'явіўся Літаў з роблена вясёлым тварам.

– Жонка вельмі прасіла прабачэння, але ніяк не зможа... З прычыны хваробы. І прыслуга адпушчана. Нічога, не ўпершыню

Ён накінуў на плечы шлейкі фартуха і адразу стаў падобны на ўдзельніка тэлевізійных кулінарных шоу, якія суткамі ідуць ледзь не на кожным канале. Не хапала толькі каўпака на галаве.

– У нас сёння... булён з куры. Не крамнай – на базары купленай, – Літаў зухавата разліў апалонікам з рондаля варыва ў талеркі, паставіў у мікрахвалевую печ. – Мы ядзім усё, што падабаецца, – казаў ён, раскладаючы на стале сурвэткі, лыжкі, відэльцы, ставячы чаркі. – Можам бульбы з селядцом навярнуць, можам куплёныя пяльмені. Калі-небудзь пад настрой самі гатуем, а калі хочацца чагось такога – ідзем у рэстаран... А вось чаго я не люблю, дык гэта *fusion*, гэтыя змешаныя складаныя стравы... Што піць? Віскі, ром, каньяк, віно?

– Віскі.

– Піце, ежце, мой шафёр вас адвязе, а калі спатрэбіцца, і аднясе.

Выпілі; спіртное імгненна разагнала ў Самусенку старую загусцелую кроў. “Не – абсалютна нармальны хлопец!” – расчулена падумаў ён. Закусілі; булён быў духмяны, наварысты (“вясковы”, падумаў Самусенка, які любіў усё натуральнае), з жоўтымі плямкамі тлушчу. Здаволілі апетыт, Літаў прыбраў посуд, пакінуў на стале толькі пляшку і чаркі.

– Мне вашыя разважанні ў рэдакцыі вельмі прыйшліся даспадобы.

– Спадабаліся, – паправіў Самусенка. Цяпер, калі размова ад бункераў, абслугі і кулінарыі нарэшце звярнула ў сферу яго інтарэсаў, ён зноў узяў паблажлівы тон выкладчыка на іспытах. – У другой частцы сваёй манаграфіі...

На гэтых словах на лесвіцы пачуліся крокі, адчыніліся дзверы і хуткім крокам у сталоўку зайшла жанчына гадоў дваццаці пяці, ва ўсё цёмнае адзетая, тварам падобная на дзяўчынак, толькі не бялявая, а русая.

Жанчыны такога тыпу звычайна вельмі прыгожыя ў падлеткавым узросце, але ўжо да дваццаці гадоў вянуць, як недаўгавечныя летнія кветкі. Самусенка прыўстаў, крыху хіснуўшыся, і зрабіў рух з намерам пацалаваць ёй руку ці хаця б проста патрымаць у сваёй. Але жанчына рукі не падала.

– Ірма, – толькі і сказала і адразу павярнулася да мужа. – Ты зноў? Табе доктара Шнэйдара мала?

– Пасядзі, дарагая, з намі...

– Калі гэта трэба, – прысела.

– Вып’еш? З’ясі?

– Калі ты гэтага хочаш.

Каменны твар, ні ўсмешкі, ні ветлівага слова. Самусенка, які б ні быў скаваны яе прысутнасцю, заўважыў, што голас яе, з лёгкім латышскім акцэнтам, зусім не хворы, і ўвогуле на ёй ніякіх прыкмет хваробы – там, абвязанай цёплай хусткай шыі, ці чырвоных вачэй і носа, ці пад носам – ну, як бывае ў грыпозных.

– Пазнаёмся, дарагая, прафесар Самусенка... Ты не ўяўляеш, які цікавы чалавек. Першыя словы, якія я ад яго пачуў: пра дуэль! І гэта ў наш час! Ты казала, Беларусь – мядзведжы кут. А тут я сустракаю такіх людзей! Рыцараў!..

Ірма раптам устала; упаў і бразнуў аб падлогу відэлец; павярнулася і, нічога не тлумачачы, хутка выйшла, амаль выбегла. Літаў уздыхнуў.

– І так заўсёды. Вось яно, маё жыццё.

– Не адабрае вашага захаплення беларушчынай? – спагадліва спытаў Самусенка.

– Баюся, яна нават не ведае такога слова. Не цікавіцца нічым, акрамя сябе, не займаецца ні дзецьмі, ні домам, ні абслугаю, нават у кампутар не лазіць, нават сяброўак не завяла. Але справа не ў тым. Свабода мая абмежаваная. Ледзь не кожны крок пад кантролем. І крыўдна, што ўсё гэта цяпер, калі я так блізка! Калі амаль знайшоў, што хацеў!..

Незразумела, туманна гаварыў Літаў. А потым, нахіліўшыся да Самусенкі, тым самым голасам, што і ў бункеры, прашаптаў:

– Вы ўмееце трымаць язык за зубамі?

– Я ў такіх гадах, – самавіта прагудзеў Самусенка, – што мне павінна сорамна быць...

– Скажыце – каб быў чалавек, ад якога б вы залежалі матэрыяльна... Які б прыніжаў вас, не даваў займацца любімай справай... Што б вы зрабілі?

– Змёў бы любога, хто апынуўся б у мяне на дарозе, – адказаў смелы ад віскі стары.

– Дык вы не жартавалі там, у рэдакцыі? Пра дуэль? Вы сапраўды змаглі б забіць чалавека?

– За Беларусь – рука б не здрыганулася.

## VII

Назаўтра раніцай Самусенка прачнуўся дома ў сваім ложку. Ад якаснага спіртнога і добрай закускі нічога не балела. Галава была ясная, хаця засядзеліся яны дапазна і дамоў яго прывёз шафёр Літава, такі ж невысокі, ладна скроены, спрытны, як і Літаў, толькі негаваркі. Прачнуўся, успомніў усё, – і першая думка была: як гэты Літаў, увесь час яго заманьваючы, умудрыўся так і не раскрыць абяцаную таямніцу. Пратрымаў на кручку ("не будзем прыспешваць", "яшчэ не час"), ды нічога і не сказаў. Да начнога століка каля ложка быў прыхінуты кіёк. На століку ляжала папка Літава – і аванс: сінія з серабрыстай ніткай-палоскай купюры еўра. Гледзячы на папку, а больш на грошы, Самусенка адчуў, як у другі раз нешта нядобра кальнула ў сэрца. Бункер, дзіўная жонка, гэтая нездаровая цікавасць Літава да тэмы "хто каго мог бы забіць".

– Ды не, ён добры хлопец, – прамармытаў Самусенка, нібы спрачаўся з некім, хто казаў адваротнае. Ну праўда, – не ў якасці ж кілера ён спатрэбіўся. Хутчэй за ўсё "таямніца" Літава ў тым, каб заснаваць рэдакцыю часопіса ці, можа, уласнае выдавецтва.

Тэкст Літава ён прагледзеў і знайшоў яго не лепшым і не горшым за іншыя тэксты такога ж кшталту. Іх смела можна не толькі не чытаць, а нават не прабягаць па дыяганалі, – хапае першага сказа, каб зразумець, што яны дзеляцца на ўсяго дзве канцэпцыі, абсалютна кантрастныя, якія не толькі не дапаўняюць, а катэгарычна выключаюць адна адну; першая: усё, што з Усходу – кепскае, крывавае, разбуральнае, захопніцкае; усё, што з Захаду – добрае, мірнае, стваральнае, вызваленчае. Літаў належаў да другіх. Так што ніякіх асаблівых вымаганняў гэтая рэдактура-падпрацоўка не патрабавала, наадварот, развейвала, і грошы былі лічы што дармовыя (падумаў Самусенка).

З таго часу цёмная паласа ў яго змянілася на светлую. Ён пачаў пісаць другую частку манаграфіі. Ён нават узяўся памаленьку аднаўляць старыя сувязі – напрыклад, пачаў заходзіць у госці да свайго былога студэнта, самотніка-паэта. Як мог ён стараўся развесяліць яго – чытаннем манаграфіі, картамі, шахматамі, абмеркаваннем палітычнай сітуацыі. Яму падабалася падсмейвацца, бяскрыўдна пакепліваць з паэта, а калі-небудзь за чаркай віскі ці самагонкі раскрываць душу.

– Парадокс! – казаў ён. – Людзі задыхаюцца ад адзіноты, выдумалі віртуальнае жыццё сацыяльных сетак – выключна ад адзіноты! – у той час мы, два, хай сталага веку, але – яшчэ ў саку! разумныя мужчыны, – абодва адзінокія. Ніхто намі не цікавіцца. Я проста здзіўляюся, чаму на нас дасюль яшчэ не выйдуць якія хоць бы аферысты, чорныя рыэлтары, ці што. Усё весялей было б. Пачытаеш, паглядзіш тэлевізію – поўна такіх выпадкаў, хаця б з-за кватэры... У мяне ёсць знаёмы, таксама былы мой студэнт, зямляк мой з Палесся, сала ў яго купляю, калі і самагонку... вось гэтую, якую мы п'ем... дык вось, расказваю яму, а ён не верыць!

Мінуў студзень, прайшоў люты, а прыкладна ў канцы сакавіка Самусенка зразумеў, што самахоць пачапіў сабе на ногі гіры. Рэдактарскі хлеб аказаўся не лёгкі. Ён убачыў, што аддае чужому значную частку душы і

энергіі, якія трэба было б ашчаджаць на сваё – на любімую манаграфію. Ён пачаў думаць, як быць. Адмовіцца? Пра гэта не магло быць гаворкі. І прызнанне сваёй слабасці, і проста неразумна – самахоць страціць сяброўства з мецэнатам. Неяк раз, седзячы ў паэта за шахматамі, робячы выгляд, што задумаўся над ходам, Самусенка цягнуў сваё “тэк-с, так-с, шо він робліць”, – і тут цюкнула ў галаву: шукаю акуляры, а яны на носе! Вось перад табой ідэальная кандыдатура. Праўда, Літаў прасіў трымаць у тайне, але на крайні выпадак можна будзе патлумачыць, што някепска таму ж Літаву падтрымліваць сувязь з чалавекам, які працуе ў часопісе, звязаны з выдавецтвамі, рэцэнзентамі, крытыкамі; да таго ж Літаў, здаецца, сам прасіў пазнаёміць яго з творчай элітай. У той жа вечар ён угамаў капрызнага паэта. Пераклаў на яго плечы абрыдлую рэдактуру, заплаціўшы яму палавіну ад таго, што плаціў яму Літаў (па прынцыпу піраміды: Рак у сваю чаргу мог знайсці літраба, а той – яшчэ аднаго, як дзяленне клетак і атамаў). Літаў, які б ні быў дылетант, пры перадачы чарговай порцыі чыткі адразу ўбачыў чужую руку. Давялося прызнацца:

– Не сам, памагалі...

– Дык гэта проста выдатна! Вы павінны абавязкова нас пазнаёміць.

А пасля таго, як пабываў у Рака, збянтэжана, нават крыху разгублена казаў:

– Ну вы і знайшлі мне рэдактара. Я пабыў з ім дзесяць хвілін, а дзесяць гадзін прыходзіў у сябе. І ведаеце, што я скажу: вось гэты пайшоў бы на дуэль, і не ў дзевятнаццатым стагоддзі, а цяпер.

– Ды вы што! Ён гарний хлопець. А які тонкі лірык!

– Сентыменталізм – прыкмета жорсткасці. Вы бачылі яго вочы? Халодныя, ледзяныя; калі ён выхопліваў жэтон, я выпадкова сустрэўся з яго позіркам, і мурашкі па скуры пайшлі.

Самусенка вымушаны быў прызнацца, што калі-небудзь і яму рабілася не па сабе ад вачэй Рака, ад яго дзіўнага замірання, глядзення праз сцены некуды ў далячыць ці ўнутр самога сябе. Як бы ні было, а ён застаўся толькі ў якасці кур’ера паміж Літавым і Ракам. Зноў можна было з лёгкай душою займацца любімай манаграфіяй. А другая частка яе пайшла куды весялей за першую. Тут пейзажа было хоць адбаўляй. Колас з Гарэцкім, наперадзе – Чорны з Мележам, а там і да Пташнікава і ўсяго філалагічнага пакалення недалёка; вось дзе раздолле!

Ішоў дзень за днём, тыдзень за тыднем, месяц за месяцам, да канца вясны, усю палавіну лета – Літаў ні словам не абзываўся пра славуты “час ікс”. Самусенка пачаў быў падумваць, што і няма ніякай тайны, а было тое сказана Літавым проста для звязкі слоў, – як у пятніцу 17-га ліпеня каля дзевяці вечара Літаў нечакана пазваніў, вясёлы, бадзёры, паведаміў, што выдатна “з’ездзіў”, “усё гатова”, пацікавіўся, як рухаецца манаграфія; а яшчэ папрасіў зараз жа схадзіць да паэта і персанальна запрасіць на заўтрашні раут: “Скажыце, што яго чакае вельмі прыемны сюрпрыз. Пасля я вас набяру”. Самусенка ўсё акуратна выканаў, калі выходзіў ад паэта, у вечаровым сутонні старэчым зрокам заўважыў каля пад’езда нейкую нібыта знаёмую жаночую постаць, побач з машынаю. Ён спыніўся і пачаў угледацца. Жанчына адвярнулася. І тут Самусенку ў трэці раз, як некалі зімою, непрыемна, да фізічнага болю кальнула ў сэрца. Пацiраючы левую грудзіну, ён прыйшоў дадому, дастаў папку з манаграфіяй, пяшчотна, дрыготкімі пальцамі пагладзіў яе. Сядзеў з ёю на каленях, чакаў званка ад дабрадзея і не разумеў, што яго так глыжэ?

## Частка трэцяя

## ЛІТАЎ

### VIII

Кампанія “Славлеспрамвест”, падобна нафтагазавай кампаніі, як павуціннем апляла вялікімі і малымі філіяламі Расію, Беларусь, Прыбалтыку, Украіну, Скандынавію і цяпер цэлілася на Малдову, Румынію, Балгарыю. Яна мела адносіны да вырабу мэблі, да вытворчасці нейкіх катлоў, да паставак драўніны і будматэрыялаў, да выпуску каваных вырабаў, да перапрацоўкі харчовых адыходаў, – словам, займалася ўсім на свеце. Але асноўнай яе дзейнасцю былі пасярэдніцкія паслугі ў імпарце і экспарце лесу. З тых мясцін, дзе ён ёсць, яна памагала, як сказаў бы Самусенка, яго выразаць і перапраўляць туды, дзе яго няма, або туды, дзе ён ёсць, але яго берагуць і не высякаюць.

Цікава, што бізнес гэты ніколі не затухаў, нягледзячы ні на якія палітычныя расклады. Усім хочацца свае прыродныя рэсурсы пакінуць нечапанымі, а карыстацца чужымі.

Дзейнічала кампанія дзе афіцыйна, дзе неафіцыйна, дзе па-беламу, дзе па-чорнаму; у адным месцы яе філіялы ўзнікалі, у другім цярпелі крах, штат супрацоўнікаў бесперапынна абнаўляўся: хто на павышэнне, хто на паніжэнне, хто проста знікаў і неўзабаве аб’яўляўся ў Лондане або ў месцах не надта аддаленых, – і толькі для акцыянера і адначасова супрацоўніка кампаніі Леаніда Літава ўсё было як з гусі вада. Ён як звязаў свой лёс з лесам адразу пасля ВНУ ў роднай Вятцы, калі яму было 23 гады і калі кампанія яшчэ называлася “Кіраў-Лес”, так і заставаўся нязменным. Якія б вакол ні адбываліся катаклізмы, яны абміналі яго бокам. Ляснуў “Кіраў-Лес” – Літаў выплыў чамусьці ў Таліне, у кампаніі “Еўраэкспалес”. Там усё паўтарылася, і ён, як грыб з-пад зямлі, вырас у Калінінградзе, потым у Беластоку, а затым яго пачало кідаць па ўсёй Усходняй і Цэнтральнай Еўропе, як тэнісны мячык. І куды б яго ні закідвала, першай справаю ён пачынаў ужывацца ў мясцовы побыт.

“Мой абавязак, калі хочаце, доўг, – заяўляў ён, – прыняць культуру і вучыць мову краіны, якая мяне прытуліла”.

Праўда, намеры так і заставаліся намерамі. Пры ўсім жаданні зрабіць гэта проста фізічна было немагчыма – хаця б таму, што ён нідзе не затрымліваўся больш за два гады. Зрэшты, ён мала з-за гэтага перажываў. Энергічны, хуткі на пад’ём, ён лёгка зрываўся з аднаго месца і пералятаў на другое. Камунікабельны, таварыскі, хутка сыходзіўся з новымі людзьмі; акрамя ўсяго меў надта шчодры на любоў характар, быў жанаты чатыры разы, яшчэ тры засталося да “Сіняй Барады”, як ён сам жартаваў. Праўда, зараз жа бажыўся, што сваёй Ірмы, апошняй жонкі, дачкі дзвінскага латгальца і латышкі, ён ні на кога не прамяняе. Сышліся яны, калі лёс закінуў яго ў Венцпілс (дзе зноў казаў Леанід Літаў: “мой абвязак прыняць культуру краіны, якая мяне прытуліла”), у кампанію “Балтлес”. А калі там усё паўтарылася, зноў пачаліся цёмныя справы, Літаў – замест Лондана ці гасціннай балтыйскай турмы – апынуўся разам з жонкаю і з малымі дзецьмі ў ліпені месяцы 2013 года ў Крыме, супрацоўнікам кампаніі “Укркрымбудлес”.

Няцяжка было здагадацца, што нехта аберагае яго, вядзе па жыцці.

Але ніхто, у тым ліку і ніводная з жонак, не ведалі, хто менавіта. Сам Літаў трымаў на гэты конт магільнае маўчанне. Сяброў у яго не было, а знаёмым ён ні п’яны, ні цвярозы ні разу не прагаварыўся. Можа, яму хацелася, каб думалі, што яму проста шанцуе, што ён сам дабіваецца ўсяго ўласным талентам і розумам. На асабліва дакучлівыя роспыты знаёмых: “ну прызнайся, які ў цябе блат?” – ён адказваў жартам:

“У мяне не блат, а сястла”.

І казаў няпраўду, бо быў менавіта брат. Праўда, зводны – адна маці, розныя бацькі, таму і прозвішчы мелі розныя. Брат быў на тры гады маладзейшы за Літава, але кар’еру іх нельга было і параўноўваць. Літаў пасля сваіх пертурбацый хоць і выходзіў сухім з вады, заставаўся цэлы, але і ўгару не йшоў, а як бы закансерваваўся, застыў на месцы звычайнага аўдытара. А гэты зводны малодшы брат даўно сядзеў у Маскве, насіў на лацкане трыкалор РФ і меў такую ўладу, што Літаву і не снілася. Калі Літаў аднойчы нясмела спытаў, ці ёсць у яго свае яхты, самалёты і верталёты, ён толькі іранічна гмыкнуў: верталёты і яхты, якая драбяза.

Чамусьці так склалася, што яшчэ з дзяцінства старэйшы Літаў заўсёды ва ўсім падпарадкоўваўся малодшаму, прывык выконваць яго волю, і ўжо тым больш пазней, калі брат імкліва пайшоў угару.

Адносіны паміж імі былі дзіўныя. Літаў амаль нічога не ведаў пра яго асабістае жыццё. Брат быў жанаты, але Літаў у вочы не бачыў яго жонкі. Брат ніколі не запрашаў яго да сябе ў Маскву і сам ні разу не прыехаў да Літава на яго часовыя стаянкі. Звычайна яны трымалі сувязь па тэлефоне ці па скайпе. І калі брат абзываўся, Літаў імгненна настройваў сябе на патрэбную хвалю: залішняй вінаватасці, перабольшанай пакорлівасці, празмернай павагі. Малодшы не прамінаў ніводнага выпадку, каб не нагадаць старэйшаму, што той ад яго ва ўсім залежыць.

– Зайздрошчу я табе, – казаў ён. – Хай бы мяне хто засланіў такой спіною. Што б ты рабіў без мяне? – а заканчваў заўсёды аднолькава, як падводзіў рысу: – Пасада і вышнія эшалоны ўлады прывучылі мяне не верыць людзям. Не трэба, каб ведалі, што мы радня. Пачнуць цікавіцца табою, выйдуць на мяне, а мае магчымасці не бязмежныя. Усе толькі і чакаюць, каб наляцець і разарваць. Ад іх не схаваешся, яны нічога не даруюць!

На гэтых загадкавых *яны* і *ўсіх* звальвалася ўсё. Кожны раз пасля такіх размоў у Літава спаўзала з твару пакора, ён нібы камянеў, вочы звужваліся і глядзелі ў адну кропку, а твар рабіўся каменным, як у старога, многа разоў бітага баксёра, які прайграў чарговы бой. Ужывую сустракаліся яны рэдка, на два-тры гады раз, і заўсёды на нейтральнай тэрыторыі. Літава прыгняталі гэтыя сустрэчы яшчэ больш, чым відэасувязь.

– Церпіш? – спагадліва пытаў брат.

– Ды не.

– І праўда нічога не хочаш? Ні кар’ернага росту, ні больш грошай?

– Ды не.

Брат пільна ўзіраўся ў яго, затым ляпаў па плячы і з палёгкай знаходзіў, як яму здавалася, тлумачэнне:

– Ну, гэта ты так кажаш. Бо ў цябе няма магчымасці. Ты не думай, што я табой грэбую, саромеюся цябе, заціраю, не даю падняцца. Зразумей: я павінен цябе стрымліваць. Ты – непрадказальны. Ведаеш сваю ахілесаву пяту?

– Ведаю...

– Помніш школу? Універсітэт? Помніш свае пазнейшыя фокусы?

– Помню...

– Кожны на маім месцы страхаваўся б. Я не магу не думаць пра рэпутацыю. Так што пацярпі яшчэ трохі. Доля рускага чалавека – цярпець. Дай мне ўмацавацца. Умацуюся – і цябе не забуду. Крышку засталося.

Кожны раз было пацярпі, і крышку, і ўмацавацца; Літаў заставаўся на месцы, а брат падымаўся ўсё вышэй, – здавалася, вышэй ужо і нельга, а яму было ўсё мала. Не любіў Літаў гэтых сустрэч яшчэ і таму, бо ведаў: амаль заўсёды пасля іх яму зноў давядзецца мяняць дыслакацыю – пераязджаць на новае месца. Перадапошні раз яны бачыліся ў жніўні 2014 года ў Крыме, ужо ў рускім Крыме, на невялікай дачцы паміж Місхорам і Гаспрай. Быў дзень. Яны прагульваліся па высокім беразе дарожкаю, белай ад крымскага пылу; абодва ў панамах і ў шортах, але на гэтым падабенства канчалася – надта розныя былі знешне: невысокі, як бы пажаночы акруглы, мяккі Літаў і даўгалыгі хударлявы брат. Поўныя ногі Літава былі загарэлыя да шакаладнага колеру, а жылістыя худыя братавы – чырвоныя, як у індзейца, у плямах ад першых дотыкаў пякучага паўднёвага сонца. Зверху былі горы, знізу блішчэла мора. У бухтачцы тры невялікія чарнаморскія дэльфіны – мільгаў то востры трохкутны плаўнік, то чорная спіна, то белы жывот – збівалі каля берага да кучы кефаль, каб спакойна харчавацца.

– Як табе Крым? – спытаў брат.

– Ды так неяк. Не магу зразумець. Дзіўная рэч: калі ён быў украінскім, я адчуваў сябе дома, а стаў наш – як у гасцях. Быццам зайшоў у чужы дом без гаспадара, пераклейваю шпалеры, перастаўляю мэблю, і ўвесь час думка – а што калі нарвуцца гаспадары?

– Кінь. Па-мойму, нічога няма дурней, чым вайна за тэрыторыю. Межы такое ж часовае, як і ўсё ў гэтым свеце. Яны самі собой знікнуць у наступным стагоддзі, калі не ў сярэдзіне гэтага. Вялікае перамяшчэнне народаў не спыніць. Рана ці позна створыцца адзіны транснацыянальны саюз, дзе будзе і Украіна, і Амерыка, і Расія, і тады разборкі, чый Крым і чыя Аляска, проста страцяць сэнс.

– Так, глабалізм, – няпэўна сказаў Літаў.

– Не столькі глабалізм, колькі фізічны, калі хочаш, фізіялагічны працэс – усім разам элементарна лягчэй пракарміцца.

Браты прайшлі ў ратонду, затым на адкрытую тэраску, знялі панамы, і зноў выявілася розніца паміж імі: Літаў, саромеючыся невялікай лысінкі, даўно сам сябе спецыяльнай машынкай падстрыгаў пад нуль (што, зрэшты, яго толькі маладзіла), брат – з пароды тых, хто свае валасы і свае зубы захоўвае да смерці. У яго была густая, плацінавага колеру шавялюра, высакародны профіль, стомленыя разумныя вочы. Прыселі за столік з паўднёва-курортным наборам: вінаград, віно, персікі, у марлі – салёная малдаванская брынза, ад якой так прыемна скрыпяць зубы. Віўся вінаград па рашотках над галавою, варушыўся на століку цень яго зубчастых лістоў; па сцяне тэрасы паўзлі ружы – і кучна, і па адной; праз іх відаць былі гранатавыя дрэўцы, фэйхаа, лагерстрэмія і дзве карлікавыя пальмы з кашлатымі стваламі (а ў гэтым іх пакуллі замест райскіх птушак ціўкалі, мітусіліся, жылі самыя звычайныя шэрыя вераб'і). Крыху далей раскінулася крымская магнолія з белымі, як малдаванская брынза, вялікімі, з добры

сподак, кветкамі, якая тут, на ПБК, звычайна цвіце ад пачатку чэрвеня і па жнівень. Брат услед за Літавым таксама паглядзеў на дрэва.

– Пахне.

– Прыемна, я так люблю! – падхапіў Літаў.

– Аднак я чуў, – заўважыў брат, – што яе трэба нюхаць на адлегласці. Зблізку гэты пах небяспечны, асабліва ўночы. Пяць кветак у спальным пакоі на ноч, ды яшчэ з зачыненымі вокнамі, могуць ўсыпіць навек. А прызнайся, ты не супраць быў бы падарыць мне такі букецік?

– Ну што вы, – Літаў прыклаў да грудзей поўныя загарэлыя рукі. – Як можна...

– Добра. Магнолія магноліяй, а я папрашу цябе вось аб чым. Збірай манаткі. Нельга табе затрымлівацца на адным месцы, тым больш з тваім мінулым. Пакуль траснацыянальны саюз, ніхто не ведае, як яно там далей будзе. Трэба перасядзець, перачакаць.

– І... дзе?

– У Беларусі.

Вось так заўсёды. Літаў прывык, што брат ганяе яго, як дэльфіны кефаль, звычайна ён без лішніх слоў выконваў, што скажуць. Але гэтым разам набраўся смеласці.

– З гадамі цяжка вось так зрывацца з месца.

– Нічога не зробіш. Цярпі. Доля рускага чалавека – цярпець. Ды і нічога ад цябе там не патрабуецца. Рабі тое, што і да гэтага рабіў. Вучы мову, укараняйся ў мясцовы побыт, уваходзь у чужую культуру, наладжвай кантакты з нацыянальнай творчай элітай, словам, станавіся сваім. Ніхто не патрабуе, каб ты шпіёніў, збіраў звесткі, вербаваў. І вось яшчэ: помніш нашу ўмову? Што ты абяцаў?

– Помню...

– Не ўздумай паўтараць сваіх фокусаў! Я цябе сур'ёзна папярэджваю. Трымай сябе ў руках. Мы абодва ведаем, чым гэта канчаецца. Зразумей – мае магчымасці не бясконцыя. Я табе памагаў усё жыццё, а цяпер так можа скласціся, што ты мне будзеш памагаць.

Другая і апошняя сустрэча братоў адбылася праз два гады, у снежні 2016-га, чамусьці ў Варшаве – так брат захацеў. Для Літава гэтыя два гады прайшлі як у чароўным сне. Цяпер ён не мог уявіць, што жыў недзе ў іншым месцы. Ён зразумеў, што грунтоўна пускае тут карані, і вырваць іх будзе нялёгка. З горыччу ён казаў жонцы: “На што былі патрачаны гады! І чаму адным даецца гэта ад нараджэння, а другім – такой дарагой цаною! А як табе тут?”

Жонка-прыбалтка, хоць і зусім не падзяляла радасці мужа, адказвала: “Мне там добра, дзе табе”.

Зімовая Варшава нічым не адрознівалася ад іншых еўрапейскіх зімовых гарадоў. Брукаваныя гарбатыя вулічкі і плошчы, чырвоныя чарапічныя дахі, плюсавая тэмпература, мяккае пахмурнае надвор'е, уключаныя днём фары машын. Брат гэтым разам таксама быў пахмурны, як гэтае надвор'е, гаварыў чамусьці вельмі ціхім голасам. На горцы Старога Мяста яго пацягнула на настальгію; пачаў успамінаць, як некалі летам тут пахлі чарэшні – “проста водар, я любіў стаяць і проста дыхаць, сапраўдныя былі пахі, а цяпер еўраўніфікацыя, без паху і ва ўсім аднолькавы смак”. Перад тым, як зайсці ў кавярню, папярэдзіў: “Гавары па-англійску”, – і да Літава дайшло, чаму ён гаварыў ціха: саромеўся, ці баяўся, роднай

мовы. Выпілі гарачага шакаладу з каньяком і пайшлі ўніз па вуліцы ў напрамку Віслы.

– Вы адзін? – спытаў, азіраючыся, Літаў. – Усё ж можа не варта так рызыкаваць.

– Кінь. Каму-каму, а табе сама больш выгадна, каб мяне не было. Вось тады б ты ўжо разгарнуўся! Поўная была б воля.

– Ну што вы! Як можна...

– Лепш скажы: праўда, што ў гэтай Беларусіі нешта ёсць?

– Праўда. Які край! Якая гісторыя! Якія людзі!

– Ты нават знешне памаладзеў, – з зайздрасцю заўважыў брат.

– Што вы! Здароўе стала лепш. Чым менш сплю, тым лепш адчуваю сябе. Раней баяўся крызісу сярэдняга ўзросту, а яно – наадварот – пад 50 такая працаздольнасць!

Літаў пачаў расказваць, якія беларусы: працавітыя, як немцы, спеўныя, як украінцы, таленавітыя, як рускія і наіўныя, як амерыканцы.

– Тым больш дзіўна, калі не сказаць – дзіка, чуць заявы іх кіраўніцтва, што Беларусь дабраахвотна можа ўвайсці ў склад іншай дзяржавы.

– Я цябе не вельмі засмучу, калі скажу, што яна ніколі і не выходзіла са складу іншай дзяржавы? А цяпер, пасля Украіны, ужо і не выйдзе.

– Ну і шкада. Як на маю думку, ім не трэба ні Расія, ні Еўропа. Расія нічога ім не дасць, а Еўропа ў іх пад нагамі. У іх прыкладна тая самая Фінляндыя. Выдатныя дарогі, чыста, вясной едзеш – сеюць, у канцы лета – жнуць. А прырода! Іх прырода хітрая, яна нібыта сціплая, але якая непаўторная! Мова – музыка, а не мова, і амаль ніхто на ёй не размаўляе...

– Музыка музыкай, – перабіў брат, – а там яшчэ засталося што-небудзь? Не ўсё яшчэ высеклі? Колькі лесу ў Прыбалтыку сплавілі пад выглядам сыравіны, а фактычна дроў? Але гэта няважна, – абарваў ён ужо сам сябе. – Не надта прырастай там.

– А што? – спытаў Літаў і сам не пазнаў свайго голасу.

– Хутка зноў пераязджаць.

– Куды?

– У Малдову. А адтуль, хутчэй за ўсё, у Румынію. Віна пап’еш, памідораў паясі.

– Калі?

– Думаю, недзе вясной, у маі. І вось яшчэ што. Сітуацыя памянялася. Узяліся за мяне, – неахвотна патлумачыў брат. – Моцна, усур’ёз узяліся. Вішу, калі шчыра, на валасінцы. Можа, яшчэ палітычнага прытулку давядзецца прасіць. У сувязі з гэтым я павінен урэзаць тваё фінансаванне да мінімуму. Разумею, гэта жорстка. Але я вымушаны. На самае неабходнае ты, канечне, атрымаеш, але больш – прабач, ні капейкі.

– Як... а як жыць? – разгублена спытаў Літаў.

– Цярпець, – адказаў брат. – Такая ўжо доля рускага чалавека.

## IX

Першае, што Літаў зрабіў, вярнуўшыся з Варшавы, – адразу з машыны пайшоў зірнуць, як рухаюцца справы з бункерам. Адліжны сыры снег прыліпаў да падэшваў. Пакуль яго не было, бункер амаль давялі да ладу. Яшчэ рабочы ў чырвонай камізэльцы рабіў з тачкай рэйсы да плота і назад – прыбіраў, вывозіў будаўнічы друз, яшчэ каля ўвахода ляжала куча

застылай вапны, вядро на баку і рыдлёўка са зламаным дзержаком, яшчэ рупіўся з кельмай тынкоўшчык пры вушаку – падмазваў, падшкрэбваў; але металічныя дзверы ўжо былі гатовыя, бясшумна адчыняліся, усярэдзіне прасторна, светла ад люмінесцэнтных лямпаў і чыста. Ірма ў накінутай на плечы цёплай хусце сустракала яго на ганку. Так цярплівыя латышскія рыбачкі ў шторм чакаюць на беразе мужоў з мора. Яна зірнула на яго і спалохалася.

– Што здарылася?

Літаў моўчкі прайшоў у гасцёўню, не здымаючы паліто, стомлена апусціўся ў крэсла; жонка – следам, таксама чамусьці забыўшы скінуць хусту з плячэй.

– Як дзеці? – спытаў Літаў.

– Быў Шнэйдар, сказаў, што здаровыя.

Доктар Шнэйдар, з даўно абеларушаных немцаў, за гэты час амаль што зрабіўся іх сямейным доктарам; ён прыходзіў ледзь не кожны дзень. Ці то з яго лёгкай рукі, ці таму, што дзецям падышоў клімат, але заўсёды хваравітыя дзяўчынкі нарэшце пачалі папраўляцца. Гэта была ці не галоўная прычына, чаму Літаў не хацеў з'язджаць адсюль.

– Ты на сябе не падобны. Што здарылася? Мы зноў пераязджаем?

– Не, – паспрабаваў усміхнуцца Літаў. Але нават шчылінка між зубоў не адкрылася. – Якраз наадварот.

– Я ведаю ўсе твае перапады настрою. Чым ты заклапочаны?

– Ну, слухай. Я хачу стварыць прыватнае выдавецтва. Ці фонд – як атрымаецца. З грантамі, ганарарамі, прэміямі, каб падтрымліваць беларускую культуру, гісторыю, літаратуру, незалежную кінематаграфію. Толькі не моладзь, яе ёсць каму падтрымліваць, а – сталых, у гадах творцаў, такім цяжэй за ўсё, яны паўзабытыя, у іх няма навізны імён, публіка ўжо мала чаго ад іх чакае, але мне здаецца, менавіта такія людзі – інтэлектуальны падмурак нацыі. Як табе?

– Цудоўна, – яна адвярнулася да вакна. – Толькі гэта няпраўда. Я ўсё адно не адстану, пакуль не скажаш.

– Ну, добра. Ёсць чалавек, якога я не люблю, нават баюся. Ён узяўся мяне апякаць і хоча рабіць гэта да канца жыцця. Ён так моцна трымае мяне ў абдымках, што рэбры трашчаць. Кантралюе ва ўсім мяне. Я залежу ад яго, я не ведаю волі, скаваны па руках і нагах, нічога не магу вырашыць сам.

– Не разумею, як ён цябе трымае?

– Грашыма. Я гэтаму чалавеку многім, ды можна сказаць – усім, абавязаны. А ён карыстаецца гэтым. На маё імя ў банку ляжыць сума, але разумееш, так атрымалася, такая схема, так хітра складзена дамова, што я абмежаваны ў дзеяннях, без яго ведама не магу ўзяць адтуль ні капейкі. Ён выдае мне крошкамі, цыркае дозамі ў залежнасці ад настрою.

– Ну і няхай. Дозы не такія і мізэрныя. Нам якая розніца?

– А такая, што ён – калі не хлусіць, вядома – можа эміграваць, нават папрасіць палітычнага прытулку. І калі ён гэта зробіць, усё замарозіцца, усе актывы і пасівы, і ўжо не толькі я, а і ён не будзе мець у банк доступу. І мы станем жабракамі.

– І што, ніяк не разблытаць?

– Ніяк! Я ўжо зламаў галаву, думаючы, так і сяк прыкідваючы, як гэты вузел разблытаць ці рассекчы адным махам. Зрэшты, ёсць адзін варыянт. Але настолькі малаверагодны, фантастычны, што я пра гэта і думаць не хачу.

– Я магу табе памагчы?

– Можаш. Калі дасі слова не задаваць лішніх пытанняў.

Пасля таго Літаў змяніўся. У яго пачаліся перапады настрою, знаёмыя Ірме яшчэ з Латвіі, якія і тады, і цяпер палохалі яе, – гэтыя рэзкія пераходы ад маўчання да балбатлівасці, ад лагоды да раздражнення. То ён з апушчанымі плячамі падоўгу стаяў каля вакна, барабаніў пальцамі па падаконніку і пасвістваў, паціраў гладкі лоб, глядзеў некуды ўдалячынь ці ўнутр самога сябе, а калі падыходзіла жонка, пазіраў на яе і не заўважаў, потым, спахапіўшыся, уздрыгваў, нібы злоўлены знянацку, апускаў вочы і задаваў недарэчныя пытанні, напрыклад: “Сёння ў нас якое? – пытаў і сам адказваў: – З раніцы дзевятнаццатае было”, або “Цяпер у нас студзень?”, або: “Цікава, колькі кіламетраў ад Кішынёва да Тэрэспаля?”, то станавіўся няўважлівым да таго, што блытаў імёны дачак – Эму называў Ірай і наадварот, то раздражнёна цадзіў Ірме праз зубы “адстань”, а праз хвіліну прасіў прабачэння, абдымаў, цалаваў. І па-ранейшаму многа валэндаўся са сваім бункерам: нешта ўсталёўваў, штосьці ўпарадкоўваў. Неяк раніцай, прыкладна праз месяц пасля Варшавы, Літаў, прыгорбіўшыся, сядзеў на канапе, скроліў у планшэце. Ірма па сваёй звычцы нячутна падышла ззаду. Раптам ён засмяяўся такім смехам, што ў яе мурашкі па спіне пабеглі: не разабраць, смех то быў, ці плач.

– Што? Што такое?

– Павіншуй мяне! – смяяўся Літаў. – І сябе заадно. Той чалавек, – паказаў на планшэт, – ён такі эміграваў! Папрасіў палітычнага прытулку. Але дзе! Ва Украіне!

– І што цяпер?

– Не ведаю. Нічога не ведаю! Хаця, – крыху астыў ён, – адзін плюс у гэтым ёсць. Як мінімум, нікуды не трэба пераязджаць.

– І што цяпер?

– Ты памятаеш, што абяцала? – сказаў ён і лёгенька націснуў ёй на кончык носа ўказальным пальцам. – Не задаваць лішніх пытанняў!

Тыдні праз два пасля гэтага ён сабраўся ў чарговую дзелавую паездку, ці, як сам называў на стары манер – у камандзіроўку, на Усходняе Палессе. Мясцовы бізнесмен, нейкі Вадзім Асавец, стварыў у мястэчку дрэваапрацоўчае прадпрыемства, невялікае, але якое атрымлівала стабільны прыбытак і ўжо другі год пастаўляла прадукцыю ў Еўропу, у прыватнасці, тэрасныя дошкі ў Англію і драўляныя дэкаратыўныя шырмы – у Германію. Акрамя таго аказвала лясгасу паслугі па распрацоўцы дзялянак, за што атрымлівала лес-кругляк. Вось гэтым лесам-кругляком і зацікавілася кампанія Літава. Усё было дамоўлена па тэлефоне, заставалася толькі з’ездзіць на месца, падпісаць паперы. Раней жонка, збіраючы і праводзячы мужа ў дарогу, заўсёды казала: “Няўжо больш няма каму ехаць, ужо ж не малады, можна і ў офісе пасядзець”, а ён з усмешкай адказваў: “Ды я сам напрошваюся, такая магчымасць пабачыць новыя мясціны, не ўяўляеш, як гэта цікава”. Цяпер Ірма нічога ўжо не пытала. Перад паездкай Літаў уважліва вывучыў па гугл-карце геаграфічнае размяшчэнне мястэчка. Блізкасць да мяжы з Украінай, лясістая мясцовасць, зліццё дзвюх рэчак, Жэлоні і Славечна, ды і да Прыпяці, шырокай і глыбокай у гэтым месцы – перад упаданнем у Дняпро, недалёка. Ён застаўся вельмі задаволены.

Ехаць было каля 5 гадзін. Стаяў пахмурны зімовы дзень. За акном

пралятали белыя палі, шэра-белыя аднолькавыя плоцікі, праносіліся невялікія населеныя пункты, а вакол такіх гарадоў, як Бабруйск, Калінкавічы, Мазыр былі аб'язныя. Камбінат размяшчаўся на ўездзе ў мястэчка, побач з аўтатрасай, на занесеным снегам полі. Гаспадар камбіната чакаў Літава каля варот. Літаў за сваё жыццё нямала нагледзеўся гэтых тартакоў, лесапільняў, дрэваапрацоўчых фабрык і камбінатаў, а таксама іх заўсёды заклапочаных, дзелавых, як правіла адзетых па-простаму, у зашмальцаваныя рабочыя спяцоўкі ці ў што пад руку гаспадароў, таму быў прыемна здзіўлены ўжо адным толькі знешнім выглядам гэтага Асаўца: скураная кароткая куртка, блакітныя вузкія джынсы; дужы, высокага росту, падцягнуты – такую выпраўку толькі доўгае нашэнне формы дае. Нечым гэты Асавец нават знешне нагадваў яго маскоўскага брата. Спакойны, без эмоцый твар, роўны, бубнявы, без інтанацый голас. І яшчэ дэталь – у яго, як у вужа, не міргалі вочы. Сур'ёзны; калі Літаў паспрабаваў пажартаваць, як часта ў такіх месцах рабіў: "Ну што, лес сякуць – грошы цякуць?", Асавец паглядзеў на яго сваім немігаючым позіркам і адказаў строга:

– Яшчэ ў дзевятнаццатым стагоддзі папярэджвалі мудрыя людзі: беражыце лясы. Не будзе лясоў – усё загіне, без катастроф і войнаў.

– Вы філосаф.

– Лес сам па сабе нараджае філосафаў – ад амерыканца Тора да англічаніна Круза, ці не так?

– Парадаксальны вы чалавек. З аднаго боку самі ўдзельнічаеце, з другога – шкадуеце.

– Я сябе ніколькі не апраўдваю. Але раз ужо такая масавая высечка, дык лепш я, чым хто чужы, праўда? Калі ж вы маеце на ўвазе камбінат, – паказаў Асавец рукою, – у мяне ўсё законна. Дакументы ў парадку. Я даю працу дзясяткам мясцовых людзей.

Пайшлі аглядаць гаспадарку; цэхі, рамонтныя майстэрні; гудзенне станкоў і піларамы, пах свежай драўніны, кучы жоўтай тырсы і белых стружак на снезе.

– Тут стаяў закінуты будынак, без вокан і без даху, – манатонна, як станок, гудзеў Асавец, – адна сцяна нават развалілася, трэба было ўсё гэта аднавіць, горы смецця прыбраць, вадаём засыпаць. А цяпер – самі бачыце. У нас ні адна трэсачка не выкідваецца. Закупілі дзялянку, спілавалі, стралявалі, прывезлі, высушылі, пастругалі – і вось табе профільны брус, спрапілы-балкі, блокхаўс, вагонка, тэрасныя дошкі і дошкі на падлогу, вы згодныя?

Асабліва ўпіраў Асавец на тое, што ў яго поўны цыкл, глыбокая перапрацоўка – "пачынаючы з таго, што мы паехалі ў лес, і канчаючы тым, што прадалі гатовую прадукцыю". Літаў заўважыў, што рабочыя на гэтым камбінаце нейкія дзіўныя: нейкія надта ўсе арганізаваныя, дружныя, як бы ўсе з адной сям'і, ціхія, ніхто не перакурвае.

– А гэта адэпты мясцовай баптысцкай царквы, – сказаў Асавец. – У мяне працуе прэсвітар, ён і падцягнуў сваіх. Я задаволены. Не спазняюцца, ніхто нічога не возьме сам, заўсёды папытаюць дазволу, ці не так? Трэба, каб у чалавека быў фундамент, каб ён у штосьці верыў. Чалавек без веры – як без стрыжня, яго пахіліць куды хочаш. Ён ідзе на працу, а яго запрасілі ў краму – ён пайшоў туды, ці не так?

Чым больш слухаў яго Літаў, тым больш весялеў. Ён ужо разумеў,

хто перад ім – класічны, ідэальны зануда. Гэтая сур'ёзнасць, шчырасць, прыстойнасць, старамоднае праўдалюбства, гэтая запаволенасць рухаў, бубненне, канцылярская будова сказаў, гэтая звычка пад любую тэму падводзіць філасофскі ці, лепш сказаць, псеўдафіласофскі базіс, на любое, нават самае нязначнае пытанне даваць грунтоўны, разгорнуты, поўны адказ; гэтае частае перапытванне: “правільна? вы згодныя? ці не так?” – і зноў само сабою напрошвалася параўнанне з маскоўскім братам, прычым цяпер Літаў пераконваўся, што падобныя яны не толькі знешне, а і характарамі, з тою, праўда, розніцай, што ў Асаўца абсалютна адсутнічала пачуццё гумару, як чамусьці ва ўсіх гэтых дамарослых філосафаў.

Заглянулі ў дамок вартаўніка, складзены з бярвення – такімі захапляюцца ў інтэрнэт-супольнасцях аматары адзінокага адпачынку сярод дзікай прыроды. Усярэдзіне спальнае месца, тэлевізар, мікрахвалевая печ, электрачайнік.

– Інтэрнэт нават ёсць. Толькі слабы трафік, сувязь прападае. Нават мабільны не заўсёды ловіць у гэтых балацянках, – як бы пахваліўся Асавец. – А мо таму, што мяжа побач.

– Вы так лічыце?

– Не магу сцвярджаць, але дапускаю. Са мной падобнае было, і не раз. Неўзабаве такія ў продаж пусцім, – вярнуўся ён да доміка. – Тут нядаўна прыязджалі з Англіі, першай справай глядзелі бытоўкі. Іх цікавіць, дзе рабочыя абедаюць, пераапранаюцца, а потым ужо – вырабы. Калі не спадабаецца побыт, яны нічога не купяць, праўда ж?

– Дык то англічане, – сказаў Літаў. – Што да мяне, прызнаюся шчыра: самае нецікавае – дрэваапрацоўка. Не люблю гэтага шуму, паху; не кажу ўжо пра дзялянкі з харвестарамі і фарвардэрамі; нейкая няёмкасць у такіх месцах. Нібы ты сведка забойства, – дадаў ён, заўважыўшы, што размова пра экалогію закранае нейкую струну ў Асаўцы. – Увогуле не люблю, калі нешта памірае, хай сабе і маўклівыя дрэвы.

– Трэба ўлічваць, што ў свеце поўна сапраўдных забойстваў – чалавека чалавекам. Да таго ж няма вялікай розніцы, што рабіць з мёртвым целам пасля таго, як адбылося забойства, ці не так? А тут, – паказаў Асавец на заснежанае поле, – хачу сквер пасадзіць.

– Скажыце, а як вам дазваляюць? Каля самай мяжы? – спытаў Літаў. Яму не цярпелася хутчэй перайсці да таго, што яго цікавіла, і ён толькі вычэкваў зручнага моманту.

– Дык а мяжы па сутнасці яшчэ няма. Пакуль яна ўмоўная. Апошнім часам, праўда, пачалі прыбіваць дрот да дрэваў пасярод лесу, і то не калючы, а гладкі.

– Што вы кажаце!

– Гэта не хуткая справа. Гадоў на дзесяць яшчэ працы. Мясціны цяжкапраходныя, вялізныя плошчы густога лесу, балот, разгалінаваная сетка меліяратыўных каналаў, плюс больш за сто кіламетраў па Чарнобыльскай зоне...

– І што, вось так лёгка можна прайсці?

– Прайсці, – гмыкнуў Асавец. – Мяжа – гэта не палоска на геаграфічнай карце. Ёсць жаданне – можна і танк працягнуць.

– Вы хочаце сказаць, можна знайсці чалавека, які зматаўся б, напрыклад, у Кіеў на гадзіну, і вярнуўся назад?

– Дык так і робіцца. Раней украінцы хадзілі да нас па грыбы, па ягады,

мы да іх па цукеркі, а цяпер з двух бакоў цягаюць мяса, сала, цыгарэты, паліва, аграхімію. Мясцовы бізнес, ці не так?

– Скажыце, а як знайсці такіх лазутчыкаў? – спытаў Літаў. – Пазнаёміцца, пагаварыць з імі. Ніколі не бачыў прафесійных кантрабандыстаў. Мне гэта трэба для маёй працы. Я не сказаў, хай вас не дзівіць... Я пішу навукова-гістарычную працу і вось, збіраю матэрыял.

Упершыню ў немігаючых вачах Асаўца праявілася хоць нейкая эмоцыя, прынамсі цікавасць.

– Вы – творчы чалавек, – ці то спытаў, ці то канстатаваў ён.

Літаў схіліў галаву ў знак згоды. “Зараз пачне расказваць сваю біяграфію, а скончыцца тым, што папросіць напісаць кнігу пра лясную прамысловасць”, – падумаў ён. Але Асавец больш да гэтай тэмы не вяртаўся. Нарэшце тартак быў збольшага агледжаны. Паехалі ў цэнтр мястэчка, у офіс лясгаса, які размяшчаўся ў пяціпавярховым будынку, адзіным такім высокім на плошчы. Ён быў кшталту мурашніка ці вулея. Шыльды сведчылі, што тут ёсць усё тое самае, як і ў вялікіх гарадах (так дзеці імкнуцца быць падобнымі на дарослых): гандлёвы цэнтр, рэстаран і кавярня-бар, аптэка і оптыка, цырульня і стаматалогія, рэдакцыя раёнкі, банк; з тарца адзін ганак вёў адразу ў дзве ўстановы – у аддзяленне пошты і аддзяленне міліцыі. Побач, пад таўсценным, як баабаб, дрэвам незразумелай пароды, з абрэзанымі галінамі стаяў газетны кіёск і банкамат, далей за імі – будынак аўтастанцыі з паўкруглымі акенцамі касаў. На ідэальна круглай плошчы з Леніным у цэнтры ляпіліся адна каля адной штук дзесяць фур, з беларускімі, рускімі, украінскімі і еўрасаюзаўскімі нумарамі.

– Жвавае мястэчка, – азіраючыся, сказаў Літаў.

– Міжнародная аўтатраса. І чыгунка побач. Да Оўруча рукой падаць, і да Кіева гадзіна язды. Я тут стаянку планую зрабіць для фур, а ў праекце – пункт адпачынку для дальнабойшчыкаў; будзе пакойчык, душ, так жа?

У лясгасе хутка аформілі, узгаднілі, падпісалі патрэбныя паперы, выйшлі зноў на плошчу. Літаў з намёкам паказаў на вывеску рэстаранчыка, толькі цяпер звярнуўшы ўвагу на назву: “Раздолье”.

– Няўжо сапраўды рэстаран?

– І вельмі някепскі.

– Зойдзем?

– Не атрымаецца, рамонт; працуе толькі бар. Вы не крыўдуйце, – сказаў Асавец, калі заходзілі ў бар, – што да сябе не запрашаю. Мой дом – мая халасцяцкая крэпасць. Я аскет, нічога лішняга, а вы, відаць, любіце раскошу.

– З чаго вы ўзялі?

– Машына ў вас дарагая, а водзіце вы нядбайна, не шкадуеце яе, з чаго выснова: калі разаб’ецца – не праблема купіць новую.

Сімпатычны правінцыйны бар, чысценькі. Селі на высокія крэслы, адкінуліся на спінкі. Літаў не мог не заўважыць, што Асавец пачуваецца тут як дома; і на самой справе, дзе ж яму, халасцяку, харчавацца. Заказалі кавы, Літаў акрамя таго яшчэ мясцовых круасанаў і заварны эклер. Пакуль ён прагна набіваў рот духмяным круасанам, спечаным на тлустым сялянскім масле, Асавец перайшоў-такі да аповеду пра сябе. У яго была звычка, калі ён задумваўся, забіраць падбародак у кулак і глядзець сваім німіргаючым позіркам некуды ў прастору. Сам ён з Мінска. Кватэра там. Раней прыязджаў сюды толькі на лета, займаўся рыбалкай і паляваннем, а потым зусім пераехаў, купіў домік з садзікам.

– У горадзе стала цесна – горад мяне як бы сціскае, люблю прыроду, свабоду, праўда?

Распачаў сваю справу каля пяці гадоў назад. Побач з домікам быў участак, недзе 45 сотак, ён яго “аформіў для вытворчых патрэб”, правёў сілавую электралінію, зрабіў дакументы па экалогіі...

– Напачатку мясцовыя скептычна ставіліся да маіх намераў, – цягнуў, нібы жаваў мачалку, Асавец, і ў Літава было адчуванне, што яму ўголас чытаюць раённую газету ці перакладныя навіны на БТ. – Аднак я заняўся тэхнічным абсталяваннем цэха. Па першым часе ніякай аддачы, толькі страты, жыў на адну пенсію...

– Як пенсію? – усклікнуў Літаў.

– Пенсію адстаўніка. Яе можна атрымліваць ужо ў сорак пяць. Да пачатку свайго шляху ў бізнес я пятнаццаць гадоў працаваў у праваахоўчых структурах, прасцей – у міліцыі, цяпер – на заслужаным адпачынку.

– А выглядаеце маладзей за мяне.

– І гэта пры тым, што магу выпіць і закурыць, – сціпла пахваліўся Асавец, – пры тым (ён загнуў палец), што многа хаджу і не стамляюся (загнуў другі), высочваю браканьераў у лесе і на вадзе, не дапускаю незаконныя высечкі, абшнырыў тут усе куткі і закатулкі, ведаю кожную сцежку.

– Вы шчаслівы чалавек.

– Я – чалавек цвёрдых прынцыпаў. Прынцыпы, я лічу, самае галоўнае ў жыцці. У мяне абвостранае пачуццё справядлівасці. Кім і дзе я толькі ні быў: у РУУС, у МНС, у дэпартаменце аховы, – нудна, пунктуальна, то загінаючы пальцы, то растапырваючы іх і пагладжваючы сябе па калене, расказваў Асавец, – і пераканаўся, што нідзе не любяць прынцыповых. Такі я ўжо ўрадзіўся. Люблю парадак, не выношу хлусні, праз гэта цярплю ўсё жыццё, з тае ж прычыны пацярпеў няўдачу на сямейным фронце...

– Скажыце, – перабіў Літаў, – адно гэта? Толькі з-за бізнесу і з-за чароўнай прыроды вы сюды перабраліся?

– Не, не толькі.

– Каханне? – гулліва спытаў Літаў і нават запанібрата падміргнуў бабылю, але той застаўся сур’ёзны.

– Угадалі, – сказаў ён. – Нягожа чалавеку аднаму векаваць. Надакучыла неўладкаванасць, пацягнула да сямейнай утульнасці. Ёсць у мяне на прыкмеце мая будучая другая палавінка, мясцовая ўдава, нягоднік муж кінуў яе з маленькай дачкой. Працуе ў раённай газеце тэхрэдам. Так атрымалася, што як толькі я ўбачыў яе...

– Прыгожая?

– Не тое слова. Прыгожая, разумная, сціплая, такіх цяпер няма. Прынамсі, у Мінску не сустрэнеш. Вось чакаем, пакуль яе дачка скончыць школу, і тады афіцыйна аформім наш шлюбны саюз.

Пасля ўтульнага святла, прыемных пахаў і гукаў кавярні плошча падалася непрыветнай, пахмурнай, туманнай; з нізкага неба церушыўся нейкі ні снег, ні дождж, на тратуары ўжо стаялі калюжыны, а на газоне ўзбоч тратуара ўвачавідкі асядаў рыхлы брудны снег. Асавец закурыў; дым ад цыгарэты не развеяўся ў паветры, а застыў над ім, як воблачка ці німб. Рэдкія людзі раскрывалі парасоны. Два хлопчыкі, абыякавыя да непагадзі і да ўсяго на свеце, з вялікімі, як гарбы, заплечнікамі прайшлі, стуліўшыся галовамі, на хаду гледзячы ў адзін смартфон; але трэці – іхні таварыш, які затрымаўся каля газетнага кіёска і цяпер даганяў іх, будучы паэт, аббег

плошчу вачыма і нібы зрабіў імгненны здымак, які назаўсёды адаб'ецца ў памяці: гэтая плошча ў тумане, тоўстае скалечанае дрэва, дальнабойныя фуры, джып і двое мужчын каля яго. Літаў ужо развітаўся, сеў у машыну, як раптам, нібы ўспомніўшы нешта, вярнуўся і спытаў, ці не паможа яму Асавец падшукаць востраў не востраў, а па магчымасці больш-менш непралазны куток, пажадана акружаны вадой.

– Разумею, цяпер такое цяжка знайсці, але раптам? Вы паляўнічы, рыбак, ведаеце ўсё наваколле. І душа ў вас баліць за экалогію, – уставіў Літаў. – Можна гэта?

– Усё можна ў межах чалавечага жыцця. Ёсць мясціны, амаль некранутыя цывілізацыяй. Праўда, цяпер зіма самі бачыце якая – цёплая, нікуды не ўлезеш. Але вам, я так разумею, не гарыць? Можна вясной?

Літаў адказаў, што нават летам, не гарыць, тым больш, яму трэба час, каб вырашыць адну важнейшую справу, а потым яшчэ знайсці патрэбных людзей.

– Вы падбіраеце для нечага людзей, – зноў ці то спытаў, ці то сцвердзіў Асавец, скіраваўшы Літаву ў жывот указальны палец.

– Творчых людзей, – мякка ўдакладніў Літаў. – І не за бясплатна. І вам я ў сваю чаргу аддзячу. Магу я вам чым памагчы?

Асавец асцярожна патрэскаў у далонь сухім кашлем курыльшчыка.

– Яшчэ як можаце. Вы менавіта той, хто мне трэба. У мяне да вас таксама просьба ці, хутчэй, прапанова. Упэўнены – вас як чалавека творчага павінна гэта зацікавіць.

“Каб напісаў кнігу пра лясную прамысловасць”, – у думках дагаварыў за яго Літаў. А ўголас паабяцаў:

– Зраблю ўсё, што ў маіх сілах.

На развітанне ён узяў з Асаўца слова, што той улетку абавязкова пабывае ў яго ў гасцях.

– Пагаворым, пап'ем гарбаты на тэрасе, доўга, па-маскоўску, упрыкуску. Пазнаёміцеся з творчымі людзьмі. Я бачу, вы сам чалавек творчы.

– З задавальненнем прымаю вашу прапанову, – на сваёй казённа-драўлянай мове адказаў Асавец. – Сяброў у мяне мала, пагаварыць асабліва няма з кім, акрамя маёй будучай другой палавінкі. Мяне чамусьці лічаць чалавекам занудным, нецікавым. Хаця я – вы не памыліліся – не чужы творчасці, з дзяцінства люблю чытаць, толькі ніколі не запамінаю аўтараў, ці не так?

## X

З гэтай паездкі, у адрозненне ад варшаўскай, Літаў вярнуўся зусім іншым. Зноў Ірма бачыла перад сабой ранейшага мужа: жвавага, радаснага, поўнага планаў.

– З якім чалавекам пазнаёміўся, – захоплена расказваў ён. – Лясны прадпрымальнік, адначасова эколаг і філосаф. Мяне заўсёды цікавіла, чаму калі разумны, прыстойны чалавек робіць нейкі для масаў незразумелы ўчынак, напрыклад, кідае горад і перабіраецца бліжэй да прыроды, ці, скажам, працуе над кнігай па гісторыі – яго ў лепшым выпадку аб'яўляюць дзіваком. А мясціны там! некранутыя! дзікія! нават сувязь не паўсюль ловіць.

З канца студзеня жыццё Літава пайшло ў паскораным рытме. З яшчэ

большым імпэтам ён узнавіў свае пошукі “патрэбных”, як казаў, людзей, яшчэ раз ездзіў у мястэчка, заадно пабываў у Ельску, у Мазыры і ў Нароўлі, але больш не пасвячаў Ірму ў свае планы і ні словам не абмовіўся пра мэту гэтых паездак, у лепшым выпадку аджартоўваўся ці нагадваў: “ты дала слова не пытаць”, а часцей проста буркаў: “я працую” – нават калі проста ляжаў на канапе, ногі на валіку. Затое пачаў збліжацца з тым жа доктарам Шнэйдарам. Дзяўчынкі былі ўжо здаровыя, але доктар па-ранейшаму наведваўся, яму плацілі за гэта – “так у мяне спакайней на душы”, – казаў Літаў. Яны падоўгу сядзелі ў Літава ў кабінеце або прагульваліся ўніз да альтанкі і назад. Доктар, вялікі, непаваротлівы чалавек, больш слухаў, чым гаварыў, нагнуўшы лабастую галаву, счапіўшы на жываце дужыя белыя рукі, якія рэзалі на аперацыйнам стале ракавыя пухліны з такой жа абыякавасцю, як селянін лусты хлеба ад каравая на стале абедзеным. І сваім праставатым тварам ён быў падобны да звычайнага беларускага вясковага дзядзьку, які ў будні многа працуе, а ў святы многа выпівае; з той, праўда, розніцай, што доктар ні кроплі не браў спіртнога, целам быў вегетарыянец, а душою – наіўнае дзіця. Ён умудрыўся пражыць шэсцьдзясят гадоў і не запэцкацца. У дзевяностыя з сям’ёй з’ехаў у Германію, у нулявых таксама з сям’ёй вярнуўся, яго прынялі і далі месца ў ваенным шпіталі. Літаў усё распытваў, як яму жылося за мяжою і чаму ён вярнуўся.

– Мала што магу ўспомніць, – адказваў доктар. – Пражыў дзесяць гадоў і Германіі практычна не бачыў. Мы жылі ў сваім анклаве, эсэсэраўскія немцы: узбекскія, казахскія, арэнбургскія, у асноўным рускамоўныя. Памятаю, неяк у аўтобусе захацеў саступіць месца цяжарнай жанчыне і паплаціўся за гэта – сэксізм: “чым я горшая за цябе?” Там з гэтым строга. А чаму вярнуўся? Быў адзін выпадак, які стаў апошняй кропляю. Да суседзяў, казахскіх немцаў, прыехала на аздараўленне дзяўчынка з Беларусі. Яны жылі ў сваім доме, а мы побач, праз цагляны плот, у звычайнай кватэры ў пяціпавярховіку. Вяртаючыся з працы, часта бачыў гэтую дзяўчынку, усё збіраўся загаварыць, ды боязна было, там наконт гэтага строга. А неяк пабачыў, што ў яе заплаканыя вочы... і такое нахлынула! Мы, немцы, сентыментальныя. Сабраў манаткі – і дамоў. Вось так, – закончыў Шнэйдар. – Не шукай ты шчасця-долі на чужым далёкім полі, як пісаў наш вялікі Купала.

Літаву яшчэ хацелася многае ў яго распытаць. Але, пазіраючы ў нявінныя вочы доктара, яму рабілася сорамна, усё адно як бы ён пачаў уцягваць у свае аферы сваіх маленькіх дачок. І Літаў пытаў іншае:

– Скажыце, вось, дапусцім, чалавек эміграваў, папрасіў палітычнага прытулку. Ён можа быць спакойны за сваё жыццё? Іх ахоўваюць, такіх людзей?

– Па-мойму, ніхто там нікога не ахоўвае, – адказаў доктар. – Кожны сам па сабе і любому на любога начхаць.

У пачатку лютага ў Літава з’явіўся яшчэ знаёмы, стары Самусенка, якога ён прывёз да сябе, вадзіў у бункер, карміў абедам, знаёміў з Ірмаю, а на другі дзень казаў ёй: “Ты, дарагая, не ўяўляеш, што за цікавы чалавек! Як ведае мову, разбіраецца ў літаратуры! Вельмі, вельмі патрэбны чалавек”, – і не стрымаўся, каб не ўпікнуць жонку за тое, што так раптоўна выйшла з-за стала:

– Што здарылася з табою?

– Я не змагла... Я баюся такіх размоў, не магу больш слухаць пра гэтыя смерці, злачынствы, дуэлі. Апошнім часам ты так змяніўся! Стаў скрытны, нешта абдумваеш, хаваеш ад мяне! – казала Ірма ледзь не з адчаем у голасе. – Што адбываецца?!

– Ты абяцала не задаваць лішніх пытанняў.

– Як іх не задаваць, калі ў мяне адчуванне, што ідзе падрыхтоўка да нечага? Мне здаецца, ты задумаў нядобрае, і мне страшна ад гэтага. Ты перастаў казаць праўду. Прызнайся – ты мяне больш не кахаеш? У цябе нехта ёсць?

– Глупства.

– І гэты бункер – нашто ён табе?

– Ты выдатна ведаеш. Я там працую. Гэта мой кабінет, там сейф і некаторыя важныя дакументы. Там няма перапіскі з палюбоўніцамі... ды цяпер і не пішуць іх на паперы.

– Я табе не веру.

– Калі ласка, зайдзі сама ў любы час і пераканайся. Я нічога не хаваю. І прашу цябе – выкінь усё нядобрае з галавы! Нядобрых сакрэтаў у мяне няма, а пра добрыя неўзабаве даведаешся.

– Калі?

– Ад мяне не залежыць. Можа, вясной, можа, улетку.

А ў пачатку сакавіка зноў хваліўся жонцы:

– Яшчэ з цікавым чалавекам пазнаёміўся. Паэт Віктар Рак. Чула?

– Не.

– Учора быў у яго. Вельмі, вельмі цікавы і патрэбны чалавек. А дзіўны! Не верыцца, што такія яшчэ захаваліся. Старамодны рамантык, жэтон на метро захоўвае як памяць пра каханую дзяўчыну. Не могуць гэтыя паэты без сваіх выкрунтасаў.

– Але для чаго ты іх усіх збіраеш? Ты нібы калекцыянуеш іх!

– Так і ёсць, – з усмешкай адказваў Літаў. – Усе яны мне спатрэбяцца.

– Тое самае было ў Латвіі!

– Абсалютна правільна. Толькі там не атрымалася, а тут атрымаецца.

У апошні дзень сакавіка, з раніцы, Літаў не знаходзіў сабе месца. Схадзіў у бункер, яшчэ раз праверыў, як з ціхім чмокам, шчыльна, надзейна зачыняюцца за ім дзверы, потым сноўдаўся па доме. У дзіцячым пакоі дочкі нагуляліся ў пячору і ў першабытных людзей, цяпер старэйшая ляжала на жываце, падняўшы ногі, каля аранжавай палатачкі з адкінутым полагам, побач з кучай рассыпаных каляровых алоўкаў, і малявала, а ў палатцы меншая засяроджана калупалася ў бацькавым планшэтніку. Літаў забраў яго, пайшоў на кухню і пачаў праглядаць навіны. І раптам у яго зноў вырваўся той самы здушаны ўскрык, які не так даўно напалохаў Ірму, – смех то быў ці плач, страх ці радасць, не зразумець. Ён кінуў на мяккую канапу планшэтнік, падышоў да вакна і шырока расчыніў створкі. У пакой хлынула пахамі і гукамі вясна. Праз сіняе неба прабівалася сонца, заглядвала ў вокны. Вербы каля сажалкі былі ў зялёным вэлюме і з жоўтымі коцікамі. Сама свабода, само жыццё разам з гэтай вясною ўварваліся ў пакой. Літаў не бачыў, што жонка, пачуўшы яго ўскрык, увайшла, пастаяла ззаду і ціха выйшла, шчыльна прычыніўшы за сабою дзверы.

## Частка чацвёртая

## АСАВЕЦ

### XI

За чатыры няпоўныя месяцы, з канца сакавіка па сярэдзіну ліпеня, Літаў пачаў імкліва аддаляцца ад жонкі. Ён пазбягаў яе і ўжо нават іранічным тонам не загаворваў з ёю – зусім нічога не расказваў, не тлумачыў, не дзяліўся. Ён нібы злаваў на яе, ці больш на сябе, за тую хвіліну залішняй шчырасці. Некалькі разоў тэлефанаваў Асавец; спачатку паведаміў, што не знаходзіць патрэбнага месца, потым – што пачаліся дажджы і ў балацяністую твань не ўлезеш, потым – што нечакана ўзяліся за ўмацаванне мяжы, на некаторых участках начаплялі відэакамер, робяць ледзь не “жалезную заслону”, і ці не задаволіць Літава іншае месца, падалей ад мяжы, тады ён падшукае. “Мяжа мяне больш не цікавіць!” – нецярпліва адказваў Літаў. Сваю гістарычную кнігу ён сяк-так скончыў, і цяпер трэба было думаць, што з ёю рабіць. Ён хацеў правесці раут, ці фуршэт, словам, нешта кшталту творчай вечарыны, як ён казаў – прэлюдыю прэзентацыі, на якую планавалася сабраць разам усіх “патрэбных людзей” – сваіх новых знаёмцаў, у тым ліку і Асаўца.

Часу яшчэ хапала, вечарына была прызначана на нядзелю 19 ліпеня, але Літаў задоўга пачаў насіцца з ёю, падбіраў меню, нават выглядаў на розных сайтах, якое будзе надвор’е, каб ведаць, на прыродзе збірацца ці ў памяшканні. Калі ж шчыра, ён, пакуль пісаў, астыў да гістарычнай тэмы, яна надакучыла яму як горкая рэдзька, і цяпер ён быў апантаны зусім новай задумкай. Літаральна за дзень да раута пазваніў Асавец, паведаміў нарэшце, што “ўсё гатова, падсохла, умовы ідэальныя, – суха, добра”.

– Заўтра ж выязджаю!

– Заадно паможаце мне вырашыць абяцаную справу, – нагадаў Асавец, – ці не так?

Назаўтра, у пятніцу раніцай 17 ліпеня 2017 года, Літаў стаяў пасярод кабінета на другім паверсе, аглядваў стол, шуфляды, бегаў позіркам па кутках – ці не забыў чаго; тут увайшла Ірма. Яна зайшла ў кабінет бледная, рашучая. Русая грыўка спадала на лоб. Тонкія вусны падціснуты.

– Я прашу, не едзь. У мяне вельмі нядобрыя прадчуванні!

– Як ты не разумееш, – непрыветна адказаў ён. – Я так чакаў гэтага дня. Трэба, трэба ехаць. Мы дамовіліся. Ну, Ірма.

– Гэта дабром не скончыцца. Я прашу, давай, пакуль не позна, з’едзем адсюль!

– Яшчэ што. Цяпер лягчэй ісці наперад, чым вяртацца. Ну, Ірма, вазьмі сябе ў рукі. Гэтыя дні табе трэба быць у форме. У нядзелю раут, госці.

– Прабач, я давала слова не пытаць ні аб чым. Але скажы: што з тым тваім злым геніем? З чалавекам, які эміграваў?

– Сто разоў казаў – забудзься на яго. Лічы, што яго не было ніколі.

– Ты замешаны ў гэтым?

– Не кажы глупства.

– Не бойся, я не вораг табе, а саюзніца.

Ён схапіўся за галаву:

– У чым саюзніца? Гэтага толькі не хапала. Як я шкадую, што сказаў!

– Кажу ж, не бойся, – паўтарыла яна. – Я буду маўчаць, і ні адна жывая душа....

– Так я і ведаў, што гэтым скончыцца! Яшчэ б ты не маўчала! Ды цяперашнім часам не трэба ні фактаў, ні доказаў, дастаткова паказаць на чалавека пальцам, і яго віна ўяўная ператворыцца ў рэальную!

Яна здзьмухнула грыўку з вачэй.

– А магу і сказаць. Калі ты не зменішся. Калі не перастанеш гаварыць загадкамі і хаваць ад мяне нешта.

– Гэта... шантаж?

– Ты проста не пакідаеш мне выбару.

– Ірма, апошні раз прашу – забудзь! – яго голас і яго кінуты з-пад ілба пагляд нічога добрага не абяцалі. – Інакш можа здарыцца...

– Што?

– Нічога, – і выйшаў, амаль выбег, не развітаўшыся, не пацалаваўшы, не сказаўшы свайго звычайнага “на сувязі”. Варта было яму выйсці, як плечы ў Ірмы апусціліся. У зялёных, колеру балтыйскай хвалі вачах з’явілася адчайная рашучасць чалавека, загнанага ў кут. “Далібог, я зраблю гэта”, – прашаптала яна, сціскаючы ў руцэ смартфон.

А Літаў хуткім крокам збег з ганка. Было без чвэрці восем раніцы. Лісты і трава блішчэлі расой на сонцы. Усё пахла, квітнела, шчабятала, радавалася жыццю. Ён пастаяў пасярод двара, каб супакоіцца, прыйсці ў сябе. Агледзець яшчэ раз сваю сядзібу. Заўсёды памагала такое сузіранне. Цяпер усё гэта яго, ніхто не адбярэ, не скране з месца. Белы дом пад зялёным дахам, па самыя вокны абвіты плюшчам і жаночым драбналістым вінаградам; двор – усе гэтыя альпійскія горачкі, клумбы, курціны (у думках ён пахваліў густ фларысткі, якую запрашала жонка раз на тыдзень), кветнікі з ружамі – звычайнымі садовымі, а таксама чайнымі і дзікімі, падобнымі да шыпшыны, з садовымі рамонкамі, з дэкаратыўнымі нізкарослымі жоўтымі з чорнай сярэдзінкай сланечнікамі, асобна кусты з бела-зялёнымі шарамі гартэнзій, крыху ніжэй, паўз дарожку да басейна – агрэст, сімвал мяшчанства, ён сам пасадзіў некалькі калючых кустоў і цяпер кожную раніцу хадзіў глядзець, як наліваюцца сокам паласатыя, бы вялікія каларадскія жукі, ягады; яшчэ ніжэй – карлікавыя вішні, ростам з чалавека, а пладоў, якія памерамі і смакам больш нагадвалі чарэшні, чым вішні, збіралі з кожнага дрэўца па два вядры; далей – зялёны падстрыжаны газон, за якім сіне-бірузовая авальная пляма басейна, зялёныя шаты вербаў каля сажалкі. І толькі аддалены ўчастак саду, з каравымі яблынямі, быў запушчаны, дзікі, зарослы травой па пояс. Яго па загадзе Літава знарок не чапаў садоўнік, каб даць усяму волю расці як хочацца. Ногі самі панеслі Літава туды. Нават дарожку да бункера цяжка было разгледзець сярод бур’яну.

У ніжняй частцы двара, гаспадарчай, дзе гараж і выезд з варотаў, блішчэў на сонцы вымыты джып. Шафёр, малады, дужы, у майцы, коратка падстрыжаны, з загарэлай шыяй і нават патыліцай, курыў, адышоўшы да агароджы, убок пускаючы дым, і нават рукой яго адганяў, бы адмахваўся ад камароў, разумеючы, што псуе гэтым дымам такі свежы ранак. Літаў падышоў да яго. Чакалі яшчэ аднаго пасажыра, доктаравага сына Хрысціяна Шнэйдара, які, даведаўшыся ад бацькі пра паездку Літава, папрасіў падвезці да Парычаў, як ён растлумачыў, “паром пафоткаць”. Гэты Хрысціян, фатограф, фрылансер, калумніст, прадстаўнік моладзевага

нацыянальна-патрыятычнага руху меў за плячыма ўжо дваццаць гадоў, але, як усе цяперашнія маладыя, быў да смешнага інфантыльны. Літаў сышоўся з ім яшчэ зімой. Пару разоў яны разам хадзілі на літаратурныя "імпрэзы", дзе Літаву вельмі спадабалася. Ён зразумеў, што дарэмна так ужо камплексуе наконт свайго няведання мовы. Маладыя тутэйшыя беларусы ведалі яе прыкладна на тым жа ўзроўні, што і ён, немалады ўраджэнец Цэнтральнай Расіі, з той толькі розніцай, што ніхто асабліва гэтым не замарочваўся. Размаўлялі яны па такім самым, як і ён, прынцыпе: механічная замена рускага слова на беларускае, а калі яны па гучанні супадалі, слова проста ламалася націскам – не доўгі, а даўгі, не коратка, а каротка. Літаў, наслухаўшыся, нават пачаў сумнявацца: можа, гэта ён гаворыць правільна, а яго рэдактары-настаўнікі, Рак з Самусенкам, памыляюцца? Не можа ж быць, каб усе ішлі не ў нагу, а два чалавекі – у нагу. На гэта Самусенка яму адказаў, што мала мець у галаве гугл-транслейт, трэба адчуваць прыродныя законы мовы, паводле якіх яна існуе, і тады яна зможа развівацца нават аўтаномна, незалежна ад таго, гаворыць на ёй чарка-шкварачнае насельніцтва, ці не. Літаў вырашыў адкласці разборку гэтых філалагічных тонкасцяў на потым.

Хрысціян з'явіўся па-нямецку дакладна, секунда ў секунду без пяці восем, у шортах, кедах, у чорнай майцы з чырвонай "Пагоняй"; па знешнасці класічны сын сваёй нацыі: цыбаты, руды, кірпаты, залаціста-кучаравы, з рассыпаным па скулах і па носе рабаціннем. Роўна ў восем выскачылі з горада. Шафёр, ведаючы што Літаў не любіць кандыцыянер, апусціў шкло. Ветрык, лёгкі, духмяны, летні. Ні ў якае параўнанне не йшло з тым, як Літаў ездзіў адзін, зімой. І чым далей ад Мінска, тым лягчэй рабілася яму. Каб не вісела над душою гэтая Ірма, усё астатняе складваецца цудоўна. Ён нарэшце матэрыяльна незалежны. Кніга яго гістарычная гатова. Задумка яго, мара яго неўзабаве пачне рэалізоўвацца. І ўсе прымуць у гэтым удзел: і паэт Віктар Рак, і дзед Самусенка, і зануда-філосаф Вадзім Асавец, і Ірма, і нават гэты вось рабы хлопец-немец, што сядзіць ззаду. Каб разварушыць яго, Літаў спытаў:

– А што, такі рэдкі паром? – і расслабіўся ў прадчуванні адказу, бо ведаў, як Хрысціян любіць пагаварыць, прычым, як і ў выпадку з Асаўцом, распавядае грунтоўна, цягуча-занудна, а Літаў любіў зануд, яму было з імі цікавей, чым з веселунамі.

Беглі за вакном палі і дрэвы, малады Шнэйдар расказваў, як калыханку, што паромныя пераправы – цэлая галіна ў краязнаўстве, усе яны пабудаваны ў васямнаццатым – пачатку дзевятнаццатага стагоддзя, нават патлумачыў прынцып іх дзеяння. Усё максімальна проста. Паром замацаваны канатамі, якія сілай рухавіка падцягваюць яго да аднаго або да другога берага. У Беларусі засталося іх усяго каля дзесяці, самы малы і вузкі – у Гродзенскім раёне, шлюз "Кужынец" Аўгустоўскага канала, самы шырокі – каля Петрыкава, "але Прыпяць так мялее, што гэты парычскі можа выйсці на першае месца".

– Як дзіўна, – перабіў Літаў. – Мы, рускі і немец, падымаем беларускую культуру.

– Нічога дзіўнага, – неахвотна адказаў малады Шнэйдар. У адрозненне ад старэйшага Шнэйдара ён чамусьці не любіў, калі размова заходзіла пра нацыянальнасць, нават, як падалося Літаву, ён чамусьці саромеўся сваёй.

Ён замоўк, і рэшту дарогі да Парычаў прадрамалі ў маўчанні. У Пары-

чах былі а палове на дванаццатую. Спыніліся каля ракі. Літаў выйшаў разам з Хрысціянам. Даволі шырокая рака паміж двух зарослых дрэвамі і кустоўем берагоў. Пахла рачной вадою. Літаў дыхаў на ўсе грудзі. Каля драўлянага вялікага прычала стаяў паром, ішла пагрузка на яго. Хрысціян адразу выцягнуў фотаапарат з заплечніка. Літаў убачыў прывязаны да прычала вянок са штучных кветак упярэмешку з жывымі летнімі.

– Недалёка патоняў чалавек, – патлумачыў Хрысціян. – Труп вадой прыбіла да берага, а сваякі прынеслі кветкі. Не ўсім падабаецца, кепскі знак, але так проста не прыбярэш жа.

На платформу заехаў міні-фургон, за ім грузавая машына з газавымі балонамі, следам – легкавая, чамусьці з латышскімі нумарамі. Людзі паселі на лаўку. Чалавек у скураной куртцы з-пад ілба пазіраў на Літава. Жанчыны смяяліся. Дзядзька ў бейсболцы, убачыўшы фотаапарат, паказаў Хрысціяну кулак. Паром марудна адчаліў ад берага. Хрысціян падзякаваў, запэўніў, што назад сам дабярэцца: "У мяне ў кожным горадзе сябры", – развітаўся і знік. А Літаў усё стаяў і не мог адарваць вачэй ад вянка. Думаў, думаў аб нечым, пакуль не кашлянуў ззаду, нагадваючы пра час, шафёр, а потым крануў яго за плячо.

Пры пад'ездзе да мястэчка пазваніў Асавец, каб папярэдзіць, што затрымліваецца на дзялянцы, папрасіў пачакаць. Спыніліся ў цэнтры на плошчы каля знаёмага Літаву будынка. Літаў не быў тут летам, і цяпер апынуўся ў патрыярхальнай чароўнай атмасферы летняга паўсоннага мястэчка. З узвышанай плошчы відаць былі чырвоныя дахі сярод зеляніны садоў. Стары таўсценны вяз – Літаў не адразу прызнаў, што гэта тое самае тоўстае, як баабаб, дрэва, якое зімою падалося яму скалечаным і мёртвым, – цяпер зялёны, разложысты, з пераплеценым, як жыламі, ствалом у некалькі абхватаў, па ўсім – сведка напалеонаўскага, калі не шведскага нашэсця, са сваімі арэшнікавымі густымі лістамі кідаў цень на паўплошчы. У цені яго стаяла штук шэсць фураў. У самым цэнтры плошчы, каля помніка вечнаму Леніну, на парапецiку круглай клумбы, зарослай чырвонымі, высокімі, падобнымі да гладыёлусаў кветкамі, сядзеў спінай да Літава хлопец, трымаючы за сядло веласіпед. На ганку, які вёў аднaчасова ў аддзяленне міліцыі і аддзяленне сувязі, стаяў тварам да сонца міліцыянер без фуражкі. Пад ганкам сабака з хрустам грыз вялікі яблык, наступіўшы на яго лапай. Каля газетнага кіёска малады глуханямы "званіў" па тэлефоне па відэасувязі: круціў пальцамі, крыўляўся перад маніторам, нібы дражніў сам сябе ў люстэрку. Дворнік у аранжавай камізэльцы, згінаючыся, як мурашка, валок некуды тачку макулатуры, і колы падскоквалі на бруку. Недзе запрацавала газонакасілка, у адказ ёй азваўся малады ці дурны певень. Літаву ўспомнілася недзе чытанае: калі певень спявае ўдзень – да бяды. Ад вакенца аўтастанцыі адышла, блізарука, праз акуляры разглядваючы білет, дзяўчынка-школьніца пятнаццаці-шаснаццаці гадоў, у белай маечцы, чырвонай спаднічцы да каленяў і белых красоўках. Светлыя, выпаленыя сонцам да рудога колеру кароткія валасы. Пасма спадала на акуляры. Крыху касалапячы, як умеюць толькі дзяўчынкі, яна пайшла да клумбы. Падышла да хлопца, паказала яму білет. Адкінула з вачэй пасмачку, усміхнулася. На фоне чырвоных кветак (сальвіі, успомніў Літаў), ды яшчэ падкрэсленыя чырвонай спаднічкай яе цнатлівыя ногі з белымі каленямі падаліся Літаву неверагодна прыгожымі. Ён машынальна дастаў з кішэні планшэт.

– Падобная на Ірму Айгараўну, – ціха сказаў шафёр ззаду.

Падабенства і праўда было, толькі не дэталямі, а хутчэй – паставай, авалам твару, колерам валасоў, нават прычоскай. Але на дзяўчынцы выразна ляжаў той ледзь улоўны флёр абаяльнасці, налёт дзіцячай мілаты, якіх ужо не было на Ірме, той самы флёр, які (не першы раз жанаты Літаў ведаў гэта не з тэорыі, а з практыкі), на жаль, так хутка знікае – як рачная свежасць, як туман, крануты ветрам. Яна спінай адчула, што на яе глядзяць. Падняла галаву. Яна паглядзела на Літава ўважліва, прыязна, як на старога добрага знаёмага. Вусны яе варухнуліся, нібыта яна хацела нешта сказаць, ды стрымалася. Хлопец таксама цераз плячо азірнуўся на Літава.

– Што, дзядзька?

Гадоў дваццаць пяць. Высунутая ўперад ніжняя квадратная сківіца. Непрыемная нахабная ўхмылка. На пульхных, чырвоных, амаль дзявочых вуснах малочная сліна. Бойкія вадзяністыя вочы глядзяць прыжмурана і разам з тым пільна, нібы вызначаюць цану: якім спосабам цябе можна абдурыць? А не атрымаецца, дык адабраць сілаю?

– Маю сястру бясплатна не здымаюць.

– Я і не збіраўся, – схлусіў Літаў, які якраз-такі паспеў зазняць.

– А то можам арганізаваць фотасесію. У любым выглядзе.

Літаў хацеў апраўдвацца, хацеў сказаць, што ў яго ўжо свае і дарослыя, і малыя, дзеці. Але не сказаў, а чамусьці яшчэ больш збянтэжыўся. Раскаваны ў адносінах з раўнагодкамі, з моладдзю ён ужо саромеўся свайго ўзросту. Ён нічога не сказаў, адвярнуўся і пайшоў да машыны.

– Багаценькі, – пачуў ён за спінай.

А да іх ужо роўным, ледзь не страявым крокам ішоў праз плошчу Асавец. Кароткая куртка, штаны, кепка з доўгім брылём, шнураваныя чаравікі, нават заплечнік – усё на ім было плямістага камуфляжнага колеру. “Business casual”, прыйшло Літаву ў галаву, мо таму, што сёння была якраз пятніца. Яму падалося, што з зімы, пакуль яны не бачыліся, Асавец і паспрытнеў, і памаладзеў. З роўнай шчацінкай на шчоках і барадзе без прыкмет сівізны, да таго ж, яму пасавала гэтая амаль вайсковая форма. Як і паўгода назад, быў ён сур’ёзны і, не міргаючы, строга пазіраў на Літава. Павітаўшыся, прапанаваў спачатку паабедаць, “заадно вырашым маю справу, ці не так?” – а потым ехаць аглядаць востраў.

– Няўжо нарэшце я пабываю ў славутым рэстаране?

На душы ў Літава было амаль радасна; з той хвіліны, як ён убачыў дзяўчынку, настрой у яго не проста палепшыўся, а як бы нават крыху ўзвінціўся. Шафёр пайшоў разам з імі. Перад тым, як падняцца на ганак, Літаў азірнуўся. Дзяўчына ішла па вулічцы ўніз ад плошчы, хлопец марудна ехаў побач на веласіпедзе: адна рука на рулі, другая ў дзяўчыны на плячы. Асавец прасачыў за яго позіркам.

– Спадабалася?

– Я жанаты чалавек, – з вінаватай усмешкаю адказаў Літаў. – Вы яе ведаеце?

– Хто яе не ведае. Між іншым, гэта мая будучая падчарка. Люда, ці, як усе завуць, проста Лю.

– Вось як? А гэты, з ёю, брат?

– Брат, – гмыкнуў Асавец. – Ён такі ж ёй брат, як я яму сват. Турма па ім плача.

– Яна купляла білет...

– Так. У нядзелю едзе да сяброўкі ў Мінск. Будуць разам паступаць.

– Пачакайце, як у нядзелю? Але ж і вы таксама выязджаеце ў нядзелю, – нагадаў Літаў. – Мы чакаем вас на рауце. Спадзяюся, вы не перадумалі? Будзеце ў мяне?

– Абавязкова.

– Тады чаму яна не з вамі?

Асавец буркнуў нешта, і Літаў не стаў распытваць.

## XII

Зала невялікага рэстарана з трыма радамі круглых столікаў была амаль запоўнена людзьмі. Асавец зняў шапку, заплечнік і пашукаў вачамі вольны столік, як набожны чалавек, уваходзячы ў памяшканне, шукае абраз, каб на яго перахрысціцца. Збоку каля ўвахода былі два незанятыя. Селі за бліжэйшы. Белы абрус, кветкі-сурвэткі, прыборы-попелкі (сюды яшчэ не дакацілася хваля антытытунёвага змагання). Афіцыянт прынёс меню. Шафёр, разумеючы, што яго прысутнасць тут наўрад ці пажаданая, заказаў комплексны абед і перасеў за суседні столік. Літаў з Асаўцом засталіся ўдвух.

– Люблю такія правінцыйныя рэстаранчыкі, – узбуджана балбатаў Літаў. Прыступ нейкай дурной гуллівасці не пакідаў яго. – За мяжой такіх многа. У іх адчуваеш сябе багатым па-сапраўднаму. І што цікава, у такіх, як правіла, смачней, прынамсі, не горш, як для мяне, чым у прэміум-класе. Ого, брэндзі, каньяк, нават грапа. Як вы наконт выпіць? Слухайце, я такога яшчэ не бачыў! – усклікнуў Літаў, углядаючыся ў меню, і зачытаў уголас:

*Салаты*

“Хрушчоў” (крабавыя палачкі, рыс, яйка, кукуруза).

“Русь” (грыбы, кура, цыбуля, яйка, гуркі).

Першыя

Расольнік ленінградскі з смятанаю.

Расольнік па-піцерску з грыбамі і смятанаю.

*Другія*

Свініна па-пскоўску з грыбамі і сырам.

Біф удмурскі (з грыбамі).

Зразы па-ленінградску.

Калабкі па-маскоўску.

Галубцы лянівыя “Уралачка”.

*Дэсерт*

Морс “Паўночная ягада” (бруснічны, журавінны).

– Што вас дзівіць? – спачатку не зразумеў Асавец.

– Назвы! Скажыце, а можа вас прымушаюць? Да гэтых “раздольев” і “пскоўскіх свінін”?

– Ды не. Рабалепства добраахвотнае, – адказаў з лёгкай пагардай Асавец, нібыта сам быў не мясцовы, а, як і Літаў, чалавек збоку.

Шафёр тым часам паспеў управіцца з баршчом і ўзяўся за біфштэкс. Калі Літаў з Асаўцом толькі пачалі, ён ужо скончыў абед і выйшаў. Неўзабаве Літаў, вочы ў якога заблішчэлі і яшчэ больш падабрэлі, забыўшы на пскоўскія назвы, размякчэлы пасля спіртнога і смачнай закускі, спытаў:

– Вы зусім не ўжываеце? Памятаю, зімой казалі, што можаце выпіць і закурыць.

– Чаму – вечарам, пасля працы. Да таго ж я не рызыкую даўно, ніякіх він, каньякоў, грапы; магу выпіць звычайнай таннай гарэлкі – менш верагоднасці, што “палёная”, з натуральным таматным халодным сокам.

– Што ж, шляхетна, “Крывавая Мэры”, – цягнуў Літаў. – Скажыце, няўжо беларусы такія крыважэрныя?

– Чаму вы спыталі?

– Бо яны лічацца мяккай рахманай нацыяй, разам з тым гэта адзіная, калі не памыляюся, еўракраіна, дзе не адменена смяротная кара.

Літава не столькі цікавіў адказ, лепш сказаць, зусім не цікавіў, а хацелася проста паслухаць роўны манатонны занудны голас, як лёгкую музыку пасля абеду.

– На гэта ёсць тлумачэнне, – адказаў Асавец. – Мы спрынтары, а не стаеры, мы хочам усё і адразу, мы жывём кароткімі дыстанцыямі: дня, тыдня, месяца, года, дзесяць гадоў максімум.

– А трэба?

– Хаця б чалавечым векам. Гадоў праз восемдзесят ніхто не ўзгадае, што гэтае пакаранне было, як цяпер не згадваюць іспанскую інквізіцыю, ды і немцам з кожным годам усё менш згадваюць: прайшоў адзін чалавечы век – і ўсё. Так што справа не ў крыважэрнасці, а ў некаторым адставанні ад гістарычнага працэсу, не больш...

Літаву падалося, што ён сядзіць у машыне, а Хрысціян з нямецкай пунктуальнасцю бубніць па-ранейшаму. Ён не столькі слухаў, колькі прыкідваў, як перакінуць размову на Лю. Самыя розныя варыянты кружыліся ў яго хмельнай галаве. Можа, узяць яе з сабою? Пазнаёміцца і прапанаваць падвезці? А яшчэ лепш – адпусціць шафёра, самому купіць білет на маршрутку і ехаць разам з ёю. А пераначаваць у Асаўца. “Заадно папрашу пазнаёміць”.

– ...У параўнанні з будучымі пакаленнямі мы, з усімі нашымі гаджэтамі і касмічнымі караблямі, знаходзімся прыкладна ў стане неандэртальцаў каля вогнішча, якое да таго ж яны яшчэ не зусім навучыліся распальваць; і гэтак, як нам цяпер дзіка і незразумела, чаму неандэртальцы не маглі прыдумаць запалкі, порах, кола, вадаправод, таксама дзіка і незразумела будзе нашчадкам: як?! у дваццаць першым стагоддзі яны не маглі справіцца з прымітыўнай анкалогіяй? яны нават не дажывалі да нейкіх ста гадоў? у іх яшчэ былі такія першабытныя формы існавання грамадства, як дзяржавы, падзеленыя межамі? Калі вам цікава, – прапанаваў раптам Асавец, – заставайцеся ў мяне начаваць. Пасядзім, пагаворым. Раскажу сёе-тое пра сябе. Абяцаю, што вам як творчаму чалавеку будзе цікава. З маёй будучай другой палавінкай пазнаёміцеся.

– Я, калі шчыра, сам хацеў напрасіцца.

Літаў дастаў планшэт, каб папярэдзіць жонку; затым успомніў, што яны пасварыліся. Ён пагладзіў пальцам па маніторы і паказаў Асаўцу:

– За гэты здымак мне ледзь не папала. Вось мая жонка, а вось – ваша будучая падчарка. Праўда, падобныя?

– Усе маладыя падобныя знешнасцю, усе прыгожыя – чаго не скажаш пра характар.

Асавец азірнуўся на афіцыянта, які за суседнім столікам прыбіраў пасля шафёра пустыя талеркі і выцягваў шыю, таксама спрабуючы зазірнуць у планшэт.

– Яшчэ што-небудзь? – запытаў афіцыянт.

Заказалі каву: Асавец слабай, а Літаў самай, як толькі можна, моцнай і без цукру. Зноў падсунуў Асаўцу планшэт.

– Дык што не так з характарам?

– Адорва, якіх пашукаць.

– Што вы кажаце! А здаецца такой безабароннай, у акулярах.

– Хуліган у акулярах удвая больш небяспечны, гэта вам кожны міліцыянер пацвердзіць.

Літаў паварочваў планшэт і так і сяк, не перастаючы любавацца здымкам. Асавец тым часам распавядаў манатонна, што гэта “гультайка, якіх свет не бачыў”, і ўсё адно хутка вернецца сюды, “на жаль”.

– Чаму на жаль? Калі не сакрэт?

– Сакрэту ніякага няма. Мы не ўжываемся разам. Вось я і шукаю, хто б мне памог. І ёй заадно. Некалі зімою вы сказалі, што набіраеце для нечага людзей... Дык бярыце яе.

Радасць разам з алкаголем разліваліся па целе Літава.

– Памажыце куды-небудзь упіхнуць. Абы не вярнулася. Я дам вам грошы, а вы нібыта ад свайго імені, па сваёй ініцыятыве прапануйце іх.

– А вы самі?

– Ад мяне яна ніколі не возьме. Яна мяне не пераносіць, нават размаўляць са мной не хоча. Яна хутчэй прыме з рук абсалютна чужога чалавека.

– Але чаму?

– Ганарлівы характар. Вы сказалі – падвезці. Яна ніколі са мной не сядзе. І што я ёй зрабіў такога? – голас яго ўздрыгнуў. – Ставіўся як да роднай дачкі...

– Прашу прабачэння, што лезу не ў сваю справу, – сказаў Літаў, – але што вы хацелі? Каб вам на шыю кідаліся? Наколькі я разумею, вы чужы чалавек у чужым манастыры. Можа, ёсць іншыя прычыны?

Асавец адвярнуўся і пакашляў сваім траскучым кашлем, прыкрываючы рот сурвэткай, потым уперыў у Літава немігаючыя вочы.

– Разумееце, я нармальны чалавек, здаровы мужчына. Калі мы будзем жыць разам, калі яна ўвесь час будзе ў полі майго зроку, я магу і не ўстаяць перад спакусай. Часта бывае, што непрыязь такога роду канчаецца самым жарсным каханнем. Уся гэтая двухсэнсоўнасць, калі айчым жыве разам з дзяўчынкай-падлеткам, ды яшчэ з такімі паводзінамі, калі ў яе ўсё на лбе напісана... Я не хачу выпрабоўваць лёс. Трэба ізаляцыя ад жадання, разумееце?

– Не зусім. Хіба жаданне, простае чалавечае жаданне – зло?

– Абсалютнае. Большае за дзеянне. Ва ўсіх філасофскіх і рэлігійных вучэннях так. Дзеянне ўсяго толькі адзін учынак, хіжыя думкі вядуць і рана ці позна прыводзяць да мноства ўчынкаў.

Літаў раптам пачырванеў. Рукі яго пачалі перастаўляць на стале, мяняць месцамі сальнічку і перачніцу.

– А вось скажыце... Добра, я канкрэтызую. Напрыклад, я пішу мастацкі твор. Дапусцім, кінасцэнар. Пракручваю ў галаве розныя сітуацыі, стаўлю сябе на месца герояў. І там адзін з галоўных герояў, высокі чыноўнік, так зашугаў зводнага брата, па натуры добрага, інтэлігентнага, мяккага, які да таго ж залежаў ад гэтага чыноўніка матэрыяльна, што гэты брат захацеў яго смерці, усяго толькі захацеў, заўважце, – і так і адбылося: у самым цэнтры адной еўрапейскай сталіцы сярод белага дня яго забіваюць!

– Што ж у тым дзіўнага? Няма ніводнага чалавека ў свеце, які хоць раз у жыцці пры пэўных абставінах не пажадаў бы смерці другому чалавеку.

Калі-небудзь гэта супадае – намер і выкананне. Галоўнае, каб не было сведкаў, – заўважыў Асавец. – Бо тады ў вашага героя з'явіцца іншы галаўны боль – як пазбавіцца ад сведкаў. Ці не так? Што да мяне, мяне куды больш цікавіць забойца не містычны, не патэнцыяльны, а рэальны. Я, канечне, нагледзеўся ў міліцыі рознага, але многа б даў, каб пабыць усярэдзіне такога, зразумець, як ён жыве, што адчувае...

– Нічога ён не адчувае, – рэзка сказаў Літаў. – Есць, спіць і радуецца жыццю!

Усталявалася маўчанне. Асавец, нібы першы раз бачыць, разглядваў афіцыянта, які ўсё круціўся побач, хаця ў ім нічога такога асаблівага не было: чырвоны фартух-пярэднік, таблічка з іменем і з лагатыпам кавярні (руская тройка коней), кашуля ў клетку з кароткімі рукавамі, кароткая прычоска, джынсы, папружка, гадзіннік. Літаў упарта глядзеў у планшэт, то зводзіў пальцы, нібы выцягваў тонкую нітку, тым самым выяву змяншаючы, то лёгкімі пстрычкамі расшыраў яе.

– Вы казалі, у вас да мяне просьба? – нарэшце парушыў маўчанне ён.

– Дык гэта яна і ёсць. Наконт падчаркі. Каб вы памаглі пазбавіцца ад яе. Скажыце, што вам пільна, кроў з носа трэба, каб яна ўладкавалася ў Мінску. Прапануйце грашовую дапамогу, наабяцайце, што паможаце стаць зоркай на Еўравізіі, не ведаю. Маладыя любяць славу і поспех.

– А як маці? – спытаў Літаў. – Звычайна такіх хуліганістых любяць.

– Не той выпадак. Маці не ведае, як ад яе пазбавіцца.

– Вось як? Тым не менш зразумейце мяне правільна, вы асоба зацікаўленая, а я хачу перастрахавацца, атрымаць ад маці афіцыйны дазвол.

– Увечары вы яго атрымаеце, – запэўніў Асавец. – А зрэшты, нашто чакаць вечара? Яна тут побач працуе ў раёнцы. Кожны дзень ходзіць дамоў абедаць. Цяпер дзве гадзіны, акурат павінна вяртацца. Я вас і пазнаёмлю.

Па выхадзе з рэстарана Асавец параіў Літаву купіць раёнку. "Ёй як супрацоўніцы газеты спадабаецца, што чужы чалавек чытае яе прадукцыю". Літаў паслухмяна пайшоў да кіёска. Непадалёку ў халадку пад вязам каля джыпа таптаўся шафёр з мабільным каля вуха. Літаў пачакаў, пакуль ён дагаворыць, папрасіў набраць Ірму па сваім тэлефоне. Той жа вынік. "Вы звязаліся з галасавой поштай... пакіньце паведамленне". Літаў пазваніў гувернантцы, тая спакойным голасам адказала, што з дзецьмі ўсё ў парадку, а дзе Ірма, яна паняцця не мае. Літаў значна павесялеў. Калі ён вярнуўся, убачыў – жанчына ў блакітных джынсах і сіняй блузцы лёгкім крокам падыходзіла да іх. Каштанавыя валасы забраны пад плецены саламяна-залацісты тонкі абручык. Чысты твар, гладкія поўныя белыя рукі, блізарукія добрыя вочы. Крыху паўнаватая, затое надзвычай зграбная, уся нейкая хатняя, утульная, ахайная, дагледжаная – такімі бываюць удовы, з якімі раней жаніліся з-за багатай спадчыны пры дапамозе гаварлівай свахі. Яна падыходзіла, напярод усміхаючыся, і ўсмешка адрасавалася не толькі Асаўцу, але і яго таварышу. Калі Асавец буркнуў: "Пазнаёмцеся, мой партнёр па лясным бізнесе, акрамя таго творчы чалавек, ці не так?", – яна, энергічна паціскаючы Літаву руку, з усмешкаю сказала:

– Ведала я аднаго творчага чалавека.

– Вы тут пагаварыце, а я... мне трэба, – і Асавец пайшоў да джыпа.

Літаў з Міхайлоўскаю прыселі за столік пад чырвона-белым "кока-колавым" парасонам, адгароджаным дэкаратыўным плоцікам. Літаў, трымаючы перад сабой, як мікрафон, газету, сказаў першае, што было ў галаве:

– Вашая дачка падобна на маю жонку ў маладосці...

– Мала хто на каго падобны. Я таксама падобная на Брытні Спірс. У свеце двесце пяцьдзясят восем двайнікоў у кожнага чалавека.

– Скажыце, яна гаворыць па-беларуску?

– Разоў у сем лепш, чым па-руску.

– Я маю да яе інтарэс, – не стаў прыдумляць нічога новага Літаў, – і хачу вашага дазволу, каб прапанаваць ёй...

– Няўжо руку і сэрца? – яна прыняла гэты паўжартаўлівы тон.

– Не, не руку і сэрца, а адну цікавую справу.

Літаў з усёй ветлівасцю, на якую быў здатны, растлумачыў, чаго ён хоча. Можа быць, калі-небудзь, як усё атрымаецца, ён будзе здымаць фільм. У яе дачкі ўсе дадзеныя кінаактрысы. Яна ідэальна падыходзіць на ролю гераіні. Хай спакойна вучыцца, ён нават згодны авансам аплаціць яе вучобу, бо ў курсе, што на бюджэт яна наўрад ці пройдзе. Ён увогуле хоча апекавацца ёю і памагаць матэрыяльна, абы толькі яна была ў полі яго зроку.

– Забірайце, – нечакана проста сказала Міхайлоўская. – Хоць цяпер. Калі шчыра, я ўжо сама думала, у чые б надзейныя рукі яе перадаць. Толькі не факт, што яна сама захоча.

– ?

– Дзіўная яна. Можа, нельга так пра родную дачку, але... яна цураецца людзей. Думае, што прыносіць няшчасці. А калі шчыра – гэта гора маё. Часам я думаю, лепш бы ў мяне быў хлопчык. А тут яшчэ гэты ельскі сябар збівае з толку, уцягвае ў свае цёмныя справы, ён яе звядзе нарэшце, – шчыра дзялілася яна з ледзь знаёмым чалавекам.

– Тады тым больш. Я яе вызвалю ад уплыву. У нас яна будзе ў іншай кампаніі. У нас усе інтэлігентныя паважаныя людзі, вучоныя, літаратары. Прафесар філалогіі Самусенка, паэт Віктар Рак, доктар Шнэйдар Хрысціян Андрэевіч, жонка яго – Ванда Вацлаўна...

– Вы сказалі – паэт?

– Вы яго ведаеце?

– У школе некалі вучыла.

– Сапраўды, чаму я здзіўляюся... Беларусь малая, народ ведае сваіх паэтаў. Дарэчы! – Літаў успомніў, што яшчэ з вясны, калі ездзіў да Рака, кніжка так і валялася ў джыпе. – Я на хвілінку. – Ён збегаў да машыны, каля якой Асавец з шафёрам мірна размаўлялі, знайшоў кніжку – яна так і ляжала ззаду над сядзеннем каля аптэчкі; вярнуўся: – Вось... Важу з сабою. Цяпер бачыце як – творчыя людзі побач з аўтографам пішуць кантакты, е-мэйл, нумар тэлефона...

Міхайлоўская падушачкамі пальцаў пагладзіла вокладку.

– Ён мне рэдактар, – не стрымаўся, каб не пахваліцца, Літаў. – У якасці дапаможнай тэхнічнай сілы. Я пішу важную навукова-гістарычную працу, а ён так, на падхваце, коскі мне расстаўляе.

– Скажыце, як ён жыве?

– Як усе такія такія людзі – святым духам.

– А матэрыяльна? Канечне, свой дом, зала з камінам?

Літаў падумаў і сказаў:

– Ды не, звычайная кватэра.

– Сям'я, дзеці?

– Ды не, адзін. Рамантык, лётае ў аблоках. Цацкі розныя калекцыянуе, напрыклад, жэтон на метро...

– Жэтон?

І яго ўразіла перамена ў яе адразу запунсавелым твары, яе ўсмешка, ад якой яна і памаладзела, і папрыгажэла, і яшчэ больш падабрэла.

На развітанне дамовіліся, што Літаў увечары прыйдзе ў госці – пазнаёміцца, і там усё абмяркуюць, абгавораць.

– Да вечара, – сказала Міхайлоўская.

Яна пайшла. Літаў дастаў планшэт. Пуста. Ад спіртнога, ад моцнай кавы, ад усіх гэтых спраў у яго шалёна білася сэрца. Яго нават не насцярожыла, не падалося дзіўным, што яна так лёгка пагадзілася. І ўвогуле, усё ў яго неяк падазрона складна атрымлівалася – не паспее падумаць, а жаданне ўжо збываецца.

## XIII

Востраў быў паміж дзвюма рэчкамі, Жалонню і Славечна. Кіламетр у даўжыню і столькі ж у шырыню. З аднаго боку – балоцістая нізіна, зарослая высокім багуном, буякамі, лазняком і крушыннікам. Асавец паказаў Літаву, як на крушынавых дрэўцах адначасова растуць чорныя, чырвоныя, зялёныя і белыя ягады, потым дастаў з заплечніка паляўнічы нож, злупіў паску крушынавай кары (ствол на тым месцы адразу стаў аранжавым) і даў Літаву панюхаць: “прымяняецца ў касметалогіі”. Пах сапраўды быў надзвычай прыемны. Далей нізіна паступова пераходзіла ў сапраўднае балота. Пад нагамі ляжаў мяккі сівы мох, у якім пракідаліся дзе-нідзе невялікія, як бы хто капнуў рыдлёкаю, “вакенцы”. Над адным такім “вакенцам” Літаў нагнуўся і ўбачыў, што вада, якая здавалася нерухомай, насамрэч жыве, пульсуе, падымаецца знізу, і ў ёй марудна кружацца павучок і сухая хваёвая шыпулька. Асавец тым часам расказваў, што адразу за балотам – Украіна, а збоку, праз рэчку – Палескі радыяцыйна-экалагічны запаведнік.

– Тут цэлая гісторыя. Вам як творчаму чалавеку павінна быць цікава, – і расказаў, што прыблізна вунь там, на мяжы запаведніка, хаваючыся ад высялення, ад людзей і ад уладаў гадоў трыццаць пасля Чарнобыля жыў поўным дзікуном, на падножным корме і на лове рыбы, стары дзед. У краму не хадзіў, пенсію не атрымліваў. Калі журналісты выпадкова яго адшукалі, яму было за дзевяноста, ён абсалютна нічым не хварэў і абсалютна нічога не ведаў: ні пра развал Саюза, ні што Беларусь цяпер існуе самастойна.

З другога боку востраў забіраўся ўгару. Высокі бераг, глінiстая зямля, круча. Унізе цякла Жалонь. Каля берага, аблізанага хвалямі, плаваў змыты вадой мурашнік. Літаў пастаяў з краю, гледзячы, як мурашы і ў вадзе памагаюць адно аднаму. Месца сапраўды было ідэальнае. Калі не лічыць следу даўняга вогнішча, практычна дзікі востраў паміж багны, імшараў і вады. Але Літаў асаблівага захаплення не выказваў, увогуле слухаў няўважліва, адказваў недарэчы і ўсё зазіраў у планшэтнік.

– Цэлы дзень не магу дазваніцца да жонкі. І ад яе нічога.

– Тут сапраўды трафік прападае.

– Ды не, баюся, не ў трафіку справа.

Хмель праходзіў і адначасова ўзрастаў неспакой. “Гэта будзе ўсё жахліва, гэта будзе ўсё жахліва”, – круцілася ў яго галаве дурной мелодыяй. Потым ішлі да лясной дарогі, дзе чакаў іх шафёр з машынай, прадзіраліся праз хмызняк, адгінаючы пружыністыя галінкі, якія балюча сцябалі па вачах. Назад у мястэчка вярталіся іншым маршрутам, па, як назваў Асавец, “старым Кіеўскім шляху”.

– А ведаеце, мы ўжо разоў дзесяць парушылі закон аб дзяржаўнай мяжы, – сказаў ён. – Тут яна зігзагамі, як зубы ў пілы, то Украіна залазіць у Беларусь, то наадварот, вось мы і едзем то па беларускай тэрыторыі, то па ўкраінскай.

Але і на гэта прамаўчаў Літаў. Крыху зацікавіўся ён, калі праязджалі праз дуброву, цэлы лес, цёмны ад ценю. Джып асцярожна перавальваўся праз тоўстыя карані. На палянцы пры дарозе, у прастакутніку загародкі з чатырох жэрдак, стаяў крыж, абвязаны белымі ручнікамі з чырвонай вышыўкай, зверху дзве дошкі стрэшкаю. Такія можна ўбачыць ледзь не ў кожнай палескай вёсцы на разгалінаванні вуліц. Асавец пачаў расказваць, што гэта сакральнае месца, нехта некага тут у вайну пастраляў – ці то венгры партызанаў, ці партызаны венграў, але мясцовыя людзі на гэтым месцы ўкапалі памятны крыж. Такіх многа па лесе, і тут, і на ўкраінскай тэрыторыі, і пад кожным пахаваны чалавек. Цікава й тое, што некаторыя крыжы маюць уласнае імя – напрыклад, гэты называецца Каралеўскі. Калі нешта здарыцца з крыжом, у бліжэйшую вёску прыйдзе няшчасце, таму яны вельмі шануюцца. Калі крыж згнівае, ставіцца новы, “ці не так?”

– Хто ж гэта робіць? Укопвае новы крыж і мяняе ручнікі?

– Мясцовы люд. Раней думалі, што дзед. Але дзед памёр, а крыж за адну ноч паўстаў новы, з новенькімі даматканымі ручнікамі.

Нарэшце джып выехаў з лесу на пагорак. Унізе рассцілаўся луг. Адсюль, з пагорка, ён нагадваў вялікую разгорнутую кнігу: па баках узвышэнні, пасярэдзіне лагчына. У лагчыне, паўз перасохлы ручай, была насыпная дарога. Калі спусціліся і марудна паехалі па ёй, Літаў зірнуў знізу ў вакно. Два чалавекі, хлопец з дзяўчынаю, ішлі лугавой сцежкаю. Хлопец вёў у адной руцэ веласіпед. Дзяўчына падняла на лоб акуляры, як звычайныя сонечныя, і сонца адбівалася ў іх дзвюма светлымі плямкамі. Маладая кобра, якая пачула гукі чаратовай дудкі. Літаў загледзеўся на гэтую пару і раптам падумаў, што сам ужо ніколі ў жыцці не пройдзе вось так лугам з дзяўчынаю. Але, калі б можна было, што б ён аддаў за такую магчымасць? І сам сабе адказаў – усё. Усё сваё мінулае, цяперашняе і будучае, матэрыяльнае ды і духоўнае таксама.

Пры пад’ездзе да мястэчка спыніліся каля лесакамбіната, Асаўцу трэба было забегчы туды. Літаў у каторы раз зірнуў у планшэтнік.

– Гэта мне ўжо зусім не падабаецца, – прамармытаў ён. – Жонка цэлы дзень маўчыць. У мяне самыя нядобрыя прадчуванні.

– Так, – сказаў шафёр.

– Тэлефон не ловіць толькі ў адным месцы – у бункеры, у лёхах. Я ведаю, што туды не патрапіць. Але цяпер пачынаю сумнявацца. Я хадзіў туды раніцай... Можа, забыў выставіць код? Можа, увогуле не зачыніў дзвярэй? Туды можна патрапіць без ключа, а вось выйсці... Калі яна туды зайшла, яна не выберацца. Гэта ўсё будзе жахліва!

– Пазваніце каму-небудзь.

– Ніхто без мяне не адчыніць.

– У любым выпадку вам няма чаго баяцца. У вас жалезнае алібі.

– Якое яшчэ алібі? Што за крымінальны жаргон? Чаму ты так на мяне глядзіш? Ці не думаеш, што я знарок пакінуў дзверы адчыненымі?

– Я думаю, трэба тэрмінова вяртацца ў Мінск, – сказаў шафёр.

*(Заканчэнне будзе)*

Васіль Жуковіч



...Цень бяспамяцтва, згінь!
Я паўтару ўсім нам:
Горкіх сваіх святынь
Не аддавайма псам!...

# Белы гімн

### *НАЙЦУДОЎНАЯ НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ*

Прадчуваю
Крывінкаю кожнай,
Сэрца кожным ударам
Дарагога вяртанне штандару,
Светлы шолах яго пераможны!

Хоць манкурты яго забівалі,
Неўміручы павек не сканае;
Брудам часта яго палівалі,
А ён – чысты
І ў душах лунае!

Праз стагоддзі
Ідзе колер мілы,
З ім
Імкліва растуць
Мрояў крылы:

У народа не знікне памкненне
Родны дом выбудоўваць з натхненнем.

Найцудоўную ў нас непазбежнасць
Бачу я і сцвярджаць буду смела:
Пад штандарам святым
Нашым бел-чырвон-белым
Будзе жыць Беларусь
І яе незалежнасць!

*25.03. 2018*

## СЛОВА УЛАДЗІМІРА НЯКЛЯЕВА

Праўды прагнуў, насустрач – мана.
Волю зваў. Трапіў сам у няволю.
Дзе наш Бог, калі скрозь – сатана,
Калі сіла злачынна сваволіць?

Скрозь – дубінкі, як кажаш – цапы,
А ў цябе – толькі важкае слова,
Слова – супраць парадкаў тупых,
Беспадстаўных рэпрэсій суровых.

І глядзі: фабрыканты маны
Твайго слова шалёна баяцца...
Па крывавай нядзелі нам сны
Больш яскрава аб Крывіі сняцца.

*2010, снежань*

## У КІЕВЕ

Кіпіць народнае паўстанне,
На кампраміс пайсці не ў стане,
І падае рэжым злачынны,
І прэзідэнт бяжыць з краіны...

За хлеб дарожчая свабода
І за відовішчы – тым больш.
Крывавыя свабоды роды...
Пякучы украінскі боль!

*2014, сакавік*

## НЕ ЗАВІЦЕ СВЯТЫНЮ МАЛОЙ!

Малая радзіма?.. Правал паміж слоў,
Хоць нехта у сэнс іх паверыў,

Назваў недарэчна святыню малой,
Аднёс яе ў шэраг памераў.
Радзіма... У ёй да сканчэння вякоў
Прастору душа набывае.
Магчыма, бывае малая любоў,
Святыні малой не бывае.

*2018*

## СКРУШНЫ МАТЫЎ КУРАПАЦКІ

Жэрці і піць ля касцей,
Як падаецца мне, –
Цешыць ліхіх чарцей,
Не! –
        дагаджаць сатане!

Хто рэстаран адчыніў
Ля курапацкіх крыжоў,
Той людзям боль прычыніў,
Каяцца хай бы прыйшоў!

Трэба змагчы не смець
Ганьбу сеяць і жаць,
Дзе лютавала смерць, –
Там, дзе ахвяры ляжаць!

Бацька крывавых спраў –
Грозны крамлёўскі кат
Процьму чыніў распраў –
Шмат учыніў КУРАПАТ.

Цень бяспамяцтва, згінь!
Я паўтару ўсім нам:
Горкіх сваіх святынь
Не аддавайма псам!

*2018, травень*

## ЧАЦВЕРТАГА КРАСАВІКА Ў КУРАПАТАХ

### 1

Хто дзе чуў, каб дзяржава
Ваявала з крыжамі?..
Вераломства праява
На балючай мяжы:

Там няўцямныя сілы,
Ля шматлікіх магілаў,
Для чаго, Божа мілы,
Вырывалі крыжы?

***2***

Ад машынаў наўкола
Грукат з лязгам ішоў,
Цяжка падалі долу
Сем дзясяткаў крыжоў.
Ад такіх дзікіх фактаў
Чорны падае цень:
Сем дзясяткаў тэрактаў
За адзін белы дзень.

*2019*

## ***БЕЛАРУСКІ НАРОД***

*Маналог*

Чалавек, радзіна, род, народ...
Радасць і смутак чытаю ў тваіх вачох,
На тваім чале, чала-век.
На радзіны, на вяселле, на памінкі
Збіраецца твая радзіна.
Радзіна радуецца.
Радзіна засмучаецца. Радзіна радзіцца.
Нараджаецца рада, удароўваецца парада,
Людзі даюць рады розным бедам, нягодам.
З роду ў род перадаецца ўсё святое
Вядзецца род. Жыве народ.

Падобна, як на ніве залатому коласу
Пагражае збуялае пустазелле,
Народу майму пагражае насельніцтва глухата.
Хоць, як і сам народ,
Насельніцтва села, асела, пасялілася,
Насяліла паселішчы,
Яно чужое народу,
Бо не ведае той высокай еднасці,
Якую мае народ.
Насельніцтва лічаць, як статак,
Каб ежаю забяспечыць.
Хлеб і відовішчы – спажыва яго.

Народ – родны, высакародны, высокадухоўны.
Лікам не вылічыць яго велічы.
Маса – другарадны панятак.
*Мне назваць бы вялікім цябе, мой адзіны,*
*Ды няма на планеце народаў малых.*
З чым параўнаць народ?
Калі чалавек – зорка, род – сузор'е,
То народ – неабсяжны духоўны СУСВЕТ.
З глыбіні стагоддзяў да нас ідзе
Моц яго стваральнай энергіі.
Праз цэлае тысячагоддзе даходзіць святло мужнасці
І любові да Бацькаўшчыны
Князя Рагвалода і легендарнай Рагнеды-князёўны.
Няўрымслівы дух нашчадкаў
Сілкуецца разумнай адвагаю
Усяслава Чарадзея, святасцю Еўфрасінні Полацкай
І Кірылы Тураўскага,
Стойкасцю Давіда Гарадзенскага І Сяргея Астрожскага,
Асветнай мудрасцю Францішка Скарыны,
Глыбінным гуманізмам Міколы Гусоўскага,
Геройствам і самаахвярнасцю Каліноўскага,
Хараством талентаў Міхала Агінскага
І Максіма Багдановіча.

Так, народ ёсць духоўны Сусвет. Ды навошта
Я прыгадаў Страцім-лебедзя? Бачу страшнае:
*"І населі тут на лебедзя*
*птахі дробныя ўсёй стаяю".*
Ці ж не гэтак насельніцтва
Насела на народ "*усёй стаяю*",
Не дае грудзям "*вальней уздыхнуць*",
Не дае крылам "*шырэй узмахнуць...*".
Божа мой, не дай Яму
Долі жорсткае Страцім-лебедзя!
Сэнс які губіць гэтакі Сусвет?!

З роду ў род перадаецца ўсё святое.
Вядзецца род. Жыве народ.
Жыве Беларусь!

*2000, 2018*

## ***ЗАПАВЕТНАЯ МРОЯ МАЯ***

*Маналог*

Беларусь мая!
Люблю тваю прыгожую і мужную зямлю,

Ласкавыя й багатыя тvае нябёсы –
З акіянамі, морамі ды вазёрамі сінечы
Між фантастычна-велічнымі гарамі аблокаў,
Паўстаннямі навальніцаў, бліскам маланак,
Гучнымі арганамі грамоў,
Сямістуннай вясёлкай.
Самыя пяшчотныя васількі цвітуць на тваіх палёх,
Самыя натхнёныя жаўрукі
Спевам заліваюцца ў тваім небе,
Самыя закаханыя ў свеце – тvае салаўі,
Самыя тужлівыя ў свеце – жураўкі тvае.
Беларусь! Мая любоў да цябе – святая.
Не магу цябе пакінуць надоўга,
Радасці і пакуты мае – з табой.
(Спачуваю змучана-змушаным тваім эмігрантам –
Папярэднікам і сучаснікам, а магчыма, й наступнікам)...
Ты ўся – з песнямі, з палямі і пушчамі, рэкамі, вазёрамі,
Дарогамі і сцяжынкамі, курганамі, крыжамі –
Жывеш у маім сэрцы.
Мая любоў да цябе драматычная,
Маці-пакутніца, у стагоддзях слаўная і стагоддзі залежная,
Жорстка абкрадзеная і зняважаная!
Скрыжаванне шляхоў тваіх –
Гэта крыж, на якім распнута,
Бы Хрыстос, запаветная воля твая.
Але мудрыя тvае казкі вучаць:
Агрэсіўнае, вераломнае зло
Не пераможа даверлівага дабра.
Ці не таму ў тваёй чуйнай душы
Побач з легендамі й казкамі
Народжаны сардэчныя песні
І гучаць яны на мове такой мілагучнай!
Маці прачыстая! Кланяюся табе –
З мроямі пра незалежнасць, –
Лясной і вазёрнай зямлі,
Сівым курганам,
Нябёсна-сінім зорачкам васількоў;
Услухоўваюся, як чысціня крыніцаў,
Водар суніцаў, грыбоў
Рыфмуюцца з навальніцай, азонам, дажджом,
Раскатамі грому –
І душой багамольна ўзыходжу
Да жаўруковых мелодыяў, пошчакаў салаўёў,
Светлай тугі жураўлінай,
Да нябёсаў тваіх жыццядайных.
О, мая пажыццёва любімая,
Будзь дабраслаўлёная!
Багаслаўлёная!

## *РАДАСЦЬ І МАЛЬБА*

Адпалалі квеценню каштаны,
Бэзавы агонь паўсюль пагас.
Адлятае травень-май жаданы
У краіну Незваротны Час.

Мы ідзем – хто хутка, хто павольна –
З радасцямі й смуткамі туды ж.
Жыць вясёла хочам і прывольна,
А нясем пасланы лёсам крыж.

Я напэўна не пакрыўджан лёсам.
Ува мне гарыць-палае цвет.
Крочу я насустрач новым вёснам,
Улюбёны ў гэты белы свет.

Не стагну, не плачу, не ўздыхаю.
Як хацеў, здаецца, так і жыў.
Я жанчын кахаў, яшчэ кахаю,
Воляй даражу, як даражыў.

Усявышні, мне бы плёну ў працы!
За грахі сурова не карай.
Я малю: не дай мне памяць страціць
І сабе самому раптам здрадзіць...
І ўратуй наш беларускі край!

*2019*

## *У ЗАМЕЖЖЫ*

Бяссонне.
Сем зорак – як дзіва начное
Ў шырока-высокім гатэльным вакне.
Загадкай ці знакам сузор'е такое
Заззяла так чыста ў чужой старане?

Нябёсаў пытанне
Спасцігнуць мне трэба:
Што чэрпае, што спажывае душа?..
Празрыста і я запытаюся ў Неба:
Што з зорнага мне абяцае каўша?

На нашай зямліцы так вольна, так пышна
Разрося палын і расцвіў, і таму
Прашу: не давай ты гаркоты мне лішняй,
А слодычы лішняе сам не вазьму!

### ІНТЫМНЫ ЛАД

Як я чакаў цябе –
пад ліўнямі сонца,
у пустэльнях снягоў,
у завеях лістоты,
у бязмежжы дажджоў –
Не ведаў ніхто.

Як сумаваў я –
слых тупеў без тваіх крокаў і голасу,
вочы гаслі без твайго позірку,
вусны грубелі без тваіх пацалункаў,
рукі нямелі без абдымкаў з табою –
Не ведаў ніхто.

Як нам лёгка пад ліўнямі сонца,
Як спакойна ў пустэльнях дажджоў,
Як нам светла ў завеях лістоты,
Як нам вольна ў бязмежжы снягоў,
Можа ўведаць увесь белы свет.

*1975, 2018*

### РУК ТВАІХ ЦЕПЛЫНЯ

Параўнаў бы цябе з Афрадытаю
За красу тваю за жаноцкую,
Ды яна ж, Афрадыта, – бязрукая.
А твае рукі цёплыя
Аніколькі не страцілі
Пяшчоты абдымкаў,
Умення кухарыць,
Адбельваць бялізну,
Вырошчваць кветкі,
Лашчыць унукаў,
Што азначае –
Мяне акрыляць.

*2019*

### ЯШЧЭ АДНА СУМЕСНАЯ ВЯСНА

Ясна так дзень пачынаецца!
Сонцам абняты прастор,
Краскі ў траве прачынаюцца,
Птаствам абуджаны бор.

Дай жа руку мне, каханая, –
Рай гэты кліча зямны, –

Краю ляснога падданыя,
Пойдзем у ранак лясны.

Ёсць калі штосьці трывожнае,
Вераю ў цуд спапялі,
Сэрца сваё заварожана
К сэрцу майму прытулі.

Дальняе, ды незабыўнае
Хлынула ў вочы мае.
Нам пра жыццё хуткаплыннае
Сёння салоўка пяе.

## НЕ РАЎНУЙ

Будзе лад
Ва ўзаемінах нашых,
Буднях нашых і святах,
Будзе лад у гасподзе,
Ты адно, калі ласка,
Мяне
Не раўнуй
Да паэзіі, прозы,
Да бібліятэкаў, кнігарняў,
Вечарынаў, сябрынаў,
Бальшакоў і сцяжынаў,
Падкарочаных ночак –
Да ўсяго да таго, што
Замінае
Быць з табою даўжэй.

## ЗАЧАРАВАНАСЦЬ

Нібыта ўчора ўсё цвіло, буяла –
У садзе гаспадарыла вясна.
А вось ужо і восень завітала.
Як і вясна, мне гожая яна.

Як і вясной, цяпер зачараваны
Прыроды вечна зменлівай красой.
Ідзе з ласкавым сонцам свежы ранак,
Аптымістычны дорачы настрой.

На невымоўны міг зачаравання
Як быццам апынаюся ў вясне,
І восеньскі пачатак завядання
Цвіценнем пышным падаецца мне.

## СПАГАДА

Гарыць-палае полымя каліны,
Лісты на клёнах рэдкія трымцяць.
А я замёр, бо вырай жураўліны
Над Менскам пачынае пралятаць.

Шкадую сэрцам птахаў пералётных:
Чакае іх такі далёкі шлях!
Я скруху чую ў галасах самотных,
У ціхіх – з паднябесся – галасах.

Што ж так мяне хвалюе гэта заўшы?
Чаму прывык я птахам спагадаць?
Я чую родных, бежанства спазнаўшых,
Як ім было радзіму пакідаць!..

*2019*

## НА БЕРАЗЕ ХУТКАЙ РАКІ

*Марыі*

Я ўспамінаю хутарок,
Дзе мы, сястра, з табой раслі.
То мілы сэрцу быў куток,
Мы там шчаслівыя былі.

А час пасляваенны быў,
Такі ліхі, суровы час!
Лес выручаў галодных нас –
Дарыў нам ягады, грыбы.

Ды ў голадзе і ў халады
З табой не ведалі бяды:
Нам маміна душа была
Крыніцаю цяпла, святла...

Даўно не стала хутарка –
Ўсё змыла хуткая рака.
І толькі маміна любоў
Не канула ў віры гадоў.

Так не губляе след свой, крок
Усё святое на зямлі...
Жыве краіна хутарок,
Дзе мы шчаслівыя раслі.

*18.03. 2019*

## *ЖУРБА*

*Светлай памяці Эдуарда Зарыцкага*

Не сказаў, што з табою – бяда,
Шкадаваў – не даваў хвалявацца?
Гэтак ціха сышоў, як вада.
Табе ў памяці век заставацца!

Не скарала цябе мітусня,
Быў гармоніі, музыкі магам
І любімую справу здзяйсняў
Так натхнёна, аддана, з размахам!

Даражыў я сяброўствам з табой
Нас дарогі і песні зблiжалі.
З белым светам дзялюся журбой
І не бачу мяжы майго жалю.

*7.02. 2019*

## *БЕЛЫ ГІМН*

*Трыпціх*

***1***

**С**онца цёплае, прамяністае,
**О**, якое ты жыццядайнае,
**Н**епагаснае і нястомнае!
**Ц**емру прэч праганяючы,
**А**святляеш дарогу мне.

***2***

Рад вітаць цябе, сонца!
Натуральна, сумую,
Калі ты за імглой.
Нездарма ты і ў сон мой
На Каляды прыйшло:
Вось я крочу па мосце,
Ты спускаешся з неба,
А мне дорыш цяпло.

О, жыцця майго сонца
Яшчэ не заходзіць
І мой мост не кароткі –
Так паказвае сон.

***3***

Сонца яснае,
З вышыні сваёй
Ты ўсё бачыш,
Ты ж паглядзі
На літару **О**
Ў маіх вершах.
Тут яна частая,
Бо нагадвае
Форму тваю,
О, маё сонца!

*2018, снежань*

## *ДАРУНАК АД НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ*

Некалі так нечакана,
Нібыта ў казкавым сне,
Пошта прынесла з-за акіяна
Кнігу з аўтографам мне:

*Паэту*
*Васілю Жуковічу*
*падпісвае гэтую кнігу таксама паэт*
*Натальля Арсеньнева*
*й зычыць, каб часіны натхненьня*
*й часіны творчасьці наведвалі Вас*
*як найчасьцей.*
*ЗША*
*Люты 1991 г.*

О, Наталля Арсеннева,
О, легендарная!
Слова Вашае – дар дарагі.
Знаю, быць мне ў палоне тугі:
Процьму часу патраціў марна я...
Ах, сплаціць бы даўгі!..
За часіны натхнення магу пазмагацца,
Як бы ні назаляў шэры свет.
Я – за вольна-натхнёную працу...
Без натхнення паэт – не паэт!

*2019*

---

"Дзеяслоўцы" шчыра віншуюць
шаноўнага **Васіля Аляксеевіча ЖУКОВІЧА**
з юбілеем і зычаць яму
душэўнае трываласці, моцнага здароўя,
спору ў працы ды Божае ласкі!

Алена Брава



...цяжка

быць

рэччу...

# Карыятыда ў маціцовых кліпсах

***Апавяданне***

Яна нават не спадзявалася, што Цімона пахаваюць на Першых афінскіх могілках, у той амаль музейнай раскошы, дзе яна любіла гуляць, разглядваючы надмагільныя помнікі. Хто ён такі, гэты аматар засоўваць стрыптызёркам у майткі даляры? Па тысячы за ноч, хваліўся, мог прасадзіць у барах Маямі. Ды і Дорыс задушылася б аплочваць пахаванне братка ў такім шыкоўным некропалі, бо, здаецца, сам д'ябал устанаўліваў кошты арэнды зямлі на афінскіх могілках.

Чаго-чаго, а зямелькі яе, Сашы, радзіма сваім сынам і дачкам не шкадуе: ляжыце сабе на здароўе бясплатна.

Так што анітроху яна не здзівілася, калі Дорыс абвясціла: пахаванне адбудзецца за межамі сталіцы. Гэтая эленіда і маці сваю павезла на вясковыя могілкі – маці, якая адпісала ёй дом у Афінах, дзве кватэры і ўсю маёмасць, пакуль дурань-сын гойсаў па стрыптыз-барах Амерыкі. Цімона, зрэшты, мала засмучала, што ён у свае семдзясят мусіў арэндаваць кватэру

ва ўласнай сястры. “Якая розніца, адкуль мяне панясуць на могілкі?” Так ён казаў, папіваючы свой уза пад гукі бузукі ў таверне. Што будзе з ёю, Сашай, у выпадку ягонай смерці, яго не цікавіла. Яе ён проста не прымаў у разлік. Яна прыгадала цёмныя вочы Цімона, вузлаватыя рукі, старэчы кашаль па начах. Яна была для яго хоць і законнай жонкай, але, па сутнасці, служанкай з беднай адсталай краіны. Рэччу, якая патрэбная грэчаскаму мужчыну, пакуль ён жывы.

Можа, гэта нядобра, што яна паплакала зусім крыху, нібыта для прыліку? Але нават самая пераканаўчая дэманстрацыя гора, з драматычным раздзіраннем адзення, на манер старажытных элінак, не магла б у рэшце рэшт нічога змяніць. Не паспеў Цімон спачыць пад плітой белага таннага мармуру, як Дорыс фурыяй увárвалася ў іхняе жытло. Каб з уласцівай грэкам прагай да тэатральнасці – калі скандаліць, дык на ўсю моц! – выкінуць на вуліцу Сашыны рэчы. І яе самую, вядома.

Але не тут тое было. Такі ход падзей Саша прадбачыла, і яе рэчы, спакаваныя яшчэ ў час хваробы Цімона, знаходзіліся на віле ў Багдана, стаялі сабе ў пакойчыку для слуг. Усё ж такі нянавісць залоўкі за пятнаццаць гадоў яе загартавала. Дорыс урывалася да іх у любы час сутак, а калі зразумела, што брат мае намер ажаніцца з “гэтай русідай”, стала корпацца ў яе рэчах, каб даказаць, што яна – шлюндра. “Прыстойная жанчына не будзе насіць такія дарагія майткі!” – крычала, выцягнуўшы з шафы яе споднее. “Руская прастытутка!” – “Пацучыха пантыйская!” Так яны называлі адна адну – ласкава, анягож. Дорыс крала лісты, якія яна атрымлівала з дому, насіла да рускіх, каб перакладалі: падлюгі ўсюды знойдуцца. Аднойчы нацкавала на яе паліцыю, і быць бы ёй у вязніцы, але Цімон улагодзіў паліцыянтаў. “Грэчаскія мужчыны заўжды паміж сабой дамовяцца!” – самазадаволена казаў, калі астынамія з’ехала, і яна не раз упэўнівалася: так яно і ёсць. Дарэчы, каверзы сястрыцы толькі паскорылі іхні шлюб. Калі Дорыс пасля вяселля, як заўсёды, адчыніла дзверы сваім ключом, Саша, ужо законная жонка Цімона, загадала ёй сыходзіць, а калі тая заўпарцілася, кінула перад ёю на стол візітоўку вядомага ў Афінах адваката. Змаўчаўшы пра тое, што жонка таго адваката, Танька з Цверы, на банкеце ў свецкім коле, не саромеючыся, западрабязна тлумачыла: “Калі мой Васіліс падабраў мяне на панэлі...”

Не, Саша магла б застацца ў кватэры і пасля пахавання – з прынцыпу, на злосць Дорыс, арэнда была аплочаная да канца месяца. Але... ноччу яна так і не здолела заснуць. Ёй здавалася: зараз загучыць голас Цімона, запатрабуе цыгарэту, каву, ложак. Да апошніх дзён муж заставаўся патрабавальным у ложку, і гэта было невыносна.

Ён быў на дваццаць пяць гадоў старэйшы за яе. У Беларусі яна працавала са старымі – была інспектарам у пенсійным фондзе. І моцна шкадавала тых бабуляў і дзядуляў. Па шчырасці, яна не разумела, як трываць старасць пад змрочным небам яе радзімы, асабліва калі ты жанчына. Старасць сама па сабе цяжкі груз, а тут яшчэ робішся лёгкай здабычай любога драпежніка – хранічна недацывілізаванага жыхара тутэйшых айкумен. У Грэцыі можна старэць у сваё задавальненне – мо таму грэкі дужа жыццелюбівая нацыя. Іх старыя не хочуць сыходзіць і злуюць, што ты застанешся пасля іх. Толькі гэтым тлумачыла яна Цімонаву грубасць, пастаянныя да яе дробязныя прыдзіркі. Вера, суайчынніца, з якой пазнаёміліся ў Афінах, расказвала: яе, кваліфікаваную медсястру, наймалі да паміраючых, дык пацыенты звалі яе “рускай прастытуткай”, стараліся ўшчыкнуць, выдраць пасму валасоў. Каб не сарвацца, Вера плявала ім у ежу, а потым падавала з абавязковай усмешкай.

У яе краіне старыя іншыя. На іх тварах адбітак віны і сораму, але за што? За галечу? Тады, у сярэдзіне дзевяностых, яна прымала паўсотні чалавек у дзень.

Кліентура ў пенсійным фондзе, канечне, нервовая. З году ў год прыходзілі знаёмыя ёй людзі, у мінулым – настаўнікі, дактары... Апранутая была такая бабуля ў адно і тое ж зношанае паліто. Саша ведала: паліто жанчына купіла, калі ёй было пяцьдзясят. А зараз ёй семдзесят, і іншага паліто яна сабе за гэты час купіць не змагла. Саша ўяўляла, як тая пенсіянерка, саромеючыся, стараецца сустрэцца з унукам на яго тэрыторыі, каб не адчыняць пры ім пусты халадзільнік. Як бянтэжыцца, адчувае сябе вінаватай... Менавіта тады Саша задумалася пра эміграцыю.

Але з'ехала таму, што не прайшла атэстацыю ў сваёй канторы. Перадусім адмовілася ўнесці рубель на нейкую чарговую акцыю на карысць галадаючых на Марсе. "Я не магу дазволіць сабе займацца дабрачыннасцю". Старшыня камісіі прыўзняўся, агледзеў яе з ног да галавы. "Па вас не скажаш". Апранутая яна была насамрэч файна. Канечне, не на заробак у 25 даляраў. Пазней спрабавала растлумачыць Цімону – на што, але яны і самі сабе не маглі гэта растлумачыць. Ну, ураджай клубніцаў з лецішча прадала, набыла скураны плашч... калготкі за сем даляраў прыдбала ў палякаў... "Я не магу апранацца, як свінарка. Я прымаю людзей". Старшыня нядобра гэтак на яе зірнуў. "Што вы маеце супраць рабочага класа?" Павісла цішыня, акурат як у школе, калі яе ледзь не выключылі з камсамолу за тое, што ў выхадны пабегла на танцулькі, а павінна была ля бюста Леніну дзяжурыць. Карацей, атэставалі яе з выпрабавальным тэрмінам, і старшыня, яна ведала, сачыў за кожным яе крокам.

А тут Ірка, сяброўка, сабралася ў Грэцыю нелегальна, і яе запрашала. Не надта хацелася: муж сышоў да палюбоўніцы, дзеці малыя – як іх пакінуць? З іншага боку, грошай можна зарабіць. Рашылася. І аказалася замужам за грэкам, а Ірка – у вязніцы. Лёс! Яшчэ па дарозе туды сяброўка зблыталася з малдаванінам, а ён выявіўся сутэнёрам, вазіў Ірку па астравах, вынік – тры месяцы турмы і дэпартацыя.

Гром грымнуў у канцы выпрабавальнага тэрміну. Тады пенсіённікі яшчэ апекаваліся шматдзетнымі. Неяк зайшла ў Сашын кабінет Талаконнікава: адзіночка, пітушчая, сямёра дзяцей ад розных мужыкоў, малодшыя дзеці ў прытулках. А заходзіла яна, трэба сказаць, маляўніча: на парозе ўпірала руку ў бок – і ў крык: "Вы мне усе далжны!!!" Як ветэранцы ложкавых баталій, ці што? І вось, у чарговы раз пачуўшы "Вы мне ўсе далжны!!!", Саша спакойна адказала: "Я таксама маці, але спадзяюся толькі на сябе. Перш, чым ногі рассоўваць, трэба было падумаць, што шасцёра ўжо ёсць". І пакуль фраза гэтая з яе вуснаў злятала, да яе даходзіла, якога памеру зараз распачнецца скандал – да ўзроўню старшыні выканкама, не менш, мо і да вобласці дойдзе! – а ў мазгах білася адна думка: "У Грэцыю!"

Першыя часы яна хадзіла па вуліцах і дзівілася на шчаслівых людзей. Грэкі спявалі, танчылі, абдымаліся, гулялі да рання, пілі каву і ні пра што не думалі. Саша з сумам разглядвала апельсінавае дрэўца з нейкай кіношнай глянцавай зелянінай, з пладамі, акурат аранжавыя мячыкі для тэніса, уздыхала, думала пра сына і дачку: іх бы сюды! Але ж яна сама хаваецца ад паліцыянтаў, нібыта злачынца. Цераз дарогу была таверна, Цімон любіў заказаць там васьмінога на грылі або спанакапіту. Выкладзены мазаікай фантанчык ля таверны – гадоў сто яму, а працуе. Раніцой, пакуль Цімон спаў, яна выходзіла на балкон – чарапіца на дахах чырвоная, сцены колеру свежых вяршкоў, зялёным вадаспадам па іх бугенвілеі – рай! Згорнутыя белыя парасоны над столікамі таверны здалёк нагадвалі постаці манашак, што ў падземных пераходах Мінска прадавалі свечкі ды іконкі.

Але ўсё гэта было пасля.

Напачатку прыляцелі ў Салонікі. З турыстычнай візай на два тыдні, а як жа. У групе адны невяртанцы, "мамка" з Мінска, натуральна, у курсе, сама і трымала фірму-аднадзёнку, што пастаўляла ў Грэцыю "тавар". Саша калацілася ад страху

і, хоць была няверуючая, прасіла Бога: “Госпадзі, калі Ты ёсць, дзеля свята Пасхі не дай мне загінуць! Бо ведаеш, не для сябе – для дзяцей стараюся”. Да Афін дабіраліся цягніком, на вакзале іх павінен быў сустрэць падзельнік “мамкі”, уладкаваць у сем’і.

Але ніхто не сустрэў.

Стаяла яна на пероне, і пакрысе да яе даходзіла: зараз першы дзень Пасхі, у Афінах усе святкуюць, нікому да іх справы не будзе, як мінімум, на працягу тыдня. У кішэні сто даляраў, адзення з сабой ніякага: ёй казалі, Грэцыя – цёплая краіна. Раптам бачыць: беларуску з іх групы сустракае нейкая расфуфыраная пані. Кур’ер іншай фірмы... кінулася да яе: “Вазьміце і мяне!” Тая агледзела Сашу, засталася задаволеная: “Хутчэй за мной!” Прывезла ў дом, з кімсьці па тэлефоне пагаманіла па-грэчаску – і зноў на вакзал. Купіла ёй білет на цягнік: “Паедзеш у сям’ю з двума дзецьмі”. Назву станцыі Саша ад хвалявання не магла запомніць. Разам з ёю ў вагон сядаў пажылы грэк, кур’ерка да яго: маўляў, вось беларуска, не ведае ні слова па-грэчаску, падкажыце ёй, на якой станцыі выходзіць. Дзядуля ўсю дарогу яе забаўляў, а як пад’язджалі, даў грашовую купюру, дробную. “У Пасху прынята рабіць “дорас”. Падарунак, значыць”. Трохі размаўляў ён па-англійску, і яна – дзякуй, школа! – яго разумела. На купюры запісаў нумар свайго тэлефона. “Грошы гэтыя не траць. Калі патрэбная будзе дапамога, пазвані”. Падзякавала, дробязь тую схавала ў сумачку.

Выйшла на станцыі. Сустрэў яе грэк гадоў пяцідзесяці ў цёмных акулярах, загадаў ісці за ім. Пасадзіў у машыну, прывёз у дом. Ні жонкі, ні дзяцей... Ранкам – зноў у машыну. Дарога па серпанціне ўверх уецца, вакол горы... гадзіну... дзве... тут яна зразумела, што трапілася. І што костачкі яе ў гэтых гарах ніводная душа не знойдзе.

Прыехалі на раскошную вілу. Мармур, срэбра, крышталь. Акрамя іх, нікога. “Мы ў Грэцыі любім нетрадыцыйны сэкс”. Гаспадар прынёс порнакасеты, паказаў, чаго ад яе хоча. Адмовілася. Пасміхнуўся: куды ты дзенешся. Прынёс руска-грэчаскі слоўнік – пэўна, не першая яна там ахвяра была. Кляла сябе за дурноту, шкадавала дзяцей – як ім будзе сіротамі? Вывучыла па-грэчаску слова “жывёла”. “Ты – жывёла!” – але гаспадар толькі пасміхнуўся задаволена і прынёс новыя касеты. Калі ён з’ехаў, выцягнула купюру, трымцячымі рукамі набрала нумар, – сэрца абрывалася ад думкі: а раптам не адкажа? Раптам стары пажартаваў? Пачуўшы знаёмы голас, доўга плакала ў слухаўку. “Усё будзе добра, Аляксандра!” Улазіс, так яго звалі, абяцаў паразмаўляць з гаспадаром. Грэчаскія мужчыны заўжды паміж сабой дамовяцца... Яна ўпэўненая: толькі Улазісу мусіць дзякаваць, што над ёю не ўчынілі гвалт, не знявечылі – а што сталася з ейнымі папярэдніцамі ў той залатой клетцы? Пра гэта яна старалася не думаць.

Вызвалілі яе, аднак, не адразу. Пасля размовы з Улазісам гаспадар пакінуў яе на два тыдні ў спакоі – “падумаць”. Тэлефон адключыў. “Ты не зразумеў: я – беларуска, – сказала яна, калі ён адчыніў пакой, марная перасцярога, навошта было зачыняць яе на ключ у тых гарах? – Я магу кахацца з мужчынам, толькі калі сама захачу”. Была яшчэ адна тэлефонная размова, пасля якой ён нарэшце адвёз яе назад на станцыю, купіў білет на цягнік у Афіны, яшчэ і грошай даў, – бавоўняны кароль, адзін з самых багатых людзей у краіне, пра гэта яна пазней даведалася. Стары грэк сустрэў яе на вакзале – як жа кінулася яму на шыю! Роднага бацьку ніколі так не абдымала! Улазіс пацмокаў языком, выцер ёй слёзы і адвёз да Цімона, свайго суседа.

Восем месяцаў яна ў Цімона працавала. І лавіла на сабе ягоныя ўважлівыя позіркі. Аднойчы спытаў: “У якім горадзе жывеш? Куды едзем браць шлюб?” Не паверыўшы, пасміхнулася: “У Мінск”. Назаўтра ён з’явіўся з білетамі на самалёт.

Гэта быў цуд! Жаданне бачыць дзяцей перасіліла страх турмы. Калі праходзілі пашпартны кантроль, памежнік строга пацікавіўся, дзе яна была восем месяцаў. “Дзе была, дзе была... у мяне працавала, – адказаў Цімон. – А цяпер вязе да сябе ў Расію, жаніцца буду”. “У Беларусь”, – паправіла яна, а ў самой ажно ў вачах сцямнела ад сэрцабіцця. Памежнік падміргнуў Цімону і аддаў дакументы. Грэчаскія мужчыны паміж сабой... ну і гэтак далей. Назад яна вярталася законнай жонкай Цімона.

Саша ўзгадвае свайго грэка ў Беларусі дзевяностых і ціхенька смяецца. У шоку ён быў ад цэн і заробкаў, але найвялікшае, можна сказаць, непазбыўнае ўражанне зрабіла на яго “камерцыйная” прыбіральня, тады ў Мінску яны якраз пачалі з’яўляцца. З цяжкасцю адшукаўшы тую выгоду, пабачылі на касе кабету, неверагодна злосную нават па нашых мерках. Пачынаўся кастрычнік; на касірцы былі вязаныя пальчаткі з груба адрэзанымі, ажно ніткі тырчэлі, кончыкамі пальцаў, пазногці былі намазаныя ярка-барвовым лакам. Цімон, як загіпнатызаваны, утаропіўся на брудныя пальцы, якія хутка-хутка перабіралі грошы, – на адным красаваўся масіўны залаты пярсцёнак. А потым выказаўся – і паўтараў ёй ужо ў Грэцыі: “Вы адсталі ад элінаў гадоў на сто”.

Так ужо і на сто... Спрачалася яна з ім, бывала, да слёз – прынамсі, у тым, што тычылася цяперашніх грэкаў, бачыла яна іх без прыкрасаў, калі ў багатых дамах прыбірала. Але ў чымсьці меў рацыю Цімон. Бо здолелі ж яны захаваць усё гэта... Калі грызла туга па дому, па дзецях, яна адпраўлялася на Акропаль. Ішла вузкай вулачкай... Сучасныя дамы са шкла і бетону, а побач – астравок зеляніны і якія-небудзь двухтысячагадовыя руіны: ні табе смецця, ні пабітай бутэлькі. Увечары ўзнімалася на Лікавіт, дзвесце семдзесят метраў над узроўнем мора, усе Афіны бачныя, ляжаць перад табой у залатых іскрах. Вецер з Эгейскага мора твар абвявае, як абвяваў ён твар Пенфезілеі і тых жанчын, што аднойчы вырашылі не залежаць ад таго, ці дамовяцца паміж сабой грэчаскія мужчыны...

На Акропалі храм ёсць, Эрэхтэён, у гонар знакамітага афінскага цара пабудаваны. Скляпенне яго трымаюць карыятыды. Шэсць жанчын. Пустое, вядома, але ёй здавалася: адна з іх да яе, Сашы, падобная. Пастаццю, выразам твару, напаўсцёртага ад часу... Прыходзіла яна да сваёй каменнай сястрычкі, у думках размаўляла з ёю, – гэткая карыятыда ў джынсах, маціцовых кліпсах і з сумачкай з мінскага ГУМа. “Беларусіда”.

Як вярнулася ў Беларусь, працуе сядзелкай. З яе вопытам чаму б і не? У Грэцыі адтрубіла пяць гадоў, больш не здолела, дужа цяжкая праца – старых даглядаць. А спачатку гідам была, вазіла экскурсіі: Акропаль, рынак Монасціракі, Сінтагма, Нацыянальны сад, Дэльфы, Карынф... з-за спякоты давялося адмовіцца, улетку там за сорак. Тады і з’явіліся старыя. Галоўнай цяжкасцю былі не іхнія капрызы і дзівацтвы – паміралі яны, яе кліенты, такая вось з імі была справа... Апошнюю сваю бабулю, адзінокую астматычку, сама ж і пахавала. Пасля чаго пераключылася на прыбіранне.

Маладыя яе гаспадыні, элініды, чымсьці нагадвалі Дорыс. Першымі кліенткамі былі маці з дачкой, і сёння перад вачыма стаяць. Страшэнна багатыя – і абедзве, на яе, Сашы, думку, не ў ладах з галавой. Дачка ў маладосці вучылася ў Парыжскай Акадэміі мастацтваў, пасля дах у яе паехаў канчаткова. Малявала карціны: мужчынскія прычындалы з вушамі, вірлавокія азадкі. Несла ў артстудыю, але нікога, ясная рэч, тая пэцканіна не цікавіла. Уся шыкоўная пяціпакаёўка была застаўлена “палотнамі”. А вакол – бруд, смурод, смецце шмат гадоў не выносілася, рэшткі ежы і віна, пабіты посуд, пустыя бутэлькі... сярод гэтага хламу – старажытныя амфары з мора, з ракавінкамі на баках, сярэбраныя

трыножнікі, куды тым Дэльфам: сямейная спадчына. Гаспадыні ненавідзелі адна адну, палілі, як паравозы, попел проста на дыван страсалі, каву смакталі літрамі, пакідаючы брудныя кубкі ва ўсемагчымых месцах. Ніводная з іх ніколі ў жыцці не прыбрала за сабой! Чым абедзве ганарыліся. У яе, Сашы, абавязкі ўваходзілі паходы на рынак, гатаванне ежы, мыццё і прасаванне адзення – ну і прыбіраць у пакоях даводзілася, хоць і без фанатызму. Аднойчы яна не вытрымала, шэсць мяхоў смецця павыносіла, пакуль німфы былі на выставе жывапісу, дык маладая гаспадыня закаціла грандыёзны скандал: “Як я буду цяпер ствараць мае карціны?!” У той жа дзень Сашу разлічылі, ды яна і радая была сысці.

Пасля працавала ў суддзі на псярні – так Саша называла двухпавярховы асабняк, сапраўдныя гаспадары ў ім былі тры сабакі. Суддзя – шэрая мыш, носіць строгія касцюмы – карычневыя, чорныя. Для людзей – адна маска, для яе, прыбіральшчыцы... ну, Саша дык бачыла яе без маскі. Сышла адтуль па сваім жаданні: не спадабалася фанабэрыстасць, з якой суддзя з ёю абыходзілася. І так гэта ўразіла гаспадыню – нейкая мігрантка мае пачуццё ўласнай годнасці... абвінавaціла Сашу ў тым, што яна быццам бы скрала ў яе залаты ланцужок і пярсцёнак. І засудзіла б абавязкова, але неўзабаве сцяміла: “беларусіда” ведае ўвесь адваротны бок яе жыцця, які яна старанна хавала ад людзей. Вось павесялілася б публіка на судзе! На першым паверсе, дзе ў грэчаскіх дамах звычайна прымаюць гасцей, у суддзі шыкоўная мэбля, дарагія карціны, а на другім, куды чужых не пускаюць, сапраўдная псярня – не, горш... Калі Саша ўпершыню там апынулася, яе ледзь не званітавала. Ложак гаспадыні ў сабачых фекаліях і поўсці, усюды зямля з разбітых кветкавых вазонаў, лужынкі сабачай урыны, дарагая сабачая ежа... Вялі рэй там тры сабакі, тры здаравенныя самцы, ім дазвалялася ўсё. Так што Саша была шчаслівая збегчы адтуль. Між іншым, гэтая элініда валодае прыватным дзіцячым садком: падарунак ад багацея-таты на дзень народзінаў.

Адваротны бок жыцця тых свецкіх дам ведала толькі яна, іх хатняя работніца. Яны не лічылі яе за чалавека, а таму не саромеліся. Яна часта ўяўляла, у якім шоку былі б тыя багацейкі, калі б усвядомілі, што яна здольная думаць, аналізаваць, крытычна ацэньваць – іх, пантыйскіх грачанак! Для гэтых заможных пані яна была рабочай скацінай, як і расіянкі, украінкі, што тут працавалі, – самага нізкага класу, кшталту жывёлы.

Яны, наймічкі, найніжэйшыя карыятыды грэчаскай эканомікі, абмяркоўвалі ўсё гэта за кубкам гарбаты. Тым з дзяўчат, якія жылі з удаўцамі на правах прыслугі, было горш за ўсіх... мне, лічы, пашанцавала, казала сабе Саша. І амаль кожнае лета выпраўлялася дамоў з грашыма, якія зарабіла сваёй цяжкай працай. Адрамантавала кватэру, вывучыла дзяцей, дапамагла ім набыць жытло – а магла б і загінуць, як маці дзяўчыны з далёкай расейскай глыбінкі. Каб выкараскацца з галечы, тая жанчына з’ехала ў Грэцыю дзесяць гадоў таму, і ад яе няма вестак, пісала гэтая ўжо дарослая дзяўчына на адным з форумаў інтэрнэту, дык хоць бы магілу яе наведаць. Але дзе ты знойдзеш тую магілу?

І ўсё ж цяжка быць рэччу, за якой не прызнаюць нават права на мысленне. Таму Саша, можна сказаць, узрадавалася, калі ёй патэлефанавала Святлана, Багданава жонка. Гаспадар калісьці пачынаў простым грузаперавозчыкам у Адэсе; цяпер на тэрыторыі аднаго з нацыянальных паркаў Украіны ён будаваў сабе катэдж і займеў чатырохпавярховую вілу ў Афінах. На тую вілу яе і запрасілі – ясная рэч, не на кубачак гарбаты.

Прыбіраць вілу – запорхаешся: вокны пяціметровай вышыні, шторы з аксаміту, кілаграмаў па дваццаць кожная, здымаць іх прыязджалі спецыяльныя рабочыя. Яны ж чысцілі жырандолі, кожная метры два ў шырыню, з горнага крышталю і бронзы. Саша ўпершыню назірала, як гэта робіцца ў багатых дамах: жырандоля

абмотваецца поліэтыленам, рабочыя ўзнімаюцца пад столь і распыляюць над ёй аэразоль, каб пыл і бруд сцякалі ў пластыкавы кокан.

Усё астатняе ўваходзіла ў яе абавязкі. Адзін паверх той вілы плошчай як дваццаць палат у бальнічцы, дзе яна, Саша, лекавалася ў Беларусі. Паспрабуй хаця б падлогу ўсюды перамыць, а на ёй яшчэ дзеці, трое. Старэйшаму хлопчыку дванаццаць гадоў, блізнятам па восем. Няшчасныя істоты – абстаноўка хлусні ды страху, вось што яны мелі дома. Бацька амаль увесь час ва Украіне, а калі прыязджаў, наводзіў у доме “парадак”: роў на ўсіх нема. Пасля валяўся на канапе, разгадваў крыжаванку. “Чуеш, Сашка, аўтар кніжкі пра Тома Соера, з чатырох літар – гэта хто? А алмаз пасля агранкі як называецца?” Жонка, Святлана, такая ж “адукаваная”. Дзяцей не выхоўвала ўвогуле, бо – калі? У яе шопінг нон-стоп. Час ад часу з’яўлялася бедная ўкраінская сваячка, якой яны плацілі капейкі, тая пастаяць за сябе не ўмела, у адрозненне ад Сашы, якая за гады працы на багацеяў сёе-тое пра іх цяміла. Дзеці наведвалі каледж: філіял Кембрыджскага ўніверсітэта. Калі што не па іх – істэрыка: “Я патэлефаную тату! Ён цябе выганіць!” На ўкраінскую сваячку гэта дзейнічала імгненна, на Сашу – не. Давала старэйшаму тэлефон: “На, звані. Толькі ведай: мне сумку ўзяць – і мяне ты больш не пабачыш. Але на маё месца прыйдзе іншая. Думаеш, табе будзе лепей?” Задумваўся. “І правільна, што не тэлефануеш тату. Таму што зараз гэта зраблю я!” Так яна выхоўвала таго паніча, хоць, калі разабрацца, на ліха тое было патрэбна менавіта ёй? На кожны камень знойдзецца свой малаток.

Калі Цімон памёр, Святлана прасіла яе не з’язджаць, жыць у іх. Але яна вырашыла: хопіць. Вярнулася дамоў. І своечасова: праз паўгода крызіс у Грэцыі грымнуў. Добра, Цімону не давялося гэтага перажыць. Яна прачытала ў газеце пра старога грэка, які застрэліўся на плошчы, – Цімон мог бы, выбуховы быў. Тым больш, што Дорыс у крызіс страціла сваю нерухомасць і жыве цяпер у кватэры, якую Цімону здавала. Гэтыя падзеі яе падкасілі: хварэе, не ўстае. Дачка даслала ліст, просіць прыехаць, дагледзець маці, бо лепш за яе, “беларусіду”, – Дорыс сама так сказала, Саша сваім вачам не паверыла, – ніхто рады не дасць.

І вось яна раздумвае... можа, сапраўды паехаць? Шкада ёй старых і нямоглых, нават Дорыс шкада. Грошай вялікіх не заробіць, затое зможа прагуляцца па Акрапалі, зірнуць на сястрычку-карыятыду. На шэсць сваіх сясцёр.

Дочкі цара Эрэхтэя, якому прысвечаны той храм, былі калісьці вясёлымі зграбнымі дзяўчатамі, любілі спяваць і танчыць. Адну з іх – напэўна, самую прыгожую, думае Саша, – цар загадаў прынесці ў ахвяру багам, бо надта ўжо хацеў выйграць вайну. Астатнія прынялі смерць добраахвотна разам з сястрой, бо не пажадалі заставацца ў свеце, дзе багатыя ўладныя мужчыны распараджаюцца жыццямі жанчын. Цяпер, вядома, усё інакш, а як жа, – усміхаецца Саша, заплюшчвае вочы і падстаўляе твар ветру з Эгейскага мора, ветру, які даносіць плач, шэпты і стогны тых, каго даўно няма сярод нас.



Віктар Ярац



...да Бога верш адрасаваць не грэшны
пра чысціню дыхання беласнежжа...

# Імя на крылах

### *БЕЛАЯ БАЛАДА*

– Мама, мама, дай сарочку белую,
дай сарочку новенькую мне...
Будзе луг дзяўчатамі захмелены
(там чмялям так соладка ў траве).
– Вось, сынок, бяры сабе на радасць!
Ткалася ж на кроснах палатно
з лёну, што пад сонцам і пад градам
рос і цвіў з блакітам заадно.
Як жа ранак промнямі і ў росах
ззяе пералівамі наўкол!
Як жа свежасцю дыхнуць пракосы,
што ўсцілаюць за ракою дол!
І каго там позіркам прывеціць
сэрца трапяткое ў мураве?
І чые залётны ў поўдзень вецер
Косы варажбой сваёй кране?

...Хлопец у кашулі снежна-чыстай
зацугляў гарачага каня
і галопам да ракі імчыцца
напярэймы маладога дня.
А рака густы туман світальны –
белы, нібы неба сырадой,
выпіла і плешча прывітальна
светлаю і цёмнаю вадой.
Верны сябра бела-чорнай масці
фыркае на быстрыні рачной.
Повад закруціўся на запясці
ці ля шыі юнака пятлёй?
І юнак з чупрынаю густою
тоне, захлынаецца без сіл.
Белы сокал кружыць над вадою,
і згасае белы небасхіл.
У кашулі белай, што матуля
шыла сыну для вясёлых дзён,
жоўты жвір навек яго атуліць,
жоўты ахіне навечна сон.
У матулі ў валасах дачасна –
чорных, нібы галчына крыло,
белымі агнямі ўспыхнуць пасмы –
болю незагойнае святло...

* * *

Перапёлчына сэрца, адгукніся праз дым далячыняў
і вярні ў гэты свет і світанкі ў калоссі, і дні,
дзе на кожнай сцяблíне і раса, і дажджынкі лячылі
і зямлю, і душу чысцінёй, варажбой вышыні.

## *ВЯСНА З ПАДСВЕТКАЙ ЗІМ*

На пешаходным асфальце,
поруч з трамвайным прыпынкам,
стаяў задуменны і слухаў,
як неба прыносіла ў Мінск
з ушацкай лясной стараны
пах клейкай лістоты алешын
і хвоі смалістай дыханне.
Метал скрыгатаў, выкрасаючы
розгалас грому.
А ён узіраўся маўкліва
ці ў вокны вагонаў, ці ў тую
дзяцінства галодную далеч,

дзе месячык лустачкай хлеба
дражніўся над спаленай хатай?
За вёрстамі золкімі вёснаў –
матулі стомленыя рукі,
якія так гладзілі мякка
па шорсткай чупрыне густой...
На ўскрайку вясны, у суседстве
з трамвайным світальным прыпынкам,
што згадваў Рыгор Барадулін,
асвечаны зімнімі сцюжамі?

## *ЗАРЭЧНЫЯ ЛАСТАЎКІ*

За пасёлкам зарэчным даўні лес парадзеў...
Над салодкім дыханнем каля вокнаў акацый
Сёння ластаўкам крыллем ці маліцца на дзень
і ў прызнаннях высока ці нізка ўздымацца?
Перад споведдзю неба ў святле бліскавіц,
над упрэтымі гнёздамі перад голасам грому
гэтым ластаўкам цяжка ці лёгка кружыць –
невядома нікому.
Будуць ластаўкі мыцца, змываючы пыл.
Памаліцеся ж сёння за ўсіх, хто далёка
свой прыгадвае край, дзе калісьці малым
на паляне між ліпеньскіх сосен
быў захмелены ягадным сокам...

## *ІМЯ НА КРЫЛАХ*

Маленькі пасажырскі самалёт
гудзеў пра мёд непаспытаных вуснаў
над выдыхам бароў, дыханнем вод
шырокіх рэчак і рачулак вузкіх.
Тваё імя пагойдваў ціха так
і калыхаў яго так асцярожна
на крылах, як раскінутых руках,
над скошанай травой,
над спелым збожжам.
Палескі перавозчык-сувязны,
нябесных ліній рабацяга сціплы
пасля не раз наведаецца ў сны
зімой, дзе голас у вятроў асіплы.
Непаспытаны летам вуснаў мёд
разбудзіць ночы, вёрсты небасхілаў.
І праз гады маленькі самалёт
імя тваё пагойдвае на крылах...

## НАРВЕЖСКІЯ ВОБЛАКІ

На астравах Элады сёння сонечна:
там верасень – з інжырам на губах.
А нада мной ідуць аблокі з поўначы –
з вараг у грэкі пракладаюць шлях.

Іх вецер гоніць да паўднёвай далечы,
дзе кіпарысы подыхі вады
выслухваюць, дыханнем веццячы славячы
зямлі, і мора, і нябёс гады.

У чарады, вандроўніцтвам натомленай, –
сустрэчы з вышынёю цеплыні.

...Азёрамі, гарамі і фіёрдамі
пра поўнач родную там будуць сніцца сны,
на поўнач родную там будуць клікаць дні...

* * *

Гарэлі свечкі ў храме, а за вокнамі
вада сцякала з даху – раставаў
кастрычніцкі снег валкі. Елкі мокрыя
з ядлоўцам слухалі спакой
яшчэ зялёных траў.
Кусты шыпшыны ў ягадах парэпаных,
чырвона-жоўтых, тайны берагді
суседніх астраў позніх – разам з ветрамі
хрысціў іх грозны гром,
лавілі матылі.
Чые грахі з пагаслымі рамонкамі,
завялымі, замольваў кожны міг –
ён быў і вераб'ём, і голубам, і воблакам –
і лашчыў толькі небу вечны слых?..

## РАННІ СНЕГ

Так рана выпаў снег... І тое лета,
што бабіным завецца кожны год,
у восень гэтую за далеччу, за светам
ці круціць з ніццю белай калаўрот?
Ці не таму ты абмінула меціць
і вецця мнагацвецце, што на ім
тваёй вясны апошняй сум па леце –
расстання сум, як нерастайны дым?

Клубкі схаваны бабінага лета
за плёсамі і Сожа, і Дняпра,
нібы замоваў сонечных сакрэты,
што зелле ведаюць ад самых цяжкіх ран.
Так рана выпаў снег...
Яшчэ і рэхам летнім
не адгукнуўся над зямлёю гром –
над слыхам дрэў і траў...
Каму ж прыветам
сняжынкі восені за ранішнім вакном?

### ***ВОСЕНЬ ЗА ГОРАДАМ***

Познюю моркву там восень дакопвае сёння,
яблык халодны зрывае, наліты зарою густой,
з хмарай і сонцам неба – карцёжнік бяссонны –
з інеем золкіх запросін тасуе калоды лістоў.
Сёння там вожыкі грэюцца ў стозе з мышамі,
Крот – далакоп перад снегам буравіць зямлю,
бор над ракою з апёкамі летніх выжарын
ведае: ён абароніць ад сцюжы вужа і змяю.
Даўнасці словы, такія, як, “прызба” і “жорны”,
вушы не ловяць новых цагляных сяліб.
Бітлаў грымотнае рэха, байкераў грукат мажорны
Не абмінаюць царкоўны слых і малітвы ліп.
Сёння там хтосьці ў госці здалёку ці зблізку
імчыць іншамаркай бліскучай ці тупае зноў
пехатой?
познюю моркву дакопвае восень.
Пранізлівы
вецер каго перапытвае
спрадвечным пытаннем:
– Ты хто?

### ***АПАЛЬНАЯ ПОЎНАЧ БРОДСКАГА***

За горад высылалі ў край паўночны,
дзе хаты цёплыя ў замеценым сяле
яго не геніем пяра – чорнарабочым
прымалі, разумелі, як свае.
І на чале выразна выступалі
маршчынамі трывання той парой
абрысы берагоў далёкай далі –
там будуць і свой боль, і неспакой.
Але пакуль за акіянскай гладдзю,
за штармавой высознаю сцяной

яго прывеціць слава і пагладзіць –
яму з паморскай гаварыць сасной,
з паморскім ветрам думаць пра бязмежжа,
чытаць журбу вачэй і коней, і кароў,
і ў свеце, цесным ад правадыроў,
да Бога верш адрасаваць не грэшны
пра чысціню дыхання беласнежжа...

* * *

За якою за высокай брамай
на запорах, на засовах на каляных
не сурочаныя сонечныя дні?
Там лісток – дзіцём крылатым светлыні.

## ***ПАЛЕСКІ ЛЕТАПІС***

Сухавей працінае дыханне палёў.
Ад вятроў-скавышоў сохне дол перагрэты.
Дзе рачулка плыла між густых чаратоў –
іржавее канава прагрэсу прыкметай.

Тарфяныя палеткі ўзбоч бетонкі-шашы
задыхаюцца ў спёку, як рыба ў бязводдзі.
А на золку расінка на зёлцы дрыжыць
успамінам пра дождж – ён даўно абыходзіць.

Бараваяігліца ўсцілае гусцей
след ласіны, лісіны і след чалавечы.
Дух смелай жывіцы да сонца расце –
душны дух, нібы з вогненнай печы.

І бліскучаю трасай плывуць, як міраж,
легкавушкі і фуры, глытаючы вецер.
Ліст сарвецца з бярозы ў дачасны віраж
над чыім сёння сэрцам у леце?

Цягне дымам з гарадскіх ускраін –
пахне ён брыкетам тарфяным
і вуглём. Даносіць ветрам раннім
ад жылля панэльнага той дым.

Духам не прадзедаўскай махоркі –
гаркатой з цагляных камінoў
прычасцяцца ў небе рэшткі сноў
у святле слабым апошняй зоркі.

Фортку прыадчыніш прывітацца
з белым светам – ды не белы ён.
Дым плыве – ён лепей радыяцыі, –
цешыцца хоць тым мікрараён...

### КРЫЖ НАД ХРАМАМ

За чые грахі
на гэтым свеце
споведзь шлеш маўчаннем над зямлёй,
над сцяжынкай,
што ўпадзе на вецце,
над дажджынкай,
што цалуе квецень,
над анёлкавай
дзіцячай галавой?

* * *

Блізка за вёскаю міна апошняй вайны
выйшла пад трактарным плугам –
свая ці чужая?
Лужуць фасолю бабулі ў вянках сівізны.
Згадкі – не дзікія пчолы, не восы,
а востра так джаляць...

* * *

Кружаць высока голуб і галубка
ў сіняве нябёс.
Воблакі, як беленькія шлюпкі,
на які плывуць далёкі плёс?

* * *

Нібы шчытом літым з дамаскай сталі
ты засланяла ад калючых стрэл
і позіркаў, і слоў – а іх нямала
пад сонцам і пад хмарамі сустрэў...
У пасівелых днях пра мёд пчалы
пад голлем ліп старых і векавых акацый
каго спытаць на дзедаўскай зямлі,
дзе пчаляроў і пчол не дагукацца?

* * *

Міма крылаў птушкі праляцяць драбінкі
ці крануцца сэрца – варажы,
неба.
За чыю душу дрыжыць
з рыжаю чупрынай чарацінка?
Моліцца світанню луг расою,
у якім не конь, а конік скача
і ў касцюмчыку зялёным вечнага фасону
слухае:
страляюць дзікіх качак...

* * *

Калі шукае прадзедаў аблiччы
душа, а скрозь – глуханямы туман,
за гук адзіны ранішні крынічны
аддам начны бязмоўя акіян.

## ІМЁНЫ

А карцела так набрыдзі рознай,
каб па-іхняму тут размаўлялі –
тое помняць лугі-меданосы,
берагі і Дзвіны, і Лані...

Колькі іх, і нахабных, і прагных,
ні глумілася б тут –
у стагоддзях,
пра імя сваё помніць і смага,
і вадзіца,
што смагу ўлагодзіць.

## СЫН ВЯСНЫ

Крывёй ці запякліся вусны,
калі ішоў на эшафот
сын летуценняў Беларусі?
Маўклівы люд.
Набухлы лёд.

На рэках плавіцца світальных
прыгон і сцюж, і нематы.
Пра што спяшаў
у міг расстайны
сказаць праменьчык малады?

* * *

Адкружыцца лісце – і потым
зацягнецца возера лёдам.
Хтосьці юны з гуллівай усмешкай
кіне снежку на белую сцежку...

* * *

Астылыя гнёзды
вартуюць сініцы.
Ваду масажыруе вецер.
У познім,
злінялым за лета блакіце
хмурыны – парваныя сеці.

А голас далёкі
і смех твой вясновы
ні ў рэчцы, ні ў небе не тоне.
І ўсё, што было,
сёння рэха з дубровы
паўторыць пад зоркай бяссоння.

Усё, што гукала
ў завеях пялёсткаў,
у завязі саду старога,
падкажа пад кручай
з ільдзінкамі плёскат,
падкажа ў сняжынках дарога.

Усё, што праз вецце
імкнула да сэрца, –
праз цёхкат надрэчны абложны,
лавілі нябёсы ў блакітныя сеці –
там выдых не толькі мурожны.
Астылыя гнёзды вартуюць сініцы.
Ваду масажыруе вецер.
Як рыба, стагоддзі
ў азяблым блакіце
варушаць нябёсныя сеці.

## ШЧОДРАЯ ЗЯМЛЯ

Спілавалі пад корань векавыя дубы і яліны,
а ўспаміны пра іх вецер носіць да вокнаў чыіх

і пад крыллем буслоў, і пад крыкам чарод жураўліных
разам з рэхам дняпроўскіх і прыпяцкіх крыг?

Пра жыццё баравое летапісцамі даўнія сосны
пакідалі кругі на шырокіх палях пад карой,
у якіх год звычайны і год высакосны
апавіты маланак дыханнем і жывіцай густой.

За рублі, за валюту тралявалі налева, направа
ўсе эпохі зусім не патроху сілу цела, моц духу
старажытнай зямлі,
на якой і ў зялёнай, і ў жоўтай аправе,
як смарагд і бурштын,
сказы свету дарылі ствалы.

У лясах над вялікай ракой і рачулкай маленькай
новы час не з кавенькай –
з бензапіламі
выглядае: каму найхутчэй
і за "бабкі" якія загнаць
магікан ацалелых?

А дубы і бярозы,
і сосны з ялінамі
і ў гадах пасівелых
мрояць голлем жывым
на агеньчыкі зор веславаць...



Валеры Гапееў



...чалавека лёгка

ператварыць у звера...

# І хай ніхто не пойдзе пакрыўджаным, або Грак і Монця Хрысцік

***Чытво. (Фрагмент)***

**Частка 1**

Вечарам у сераду 15 сакавіка 2006 года прафесар Андрэй Кузьміч Мархель закончыў у поўнай цішы кабінета вычытваць чарговыя старонкі работы магістрантаў Мацвея Хрысціка і Данілы Галоўчыка. Акуратна адсунуў убок аркушы, дзе-нідзе з пазнакамі простым алоўкам. На ягоным грубых формаў твары з'явілася задаволенасць, ён хмыкнуў і зірнуў на юнакоў, якія ўвесь гэты час сядзелі на рудой скураной канапе. Магістранты ведалі характар свайго кіраўніка, таму за час чытання стараліся дыхаць як мага цішэй.

– Добра, вельмі добра, – Мархель паклаў цяжкую, шырокую, рыхтык рабоча-сялянскую, а не інтэлігенцкую

далонь на тонкі стосік паперы. – У аўторак мы з вамі сустрэнемся, да гэтага часу я сфармірую дакладныя заўвагі, будзьце гатовыя да пытанняў. Напярэдзе выхадныя, адпачывайце.

Магістранты – хударлявы Мацвей, з тварам дзіцяці, які глядзіць на фокусніка, і цыганкаваты Даніла – падняліся з канапы.

Прафесар выйшаў з-за свайго стала, паціснуў абодвум рукі.

– Мацвей, беражы галаву, да сапраўднай вясны яшчэ далёка, я яна, твая галава, і табе, і мне спатрэбіцца, – пажартаваў ён, але ў інтанацыі і асабліва ў позірку Мархеля прабіліся чуллівыя бацькоўскія ноткі.

– Ды ў мяне во, валасоў многа, – трохі зніякавеў ад такой увагі Мацвей, даланёй паправіўшы і насамрэч густую чупрыну доўгіх русых валасоў.

– Ага, многа, – прафесар ужо ціснуў руку Данілу. – А ты разам з галавой рукі беражы, бо як казаў адзін вядомы дзед, практыка без тэорыі сляпая, але тэорыя без практыкі мёртвая!

– Буду берагчы, Андрэй Кузьміч, – з ліслівай усмешкай адказаў Даніла. – Гэтым рукам яшчэ не адзін прыбор сабраць.

– Пад маім кіраўніцтвам адзін – абавязкова! – усміхнуўся прафесар, потым па ягоным твары прабег цень, і ён загаварыў сур'ёзна: – Сябры мае, хачу вас не тое каб папярэдзіць, але перасцерагчы. І як старэйшы сябра, і як ваш навуковы кіраўнік. Падзеі ў краіне наспяваюць не самыя прыемныя. Калі вы ўжо сталі на сцежку навукі, калі ласка, не збочвайце. Разумею, кроў іграе, вы маладыя, арганізм патрабуе выхаду эмоцый. Але: палітыка – не справа вучоных. Альбо – альбо. Таму не ўвязвайцеся ні ў якія гульні, не патрапце ў пэўныя месцы ў пэўны час. Найлепш будзе, калі ў гэтую нядзелю вашым 24-гадзінным месцам будуць вашы пакоі. Няхай з півам і жанчынамі. Няхай у вас будуць пасля ўсіх падзей учадзелыя ад гульбішчаў галовы, але – катэгарычна – ніякіх кантактаў з самі ведаеце кім ні пад якім соусам. Сваю пазіцыю рэктар агучыў недвухсэнсоўна: усякі студэнт ці магістрант будзе адлічаны за 24 гадзіны, калі выявіцца хоць дробка ягонай апазіцыйнай дзейнасці. Паверце мне, тут зусім не жартачкі. Будзеце разумнымі! Усё, ідзіце.

Юнакі пайшлі да выхаду, прафесар вёў іх позіркам і, калі дзверы адчыніліся, кашлянуў:

– Прабачце, яшчэ адзін момант. Непрыемны па факце.

Юнакі крутнуліся, насцярожаныя.

– Такія справы, – Мархель вінавата паглядзеў у твар кожнаму. – Аспірантура на наступны год дала мне адно месца. Колькі я ні выпрошваў, колькі ні патрабаваў, колькі ні даказваў. Фінансаванне скарацілі, і чакаецца, што яно будзе ўрэзанае яшчэ больш, бо ж... Бо ж гэтыя палітычныя гульні ў дэмакратыю выцягваюць з нашай жабрацкай краіны апошнія сокі! – не ўтрымаўся, але ж не закрычаў, адно засіпеў ад злосці прафесар. – Прабачце за эмоцыі, – спыніў ён сябе. – Нават на абурэнне мы цяпер права не маем. Хрысцік... вам забяспечана месца. А за вас, Галоўчык, я буду змагацца, абяцаю...

Мархель адвярнуўся ў кут, даючы зразумець хлопцам, што размова скончаная. Яны выйшлі, асцярожна прычынілі за сабой дзверы. Доўгім гулкім калідорам універсітэта з запыленай ляпнінай на карнізах яны ішлі моўчкі, пераварваючы пачутае. Пяць гадоў ва ўніверсітэце, магістратура, разам паўсюдна, і атрымліваецца: адзін плыве далей, другі застаецца на беразе.

Высокія ўваходныя дзверы будынка натужліва рыпнулі. На вуліцы ішоў рэдзенькі снег.

– Ну, шчасліўчык, далей нам не па дарозе? – з горыччу выціснуў з сябе Даніла, укладаючы куды больш сэнсу ў сказанае, чым толькі тое, што зараз Мацвею ехаць на сустрэчы з пяцікурсніцай Маргарытай (ці Марго, як называлі яе ў вочы і за вочы).

– А? – адгукнуўся Мацвей, выныраючы са свайго ці не заўсёднага задумення. – Ага, я паеду... Марго абяцала сёння сустрэцца, – дадаў ён вінавата.

– Ды едзь, мне што... хіба я супраць? – быццам абыякава паціснуў плячыма Даніла, а горыч прабілася не ў словах, а ў паўзах. – Сёння твой дзень, сышліся зоркі! Месца ў аспірантуры атрымаў, намалёўваецца перспектыва стаць зяцем акадэміка. Не жыццё – талерачка з маслам.

– Ай, кінь, – усміхнуўся дабрадушна Мацвей. – Марго... Мабыць, я не падыходжу да іх сям'і. Яны ж там – інтэлігенты ў пятым калене, а мы з табой – з сем'яў простых, з райцэнтраў правінцыйных.

– І яна цябе распытвала пра твой радавод? – з іроніяй пацікавіўся Даніла.

– Пытала, канечне, і пра сваіх з гонарам казала... А я са сваіх не далей за дзядоў ведаю, прыкра было, – згадаў Мацвей. – Пра прадзедаў і не пытаўся ў маці... Ну, я пабег...

Хлопцы якраз падышлі да метро. Мацвей махнуў рукой, паправіў заплечнік і подбегам спусціўся па прыступках. Даніла глядзеў яму ўслед, і міжволі сківіцы яго сціснуліся, уздрыгвалі жаўлакі. Яму было не тое што крыўдна – ён у нейкі момант здрыгануўся ад думкі, што гатовы кінуцца ўслед за сябрам і спіхнуць яго з платформы пад цягнік.

Каб вызваліць сабе дарогу. Бо Мацвей яе засціў.

Але пасунуўся далей па тратуары – да прыпынку аўтобуса, каб праз паўгадзіны апынуцца ў цесным пакоі інтэрната.

Даніла зайшоў у калідорчык, пачуў, што ў суседнім пакоі грае музыка, – там жылі два пяцікурснікі, з якімі не тое каб сяброўваў, але адзін з іх, Андрусь, гэтакі мацак-паляшук з вясковым тупаватым тварам, граў на ўсім паверсе немалую ролю ў жыцці інтэрнатаўцаў. У яго заўсёды вяліся грошы, мог пазычыць на любы тэрмін. Пры гэтым не сказаць, каб ён недзе прападаў надоўга вечарамі, падпрацоўваючы ў якім Макдональдсе, – ягоная праца, відавочна, была звязаная з выкананнем нейкіх разнастайных даручэнняў, надта не абцяжарваючых фізічна і часова, але ж аплачвалася нядрэнна. То павага да Андруся была, факт.

Даніла не стаў адчыняць дзверы ў свой пакой – шчыліна свяцілася бледным святлом, значыць, ягоны сужывец, другакурснік, зноў занурыўся ў свае кніжкі. Не пашанцавала: занудны і нецікавы хлопец, нават піва з ім не пап'еш. А ў душы клекатала, хацелася выгаварыцца. Таму таўхануў суседскія дзверы. Яго сустрэў з добразычлівай усмешкай Андрусь – ён увогуле ні да каго не ставіўся варожа, сваімі паводзінамі як быццам запрашаючы даверыцца яму і сябраваць.

– О, будучаму вучонаму – нашая павага! – выгукнуў Андрусь. – А ці не будзеце грэбаваць падзяліць сціплую вячэру з правінцыяламі, які марна пхнецца зачапіцца хоць кіпцюрамі, хоць зубамі ў навуковай эліце?

На стале стаяла літровая пластыкоўка піва, на талерцы – парэзанае на трэць колца тонкай сыравэнджанай каўбасы, хлеб. Даніла не ўтрымаўся –

праглынуў сліну. Парукаўся з гаспадаром пакоя, зачапіў пальцамі кавалачак каўбасы, закінуў у рот.

– Што святкуеш?

– Якое святкуеш? Піва захацелася, ды і вольны заўтра. То чыста пасялянску, яшчэ вось агурочкаў дастану, – Андрусь палез у халадзільнік, выцягнуў трохлітровік і відэльцам спрытна патрапіў і выцягнуў па чарзе два апошнія агуркі. – Як справы? Нешта ты хмурны. Непрыемнасці?

Даніла сеў на лёгкае крэсла, зірнуў паблажліва на суседа, які акуратна наліваў піва ў шклянкі.

– От ты мне скажы, Андрусь... На цябе глядзіш – селянін селянінам, здаецца, падыдзі бліжэй – гноем патхне. І апранахі на табе хоць і не з сэканду, але бы чужое на табе. Ты не крыўдуй... Але бачыш ты людзей.

– А што крыўдаваць? – адмахнуўся Андрусь. – Я ж у люстэрка сябе бачу. Ну так, ад зямлі, і зямля з-пад пазногцяў ніяк не выкалупваецца. Бачыў бы ты тую вёску, у якой я нарадзіўся і рос – ваўкі зімой па надворку шнырылі. Пазней ужо ў райцэнтр пераехалі. Маці з бацькам паўкабана дырэктару ліцэя завезлі, каб узяў. “Вучыся, хоць каб ты з віламі не пражыў жыццё”. Два тыя гады я начамі не спаў – вучыў. Усё ў лепшыя меціў. Ну во і паступіў сюды... Ат, вучоба – не галоўнае, тут дапяў. Фарту як не будзе, то згніеш там, дзе нарадзіўся. Мне во што свеціць? Па размеркаванні ў які калгас, інжынерам ці загадчыкам мехмайстэрні. У жонкі вазьму, як пашанцуе, настаўніцу з тых, што па размеркаванні гэтаксама запруць у балота, нараджаем аглаедаў, будзем бульбу садзіць, парсюкоў гадаваць... Перспектыва! – з лёгкай горыччу выгукнуў ён.

– Не-а, не веру, – уважліва паглядзеў на праставаты твар сябра Даніла. – Ёсць нешта ў табе... Умееш ты жыць. Думаю, у балоце гніць табе не наканавана. Бачна ж, не мамка табе з дому грошы шле, круцішся неяк. І спрытна круцішся. Колькі табе на паверсе завінаваціліся?

– Ды я не трымаю ў памяці такое, вунь блакноцік ёсць, – прастадушна кіўнуў на сваю тумбачку Андрусь. – Кручуся, анягож.

– Я б на тваім месцы гэтакім шчодрым не быў, – Даніла адпіў са шклянкі.

– Ну, нейкія капейкі ж маю ад працэнтаў, у дабрачыннасць не гуляю. Ды справа ж не толькі ў грашах, – прымружыўся Андрусь, і Даніла заўважыў мо першы раз у вачах хітраваты, нават драпежніцкі бляск. – Некаму я дапамагу, нехта мне дапаможа. Як людзі табе вінныя, дык ахвотней пагодзяцца. Некаму і даруеш, дык ён табе руку некалі падасць.

– Ага, разагнаўся, – рагатнуў Даніла. – Людзей ты не ведаеш, ці што?

– Ды ведаю, – адмахнуўся Андрусь. – Людзі ў наш час страшныя. І на вёсцы страшныя, што ўжо пра горад казаць. Усе па галовах да свайго ідуць. Ды нехта і запомніць. А нехта захоча яшчэ раз пазычыць. Ёсць карысць, – ён загадкава ўсміхнуўся. – З людзьмі трэба па-людску. Дарэчы, ты так і не адказаў: непрыемнасці ў цябе?

– Больш чым, – Даніла сам даліў у шклянку піва, выпіў залпам. – Фіяска. Катастрофа. Тупік, бля!

– Ого! Сапраўды? А праз што?

– Праз каго... Мне мой сябар лепшы ўрабіў.

– Мацвей? – нечакана наструніўся Андрусь.

– Мацвей... – пацвердзіў Даніла. – Я не трапляю ў аспірантуру. А ён – ідзе. Такім чынам, мяне заграбуць у армію. Бляха, як жа я ненавіджу гэта...

– Варта было чакаць, – пракаментаваў Андрусь прызнанне магістранта.
– Што чакаць? – напружыўся Даніла.
– Ад Мацвея варта было гэтага чакаць, – засяродзіўшыся ў сабе, адказаў Андрусь. – Мы з ім у адным ліцэі ў райцэнтры вучыліся. Маці мая – простая калгасніца некалі, дворнічыхай працавала, а ягоная – выкладчыца ў ліцэі. Колькі яна з мяне крыві выпіла... Мову выкладала. Самая нізкая адзнака ў атэстаце – яе. Ды то не бяда. З такой пагардай яна глядзела на мяне, як на чарвяка. Пры ўсіх была сказала, маўляў, з такога калгасніка як я, выйдзе адно калгаснік з дыпломам. Нічога, некалі я дакажу ёй...
– Дык вы землякі з Мацвеем? – здзівіўся Даніла. – Год побач жывём, а не ведаў.
– Вось, ён нават і не прызнаецца... – скрывіўся Андрусь. – Навучыла маці, з кім знацца, кім грэбаваць. Землякі... Дзе яму каго бачыць? Ён жа – зорка! У ліцэі насіліся з ім, як з пісанай торбай. Што ты – на абласной алімпіядзе першае месца па матэматыцы, такі поспех. А далей і на рэспубліцы – другое. І штогод пасля ездзіў на ўсякія там канферэнцыі, семінары.
– Ды ён і ва ўніверы свяціўся, як лакіраваны, – працадзіў скрозь зубы Даніла. – А што б ён змог без мяне? Ягоныя ўсе ідэі – гэта як дзіцячыя фантазіі! Трэба было ўбачыць у тых ідэях рэальнае, практычнае. Я – бачыў. На трэцім курсе разам працу напісалі – кіраванне сістэмай з выкарыстаннем інфармацыйнага канала дадзеных. Я сабраў мадулятар, настроіў, па ім можна было серыю ў вытворчасць запускаць. На кафедры работа шум узняла – на патэнт жа пацягнула, па ёй доктарскую напісалі. А ўся слава – Хрысціку! Мяне нібыта не было. Над новай распрацоўкай заселі, а што былі б ягоныя голыя ідэі без мяне? Ну няхай ён фантаніруе пражэктамі, а ўмець бачыць карыснае, адсейваць?! – Даніла разгарачыўся, крычаў. – І цяпер ён – у аспірантуры, а мне ў боты вайсковыя?! Поскудзь!
– Не здзіўляюся, – пакрывіўся Андрусь. – Усе заўсёды ў ягоным цені. Умее сябе падаць. Такі ўжо сціплы, такі задуменны... А насамрэч ён нас не бачыць, мы не людзі для яго. Сціплы, ага...
Стукнулі дзверы ў калідорчык, нехта таргануў, пастукаў у пакой да Данілы, і ён крыкнуў голасна, раздражнёна трохі:
– Тут я!
Дзверы адчыніліся залішне імкліва – так уваходзяць альбо гаспадары, якія спяшаюцца, альбо нязваныя госці, упэўненыя ў сваіх нахабстве і сіле. Так і было: зайшоў пяцікурснік Раман, ростам пад два метры, шыракаплечы. Твар ягоны быў злёгку перакошаны ад злой рашучасці.
– Вітаю, – сказаў ён скрозь зубы без прыязнасці, пабачыўшы ў пакоі Данілу і Андруся. – А дзе той гліст смаркаты? Я ў ягоны пакой заходзіў, там няма. Сужывец-заморыш сказаў, што вы разам.
– Што ж ты так непаважліва ставішся да нашай будучай гордасці, можа, – нобелеўскага лаўрэата будучага, га? – рагатнуў Даніла.
З Раманам яны былі знаёмыя з год. Асаблівае сяброўства раней не заводзілася, бо не было датуль агульных інтарэсаў: Раман вучыўся на іншым факультэце, мінчанін. Розныя тусоўкі. Спартсмен, кандыдат у майстры па грэблі. Рукі ў яго што абцугі. Вучоба яго цікавіла мала, ён ведаў, што выгоднае месца яму забяспечыць бацька, высокі чыноўнік у міністэрстве, ды і ў маці, якая займала пасаду ў клінічнай бальніцы дзяржапарату, хапала патрэбных нітачак у руках. Калі Мацвей пачаў раз на тыдзень

сустракацца з Марго, Раман выпадкова спаткаў іх у начным клубе. Марго на заняткі хадзіла і трымалася дастаткова сціпла, апраналася, прыхоўваючы прывабныя формы цела, а ў начным клубе дазволіла сабе пабыць сапраўднай сэксі. І Раман запаў. Ён быў дагэтуль распешчаны ўвагай дзяўчат і маладых жанчын, лёгка заводзіў знаёмствы, трымаючыся пашлавата-жартоўнай манеры, але з Марго, знешне вольнай ад лішніх межаў прыстойнасці, як яе разумеюць рэтраграды, атрымаў адмову ў здзеклівай форме. Раз'юшыўся, але стрымаў сябе. Ён запрасіў выпіць Данілу, які быў тады трэцім колам у веласіпедзе ля Мацвея і Марго, распытаў: што за краля недатыкальная? Даніла, удзячны за неблагую выпіўку, прызнаўся, што сам пакуль не ведае толкам – то была першая такая сустрэча за сценамі ўнівера. Але абяцаў інфармаваць пры патрэбе, як што выявіцца. Абмяняліся нумарамі тэлефонаў, праз нейкі час Даніла пазваніў. Зноў сядзелі ў кавярні, Даніла расказаў: бацька Марго – акадэмік, маці – доктар навук. Пазней ён даведаўся праз Мацвея нямала пра дзяўчыну: ці любіць кветкі і якія, якім парфумамам карыстаецца, што любіць глядзець...

– І яшчэ, каб ведаў, – казаў пазней Раману. – Яе бацькі – вялікія дзяржаўнікі. Так што каб ніякай палітыкі. І сама яна выхаваная ў тым жа рэчышчы. Не актывістка, але мае вельмі катэгарычныя погляды адносна нацыяналістычных гульняў...

Запомніўшы пачутае, Раман у хуткім часе без цяжкасцей выклікаў да сябе прыхільнасць Марго. Як ён зразумеў, дзяўчына не была абцяжараная вялікімі пачуццямі ні да каго, таму Раману яна таксама не адмаўляла ў сустрэчах. А праз колькі часу сама са здзіўленнем выклала навіну: аказваецца, іх бацькі – яе і Рамана – знаёмыя, амаль сябры, бо даводзілася раней супрацоўнічаць! Для Рамана гэта было найлепшым знакам. Ён асцярожна паказаў Марго, што трошкі раўнуе яе да сустрэч з Мацвеем, якія яна не спыняла, на што дзяўчына адказала: ніхто не мае права абмяжоўваць яе волю, а Мацвей – вялікае дзіцё, ёй падабаецца яго выхоўваць і настаўляць на розум.

Ды Раман пакрысе зараўнаваў па-сапраўднаму. Хоць адносіны з Марго не зайшлі далей за сяброўскія пацалункі, але, хлопец адчуваў, яшчэ трошкі, і справа вырашаная. Да ўсяго, ён па-сапраўднаму запаў на дзяўчыну. Ды яшчэ бацькі мякка намякнулі: не будзь дурнем, не ўпусці такі шанец. Таму тыдзень назад ён прыходзіў у пакой да Данілы, дзе знайшоў Мацвея, акуратна згроб яго за грудкі, прыўзняў над падлогай і папярэдзіў спакойна: Марго – не ягонага поля ягадка. І лепш яму ціхенька збочыць і не паказвацца на вочы дзяўчыне. Іначай у нейкі дзень будзе збіты на горкі яблык.

Што праўда, Мацвей нечакана псіхануў тады. Глядзі ты, сапраўды, худы, як гліст, хліпкі, а трымаўся, як той юнак на допыце.

– Паспрабуй і атрымаеш вялікія непрыемнасці, – прасіпеў здушана ён.

Раман, па праўдзе, разгубіўся на момант, паставіў магістранта на месца. Чорт яго ведае, якія там у яго ёсць сувязі, каб сапсаваць жыццё? Сёння кожны другі мае тыя ці іншыя падвязкі. Можа, у яго дзядзька – суддзя які значны ці пракурорскі работнік? Каб жа ён ведаў, што Мацвей, акрамя іншага, захапляўся псіхалогіяй, і паколькі сілай не вылучаўся, то меў у сябе на ўзбраенні невялікі арсенал практычных прыёмаў, каб уплываць на праціўніка, а як пашанцуе, дык і перамагчы.

У гэты вечар, відавочна, псіхалагічныя прыёмы наўрад ці ўратавалі б Мацвея, бо Раман быў злы, як чорт – крылы ягонага вялікага носа разляталіся ў бакі і сцягваліся назад ад сапення.

– Я яго папярэджваў, каб не лез да Марго! Сёння ў мяне білеты ў тэатр былі!

– Ого, ты зацікавіўся драматургіяй? – падначыў Даніла, але ўмомант змяніў свой тон пад злым позіркам Рамана: – Прабач, разумею... Сядай да нас, хоць, па праўдзе, частавацца асабліва няма чым...

Рамана ацверазілі гэтыя словы, мабыць, ён згадаў, што за ўсялякую інфармацыю пра Марго і яе справы з Мацвеем абяцаў частаваць Данілу ў любы час, як ні завітае.

– Прабач, ды ж як пазваніў, сказала, што ўжо запрошаная на мінулым тыдні на сёння, дык выскачыў з хаты без грошай.

– Шкада, халера... – задумліва прагаварыў Даніла, і было не надта зразумела, аб чым ён больш шкадуе: што Раман без грошай ці што не застаў Мацвея.

– Грошы – не праблема, калі ёсць сябры, – адважыўся ўвязацца ў гутарку Андрусь, які да гэтага часу маўчаў, злёгку перапалоханы ад уварвання ваяўнічага Рамана.

– Ну, за пазычаныя гуляць – не задавальненне, – паморшчыўся Даніла, бо ён быў вінен Андрусю пэўную суму і не хацеў яе павялічваць.

– Але ж ёсць магчымасць і зарабіць...

– Во зараз? І як? – здзіўлена зірнуў на таварыша Даніла.

– Давай, заробім! – выгукнуў Раман, шумна сеў за стол. – Душа гарыць, нечым заліць яе неабходна...

– І душу заліць, і падумаць... – загадкава прадоўжыў Даніла, павярнуўся да Андруся: – Рэальна цяпер зарабіць?

– Рэальна, – хітравата ўсміхнуўся Андрусь, ягоны праставаты твар быў падобны ў гэтую хвіліну на гандляра хамутамі на рынку. – А наколькі я магу давяраць спадарству? Прашу прабачэння, як незнарок пакрыўдзіў каго.

Даніла зразумеў, што Андрусь кажа сур'ёзна, таму адказаў цвёрда:

– Раману я веру як сабе. Ты верыш мне – вер Раману.

– Добра... Я прычыню дзверы...

Даніла з Раманам пераглянуліся. Яны былі заінтрыгаваныя. У вачах Рамана адбіўся лёгкі неспакой, Даніла ціхім голасам яго супакоіў:

– Не нервуемся раней часу. Андрусь – не дурань. Хіба на выгляд просты...

А Андрусь за гэты час прымкнуў знутры дзверы, выцягнуў з-пад ложка аб'ёмістую валізу, пакорпаўся, пашамацеў паперай і пластыкам, прыцягнуў і паклаў на стол загорнуты бы том якога класіка. Нажом надрэзаў паскі ліпучкі, расхінуў абгортку.

То быў стос тонкіх каляровых лістовак.

– Тваю маць, – працягнуў Даніла, узяў у рукі адну лістоўку. – "Выходзь на вуліцу! Усе на Плошчу! Бла-бла-бла... Зубр". Ты гэтак зарабляеш? Ды за адну такую паперчыну выкінуць з універа, сама мала, не ведаеш? Ці ты ідэйны змагар і нам заплаціць хочаш са сваёй кішэні? Ці мо сам і надрукаваў? – рагатнуў Даніла, занерваваўся, бо выгляд такой колькасці лістовак на стале яго бянтэжыў.

– Не нервуемся, грамада, – спакойна, нават з загаднымі ноткамі загаварыў Андрусь, паклаўшы руку на стос лістовак. – Так, можна і на гэтым зарабляць. Задача была такая: разнесці гэтыя лістоўкі і пакідаць у паштовыя скрыні ў пэўных дамах па пэўнай вуліцы. Тут тысяча штук...

– Пайшоў ты на... з такой работай, – грэбліва паморшчыўся Раман. – Не хапала яшчэ пэцкацца аб свядомых! У мяне дзядзька – у КДБ!

– Ды чакайце, я ж не дагаварыў, – паблажліва ўсміхнуўся Андрусь. – Умовы простыя. Яшчэ даецца фотаапарат. Лічбавы. Для справаздачы зрабіць здымкі. З усіх пад’ездаў. У мяне – чатырнаццаць. Здымак такі: рука апускае лістоўку ў паштовую скрыню. Значыць, робім так... – Андрусь сагнуў адзін рог лістоўкі да сярэдзіны, правёў пазногцем па згіну, адарваў акуратна. – От, маем такую штуку. Адну. Тут відаць нейкія літары... Як і затрымаюць з такім ражком – дык і што? А мы бярэм гэты ражок і ходзім па пад’ездах. Нас трое, адзін на шухеры, другі дэманструе апусканне лістоўкі, трэці здымае. Паўгадзіны часу, а маем дваццаць баксаў...

– Жартуеш?! Дваццаць? – не паверыў Даніла, адкінуўся на спінку крэсла, расцягнуў твар ва ўхмылцы: – Ну ты, спрытнюга вясковы, і даеш! Дзе ты такіх працадаўцаў знайшоў?

– Гэта няважна, – адмахнуўся Андрусь. – Я ж табе казаў: добра, калі многа сяброў. Ну што, хадзем?

Фокус з адарваным ражком падзейнічаў і на Рамана, які быў набычаны, калі пабачыў лістоўкі. Грэла будучая роля хітруна, які “пракіне” тых апазіцыянераў. Ён адно кіўнуў на стол і спытаў:

– А гэтыя лістоўкі... куды потым?

– Ды ў смецце во і выкінем, – патлумачыў весела Андрусь.

Было бачна, што перспектыва хутка, за нейкія паўгадзіны “зрабіць справу”, ды яшчэ без клопату і ў поўнай бяспецы, якія давалі яму хаўруснікі, яго ўзрадавала. Насамрэч, ён мог бавіць два наступныя вечары з нечым іншым, а затым зноў прапанаваць свае здольнасці. Ведаў: падобная работа яшчэ прапануецца. Там ён ужо будзе шчыраваць адзін – грошы заўжды трэба. А цяпер можна і падзяліцца часткай (ён прамаўчаў пра поўную суму), бо такая справа ўсякі раз збліжае людзей, ды яшчэ з добрай выпіўкай...

– Не, пакуль не будзем выкідваць, – па-змоўніцку зазірнуў у вочы сябрам Даніла. – Потым памазгуем. Ёсць адна думка...

Праз паўтары гадзіны яны вярнуліся ў пакой Данілы, напакаваныя бутэлькамі з розным пітвом і закуссю. Узрушаныя і зробленым, і наяўнасцю на стале прысмакаў, гучна размаўлялі, смяяліся. Пасля трэцяй чаркі паспакайнелі, Раман нагадаў Данілу:

– Ты там нешта нейкае задумаў, як я здагадаўся. Выкладвай, ці як?

– Ага, выкладу... – Даніла прымружыўся на Рамана: – Ты не заліваеш, што ў цябе дзядзька ў КДБ?

– На халеру мне заліваць? Ты за каго мяне прымаеш? – наструніўся Раман. – Кажу як ёсць.

– Дык вось... – Даніла памарудзіў, задраў галаву, абхапіўшы яе далонямі закінутых угару рук. – Добра б было, каб сябры твайго дзядзькі знайшлі гэтыя лістоўкі ў аднаго майго сябра, праз якога сёння мне пастаўлены крыж на аспірантуры. І ў цябе, дарэчы, адразу паменела б турбот з Марго.

Нейкі час усе маўчалі.

– А гэта добрая думка, – Раман хэкнуў і пацягнуўся да бутэлькі. – За яе можна выпіць. Сябры майго дзядзькі людзі такія... умеюць знаходзіць.

– Западозрыць... – паморшчыўся Андрусь. – Трэба, каб чыста было...

– Зробім чыста! – выгукнуў Даніла, выпіў налітае Раманам, загаварыў пераканаўча: – Я быў зайшоў да яго, ён пісаў на калене, на ложку седзячы. Зазірнуў чыста па-сяброўску – што пішаш? Там нейкія формулы, фантазіі ягоныя. Дык ён ці не падскочыў. І мяне хутчэй за дзверы, маўляў, там пачакай. Я выйшаў як апляваны. А там шчыліна ў дзвярах засталася, а

праз яе люстэрка было відаць... У яго ў матрацы схованка! Туды ён засунуў такі вялікі скураны нататнік, у чахле з “маланкай”. Ён упэўнены, што ніхто не ведае пра схованку, – Даніла зрабіў націск на апошнім сказе і пры гэтым ухмыльнуўся.

– Таго цюхцяя, што з Мацвеем жыве, я знаю, – задумліва працягнуў Андрусь. – Ён мне трошкі вінен. То я магу яго выклікаць на хвілін пяцьдзесяць сюды, знайду пра што гаварыць... Інтэрнат сёння амаль пусты, раз’ехаліся. Іхні пакой насупраць кухні, зручна зайсці...

– Пайшлі! – рэзка падхапіўся Раман. – Нечага цягнуць. А то яшчэ вернецца.

Словы прагучалі загадам. Даніла па-гаспадарску адшчапіў са стоса лістовак палову, падсунуў за пазуху. Супольна рушылі на паверх ніжэй – там быў пакой Мацвея, які ён дзяліў з ціхамірным першакурснікам. Андрусь зайшоў і неўзабаве выйшаў з цельпукаватым юнаком, які пакорліва пасунуўся следам за ім. Змоўшчыкі зайшлі ў адчынены пакой. Не марудзячы, Даніла ўпэўнена рушыў да ложка Мацвея, памацаў добра, засунуў руку ў матрац і выцягнуў нататнік у чахле.

– Я ж казаў!

Шмаргануў замок, адкрыў чахол, рашуча вызваліў з яго нататнік, засунуў у чахол лістоўкі з-за пазухі, зашмаргнуў.

– Усе справы! Пайшлі.

Добра п’яныя, яны разыходзіліся праз дзве гадзіны, задаволеныя кожны сабой і хаўруснікамі.

## Частка 2

Музыка ў кавярні грымела так моцна, што, каб размаўляць з Марго, даводзілася казаць ёй у самае вуха – і ўдыхаць такі вабны пах яе скуры і валасоў. І сам Мацвей падстаўляў сваё вуха да вуснаў Марго, па-шчанячы ў душы папіскваючы ад адчування (ці яму здавалася) не пругкага паветра з вуснаў дзяўчыны, а крананне саміх вуснаў ягонай скуры.

Але такая гаворка яўна надакучыла Марго, і яна – выгукнуўшы: “Потым паразмаўляем!” – лянотна пацягвала праз саломінку кактэйль і без асаблівай цікавасці азірала залу ў рознакаляровых сполахах святла. Па ўсім, ёй было не вельмі весела, і Мацвей адчуваў сябе вінаватым. Пасля таго, як Марго двойчы адмовілася ісці танчыць, ён ёрзаў на сваім стуле, раўніва зіркаючы на дужых дзецюкоў, што раз-пораз працiскаліся да барнай стойкі акурат паўз высока агаленыя кароткай спадніцай ногі Марго, не прамінуўшы кінуць зацікаўлены позірк на іх і на гаспадыню. Таму, калі Марго, дапіўшы напой, нахілілася да яго і пракрычала: “Хадзем!”, Мацвей адчуў палёгку.

– Ну, расказвай, што ты новага накапаў пра сваіх дзядоў? – запыталася Марго, апынуўшыся на вечаровай вуліцы.

– Прабач... Не паспеў як след, – прамармытаў Мацвей. Яго трошкі злавала ўпартасць Марго ў пытанні яго спадчыннікаў: чаму яны так важныя ёй? Раней ён баяўся выказаць услых гэтую думку, цяпер жа, трошкі разняволены порцыяй алкаголю мозг загадваў супраціўляцца поўнаўладдзю над ім дзяўчыны. І Мацвей выказаўся: – Я не разумею ўвогуле, навошта гэта ведаць? Мінулае – гэта пыл, гэта мярцвячына, ад яго трэба абтрасацца і рухацца наперад. Што мне дало веданне пра дзеда, які ўсё жыццё прарабіў

у нарыхтоўчай канторы, спачатку рахункаводам, потым – загадчыкам? А бабуля – бухгалтаркай у спажывецкім таварыстве?

– Бо ты – малы дурань, які яшчэ не раскрыў вочы на патрэбныя рэчы, – паблажліва заўважыла на гэта Марго. – Падобнае цягнецца да падобнага, твая бабуля пайшла замуж не за нейкага дворніка – яна абрала для сваіх дзяцей бацьку з кагорты таго ўзроўню, на якім знаходзілася сама. Так урэшце нараджаецца і эліта.

– Вось як, эліта... – з жалем уздыхнуў Мацвей. – Выходзіць, я туды не цягну са сваім радаводам?

– Якраз цягнеш, – глянула на яго Марго, быццам толькі зараз ацэньваючы юнака. – У цябе ўжо ёсць зачаткі інтэлігентнасці, у будучым справа будзе паляпшацца, як не ажэнішся з якой калгасніцай.

– А што, інтэлігентным стаць нельга, ім неабходна нарадзіцца? – пад'юдзіў Мацвей, хоць гэта было рызыкоўна ў адносінах з Марго, але яна ажно прыпынілася ад той важнасці, якую пачула ў пытанні.

– І-мен-на! Нельга! Стаць – нельга! – казала Марго так пераканаўча і так упэўнена, усё роўна як сцвярджала, што Зямля круглая, а Месяц свеціцца адбітым святлом. – Інтэлігентнасць – справа пакаленняў, прытым непарушных у сваёй сувязі! Выхаванне, навучанне плюс генетыка! Інтэлігент у нейкім дзясятым пакаленні, хоць змалку апынецца закінутым у любыя ўмовы, зможа ўсё адно захаваць у сабе гэтыя рысы высакародства. Ён бачны!

– Добра, згодзен. Але навошта? Сёння – навошта? Тут так усё змяшалася: учарашні крымінальны аўтарытэт робіцца бізнесменам-мецэнатам, шпана з раёна становіцца ўладальнікам казіно і рэстарана. Яны сёння дыктуюць жыццём, хіба не?

– Аха-ха-ха, дурнічка! – шчыра рассмяялася Марго. – Гэта ўсё – вонкавасць, мішура. А розумам грамадства кіруюць іншыя. Інтэлігенты. Сапраўдная эліта грамадства, а не гэтая, якая на глянцавых вокладках часопісаў. То папса. Зразумела табе?

– Ды быццам так, – уздыхнуў са згодай Мацвей, але чорцік супярэчнасці ў ягонай галаве не збіраўся адпачываць: – Але, шчыра кажу, Марго, не разумею я гэтых гульняў у эліту. Светам кіруе навука. Свет трымаецца на навуковым прагрэсе. І я не кажу пра тэхнічныя задачы, якія якраз навуцы сёння рашаць. Я кажу пра палітычныя тэхналогіі, якія распрацоўваюцца зыходзячы з аналізу, што можа даць толькі навука. І распрацоўваюцца яны па законах, адкрытых навукай...

– Вой, цябе вучыць і вучыць, – зірнула з сапраўднай скрухай у вочы хлопцу Марго. – Ты будзеш вучоным, будзеш! Але будзе той, хто пачне табе ставіць задачы для рашэння. Зразумеў, мілы магістрант?

Мацвей стаў ужо збірацца з думкамі, каб адказаць гожа – у яго было што адказаць, ён згадаў бы і фундаментальныя навукі, і выпадковыя адкрыцці. Яны ішлі сярэдзінай вуліцы, і хіба што асвятленне ўказвала на тое, што цяпер не дзень, а позні вечар – уся прастора вакол поўнілася людзьмі, даносілася музыка як са шматлікіх бараў, так і наперадзе група музыкаў уладкавалася на тратуары ды грала нешта віскліва-бухаючае. Паветра было сумессю з пахаў дарагой парфумы, гарэлачнага перагару, кавы і смуроду з кальянных – несла ад сустрэчных людзей, з дзвярэй бараў.

Ён не паспеў адказаць – раптам перад імі ўзніклі двое. Мужчыны гадоў па сорак, апранутыя зусім не для тусовачных мясцін, нагадвалі чыноўнікаў

сярэдняга звяна – з-за іх незалежнага трымання сябе на гэтай пярэстай вуліцы, што відавочна была для іх чужой.

– Адну хвіліну, прабачце... Мацвей Хрысцік?

Голас спакойны, нават ветлівы, але колькі ў ім улады пачулася! Ажно мурашкі пабеглі па Мацвеевай спіне гад этага тону, а можа, – ад прадчування.

– Так, я Мацвей...

– Вам трэба прайсці з намі...

І ўжо Марго апынулася ўбаку, адціснутая ветлівым, але жалезным плечуком, а Мацвей адчуў, як справа і злева ягоныя рукі ля локцяў захапілі моцныя абцугі пальцаў.

– Ды што такое? – хацеў абурыцца, але голас выдаў ягоны спалох – Мацвей адчуў пагрозу не быць збітым, а нечага больш значнага для сябе. Таму было ў яго голасе трошкі плаксівай просьбы.

Усё заняло нейкае імгненне, ніхто з мінакоў і ўвагі не звярнуў, і Марго не паспела нічога зразумець. Яна памкнулася была да Мацвея з ягонымі нечаканымі ахоўнікамі, але тут бы з пахаў вуліцы матэрыялізаваўся трэці, да гэтых двух падобны, спыніў яе і стаў ціха казаць. А ўжо прайшлі два ці тры крокі, Мацвей намогся быў спыніцца, азірнуцца назад і крыкнуць ёй, але з абодвух бакоў рукі яго цісканулі моцна, ажно да болю, і злева ў вуха пачуўся кароткі, як стрэл, шэпт:

– КДБ. Ціха!

І гэты шэпт, надзіва, супакоіў Мацвея. Гэта не нейкія гопнікі, КДБ – сур'ёзная арганізацыя, мо самая сур'ёзная з усіх, дык яму, Мацвею, няма чаго хвалявацца. Ён ім трэба – што ж, ён гатовы адказаць на іх пытанні, бо паважае гэтую службу. Ён ажно выдыхнуў, расслабіўся, пайшоў спакойна, імкнучыся патрапіць у крок сваім “ахоўнікам”.

Падышлі да машыны, селі на задняе сядзенне. Ніхто не сказаў ні слова, машына кранулася з месца.

– Мацвей Хрысцік, магістрант, пражываеце на Кульмана?.. – гучна спытаў той, што сядзеў спераду, правільней, не спытаў, а запатрабаваў пацвярджэння сваім словам.

– Так, Хрысцік, магістрант, – спакойна адказаў Мацвей. – Прабачце, а што здарылася?

– Даведаешся, – холадна тыкнуў у адказ гэты спераду, і Мацвей адчуў кволы халадок у жываце.

Але ён быў спакойны да таго моманту, пакуль не дайшлі да ягонага пакоя ў інтэрнаце. Праўда, непрыемна было бачыць перапалоханы твар вахцёркі. І зусім прыкра было ўяўляць сябе збоку: яго вялі, не сам ён ішоў, трымалі яго. Як... арыштанта.

Ля свайго пакоя мозг Мацвея ліхаманкава запрацаваў, спрабуючы падабраць магчымы варыянт развіцця падзей і пошукаў галоўнай прычыны: навошта гэта ўсё? Зайшлі ў пакой, сужывец-першакурснік нейкім невядомым чуццём адчуў, што перад ім – людзі без жартаў, падскочыў і стаяў навыцяжку, не варухнуўся за ўвесь час.

Зайшлі ўсё чацвёра – Мацвей і трое мужчын, у пакойчыку стала цесна і няўтульна.

– Дзе твой ложак? – спытаўся той, які сядзеў спераду. Мацвея цяпер ужо разанула ягонае “тыканне”. Ён паказаў кіўком галавы:

– Вось...

– Прапаную аддаць самому. Ну?

– Што... аддаць? – неўдавана здзівіўся Мацвей. Раптам яму ўявілася – на імгненне адно – што ў ягоным вялікім блакноце сярод тых накідаў ідэй ёсць нейкая такая важная, такая грандыёзная, выключная для свету, што з'яўляецца дзяржаўнай таямніцай! Але... гэтыя людзі не могуць ведаць пра ягоны блакнот, у якім яшчэ ў канцы запісаны тры нязграбныя вершы, прысвечаныя Марго...

Яму не задавалі больш пытанняў – гэтыя занятыя людзі, мабыць жа, спяшаліся, у іх на сёння было яшчэ безліч важных і пільных спраў, а тут марнуй час з гэтым магістрантам... Таму адзін падышоў і рэзкім рухам адгарнуў коўдру, падушку адкінуў, сцягнуў прасціну, памацаў у адным, другім месцы, захапіў край матраца, перавярнуў яго, сунуў руку ў дзірку...

– Там... там мае запісы, навуковыя. Накіды ідэй, – нечакана для сябе заспяшаўся Мацвей, але ніхто не звярнуў увагі на ягоныя словы.

Наступны момант стаўся для Мацвея эпізодам сюррэалістычнага сну: кэдэбэшнік расшмаргнуў замок, разгарнуў чахол, перавярнуў яго – і на брудны паласаты матрац упалі і расцякліся тонкія каляровыя лістоўкі.

– Там... там быў блакнот... там мае запісы... Адкуль, адкуль... – мармытаў ён, аглушаны пабачаным. Яшчэ да гэтага моманту ён мог успрымаць рэальнасць – ці мала што ў жыцці можа здарыцца, але цяпер мозг запанікаваў, не могучы знайсці лагічнае тлумачэнне ўсяму.

Яму задавалі яшчэ нейкія пытанні, але што ён мог адказаць? Адно запала ў памяць: збялелы твар мешкаватага першакурсніка і дробнае трымценне яго адвіслай ніжняй сківіцы. Працягам гэтай жудасці сталіся ягоныя заламаныя назад рукі і холад металічных бранзалетаў. Ён ішоў калідорам, спускаўся ўніз, зноў некуды ехала машына. Нейкі будынак... пакой, дзе адамкнулі кайданкі, ён выцягваў нягнуткімі пальцамі ўсё з кішэняў. Зноў калідоры, цёмныя, доўгія, шмат дзвярэй, адны раптоўна расчыніліся – Мацвея запіхнулі ўнутр. Ляпнула ззаду, Мацвей падняў свае рукі да вачэй, цёр чырвоныя пісягі на іх.

– Праходзь, што стаў! – пачуўся добразычлівы голас.

І гэта вярнула Мацвея ў рэчаіснасць.

То была камера.

У святле нязыркай лямпы, што мацавалася на высокай столі, ён пабачыў некалькіх чалавек. Маладых, мо сваіх аднагодкаў. Толькі адзін быў нашмат старэй з тых, хто сядзеў на драўляным узвышэнні, якое выдавала на тапчан. Адзін малады, цыбаты і белагаловы, стаяў тварам да Мацвея.

– Добры... Добры вечар, – прамармытаў Мацвей.

– Хай будзе добры і табе. Праходзь, сядай, – на тапчане пасунуліся хлопцы, вызваляючы месца.

Мацвей паслухмяна сеў. Здаецца, ён быў гатовы рабіць адно: падпарадкоўвацца.

– За што цябе? – пацікавіўся цыбаты.

– Не разумею... У мяне... у матрацы знайшлі лістоўкі.

– Ясна, наш! – зарадаваўся ў адказ юнак. – Нас тут трое – за лістоўкі, ты чацвёрты. Яшчэ адзін – за хуліганку, а дзядзька Фёдар – сямейны скандал.

– А... дзе мы?

Ягонае пытанне выклікала лёгкі смяшок ва ўсіх.

– Акрэсціна гэта, следчы ізалятар! Знаёмся! Дарэчы, цябе як завуць? Я – Зміцер.

– Мацвей...

– Ну, Мацвей, ладкуйся лацвей! Нам тут доўга кантавацца!

– Ды не, павінны разабрацца! То ж не маё, я ні ў чым не вінаваты, я магістрант, я нічога не ведаю пра лістоўкі. Палітыка – не маё! – Мацвей казаў таропка, з просьбай у голасе, нібыта насельнікі камеры маглі паўплываць на тое, што выйдзе далей.

– Супакойся... Следчаму заўтра так кажы. І менавіта так: не ведаеш, падкінулі. Не ўздумай здаваць каго – табе ўсё адно палёгкі не будзе, а людзі пацерпяць, – цыбаты казаў павучальна і спакойна.

Мацвей толькі міргнуў. Хлопцы перагаворваліся між сабой аб нейкіх незразумелых для яго справах. Час цягнуўся марудна. Мацвей усё паглядваў на дзверы, чакаў: вось яны адчыняцца, яго паклічуць, ён сустрэнецца з якім начальнікам, і на гэтым дурны сон скончыцца. Але прайшла мо гадзіна – ніхто не адчыняў дзвярэй. У гэты час насельнікі камеры палеглі на тапчане, хроп ужо дзядзька. Зміцер сеў, павярнуўся да Мацвея, параіў:

– Кладзіся... Не мякка, але ж можна адпачыць.

– Гэта памылка, памылка! Я не ў палітыцы! – адчай Мацвея вырваўся вонкі.

– Ты, Мацвей, можаш казаць, што палітыка – не тваё, але ж ты ў палітыцы, – амаль з жалем заўважыў Зміцер.

– У якой я палітыцы? – амаль спуджана выдыхнуў Мацвей.

– У якой усе. Поліс – гэта грамадскае жыццё...

– Маё жыццё – навука!

– Цішэй, хай хлопцы спяць, – з усмешкай папярэдзіў Зміцер. – А навука ў палітыцы па самыя вушы сядзіць. Ты навуковец, дык чуў жа пра генетыку і лысенкаўшчыну? Чуў пра Вавілава?

– Чуў, не ўнікаў, праўда...

Зміцер павярнуў да Мацвея свой твар, са здзіўленнем зазірнуў яму ў вочы.

– Ты, прабач, у які час жывеш?

– Я займаўся навукай. Матэматыка, метады аптымізацыі, цяпер вузкае – сістэмы кіравання...

– Ага, зразумела. Такім чынам, распрацоўваеш новыя сістэмы кіравання? І для каго? – чамусьці з’едліва спытаў Зміцер.

Мацвеў не разумеў, чаму ўзнік халадок. Паспрабаваў тлумачыць:

– Я... мы распрацоўваем, удасканальваем кіраванне ў складаных сістэмах... – і спатыкнуўся, згадаўшы нядаўнюю размову з Марго. Замаўчаў.

Маўчаў і Зміцер, нарэшце ўздыхнуў і, быццам нешта зразумеўшы, папрасіў удакладніць:

– Значыцца, чыстая навука, усё для навукі. Што дзе робіцца, рабілася, будзе рабіцца вакол цябе – не цікавіла, не цікавіць. Так?

– Так.

– Ну дык я табе скажу, дружа: аднойчы і да такіх як ты, чыстых ідэалістаў, прыходзяць ці прыязджаюць, закручваюць рукі за спіну і вязуць у Курапаты...

– У якія Курапаты? – механічна, сустрэўшы малазразумелае слова, спытаў Мацвей.

– От гэта піпец, – пачуўся нечы голас здзіўлення збоку. Аказваецца, у камеры мала хто спаў, слухалі.

Зміцер пільна ўглядваўся ў вочы Мацвею і сапраўды бачыў там толькі пытанне.

– Не ведаеш Курапатаў? А год адна тысяча трыццаць сёмы табе таксама нічога не кажа? А расстрэлы інтэлігенцыі беларускай – гэта табе невядома? – без абвінавачвання, але з непрыхаванай крыўдай і вінаватасцю ў голасе пытаўся Зміцер, усё адно як ён сам нёс адказнасць за тое, што ў вачах субяседніка ад гэтых пытанняў не ўспыхвала і знічкі разумення.

Мацвей не адказваў, засяродзіўся ў сабе, нешта ці то згадваючы, ці то раздумваючы над нечым.

– Цікава як, – выдыхнуў нарэшце. – За колькі хвілін, як мяне... затрымалі, мы размаўлялі, ну, з дзяўчынай ішлі, пра інтэлігенцыю. Пра яе кіруючую ролю.

– Кіруючую ў якім сэнсе? – пацікавіўся Зміцер.

– У прамым. Яна мне казала, што гэта – эліта грамадства, яна кіруе не непасрэдна, але ўся ўлада ў яе.

– Бацюхны свет... – працягнуў ці не роспачна Зміцер. – Мацвей, скажы мне: дзе ты жывеш? Я хачу на тваё месца! У тваім свеце так цудоўна!

– Я на Кульмана, у інтэрнаце. Родам з райцэнтра, – не зразумеў сарказму Мацвей. – Я праўда не цямлю пра гэту... лысенкаўшчыну. І пра Курапаты... Не цікавіўся. Чуў толькі...

– Хочаш пачуць падрабязна? Ноч доўгая... Але мне не дапяць, як табе даверылі лістоўкі.

– Я ж казаў: я не ведаю, адкуль яны ўзяліся ў маім матрацы! – падзіцячы апраўдаўся Мацвей.

– Ну і стой на тым перад следчым, – згадзіўся Зміцер. – То слухай. Найперш: інтэлігенцыя – гэта, акцэнтую тваю ўвагу, – духоўны і навуковы складнік грамадзянскай супольнасці, без якой існаванне грамадзянскай супольнасці немагчымае. Той складнік, які здольны да крытычнага мыслення. Але ніяк не чыноўнікі, якім супольнасцю дэлегуецца абавязак практычнага выканання і рэгулявання законаў. Ды стоп... Што такое грамадзянская супольнасць, разумееш?

Недзе з гадзіны дзве Зміцер расказваў: нетаропка, папраўляючы сам сябе, вяртаючыся назад у гісторыю, робячы адхіленні, прыводзячы прыклады. Мацвей слухаў уважліва, часам перапытваў, не даючы сабе веры і адначасова неймаверна ўражаны ад пачутага: няўжо так сапраўды ёсць? Як жа атрымалася, што такі пласт ведаў заставаўся ад яго ў баку? Чаму ён не цікавіўся ім? Чаму падобнага не чуў ад маці? (Бацька выправіўся, казала яму бабуля, як яшчэ была жывой, “касіць сабакам сена” ў пяцігадовым узросце сына.)

Калі Зміцер пачаў апавядаць пра рэпрэсіі, пра расстрэл у адну ноч паўтары сотні лепшых дзеячаў літаратуры, культуры і навукі Беларусі, пачулася варушэнне, потым голас мужчыны, “сямейнага скандаліста” Фёдара:

– Не чапалі б вы, хлопцы, мінулага... Надта моцна яно можа адгукнуцца і стрэліць у сённяшняе.

Мужчына сеў, цяжка ўздыхнуў. Аказваецца, і ён не спаў.

У маўчанні і звернутых да Фёдара позірках было пытанне і просьба патлумачыць свае словы, і ён праз колькі секунд працягнуў, уздыхнуўшы:

– Мой дзед па маці простым селянінам быў. Ужо і ў калгас паспеў уступіць пасля “вызвалення” ў 1939. Тут вайна, немцы стварылі ў вёсцы “самаахову” – далі дзецюкам ды маладым мужчынам палкі ў рукі, сказалі,

каб па вечарах патрулявалі вуліцы. Праз два месяцы збеглі ўсе ў лес, у партызаны, бо пачалі моладзь адпраўляць у Германію. Дзед партызаніў, потым – на фронт. На Эльбе пабыў. Прыйшоў з вайны з медалём “За адвагу”. А яго заарыштавалі і ў Сібір. 20 гадоў далі – за тое, што чатыры разы прайшоўся па вёсцы з палкай у той нямецкай “самаахове”. А на сельсавет прыходзілі ўзнагароды на дзеда: ордэн Славы, ордэн Айчыннай вайны, медалі розныя... То адзін сельсаветчык, які вайну за вёскай у яме прасядзеў, жонка есці яму штодня туды насіла, стаў героем: тыя медалі сабе на грудзі пачапляў. Ды яшчэ прыляцеў аднойчы да бабулі з участковым, запатрабаваў усе іншыя ўзнагароды аддаць, а то самую засудзіць... У школах выступаў, на мітынгах. Людзі пляваліся, а начальству добра: свой чалавек жа, сельсаветчык, вось і партызан заслужаны. А сведкі памруць скора, затое герой застанецца. От так у нас... Але ж пра дзеда. Бабуля тады з’ехала з вёскі, у іншую вобласць, да сястры – тая замуж пасля вайны выйшла, удала, дом вялікі ў гарадскім пасёлку... Бабуля да дзеда колькі разоў ездзіла. Так от дзяцей сваіх нараджалі – маю маці і двух братоў. Набярэ з сабой часнаку, цыбулі, перад зонай тое ў свае рэйтузы пахавае, бо не дазвалялі прывозіць. Вось чаму? Там жа цынга страшная была, дзед без зубоў вярнуўся, усе дваццаць адседзеўшы... Вярнуўся, гадоў тры пажыў, кроўю харкаючы, ды памёр. Я вунь колькі пражыў, ніц не пытаўся – было ды сплыло. Просты токар на заводзе, мне акрамя заробкаў добрых што важна? А во дачушка вырасла да шаснаццаці, давай у маёй маці, у сваёй бабулі, усё выпытваць. Мне расказвае – я толькі дзівіўся. Аказваецца, мая маці нейкія паперы захавала. Пачалі разам чытаць. У адной паперыне пра асуджэнне сказана. Але пра тое, што дзеда ўзнагарод пазбавілі – не. Дачка і загарэлася, упартая яна не гадах. Пачала пісаць лісты, куды можна, прыходзілі ёй адказы. Угаварыла мяне, паехалі на радзіму маёй бабулі, у сельсавет прыйшлі. Там толку не дабіліся, хадзілі па людзях. Усё нам расказалі. І дзе шукаць родных таго сельсаветчыка, які дзедавы ўзнагароды прысвоіў. Адшукалі... От якая неспадзяванка выйшла: жончынай сястры муж, участковы міліцыянт, з таго роду. Жонка як пачула пра тое, вызверылася. Ёй яе родная сям’я заўсёды даражэйшая за сваю была, а родная сястра тым больш даражэй за мяне. Я ж – чужы, а тут – кроў родная. Пайшла ў нас сварка. Я трохі нападпітку быў, дачкі дома не было, разышоўся. Ну, а ў сямейных сварках як? Пачнецца з аднаго, то ўсё згадаецца. То і згадвала мне жонка за ўсе гады. Не ўтрымаўся, талеркі там разбіў на кухні, яна міліцыю выклікала. І што далей – Бог ведае...

Змоўк Фёдар, нейкі час маўчалі ўсе.

– Варта паспаць крыху, – пачуўся голас, і яго як чакалі – палеглі ўсе. Мацвей ляжаў з краю на драўляным насціле, але не адчуваў жорсткасці. Стомлены і перагружаны інфармацыяй мозг адмаўляўся аналізаваць, мроілася рознае, фантазійнае: ён заўтра выйдзе, усё стане на сваё месца, выявіцца, у каго ягоны нататнік, хто так па-дурному пажартаваў, яны сустрэнуцца з Марго... А яшчэ Мацвей думаў пра той свет, які адкрыўся яму, які палохаў сваім начыннем з несправядлівасці, бесчалавечнасці, але адначасова быў той часткай жыцця, без якой ён адчуваў сябе непаўнацэнным.

Раніцай прынеслі цёплы чай, пярловую кашу з хлебам. Хлопцы распакоўвалі свае торбы, даставалі прысмакі. Мацвей не крануўся кашы, сёрбаў вадкасць.

– Ніхто, акрамя той дзяўчыны, не ведае, што цябе забралі? – падышоў

да яго Зміцер, працягнуў бутэрброд з сырам. – Гэта дрэнна. Нам сядзець да панядзелка мінімум. Я скажу, каб передалі на цябе дробязі кшталту шчоткі зубной. Ты галіцца збіраешся? Зарасцеш...

– Як – да панядзелка? Чаму? – не паверыў Мацвей.

– Дзівак! Мы ж – палітычныя, а хто такіх перад выбарамі адпускае? А выбары ў нядзелю. То рыхтуйся адпачыць...

Мацвей падзякаваў за бутэрброд. Ён не паверыў Зміцеру. Магчыма, гэтыя хлопцы сапраўды нейкая страшная апазіцыя, а ён хіба нешта здзейсніў варожае для ўлады?

Ягонае прозвішча назвалі ад дзвярэй бліжэй да абеду. І цяпер, ідучы цёмным калідорам з рукамі, складзенымі за спінай, падпарадкоўваючыся рэзкім камандам ахоўніка, Мацвей адчуў сапраўднае прыніжэнне, сваю нікчэмнасць у гэтым будынку і поўную залежнасць ад абставін. Унутры жыла адна надзея: зараз ён усё патлумачыць, раскажа пра сваю навуковую дзейнасць, пра новую, такую патрэбную ў сістэме кіравання складанымі працэсамі на вытворчасці, распрацоўку. І яго адпусцяць. Зразумела, адразу ж адпусцяць...

## Частка 3

Увайсці ў кабінет следчага было як ступіць у новы свет. Гэтая думка мільганула ў галаве, і Мацвей на імгненне застыў – такую ён выпрацаваў у сабе практыку фіксацыі ў памяці нечага вартага. І адначасова здзівіўся: чаму следчага? Хто казаў яму, што яго вядуць менавіта да следчага? Ці не ўчарашнія доўгія размовы пра арышты-допыты-расстрэлы ўрэшце трансфармаваліся ў раней неіснуючыя ў ягонай галаве веды? Але тут сапраўды быў іншасвет: цёмны вузкі калідор, шэры, у жоўтых паўкружжах ліхтароў на сценах упіраўся ў дзверы, якія расчыняліся – і наперадзе зыркім святлом, насычаным сонцам і блакітам адкрывалася акно. Так, што балела вачам, і толькі праз колькі імгненняў за сталом паўстала постаць, яна яснела? і вось ён – мужчына гадоў сарака, трохі стомлены, твар мысліўцы і чыноўніка.

– Мацвей Генрыхавіч Хрысцік, правільна? Сядайце, – ён спытаў-удакладніў добразычліва, сесці прапанаваў дзяжурна-ветліва. – Мне даручана весці вашу справу... Вось пратакол затрымання і вынятку ў вас лістовак – усяго ў колькасці 217 штук. Тэкст на лістоўках мае выразны экстрэмісцкі складнік: тут прамы заклік не прызнаваць вынікі выбараў, выходзіць на вуліцы, выказваючы пратэсты... Што скажаце?

Ён узняў галаву і паглядзеў у вочы Мацвею – позіркам халодным і чэпкім. Не міргаючы глядзеў, усё роўна як закочваў у Мацвея трывогу і страх, бяссілле, і Мацвей, яшчэ хвіліну назад амаль спакойны, прамямліў, ледзьве здолеўшы перамагчы сваё нечаканае заіканне:

– Я... н-не ведаю. Не м-магу сказаць, адкуль яны там узяліся. Там быў мой нататнік, вельмі важны для мяне, я туды запісваў розныя ідэі для сваёй будучай навуковай работы, я – магістрант...

– Ты – ніхто! – раптам зароў следчы (а ён быў следчым?). – Нам вырашаць, кім ты будзеш! Ты можаш выйсці адсюль чалавекам, а можаш – дэбілам заікастым! За паўгода ў камеры з цябе зробяць разумовага інваліда! Адказвай! Хто даў лістоўкі? Імёны і прозвішчы, нумары тэлефонаў, колькі плацілі! Хутка і не мямлі!

Гэта была памылка следчага. Ён не ведаў матэматычна-лагічнай натуры

Мацвея. Ад самага маленства ён вызначыўся ўпартасцю, якую нельга было зламаць прымусам ці загадам, крыкам ці лаянкай. “Мый рукі да яды!” – загадвала яму маці, і ён застываў над кранам з вадой, пакуль не чуў пра неабходнасць такой дзеі: брудныя рукі – забаліць жывот. “Вучы ўрокі!” было пустым загадам, пакуль не патлумачылі дакладны ланцужок сувязяў выдатнай адзнакі з магчымасцю самастойнага жыцця і пэўнай волі. Матэматыка, якой ён літаральна захварэў з моманту адкрыцця для сябе вытворчай, інтэграла і дыферэнцыяла, аперыравала дакладнымі лічбамі. Мацвей быў матэматыкам, таму сусвет вакол яго мог існаваць толькі ў дакладных фактах, правераных лічбах, ясных пасылак і дакладных наступстваў. Мацвей ніколі не мог сказаць няпраўду. Гэта было для яго гэтаксама немагчыма, як і няправільна рашыць прасцейшае квадратнае ўраўненне і паверыць у тое, што вынік – слушны. Мацвей проста ігнараваў, не ўпускаў у сваё жыццё хлусню, як матэматыка не можа аперыраваць няпэўнымі дадзенымі. Ён мог без боязі адказаць – і ўсцяж адказваў на любое пытанне, якіх бы таямніц ягонага жыцця яно не тычылася, але ніколі не мог схлусіць. І таму не мог прыняць ціску над сабой, калі той ціск не мог існаваць з яго пункту гледзішча па прычыне лагічных прадпасылак. Ён адказвае шчыра і кажа праўду – чаму могуць быць пагрозы, бо ў іх няма ніякай неабходнасці, рэзультат запыту ўжо выкладзены!

Ён напачатку ўздрыгнуў ад непрадбачанага крыку, але ўмомант сцяўся ўвесь, наструніўся, кулакі і сківіцы сціснуліся, ён засоп.

– Я сказаў праўду! – вымавіў ён па адным слове, не адводзячы сваіх вачэй ад зрэнак следчага.

І следчы зразумеў усё. Але працягнуў усё яшчэ з пагрозай:

– Твае словы правяраюцца на раз-два. Зробім выгляд, што я табе паверыў. Ты думаў, што цябе чакае?

– А... што мяне можа чакаць? Я парушыў які закон?

– Хай я табе веру, але: ты думаеш, суд паверыць, што тыя матэрыялы, накіраваныя супраць канстытуцыйнай улады, з’явіліся ў тваім матрацы самі па сабе? – зноў мякка, быццам размаўляе з дзіцём, загаварыў следчы.

– Мяне будуць судзіць? За што?

– За захаванне экстрэмісцкіх матэрыялаў з мэтай распаўсюджвання.

– Але ж я не збіраўся распаўсюджваць! Я не знаю, адкуль у мяне тыя лістоўкі! – смялей запярэчыў Мацвей следчаму, адчуўшы спагаду да сябе. – Чаму мне не паверыць? Я ж кажу праўду... – з лёгкай разгубленасцю паўтарыў, як мантру, Мацвей, бо ён і па праўдзе не ўяўляў: як можна не верыць таму, хто гаворыць праўду?

– Суд верыць фактам. Факты супраць цябе. А таксама суд ведае, што дзевяць з дзесяці падсудных імкнуцца ўнікнуць адказнасці і ў большасці выпадкаў з лістоўкамі ўсе тлумачэнні слова ў слова паўтараюць тваё: “Я нічога пра іх не ведаю”, – дзяліўся досведам, бы з сябрам, следчы, дадаў са шкадаваннем: – Цябе чакае прысуд у выглядзе штрафу, да пяцідзесяці базавых. Ды страшна іншае: у магістратуры судзімага з артыкулам за супрацьдзяржаўную дзейнасць трымаць не будуць – дзяржава не дурная вучыць сваіх ворагаў. Ты вылятаеш без права на ўзнаўленне. З унясеннем у чорныя спісы – шлях у навуку для цябе закрыты. Па вясне цябе чакае служба ў войску – даведаешся, што там не мёд. Вось такая твая будучыня...

– Але ж... Я не вінаваты, гэта... гэта не лагічна! Няма ніякіх доказаў...

– Вось доказ! – Рэзка выгукнуў следчы і ляпнуў па аркушу. – Тут – пра знойдзенае пры табе ў тваім матрацы. Якія яшчэ пытанні?

Мацвей маўчаў.

Следчы ўстаў з-за стала, падышоў да акна, павярнуўся спінай да Мацвея. Нейкі час ён маўчаў задуменна, не пазіраў на Мацвея. Потым гукнуў:

– Падыдзі сюды.

Мацвей разгублена ўзняўся з крэсла, зрабіў крок.

– Падыходзь да акна, паглядзі...

За акном была вуліца. Самая звычайная, ужо вясенняя, сонечная. Святлафоры бязгучна рэгулявалі сваімі пукатымі вачамі плыні людзей і аўтамабіляў.

– О, там пабач, на тым баку! – нечакана ўзрушана сказаў следчы, нават паказаў рукой. – Бачыш – жанчына пайшла на чырвонае святло... Бач, апамяталася, спынілася, павярнула назад. Так у жыцці заўсёды – ёсць правілы. Можаш парушыць – і трапіць пад колы. Вядома, кожны некалі робіць памылковы крок. Але кожнаму даецца шанц вярнуцца назад... Сядзь на месца.

Мацвей ледзь здолеў адарваць позірк ад вулічнага жыцця. Ён упершыню адчуў няздольнасць так проста выйсці і апынуцца там! Ніколі раней не было такога, каб ягоная воля і магчымасць былі абмежаваныя воляй і ўладай іншых людзей. Ён ажно замёр – каб зафіксаваць у сабе, адкласці ў памяці гэтае пачуццё адчаю.

– Ты ўсё зразумеў? – і цень спачування, і халадок пагрозы ў пытанні следчага.

– Не разумею: чаму мне не верыць? Я кажу праўду. Заўжды – толькі праўду. Бо я – матэматык. Я не магу ілгаць! – апошнія словы Мацвей мала што не выкрыкнуў.

– Добра, давай я табе на момант паверу, – уздыхнуў следчы. – Няхай нехта невядомы захацеў так з табой пажартаваць: падкінуў табе гэтыя лістоўкі...

– А як вы даведаліся, што яны – у мяне? – вырвалася ў Мацвея, ён узрушыўся ад думкі: – Калі мне падкінулі лістоўкі, то паведаміць пра іх мог той, хто гэта зрабіў!

– Ты хочаш даведацца, хто гэта зрабіў? – ніколькі не пакрыўдзіўшыся на тое, што яго перапынілі, спытаў следчы.

– Дык канечне!

– І мы хочам. У цябе свае інтарэсы, у нас – свае. Давай тады сумесна, згодзен?

– Як гэта?

– Не надта складана, – ужо зусім па-сяброўску загаварыў следчы. – У цябе, бачу, аналітычны склад розуму. Ты можаш назіраць, супастаўляць факты, рабіць высновы. Прааналізуй: хто мог недзе ўзяць такую колькасць лістовак? Відавочна ж, яны прызначаліся для распаўсюду...

– Ды не... Не магу.

– Зразумела, не зможаш. Гэта можам мы, як будзем ведаць пра шматлікія сувязі. А ты можаш іншае – пабачыць тыя сувязі, бо ты знаходзішся сярод іх. Але ж трэба ўспамінаць... Слухаць, назіраць. Хто на якія тэмы размаўляе, якія анекдоты “травіць”, якія настроі, якімі навінамі з якіх сайтаў дзеліцца. Разумееш?

– Ды не...

– Вядома, гэта не такая простая матэматыка. Ужо алгебра вышуковай логікі, – усміхнуўся як сябру следчы. – Адзін з асноўных законаў гэтай навукі – нельга для дакладнага выніку карыстацца інфармацыяй і фактамі з адной крыніцы. Факты і думкі ад цябе мы пачнём супастаўляць з тымі, якія маем ад іншых – тады складваецца карцінка. Разумееш?

– Разумею, гэта як матэматычны аналіз...

– Вось і цудоўна... Ты згодзен падумаць, паслухаць, пабачыць прааналізаваць і паставіць нам інфармацыю для пошукаў твайго жартаўніка?

Мацвей замарудзіў з адказам. Ён яшчэ не разумеў схаванай ад яго розуму пагрозы для яго, а яна тут была – ён гэта адчуваў інтуітыўна. І хай не наўпрост пагроза, але нешта такое, што ў любым выпадку стварала пагрозу ранейшаму раскладу жыцця і сістэме ягоных каштоўнасцей.

– Мне... мне трэба падумаць.

– Няма праблем, ідзі падумаў спакойна. Час у цябе ёсць...

– А... дзе думаць?

– У камеры.

– Дык мяне не адпускаюць? – наіўна спытаўся Мацвей, бо ў нейкі момант ён паверыў, што за гэтай прапановай шукаць разам таго “жартаўніка” павінны быць сяброўскі поціск рук і ягоны шлях туды – у жыццё па-за гэтымі сценамі.

– Не, сябра... Думаць – толькі ў камеры. Адсюль выходзяць з дакладна акрэсленымі планамі на будучыню, – цвёрда, з усмешкай, якая зараз падалася хіжай, адказаў следчы. – Але строга папярэджваю: наша размова павінна застацца між намі. Помні пра правілы: усяго адзін крок. Выбірай: альбо наперад пад колы, альбо назад – у бяспечнасць. Зразумеў?

Голас прагучаў як жорсткае папярэджанне.

Мацвей кіўнуў.

Яго вялі назад тым самым калідорам, са скрыгатам адчыніліся дзверы камеры, Мацвей увайшоў і раптоўна тут, у цеснаце і шэрасці, адчуў палёгку – быццам пасля задушанага памяшкання апынуўся сярод лесу, дзе стала хапаць паветра.

– Ну як? – ціха, каб не было чуваць іншым, пацікавіўся Зміцер, прысеўшы побач.

– Не разумею, – шчыра прызнаўся Мацвей – ён насамрэч не мог пакуль уцяміць: куды і да чаго прывяла размова са следчым.

– Давай угадаю, – з усмешкай загаварыў Зміцер. – Слядак – вельмі ж добры чалавек, ну, недзе, канечне і строгі, але хоча, каб было ўсё па-справядлівасці. Таму прапанаваў табе дапамагчы пашукаць адказ на пытанне: адкуль у цябе ўзяліся лістоўкі? Хто іх мог падкінуць? Ну?

Мацвеў, уражаны, падняў вочы на Зміцера, сустрэў лёгкую скруху.

– Адкуль ты ведаеш?

– Таму што так бывае ўсякі раз, – уздыхнуў Зміцер. – Ім трэба вочы і вушы паўсюль. Шпегі і даносчыкі. Глядзі... Гэтыя людзі не прымаюць пустых абяцанняў. Падсунуць падпісаць паперку.

– Якую? Навошта?

– Слухай сюды... – яшчэ цішэй загаварыў Зміцер. – Уяві: ты ідзеш па вуліцы, ля вугла дома плача наўзрыд хлопчык. Твае дзеянні?

– Гэта ты да чаго? – здзівіўся Мацвей.

– Твае дзеянні? – настойліва перапытаў Зміцер.

– Прайду... прайду міма, – здаўся Мацвей, стаў тлумачыць: – Бо ў хлопчыка, вядома ж, ёсць...

– Стоп! – спыніў яго Мацвей. – Трох хвілін размовы з табой дастаткова, каб зразумець: ты пазбаўлены эмпатыі.

– І што, гэта дрэнна? Кожны абавязаны аддаваць сябе цалкам адной справе – для кожнай справы патрэбны прафесіянал. Тады ўсталюецца парадак. Я лічу, што мне, як матэматыку, упусканне ў сябе чужых эмоцый... – заспяшаўся Мацвей з апраўданнямі.

– Ды ціха ты, – безэмацыйна спыніў яго Зміцер. – Я табе не пра добрадрэнна. Кажу, што адсутнасць эмпатыі вядзе да вывучэння навакольнага свету і здабывання жыццёвага вопыту адно толькі праз свае праблемы. Таму я не моцна спачуваю табе: такім, як ты, нельга іначай давесці аніводную ісціну. Яны не паверацць у наяўнасць га...на ў сваёй краіне да той пары, аж пакуль не прымусіць іх прыняць сеанс інгаляцыі над вядром з га...ном. Так што – дыхай, атрымлівай па поўнай. Я што-кольвечы змагу патлумачыць, пытайся, матэматык стэрыльны...

– Дык... а што мне рабіць? Што са мной будзе? – нечага спалохаўся Мацвей, бо хоць і не мог дарэшты згадзіцца са словамі Зміцера, адчуваў у іх тую праўду, якой неабходна авалодаць неадкладна, каб пачувацца хоць трохі ўпэўнена.

– Ад цябе залежыць, – млява, згубіўшы цікавасць да Мацвея, адказаў Зміцер – у гэты час дзверы камеры адчыніліся і зайшло трое маладзёнаў, адзін з якіх, напэўна, знаёмы цяперашніх сядзельцаў, ускінуў руку і нягучна, але бадзёра гукнуў:

– Жыве Беларусь!

Мацвей уздрыгнуў, калі нечакана для яго ў адказ колькі глотак адначасова выдыхнулі:

– Жыве!

Ён сядзеў на ўскрайку тапчана. У камеры стала цесна. Не спыняліся размовы: тыя, хто толькі прыйшоў, расказвалі. Астатнія слухалі, задавалі пытанні, абмяркоўвалі. Мацвей не пытаўся нічога, не перапытваў, хоць далёка не ўсё было яму зразумелым. Больш за тое: многае падавалася яму прыдуманым, а не прыдуманым, дык дакладна не з гэтага свету, а з нейкага сюррэалістычнага: затрыманні, збіццё, жорсткасць, немагчымасць давесці праўду, выказаць сваё стаўленне...

Мацвея частавалі ў абед і ўвечары дамашнімі прысмакамі, якія перадавалі ў камеру. Зміцер атрымаў перадачу і даў яму зубную шчотку, кавалак мыла, пакет папяровых сурвэтак. Мацвей злавіў сябе на думцы, што чалавека лёгка ператварыць у звера, калі пазбавіць яго элементарных рэчаў гігіены. Не гэта было жахлівым, а тое, што такое ператварэнне адбывалася ў сталіцы сучаснай краіны, за нейкія дзесяць крокаў ад іншага, цывілізаванага жыцця.

Але па-сапраўднаму не давала спакою, расло, запаўняла сабой усё ягонае нутро іншае адчуванне: алагічнасці таго, што адбылося і адбывалася. Свет, у якім жыў дагэтуль Мацвей, гвалтоўна парушыўся – і ён не бачыў прычын разбурэння, ён быў заспеты раптоўным руйнаваннем абсалютна непадрыхтаваным. Ды што там падрыхтаваным...

Ад таго самага моманту асэнсавання і памяці сябе Мацвей жыў у дакладна выверaным свеце, дзе быў лад, парадак, яснасць ва ўсім. Школа і школьныя гурткі, музыкальная школа і піяніна дома, конкурсы, алімпіяды, канферэнцыі... Усё гэта дарэшты запаўняла ягонае дзяцінства і юнацтва. Ён ведаў пра існаванне іншага жыцця, у хвалях якога боўталіся ягоныя аднакласнікі, дзе віравалі крыўды і страсці, вечаровыя тусоўкі і школьныя

дыскатэкі, курэнне і піва крадком, цісканне дзяўчынак і відэа са сцэнамі сэксу. Усё гэта існавала – але існавала па-за ім. І ён дакладна ўсведамляў, што сам выбірае, у якой плыні быць яму, сам чысціў сваю плынь ад занесеных зрэдчас трэсак закаханасці ці пацярухі абмеркавання нейкіх грамадскіх падзей (то на старэйшых курсах універа). Ён ад пачатку адгароджваў сябе найбольш ад каляпалітычных размоў і спрэчак, пакрысе ў яго атрымалася прывучыць сваіх знаёмых да таго, што ён насамрэч цікавіцца адно навукай. Ну, і па самым мінімуме тым, чаго патрабуе фізіялогія. Мацвею ўдалося большае: ён навучыўся карэляваць і кантраляваць свае інтымныя жаданні са сваім вольным часам – тут на дапамогу прыйшло сеціва з безліччу сайтаў патрэбнай тэматыкі, за праглядам якіх уціхамірыць свае гармоны вялікай цяжкасці не было.

Мацвей быў упэўнены ў тым, што ён кіруе сваім жыццём, што тое, ад чаго ён надзейна адгарадзіўся, ніколі не кранецца яго і тым больш не зашкодзіць. І ён не мог уцяміць: якім чынам тое, што не было пераменнай велічынёй хоць якой значнасці ў формуле ягонага жыцця, а ўсяго дробнай канстантай, нават адноснай хібнасцю, раптам пераўтварылася ў самую ўплывовую і складаную функцыю?

Яго не выклікалі ўвесь дзень. Стоячы свае гадзіны сярод ночы ў камеры (спалі па чарзе, бо ўсім не хапала месца), Мацвей занепакоена падумаў пра тое, што следчы мог і не прыдумаць: рэктар універа быў вядомы сваімі поглядамі на апазіцыю. Але ж ён – вучоны, хіба ён не зразумее, што тут была падстава, што Мацвей – перспектыўны навуковы супрацоўнік, а не нейкі адвязаны нацыяналіст?

Яго гукнулі да следчага назаўтра па абедзе.

Невядомасць і доўгае чаканне зрабілі сваю справу – Мацвей хваляваўся. Але следчы, зноў гэтакі ж стомлена-паніклы, нібы толькі закончыў цяжкую фізічную працу, адкінуўся па-свойску на спінку крэсла, разняволена, зусім па-хатняму.

– Прысядзь, магістрант...

Хвіліны тры было маўчанне, потым следчы крэкнуў, пацягнуўся да папер.

– Ты ўяўляеш, якую колькасць друкаванай прадукцыі на сённяшні дзень заарыштавалі і канфіскавалі ў адным Мінску? – узняў ён вочы на Мацвея, трымаючы ў руках выбраны аркуш.

– Не, – разгублена пакруціў галавой Мацвей.

– Недзе на пяцьдзясят тысяч долараў. У дзясятках месцаў. І гэта толькі папера і друк. Самая вяршыня айсбергу. А арганізацыя, транспарт, распаўсюд – выдаткі ў разы большыя. Мы ведаем на сёння дакладна аб сумах у тры мільёны долараў. Толькі на гэтыя выбары. Дзіцячую бальніцу можна пабудаваць. Але такія грошы скіраваны супраць нашай дзяржаўнасці. Вось чаму яны нас не пакінуць у спакоі, як ты думаеш? Ну, каму замінае Беларусь? У вас – адны парадкі, у нас – іншыя. Як людзі сямейныя, чаму не жыць? Хіба нармальны мужык пойдзе ў чужую сям'ю вучыць таго мужыка, як яму дзяцей рабіць? Ну?

– Не... не думаю.

– Правільна, нармальны не пойдзе... – прагаварыў задумліва следчы. – У мяне ніяк часу не было шчыльна заняцца тваёй справай, выбачай. Столькі ўсяго палезла з усіх шчылін... Ты падумаў добра? Ёсць хто на прыкмеце? Згадаў усіх, хто любіць распачынаць размовы на палітычныя тэмы?

– Ды не. Ніяк не думаецца, чэсна кажу.

– Магчыма, веру. Чалавеку ў стрэсе аналізаваць цяжка. Дык мы дамовіліся, так? Ты назіраеш, аналізуеш і дзелішся з намі сваімі вывадамі. Мы дзелімся з табой сваімі вакол адных і тых жа асоб...

– Я... паспрабую.

– Добра, – следчы адклаў аркуш, які дагэтуль трымаў у руцэ, узяў другі. – Зробім так. Ты будзеш мець зарэгістраваны акаўнт на гугл-дыску. Поштай не карыстайся. Віртуальны дыск. На яго ты штотыдзень станеш скідваць кароткія, па справе, але змястоўныя справаздачы назіранняў за тыдзень: хто, дзе, якія размовы, якія дзеянні. Што будзе нам незразумела – ты атрымаеш ліст з дадатковымі пытаннямі. Гэта не дзіцячая гульня, ты будучы навуковы супрацоўнік, павінен разумець, як справы робяцца. Таму – вось дамова. Пачытай і падпісвай. Нічога страшнага там няма. А з другога боку – гэта твой абярэг.

Ліст апынуўся перад тварам Мацвея. Ён амаль не разбіраў радкі, бо быў без акуляраў, але і таго, што разабраў, хапіла для разумення: гэта была дамова аб яго добраахвотным супрацоўніцтве з органамі дзяржаўнай бяспекі. Што ён абавязваецца... сачыць і паведамляць.

Мацвея апаліла гарачынёй, якая ішла з ягонага нутра. Ажно пот выступіў на твары.

– А... навошта падпісваць?

– Таму што мы не ў пясочніцы гуляемся, – скрывіўся следчы, а голас ягоны стаў халодным і рэзкім. – Падпісвай – і праз трыццаць хвілін ты зноў апынешся ў тым сваім жыцці, якое існавала да моманту твайго затрымання.

– А... калі – не?

Следчы ўсміхнуўся – на гэты раз адкрыта хіжа, узяў са стала той самы аркуш, які трымаў напачатку.

– Гэта – загад аб тваім адлічэнні. Без права на ўзнаўленне. Але я тут вышэй за рэктара. Ты падпісваеш – гэты дакумент проста кладзецца ў шуфляду стала, і на яго ўсе забываюцца. Ты не падпісваеш – загад дзейнічае. Ты падпісваеш – і атрымліваеш нябачную дапамогу ва ўсім тваім кар'ерным росце, нябачнае, але эфектыўнае спрыянне табе ва ўсіх справах. Не падпісваеш – вылятаеш на ўзбочыну жыцця раз і назаўсёды. Ну?

– Мне трэба падумаць, – раптоўна ахрыплым голасам адказаў Мацвей, прыкрыў вочы, чым здзівіў следчага, і той насмешліва хмыкнуў.

Мацвей сапраўды думаў. Ён бачыў сваё жыццё як працэс з дакладным алгарытмам, прычым законы алгарытму былі прапісаны ім самім, асобныя вузлавыя моманты, дзе ўзважваліся пасылкі і выбіраўся далейшы шлях, распрацоўваліся гэтаксама ім самім. "Калі А не роўнае В, то С", "Калі С – імкнецца да нуля, а D – расце, тады Е" – шляхам многіх гадоў вызначаліся правілы. Зараз ён падпісвае паперу, і ў ягоным жыцці з'яўляецца магутная функцыя, пра якую ён ведае адно: калі ён як велічыня будзе дадатным з пункту гледжання самой функцыі, тады і вынік будзе станоўчым для яго. Функцыя працуе ў фонавым рэжыме – ніхто не ведае пра яе. Быць часткай дзеючай функцыі і хаваць тое – значыць, ілгаць. Ён – ужо па духу свайму вучоны, а яму прапануюць быць шпегам. Частка ягонага мозгу павінна выконваць функцыю аналізатара, фіксатара і інфарматара.

Гэтыя думкі пранесліся ў галаве Мацвея за кароткія імгненні. Ён адкрыў вочы, сустрэў сталёвы позірк следчага і ціха сказаў:

– Я – будучы вучоны. Я не магу падпісваць, бо я не здольны рабіць дзве справы. Я не магу ілгаць.

– Я, я, я! Раз'якаўся тут! Галоўка ты ад снарада, – грэбліва паморшчыўся следчы. – Прэч у камеру чакаць суда. На каленях, сучонак, папоўзаеш – згадаеш мае словы. Тут не кожнаму прапануюць сваю дружбу, помняць сяброў, але не забываюць тых, хто ад сяброўства адмовіўся. Нам будзе вядомы твой кожны крок. Цябе праз два месяцы чакае войска – і мы пастараемся, каб яно цябе навучыла добра. Як намерышся там лезці ў пятлю, згадаеш нашу размову, я табе абяцаю. Апошні раз пытаюся: падпісваеш? – следчы рэзка падаўся наперад, Мацвей уздрыгнуў і інстынктыўна падаўся назад ад злога, пранікальнага позірку.

– Н-не магу.

Мацвей вяртаўся ў камеру надзіва спакойным. Ён не паверыў у застрашванні следчага. Бо той трымаў у руках, але не паказаў загад рэктара аб адлічэнні яго з універа. Два месяцы таму ў навуковым часопісе быў надрукаваны вялікі артыкул з двума подпісамі – яго і рэктара. Так, пісаў, вядома ж, Мацвей, рэктар унёс сякія-такія праўкі, зразумелая практыка ў навуковым асяродку. Мацвей не крыўдаваў за тое, разумеў. Рэктар ведаў яго асабіста, здароўкаўся з ім за руку. Ён – вучоны ў першую чаргу, і не дасць у крыўду сваіх паплечнікаў. Тым больш наперадзе такі вялікі і шматабяцаючы праект, у якім рэктар выказаў асабістую зацікаўленасць.

Мацвей і на гэты раз лёгка дыстанцыянаваўся ад усяго таго жыцця, якое не ўкладвалася ў ягоны ранейшы алгарытм навукоўцы. Сваё знаходжанне тут ён цяпер разглядаў як прыкрую недарэчнасць, якая неўзабаве забудзецца.

## Частка 4

Як і казаў Зміцер, нікога з тых, хто трапіў у камеры па палітычных матывах, не вызвалялі. Іх было тут ужо дзевяць чалавек – усе схопленыя "за экстрэмісцкую дзейнасць напярэдадні выбараў". Сукамернікі прагна чакалі навін з волі, абмяркоўвалі кожную нязначную дзею, часам горача спрачаліся.

Мацвей не лічыў сябе інтравертам, мог падтрымаць размову ў якой кампаніі з цікавай яму тэмай. Тады і ён сам мог быць цікавым. Ягоная вузкасць інтарэсаў і была тым бар'ерам, за якім адасобіўся Мацвей, хоць ніхто яго за батана не ўважаў – Мацвей, што называецца, глыбока капаў ва ўсіх тэмах, якія тычыліся яго паводле яго разумення. Палітыка ж – не тычылася. Ён унікаў размоў на гэтыя тэмы, бо, па праўдзе, ніколі не імкнуўся нават злёгку заглыбіцца ў пeратурбацыі каляпалітычнага жыцця.

Але камера і насельнікі ў ёй былі не тэлевізарам, які можна было выключыць ці ад яго сысці. І Мацвей скарыўся – і слухаў, слухаў пра тое, што раней было не проста па-за межамі яго цікавасці, але і ўвогуле часткова не існавала. Пакрысе яму раскрываўся свет, ад якога ён старанна адгароджваўся раней. Ён мусіў чуць і слухаць. Розум вучонага аналізаваў атрыманую інфармацыю, і, сам таго не жадаючы, Мацвей насычаўся абурэннем і нянавісцю да тых, хто хапаў і трымаў яго і іншых у камеры. І не таму, што абудзілася тая самая эмпатыя, пра якую казаў Зміцер. Не. Для Мацвея раскрывалася алагічнасць дзейнасці закона. Яго павінны былі ўжо накіраваць у суд, але трымалі без ніякіх тлумачэнняў. Не выклікалі

да следчага. Алагічнасцю поўніліся расказы хлопцаў: збіццё падчас затрымання, ператрусы ў кватэрах і пакоях інтэрната без аніякіх санкцый. Да гэтай алагічнасці, няправільнасці дадаваліся нічым не вытлумачаныя нечалавечыя нормы знаходжання тут. Каб не перадачы іншым з волі, Мацвей пакутаваў бы ад голаду і холаду. З ім дзяліліся прадуктамі, далі цёплыя вязаныя шкарпэткі і швэдар. Да ўсяго Мацвей, зацяты індывідуаліст, мусіў праводзіць усе свае дзеянні на вачах у іншых і сам назіраць за тым жа. Найцяжэй далося прызвычаіцца да таго, што ў інтэлігентных людзей завецца ранішнім туалетам...

Нечаканым быў вынік нетаропкага ўдумлівага аналізу: супраць ягонай волі ўсё існуючае складвалася ў цалкам лагічную сістэму адносін “дзяржава-чалавек”. Алагічнасць пераўтваралася ў лагічнасць, усякія дзеянні падаваліся апраўданымі, усе наступствы слушнымі, як толькі ты ў апісанні велізарнай функцыі пад назвай “дзяржава” прызнаваў сябе за намінальную велічыню, якую скарыстоўвае функцыя, але ніколькі не клапоціцца пра тваё захаванне. Бо ты – адзін з элементаў дадзеных вялікага масіву, а гэты масіў патрабуецца апрацаваць: сартаваць, выкінуць лішняе, утрымаць у вызначаных межах. Думкі пра гэта цалкам авалодалі свядомасцю Мацвея, на эмоцыі не заставалася месца. Варушылася слабая надзея, што ўвесь гэты ўкладзены ім у зграбную функцыю свет існуе адно ў гэтых сценах. Што суд, які мае адбыцца, разбярэцца ва ўсім. І канечне, пасля суда ўсё вернецца на ранейшае месца і ў ягоным жыцці зноў галоўным стане магістратура. І Марго, пра якую ён, на здзіўленне для сябе, думаў многа.

І ўсё ж ён пакутаваў, найперш ад бяздзеяння, ад невядомасці кожнай наступнай гадзіны. Вельмі перажываў за маці – яна тэлефанавала раней штовечар, а палове дзявятай гадзіны. Без сумнення, яна пазваніла таму першакурсніку, з якім ён жыў у пакоі – маці яшчэ раней спытала нумар тэлефона хлопца. І вось яна даведалася, што яе сын арыштаваны...

У панядзелак прозвішча Мацвея ў ліку іншых выгукнулі ад дзвярэй з дадаткам “З рэчамі на выхад”. Ён не прыглядваўся да твараў людзей, што былі з ім у аўтазаку, не падтрымліваў размоў. Засяродзіўся на сваім чарговым дапушчэнні: дзяржава – гэта шматузроўневая функцыя, выходзіць, суды павінны адыгрываць ролю складаных пераменных. І яму няма чаго спадзявацца не нейкі цуд – яму вызначаць пакаранне тое, пра якое казаў следчы, і няма прычын для таго, каб да ягоных заяў аб невінаватасці нехта прыслухаўся. Таму ён быў амаль спакойны, усяго адна прыкрасць вярэдзіла бесперапынна галаву: нямыты столькі дзён, ён адчуваў свой смурод. Шчэць на шчоках і барадзе выклікала сорам. Стаяць такім перад судом было прыніжальна.

Але ён вытрымаў гадзіны чакання і тыя кароткія хвіліны разгляду ягонай справы. Штраф у пяцьдзясят базавых велічынь з выплатай затрат на ягонае ўтрыманне ў следчым ізалятары за гэтыя суткі не выклікаў асаблівых эмоцый. Галоўнае – усё ззаду, зараз – памыцца, неадкладна і хутчэй.

Ён, саромеючыся смуроду свайго цела, паклыпаў пешкі, балазе, да інтэрната было недалёка. Думак не было, акрамя тых задач, якія акрэсліліся ў галаве як тэрміновыя да выканання: паставіць на зарадку тэлефон, памыцца, пераапрануцца, патэлефанаваць і супакоіць маці, пайсці ў сталоўку ўнівера паесці. Вось ён, неабходны мінімум...

На вахце яго сустрэла, быццам чакала ўвесь гэты час, камендант: жанчына трыццаці пяці гадоў з невялікай галоўкай, падстрыжаная пад

хлопца, з кароткай шыяй і дыспрапарцыйна шырокімі плячыма і поўнымі сцёгнамі, якія яна нібыта спецыяльна падкрэслівала, нацягваючы занадта шчыльныя штаны з кароткімі вузкімі калашынамі.

– Хрысцік, стой! – загадала яна, усё роўна Мацвей збіраўся ўцякаць ад яе, загарадзіла цесны праход. – У нас ляжыць загад аб тваім адлічэнні. У цябе часу роўна суткі, каб падпісаць абхадны і здаць рэчы.

Яна казала яму “ты” – такая ветлівая, усмешлівая яшчэ тры дні назад з ім ды і з іншымі старшакурснікамі, тым болей – магістрантамі і аспірантамі. Інтэрнат поўніўся чуткамі пра яе цікавасць да маладых мужчын, з яе незласліва жартавалі ўпотайкі, але малодшыя курсы зналі яе як дэспатычную цётку. І цяпер яна аказалася для Мацвея тым вестуном, што прыносіць дурныя весткі. Мацвея не ўразіла навіна – у галаве ўсяго толькі як пстрыкнуў тумблер: функцыя павінна ахопліваць абсалютна ўсе бакі жыцця, значыць, універсітэт і інтэрнат – тыя ж пераменныя. Матэматыка простая...

Ён адно кіўнуў і рушыў проста на непрапарцыйна складзенае жаночае цела. Камендант адступіла.

Праз гадзіну ён выйшаў з інтэрната. Пад’ехаў тралейбус, ляпнулі дзверы, Мацвей памкнуўся было зайсці і мусіў спыніцца, бы наткнуўся на нябачную сцяну жудасці – апынуцца там, у цеснаце сярод людзей, падалося яму невыносным. Ён выдыхнуў паветра, праглынуў сліну, якой неспадзявана забіла рот. Пешкі было ісці хвілін сорак, але ён не стаў чакаць другога тралейбуса, каб яшчэ раз спраўдзіць сваю раптоўную (канечне ж, пасля камеры) клаўстрафобію.

Цікава, думаў ён, ідучы шэрым тратуарам, ці рэальна было б у той вялікай функцыі, якая адлюстроўвае дзейнасць дзяржавы, пралічыць усе магчымыя пераменныя і канстанты, выявіць іх праз лічбы і ўрэшце пабудаваць графік? Які ён атрымаецца?

З улікам тых ведаў, якія ён атрымаў у “турэмным лікбезе”, гэта не можа быць прамая ці простая крывая, якая мае пэўную скіраванасць да нейкай кропкі. Гэта хутчэй круг ці эліпс... Але ж, паводле таго, як сціскаюцца межы свабоды, як узмацняецца роля сілавых і карных органаў, як мацнее наменклатура, атрымаецца... спіраль. І спіраль, якая не раскручваецца, дэманструючы пашырэнне магчымасці грамадзянскай супольнасці, а тая, якая закручваецца. Спіраль, у аснове якой не круг, але пялёстак. Кожны віток спіралі змяншае пялёстак у шырокай яго частцы. Усё так, функцыя будзе імкнуцца да цэнтру, да кропкі, дзе яна... знікне. Непазбежна для любой аўтарытарнай сістэмы – для кожнага наступнага кроку свайго існавання ёй неабходна яшчэ ўлады і яшчэ кантролю.

Зайшоў у прыёмную рэктара. Яго і тут быццам чакалі, таму што адразу ж сакратарка, пекная жанчына, узяла патрэбны лісток і падазвала яго:

– Азнаёмцеся з загадам, калі ласка... У канцылярыі возьмеце абхадны лісток... там патлумачаць.

Мацвей распісаўся, ціха падзякаваў. У дзвярах сутыкнуўся з рэктарам, Вітольдам Сямёнавічам Прыходзькам. І той разгубіўся на нейкі момант, ажно рука тарганулася наперад – заўжды ж віталіся пры сустрэчы, але рэктар авалодаў сабой – адступіў крок назад, даючы Мацвею выйсці з прыёмнай, і спыніў пытаннем:

– Ты зразумеў, за што цябе адлічылі? Ты прадэманстраваў сваю нелаяльнасць да дзяржаўных органаў, да самой дзяржавы. Вучоны абавязаны

быць найперш дзяржаўнікам, – павучальна-напышліва прамовіў рэктар, адно не хапіла задзёртага ўгару ўказальнага пальца.

І раптоўна вырваліся словы, якія і не былі раней думкай, самі сабой скલаліся, як імгненная рэакцыя на няправільную пасылку ў формуле:

– Калі вучоны – дзяржаўнік, тады з яго вырастае не Вавілаў, а Лысенка... – прамовіў Мацвей, павярнуўся, не развітваючыся, і пайшоў прэч, не стаў глядзець, як змяніўся твар рэктара ад ягонай кароткай прамовы.

А Мацвей ішоў і сам думаў над тым, што сказаў. Не, не над сэнсам, а над самім фактам выказвання. Чаму не мог запярэчыць так катэгарычна раней? Можа, таму, што цяпер ён вольны? Цалкам вольны – ад усіх сваіх ранейшых абавязкаў, нават ад чысткі зубоў і штовячэрняга чытання апошніх навін у сеціве на тэму матэматыкі. Ну а што, казалі ж, што Перальман – не проста аскет, але аскет у кубе. І зубы ён, кажуць, не чысціць. Але зубы – дробязь, хоць і тут – свабода паводзін. Перальман адмовіўся ад усіх даброт, ён пасвяціў сябе рашэнню задачы – і яму няма патрэбы ўскладняць сваё жыццё тым, што мы завём нормамі і правіламі грамадскага жыцця, этыкетам і этыкай. Ён быў настолькі свабодны ад усякіх умоўнасцей свету, што адмовіўся ад усіх прэмій, якімі ўзнагароджваўся. Мацвей марыў недзе да трэцяга курса, што ён аднойчы рашыць якую-небудзь задачу тысячагоддзя, як і Перальман... Добра, што ў ягоным жыцці з'явіўся Мархель – ён патлумачыў, што па дарозе да вялікага належыць напачатку рашаць сотні дробных і не вельмі задач.

Кароткая сустрэча з рэктарам у разы абвастрыла яго жаданне не кантактаваць ніяк з людзьмі – ажно да фізічна адчувальнай гідлівасці. Мацвей ішоў вуліцай і думаў пра тое, што яму трэба сабрацца, настроіць сябе яшчэ на суткі знаходжання тут – каб разабрацца з бібліятэкай і інтэрнатам – і з'ехаць, з'ехаць хутчэй.

А куды? Ды дадому. Будзе сорамна? Гэта хвалявала мала, як блізка не краналі ў дзяцінстве і юнацтве розныя кепікі і злыя слоўцы за спінай. Няёмка перад маці. Але гэта адзіны чалавек, у якога ён можа спытаць парады: што рабіць далей. Бо сам ён адказу на гэта пытанне не ведаў...

І вісеў дамоклавым мячом штраф. Без малога пяцьсот долараў – гэта сума, якой не магло быць у маці з яе мізэрнай настаўніцкай пенсіяй. Тым больш яна штомесяц палову яе пераводзіла яму на картку, бо што тая стыпендыя.

Збіраў і здаваў у бібліятэку кнігі, атрымліваў подпісы ў абходным лістку ў розных кабінетах, і рабіў гэта блізка ў паўсне, без аніякіх эмоцый: проста таму, што так трэба. І сам не заўважыў, як да вечара зрабіў усё – на раніцу заставалася адно здаць пасцельную бялізну. Мацвей скідваў на флэшку ўсё, што можа спатрэбіцца Данілу Галоўчыку ў вучобе, над чым яны працавалі ўдвух. Яго не дзівіў, а больш цешыў той факт, што Даніла не званіў і не прыходзіў – магчымая размова з некім пра свае злыбеды бачылася як усаджванне ў крэсла да стаматолага. Па тэлефоне ён адно паразмаўляў з маці, коратка: праблемы, адлічаны, але не вінаваты, палітыка, падставілі, усё раскажа. Быў яшчэ званок ад Мархеля, Мацвей нейкі час вагаўся: ці перазвоньваць. Прафесар патэлефанаваў сам.

– Вінаваты? – выдыхнуў ён у трубку пытанне пасля прахалоднага "добры дзень".

– Не, Андрэй Кузьміч, – цвёрда адказаў Мацвей.

– Зразумела, хоць ні халеры не зразумела, – прамармытаў Мархель. – Куды цяпер?

– Дадому.

– Так, ясна... Слухай, – стаў казаць загадна прафесар: – Паціху ўсё ўтрасецца, так заўсёды бывае. Пасядзі дома, пачытай што. Не спяшайся нікуды лезці. Праз месяц-два я табе патэлефаную, прыедзеш, паразмаўляем. У мяне ёсць добры знаёмы, прыватная фірма, устаноўка абсталявання з праграмным кіраваннем, невялікія робатызаваныя комплексы. Наша спецыфіка. Знойдзем там табе месца. А праз год... Праз год ці мала што зменіцца. Як той Насрэдзін казаў: ці я, ці асёл, ці шах, а нехта памрэ. Дамовіліся?

– Дзякуй... Я яшчэ не думаў пра заўтрашні дзень, – трохі расчуліўся Мацвей, адначасова ўсвядоміўшы: гэтыя дні – не проста канец ягонага ранейшага жыцця, а і пачатак магчымага новага. І вось – нарэшце трошкі акрэсліўся адзін з магчымых сцэнарыяў.

– То будзь на сувязі, – і загадаў, і папрасіў адначасова Мархель.

Данілы не было, Мацвей аддаў флэшку ягонаму сужыўцу, папрасіў перадаць. Выходзіў і ў цесным калідорчыку блока сутыкнуўся з Андрусём.

– Вітаю, зямляк, – павітаўся ціха.

– Вітаю, – паспешліва адгукнуўся Андрусь. – Чуў пра твае непрыемнасці, спачуваю...

– Каб яшчэ да тваіх спачуванняў долараў пяцьсот дадалося, штраф заплаціць, – вырвалася ў Мацвея без асаблівай горычы. – Але дзякуй...

– То заходзь, пратрэм тэму, – проста адгукнуўся Андрусь, нібыта нагадваючы, што ў яго тут – міні-банк і без праблем атрымаеш крэдыт пад невялікі працэнт. – Я во ў туалет...

Ён неахайна выцер рукі завэдзганым ручніком, кінуў яго на ложак.

– Сума, канечне, вялікая, таму магу скасціць трохі працэнт. Ты ж разумееш, я тут не дабрачыннасцю займаюся, – ухмыльнуўся ён. – Сярод ночы падымаюць і просяць дзясятку на тыдзень, то хай аддаюць за маю дабрыню рубель зверху. Для цябе, як земляка, дзесяць працэнтаў за месяц. За гэты час, мяркую, суму збярэш?

– Збяру і раней, – паабяцаў Мацвей, хоць і не падумаў: дзе ён возьме хоць палову, хіба маці ў некага пазычыць. Цяпер жа рэальная магчымасць у гэты момант вырашыць пытанне з аплатай штрафу выглядала надзвычай прывабна, таму пра будучыя пошукі грошай моцна не задумваўся.

– Добра, – пабарабаніў па стальніцы пальцамі левай рукі Андрусь – неяк з мелодыяй. Устаў, падышоў да шафы, пакорпаўся, вярнуўся і паклаў на стол пяць зеленаватых паперак. – От табе пяць соцень. Як земляку: дзесяць працэнтаў за месяц. За два тыдні – пяць. Сам палічыш, матэматык жа. Але, дружа, за два месяцы – дзесяць працэнтаў з ужо асноўнай сумы і з працэнтамі за мінулы месяц. Ну і далей так. Таму не цягні. Грошы патрабуюць дзелавога падыходу, сам разумееш... Прымаецца?

– Прымаецца, – згадзіўся без усмешкі Мацвей, а мозг запрацаваў, падлічваючы: колькі ж гэта аддаваць, як атрымаецца толькі праз год?

– Тады распіску напішы, – ужо як аб самым простым сказаў Андрусь, нахіліўся, выцягнуў з тумбачкі папку: – Не думай, я ва ўсіх распіскі бяру, хто больш за 10 рублёў пазычае. Дысцыплінуе, ды і сам хоць помню: хто мне вінен, – рагатнуў ён. – Бачыш, якая картатэка сабралася? – ён раскрыў папку, прашамацеў аркушамі. – Вось табе ўзор, папера, ручка...

– А адрас бацькоў навошта? – здзівіўся быў Мацвей, пішучы распіску.

– А даводзіцца застрашваць некаторых, – паморшчыўся Андрусь. – Вось яшчэ... Я табе тэлефон дам, у нашым райцэнтры мужык ёсць, ён па вясне збірае брыгады на будаўніцтва ў Расію...

– Які з мяне будаўнік? – уздыхнуў Мацвей, але зірнуў на Андруся з зацікаўленасцю.

– Рознарабочыя паўсюль патрэбныя. Запішы тэлефон... Днямі пачнецца сезон, за месяц можаш баксаў васемсот падняць. Мне ж цікава самому ад цябе доўг у час атрымаць, – патлумачыў свой клопат пра будучыню Мацвея Андрусь. – Удачы.

– Дзякуй...

Назаўтра пасля абеду Мацвей сядзеў на сваім ложку, на якім застаўся адно той самы матрац са схованкай ды паўпустая падушка ў насыпцы з бруднымі разводамі. Цягнік дадому быў позна вечарам, але знаходзіцца тут, ва ўжо чужым для яго інтэрнаце, сэнсу не было. Чытаць ці рашаць нешта ён не мог, і сам злаваў з-за гэтага: мозг не ўспрымаў практычна ніякай інфармацыі, працівіўся любому роздуму. Многія са сваіх рэчаў Мацвей пакідаў як падарунак свайму, ужо былому, сужыўцу, але ўсё адно сабралася барахла – як жа многа ўсяго трэба чалавеку для камфортнага жыцця! Абрастаеш імі, як падводныя камяні ракавінкамі... Вялікі заплечнік і немаленькая сумка. Найбольш кнігі – цяжкія, груваткія. Іх пакінуць Мацвей не мог – яны набываліся за грошы, якія ашчаджаў на абедах, за якімі аб'язджаў букіністычныя магазіны, замаўляў на сайтах. Кнігі з маленства і па сёння ўспрымаліся ім як адзінае сапраўды каштоўнае.

Вахцёрка праводзіла яго жаласлівым позіркам, у дзяжурных – дзяўчынак-першакурсніц вочы паблісквалі агеньчыкамі жаху і цікавасці. Мацвей сказаў "Бывайце", яму моўчкі кіўнулі ў адказ. На ганку Мацвей пастаяў у роздуме – сумка насамрэч была цяжкай. Прыкінуў: колькі ў яго грошай, хацеў ужо выцягнуць тэлефон і выклікаць таксі, як аўто ў шашачкамі прыпынілася і вадзіцель крыкнуў:

– Едзем?

– Едзем.

У салоне аўтамабіля ён усё ж выцягнуў тэлефон, раздумваючы: званіць ці не Марго. Да ўсіх боляў, якія ён паспытаў гэтымі днямі, была асаблівая боль, як стрэмка ў падушачцы пальцаў, якую трывожыў час ад часу, – Марго ні разу не пазваніла яму: сярод паведамленняў у тэлефоне не было рэгістрацыі яе званка. Ён сам не званіў, адкладваў да апошняга. Разумеў, што Марго ў курсе ягоных спраў, яна пра ўсё ведае. Не тэлефануе – паставіла на ім крыж. Яе маўчанне яскравей за любую размову. Бо яна ж – эліта, так сама лічыць. Яна – дзяржаўніца, а Мацвей, атрымліваецца, тайны агент, завербаваны праклятымі іншаземнымі службамі, каб разбурыць знутры найкаштоўнейшы хрустальны сасуд.

Ён паклаў тэлефон на месца.

## Частка 5

Людзей у чакальнай зале вакзала было не многа, Мацвей без цяжкасці выбраў сабе месца побач з пажылой цёткай, відавочна, вяскоўкай у вялікай мешкаватай куртцы з цёплай хусткай на галаве. Каля цёткі стаялі дзве груваткія торбы – на той выпадак, каб пакінуць пад наглядам сваю

цяжкую сумку ды падысці да буфета, бо ад раніцы не еў, абышоўся кубкам чаю. Ён пацікавіўся, ці вольнае месца побач, пасядзеў хвілін пяць, упэўніўся, што цётка нікуды не спяшаецца, і папрасіў прыгледзець за сумкай. Цётка кіўнула згодліва, дадала:

– А што ж, ідзіце, які тут клопат.

Ад позірку на вітрыну з печывам і бутэрбродамі рот напоўніўся слінай. Мацвей адшукаў сярод іншага піражкі з тварагом – іх купляў на вакзалах ці на вуліцы, з павідлам яму падаваліся надта салодкімі, а тыя, што пазначаліся “з мясам”, выклікалі ў роце гідкае адчуванне смаку нясвежага ліверу. Паглядзеў цэны, згадаў, колькі грошай у кішэні... Мозг ажыў, атрымаўшы нарэшце рэальную матэматычную задачу, прагна накінуўся, падрахаваў і замёр у чаканні наступнай порцыі. Мацвей адчуў амаль фізічную палёгку. Успомнілася адкладзенае на потым: колькі грошай ён будзе вінен Андрусю, калі зацягне больш за месяц? У свядомасці намалявалася формула, дзе эн – колькасць дзён, эс – сума доўгу. Пацягнула зараз жа выцягнуць свой кішэнны нататнік, але спыніў сябе – у чарзе ж стаіць. Замовіў шклянку гарбаты, ажно чатыры піражкі – нечага падумалася, і гэтых не хопіць наталіцца, але спыніў сябе – пазней возьме, не ўцячэ ж буфет...

З пакетам разагрэтых піражкоў на тонкай пластыкавай талерачцы і чаем, пакруціўшы галавой па баках, рушыў да крайняга круглага століка – вакол астатніх таўклося па два-тры чалавекі, а там стаяла адно хударлявая дзяўчына гадоў дваццаці. Мацвей спытаў, ці вольна ля яе, паклаў на столік талерку, піражкі, паставіў гарбату і палез у кішэню па нататнік і ручку – пяць хвілін, каб астыць гарбаце, не любіў апякацца.

Засяродзіўся на формуле разліку доўгу, хацелася зрабіць яе кароткай і прыгожай – хоць гэта не проста прыносіла задавальненне, а мела рэальны практычны сэнс. У нейкі момант ён узняў галаву – прыём для адключэння ўвагі ад напісанага, каб у мозгу вызваліць месца для абсалютна новага рашэння. І ўбачыў твар дзяўчыны.

Ён быў пакамечаны і схуднелы. Ніякай касметыкі. Выразныя (ды яшчэ асвятленне залы – проста зверху) цені пад вачыма. Мацвей заўважыў, куды скіраваны позірк яе сініх – адзіна яркіх на ўсім твары – вачэй, і яму стала сорамна, як падгледзеў нешта інтымнае.

Дзяўчына глядзела на ягоныя піражкі.

І не зразумець гэтага позірку было немагчыма – гэта быў позірк галоднага чалавека.

За шэсць гадоў ва ўніверы Мацвей бачыў такія позіркі не раз – хто са студэнтаў не галадаў, застаўшыся з лічанымі капейкамі да стыпендыі ці грашовай перадачы ад бацькоў? Таму памыліцца ён ніяк не мог. У галаве ўспыхнулі словы Змітра аб эмпатыі, дамяшаліся думкі пра магчымую складаную сітуацыю дзяўчыны, і Мацвей зразумеў, што не прапанаваць дзяўчыне пачаставацца не па-чалавечы з ягонага боку. Са свайго захаплення псіхалогіяй ён вынес нямала простых, але эфектыўных правілаў, адно з якіх гаварыла пра тое, што чалавек куды лягчэй ідзе на кантакт і выконвае просьбу, калі апошняя пра нязначную дапамогу – тады ён набывае значнасць для сябе ў сваіх вачах. Таму ён узняў вочы на дзяўчыну няспешна, каб яна заўважыла ягоны намер і не пачувалася засталай неспадзеўку:

– Прабачце, калі ласка... Ці не дапаможаце мне вырашыць адну маленькую праблему?

– Я? – спалохана адгукнулася дзяўчына ці не шэптам. – Што вы хочаце?

– Ды нічога такога, але ж... Ці бачыце, стаяў у чарзе, так там смачна пахне, так ужо схацеў есці, што ўзяў ажно чатыры піражкі. Яны з тварагом... Вы ж каштавалі раней піражкі з тварагом? – спытаў з усмешкай.

– Спрабавала, – вымушана ўсміхнулася дзяўчына.

– Дык выдатна, то ведаеце, якія яны смачныя! – усцешыўся Мацвей. – Мне ніяк не з'есці чатыры! Дапамажыце мне! Вам два і мне два, па чэснаму, добра? Вы ж за справядлівасць, праўда?

– Але... Дзякуй, толькі... – яна разгубілася, выглядала зусім бездапаможнай і на твары яе было напісана два жаданні: збегчы адсюль як мага далей, некуды, праваліцца, знікнуць. І – узяць піражок з талеркі.

– Ну навошта нам нейкія толькі, піражкі стынуць! – асмялеў, пабачыўшы ваганні дзяўчыны Мацвей, пасунуў талерачку бліжэй да дзяўчыны: – Частуйцеся, а то акалеюць...

І сам узяў адзін, зірнуў як падміргнуў, запрашаючы дзяўчыну зрабіць тое ж.

Яна нясмела ўзяла адзін піражок. Пакуль елі па першым, Мацвей маўчаў, стараўся глядзець не ў яе бок, а ў нататнік. Формула ў ім намалявалася прыгожая, як ён таго і дабіваўся.

– А як завуць такую добрую дзяўчыну, якая не адмовілася мне дапамагчы? Бярыце, бярыце другі! – і сам пацягнуўся за піражком.

– Паліна, – ціха адказала дзяўчына, ўзяла піражок.

– А я – Мацвей! Будзем знаёмыя – ён смешна ўзняў піражок уверх, бы кілішак з напоем.

Яна ўсміхнулася ў адказ – прыязна і нязмушана.

– Не раскажаце, куды едзеце? – спытаўся Мацвей праз хвіліну, ужо разглядваючы без ніякаватасці твар і постаць дзяўчыны.

Непрыгожы твар – у ім было нешта хваравітае. Пры ўсёй хударлявасці ніжняя частка яго выглядала залішне вялікай і цяжкай. Хіба вочы свяціліся. Танная вязаная шапка на галаве, чорныя валасы выбіваюцца пасмачкамі. Звычайная куртка – шырокая – хавае абрысы цела. Сярэдняга росту.

– Ды так, – няўцямна адказала дзяўчына, запытала з ветлівасці: – А вы куды?

Мацвей адпіў гарбаты, прамакнуў вусны папяровай сурвэткай.

– Добрае пытанне, – уздыхнуў ён, неспадзеўкі адчуўшы жаданне разважаць услых над сваёй сітуацыяй. – Здаецца, ясна куды, геаграфічна і фізічна – еду дадому, да маці. А паглядзець глыбей? У невядомасць... Яшчэ тыдзень таму маё жыццё ішло, бы той цягнік, які вязе мяне па рэйках: дакладны шлях, вызначаныя прыпынкі, вытрыманы расклад руху. І ў адзін нейкі дзень здарылася тое, чаго ты ніяк не чакаў – і цябе няма ў цягніку. Ты стаіш на ўзбочыне, міма цябе пранесліся апошнія вагоны, чырвонае святло ліхтара на апошнім знікла ў цемры – і цемра вакол. Я – магістрант. Са словам "былы". Два дні таму мяне адлічылі з універа. І вось я тут. Вакзал – як кропка экстрэмуму функцыі.

– Але ж экстрэмум – гэта не канец, – ціха пракаментавала пачутае Паліна. – За мінімумам пачнецца пад'ём. Новы пачатак.

– Ага, новы пачатак, – крыва ўсміхнуўся Мацвей. – Але дзе сэнс пачынаць новае, як ты здольны да аднаго?

– Хто ведае, у чым сэнс і які ён, і на што мы здольныя, – мякка запярэчыла дзяўчына. – Калі ёсць дом, калі ёсць куды вяртацца – усё іншае зусім не страшна.

– Вы так кажаце, быццам валодаеце немалым досведам, – запытліва глянуў на дзяўчыну Мацвей, бо адчуў прыхаваную горыч у яе апошніх словах.

– Маю, – кіўнула дзяўчына. – Мне няма куды вяртацца. Няма куды ехаць.

– Гэта як? – неўдавана здзівіўся Мацвей.

– Так вось. Жылі ў райцэнтры: мама, тата, бабуля... Яна хворая была, ляжала большасць часу. Невялікі дом, стары... Бацька інвалід пасля траўмы на рабоце, без рукі. Выпіваў моцна. Мама ўрэшце знайшла мужчыну, я вучыцца паехала, а яна – замуж. У Італію. Мінулым летам дом наш згарэў. Казалі, бацька п'яны заснуў з цыгарэтай. Не ўратавалі ні яго, ні бабулю... Страхоўкі і грошай, што людзі сабралі, хапіла на пахаванне ды на паўгода на ежу. Участак пад дом маленькі быў, ніхто не пакваліўся, каб купіць. Так і стаіць, зарослы. Цётак-дзядзькоў у мяне няма, бацька быў адзіным сынам у сям'і, а маці – з Расіі, адна ў яе сястра, не бачыла яе ніколі. Нікога больш з родных. Вось так. І мяне таксама адлічылі, я ў тэхналагічным вучылася, трэці курс. Не здала сесію. І мне няма куды ехаць...

Мацвей замёр. Ён ніяк не чакаў, што ў жыцці чалавека можа здарыцца такое. Так, ён чуў пра бадзякоў, бачыў іх ля сметніц, але каб бадзяком, сапраўды – бадзяком жа – выявілася маладая дзяўчына, тое разрывала ўсе ягоныя шаблоны. Пракаўтнуў сліну.

– І вы... вы цяпер на вакзале?

– Трэція суткі збіраюся начаваць. Толькі б міліцыянты не выгналі, бо мінулай ноччу папярэдзілі ўжо.

– Без грошай?

– А вы як думаеце? – яна зірнула адкрыта ў вочы Мацвею, і ён пабачыў невыказную тугу і безвыходнасць.

– А... А давайце, давайце я вас пачастую добрай вячэрай, ага? Тут павінна быць кавярня, там няспешна пасядзім... ну, хадземце! І гэта, чакайце... – Мацвею падалося мала гэтага праяўлення сваёй увагі да чалавечай бяды, і ён прапанаваў спешна, мо і баючыся сам перадумаць: – Паедзем да мяне! У нас неблагі гарадок, ёсць прадпрыемствы, можна знайсці працу. Я з маці жыву, кватэра трохпакаёвая, па першым часе пажывяце без праблем. Вы не думайце, у мяне добрая мама, былая настаўніца, яна ўсё зразумее...

Ён казаў і бачыў, як з сініх вачэй дзяўчыны пакаціліся слёзы, і спужаўся, замаўчаў. Паліна не адказвала, схіліла галаву. Слёзы зрываліся з твару і падалі на зялёную пластыкавую стальніцу.

– Прабачце, я не хацеў вас пакрыўдзіць, – разгубіўся Мацвей.

– Я не пакрыўдзілася, што вы, – адказала Паліна, старанна ацерла твар сурвэткай. – У вас самога такія праблемы, а вы мне... А вось я згаджуся? – усміхнулася скрозь слёзы. – Мне ж праўда няма куды падзецца з гэтага вакзала.

– Ну дык і згаджайцеся! – угаворваў Мацвей, якому раптам стала надзвычай важна дапамагчы. – Праўду кажу: пажывяце без усякіх пытанняў столькі, колькі вам патрабуецца, а там нешта і прыдумаецца.

Яму самому паверылася ў шчаслівае завяршэнне гісторыі Паліны: уладкуецца яна на іх райцэнтраўскі завод, перавядзецца на завочнае, закончыць вучобу... І наладзіцца ўсё. Ён сказаў услых свае думкі, заспяшаўся далей:

– Але, хадземце ў кавярню! Гэтымі піражкамі не наясіся, а нам ехаць

усю ноч, гэта такі цягнік да нас ходзіць, мы яго кругасветным клічам... Адно, чакайце, напачатку я збегаю куплю білеты, добра? А вы пабудзеце з маімі рэчамі, бо, заплечнік, халера, цяжкі.

– Добра, – нечакана цвёрда, нібыта адважыўшыся на скачок, адказала дзяўчына, нагнулася – Мацвей заўважыў ля яе ног вялізны шэры чамадан на калёсіках – узялася за ягоную ручку, падалася з-за століка. – Вядзіце.

Неспадзявана з'явілася справа – важная, сур'ёзная. І свая бяда трошкі захінулася чужым горам. У яго хоць адліковая кропка, якая аказалася сённяшнім такім важным адкрыццём: не ўсё страчана дарэшты, калі ёсць куды вяртацца.

Ён здаў свой білет, узяў два другія – каб у адным купэ. Затым вячэралі ў кавярні, прасядзелі доўга – не было куды спяшацца, іх ніхто не гнаў, бо наведвальнікаў было вобмаль. Расказваў больш Мацвей, у яго бадай што цэлая дэтэктыўная гісторыя атрымалася.

– А ты і праўда падумаць на некага не можаш? – спытала Паліна (яны на парозе кавярні дамовіліся на "ты").

– Праўда. Адкуль у маім матрацы тыя лістоўкі – ніяк не ўцямлю. Хто іх там хаваў? Чаго шкада, дык гэта нататніка. Там столькі розных думак было занатавана, практычна гатовая ідэя сістэмы кіравання на аснове алгарытму. Карацей, прынцыпова новая, у разы эканомней і хуткасней за існуючыя!

– Дык аднаві.

– Давядзецца. А ты, прабач, што цікаўлюся, размаўляю з табой, дык жа... Карацей, чаму сесію не здала? Цяжка?

Паліна засмяялася коратка ў адказ.

– Хацеў сказаць: не дурная з выгляду? Ну так, вучыцца мне лёгка было. І здала б усё. Каханне. Ага, закахалася бы дурніца. Чатыры месяцы ў тумане. Траціла апошнія грошы на падарункі яму, сама апранахі купляла, каб яму спадабацца.

– Не ацаніў? – асцярожна пацікавіўся Мацвей – тая нітачка агульнага даверу, якая ўзнікла яшчэ з яшчэ ад частавання піражкамі, ужо выглядала моцнай, але не настолькі, каб лезці з роспытамі аб асабістым так глыбока.

– Чаму ж? Ён з такіх свалачэй, што не толькі ацэньваюць, але і карыстаюць.

– Прабач... – няўцямна павёў рукамі ў бакі Мацвей.

– Вой, ты па праўдзе нейкі занадта далёкі ад рэальнага жыцця, – ласкава ўсміхнулася, бы меншаму брату, Паліна. – Ну, зразумеў, што я – закаханая і на ўсё згодная, дык папіў і паеў за мае грошы, і ў ложку задавальненне атрымаў. Карацей, усё як заўсёды. Апамяталася – позна было. Ды і апамяталася не тады, калі пра адлічэнне сказалі, а як ён паслаў брыдка і далёка. Праплакала дзень – і выплакала каханне.

Сваю маці Мацвей папярэдзіў, што прыедзе не адзін, сказаў як ёсць: дзяўчыне няма куды падзецца, то хай пажыве месяц-другі. Маці, шакаваная арыштам, судом, адлічэннем сына, няйнакш успрыняла гэтую навіну як мілую нязначную дробязь: што ж, як конь здох, хай і хамут крадуць.

Яны прыехалі рана, горад яшчэ спаў у вогкім сутонні. Да дома даехалі на таксоўцы. Падняліся па лесвіцы на трэці паверх, тут Паліна спынілася на пляцоўцы і ціха прашаптала, не саромячыся:

– Божачка, што я раблю? Малю цябе, дай мне хоць нейкі знак, ці я раблю правільна, я ўжо столькі напамылялася.

– Варта ж было перахрысціцца, – заўважыў Мацвей. – Хадзем, яшчэ адзін паверх.

– Хвілінку пастой...

– Проста аддыхацца, ці знаку чакацьмем? – ужо пакпіў незласліва Мацвей.

– А ты не верыш у Бога? – проста спытала Паліна.

– З таго, што я ў свой час прачытаў, я зразумеў: вера сама па сабе ёсць самы эфектыўны спосаб перакласці адказнасць з сябе на прыдуманага людзьмі ўсемагутнага ўладара. Бедны стваральнік сусвету! Знаў бы ён, колькі сабак на яго навешалі. Давай разам уявім: ён там адзін, самотны ў Сусвеце. У тым Сусвеце – мільярды метагалактык, у тых метагалактыках – мільярды галактык, у тых галактыках – мільярды зорных сістэм з мільярдамі планет, дзе ў нейкай можа быць жыццё. І ён, замест таго, каб вырашаць лёс соцень мільёнаў планет – бо паблізу збіраецца ўспыхваць звышновая зорка, думае: які б знак падаць дзяўчыне, каб яна смялей пераступіла парог? – закончыў з усмешкай Мацвей. – Пайшлі, мама папярэджаная, я казаў табе, што яна ўсё зразумее.

Маці сустрэла іх з тварам, на якім уважлівы мог пабачыць цень трывогі. Першае, што сарамліва папрасіла Паліна – дазволу скарыстацца ванным пакоем.

Стол ужо быў сабраны – бутэрброды ў талерцы, стаялі кубкі, у імбрыку заварвалася гарбата.

– Што гэта за дзяўчына, сынок? – ціха і сур'ёзна спытала маці, падпёршы шчаку рукой. Мабыць, пра галоўнае – што здарылася з сынам – яна мелася гаварыць пазней.

– Не ведаю, мама, – шчыра прамовіў Мацвей. – Але яна ў такой жыццёвай сітуацыі, што не прапанаваць ёй дапамогу я не змог. І ведаеш, мне стала самому неяк лягчэй глядзець на сваё.

– Ты яе зусім-зусім не ведаеш?

– Так, зусім-зусім. Не перажывай, у нас няма чаго красці.

– Красці, канечне, няма чаго. Я і не перажываю, думала... думала, што гэта твая дзяўчына, што ты прыдумаў.

– Навошта мне прыдумляць?

– Мо саромеешся казаць. Сёння моладзь жыве па іншых законах. Ні рэгістрацыі не абавязкова, ні вяселля. Дык вам асобна паслаць?

Мацвей успыхнуў чырванню. Першы раз за гэтыя гадзіны ён падумаў пра Паліну менавіта як пра жанчыну тады, калі яна распранулася ў іх кватэры і разбэрсвала шнуркі даволі патрапаных красовак. Між швэдрам і нізкім поясам джынсаў свяцілася шырокая паласа белага дзявочага цела і яшчэ – вузкія паскі трусікаў. Ён імкліва адвёў позірк, але адчуваў, што маці падгледзела і пабачыла, як усхваляваў яго той момант.

– Асобна, што ты! Яна проста кватарантка ў нас. На месяц які, там, думаю, наладзіцца ў яе. Яна не выглядае цямцяй-лямцяй.

Паліна ўправілася хутка, выйшла з ручніком на галаве, у мятым, але чыстым халаціку, які адкрываў яе калені, і Мацвей не мог не звярнуць на іх увагу – круглявыя, роўныя. Зусім іншым выглядаў твар Паліны, з яго знік шэры цень безвыходнасці, ён быў ружовым з лёгкай сарамлівай усмешкай. Паліна падзякавала, папрасіла прабачэння, што давялося яе чакаць, вярнулася ў вітальню, пакорпалася ў сваім чамадане і прынесла, працягнула маці Мацвея свой пашпарт:

– Ганна Антонаўна, прабачце, вось...

– Не трэба выбачацца, а разумець ты сама павінна, не маленькая: свет сёння ненадзейны, – адказала маці Мацвея, спакойна разгарнула пашпарт, зірнула на картку, пачытала звесткі, пагартала старонкі. – Добра, дзевань-ка, жыві сабе...

Мацвей распавядаў маці падрабязна пра ўсё, што з ім здарылася, за сталом, прымаючы Паліну хай не як сваю сямейніцу, дык сябрам. Маці не перапыняла, слухала ўважліва, ціхенька і гаротна ківала галавой.

– Сынок, а ты не думаеш, што гэта спецыяльна зрабілі табе? – спытала, калі Мацвей замаўчаў.

– Мне? Спецыяльна? – агаломшана паўтарыў Мацвей. – Але каму гэта спатрэбілася і навошта?

– Усё некалі адкрыецца, усяму свой канец прыходзіць, – задумліва прагаварыла маці. – Ідзіце, кладзіцеся... Пайшлі, Палінка, я табе пакажу твой пакой, дзе што класці. Пазней мы прыбяром лішняе, каб табе вальней было...

Грошай у маці, прыхаваных “на чорны дзень”, было на ўкладзе ў банку каля двухсот долараў у беларускіх рублях. Пагаварылі і вырашылі: няхай паляжаць. За тры дні Мацвей абышоў практычна ўсе прадпрыемствы ў райцэнтры, завітаў да прыватнікаў, пабываў на біржы працы, прагледзеў мясцовую газету з аб’явамі. Працы не было. Зусім. Тое, што прапаноўвалі, было падобным на здзек: на заробак у сто долараў нельга было пракарміцца, не тое што адкласці на патрэбы. Дзіўна, але справы ў Паліны вырашыліся літаральна ў першы ж дзень – у камунгасе ёй прапанавалі нейкую работу, пра якую Паліна сціпла сказала: буду спецыялістам па ачыстцы вод. Інтэрнат паабяцалі, але бліжэй да восені, гэты ход кіраўніцтва быў зразумелым: паглядзяць напачатку, а потым ўжо падумаюць, ці варта даваць.

Маці Мацвея з кожным днём адчувала сябе горай – яна часта ляжала ў сваім пакоі, ёй балела галава. У першы дзень прыезду яна выглядала куды весялейшай, а вось цяпер, дарэшты асэнсаваўшы паразу сына, не здужала маўкліва насіць у сабе боль.

Вестка Мацвея пра тое, што ён намерваецца звязвацца з невядомым яму працадаўцам, каб патрапіць на заробкі ў Расію, напалохалі Ганну Антонаўну. Мацвей, як мог, супакойваў маці: гэта ж усяго на месяц які, каб разабрацца з доўгам! А пацяплее – уладкуецца да прыватных будаўнікоў. Дый варта думаць, ваенкамат на яго не забыўся. Вечарам ён патэлефанаваў па нумары, які яму даў Андрусь. На заўтра прызначылі сустрэчу.

Мужчына гадоў трыццаці быў лаканічным:

– Праз тры дні вязу брыгаду. Яна ўкамплектаваная. Са мной яшчэ едуць трое такіх як ты, адзіночак. Там кшталту біржы, падсобнікаў усякі раз пытаюць. Патэлефануеш, скажу час дакладны і месца. Адзенне, ежы дні на тры, пакуль уладкуешся, грошай трохі, пашпарт...

У вызначаны дзень у пяць гадзін раніцы Мацвей з напакаваным заплечнікам пакідаў кватэру. Маці абняла яго, і плечы яе заторгаліся:

– Ой, не ехаў бы ты, сынок...

– Усё будзе добра, мама! Палова мужчын на заробкі ездзіць, вунь хаты ўжо сабе пабудавалі, сама ведаеш!

– Чула, сынок...

Паліна выйшла з пакоя ў накінутым на доўгую начную кашулю халаціку, падала руку:

– Шчасліва табе, Мацвей.
– Дзякуй! Не сварыцеся тут...

**Частка 6**

У мікрааўтобусе Мацвей памкнуўся заняць месца на задніх сядзеннях, але адзін з мужчын, які сядзеў там, папярэдзіў:

– Хлопча, тут наша кампанія. Садзіся там.

Крануліся, выехалі. Сядзенні былі не надта зручнымі. Пакрысе за вокнамі развіднела як след, мужчыны ззаду ажывіліся, пачалі корпацца ў сваіх рэчмяшках. У салоне востра запахла варанымі яйкамі і гарэлкай. Мужчыны выпівалі доўга, пакрысе набірала гучнасць і эмоцыі іх размова, сэнс якой староннi ўхапіць не мог. Урэшце яны сцішыліся – паснулі.

Яны, сямёра, відавочна, былі брыгадай. Астатнія пяцёра, між якімі быў і Мацвей, заставаліся самі па сабе. Мацвей прыглядаўся да спадарожнікаў: малады, як і ён, хлопец, прысеў наперадзе, яшчэ трое патрапанага выгляду, падобныя сваімі тварамі з выразнай пячаткай пастаяннага ўжывання алкаголю. Адзін з такіх быў побач з Мацвеем, спытаў з паддобрываннем:

– Слухай, мо каб апахмяліцца крышку? Не пачастуеш?

Ад яго несла, апроч перагару, лекамі, і Мацвей напачатку здзівіўся: чаго хворы папёрся ў дарогу, як да яго дайшло: мужчына пахмяляўся настойкай нечага на спірце. Ён адмоўна моўчкі пакруціў галавой, не паварочваючыся да мужчыны.

Наймальнік, з якім напярэдадні сустракаўся Мацвей, не ехаў: ён паведаміў Мацвею і іншым "аднаасобнікам", што аўтамабіль сустрэнуць і ім прапануюць розныя месцы, на выбар. Было трошкі трывожна, але Мацвея займалі думкі пра сваё: і ў сне дурным не магло прысніцца, што ён, замест таго, каб працаваць у лабараторыі ці рабіць чарговыя разлікі, будзе ехаць некуды пад Маскву (у Каломну, казаў наймальнік), каб патрапіць на якую будоўлю рабочым, жыць у вагончыку ці хлеўчуку, працаваць цяжка фізічна. І згадаў Паліну: як знянацку ўсё змянілася ў яе жыцці: была сям'я, бабуля, дом. І каханы. А цяпер яна ў чужым горадзе, кватаруе ў чужым жытле, і самымі блізкімі ёй людзьмі – ён, Мацвей, ды ягоная маці.

Думкі пра Паліну адгукнуліся цеплынёй. За гэтыя некалькі дзён нечакана склалася ўражанне, быццам яна даўно жыве з імі, яны з маці ведаюць яе з маленства. Мо пасадзейнічала таму яе шчырасць у іх першы агульны сняданак і шчырасць Мацвея перад ёй. Маці ягоная, не бачна было, каб падціснула хоць раз вусны на словы ці дзеянні Паліны. А тая пачувалася ў кватэры хоць і сціпла, але не затурканай папялушкай: есці два вечары гатавала на ўсіх, мармычучы сабе песню пад нос, падцірала падлогу на кухні і ў пакоі, які стаў ейным, жвава, ці не грацыёзна. Мацвей, згадваючы дзяўчыну, адчуў, што асцярожна люляе ў душы карцінку іх расстання: Паліна выйшла з пакоя зусім не заспаная. Ён амаль фізічна адчуў у тую хвілінку цяпло цела, якое сыходзіла ад яе. Пальцы ў ягонай руцэ ледзьледзь уздрыгнулі падчас кароткага развітання. Яшчэ тады падумалася: каб Паліна абняла яго, то было б зразумелым і натуральным...

Мацвей заплюшчыў вочы, але сон ніяк не ішоў. Дзесяць гадзін дарогі вымучылі. Рабілі кароткія прыпынкі, бо мужчыны спынялі аўтобус то па патрэбе, то на перакур. Ніхто не загаворваў з Мацвеем, нават ягоны равеснік. Ды і сам Мацвей не імкнуўся да кантактаў.

Нарэшце прыехалі. Вадзіцель яшчэ раней з некім размаўляў па тэлефоне, то тых, хто не ў брыгадзе, чакалі двое. Першае, што кінулася ў вочы Мацвею: гэтыя мужчыны не хавалі сваёй грэблівасці, гледзячы на іх пяцярых, якія ехалі ў адзіноце наймацца рознарабочымі.

– Так, вы трое, – звярнуўся загадна адзін з мужчын да трох старэйшых спадарожнікаў, якія скучкаваліся асабняком: – Грузчыкамі на рынак здужаеце?

– Як дасі пахмяліцца, адразу і пачнём, – залыбіўся ў адказ адзін з іх.

– Пайшлі...

Другі мужчына, нізкага росту, з акуратнай шчэццю на твары і паголенымі рупліва шчокамі, звярнуўся да Мацвея і ягонага земляка:

– Вы першы раз выправіліся на заробкі? – Адзначыў маўклівыя згодныя кіўкі галовамі, прадоўжыў: – Разумею... Набіраем брыгаду на адзін вялікі аб’ект. Работы на год ці болей. Сур’ёзныя працадаўцы, добрыя грошы. Праўда, не тут. Валгаград. Вашых з Беларусі там ужо многа брыгад працуе. Вахтавы метад, тры тыдні працы, дзесяць дзён дома. Бетонныя работы. Нялёгка, але ўмовы добрыя – там цэлы рабочы пасёлак з вагончыкаў, сталоўка ёсць. Аванс па прыездзе. На месца паедзем камфортна: у фуры зроблены спальныя месцы. Наступным разам будзеце дабірацца самі, як захочаце. Вада, сухпай на двое сутак. Дзесяць чалавек ужо ёсць, згаджаецеся – хадзем са мной...

Першы раз Мацвей і малады хлопец пераглянуліся, як даючы адзін другому згоду.

– Ідзём, – хлопец падняў з зямлі заплечнік.

Мацвей зрабіў тое ж.

Селі ў іншы мікрааўтобус, там ужо было чалавек шэсць з такімі ж аб’ёмнымі заплечнікамі, і, відавочна, гэтаксама незнаёмыя між сабой.

– Зараз выедзем за горад, там пункт збору, – стаў тлумачыць нізкарослы. – Дарэчы, гэта кавярня, можна паесці гарачага. Каму памяняць долары – я магу. Курс звычайны. Грошы можаце траціць спакойна: аванс па прыездзе, – паўтарыў ён абяцанне.

Практычна ўсе за паўгадзіны шляху скарысталіся прапанаванай паслугай, Мацвей таксама атрымаў за ўзятыя дома долары расійскія рублі.

Пах у кавярні – былым чыгуначным вагоне – апетыту не выклікаў, але ў чаргу па ежу сталі ўсе, і Мацвей, падпарадкаваны гэтым агульным дзействам. Ягоны зямляк стаяў паперадзе, прапанаваў:

– Возьмем па дзвесце? – кіўнуў на касу, дзе буфетчык разлічваў і наліваў гарэлку ў пластыкаўкі. – Ноч ехаць, спаць лепей. А тут глядзі – капейкі каштуе, у нас удвая даражэй.

– Не, я не буду, – адмовіўся Мацвей, хвіліну павагаўшыся.

Хлопец пацiснуў плячыма, крануў за плячо папярэдняга і між імі завязалася гутарка, яны і селі разам за стол. Мацвей мусіў чакаць, пакуль для яго вызваліцца месца. Аднекуль з’явілася інфармацыя, што машына прыйдзе толькі праз гадзіны дзве, мужчыны ўжо перазнаёміліся, пацягнуліся зноў да касы – па чарговыя порцыі.

Праз тры гадзіны ля кавярні нарэшце спынілася фура, і той самы нізкарослы са шчэццю стаў гукаць усіх на вуліцу. З цвярозых заставаўся адзін Мацвей. Некаторых мужчын давялося раскатурхваць.

Ужо надыходзіў вечар, калі фура кранулася. Седзячы ў зачыненым наглуха, без адзінага акенца, вялізным прычэпе, асветленым трыма ць-

мянымі лямпачкамі на століі, на старым матрацы, які, трэба разумець, і быў тым абяцаным спальным месцам, Мацвей міжволі думаў: гэтая кавярня як месца збору, гадзіны чакання – усё між сабой звязана, бо ці так борзда палезлі б у чорнае і глухое нутро фуры будучыя бетоншчыкі, каб не яднала іх ўсіх адно жаданне: упасці і спаць...

Пад галаву Мацвей паклаў заплечнік. І хоць холадна ў фуры не было – працаваў калярыфер, гнаў гарачы струмень паветра, але лёг і накрыўся з галавой тонкай шарсцяной коўдрай сіняга колеру з белымі паскамі. Хацелася адгарадзіцца ад усяго, і нейкае дзіцячае кволае спадзяванне варушылася ў галаве: варта заснуць – і прачнешся тады ў сваім пакоі ў інтэрнаце, а гэта ўсё – сон, цяжкі, доўгі...

За ноч спыняліся двойчы – мужыкі ціскалі на паказаную ім раней кнопку, каб выйсці да ветру. Курылі наўпрост у фуры – тут хапала дробных скразнякоў, праз якія выцягваўся цыгарэтны дым.

Ужо і развіднела добра, вадзіцель паабяцаў раней, што спыніцца ля добрае кавярні, каб паесці гарачага, а фура ляцела і ляцела далей. Практычна ва ўсіх разрадзіліся мабільнікі – тут падзарадзіць не было як. Адключыўся і мабільнік Мацвея, паказаўшы апошні раз час – была палова адзінаццатай. Фура ўрэшце збавіла ход і прыпынілася. Дзверы шырока расхінуліся, вадзіцель гукнуў:

– Эй, вылазь, каму шашлык гарачы, каму плоў, каму шурпу – усё свежае і смачнае!

Гэтыя словы ў фуры сустрэлі радасным гулам. У кавярні іх, пэўна, чакалі – заказанае прыносілі бегма, абслугоўвалі ветліва. Мацвей сядзеў за сталом з трыма мужыкамі, якія, відавочна, паспелі пасябраваць. Бачыў, як засвяціліся іхнія вочы ад гарачых страваў, ад гарэлкі ў шклянках (яе прапанавалі яшчэ да гарачага). Як жа мала іншы раз трэба чалавеку для шчасця: пахмяліцца і добра закусіць, седзячы за чыстым сталом...

На гэты раз Мацвей прынцыпова адмовіўся піць – недзе раней прачытаў, што каб не стаць алкаголікам, дастаткова выконваць усяго два простыя правілы: не спажываць алкаголю раней за пяць гадзін вечара і не пахмяляцца.

На яго забыліся адразу ж.

Снедалі (ці рана абедалі) недзе з гадзіну, нарэшце іх начальнік – той самы чарнявы нізкарослы, стаў прыспешваць:

– Заканчвайце, хто жадае – бярыце з сабой у дарогу. Нам яшчэ нямала ехаць...

Тут Мацвей насцярожыўся. Чаму – нямала? Яны выехалі вечарам, у дарозе больш за дванаццаць гадзін... Ад Масквы да Валгаграда... колькі ж там? Ну, хай тысяча кіламетраў. Але ж за 10 гадзін павінны прыехаць, фура, адчувальна ж, бяжыць недзе пад сотню.

Ён знарок прыпыніўся на выхадзе, пачакаў наймальніка:

– Здаецца, ужо б павінны прыехаць?

Твар мужчыны непрыемна скрывіўся, ён ўважліва ўгледзеўся ў цвярозыя вочы Мацвея і нехаця выціснуў з сябе:

– Вы спалі, а вадзіцелі не павінны былі спаць? Дарога была зусім дрэннай, ледзь валакліся. Цяпер у аб'езд паедзем – наперадзе рамонт... даедзем...

Мацвей хацеў запярэчыць: ён чуйна спаў, аўтамабіль ехаў усю ноч, але позірк наймальніка быў не проста халодным – варожым, пагрозлівым. І

прамаўчаў, палез за астатнімі ў фуру, дзе большасць мужыкоў ужо працягвала пачатае баляванне ў кавярні.

Праз гадзін пяць збочылі некуды – пачало пагойдваць, праз шчыліны стаў прабівацца пыл. Праз паўгадзіны спыніліся, дзверы разнасцежыліся:

– Выгружаемся з рэчамі!

Удалечыні былі горы – і на іх многія пачалі дзівіцца. Машына спынілася ля нейкай вялікай будыніны. Некалькі розных машын стаялі на стаянцы, у асноўным – мікрааўтобусы, стаялі-хадзілі людзі, мужчыны, жанчын не было відаць увогуле. Побач з наймальнікам стаяў паліцыянт з кароткім аўтаматам цераз плячо.

– Мы прыехалі! – гучна загаварыў наймальнік. – Зараз такое патрабаванне, вы мыецеся ў лазні, – ён паказаў рукой на будыніну. – Гэта санпрапускнік, без яго далей нам нельга, за гэтым вось як пільна сочаць, – усміхнуўся ён у бок паліцыянта. – Пасля пераапранаецеся – вам усё выдадуць.

Да яго падышоў нехта, мабыць, з работнікаў гэтага санпрапускніка, каўказкай знешнасці, з рэчамі ў руках, наймальнік стаў перабіраць тыя рэчы і паказваць – куртка, сарочка, штаны, ніжняя бялізна.

– Ёсць усе памеры, хуценька назавіце свае, і памеры абутку, усё запішуць і пакладуць для вас.

Каўказец з адзеннем стаў запісваць лічбы – нумары выкрыквалі бадзёра, бо ўсіх уразіў падыход да справы: і аванс паабяцалі, і лазня, спецвопратка...

Пайшлі ў будынак, доўгім калідорам – у пакой для распранання са шкапікамі.

– Не бойцеся, рэчы пакідайце смела, тут ахова, – заспакойваў іх каўказец. – Распранайцеся, праз тыя дзверы, па калідорчыку – у мыйню. Тазікі, мыла – там. Парылкі няма... мылам мыцца абавязкова, яно спецыяльнае, дэзынфіцыруе.

...Толькі паспеў апошні набраць ваду ў тазік з двух вялікіх кранаў, як у сцяне неспадзеўкі расчыніліся дзверы, адтуль у цьмяную мыйню бліснула зыркае дзённае святло, мільганулі цені і пачуўся злы гартанны крык:

– Выходзь усе! Бягом! Хутка выходзь!

Разгубленыя голыя мужчыны тапталіся на месцы ля лаваў, гледзячы няўцямна на двух рослых мацакоў у ці то вайсковай, ці то міліцэйскай форме з кароткімі аўтаматамі.

– Дык не памыліся яшчэ, – пачуўся нечы голас, і на яго кінуўся адзін аўтаматчык:

– Выходзь, сука!

Размахнуўся і штурхнуў у спіну голага чалавека аўтаматам. Мужчына ледзь утрымаўся на нагах, подбегам падаўся да дзвярэй. За ім – астатнія, збянтэжаныя.

Там быў падворак, невялікі, агароджаны высокім металічным плотам, шчыльным. Яшчэ двое было з аўтаматамі. З усіх бакоў нёсся рэзкі пагрозлівы крык:

– Хутчэй! Бягом! Да сцяны ўсе, да сцяны шчыльней!

Мацвей быў у сярэдзіне натоўпу. Аглушаны, як і іншыя, ён адной рукой інстынктыўна прыкрываў саромнае месца, другой балансаваў, каб не ўпасці ў таўханіне.

Іх урэшце паставілі ўсіх ля агароджы – голых, бездапаможных супраць апранутых і са зброяй.

– Вы ў Чачні і мусіце працаваць, – казаў адзін у форме, мо старэйшы. – Тут нашы законы, а вы – па-за законам. Хто будзе паслухмяны – той будзе жыць. Вы тут бурылі і забівалі нашых, цяпер будзеце будаваць...

Сярод іх, голых мужчын, пачуўся рух, наперад падаўся мо самы рослы і дужы на выгляд:

– Што за фігня? Ды я, сука, зараз...

І тады пачуліся стрэлы – аглушальная, кароткая чарга па-над галовамі. Да гэтага рослага падскочылі двое, і ён атрымаў зараз жа два ўдары – у жывот і ў твар прыкладамі аўтаматаў. Сагнуўся на калені, і яго ўдарылі па галаве, шыі, ляжачага колькі разоў выцялі нагамі...

Шэраг голых мужчын ля агароджы замёр у страху.

Мацвей не быў ні шакаваны моцна, ні разгублены дашчэнту. Усё нібы праходзіла збоку, яго не тычылася. Ці чакаў ён менавіта такога?

Рослы мужчына ўстаў на калені, расціраў кроў па твары. Нехта выносіў з будынка іхнія рэчы, кідаў у кучу.

– Усе ўсё зразумелі? – хіжа ўсміхнуўся старэйшы з аўтаматам. – Вашыя дакументы будуць у вашых гаспадароў. Кожны атрымае свайго...

Голыя мужчыны, цалкам разгубленыя, мерзлі на стылым паветры, пераступалі з нагі на нагу, цярпліва чакалі з’яўлення на двары чарговага “купца” – каўказца ў цывільным адзенні. Той тыцкаў пальцам у аднаго-двух ці трох чалавек, тых выцягвалі з агульнага збою, прымушалі спешна апрануцца, і яны знікалі за варотамі.

Мацвея выбраў малады, можа, трохі старэйшы за яго, чачэнец, з густой шчэцню на твары і кароткай чорнай барадой. Загадаў апранацца, сам тым часам уважліва вывучаў ягоны пашпарт.

– Беларусь? Мой бацька быў там... за мной! – скамандаваў.

Бегчы не было куды. Мацвей толькі цяпер пабачыў, што да гэтага “санпрапускніка”, які мясціўся ля падножжа невысокай гары, ішла адзіная дарога. Яго давялі да патрапанага “ўазіка”, пасадзілі на заднім сядзенні. Салон унутры быў падзелены кратамі з тонкага дроту на дзве часткі. Такім чынам Мацвей апынуўся бы ў невялікай камеры. Вокны дзвярэй былі таксама закратаваныя, ручкі з іх – знятыя. Малады чачэнец сеў наперадзе, кінуў кіроўцу:

– Паехалі...

“Уазік” трэсла і кідала – з шашы звярнулі на іншую дарогу. Мацвей пакутліва разважаў над тым, чым урэшце гэта закончыцца. Ён ведаў пра чачэнскую вайну, чытаў пра канфлікт гэтай рэспублікі з Расіяй. Але ён – прычым?

Кідала і трэсла аўтамабіль, вытрасала з ягонай свядомасці ўсё, што было звязана з мінулым жыццём. Крыўда – на лёс, на жыццё, расла, запаўняла нутро. За што яму так? Дзе ён каму што зрабіў дрэннага? Ён жа не лез ні ў якія спрэчкі-мітрэнгі, ён займаўся тым, што нічым не магло шкодзіць людзям. Ён хацеў быць вучоным, сапраўдным вучоным...

Пачаліся горы. Спыніліся на нейкім мосце праз раку – яна шумела недзе далёка ўнізе. Чарнабароды чачэнец выйшаў з будкі, зазірнуў у салон, з ім загаварылі. І гэты момант стаў для Мацвея пераломным – ён не разумеў мовы. Дарэшты ўсвядоміў сваё становішча: ён у чужым краі, сярод чужых людзей, без грошай (іх забралі разам з пашпартам), без дакументаў, без ведання, куды ісці, калі б нават і мог ісці. Ягоны “гаспадар” павярнуўся да Мацвея, павёў галавой на таго, хто стаяў ля “ўазіка”:

– Глядзі... Гэта сюды адзіная дарога і адзіны мост, які ахоўваецца. Надумаеш збягаць, помні пра гэта. Цябе не прыстрэляць адразу, але ты папросіш, каб застрэлілі. Запомні яшчэ: тут табе ніхто не дасць глытка вады, мы ненавідзім вас, рускіх...

– Я – беларус, – змог запярэчыць Мацвей.

– Пляваць... Для нас вы аднолькавыя гяуры.

І зноў была дарога, вузкая – аўтамабіль ці не драпаў бокам скалы, з другога боку – глыбокая цясніна.

...Старому чачэнцу ў чорным доўгім халаце з поясам, з пасівелай доўгай барадой было каля шасцідзесяці, хоць хто яго ведае, мо меней ці болей. Ён наблізіўся да Мацвея, бесцырымонна, бы ў якой жывёліны, памацаў рукі, зірнуў у вочы – і Мацвей адчуў, што стары сапраўды разглядае яго, як рабочую жывёлу. Кіўком галавы і кароткім “ідзі” ён загадаў Мацвею ісці за ім.

Тут было жытло: гара мела вялізную выемку ў сваім баку, і ў гэтым зацішку – вялікі надворак, невялікая хата, круглая печ, хлеўчукі. Да аднаго з іх пасунуўся стары, адчыніў дзверы.

– Тут будзеш жыць. Печку многа не паліць. Будзеш працаваць – будзеш есці.

Падышоў маладзейшы чачэнец з “ўазіка”.

– Ты добра працуеш – добра жывеш. Я тут буду бываць кожныя тры дні. Хай ларамэ стаг на цябе пакрыўдзіцца ці будзе незадаволены тваёй работай, я буду рэзаць на спіне паскамі тваю скуру і здзіраць. Запомніў?

Ён пытаўся з пагрозай і патрабаваннем адказу.

– Мне зразумела, – выціснуў з сябе Мацвей.

Стары падпіхнуў яго ў хляўчук, Мацвей ступіў, і дзверцы за ім зачыніліся.

## Частка 7

Знутры хляўчук выглядаў больш прывабліва: нізкая столь і сцены былі абмазаныя глінай ці яшчэ чым і пабеленыя. Невялікае акенца з мутнай шклінай. Ля адной сцяны – кшталту каміна, ляжалі дровы, нейкая скрыня. Узбоч двух другіх сцен – два драўляныя тапчаны, на левым ляжала свежая салома і складзеная коўдра, на правым грувасцілася куча рыззя, накінутая кавалкам чорнай поліэтыленавай плёнкі. Адтуль невыносна несла смуродам.

Мацвей прысеў на вольны тапчан, паставіў ля ног заплечнік.

І раптоўна навалілася, бы прарвала плаціну: адчай душыў, захацелася завыць дзіка, закрычаць, падхапіцца і бегчы, казаць гэтым людзям, што гэта памылка, што ён – будучы вучоны, паехаў зарабляць грошы, каб вярнуць доўг, што яго чакае дома маці, што гэта ўсё няправільна, нелагічна, гэта неверагодная памылка ў стройнай сістэме ягонага жыцця: трэба ўсё наладзіць, вярнуцца ў Мінск, пайсці да таго следчага і падпісаць паперку...

Колькі ён прасядзеў у здранцвенні, Мацвей не мог сказаць – заўважыў, што ў хлеўчуку прыкметна пацямнела. Да рэчаіснасці яго вярнуў холад. Прымусіў сябе ўзняцца, падышоў да каміна. Побач ляжалі дровы, карабок запалак, кавалкі кары. Стаў раскладаць агонь, злавіўшы сябе на думцы, што не рабіў тое так даўно. Ды і ці рабіў? У ягоных дзіцячых забавах і прыгодах не было вогнішчаў у лесе ўпотайкі ад дарослых. У студэнцтве

два ці тры разы яго, яшчэ не ўсім вядомага зануду, бралі з сабой аднагрупнікі, ды да такіх адказных дзеянняў ён дачынення не меў.

Але атрымалася – агеньчык засквірчэў на кавалку кары, захапіў у свой чырвоны палон дробныя галінкі. Дым не пацягнула адразу ў комін – ён напачатку разыходзіўся па хлеўчуку, саладкавы, удушлівы, збіраўся пад нізкай столлю. Заслязіліся вочы, Мацвей прылёг.

І адразу ж падхапіўся, перапужаны – не ўбачыў, а хутчэй адчуў варушэнне ў кучы рыззя на суседнім тапчане. Ледзь не закрычаў, калі з-пад чорнай плёнкі долу пасунулася... чалавечая рука. З тахканнем сэрца недзе пад горлам падышоў і асцярожна адкінуў плёнку, стараючыся не дыхаць ад смуроду. Адкінуў і шэрую тонкую коўдру. І ўбачыў зарослы валасамі твар. Глыбока запалыя вочы расплюшчыліся.

– Ты хто? – спытаўся Мацвей.

Чалавек не зрэагаваў на пытанне.

Мацвей падскочыў да дзвярэй, штурхнуў іх, і яны адчыніліся. На двары яшчэ стаяў “уазік”, але нікога не было відно. У хацінцы свяцілася акно, і ён паспяшаўся да яе.

Дзверы хаты знянацку расчыніліся, выскачыў малады чачэнец, а за ім паказаўся стары. Мацвей не паспеў выдыхнуць свае словы, як чачэнец з размаху ўдарыў яго нагой у жывот. Пякучы боль кінуў Мацвея на зямлю, ён сагнуўся, а на яго пасыпаліся яшчэ удары – у спіну, бакі, галаву. Не паспеў прыкрыць твар рукамі – цяжкі чаравік чачэнца прайшоўся па ягоным носе і роце. І ўсё гэта ў поўнай цішыні.

Колькі момантаў ён ляжаў нерухома, аглушаны і расціснуты. Малады падхапіў яго за каўнер, прымусіў узняцца. Мацвей ацёр абкрываўлены рот – у яго была разбітая губа.

– Сучара! Ты – жывёла, запомні! – запырскаў слінай у твар чачэнец, трымаючы яго за грудкі. – Цябе завялі ў стойла – там і сядзі, пакуль не пазавуць! Хто табе дазволіў хадзіць на нашай зямлі? Ты можаш хадзіць сваімі бруднымі лапамі толькі там, дзе ходзяць жывёлы, дзе табе дазволяць! Ты запомніў? Ну?!

– Запомніў... – праглынуў сліну з кроўю Мацвей. – Там... там чалавек ляжыць. Яму... ён, здаецца, хворы...

– А табе справа? Хай здыхае! Хто не працуе – таго не кормяць! Здохне – выкінем шакалам. І ты здохнеш, як не станеш слухацца. Ясна?

– Ясна...

– Прэч, гуяр! У хлеў, сука!

Нясцерпна балела ў жываце ад кожнага кроку. Мацвей датупаў да хлеўчука, зайшоў і прысеў. Нечакана адчуў сябе нібыта пад абаронай: тут сцены, столь, зачыненыя дзверы, полымя ў камінку разгарэлася і струменіла адчувальным цяплом, дым выцягнула праз комін.

Вось так і прывыкаюць жывёлы да свайго стойла, так яно робіцца мілым ім – бо ў стойле жывёлу не б’юць, падумаў Мацвей. Зірнуў на тапчан насупраць – мужчына ляжаў з адкрытымі вачыма.

Мацвей пачаў разбіраць свой заплечнік: застаўся цэлы выдадзены сухпай – тушонка, пачак галет, цукар, пакецік чаю, дома маці палажыла ладны кавалак сала, паўбохана хлеба, вэнджаную крамную каўбасу. Яшчэ вялікі пачак чаю, асобна ў пакеціку – самыя розныя таблеткі, маці настойвала, і ён мусіў узяць іх з сабой, папярэдне падпісаўшы кожную ўпакоўку: што ад прастуды, што ад паносу... Згадваў маці, якая ўгаворвала яго,

і ён паслухаўся: відэлец і лыжка, нож, місачка, два пластыкавыя кубкі. Пластыкавая “паўтарачка” з простай вадой. Адпіў ён зусім нямнога за дарогу. Наблізіўся да мужчыны і спыніўся нерашуча: як яго напаіць і ці хоча ён піць? Паднёс кубак з вадой да вуснаў, тыя здрыгануліся і зрэнкі вачэй забегалі. Гэта надало смеласці, Мацвей падсунуў адну руку пад галаву мужчыны, прыўзняў. Мужчына піў, вада цякла за шыю...

Позірк мужчыны набыў асэнсаваны выгляд, ён імкнуўся разгледзець Мацвея. Вусны варухнуліся раз і другі, нарэшце мужчына выдыхнуў сіпла:

– Дзякуй.

Ён паспрабаваў сесці, Мацвей дапамог, скінуў чорную плёнку.

Мужчына сеў, прыхінуўшыся да сцяны. Твар ягоны быў неверагодна схуднелы, смуглы, аброслы густой, чорнай з сівізной, шчэццю, але відавочна ён быў не каўказцам, хоць нос быў доўгі й завостраны яшчэ ад худобы.

– Яшчэ дай... – ціха папрасіў мужчына.

Ён папіў, гэта каштавала яму нямала высілкаў, зноў абапёрся на сцяну, замоўк. Мацвей падкінуў дроў у камін, паглядзеў, што за скрыня ля яго. Там быў стары задымлены чайнік, каваны трыножнік, гнутая і брудная алюмініевая міска з нямытай лыжкай. Ён спаласнуў чайнік вадой з бутэлькі, паставіў трыножнік у агмень, пасунуў пад яго галавешкі – збіраўся нагрэць чаю. Скрыню павярнуў бокам, склаў чорную плёнку і заслаў зверху – атрымаўся амаль столік, які заслаў ручніком з заплечніка. На яго стаў выкладаць хлеб, каўбасу, цукар. Паглядваў на мужчыну і заўважыў, што той неадрыўна сочыць за імправізаваным столікам, а ноздры ягоныя раздзімаліся ад дыхання. Пачуў пах ежы...

Чайнік закіпеў, Мацвей запарыў чай, кінуў цукру. Адрэзаў лусту хлеба, тонкіх скрылікаў сала і каўбасы, падсеў да мужчыны:

– Зможаце трымаць?

Мужчына пацягнуўся рукамі да ежы.

Ён каўтаў, амаль не жуючы. Піў чай, маленькімі глыткамі, але таропка і прагна. Мацвей забраў пусты кубак, мужчына сказаў заўважна падужэлым голасам:

– З кубкам асцярожней. Дызентэрыя ў мяне, пэўна. Прабач за смурод. І яшчэ налі...

Акенца пачарнела. Полымя з камінка асвятляла хляўчук, кідаючы водбліскі на сцены. Дроў заставалася мала, дзе браць болей, Мацвей не ведаў, таму непакоіўся: ноччу цёпла не будзе.

– У мяне... Тут маці надавала, таблеткі ёсць розныя.

– Давай, што маеш. Мо дапаможа, – папрасіў мужчына.

Падказаў Мацвею, што ў коміне ёсць невялікая юшка – каб за ноч не выцягвала цяпло. Ён лёг і заснуў, як адключыўся.

Дзіўна, але і Мацвей заснуў адразу, магчыма, эмацыйная перапоўненасць дарэшты стаміла яго – думаць пра нешта ён не мог.

Прачнуўся ад холаду. У хлеўчуку панаваў паўзмрок – праз акенца сюды прабівалася шэрасць рання. Нацягнуў на сябе куртку, збіраючыся выйсці да ветру, і застыў ля дзвярэй: згадаў учарашняе, і жывот адгукнуўся застылым болем.

– Выходзь, і за хляўчук – там яміна ёсць, – пачуўся голас мужчыны ад тапчана. Ён прачнуўся і пазіраў на Мацвея.

Мацвей смялей таўхануў дзверы і выйшаў у ранішняе сутонне.

Потым расклаў агонь у каміне з рэштак дроў, ашчадна спаласнуў рукі

вадой. За гэты час мужчына ўставаў і выходзіў на двор, трымаючыся за сцяну. Вярнуўся і прызнаўся:

– Выкінуў трусы, бо загадзіў. Не так смярдзець буду. Можа, хопіць сілы абмыцца пазней.

– Дапамаглі таблеткі? – пацікавіўся Мацвей.

– О, так. Яшчэ ёсць?

– Ёсць.

– І чаю многа завары, моцнага. Калі ласка, – дадаў ён, праглынуў таблеткі, выбіраючы іх языком з упакоўкі, і лёг.

Паспелі папіць чаю, як дзверы рыпнулі, раскрыліся:

– Выходзь!

Малады чачэнец пазіраў на Мацвея з крывой усмешкай.

– Трохі навучыўся, чмо? Зараз пойдзеш з гаспадаром, рабіць, што ён скажа. Ежу знойдзеш сваю во тут, – ён паказаў на драўляны цурбан ля дзвярэй хлеўчука. – Пытанняў не задавай, рабі і будзеш жывы і сыты. Зразумела?

– Так, – ціха адказаў Мацвей.

– Ідзі за мной!

Стары павёў Мацвея ўглыб двара – там адкрылася вялікая прастора, нейкія пабудовы. Цягнула жывёльным духам. Стары адкрыў вароты вялікага хлява з нізкім дахам – у глыбіні былі загоны і авечкі ў іх.

– Чысціць! – сказаў, як варона каркнула, стары, паказаў рукой на кут, дзе стаялі драўляная рыдлёўка і самаробная тачка з адным колам. – Туды вынось, – паказаў рукой на кучу гною воддаль за хлявом. – Паслаць пасля, – і зноў рух рукой у напрамку ці то стажка, ці то кучы саломы ў другім баку двара.

Мацвей рушыў у закутак, авечкі выбеглі з яго, мэкаючы. Стары глядзеў, як Мацвей загрузіў першую тачку авечым дробным гноем, вывез яго. Мабыць, ён застаўся задаволены тым, як пачаў Мацвей, бо моўчкі сышоў.

Мацвей накідваў і накідваў гной у тачку, вывозіў, абярэмкамі насіў дробную салому, церушыў у загоншчыку. Праца пакрысе супакоіла – усё здавалася не такім і дрэнным, часовым: ён тут закончыць – і паедзе назад... Але ішла гадзіна за гадзінай, стомленасць атупляла. Хацелася піць і есці. Мінула, можа, гадзіны чатыры ці болей. Ён вычысціў практычна ўсю аўчарню. Стары нібы назіраў за ім аднекуль, прыйшоў, калі Мацвей узяўся за вываз гною з апошняга загону.

– Есці ідзі. Адна гадзіна, – паказаў для дакладнасці адзін палец стары.

– А дзе рукі памыць? – вырвалася ў Мацвея.

Вочы старога бліснулі злосцю, але ён усё ж прасіпеў у адказ:

– За хлявом – ручай.

І праўда, за іх хлеўчуком, зрабіўшы колькі крокаў ад таго месца, дзе раніцай спраўляў патрэбу, Мацвей заўважыў абрыў, а ўнізе – невялікі ручай. Пашукаў вачыма – пабачыў сцежку з выразаных у цвёрдай зямлі прыступак. Можа, гэты мужчына раней зрабіў.

Спусціўся. Вада была неверагодна халодная, зводзіла зубы. Ніжэй па цячэнні абмыў свае чаравікі з высокімі халявамі, якія маці спецыяльна набывала для гэтай паездкі. Ля рэдкіх кустоў прыпыніўся, вышукваючы сухое голле, ламаў, збіраючы ў абярэмак.

Ля дзвярэй хлеўчука на цурбане ляжала круглая ляпёшка і кавалак жоўтага, самаробнага, з тонкімі чорнымі валаскамі, пэўна, авечымі, сыру.

У хлеўчуку было холадна. Мужчына ляжаў, адкрыў вочы на Мацвея, ціха прамармытаў:

– Прабач, не здужаў падняцца. Да ветру ледзь схадзіў, хістае...

– Ды нічога, я хутка, – заспяшаўся Мацвей, быццам абавязаны быў як хутчэй раскласці агонь, нагрэць чаю. Нарэзаў сала, хлеба, падаў мужчыну, які здужаў самастойна сесці.

Гэтым разам ён еў нетаропка, піў чай, скіраваўшы задумлівы позірк некуды праз сцяну.

– Здаецца, вечнасць цэлую не піў сапраўднага чаю, – выдыхнуў ён і параіў: – Ты ляпёшку на кавалкі парві ды пакладзі сушыцца ля пячуркі, там палічка ёсць, – і патлумачыў: – Дамашнія харчы скора скончацца, а гэтая ляпёшка з кавалкам сыра – на дзень. Раз на тыдзень дасць яшчэ кавалачак мяса, вельмі салёнага. На заробкі ехаў? – спытаўся.

– На заробкі, – нехаця, як у дурасці сваёй прызнаваўся, выдыхнуў Мацвей.

– Многа нашых тут апынуліся такім чынам, – са скрухай уздыхнуў мужчына. – Летась трапіўся сюды, трохі старэйшы за цябе. Уцячы паспрабаваў на трэці дзень. Лёгка дагналі, тут сабакі навучаныя. Ды і няма куды ўцякаць. Горы...

– Сапраўды, адна дарога?

– Сапраўды. За чатыры гады я тут усе ваколіцы абхадзіў... Ніжэй па дарозе – аул, селішча іхняе, там людзей шмат, а яны ўсе табе ворагі. Дакладней, ты ім усім вораг. Вышэй у горы – луг, там стары авечак пасе, але з яго спусціцца адно сюды. Гарам нельга верыць... Здаецца толькі, што прайсці лёгка, а як не ведаеш сцежкі – загінеш. Таго небараку злавілі і білі тры дні, затым звезлі некуды... То табе кажу наперад: раптам думка ўзнікла бегчы, бо ж быццам лёгка гэта, каб ведаў: гэта смерць у тваім выпадку. У гарах няма вады, няма ежы. А сустрэнеш чалавека-чачэнца – ён цябе заб’е і атрымае за тваю галаву ўзнагароду.

– Вы чатыры гады тут?

– Тры і дзевяць месяцаў. Кажы мне “ты”. Трапіў у палон падчас другой чачэнскай. Капітан расійскай арміі. А ты адкуль?

– З Беларусі. Мацвей.

– Праўда? Мая маці – з-пад Гомеля. У дзяцінстве я да бабулі ездзіў. Ды і бацька – беларус, але сірата, служыў, вось і панасіла па свеце – ад Германіі да Уладзівастока. Я таксама ў ваеннае ўляпаўся, тады яшчэ прэстыжна было. Хто ж думаў, што давядзецца людзей забіваць... І нядаўніх сваіх, савецкіх.

– А зваць вас як? Цябе, – паправіўся Мацвей.

– Пакуль я тут, заві мяне Гракам. Ага, так і заві – Грак. Так мяне сябры ў роце звалі.

У дзверы стукнулі нечым, можа, палкай. Мацвей падхапіўся, нацягнуў курту. Стары чачэнец адыходзіў ад хлеўчука з кійком у руках.

“І праўда, як жывёліне навучанай – стукнуў, значыць, ідзі за мной”, – з прыкрасцю падумаў Мацвей.

Стары ішоў вядомай яму сцяжынкай, забіраючы вышэй у горы. Пачаўся нібыта лес – з незнаёмымі дрэвамі, калючым кустоўем. Стары спыніўся і скамандаваў:

– Дровы. Збірай сухое, – і кінуў пад ногі не яму, Мацвею, а сабе, невялікую вяроўчыну.

І сам сышоў.

Мацвей узяўся за работу, сам сабе даючы каманду не спяшацца, рабіць усё як мага павольней – няма сэнсу ні спяшацца, ні зрабіць лепш. Вышукваў вачыма сухое суччa, да якога мог дацягнуцца, углыбіўся ў гушчар, знайшоў паваленае ветрам ці ўпалае ад старасці дрэва з мноствам сухіх, але ж моцных сукоў. “А сякеру даць не асмеліўся”, – думаў ён пра старога чачэнца. – За жывёлу трымаеш, але ж баішся”.

Аднёс першую вязанку суччa на надворак, раздумваў хвіліну: ці ісці яшчэ, бо нідзе не было відно старога, і сам пацягнуўся ў гару. Яшчэ назбіраў.

Сонца заходзіла за далёкі горны хрыбет, ружовыя цені леглі на горы. Мацвей міжволі спыніўся і ўглядаўся ў нябачную раней прыгажосць. Горы не падаваліся страшнымі – наадварот, яны былі зусім блізка, іх, здавалася, лёгка перайсці, ісці далей, далей – пакуль стане сілаў і моцы, а сілы ж у яго многа, жывот ужо зусім не баліць ад таго ўдару. Успомніў словы Грака пра гэтую падманную лёгкасць. Мусіць, так і ёсць. Вось жа тут – зірнеш – дык проста зусім, але адно той сцяжынкай магчыма падняцца ў лясок.

З трэцяй ношкай стары сустрэў яго на надворку, і дзіўна, але твар быў не такім халодным. Бы гаспадар застаўся задаволены работай свайго коніка.

– Бяры сабе! Ламай паліць.

Сам ён трымаў у руках невялікую сякерку, відаць, збіраўся секчы суччa для сваіх патрэб.

Ля свайго хлеўчука Мацвей правошкаўся з дровамі яшчэ з гадзіну, паламаў надзіва цвёрдае суччa, каб можна было ўкласці яго ў печ.

Спусціўся да ручая памыць рукі і твар, адчуў ныючы боль у плячах і руках. І зразумеў, што тое ад непрывычкі – даўно ён апошні раз так працаваў фізічна.

Грак сустрэў яго кволай усмешкай:

– Вярнуўся мой выратавальнік!

Мацвей расклаў агонь, паставіў грэцца ваду, стаў гатаваць ежу.

– Як ты тут... Грак? – Мацвею не вельмі прыемна было звяртацца да чалавека па мянушцы.

– Добра, значна лепш, – адказаў той.

– То зараз есці будзем!

– Ашчаджай, Мацвей, – падказаў Грак. – Мяне з паўгода тут мучыў голад, пакуль прывык ды знайшоў магчымасць дзе яшчэ знайсці паесці...

– Дык і я знайду, – паспрабаваў быць бадзёрым Мацвей.

– Не знойдзеш да лета, – пакруціў адмоўна галавой Грак. – Вясна – самы галодны час...

– Табе лягчэй?

– Лягчэй! Дзякуй табе. Яшчэ б суткі ці двое – і выкінулі б у яр.

– Дык а чаму яны не лячылі?

– Бо мы горш за жывёлу, дзівак, – усміхнуўся Грак у адказ. – Жывёла ў іх – чыстая, а мы – не. Таму да нас падыходзіць можна не бліжэй за крок, калі не з нажом, каб прырэзаць. Старыя чачэнцы надта гэтага трымаюцца. Яны – вернікі, іх Алах забараняе ім кранацца нас, нячыстых іншаверцаў. Там калодзеж у двары – не паспрабуй вады дастаць, бо апаганіш для іх, неабходна асвячаць яго па новай, а цябе будуць біць доўгімі палкамі як сабаку.

– А як яго завуць? Ну, старога гэтага? – нечакана пацікавіўся Мацвей.

– Табе яго імя без патрэбы, – сумна адказаў Грак. – Па імені яны звяр-

таюцца да сваіх, да роўных сабе. І ты не маеш права назваць яго імя. Бо будуць біць. Гэты, малады, пляменнік старога. У старога быў сын, прапаў у вайну. І мы адрабляем.

– Як адрабіць, чысцячы хлявы?

– Хлявы, хлопча, гэта драбяза, гэта не работа. Не хачу цябе пужаць, але праз тыдзень пацяплее, у гарах у пячоры можна будзе начаваць. Тады і пачнецца...

– Што пачнецца?

– Твая і мая работа, як мяне не прыстрэляць, – Грак паспрабаваў сесці лацвей, правяраючы сваю моц. – Не павінны прыстрэліць. У горы мы пойдзем. Там ёсць пячора адна, пачнем здабываць кварц. Ён не просты, руды такі, быццам іржавы. То золата ў ім. Радовішча маленькае, адна жыла, каб самому распрацоўваць – сабе даражэй. А калі нехта за ежу табе здабывае – дык льга атрымаць нейкія грошы. Старому сказалі, што ягоны сын у палоне, у рускіх. І кошт вызначылі. Ён зарэзаў тры авечкі і купіў мяне – каб я яму здабываў тую руду. Цяпер цябе купіў. Я яго разумею. Хоць, вядома, яго падманулі – расійскія войскі палонных не трымалі. Ды і мае збіралі б капейкі.

– А... дзе твае?

– Загінулі ў Грозным падчас першай чачэнскай. Свая ж бомба пацэліла ў дом. У горадзе тады адны руіны засталіся. І столькі сваіх загінула... А нехта за гэты час багацеў. Ты не ўяўляеш нават, колькі грошай перацякло ў кішэні дзялкоў. Але хай гэта нас не хвалюе. Пакуль.

– Так кажаш, нібыта прыйдзе час, – хмыкнуў Мацвей і не дагаварыў.

– Прыйдзе, хлопча, – запэўніў Грак, працягнуў пусты кубак да Мацвея. – А налі яшчэ чаю! Вось што мяне вылечыла – чай. Я твой даўжнік. Але разлічуся, прыйдзе час. А што ён прыйдзе, я дакладна знаю.

– Адкуль? – здзівіўся шчыра Мацвей.

– Бо ты з'явіўся ў той самы момант, калі я стаў Бога прасіць, каб даў мне пажыць і пабачыць некага. Ніколі не прасіў, а тут – пачаў.

– Не сам я з'явіўся.

– Тое няважна. Галоўнае – ты мяне ўратаваў. Я ад абязводжання ўжо канаў. Так што – час прыйдзе.

## Частка 8

Гэтай раніцай Мацвей пачуў звычайны кароткі стук у дзверы, выйшаў і сустрэў старога чачэнца, які стаяў да яго тварам – і твар быў незвычайна ціхамірным, ці не лагодным.

– Ежа, – стары паказаў кійком поруч з Мацвеем.

Ляпёшка з кавалкам сыру і яшчэ кавалак цёмнага, шчодра абсыпанага прыправамі мяса.

І стары пайшоў.

Мацвей няўцямна стаяў колькі імгненняў, разважаючы: ісці за старым ці не. Той скіраваўся ў свой дом. Паціснуўшы ў думках плячыма, ён забраў пакладзенае на цурбан, вярнуўся ў хляўчук.

– Нечага сёння ён ад ранку добры, – падзяліўся сваім неўразуменнем з Гракам, які сядзеў на тапчане і дапіваў чай.

– А які сёння дзень? – спытаў той.

– Напэўна, пятніца...

– Пятніца – галоўны дзень тыдня ў мусульман. Сёння яму абмыванне трэба зрабіць, у мячэць ісці. Святочны дзень. Адпачынак для ўсіх, і для хатняй жывёлы таксама, – нязлосна рагатнуў Грак. – Мяса даў жа кавалак?

– Так.

– Ну вось, выходзіць, сёння і нам адпачываць. А пачнём і мы з абмывання. Прыбяромся, парадак навядзём. Ты галіцца не збіраешся? То я з-за хваробы зарос, а так галіўся, лёзы пытаўся. Ён не адмаўляў, бо не хоча, каб гуяр быў падобны на яго знешне. Іслам прадпісвае мужчынам быць з барадамі.

Дзень выдаваўся ціхім і сонечным. Грак, хаваючы сарамлівасць, папрасіў у Мацвея, мо ў таго ёсць камплект бялізны і якія штаны на час, бо свае хоча памыць.

Мыўся ён сам, цалкам аголены, у ручаі, у халоднай вадзе. Худы – ажно косці тырчалі, але ж, бачна было, што гэта цяпер ён аслаб, бо пад скурай пругка набухалі мышцы, калі выкручваў памытыя нагавіцы, сарочку.

Мыўся і сам Мацвей, захліпнуўшыся напачатку ад холаду вады, а потым з азартам цёр цела дробным залацістым пяском, які чэрпаў па падказцы Грака з дна ручая.

– Мылам не запасешся, а ў чачэна не выпрасіш, – тлумачыў Грак. – Не засталося травы, тут расце такая, бярэш жмут – бы мыла з мачалкай адразу. Нічога, назбіраем, насушым, а пакуль пясочкам...

Памытае развесілі сушыцца на кустоўі ля ручая. Узнімаліся наверх да свайго хлеўчука, голыя па пояс, і пабачылі, як стары чачэнец – не адзін, з жанчынай – выходзіў з двара. Ён скасавурыўся ў іх бок, глядзеў нейкі час пільна, але твар застаўся нязменным – быццам глядзеў на якое дрэва. Але Грак патлумачыў па-свойму:

– Бач, задаволены. Любяць яны, як іх святы паважаюць. І мы ў пятніцу абмыванне робім, – рагатнуў ён. – Заўтра мяне на работу пагоніць, яму асаблівая радасць, што я выжыў.

Потым прыбіраліся ў сваім хлеўчуку, Грак камандаваў, шчыраваў сам, прыгаворваючы:

– Знаеш, хлопча, я табе праўду скажу: тое, што яны нас за скаціну трымаюць – іншым разам не дужа і далёка ад ісціны. Бачыць мне даводзілася многае. З палону сваіх вызвалялі, а тыя сапраўды былі як жывёлы: іх ужо сараматныя месцы самі гаспадары змушалі прыкрываць, цалкам усё чалавечае знікала, адно есці, рабіць, спаць... Ды што пра іншых, пра сябе скажу: першы год трымаўся, а на другі – здаўся. Усё абыякава стала, жыў у хлеўчуку. Не мыўся, не галіўся. Мне ежу кідалі, як сабаку – з адлегласці, бо, канечне, смярдзела ад мяне... Кожная жывёліна свой пах мае, сабака – псінай тхне, у ваўка пах такі – ні з чым не зблытаеш. Але найбольш смярдзіць чалавек. Перастань мыцца, сыдзі, так бы мовіць, у прыроду – жахнешся. Думаеш ад бадзякоў тхне таму, што яны па памыйках шастаюць і дзе папала начуюць? Не. Гэта і ёсць чалавечы прыродны пах – калі цела месяцамі нямытае. Мы ў прыродзе сярод звяроў самыя смердуны. І лёгка туды скаціцца, ой як лёгка. На трэці год зразумеў, што загіну. А мне нельга тут заставацца і гніць, у мяне справа, важная, мне разлічыцца абавязкова. Месяц таму я занядужыў, ліхаманка хапіла, прадзьмула ў аўчарні. Не змог уставаць. То мне ежу на падлогу кідаў. Тры дні не змог працаваць – на чацвёрты ежу не атрымаў. Дагрызаў сухары, ваду піў, пакуль хапіла. Ужо ачомаўся, змог, за сцяну трымаючыся, хадзіць, а

тут жывот прыхапіла, зусім бяда. Каб не ты – здох бы без вады. От так... Таму і нам пятніца – святая. Не дае забыцца, што мы людзі. Здарыцца непрадбачанае, застанешся адзін – помні пра пятніцу: ты чалавек, і чалавекам заставацца.

З-пад свайго тапчана Грак вывалак фанерны стары чамадан.

– Тут маё багацце. Для галення станок яшчэ вайсковы, лёзы, нажніцы знайшоў быў. Часопісы старыя не выкідваю: каб літары не забыць, праглядваць пажадана, – сур'ёзна казаў ён. – І што ёсць іншае жыццё. У цябе нож добры, то трэба нам кшталту паліцы прыдумаць: ля ручая ў кустоўі навырэзваць пруткоў, спляцём. І раз нас двое, давай прыбіральню зробім, з калкоў, плёнка вось, абцягнем. Усё як у людзей стане.

Яны шчыравалі ўвесь дзень, не прысядаючы абедаць, адно пілі чай. Прыбралі да чысцюткага ў хлеўчуку, прыбралі ля яго. Туалет зрабілі. Прыцягнулі ад ручая два камяні, паклалі да сцяны. Тыя нагрэліся промнямі зыркага сонца – прыемна было сесці і пасядзець. Цурбан заслалі вымытым кавалкам тканіны са старой ірванай кашулі Грака.

Назаўтра раніцай у дзверы пастукалі двойчы, і яны выйшлі ўдвух. Стары змерыў іх позіркам і махнуў рукой, павёў за сабой. Дзень яны капалі агарод вузкімі рыдлёўкамі з кароткімі дзержакамі. На цурбане падчас абедзеннага перапынку пабачылі дзве ляпёшкі і два кавалкі сыру.

Днём прыпякала даволі моцна, расла трава, лопаліся пяшчотнай клейкай зелянінай пупышкі на дрэвах – вясна наступала імклівa, хоць ноччу было холадна, то даводзілася збіраць дровы і сабе, і старому, каб паліць у каміне.

Адным днём стары не проста кіўком гукнуў за сабой, але стаў прамаўляць – да Грака.

– Авечак мыць сёння. Асхаб прыедзе.

Грак адказаў мала што не радасна:

– Памыем, ламарэ стаг, акуратна, як заўсёды!

І патлумачыў Мацвею:

– Праз дзень-другі авечкі на пашу пойдуць – трава з'явілася. Перад гэтым іх мыць неабходна, там пабачыш, гэта каб кляшчы іх не так жэрлі. Бо без дэзынфекцыі могуць так заесці – ходзіць авечка, уся ў вінаградзінах, так кляшчы крыві насмокчуцца, урэшце здыхае. Справа надзвычай важная, каб не пакалечыць ніводнай, тут авечкі дарагія. На завяршэнне працы – свяжуюць авечку слабую ці калечаную, ці старую, госці прыходзяць, будучы пастух, усіх мясам частуюць. То і нам перападзе кавалак, бо супраць звычаю тут ніяк не ідуць: хто авечак мыў – усе на пачастунак маюць права.

Выгналі жывёлу з аўчарні, авечкі ніяк не хацелі ісці ў загародку да выкапанай раней прадаўгаватай яміны, давялося пабегаць. У яміне было вады па пояс. Прыехаў малады чачэнец, як зразумеў Мацвей – Асхаб, прывёз у мяху нейкі парашок – яго сыпалі ў брудную ваду ў яміне, перамешвалі. Махнулі Мацвею з Гракам, тыя захапілі адну з вялікіх авечак, пацягнулі і кінулі ў брудную ваду. Стары з Асхабам стаялі ля яміны з доўгімі шастамі-рагацінамі і зверху націскалі на авечыя спіны, шыі, галовы – каб жывёліна цалкам акуналася ў ваду. Авечкі жаласліва мэкалі, мітусіліся ў вадзе, ускаламуцілі ўвесь бруд, ніяк не маглі даўмець – у які бок ім рухацца, каб выбрацца ўрэшце. То Мацвей з Гракам чакалі, каб вызвалілася месца, каб не скінуць якую жывёліну на спіну ці галаву іншай. Не столькі дзеля старання, колькі ад жалю да перапуджаных авечак, якіх

гвалтоўна кідалі ў халодную ваду – і гэта пасля месяцаў цяпла і спакою роднай аўчарні.

Двор старога напоўніўся людзьмі – з'явіліся і пару жанчын. Мацвей з Гракам былі ў сваім хлеўчуку – ім забаронена было быць ля стала "верных" ці дапамагаць гатаваць страву. На стук кійка ў дзверы выйшаў Грак, Мацвей чуў, як ён весела падзякаваў:

– Хай Аллах спрыяе вашаму дому!

Ён вярнуўся з паловай авечай нагі, абадранай ужо, без скуры, з мяшэчкам, відавочна, солі.

– От і мы пабалюем! Шашлык – то не ежа! Шурпу зробім, давай?

– Ды мне без розніцы, – выдыхнуў Мацвей. Яго нечакана балюча драпнула тое радаснае дзякаванне Грака за мяса, як і ўвесь вясёлы настрой таго.

Грак пачуў бурлівасць у голасе Мацвея, усміхнуўся:

– Не злуйся і не касавурся. Гэты стары не вінаваты, што я тут, што ты тут. Так яны жылі сотні гадоў – куплялі сабе парабкаў, якія рабіліся іх уласнасцю. Ці да іх наймаліся бедныя. Вось, пастух прыйшоў наймацца – сам стары не пасвіць. Складанасць у тым, што мы ж для іх не проста парабкі, але іншай веры. Мы – нячыстыя, горш за жывёлу. Гэта маладзейшы да цябе падыдзе, паразмаўляць можа. А старэйшыя, якія веры пільнуюцца, – ого! Тут такі фокус: ты разумееш, чаму так яны паводзяць сябе з табой – ты іх прабачаеш. Бо, як той Хрыстос казаў: не ведаюць, што робяць. Няма сэнсу злаваць на іх. Злавацца трэба на тых, дзякуючы каму ты тут апынуўся. Будзь вышэй за сітуацыю!

– А ёсць вінаватыя, чаму ты тут? – спытаў Мацвей. Яго, што праўда, супакоілі словы сябра. І сапраўды, не стары ж яго выкраў з Мінска сюды...

– Мне тое-сёе праверыць трэба. Як прыйдзе час. І я дакладна даведаюся, – ухкліва сказаў Грак. – Ды ў нас шмат часу, пагаворым. Ты ж таксама тут з нечае лёгкай рукі, – рагатнуў ён.

У чамадане Грака знайшоўся ваенны кацялок – у ім і варылі мяса, здробненае на маленечкія кавалачкі. Пілі гэты гарачы булён з кубкаў, а авечы тлушч застываў на вуснах і барадзе. Мацвей трохі гідзіўся і паху, і смаку, але не адмаўляўся – бо ежа перастала быць задавальненнем, яна сталася патрэбай.

Праз тры дні зноў прыехаў Асхаб, ад раніцы Мацвея з Гракам не выклікалі на работу, стары вывеў асла, на якога чапляў розныя торбы.

– Значыць, сёння пойдзем, – выказаў услых здагадку Грак. – У шахту пойдзем. Не пужайся, Мацвей! – падбадзёрыў. – Пакуй свой заплечнік.

На двары ён даволі смела падышоў да Асхаба, спытаў:

– Дасі нам пачак чаю, дык мы яго адробім за першыя дні. Ты мяне ведаеш, я слова ўвесь час трымаў.

Асхаб ашчэрыўся ў бараду:

– Я павялічу табе норму на ўвесь час!

– Гэта няправільна, – запярэчыў Грак. – І асёл вязе столькі, колькі можа, іначай ён падае. Навошта гаспадару дохлы асёл?

– Ідзі, – спакайней адказаў Асхаб. – Будзе чай. За чвэрць тыднёвай нормы.

Пазней Грак тлумачыў Мацвею:

– Мінулы сезон заканчваў, дык заўважыў, што жыла пашыраецца. Ды і вопыту трошкі ж набыў. То мы таго кварцу на чай наколем.

Праз гадзіну яны выправіліся ў горы па сцежцы, якая была вядомая адно

старому. Часам ён прыпыняўся, і наперад Асхаб клікаў Мацвея і Грака – прыбіраць са сцежкі камяні, вялікія і малыя, што за зіму паскочваліся з гор. У адным месцы спыніліся надоўга – сцежка ўзбоч скалы была цалкам заваленая каменным друзам, расчышчалі доўга. Цясніна праваруч то пашыралася і паглыблялася, то вузела і драбнела. Там бегла рэчка.

Спыніліся на даволі шырокім участку – тут сцяжынка абрывалася ў прорву шырынёй метры ў чатыры і глыбінёй метраў у дзесяць. Ля яе краю ляжаў зроблены з дрэва масток, з іншымі часткамі ствараючы незразумелую канструкцыю. Стары палез у кішэню свайго халата, дастаў ключ, адамкнуў замок, начапіў вяроўчыну за край мастка. Асхаб ухапіўся за канец і стаў цягнуць – масток пачаў паварочвацца вакол убітага ў трэшчыну металічнага таўсценнага стрыжня.

– Памагай! – скамандаваў стары сваім парабкам, Мацвей і Грак пачалі піхаць кароткую частку мастка з наваленымі на яе камянямі дзеля раўнавагі з другога боку стрыжня. Масток павольна паварочваўся і нарэшце злучыў гэты бок цясніны з іншым – там была маленькая пляцоўка. Першым праз масток перайшоў Асхаб. Стары тым часам разгружаў торбы з асла. Узялі рэчы, перайшлі масток і па сцежцы прайшлі метраў трыццаць – адкрылася невялікая, з метр усяго пячора.

– Ты справу ведаеш. Вучы маладога. Праз тыдзень у гэты час каб кашы былі поўныя!

Вузкі лаз у пячору адкрываўся бы пакоем: тут было кінутае раней рыззё, вялізны пляскаты камень служыў сталом – на ім стаялі два газавыя ліхтары.

– Наша жытло цяперашняе, – без скрухі сказаў Грак, а голас яго панёсся некуды глыбока – у цемру. – Не дрэйф, хлопча, тут не страшна. Землятрусы бываюць рэдка ў Чачні, скала надзейная, шахта зусім неглыбокая – нейкіх пяцьдзясят метраў у гару пад ухіл. Інструмент цяперака далі лепшы, – ён узважыў у руках кірку, – паспрабуем выжыць.

Да вечара яны ўладкоўваліся. Сцяжынка дабягала да вялікай паляны, дзе расло кустоўе, то збіралі акрамя дроў леташнюю лістоту – каб зрабіць сабе пасцелі. Тут жа працякаў і невялікі ручай халоднай вады, які далей зрываўся з бездань.

– І адсюль ніяк не збегчы? – не пытаючыся, а шукаючы пацвярджэнне сваім словам, спытаў Мацвей, старанна аглядаючыся навокал. Ён быў пад вялікім уражаннем ад паходу па сцяжыне і не хаваў гэтага – горы на гэты раз падаліся яму зусім не лёгкімі для прагулкі.

– Так, дружа, – адгукнуўся Грак. – Ці бачыш, тут такая сістэма: ты ідзеш быццам лёгка і спакойна, знянацку наперадзе – прорва ці стромкая скала. І ўсё, шляху няма. Трэба ведаць, дзе ў які час звярнуць з лёгкай дарогі, каб абысці. Па прамой з кіламетр, а дайсці – усе дзесяць, і тое, ці зможаш яшчэ. Не, я тут дасканала ўсё вывучыў. Няма адсюль шляху, акрамя як на масток, які ўжо назад лёг. І ты вось глядзі: нейкія чатыры метры прорвы ці трохі больш – а ты ў палоне.

– А масток, я бачыў, стары замкнуў.

– Нам яго ўсё адно не дастаць. А замыкае, каб выпадкам якія бадзякі не залезлі ў пячору, не кралі ягоны кварц, каб нас не захапілі, тут і такое здараецца... Такія дробныя радовішчы тут – дзедзіна, перадаюцца ад бацькоў дзецям. Законы тут жорсткія, кроўю пісаныя, ды ж людзі ўсякія бываюць. І бедакі, і злачынцы. Усё як усюды.

Назаўтра спусціліся з адным ліхтаром (эканомілі газу) у шахту. Грак паказваў і расказваў.

– Лепш як мага глыбей напачатку пустую пароду выбіць, яна тут не надта цвёрдая. Затым бяром молат і во гэтае долата, б'ем наўскоса. Тады кварц не крышыцца тут, кавалкамі падае. Давай, ты аднось пустую пароду і кідай у прорву прама. Кварц пасля ўдваіх вынесем.

Праз які час Мацвей сам паспрабаваў з другога боку жылы. За гадзіну забалелі, ажно пачалі нямець рукі. Але ўпарта махаў кайлом, пакуль Грак не спыніў:

– Годзе хлопча, перакурым! Няблага для пачатку.

За тыдзень яны навыбівалі горку рудога кварцу. Пры дзённым святле ён не ўяўляў ніякай каштоўнасці.

– Няўжо тут праўда – золата? – круціў у руках вялікі, іржавы знутры, кавалак кварцу Мацвей.

– Ды міліграмы... – махнуў рукой Грак. – А каб яго адсюль дастаць, ладзіцца цэлы працэс, бачылі мы. Яны руду прадаюць, з таго і маюць колькі грошай.

Прыйшлі стары з Асхабам. Перанеслі кашы з кварцам праз масток, Грак, пачуваючыся смялей, бо бачыў: стары і Асхаб задаволеныя работай, запытаў:

– Слова мы стрымалі, а чай заканчваецца. То можам на тых жа ўмовах.

– Працуй добра, – кінуў Асхаб.

Яны атрымалі ежу на тыдзень, сядзелі ля сваёй пячоры.

– Адпачнём заўтра, помні пра пятніцу, – разважаў услых Грак. – Ужо трава вылезла. Пойдзем шукаць сабе рознае, каб на зіму настой нам быў, бо чай у іх зарабляць, бачыш, няпроста. Памыемся, пагутарым. У нас запас ёсць маленькі, – кіўнуў ён за спіну ў пячоры, дзе прыхавалі горку здабытага кварцу. – Хто вязе – на таго грузяць, нам герояў не дадуць і за стол ганаровымі гасцямі не пасадзяць. Ды і ўвогуле, па жыцці я так зразумеў: працаваць варта для сябе: каб выканаць норму і атрымаць заробак, каб не дзяўблі мазгі. Роўна столькі, колькі неабходна. А звыш – тое не на здароўе. Тое хавай для сябе. Бо адбяруць. Помніш у Маркса пра прыбавачную вартасць?

– Не помню, не цікавіўся філасофіяй, – чамусьці засаромеўся Мацвей.

– То не філасофія, то эканоміка. Чалавек вырабляе прыбавачную вартасць, яе ў яго адбіраюць. От якая справа!

Назаўтра падняліся да паляны і вышэй, колькі маглі, у горы, збіралі першацветы, якія ведаў Грак, каб засушваць. Каля аднаго выступу Мацвей прыпыніўся. Тут камень распластоўваўся на мноства амаль аднолькавых па таўшчыні, сантыметры па два, пліт. Ля вялікай, прамавугольнай формы пліты Мацвей і прысеў.

– Ты што, не бачыў такога? – здзівіўся Грак. – Ды яго навалам, плітачніка, здабываюць, вывозяць. Замест цаглін скарыстоўваюць, дарогі мосцяць.

– Ды я з іншай прычыны, – трохі засаромеўся Мацвей. – Пліта гэтая бы дошка школьная. Слухай, а дапамажы мне яе прынесці? – нечакана папрасіў ён.

– Азбуку вучыць чачэнскую? – ухмыльнуўся Грак, але, угледзеўшы запал у вачах хлопца, згадзіўся: – Добра, прывалачэм.

– А каб такога каменя, які нібыта крэйда!

– Кшталту гіпсу павінна быць. Тут, я табе скажу, не ўгадаеш, які камень на якім пачне сляды пакідаць. Возьмем па кавалку малому, пашукаем.

Да вечара щ пячоры Мацвей прыладаваў да сцяны сваю "дошку", узяў адзін з выбраных каменьчыкаў, лёгка намаляваў прастакутнік, ад яго стрэлку, яшчэ прастакутнік...

Грак адно пераставіў бліжэй да "дошкі" запалены ліхтар.

Мацвей падзякаваў кіўком галавы, скасавурыўся на щваход:

– Так імкліва, раптоўна цямнее тут...

– То і людзі такія – хуткія на эмоцыі, – заўважыў Грак. – Тут вясёлы, тут сумны, тут добры, тут ужо злы.

– З-за сонца?

– Хто ведае, можа і так. Адно дакладна бачу: горцы бульбу не ядуць. А мы там на бульбе адно і сядзім.

– Дык бульба гэта дрэнна?

– А то! Крухмал, напрэшся – сытая задаволенасць, атупленне, абыякавасць. Ляжыць такі, патэльню смажанай навярнуўшы, абы яго не чапай – хоць дах разбірай. Салдат у арміі як накарміць? Ды бульбы паболей, а мяса прапаршчык са склада штабістам прадасць. Можа, некалі даследчыкі што адкрыюць, якія навуковыя законы, але дакладна щсвядоміў, паездзіўшы па свеце: дзе бульба – за першае і галоўнае, там не людзі, а авечкі. Дык а ты што за квадраты малюеш, не падзелішся сакрэтам?

– Ды які сакрэт, я ж – матэматык. Магістрант былы. Згледзеў нібыта дошку, згадалася ўсё. У мяне нататнік прапаў пры арышце, а там былі накіды прынцыпова новай матэматычнай мадэлі кіравання. Нікому яе не паказваў.

– Ты пра які такі арышт? – здзівіўся Грак. – Можа, падзелішся трохі: якім чынам ты тут апынуўся, магістрант? Час нам прыйшоў пагаварыць грунтоўна.

## Частка 9

– ...Згадваю словы следчага пра тое, што ў арміі, калі б трапіў, не раз пашкадаваў бы пра непадпісаную дамову. Усяго толькі паставіць подпіс – і дзе б зараз быў я, дзе б быў гэты свет? А там? Што было страшнага? Ніхто ж не прымушаў мяне сілком высочваць сяброў.

Мацвей закончыў свой кароткі аповед пра падзеі апошняга тыдня на волі. Грак нічога не казаў, варушыў прутком у кастры.

– Цікава як атрымалася з тымі лістоўкамі... Кажаш, нават уявіць не можаш, як яны там апынуліся? – спытаўся ён пра іншае, быццам не чуў заключных слоў Мацвея.

– Не.

– І каму ты дарогу перайшоў, не ведаеш?

– Ты што, гэтаксама лічыш, што мне спецыяльна падкінулі лістоўкі? – здзіўлена зірнуў на Грака Мацвей. – Кажу ж, не было ў мяне ворагаў.

– Пагаворым і пра ворагаў. Во што табе скажу адносна той дамовы са следчым. Апошні год я ў разведцы быў, бліжэй да спецназу. Дый войскі заўсёды былі кадэбістамі наскрозь пранізаныя, усе войскі. Знаеш, гэта не таўро на тваю лапатку ці на лоб. Не, гэта нітачка такая, да цябе навечна прывязаная. Самая моцная нітачка ў свеце. І нябачная іншым. З аднаго боку цябе за гэтую нітачку так могуць цягнуць, што ты бы па масле па

жыцці закоўзаеш. А з другога боку, гэтая нітачка тваім ланцугом стане. Вось хвароба такая ёсць – шызафрэнія. Кажуць, у чалавеку пачынае жыць іншая асоба. І дзве асобы жывуць у адным целе, па чарзе завалодваючы мозгам. Дык я пра што? Ты дамову падпісваеш аб сакрэтным супрацоўніцтве – ты нібыта ўпускаеш у сваю свядомасць іншую асобу. Адна – гэта ты, добразычлівы сябар, спакойны вучоны, шчыры чалавек. Другая – пільны назіральнік, дбайны паслугач, бессардэчны даносчык. Мусіш так жыць. Самае балючае ў гэтай сітуацыі тое, што гэта не хвароба, лекаў ад яе няма, і ў труну ты кладзешся вось такі – падвоены. У сакрэтныя агенты КДБ можна добраахвотна ўвайсці, а выйсці не атрымаецца ніяк. Бо так пабудавана сістэма. Таму, хлопча, правільна ты зрабіў. Лепш перацярпець адзін раз, праўду кажу. А тое, што палохаў надта, то не вер асабліва, бо ў ваенным вучылішчы, у арміі кожнаму трэцяму прапаноўваюць быць сакрэтным супрацоўнікам, кожнага палохаюць. Асабліва тых, хто трапляе па дурасці ў якую непрыемнасць, што выключэннем пагражае. Не перажывай, на цябе ўжо і забыліся, у іх спраў хапае без клопату пра твой лёс. Тут гэтае нам перажыць неабходна. Але перажывём і выжывем, дакладна! – Грак казаў з незвычайнай упэўненасцю.

– Адкуль такая ўпэўненасць? – не даў веры Мацвей.

– Бо ты не падпісаў паперку, – проста патлумачыў Грак. – Таму я магу табе даверыцца. А ўдвух зможам адсюль выбрацца. Пра гэта мы ў пятніцу пагаворым. Помніш пра пятніцу? То наш дзень надзеі. Дык, кажаш, ворагаў у цябе ніякіх не было?

– Ды не...

– Давай паглядзім пільней. Няхай няма ворагаў. Пералічым, каму выгадна тваё знаходжанне тут, а не ў тваім Мінску. Ты – будучы вучоны, пачнём з гэтага. Твой шлях – з магістратуры ў аспірантуру. Добра. Цяпер пытанне: конкурс там нейкі ёсць? Ёсць такое, што як ты трапляеш, дык нехта не трапляе?

– Так, месцаў не заўжды хапае. Мархель, наш кіраўнік, сказаў у той вечар, што мне месца ёсць, а Данілу, мабыць, праз год.

– Тут падрабязней: што за Даніла?

– Мой сябар. Мы з ім займаліся тэмай, ён – цудоўны практык. Умеў пабачыць праект у рэальнасці, астуджаў мой залішні пыл. У нас выдатны тандэм атрымаўся.

– І яму месца ў аспірантуры не было?

– Напачатку планавалася, што мы ідзём удвух, і тэма ў нас была адна на дваіх. Ды тут скарацілі колькасць месцаў. Але ж гэта няважна, яго б праз год узялі.

– Узялі б – тое ўмоўна. А яго ў войска забралі б – тое больш верагодна. Правільна думаю? Добра. Ты кажаш пра тандэм. А што вы адзін без другога? Ты б змог без Данілы?

– Ды змог бы.

– А Даніла без цябе? Ён самастойна што значыў у вашым праекце? Ты назваў яго добрым практыкам, але ж навука без тэорыі, без ідэй нішто, так? Уявім: Даніла без цябе. Што маем?

– Неяк так атрымлівалася, што ідэі, калі ні глянь, былі мае, мы займаліся разлікамі, змяшчалі ідэю ў абгортку формул і функцый... Але Даніла зусім не зацікаўлены ў тым, каб застацца без мяне!

– Без цябе ці без тваіх ідэй?

– Ну, без ідэй.

– Выдатна, выдатна... Твой матрац раптам аказаўся запоўнены лістоўкамі, а запісы некуды зніклі. Так?

– Так.

– А тыя запісы – твае ідэі?

– Хутчэй – накіды ідэй.

– Але нармальнаму чалавеку з твайго асяроддзя, таму ж Данілу, няцяжка разабрацца – і развіць твае зародкі?

– Ды не ж, не стаў бы Даніла такое рабіць! І не знаў ён! – горача запратэставаў Мацвей. – Мы з ім столькі разам.

– Адключы эмоцыі і маральныя ўстаноўкі! – параіў строга Грак. – Ты – вучоны, дык і думай адцягнена. Дапусцім, Даніла атрымаў твае запісы, ты – трапіў за краты і быў адлічаны з магістратуры, яму гэта было б выгадна?

Хвіліну Мацвей не адказваў, потым выдыхнуў:

– Так, выгадна. Яму вызваляецца месца ў аспірантуры, ён мае добрыя ідэі для распрацоўкі, у тым ліку і тую, якую я на "дошцы" часткова намаляваў. Гэта прагрэсіўная мадэль, яна не мае аналагаў.

– Ну вось, спынімся на гэтым пакуль. Далей. Паколькі ты малады, значыць, у цябе будуць адносіны з дзяўчатамі. А там, дзе ёсць адносіны, заўсёды канфлікт з трэцяй асобай. Ці гэта дзяўчына, якую ты не заўважыў, а яна хацела б мець з табой стасункі, ці гэта хлопец, які хацеў бы быць на тваім месцы. Жанчыны розныя жаданні маюць, але ўзнікаюць яны часцей у адносінах да мужоў... – Грак на нейкі момант прыпыніўся, мусіць, згадаў важнае для сябе ці занадта балючае. – Але працягнем, – страсянуў ён галавой, вяртаючыся да тэмы размовы. – Згадвай, не спяшайся: ці быў у цябе такі сапернік, які хацеў бы, каб ты знік з гарызонту?

Мацвей кісла ўсміхнуўся:

– Тут гадаць няма чаго – такі быў. І пагражаў, і за грудкі хапаў.

– Так, зноў падрабязна.

– У мяне знаёмая была. Больш, чым знаёмая. Яна з сям'і, як сама кажа, інтэлігентаў у нейкім там пакаленні. Бацька і маці – вучоныя, пры тым бацька – на кіруючай пасадзе. Усё мне казала прэ эліту.

– А што за сум у слове "была"?

– Ды... Яна выхавана ў сям'і дзяржаўнікаў. Да ўсякіх апазіцыйных рухаў ці акцый ставілася грэбліва, у яе быў свой выверяны погляд на палітыку. І тут я станаўлюся ў яе вачах дурным "опам", які разносіць па горадзе лістоўкі супраць улады, – Мацвей уздыхнуў і прызнаўся дарэшты: – Мяне ж заарыштавалі якраз на спатканні з ёй. А яна не патэлефанавала. Ні разу. Выходзіць – была.

– Во як цікава! – ажывіўся Грак, ніколькі не спачуваючы Мацвею. – Значыць, маем таго хлопца, якому твой арышт менавіта за лістоўкі выгадны. Цябе гэтым арыштам літаральна бульдозерам счышчае з агульнай з той дзяўчынай дарогі, так?

– Так.

– Дык што маем урэшце? Ужо двух чалавек, якія былі зацікаўлены ў адлічэнні цябе з магістратуры. Сама тэхніка падставы не выклікае ніякіх сумненняў: калі невядомы хацеў толькі твайго адлічэння ці толькі арышту па апазіцыйнай справе, лістоўкі дастаткова было пакінуць побач з тваім нататнікам у матрацы. Той факт, што зніклі твае запісы, кажа пра зацікаўленасць таго невядомага ў авалодванні запісамі. Цяміш?

– Не верыцца. Даніла, Раман... Дый, якая розніца?

– Цяпер – ніякай. Але пазней спатрэбіцца. Яшчэ момант адзін: як ты тут апынуўся. Выпадкова знайшоў інфармацыю пра працадаўцу?

– Не, мне зямляк падказаў, даў тэлефон. Ды ён ні пры чым.

– Усе ні прычым, гледзячы біраном на новыя вароты. Ці ты яшчэ сумняваешся, што лістоўкі падкінулі і запісы забралі менавіта табе і ў цябе, каб закрыць табе дарогу ў аспірантуру і выставіць ворагам для дзяўчыны?

– Не сумняваюся, – уздыхнуў Мацвей. – У галаве не ўкладваецца ніяк: няўжо чалавек так лёгка ідзе на подласць? Учора – сябар шчыры, а сёння піхае з кручы?

– Што сябар, ты яго нейкіх пяць-шэсць гадоў знаеш, і што тая аспірантура! – выгукнуў Грак, працягнуў з горыччу, відавочна кажучы пра сябе: – А вось жанчына, з якой дзесяць гадоў пражыў, якую кахаў, якая, здавалася, кахае, якой верыў і давяраў, выпраўляе цябе на смерць, можаш уявіць такую подласць? І сябар, якога ты ад смерці літаральна выратаваў? Ат, няма мяжы людской подласці, ведай. І якую ні прыдумаеш – на тую чалавек і здольны.

Ён замаўчаў, паварушыў вуголле, падкінуў колькі галінак.

– Дроў нам назапасіць трэба, заканчваюцца. Але, – вярнуўся ён да тэмы размовы, – той працадаўца пытаўся ў цябе: адзін ты едзеш ці з некім, першы раз ці вопытны?

– Пытаўся. І там, у Маскве, гэтаксама наймальнік пытаўся: ці першы раз, ці адзін.

– Бачыш, нічога няма выпадковага. Вядома, той наймальнік, якому ты званіў, мог і не ведаць, куды ты патрапіш, але, факт, здагадваўся. Бо канкрэтнае заданне атрымаў і яго выконваў – пастаўляць адзінокіх шукальнікаў заробку, нявопытных. І твой зямляк мог менавіта пра гэта ведаць. Тут дзіцю ясна, на якую работу могуць спатрэбіцца адзінокія мужчыны без вопыту такіх паездак.

– Не, Андрусь ні ў чым не вінаваты, – задумліва адказаў Мацвей. – Ён жа мяне выручыў – пазычыў грошай!

– Проста так даў?

– Ну, не проста, дзесяць працэнтаў зверху праз месяц.

– Ого, які ў цябе бескарыслівы зямляк, – ухмыльнуўся Грак. – Ты палічы, які доўг вырасце, пакуль мы вернемся!

– Ды не ж, кажу! Андрусь – цельпукаваты, такі... вясковец, хоць, канечне, не з дурных. Многім грошы пазычае.

– А адкуль бярэ?

– У яго ўсё нейкія справы, знаёмых многа. Мы з ім у ліцэі вучыліся, мая маці ў яго настаўніцай была. Казала: упарты, хоць талентамі не блішчаў.

– Кажаш, знаёмых розных многа, грошы пазычаў. Цікава будзе з ім пасля сустрэцца. Але давай спаць.

...Напярэдадні пятніцы Грак спытаў, ці можна сціраць напісанае з “дошкі” Мацвея, атрымаўшы згоду, нашкрэбаў там чатыры радкі, як верш які. Калі Асхаб зайшоў у іх пячору, Грак сустракаў чачэнца з усмешкай:

– Асхаб, глядзі які кварц, га? Такога рудога ты сам не бачыў! Уздымай цану – тут у тры разы болей золата. Бачыш, стараемся! Нам абы чай добры. А яшчэ – папера і аловак. Тут у майго маладога сябра абудзілася любоў да вершаў! Ці бачыш, піша на камені. Чуеш, Асхаб, прынясі пачак паперы, будзь такі добры – за гэта табе адборнага кварцу чвэрць каша! Папера менш за чай каштуе. Ага, і алоўкаў штук пяць...

Па ўсім было відаць, Асхаб быў уражаны не пэўным нахабствам Грака, а тым, што ў адным кашы сапраўды (Грак выбіраў кавалкі) кварц быў зусім не празрысты, а руды, з цёмнымі тонкімі жыламі.

– Будзе табе папера, працуй старанна, – паабяцаў ён.

Масток лёг на ранейшае месца, чачэнцы з нагружаным аслом сышлі, Мацвей няўцямна спытаў:

– Якія вершы? Навошта папера?

– Ну, не стану ж я ім казаць, што ты матэматык. А вось паэзію тут заўжды паважалі, уся яна пачалася з прысвячэнняў Алаху. Ты спакойна пішы свае разлікі, а не пакутуй з каменнай дошкай, бо мне ажно шкада на цябе глядзець.

– Ды нічога, затое памяць развіваю, – крыху засаромеўся Мацвей, паспяшыў падзякаваць.

– Давай прадукты ў пячору занясем, спусцішся ў шахту ды прыхапі нашы кайлы. Я табе галоўнае пакажу...

З кайламі яны ўзняліся да паляны з кустоўем, Грак упэўнена вёў далей – ажно да самага падножжа стромай вялізнай скалы. Мацвей дзівіўся, але не пытаўся нічога. Доўга ішлі ля падножжа, забіраючы ўсё вышэй, паварочваючы. Нарэшце Грак спыніўся, апусціўся на траву і паказаў побач з сабою Мацвею – сядай. Той аддыхаўся, паглядзеў прама перад сабой і міжволі выдыхнуў:

– Ух ты...

Справа ад іх была відаць цясніна, тая пляцоўка з мастком, іх пячора. Мацвей міжволі вёў позіркам: цясніна бяжыць пад імі, а там... там тырчыць бы вялізная чалавечая галава.

– Так выглядае, во-во ўпадзе, – паказаў на “галаву” Мацвей.

– Ага! Малойца, і я так падумаў. Спускаемся да яе, але – вельмі асцярожна. Запомні: у тры разы людзей больш гіне на спусках у гарах, чым на пад’ёмах.

Спуск заняў паўгадзіны. Яны стаялі пад скалой, якая насамрэч навісла над самай прорвай, але было відаць, што прастаяла яна так не адну сотню гадоў, ці нават тысячу, і яшчэ столькі ж можа прастаяць.

Прорва ў гэтым месцы была хоць і намнога шырэй – з метраў дзесяць-дванаццаць, але куды вузей – можа, метраў шэсць-сем углыб, праўда, строма з абодвух бакоў.

– Слухай сюды, Мацвей, – прысеў ля скалы Грак. – Два гады я на рудніку, да гэтага ў іншага гаспадарка быў, перакупілі мяне. Я тут усё аблазіў. У левы бок нам дарогі няма, наверх – няма, управа – вось апошні крок. Такім чынам, скалу скінем у прорву – зможам перайсці. Чакай, не перапыняй, пазней на ўсе пытанні адкажу. Я табе казаў: у горы не бяжы, загінеш. І я не ілгаў. Гэта табе не твае беларускія лясы, дзе і грыба з’есці, і жабку. Тут камяні грызці не станеш. Заблукаць у гарах – лягчэй лёгкага, бо тут усё падманнае. І адлегласці, і велічыні. Таму без карты рабіць няма чаго. А мае карты ў маёй планшэтцы з маімі дакументамі. А планшэтка, як і твае дакументы, у старога чачэна ў хаце.

– І як ты забярэш? Заб’еш? – акругліў вочы Мацвей.

– І забіць змагу, як нявыкрутка будзе. Хоць такога старога, ды яшчэ ягоную жанчыну... не даводзілася. Але слухай. Калі скала ўпадзе нармальна, то перагародзіць прорву. Значыць, чакаем вечара чацвярга. У гэты дзень атрымліваем прадукты на тыдзень. Пятніца – дзень малітвы. Стары са

сваёй жанчынай сыходзіць з дому. І то наш шанс. Ноччу мы падбіраемся да ягонага жытла, чакаем. Як ён сыходзіць – забіраем дакументы і карты. Знікаем. Галоўнае, каб ён нічога не западозрыў. Тады ў нас цэлы тыдзень форы. За гэты тыдзень, маючы карту, мы здолеем быць далёка адсюль. Шукаць нас будуць, папярэдзяць пасты і міліцыю сваю, але... мы па дарогах не пойдзем. Як табе план?

Мацвей маўчаў – ён глядзеў на скалу. Якім чынам можна скінуць яе ў прорву? Як аддзяліць ад самой гары? Гэта ж нерэальна...

– Хадзі сюды, – устаў Грак, падвёў да самай скалы. – Бачыш? – ён тыцнуў рукой на заглыбленне ў скале ў чалавечы рост, і Мацвей дапяў: гэта высечана кайлом!

– Гэта... ты зрабіў?

– Я зрабіў. Цяжка было, жыла бедная ішла, ледзь паспяваў набіраць норму. Бо не дабярэш – і ежы менш пакіне. То па пятніцах...

– У нас, дома там, камяні такія магутныя, такія моцныя – ніякім кайлом не адколеш кавалак, – задумліва казаў Мацвей, лёгка пастукваючы кайлом па скале. – У дзяцінстве, помніцца, наглядзеўся на тое, якія статуі рабілі ў Старажытным Рыме, хацеў сам што-небудзь высекчы з каменя. Ніяк не паддаўся, я і зубіла сапраўднае з малатком браў – ледзь адбіў аскалёпак, той мне ў нагу ўпіўся, крыві было... А тут, глядзі, колецца.

– Бо ў Беларусі камяні – граніт ды базальт, ледавік усё на пясок сцёр, акрамя іх. А тут – пясчанік, пэўна. Яго можна секчы. Ну, чаго стаім? Бачыш – па самым версе трэшчына ідзе? Сама скала нам намякае: сячыце тут! Вось праб'ем тунэль праз яе...

– А як не скоціцца?

– Можа, і не скоціцца, устаіць на падэшве... тады – пачнем секчы падэшву. Зразумей, Мацвей: няма ў нас іншага шансу. Павер, я разведчык. Раней табе не казаў, каб не пужаць. Мы тут – жывёлы бяспраўныя, ты зразумеў. У старога перада мной у шахце памёр адзін... Не ведаў я яго ні імя, ні адкуль ён. Труп я выцягнуў, Асхаб у прорву скінуў. Праз месяц следу не засталося, косткі расцягнулі арлы. Разумееш? У нас няма іншага паратунку, як самім шукаць выйсця. Інача апынемся ў нейкі дзень на дне прорвы. Гэта адзінае, што я прыдумаў. Можа, ты, як матэматык, прыдумаеш яшчэ...

– Акурат тое месца, той час і той выпадак, дзе мая вышэйшая матэматыка бескарысная, як ліхтар сонечным днём, – нехаця прызнаўся Мацвей. – Не верыцца, што мы зможам прабіць скалу наскрозь.

– Вочы баяцца, рукі робяць! – рагатнуў Грак. – А ну, хлопча, адхіліся!

Сек Грак, затым – Мацвей, потым зносілі і выкідалі аскалёпкі ў прорву, і зноў секлі. Скала паддавалася – з адным узмахам аддавала кавалачак на два-тры сантыметры са свайго нутра.

Вярнуліся ў сваю пячору пад наступленне імклівых густых прыцемак. Згатавалі чай, пілі ў поўнай цішыні, адчуваючы на гэты раз незвычайную моцную повязь адзін з другім.

– Наш узвод аднойчы ў засаду трапіў, – ціха пачаў казаць Грак. – Трое жывымі засталіся. Двух камісавалі, я – адзін застаўся. У нас не было імёнаў, да сяброў мы звярталіся інакш. Я для ўсіх быў Грак. Бо ж бачыш – нос доўгі, востры, сам і валасамі, і тварам чарнявы. Ты мне адзіны цяпер сябар, ты завеш мяне Гракам.

Мацвей, адчуваючы сваю чаргу на нейкую кароткую, важкую споведзь, прызнаўся:

– А мяне мама малым звала Монцем. У першых класах школы так і настаўніца іншы раз казала: Монця Хрысцік, да дошкі! А я крыўдаваў страшэнна, мне здавалася гэта такім абразлівым – Монця, мамін сынок.

– Дык ты – Монця?

– Монця. У сацсетках у прываце былая аднакласніца іншы раз так звяртаецца. Мы сябравалі крыху, былі прыязныя адносіны. Яна цікавая, хоць з ёй іншы раз няпроста.

– Калі з чалавекам становіцца проста, то ведай: альбо ён дурань, альбо надта хітры. Альбо ў вас каханне вышэйшай пробы.

## Частка 10

Ім пашанцавала – жыла рудога кварцу ў шахце пашыралася, набрыняла густым колерам. Устаноўленую норму яны выконвалі лёгка, маючы пры гэтым яшчэ добры запас нарыхтаванай руды, які прыхоўвалі. Кожны дзень пасля абеду па чарзе хадзілі да сваёй скалы – і білі тунэль. Тут падганяць патрэбы не было, як зрэшты і таго, хто заставаўся на той час у шахце.

Надышло лета, з пякучым сонцам, гарачым паветрам і невымоўнай цішай над гарамі. Грак не даваў забыцца на зіму – збіралі розныя зёлкі, сушылі. Пакрысе тунэль у скале паглыбляўся, рос ушыркі і ў вышыню. Да наступлення першых восеньскіх халадоў яны прасеклі скалу на добрых пяць крокаў.

У адзін з чацвяргоў чачэнцы прывезлі на асле ўпакаваныя цюкі.

– Бушлаты, штаны цёплыя, – паказаў на іх Асхаб. – Працаваць яшчэ. У кашы вугаль, цягніце сабе. Мяса даю. Каб працавалі добра!

У пячоры Грак сумна глядзеў на прынесенае, патрымаў бляшанку кансерваванага мяса ў руках.

– Усё з ваенных баз... Ты не ўяўляеш, Монця, як некаторыя ўзбагачаюцца за гэтыя войны! Усё прадаецца: ад тушонкі і адзення, зброі ўсіх калібраў, да людзей. Праўду кажуць, што вайна дае беспакаранае выйсце з чалавека самым чорным яго памкненням і думкам.

Мацвей сам не заўважыў, як пакрысе звыкся з новым жыццём. Ён прыняў рэчаіснасць як належнае, больш за тое, глядзеў на сваю цяперашнюю сітуацыю з разуменнем таго, што магло быць і горш. А цяпер ён не адзін – гэта галоўнае. Яны маюць дакладны план свайго вызвалення і кожны дзень набліжае іх да волі. Цяжка фізічна? Вядома, цяжка. Першы месяц нястрымана балелі рукі і спіна, жывот. Ён доўга не мог заснуць – у галаву лезлі думкі пра тое, мінулае жыццё. І яшчэ думаў пра будучыню. Згадваў самыя розныя моманты агульнай працы з Данілам – і адшукваў новыя і новыя каменьчыкі, якія клаліся на шалі вызначэння віны, і стрэлка ўпэўнена трымалася на пазнацы: “Мог і зрабіў”.

Да восені Мацвей значна падужэў фізічна, налаўчыўся ўпраўляцца з кайлом, каб кожны ўдар прыносіў толк, тонкая падсцілка з лісця і травы на камені ўжо рабіла ягоную пасцель дастаткова зручнай для адпачынку. Ноч за ноччу ён прымушаў сябе не думаць ні пра мінулае, ні пра будучыню. Вельмі дапамагла папера, якую хай і не адразу, але прынёс ім Асхаб. Пры святле газоўкі да позняга Мацвей рабіў самыя розныя разлікі, іншым разам – абы не забыцца на асноўныя веды. Спісваў аркушы згаданымі формуламі, нібы рабіў сабе шпаргалкі на будучае. Амаль цалкам узнавіў па памяці свае ранейшыя запісы з украдзенага нататніка, працаваў далей над сваёй ідэяй.

У апошні дзень іх работы на радовішчы Асхаб нечакана павярнуўся да Мацвея:

– Гэй, ты! Паказваў мне тыя вершы!

Мацвей паслухмяна скінуў заплечнік, выцягнуў стос спісаных алоўкам аркушаў.

Асхаб глянуў на першую старонку, другую, скрывіўся:

– Шайтан! Ты мяне дурыць уздумаў?!

– Чакай, Асхаб, чакай, не гарачыся, – умяшаўся Грак. – Монця – матэматык, разумееш. Аспірант, без пяці хвілін вучоны. Для яго гэтыя формулы, значкі матэматычныя – як для нас паэзія. Я ж таксама думаў, што ён паэт такі, як мы звыклі, а ён – паэт матэматычны. Ніякай шкоды, хай сабе піша!

– Матэматык, кажаш? – Асхаб глядзеў з недаверам на Мацвея, а ў вачах угадваўся роздум пра іншае, важнае для яго. – Вучоны?

– Матэматык, – ціха пацвердзіў Мацвей. – Вучоным стаць не паспеў.

– На, забірай! Пайшлі!

Праз два дні ён прыляцеў на сваім “уазіку”, прыйшоў подбегам у лясок, дзе Мацвей з Гракам нарыхтоўвалі дровы – стары даў ім дзве нажоўкі.

– Ты! – тыцнуў на Мацвея. – Ідзём са мной!

Спусціліся дарогай кіламетры два, Мацвей здолеў праз шкло разгледзець тое паселішча, якое было бачна з іх гары. Спыніліся ля аднаго дома, зусім не такога, як невялікая гліняная мазанка старога – то быў двухпавярховы гмах з чырвонай цэглы, агароджаны высокім металічным плотам зялёнага колеру. Асхаб націснуў на кнопку званка побач з брамкай, паказаўся мужчына гадоў пяцідзесяці, славянскай знешнасці. Тое, як Асхаб гыркнуў да яго, давала зразумець: гэта такі ж раб, як і сам Мацвей.

Яго прывялі ў дом, папярэдне сказаўшы зняць абутак.

У вялікім пакоі, дзе з мэблі былі нізкія крэслы і вялікі, нізкі стол, сядзеў стары чачэнец у чысцюткім чорным халаце, відавочна, з дарагой тканіны. Ён паглядзеў на Мацвея, позірк быў цяжкі, не абяцаў нічога добрага.

– Мне сказалі, што ты ведаеш матэматыку. Мой унук хоча перамагчы ў матэматыцы. Ты яго навучыш.

– Прабачце, дзе перамагчы? Я не настаўнік, – імкнучыся гаварыць паважліва, запярэчыў Мацвей.

– Гэта скажа табе мой унук. Пакліч Саліха! – гукнуў ён да дзвярэй, дзе ў маўклівай паслухмянасці застыў той самы мужчына, які адчыняў брамку Асхабу.

Саліх, падлетак гадоў шаснаццаці, зайшоў у пакой, паважліва нахіліў галаву ў бок старога чачэнца.

– Саліх, дзе ты хочаш перамагчы? Патлумач гэтаму рускаму, – мякка загадаў той.

– Неўзабаве алімпіяда па матэматыцы. Я люблю яе, таму хачу выйграць, – падлетак зіркнуў на Мацвея без асаблівай цікавасці – у ім ён не бачыў свайго настаўніка.

Мацвей злавіў сябе на думцы, што ўсё вакол яго нагадвае нейкі сюррэалістычны малюнак: матэматыка, алімпіяда недзе ў школе-раёне, вучань і тут жа – ён, куплены раб абавязаны рыхтаваць гэтага будучага пераможцу. Не ўтрымаўся, і сказаў, бы сам сабе, з крывой усмешкай:

– Навошта траціць грошы, каб купіць раба-настаўніка, калі можна купіць перамогу? – і, не чакаючы адказу, спытаў падлетка: – Які клас?

– Дзясяты, – цяпер ужо з лёгкім здзіўленнем паглядзеў на яго Саліх, і з выклікам дадаў: – Я хачу выйграваць чэсна!

– Ідзі, Саліх, – загадаў стары, і калі юнак выйшаў, звярнуўся грэбліва да Мацвея: – Я магу за грошы купіць цябе і адрэзаць табе галаву. Ці адпусціць цябе на волю. Пакуль у мяне ні адно жаданне не ўзнікае. Усё надалей залежыць ад поспехаў майго ўнука. Ты паняў, рускі?

– Я не рускі, я беларус, – аўтаматычна паправіў старога Мацвей. – Мне зразумела.

Стары чачэнец глядзеў на яго пільна, але што было ў ягоным позірку, Мацвей не разумеў.

– Ідзі і займайся...

Ад выгляду пакоя маладога чачэнца ў душы Мацвея ўсё заныла – у яго доме быў ці не такі. Канапа, стол пры сцяне, у куце адмысловы стол з кампутарам, новым, з вялікім плоскім экранам, дзве шафы, на паліцы адной – кнігі, самыя розныя.

Саліх быў за кампутарам, сустрэў яго позіркам з-пад ілба.

– Якія ў цябе цяжкасці, чаму вучыць, што не разумееш? – ціха спытаў Мацвей, знаходзячыся пад магічным уздзеяннем гэтага пакоя, які дыхаў адтуль, з мінулага, воляй і нармальным жыццём.

– Мне цяжка рашаць задачы па алгебры, – нехаця прызнаўся юнак. – Ты мне дапаможаш? Ты станеш мяне дурыць, я скажу дзеду – і цябе з перарэзанай глоткай выкінуць сабакам!

Мацвей здрыгануўся ад той нянавісці, якой былі насычаныя словы, і не стрываў:

– Ты ненавідзіш, ты грэбуеш сваім настаўнікам, то чаму ты можаш ад яго навучыцца? Пакажы мне лепш тыя задачы, якія вам задалі рашаць...

Саліх перасеў за стол, знайшоў сшытак і пасунуў яго па стальніцы ў бок Мацвея. Той, не пытаючыся, прысеў да стала. Раскрыў і нейкі час глядзеў на задачкі. Зразумела, пачатак дыферэнцыяльных вылічэнняў...

– Гэта раздзел матэматыкі трэба найперш разумець, бо без гэтага будзе чым далей, тым складаней... Ты разумееш, што такое вытворная?

Юнак засоп у адказ, выціснуў з сябе:

– Не.

– Не бяда, – падбадзёрыў Мацвей. – Добра, што прызнаўся. Бо большасць думае, што разумее і падманвае сабе... У цябе ёсць машына? Ты ўмееш ездзіць за рулём?

– Няма, але ўмею. Паступлю, бацька паабяцаў купіць.

– Выдатна... Табе зразумела тады, што значыць: ты рухаешся з хуткасцю 100 кіламетраў за гадзіну?

– Дурню ясна, – хмыкнуў юнак.

– Выдатна і гэта, – ухваліў Мацвей. – Дык вось, твой рух – гэта ў матэматыцы называецца функцыя, дзе ёсць шлях – рэзультат функцыі, час і хуткасць – яе аргументы. Тут усё зразумела, так?

– Так...

– Гэта прасцейшая функцыя. Але дзякуючы ёй, ведаючы аргументы – час і хуткасць, мы можам вызначыць, як далёка ты ад'ехаў ад роднага дома. Ды вось ты пачынаеш рухацца ад нуля. І з кожнай секундай едзеш усё хутчэй і хутчэй. Як вызначыць, на колькі метраў ды ад'ехаў ад дома за тры ці пяць секунд? Хуткасць жа мяняецца, так? Тут ужо ідзе размова пра паскарэнне. Гэта нейкае прырашчэнне да хуткасці кожны момант

часу. Гэта і ёсць вытворная функцыі руху – паскарэнне. Іншымі словамі, вытворная – гэта хуткасць, з якой змяняецца нейкі працэс. А любы працэс мы можам запісаць функцыяй. Выходзіць, вытворная – гэта хуткасць змянення функцыі. Разумееш?

Мацвей глядзеў у вочы юнаку, і позірк таго паступова мяняўся – ад грэблівасці да зацікаўленасці, да адчування адкрыцця і – нарэшце – радасці разумення.

– Так проста? І таму вытворная канстанты роўная нулю – бо яна ж не змяняецца!

– Менавіта так! Але ў фізіцы, геаметрыі, матэматыцы вытворная мае сваё разуменне. Давай іх разгледзім усе. Вось тэорыя граніц...

– Не разумею! – перабіў яго Саліх. – Патлумач, каб я зразумеў!

– Хто ж у вас выкладае матэматыку... Добра, пачнём з самага простага.

Яны займаліся гадзіны тры, Саліх сказаў, што стаміўся і хоча папіць чаю. Ён не пытаўся, ці хоча таго ж ягоны настаўнік – чай прынеслі на дваіх. Мацвей першы раз за гэты час піў чай, седзячы за сапраўдным сталом на крэсле. Было невыносна горка, ён сам не разумеў чаму.

Заняткі скончыліся, Мацвея паклікалі да старога. Мабыць, Саліх падзяліўся сваімі ўражаннямі ад першага занятку, бо зараз на твары чачэнца не было грэблівай пыхі.

– Ты будзеш прыходзіць сюды кожны дзень. Не бойся, цябе ніхто не кране. Час табе скажа Саліх. Ідзі.

У простым цэлафанавым пакеце, які таксама быў нібы з таго, неіснуючага ўжо жыцця Мацвея, ён нёс у свой хляўчук два вялікія праснакі, кавалак крамнага сыру, пачак чаю і халву – гэта даў яму Саліх.

– Во, нарэшце ты ў пашане, – радасна казаў вечарам Грак – яны частаваліся прынесенымі прысмакамі. – За твой розум і я салодкага паем!

Пра тое, што стары чачэнец, відавочна, больш уладны, чым іх гаспадар, паабяцаў волю, калі юнак пераможа на алімпіядзе, Мацвей прамаўчаў. Бо воля абяцалася толькі яму.

Саліх аказаўся дастаткова разумным і здольным, сапраўды хацеў ведаць, захапіўся матэматыкай, ды бач, з гэтымі граніцамі, вытворнымі, інтэграламі ён затармазіў, бо не разумеў іх прызначэння.

– Давай я табе так патлумачу, – казаў яму адзін раз Мацвей. – Ёсць у майстра сякера. І ён працуе, нядрэнна ў яго ўсё выходзіць. Тут іншы майстар прыдумляе долата, рубанак, скабу... Гэта таксама інструменты для дрэва, і без іх нельга абысціся пры стварэнні нечага складанага. У нас былі простыя лічбы і формулы, быў такі інструмент, як ікс – мы маглі рабіць нейкія вылічэнні, нам было дастаткова гэтага. Але вось ракета ляціць у космас, да суседняй планеты. Патрабуецца разлічыць яе хуткасць, паскарэнне, улічыць масу зямлі, яе хуткасць у прасторы, масу і хуткасць іншай планеты. Тых простых лічбаў ужо мала, нам мала інструментаў. І мы ўводзім новыя: вытворную, дыферэнцыял, інтэграл... Тое, чым мы займаемся з табой зараз – гэта вывучаем інструменты і спрабуем імі карыстацца. Палёт на новую планету – прыклад таго, навошта нам новыя інструменты – для разліку траекторыі. Разумееш?

– Ага, разумею нарэшце, – зарадаваўся Саліх. – Гэта проста інструменты! Вы класна ўсё расказваеце, – нечакана на “вы” закончыў ён.

Праз два тыдні заняткаў у школе рабілі так званую пробную алімпіяду, Саліх не мог стрымаць свайго захаплення:

– Мацвей, слухайце! Я рашыў усе задачкі за палову тэрміна! Настаўнік не паверыў, ён так здзівіўся. А чаго там было рашаць, усё лёгкае!

Праз месяц Саліх выйграў алімпіяду.

Асхаб паклікаў Мацвея за сабой, пасадзіў ва "ўазік", падвёз да дома Саліха. Стары чачэнец пагладжваў белую доўгую бараду, казаў:

– Ты прынёс радасць майму ўнуку, значыць, ты прынёс радасць мне. Я ўмею дзячыць за прынесеную радасць. Гэта табе пачастункі, – ён паказаў позіркам на напакаваны невялікі мяшок побач з ім. – Саліх так паспяхова выступіў, што яго запрасілі бараніць гонар нашага раёна і нашага роду. Ты дапамог Саліху.

Але на рэспубліканскім узроўні Саліх першым не стаў – трэцім. І тым не менш, гэта была перамога для ўсяго аула. Пэўна, стары чачэнец, цяпер Мацвей ведаў – старэйшына роду, спецыяльна сказаў прывезці яго ў той самы час: па вуліцы рухалася чорная іншамарка, а яе віталі радаснымі крыкамі мужчыны, жанчыны, дзеці. Мацвей стаяў збоку, бачыў, як ля дома старэйшыны перад брамкай паслалі дыван – на адным канцы яго стаяў старэйшына, насупраць другога спынілася іншамарка.

У Мацвея засвярбелі вочы, калі Саліх ступіў насустрач старому, стаў, пакланіўся яму, нешта казаў, пасля стары казаў яму і ўрэшце абняў, а вакол закрычалі радасна, узбуджана.

Вось чым яны так рэзка розняцца ад нас, думаў Мацвей, стоячы ля плота. Яны ўмеюць радавацца поспехам сваіх, умеюць дапамагаць сваім дасягнуць поспеху. Не зайздросцяць, шчыра цешацца...

Тым часам вароты ля дома старэйшыны шырока расчыніліся – і ўсе былі запрошаныя на шырокі надворак, дзе ўжо стаялі накрытыя сталы. За асобны стол сказалі праходзіць і Мацвею. Там ён сустрэў таго самага рускага, які першы раз адкрываў брамку. Мацвей спытаў яго пра імя – самае бязвіннае пытанне, але той адмоўна і нават спалохана закруціў галавой. Падышоў Асхаб:

– Мацвей, не пытайся нічога! Ён даўно спрабаваў няславіць нашага Алаха, за што быў пазбаўлены языка! – рагатнуў ён. – Ты – здольны настаўнік! Ты будзеш мець многа ежы, добрага адзення, вучыць нашых дзяцей. Трое паважаных людзей хочуць, каб ты падрыхтаваў дзяцей да паступлення ва ўніверсітэт. І ўнука старэйшыны таксама. Саліх расказаў усім, што мае здатнага настаўніка. Ты не крывіся, шайтан! Здагадваюся, пра што думаеш. Але ёсць такія рэчы ў нас, якія не купляюцца за грошы! Гонар! Запомніў? Глядзі!

Вечарам Мацвей расказваў Граку пра гэтае свята ў ауле, той ніколькі не здзівіўся.

– Таму яны і выжылі, таму перамаглі – яны адчуваюць сябе народам, кожны супляменнік для іх – іх частка. Але я рады за цябе! Гэта табе навука: розум усюды патрэбны, чачэнцы таксама хочуць бачыць сваіх дзяцей разумнымі і паважаюць разумных. Маеш розум – не давядзецца махаць кайлом!

– Не, кайлом я памахаю, – усміхнуўся Мацвей. – Без кайла нам ніяк...

Ён разумеў, што словы пра волю, якія пачуў ад старэйшыны, усяго толькі словы. Яму загадалі рыхтаваць да паступлення некалькі чалавек, выходзіць, ніхто не збіраецца яго адпускаць. Вучні будуць ва ўсе часы, а Асхаб, відавочна, нямала атрымлівае грошай, бо ж Мацвей – ягоная ўласнасць.

Мацвей стаў на нейкі час, лічы, настаўнікам у мясцовай школе –штодзень прыходзіў сюды. Пасля заняткаў збіраўся дзясятак вучняў, і ён займаўся з імі матэматыкай у асобным пакоі, пакутліва перажываючы сваё становішча: падавалася, што гэта – фінішная кропка ягонага жыцця, што яму тут заставацца назаўсёды, у гэтым ауле чужым сярод чужых, да яго хоць і пачалі ставіцца быццам з павагай на вуліцах – ніхто не глядзеў з грэблівасцю ці злосцю, але ніхто не збіраўся загаворваць.

Грак выправіўся на радовішча адзін, месяц яшчэ Мацвей вёў заняткі. Ягоныя вучні здалі экзамены па матэматыцы вельмі добра, чарговы раз ён атрымаў узнагароджанне – ежу, з якой праз два дні спяшаўся да радовішча са старым чачэнцам і Асхабам. І там, у пячоры, намахаўшыся кайлом да знямогі і ныючага болю ў плячах, седзячы на сваім плоскім камяні, адчуў сябе спакойна, на сваім месцы.

– Знаеш, Грак... Лепей наўпрост працаваць за ежу, біць гэтую чортавую скалу і марыць пра волю, чым там, у цяпле, не галодным, займацца хай і высакароднай справай, але адчуваць сябе сабакам на ланцугу. Якому на ланцугу і здохнуць.

– Ну, мы ж здыхаць не збіраемся, Монця! – падбадзёрыў яго Грак. – А ты маеш рацыю. Глядзі, на наступны год табе прапануюць уступіць у іслам. Выгода яшчэ якая – робішся сваім. Але і застаешся з імі. З ісламу, як з КДБ, шляху назад няма. Вераадступнікаў тут ненавідзяць больш за гуяраў.

За гэты сезон яны змаглі прабіць тунэль яшчэ на сем крокаў – камень унутры гары паддаваўся лягчэй, скала была спрэс у расколінах.

З надыходам зімы Мацвей зноў стаў настаўнікам. Асхаб прывёз яму новае адзенне і абутак, у хляўчук на тапчаны – два не новыя, але адносна добрыя матрацы.

Зіма праляцела надзіва хутка.



Андрэй Хадановіч



...Літары на пяску,
як любоўная хімія.
Двойчы ўвайсці ў раку
й выйсці з літар сухімі...

# Школа травы

***Вершы з новай кнігі***

* * *

ці помніш ты волю б.? таполяў пух на раёне
турэцкія швэдры ў торбах і ціхія шэпты “ваў”
бо той, хто дзесяць гадоў таму запальваў на стадыёне
тамсама палены спірт купляў або прадаваў

ці помніш філфак і першыя перакуры
паэзію бруднай красы, дацэнтаў нянавісць і жах
як помнікі несусветнай літаратуры
у рытм не траплялі, але цяклі па вушах

як папялушка з крыжыкам на карэце
да поўначы не паспела і ўсё, адбой
хто выжыў у дзвюх, загінуў на зорнай трэцяй
фаўст-патрон з ім, перцам, закрыўшы сабой

як доктар казаў: “прызыўнік, здароўе = айчына
маючы, не шануеш, а страціш – капец
не забывай, мужчына кахае вачыма
зрок беражы, не чытай у войску, хлапец”

як кожнага дня рабілася ўсё храновей
як самагубцы ў вырай ляцелі з мастоў
і толькі воля казала: “дабранач, панове
можна жыць далей” – і так дваццаць пяць гадоў

як дасылаў паштоўкі з амерыкай ды ізраілем
хто пяяў “мне краёў чужых” і “не кінем цябе”
а той, хто кахаў вачыма, руіны чытае брайлем
ці помніш ты волю б.
ці помніш ты волю б.

## *ПЕРАХОД*

Яна прадае ў пераходзе падземныя кветкі.
Ён грае насупраць песні, часцей чужыя.
Яна ні разу не кінула ні манеткі,
а сёння адчула спазм у раёне шыі:

“Хлопча, песня – агонь! Раву, як дурніца,
над нескладанай мелодыяй з простым вершам.
Слухай, вазьмі яшчэ ў сваю навальніцу!
Помніш, як мы запалілі ў 71-м?”

Яна старэйшая з выгляду ў тры разы.
А ён і не надта прыгожы, зусім падлетак.
Заўжды паспявала націснуць на тармазы,
а сёння не паспявае і кажа гэтак:

“Хлопча, песня – агонь! Ты чуў сто разоў сам,
я ж закахалася з першым акордам узятым.
Як ты паляну накрыў журавінавым соўсам
дзеля мяне ў Нью-Ёрку ў 80-м!”

Раптам: “Што за халера, не пазнаю.
Дзе ты мне граў яе, хлопча? І што пасля я?”
Ён: “Я спяваю жывога”.
“Чыю?”
“Маю”.
Памаўчала і кажа: “Гэтая не чапляе”.

Ён кажа: “Песня – агонь, вунь дыміцца грыф мой.
Потым, калі згадаеш, будзеш натхняцца тым,

як запальвала зоркі ад музыкі з рыфмай
у пераходзе ў 2019-м!"

"Стоп. Я сыходжу". Пайшла. Ніколі не збочвае.
Іншаму панясе букет міражоў.
Гарадская вар'ятка, а памяць дзявочая, –
пойдзе толькі за тым, хто за ёй сышоў.

## МЕСЯЦ

Яму казалі: "Ты свеціш адлюстраваным святлом,
што не пакажа дарогі і ў холад не абагрэе.
Дзіўны народ збіраецца перад тваім жытлом –
то дэкадэнты-геі, то маскалі-габрэі".

А ў месяцовым праменні столькі цікавых падзей.
Вунь спадніца клятчастая схільнасць мае да скочу,
лезе ў бутэльку... а з нетраў выходзіць полацкі чарадзей
ды з маладымі ваўкамі песні вые дасхочу.

Ноч у доме быцця ўсім сонцам пакажа язык.
Вунь сарматкі купаюцца ў забароненых ведах.
Ведаюць, дзе і навошта родзіцца маладзік
і ці пакінуў спадчыну мальцу нябожчык-ветах.

Вунь вандроўная зорка з мудрацамі трыма.
Першую лёгка пазнаць па зорных замашках.
Зорка лажае, як бог. Кажа: "Мяне няма".
А мудрацы – рэдактары: "Лепей казаць *нямашака*".

То пакаленне дворнікаў лётае на мятле,
то ашалелыя Шалі гойсаюць, як арэлі.
А яшчэ прыгажуні ў месяцовым святле
плавалі аж да раніцы й нават крыху загарэлі.

## ПАВОДЛЕ ГАЙНЭ

*Ein Fichtenbaum...*

У самай заходняй з усіх Каліфорній,
дзе паліцца добра і выпіць камфортней,
ёсць велічны гай эўкаліптаў высозных.
(Гіганты між дрэў, калі мераць у соснах.)

І кожнаму сніцца: на Ўсходзе далёка
засмучаным ліпам без іх адзінока,

бо мрояць аб тых эўкаліптах,
якія не могуць без ліп тых.

Платан платанічна ўлюбіўся ў таполю,
а явар каліну раўнуе да болю.
Кахаюць – і ў тым паэтычная круць іх! –
мацней і чысцей (калі мераць у людзях).

### *ЛІРЫЧНАЯ РАЗМОВА*

– Добры вечар, Ваша прывабнасць,
муза чароўная!
– Прывітанне, Ваша нязграбнасць,
страфа – няроўная.

– Я чакаў Вас, Ваша юнацтва,
багіня тайны!
– Меней словаў, Ваша лайдацтва,
як там дэдлайны?

– Напаіце, Ваша какецтва,
з крыніцаў цуду!
– Дарам, Вашае дармаедства,
паіць не буду.

– А давайце, Ваша бязмежнасць,
разам да зор!
– Не спяшайцеся, Ваша смешнасць,
спачатку твор.

– На вяршынях, Ваша бязлюднасць,
ніхто да нас!
– Шмат паўзе вас, Ваша зануднасць,
на мой Парнас.

– Пойдзем разам, Ваша багемнасць,
ва ўладу музыкі!
– Ох, тармозіць Ваша някемнасць...
Расшпілім гузікі...

– Зварухнулася, што драмала,
звіняць катрэны!
– Я пайшла: вас шмат, часу мала.
А верш нядрэнны.

## МОВА

Кожная мова напоўнена ўласным сэнсам.
Кажуць, што па-нямецку добра займацца сэксам:
вывучыць нескладана – руляць галосныя гукі.
Па-беларуску любяць матчыны рукі.

Па-французску клінкамі звіняць і плятуць інтрыгі,
мараканцы й алжырцы пішуць рэпчыкі й кнігі,
цёплыя круасаны трушчыць буржуазія.
Па-беларуску скандуюць: "Беларусь – не Расія".

У рускай мовы гарачка ад белай гарэліцы.
Добры паэт не засіліцца, дык застрэліцца.
Чорныя пісталеты помняць Бальшыя Карэтныя.
Па-беларуску друкуюць вершы паліткарэктныя.

Украінскаю мовай гучыць салаўіны пошчак,
з гэтым пошчакам добра працуецца ў Польшчах,
покуль палякі ў Брытаніі топчуць кеды.
Па-беларуску працуюць адны дармаеды.

Помняць белага брата хіндзі і суахілі.
Па-габрэйску каменьчык моліцца на магіле.
Па-ангельску маўчанне доўжыцца з Чарлі Чаплінам.
Па-беларуску над Віліяй гучна вяшчаюць чаплі нам.

Вы даўно зразумелі, *што* я маю наўвеце:
беларуская мова – найпрыгажэйшая ў свеце.

## ЛЕТА: ВЯСКОВЫ РАМАНС

Апошнія тыдні кароткага лета плывуць нетаропка.
То певень гарлае ўрачыстыя гімны, то радыёкропка.
Вялікія слівы не ўлезуць ніколі ў маленечкі кошык.
А з раніцы – водар, то скошаных кветак, то вымытых дошак.

За шыбай насупраць суседка-гарэза паказвае дулі,
а ў лепшым настроі штось іншае можа, тайком ад матулі...
Усмешка красуні была хітраватай: не хочаш – не сватай.
Ад ейнага спеву закладвала вушы салодкаю ватай.

І ты патануў бы, ды цягне з балота сябрук і настаўнік:
"Кахаюць прыдуркі, а ты лепей жабу закінь ёй у станік.
Рамантыка – гэта не соплі і буські. (За вуснамі – іклы.)
Хадзем, там за плотам зусім без аховы стаяць матацыклы.

Маторная лодка амаль без нагляду, а жнівень кароткі...
Пара ў тваім веку рабіцца дарослым...
Чакай, клічуць продкі...”
І ты ўжо сам-насам з адважнай суседкай, і сорам на твары,
і жабку не кінеш, бо станік адсутны, і лета ў разгары.

І пахне грыбамі, і колецца сена, і плёскаюць вёслы.
І ты засынаеш шчаслівы, а потым прачнешся дарослы,
бо ў сне яна мае пякельныя рожкі і крылцы анёла...
Ды ўсе перакосы і ўхілы паправіць сярэдняя школа.

Усё прамінае – каманда юнацтва цябе прадынаміць,
ды ўсё застанецца – і кожную згадку чытаеш на памяць.
Зязюля кувае і радыёкропка да ночы спявае,
сябрук на свабодзе й малая суседка дагэтуль жывая.

* * *

Празорцы, магі, вершакаралі.
Вяшчуе вечнасць мова незямная.
А ўсё, што блізка грэшнае зямлі,
ім, дасканалым, трохі замінае.

Пабожна, нібы ў неба пішуць ліст,
выводзяць паэтычную крывую,
як ля шэдэўра ўражаны турыст:
“Не замінайце, я фатаграфую! –

нервуюся ў музейнай гамане,
гляджу ў смартфон з недапісаным вершам,
чакаючы, пакуль народ міне...”
А людзі і былі найцікавейшым.

### АДЫСЕЯ

Google, скажы пра багатадазнаных герояў дзяцінства,
здольных на мужнасць і мудрасць, і подзвігі рэдкага свінства.
Словаў у кепскім парадку на вецер правераны сейбіт,
дзьмухнуўшы дыму айчыны, старэнькі пачуў Адысей біт.

Дзе адмарожвала спёка і кроў ледзяная кіпела,
памяць! канатнай дарогай вязі ў найвышэйшае пекла,
жарсці тваёй фаер-шоу і рэўнасці танцы на вугалі,
столькі ўсяго, што здараецца толькі ў дзяцінстве і ў гугле.

Першая хваля кахання – і ты адплывеш у пакоры:
бібліятэк яе рэкі, азёраў яе кнігазборы.
Падараваць ёй усё – і яе частавацца дарамі,
і ў надзіманай байдарцы заснуць, як на меху з вятрамі.

Помніш купанні ўначы? Як на бераг выходзіць князёўна?
Жартаўнікі твае плаўкі сцягнулі, а ёй не ўсё роўна.
Нават знаёміць вядзе з татам-князем і мамай-княгіняй.
Ты ж валацуга вядомы: збяжыш, а дзяўчына загіне.

З добрых намераў дарога прыводзіць на выспу да німфы,
дзе разбіваюцца пляшкі і пысы, і сэрцы, і німбы.
Шклянка здароўя (яно як айчына) была вельмі крохкай:
сёння амаль чалавек, заўтра ў брудзе качайся і рохкай.

Помніш, на Ўсходніх кладах, як прыносяць суворыя мальцы
мёртвым ахвяры і ў соль з памідорамі тыкаюць пальцы?
П’юць за сяброў, камандзіраў, зялёных яшчэ навабранцаў.
Паляць афганку – і ўночы з’яўляюцца цені афганцаў.

Сплаў на п’яным караблі, што забыў аб прызначаным порце.
Катамараны Харона (з чыёй датай смерці на борце?).
Шторм пражаваў тваё судна ды сплёўвае мачты, шпангоўты.
Дурань, каму ты паверыў, што некалі трапіш дамоў ты?

Ветразі-хмары, пунсовыя водціскі пальцаў на ўсходзе.
Дама з сабачкам у форме памежнай ідзе па праходзе.
Гучны Гамэраў гекзаметр, гордзіеў голас ягоны:
“Поезд далей не ідзе, калі ласка, пакіньце вагоны!”

### *ДРЫГВА*

Слухайце казку, апошнюю казку.
Ў раі, дзе з мілым шалаш,
душы збірае ў трафейную каску
бог партызанаў Талаш.
Скроні ў цярновай кароне.
Сэрца нясе на далоні.
Левыя круцяць пальцам ля скроні.
Правыя б’юць у далоні.

Дзе кулямётны аддзел адраджэння
гнёзды бароніць свае,
мёртвых хавае ў левай кішэні,
з правай – жывых дастае.

Вочы ў тумане і дыме
блытаюць мёртвых з жывымі.
Вораг – жанацік, то б’е халастымі.
Па халастым – баявымі.

Ён адплывае з выдраю ў вырай.
Ён запрашае ў адрыў,
будзячы ўсіх жураўлінаю лірай,
хто вачаняты закрыў.
Ходзіць, не ведае стомы.
Вогнішча паліць святое.
Грукае ў сэрцы, пытаецца: “Хто мы?”
І не пытаецца: “Хто я?”

### ***ПРАЛЬНЯ***

Б. недалюбліваў горад, бо ў горадзе людзі.
Грошы, пагоны, часам зладзейская кепка.
Б. папярэджваў горад, што кепска будзе.
Горад не слухаў, а потым зрабілася кепска.

Б. падумаў, што зробіць той горад пральняй,
толькі яшчэ вагаўся, як чысціць правільней:
гідка мець справу з бруднай чужой бялізнай,
ды праблема з бялізнай стала вялізнай.

Горад сябруе, а потым здрадзіць знянацку.
Прызнаецца ў каханні, выходзіць трэш.
Піша данос. Даглядае хворага бацьку.
Чорны ці белы, адразу й не разбярэш.

Іншыя колеры ёсць. Не менш ад сямі.
Цяжка з такой бялізнай, то бок з людзьмі.
Як іх мыць? Паасобку ці ўсіх суздром?
Барабан запусціўся. Горад вырашыў: гром.

Б. усё добра абдумаў і выбраў рэжым
сярэдняй забруджанасці, мыццё далікатнае.
Горад крычыць “бяжым”, а куды “бяжым”?
Ногі ўжо ватныя, думкі неадэкватныя.

Барабану з вадой няпроста спыніцца,
на панэлі адсутная кнопка “стоп”.
Аптыміст пераконвае: звыклая навальніца.
Песіміст фармулюе: тыповы патоп.

Толькі ў Б. на панэлі сцэнар відзён:
сорак хвілін. Горад вырашыў: сорак дзён.
Горад выпаў з машыны, прамоклы ўшчэнт.
Аптыміст даказваў, што хэпі-энд...

Горад сохне на ветры. Чакае золку.
Удыхае азон. Сустракае святло.
Зранку над пральняй Б. запаліў вясёлку –
знакам, што сегрэгацыі не было.

* * *

Ветразі й вітражы.
Сонца і вецер вые.
Мачты нібы крыжы.
Мёртвыя як жывыя.

Зорка, а лепей дзве,
блізкая і чужая.
П'яніца ў галаве
ветах з поўняй мяшае.

Рухаецца зямля
з Полацку ў Сан-Францыска.
Плавае немаўля,
дзе даплыве калыска.

Літары на пяску,
як любоўная хімія.
Двойчы ўвайсці ў раку
й выйсці з літар сухімі.

З ветразямі крыжоў.
З вітражамі на мачце.
Выбачце, хто дайшоў.
Хто не дайшоў, прабачце.

* * *

Музычная шкатулка. Малахітавая, не малахітовая.
Ахоўная шпакоўня вашым творам, птушаняты штогадовыя.
Ад ветру, завірухі і папсы хутчэй хавайцеся ў шкатулку,
што песенькам і вершыкам ніколі не адмовіць у прытулку.

Дзе за крыніцу ведаў б'юцца ў скверыку акторы і пракокі,
уся ў душэўных ранах – робіць музыкай дакоры і папрокі.

Зняверца можа ўкласці пальцы, кінуўшы манетку ў яе дзірку,
і птушка завадная чык-чырык каля дзяржаўнага цырк-цырку.

А назавуць музычным аўтаматам –
расплачацца манетай самай рэдкай,
пра хлопчыка з трафейным аўтаматам
і дзеўчыну з айчыннай цыгарэткай.

Тлумачу папулярней, паэтычная вясна для тых, што ў танку.
Так горка – абрагочашся, так весела – рыдаеш да світанку.
На скрыжаванні ночы й дня, на стаметроўцы добрага і злога –
амаль анёл,
святая без пяці хвілін,
мадонна без малога...

Шпакі павырасталі. Чуеш водар касякоў каля шпакоўні.
Курортныя балады і рамансы чым смяротней, тым шыкоўней
на трыццаць трэцяй хуткасці лятуць – і сэрца музыка спыніла
паміж пяскоў з егіпецкаю джэзваю, над хвалямі вінілу.

А назавуць музычным аўтаматам
аматары смялейшых амплітуд –
адкажа ім, што музыка сама там
жыве, а слухачы ўміраюць тут.

### ***ШКОЛА ТРАВЫ***

Увесну трава – пяе,
зялёны прыбой аж да ганка.
Пакуль ты косіш яе –
за спінай расце, партызанка.

Яе знішчаюць – жыве:
навюткая, не старая.
Схаваны ў такой траве
таксама не памірае.

Усё пакасіў як след,
ды зноў па пояс увесну.
І піша ў слупок паэт,
рыфмуючы з “уваскрэсну”.

Хто косы трымаў, усе
стралялі па той мішэні –
і цётухна пры касе
прасекла пра ўваскрашэнне.

Усё, што ў свеце люблю,
знаёмае з гэтай школкай:
дажджом упасці ў зямлю
і ў неба ўзысці вясёлкай.

Дарэчы, у нас дажджы,
касіць – дарэмныя мары.
Ты кажаш: “Лепш пастрыжы
газон, што вырас на твары”.

* * *

Сем уваскрэсенняў таму
у велікодным Нотр-Даме
паверыў слову аднаму
й шукаеш іншае гадамі.

А потым схопіш наўздагад
*яго*, што ў храме велікодным
сем уваскрэсенняў назад
не рыфмавалася з ніводным.

* * *

Хрыстос прызямліўся ў Берасці,
на самай мяжы эРБэ.
Расце трава – і табе расці,
і цуды рабіць – табе.

Хрыстос прызямліўся ў Горадні,
не кажучы аб Гародні,
і ўсе жывыя – з яго радні,
а мёртвы – яшчэ несмяротней.

Хрыстос прызямліўся ў Смургоні,
Нясвіжы й Старых Дарогах,
і бэз – прадвеснік ягоны,
і глог – у яго прароках.

Хрыстос прызямліўся ў Зэльве,
у Слоніме і Залессі –
і ксёндз запільвае сэлфі,
і бацюшка ў кадр залезе.

Хрыстос прызямліўся ў Гомелі,
у Ракаве ды Івянцы –
і ўсё, што людзі багомілі,
злятае, як дзьмухаўцы.

І, верачы праўдзе й байкам,
нібы пілот з карабля,
глядзіш, як святочным яйкам
па небе плыве зямля.

*28.04.2019, Вялікдзень*



Сяргей Рублеўскі



...іншы раз, вы не паверыце,
добра, калі цябе не разумеюць...

# Хлюст наезны

***Апавяданне***

Навукова-даследчыцкі інстытут, у якім працаваў Мікола Крываловіч, месціўся непадалёк ад яго дома. Так што на працу ездзіць не трэба было: прайшоў метраў чатырыста напрасткі – абсаджанымі клёнамі ды ліпамі дварамі – і вось ён, пяціпавярховы гмах са шкляным, як акварыум, калідорчыкам, які на фасадзе трохі вытыркаецца вонкі.

І наогул усё было блізка ад жытла Міколы – шэраг крамаў, харчовы рынак, парк для вечаровага шпацыру, басейн з саўнай і шмат чаго яшчэ неабходнага для зручнага побыту. Мікола не мог нарадавацца, калі засяляўся ў цагляны, з прасторнымі балконамі дом у ціхім завулку. Радасць зразумелая, асабліва калі ўлічыць змалку ўкаранёную вясковую звычку Міколы і ў горадзе дастававацца да патрэбнага месца пешкі. Дык лацвей, калі ўсё блізенька!

Са зручнасцяў жыцця Міколу, бадай, найбольш падаба-

лася тое, што на абед яму не трэба было хадзіць кагалам разам з калегамі ў аблюбаваную імі кавярню. А прыйшлося б, каб жыў далёка ад дома. Дык апетыт тады штодня быў бы так сабе, бо ежу, нібы перцам, хлопцы шчодра перасыпалі размовамі пра работу (куды ад яе падзецца), палітыку, пра светлую будучыню, цяпер ужо на новы капыл, ну і пра жанчын, вядома, без якіх тая будучыня мела б адбыцца толькі змрочнай. Мікола быў хлопец гарачы, адчайна ішоў у рожкі, калі падчас якой спрэчкі было не па яго, ледзьве не за грудкі гатовы быў брацца, асабліва пры абмеркаванні якой палітычнай куламесы. Дык які пры гэтым смак у яды...

Іншая справа дома, дзе жонка Вольга гатавала куды смачней, чым у той кавярні, асабліва беларускія стравы.

У гэты чэрвеньскі дзень Мікола крочыў на абед у асабліва добрым гуморы. Надоечы сябра, які трымаў непадалёк ад горада фермерскую гаспадарку, прывёз яму пакаштаваць пару колцаў самаробнай кілбаскі, дык Вольга наважылася згатаваць з яе на абед найсмачнейшую, якая ёй толькі ўдаецца, мачанку: з крышанамі сушаных баравічкоў у падліве, з каляндравай ды іншымі духмянасцямі, з тонкімі блінцамі, якія, здавалася, самі гатовы скручвацца ў трубачку – мачай ды еш...

Як толькі Мікола ўвайшоў у свой двор, дык міжволі прыспешыў крок...

І раптам з вакна прыпаркаванай каля тратуара машыны яго гукнулі:

– Містэр, можна вас на хвілінку?.. Містэр, на адну хвілінку толькі...

Яшчэ не аціхла водгулле перабудовы, і Мікола быў прызвычаены, да таго, што людзі звяртаюцца да яго па-рознаму, абы не так, як раней, калі ва ўжытку быў толькі традыцыйны “таварыш”. І “панам” называлі, што яму зусім не падабалася – аж скрыгатаў зубамі, і “спадаром”, што было нармальна... А тут раптам “містэр” – нечакана, нязвыкла, але трошкі і захапляльна, нібы новы абсяг жыцця адкрыў незнаёмы таварыш.

– Містэр, мы ў вашым цудоўным горадзе праводзілі прэзентацыю і распродаж посуду фірмы “Цэптар”, імпрэза прайшла выдатна, амаль увесь посуд раскупілі. Застаўся толькі адзін камплект. Не везці ж яго за тысячу кіламетраў назад. Дык мы вырашылі падарыць гэты набор аднаму з жыхароў вашага, такога гасціннага горада. Вам пашанцавала!..

Агаломшаны такой неспадзяванкай, Мікола і вокам не паспеў міргнуць, як падцяты, нібы хорт, маладзён запытаў:

– Вы ж у гэтым пад’ездзе жывяце? Тады мы зараз... – і на стаянку каля пад’езда пад’ехала аўто, з якога хвіліну таму вылез незнаёмец.

Нечаканы добразычлівец подбегам перанёс на лаўку каля ўваходных дзвярэй дзве кідка аздобленыя каляровымі ілюстрацыямі бліщчастых патэльняў, каструляў, сатэйнікаў каробкі ды адмысловы, бліщчасты, нібы ахабіты іскрыстай, яшчэ не кранутай пацямненнем бляхай “дыпламат”.

Маладзён усунуў у рукі Міколу вялізную каробку, якую прыйшлося трымаць перад сабой, сам узяў пад паху другую, меншую, і “дыпламат”, і яны ўвайшлі ў ліфт.

Пакуль узнімаліся на восьмы паверх, маўчалі. “А што казаць незнаёмаму чалавеку, – думаў Мікола. – Ён жа на колькі хвілінак завітаў. З непрадбачанага выпадку. Аддасць посуд, падзякую, пацісну руку, і няхай едзе сабе здаровы. Хаця... навошта нам з Вольгай той “Цэптар”, усё жыццё чыгуннымі патэльнямі абыходзіліся і думаць не думалі пра якія інакшыя – ці трэба мяняць звычнае... Але ж выпадак такі...”

Тым часам Мікола неўпрыкмет пазіраў на выпадковага госця. Чарня-

вы, валасы кудзеркамі, абвіслыя вусы... Апрануты як на выхад: цёмны касцюмчык, камізэлька пад пінжаком, вузенькі, як рыба сарган, гальштук... Хварсіста... але толькі па форме. Было відаць, што апратачка танненькая і ўжо далёка не новая... Як працоўная. Невядома чаму, Мікола падчас гэтай неспадзяванай сустрэчы хоць і заўважаў, як звычайна, усе дробязі і адзначаў пра сябе, ды на гэты раз па сутнасці нічога не прымаў да ўвагі. Не меў на гэта і якую кроплю ахвоты.

Мікола толькі пазваніў, і Вольга амаль імгнення адчыніла дзверы: здавалася, яна наўмысна стаяла непадалёчку ад іх і чакала мужа. Здзіўленая прыходам чужога чалавека, жонка ўсё ж не паказала сваёй збянтэжанасці, хуценька схамянулася, прыкрыла дзверы на кухню, каб крыху суняць духмяны пах свежага гатавання, і ветла запрасіла святочна выглядаючых, дзякуючы страката расфарбаваным каробкам у руках, мужчын у пакой.

І тут увішны прыхадзень, нібы добра спрактыкаваны рэжысёр, разгарнуў на дзіва сужанцам сваю захапляльную тэатральную дзею, у якой Вольга, дарэчы, адразу атрымала ролю галоўнай гераіні, а Мікола – так сабе, другараднага, занядбанага статыста.

Калі настойлівы госць зноў пачаў прамаўляць расповед пра мэту свайго візіту, ён звяртаўся толькі да Вольгі, нібыта Міколы і не было ў пакоі. Але ж і тое праўда, навошта яму другі раз слухаць адно і тое ж. Хоць разгублены муж усё ж быў злёгку пакрыўджаны такой няўвагай, але моўчкі працягваў выконваць адведзеную яму ролю. Маўчаў і здзіўляўся. Цяпер не з гаваркога прыхадня, а... са сваёй любай жоначкі. Калі добразычлівец распавёў пра свой шчодры дарунак, яна раптам па-дзявочы войкнула і радасна выдыхнула:

– Ой, праўда, праўда?!. – не магла паверыць, ашчасліўленая.

Мікола спачатку здзівіўся такой рэакцыі жонкі: “Няўжо і мая Воля таксама замбаваная надакучлівай цэптараўскай рэкламай ды яшчэ ўхвальнымі размовамі заможных суседак пра славуты посуд, сябровак і былых каляжанак, з якімі разам працавала да пенсіі? Не заўважаў за ёй, здаецца, такой слабіны... Ці, можа, на дармаўшчынку клюнула... А я што? Сам жа і прывёў у хату спакусніка...”

І сэрца Міколы напоўнілася мілажальнасцю да Вольгі з-за яе пачуццёвай адкрытасці і неахаванасці перад чалавекам са свету...

Але сардэчная слабасць сужэнцаў доўжылася колькі імгненняў, бо прыхадзень раптам дастаў з кішэні сцізорык ды рашуча і спрытна пачаў разразаць ім упаковачную стужку, каб дастаць посуд з каробкі.

Ён спярша дастаў каструлю, блішчастую, глыбочанькую і пачаў пакручваць яе перад Вольгай ды нахвальваць:

– У ёй і страва больш смачнай атрымліваецца, і мыць дужа зручна, нішто не прыліпае, не прыгарае... Зірніце, якое дно тоўстае, з суцэльнага металу, доўга цеплыню трымае! У такім посудзе лацвей на марудным агні страву, калі трэба, утамляць... – і яшчэ, і яшчэ, толькі слухай!

Але слухаць не давялося, бо незнаёмцу раптам патэлефанавалі і ён абачліва выйшаў на калідор, каб пагамаціць. Дзверы былі прыадчынены, і Мікола пачуў, што дабрадзей размаўляе на... венгерскай мове. Гаспадар ледзь стрымаўся, каб не пачаць роспыты пра Венгрыю, бо гадоў адзінаццаць таму быў па пуцёўцы на Балатоне. “Ат, не да месца гэтыя неабавязковыя размовы цяпер, няхай хутчэй аддае дарунак ды сыходзіць сабе, можа, яшчэ няспешна паабедаць атрымаецца... Ды і чаму я думаю, што

ён з Венгрыі, і ў Закарпацці ж вугорцы жывуць, ды і цыганы тамтэйшыя па-іхняму балбочуць...”

Пра цыганоў Міколу згадалася мімаходзь, без дай прычыны, усё адно як спатыкнуўся на роўным месцы і далей пайшоў.

Імпэтны госць вярнуўся праз пару хвілін у пакой і ўзнавіў свой рэй. Ён гэтак жа спрытна, як і першую, растрыбушыў другую каробку і пачаў нахвальваць блішчастыя патэльні – вялізную і меншанькую. І зноў жа паварочваў іх, пагладжваў даланёй, стукаў костачкамі пальцаў па дне толькі для Вольгі. А Мікола як зачараваны дзівіўся яго спрытным, хуткім рухам тонкіх рук, падчас якіх бліскучы бранзалецік на запясці амаль немагчыма было спаймаць позіркам.

І другую дзею дамашняга спектакля рэжысёра-гастралёра зноў раптоўна перапыніў тэлефонны зумер, і зноў прыхадзень выйшаў паразмаўляць на калідор. Кожная перамова нагадвала сабой імправізаваны антрактцік у самадзейным спектаклі.

“Хто ж яму звоніць так настойліва? – схамянуўся Мікола. – Мусіць, напарнік, кіроўца легкавіка, які застаўся на двары”. І міжволі згадаў, як той падчас размовы каля машыны ўцяў галаву ў плечы, прыгнуўся да самага руля, усё адно як схаваўся, так, як хаваюцца дзеля пацехі маленькія дзеці: іх добра бачна, а галоўка затулена за якой-небудзь заслонай. Ён вас не бачыць – значыць, і вы яго. Смеху!..

І Міколу ўсё гэта было пацешным. Але цяпер ён задумаўся, бо не мог успомніць аблічча кіроўцы, адно што вусы адметныя разгледзеў...

На гэты раз “антракт” быў карацейшы, чым папярэдні. Надышла апошняя дзея. Прыхадзень аберуч узяў блішчасты чамаданчык, паклаў яго на прыўзнятае калена і спрытна, аднаімгненна адкрыў замочкі – зашчапкі гучна пстрыкнулі і ўзляцелі ўгору. Зыркае сонца адбілася на лёзах нажоў, якія ў два рады ляжалі ў глыбочанькіх гнёздах на адмысловай панэльцы. Маладзён з непрыхаваным гонарам адгарнуў панэльку, нібы старонку кнігі, і пад ёй адкрылася яшчэ адна, на якой такім жа чынам былі ўпарадкаваны відэльцы і ўжо інакшыя, цяпер сталовыя, нажы да іх. Усё выглядала бездакорна, хіба толькі Вольга трохі засмуцілася тым, што ручкі нажоў і відэльцаў былі атулены карычневай, а не белай – выглядалі б больш святочна – пластмасай. Але гэтае засмучэнне лёгка распусцілася, нібы драбок кавы ў кіпені, і дзея падаўжалася без замінак.

Азораны добрым настроем прыхадзень тым часам узяў з каробкі аркушык паперы са шчыльна надрукаваным тэкстам і, трымаючы перад сабой, прамовіў:

– Гэты набор посуду, цалкам, як ёсць, каштуе пяць тысяч долараў. Вось, вы ж бачыце... – і маладзён прыціснуў да сябе і разгладзіў на грудзях “дакумент”, той самы аркушык.

Ад сужэнцаў да паперкі было пару крокаў, і яны не маглі прачытаць ніводнага слоўца, тым больш без акуляраў, але ж ім і не хацелася чытаць. Тое, што сказаў маладзён, абое ўбачылі ўнутраным зрокам у... сваіх галовах. Ну так і ёсць! Пяць тысяч...

– Адзінае, што вам трэба, – працягваў свой маналог наезны артыст, – дык гэта заплаціць чатырыста пяцьдзясят долараў, бо такую суму мы павінны аддаць на памежнай мытні за тавар.

А вось гэта для Міколы было зусім нечакана, нібы кварту халадзёнкі на цемечка вылілі. Каб мелася якое вольнае, не залучанае ў завіхураны

прыхаднем час імгненне, дык ён абавязкова ўспомніў бы павучальны выпадак, які колькі месяцаў таму адбыўся з яго сябрам-фермерам у Маскве.

На Беларускім вакзале, па выхадзе з цягніка, яго апанавалі гожыя хлопцы ў прывабных строях, надзіва гаваркія і ўсмешлівыя, якія адрэкамендаваліся рэпарцёрамі сталічнага радыё і пачалі падторкваць мікрафон пад нос ды віншаваць братку-беларуса як юбілейнага (трэба ж так пашчасціць!) наведніка мегаполіса. Балбаталі і ўсоўвалі ў рукі розныя электрапрыборы – ад праса да фена – падарункі ганароваму госцю ад мэрыі. Фермер цярпліва слухаў і чакаў, калі ж спакуснікі загавораць пра... грошы. І яны загаварылі пра падаткі, якія трэба выплаціць мэрыі, маўляў, толькі і ўсяго з яго.

І вось тут сябра праявіў абачлівасць разам з прытоенай іроніяй і стойкасцю: “А давайце зробім так: падарункі, – і адразу пачаў вяртаць усунутае ў рукі, – застаюцца ў вас, а мае грошы – пры мне...”

Хлюсты з адбіткам суму і шкадобы на тварах вымушаны былі пагадзіцца. На тым і разышліся. Праўда, на адыход яны хвілінаў дзесяць размаўлялі з Міколавым сябрам ды ўсё распытвалі яго, чаму адмовіўся ад такой звабнай прапановы. Па гарачых слядах прайдзісветы імкнуліся зрабіць своеасаблівую “работу над памылкамі”.

...Але выратавальнага імгнення ў Міколы не было. Вольга падхапілася з канапы, падышла да пісьмовага стала і пачала даставаць са сваёй схованкі ды адлічваць зеленаватыя купюры. Муж стаяў агаломшаны: “Адкуль у яе такія грошы? Адкуль? Па капеечцы назбірала ўпотай? На дыетах вегетарыянскіх зэканоміла? А можа, “спонсар” які завёўся? Цяпер жа спрэс спонсары... Ды не, глупства, глупства...” – зараіліся ў яго галаве прыкрыя думкі.

– А што калі долараў не хопіць, рублямі можна даплаціць, па курсе, вядома? – раптам разагнаў іх залішне гучны, як падалося Міколу, і нецярплівы голас Вольгі.

– Думаю, можна. Разбяромся як-небудзь, – змрочна адказаў прыхадзень, спешна ўзяў грошы, нават не стаў пералічваць іх і рушыў да дзвярэй.

У кватэры запанавала гнятлівая цішыня, як у тэатры пасля няўдалага спектакля. Ні прыхадзень, ні сужэнцы не сказалі адно аднаму ні слова, нібыта іх апанавала ўзаемная сарамлівасць. Адно што ў гэты момант у калідор выйшла маленькая ўнучка Юлька, якая гасцявала ў бабці і, каб не перашкаджаць дарослым, затаілася была ў другім пакоі ды забаўлялася з лялькамі. Прыхадзень пагладзіў яе па галоўцы, няўклюдным рухам гайдануў вялізны бухматы бант і ўзвышана, не хаваючы свайго захаплення прыгажосцю дзяўчынкі, зусім шчыра, нібыта быў сам-насам, прамовіў:

– Прынцэса!.. – якраз тое слова, якое прагнулі пачуць маленькія вушкі.

Пры гэтым хлюст шчымлівым, як у галоднага сабакі, позіркам, утаропіўся ў Міколу і ўсім сваім жаласным выглядам нібыта казаў яму: “Ну так, абдурыў я цябе, сталага дурня, хутка пра ўсё даведаешся. Але не сярдуй і асабліва не засмучайся: не цябе першага, не цябе апошняга растрыбушылі. Не сярдуй! Паглядзі лепш на сваю ўнучачку: якая прыгажунька, якая прынцэсачка!.. Усміхнецца табе – і ўсё як рукой здыме, усё забудзецца... А мне трэба спяшацца, шукаць новых дурняў, здабываючы свой сабачы хлеб...”

Прыхадзень не ведаў, што цяпер якраз жа яго дакрананне да ўнучкі і раздзірала балючым верадам Міколаву душу, што ён успрыняў гэтае дакрананне як нахабную спробу апаганіць святую чысціню...

Мікола ўжо крыху “працверазеў” і ледзь стрымліваў сябе ад злосці, ледзь сунімаў раздражненне і адчуванне незразумела адкуль апанавалай яго бездапаможнасці.

Але нарэшце з асвяжальнай, як глыток вады ў спёку, палёгкай ён зачыніў за хлюстам дзверы, махнуў яму ўслед рукой і пайшоў на кухню.

Вольга ўсё яшчэ разглядала ў пакоі посуд, і Мікола, панылы і змрочны, праглынуў спехам, не смакуючы, пару блінцоў з мачанкай ды пабег на працу – абедзенны перапынак быў ужо на сыходзе.

У другой палове дня час поўз зусім марудна. Міколу здавалася, што ён так нікуды і не сыдзе, а ўрэшце застанецца да раніцы ляжаць скурчаным, як лянотная котка, на крэсле начальніка – там цяплей і ніхто не згоніць.

А калі прыкметна стомлены маркотай сталы мужчына ўсё ж дачакаўся завяршэння працоўнага дня, выйшаў на вуліцу і рушыў дадому, дык міжволі адразу запаволіў хаду, нібы ўспомніў, што спяшацца няма куды – ніякага тэрміновага занятку дома на вечар не запланавана, а думка пра вячэру ў сувязі з такім хітра змушаным набыццём новага посуду толькі прыгнечвала.

Мінаючы наступны двор, ён прысеў на лавачку, каб хоць якую хвілінку адпачыць... ад жыцця. Але, бадай, як ва ўсіх такіх ахвотнікаў, нічога з гэтага не атрымалася – з галавы не выходзілі думкі пра жонку.

“Гэта ж трэба столькі грошыкаў шпурнуць на вецер, нібы ахапак лісця, як калісь, дурэючы ў восеньскім парку... Дык хоць бы зрабілі гэта як тады – з маладой гарэзлівасцю, з імпэтам! А так... Адно чарада сумных, посных, дробных, здаецца, загадзя прадвызначаных падзей...” – уздыхнуў Мікола і закурыў цыгарэту.

“Дзіўна, з якой невыноснай горыччу трываю я страту зялёных паперак! – перасмыкнуў гаротнік плячыма. – Але ж якімі высілкамі даецца іх набыццё!.. Якімі высілкамі! Так рэдка шанцуе...”

І неўзабаве, здавалася, наўмысна дзеля аблягчэння душэўных згрызот, у яго свядомасці ўсплыла халодная, як лядзяш, згадка: “А грошыкі ж... не мае, а Волеччыны! Яна ж іх, клапатлівая, *па далярчыку*, адзін да аднаго збірала... І прытым затоена, моўчкі, у многім, відаць, употай сабе адмаўляючы...”

І гэтая згадка замест таго, каб напоўніць душу спачуваннем і спагадай да жонкі, выявілася непрыемнай абыякавасцю і прыкрым дакорам да яе:

“Гэта ж трэба, свой бюджэцік цішком завяла!.. Усё адно як сужэнскую скібку жыцця надламіла на *маё* і *тваё*, адчужылася і, мусіць жа, даўно спланавала ўсё... – пачаў нішчыцца ў сваіх думках Мікола. – Можа, яна і шашні з кім завяла?..” – і ён зрабіў доўгую зацяжку, такую доўгую, што здавалася, у яго ўзнікла жаданне як-небудзь атруціцца. І не таму, што небарака ўжо не мог суняць неабачліва запаленае ў душы эратычнае ўяўленне. Не. Мікола ж наяве, цяпер, перажываў здраду сваёй любай Вольгі, якую яна па сутнасці ўчыніла яму сёння з хітрым хлуслівым прыхаднем.

“Гэта ж трэба было так адразу, з першых слоў, нібы кілімчык, разаслаць перад ім сваю ядвабную душу: хочаш, узыходзь на яго сваімі стаптанымі чаравікамі, хочаш, сядай па-турэцку, хочаш, кладзіся на бок, адпачні, калі стаміўся... З такой лёгкасцю адкрыць незнаёмцу свае шчырыя жаданні, няхай сабе і пабытавыя, але ж усё адно такія асабістыя... Вось цяпер і думай, ці цалкам яна мая, лёсам дадзеная сужэнка...” – уздыхнуў Мікола і ўзняўся з лаўкі.

Ён быў добра стомлены доўгай чарадой тлумных думак, якія віравалі вакол аднаго, па сутнасці нікчэмнага, але такога гнятлівага для іх з Вольгай здарэння. Трэба было ісці дамоў, каб разарваць бясконцы ланцужок непрыемных разважанняў ды згадак, якія пакрысе пачыналі сыходзіцца на тым, што менавіта з яго, Міколы, волі ашуканец патрапіў у іх жытло. Ён не хацеў пра гэта згадваць і таму ўпарта паўтараў пра сябе: “Ну, выпадак такі... Ішоў па ўзмежку, а за штаніну сцябло дзеразы ўчапілася – даўжэзнае, *кіпцюрыстае* не адарваць...”

Па вяртанні дамоў Мікола і знаку не даў Вользе аб сваіх перажываннях і наогул стараўся не згадваць пра паўдзённае здарэнне, пасля якога ў абоіх у душах завісла нервовае хваляванне, што, дарэчы, неўзабаве пацвердзіла і Вольга:

– Зірні на гэты набытак, – адкрыла яна перад мужам удружаны ім прыхаднем блішчасты чамаданчык. – Бачыш, якія адметныя відэльцы!..

– Ну, што тут адметнага... Звычайныя...

– Ага!.. Звычайныя на чатыры зубцы, а гэтыя – зірні ж, на тры!.. Што імі есці заведзена, можа, рыбу?..

– Скажы, ты ж уважліва разгледзела: адзін з крайніх зубцоў завостраны, як лязо ножыка? – спытаў Мікола, нібыта сам не мог паглядзець. – Калі зубец завостраны, дык тады для... вустрыц відэльцы! Так што аніякіх праблем з паяданнем двухстворкавых малюскаў у нас, любая, цяпер не будзе! Параскашуемся!

– Не, не завостраны...

– Ай, шкада... Давядзецца рыбкай марской перабівацца, ды і кавалачак торта з такога відэльца не зваліцца...

– І бульбіну з рукі выпускаць не будзем... – у адказ кісла ўсміхнулася Вольга.

Мікола, як толькі мог, стараўся надаць размове жартаўлівы тон, каб пакрысе спустошыць прыкрую тэму да нікчэмнасці, а тады і забыцца на яе.

Але нічога не атрымлівалася – гумар саслізгваў са слоў, як вада са змазаных тлушчам качыных пёрак, і заставалася толькі цяжкая, шызая і рассыпістая, як шрот, існая праўда.

Стомленаму за дзень Міколу захацелася трошкі пабыць аднаму, і ён затуліўся ў свой пакойчык. Спачатку наважваўся перачытаць адкладзеныя з мінулага тыдня газеты, але не ўтрымаўся і сеў за кампутар. Пачаў праглядаць у інтэрнэце навіны за дзень, знаёміцца з матэрыяламі, на якіх раней зрабіў закладкі, і неўпрыкмет, нібыта мімаходзь, пашырыў свой пошук на яшчэ адну тэму – ну так, што ты зробіш, не ўтрымаўся, пачаў пакрысе аглядаць сайты фірм па вырабе кухоннага посуду.

І патрэбныя матэрыялы надзіва хутка адшукаліся. Прытым багата ілюстраваныя: Мікола, а неўзабаве і Вольга, якая падышла да кампутара, адразу пазналі на фотаздымках нахабна “падораныя” ім хлюстам каструлі і патэльні, ну і, натуральна, блішчасты, як бляшня на шчупакоў, чамаданчык з нажамі і відэльцамі. Відарысы посуду, здавалася, віталі сужэнцаў лёгкасцю свайго пазнавання і ўсё адно як падміргвалі і на фотаздымках не страчаным ззяннем. Сужэнцам, каб жа было гэта можна, захацелася зрабіць хоць які знак у адказ ні ў чым не вінаватым рэчам... І гэта быў першы момант на дзень, калі яны трошкі праясніліся жывым, незмаркочаным пачуццём.

Як толькі Мікола яшчэ больш заглыбіўся ў інтэрнэт-росшукі, дык

натрапіў і на адмысловы чат, на якім дзясяткі людзей абмяркоўвалі свае прыгоды з набыццём такога самага посуду.

І небарака дужа здзівіўся: шмат пакупнікоў сваёй наіўнасцю і даверлівасцю былі дужа падобныя да іх з Вольгай, а ўвішныя "каміваяжоры" – да сённяшняга гіпнатызёрыстага прыхадня. Многія з іх, дарэчы, таксама праводзілі паспяховую "прэзентацыю" менавіта цэптараўскага посуду, на якой усё раскупілі, толькі адзін камплект застаўся, не везці ж яго дамоў... Ну і далей па сцэнарыі.

Якраз наяўнасць скразнога сцэнарыя і агаломшыла Міколу. "Выходзіць, не толькі я, а ўсе, праз ашуканства зацікаўленыя ў набыцці сумнеўнага посуду людзі, – усяго толькі няўцямныя акцёрыкі-статысты ў загадзя задуманай вулічнай антрэпрызе. Нават тэкст вучыць не трэба, яго падкажуць або сам здагадаешся, што казаць, па ходу дзеі".

Мікола, каб засяродзіцца, зрабіў доўгі глыток кавы, якую яму паслужліва прынесла на стол Вольга, і падоўжыў знаёміцца з матэрыяламі чату.

– А посуд жа і сапраўды сумнеўны! – звярнуўся ён да жонкі. – Вось, людзі асцерагаюцца, ці не шкодны ён для здароўя, немаведама дзе, у якой краіне зроблены, ці не кантрабандны... І ўсе перакананыя, што гэта ўсяго толькі падробка пад вырабы фірмы "Цэптар", вонкавае падабенства кідаецца ў вочы... Дык, выходзіць, і вытворцы, – зноў глынуў кавы Мікола, – не ў апошнюю чаргу працуюць і дзеля шырока распаўсюджанай хлюстамі ў розных краінах спадманнай тэатральнай дзеі па распаўсюджванні тавару! А іх посуд – усяго толькі бутафорскі рыштунак...

Мікола абапёрся на кампутарны стол і зноў задумаўся: "Цікава, а што было раней: сцэнарый па вымантачванні грошай праз спадманны продаж спадманнага посуду ці спярша ўсё ж наладжванне вытворчасці? Або і тое, і другое зарадзіліся адначасова? Хто тады аўтар гэтага сцэнарыя? І якім чынам – няўжо з прадчування? – у яго была ўблытана такая прыватная дэталька, як мае ўзаемаадносіны з Волькай, прытым праз грашовыя дачыненні... Можа, д'ябал затоены ў такіх дэтальках, гэты адвечны сцэнарыст з грашовым разлікам?.." – Мікола ад задавальнення сваімі разважаннямі, якія патроху ўзвышалі яго над прыкрым здарэннем, аж рукі пацёр. І, нарэшце крыху супакоены, пайшоў з жонкай глядзець тэлевізар.

Назаўтра ён нечакана для Вольгі не прыйшоў на абед. Не захацелася дамоў, вырашыў схадзіць з калегамі ў кавярню, даўно ўжо не гаманіў з імі на такім натуральным сходзе.

Падчас нясмачнага, як марскія водарасці, абеду Мікола раптам ні з чога ні з якага прамовіў загадзя падрыхтаваны спіч:

– А вы ведаеце, сябры, – чамусьці трохі ў павучальнай манеры пачаў ён, – мы, славяне, асабліва ўсходнія, вельмі падобныя да... індзейцаў пары адкрыцця Амерыкі... Так, так, не здзіўляйцеся! Сваёй наіўнасцю, прастатой і даверлівасцю ў адносінах да тых, хто прыйшоў з торбай розных звабных рэчаў. Хіба што мы менш, чым індзейцы, ахвочыя да матэрыяльных дарункаў. Іх жа ў дрыжаку кідала, калі толькі ўбачаць шкляныя каралі, адмысловыя нажы, люстэркі, а нам і слова рэкламнага, брэндавага дастаткова, каб спакусіцца, а рэч, якую гэтыя словы прэзентуюць, і ўявіць зусім лёгка. Уяўлялі ж праз павучынне мудрагелістых слоў і нешта зусім неабсяжнае і недасяжнае – рай на зямлі для ўсіх годных людзей, напрыклад.

– Дык а як тады... – хацеў было ўступіць у размову Васіль Хурхулёў з шостай, яшчэ параўнальна нядаўна сакрэтнай лабараторыі ультрагукавых

даследаванняў, але Аркадзь Флют, які сядзеў побач, моцна сціснуў яму руку на стале: маўляў, ціха-ткі, дай чалавеку вымавіць доўга намаўчанае, бачыш жа, як баліць яму...

Васіль, у адрозненне ад Аркадзя, які ўжо колькі гадоў сябраваў з Міколам, мусіць, гэтага не заўважаў.

– А згадайце, як не так даўно з прапановы вучоных мужоў была прынята праграма “500 дзён”. Роўна за чатыры этапы наважваліся перайсці з планавай эканомікі на рынкавую – і без праблем, усе ў шчаслівым супольніцтве і ўсе з тоўстымі кашалькамі ў кішэнях...

Пяцьсот дзён на пераход у лепшы, куды больш шчаслівы свет. Праўда, без англійскіх газонаў. Дзеля іх на тры стагоддзі трэба было б затрымацца. Паводле падання роўна столькі часу патрэбна для іх рэгулярнага падстрыгання, каб газоны тыя набылі адпаведную якасць і гарт! – Мікола каўтнуў кампоту і падоўжыў. – Але так, як было ў нашай вёсцы падчас майго маленства, калі кіёчкам дзверы падпіралі і такім чынам пазначалі, што нікога няма дома, так у тым лепшым свеце ніколі не будзе! Там у памяці, як у шчыльна зашморгнутай на замочак кішэні, да скону дзён трэба будзе насіць англійскае выслоўе сямнадцатага стагоддзя: мой дом – мая крэпасць! І каб прыхадзень каторы ў яе, гэтую крэпасць, – ні нагой! Запомніце: ніхто! – і Мікола пры гэтым з асаблівай пранікнёнасцю агледзеў сваіх калег. – Магу і на англійскай гэтае выслоўе прамовіць, седзячы за кампутарам учора на зубок вывучыў: “My house is my castle”. Вось так!

Калегі Міколы сядзелі як агаломшаныя, нават работнік бухгалтэрыі Юрась Чамчыль, які ў такіх выпадках калі не ўвяжацца ў спрэчку, дык усё адно што не даесць, пачаў моўчкі даставаць з кішэні цыгарэты і выходзіць з-за стала.

– Ага, во-во самая пара перакурыць! – узрадаваўся Аркадзь, падхапіў подручкі Міколу, і яны гулка затупацелі па лесвіцы.

“Нічога не зразумелі, інакш спрачаліся б...” – падумаў Мікола.

Іншы раз, вы не паверыце, добра, калі цябе не разумеюць.

Антаніна Хатэнка



...Ці жывая яшчэ, Айчына?
Ці відзежаю стала ты?...

# Наросхрыст

### *ЛЬНЯНЫ ШЛЯХ*

Ува мне прасціраецца лён
пракаветнае цішы блакітай.
Недзе тут небакрайна пралёг
век, у вены мае пераліты.

Недзе тут адгалоскам журбы
песня продкаў сціхае замглёна,
ахінуўшыся небам, нібы
у расхлістанай памяці лёну.

І гадзіннік, здаецца, заснуў
паняверча на Ратушнай вежы.
Толькі поле бясконцае льну
выкалыхвае з мрой незалежнасць.

У артэрыях выстылых дня
словы, быццам чырвоныя цельцы,
крэўна-крэўна ільняна звіняць,
успамінам цаляючы ў сэрца.

Нада мной прасціраецца лён
абаронча тканкай нябеснай,
абдымаецца з цёплай зямлёй...
І ўратоўвае Волю і Песню.

*19.06.2019*

## ЦІША

Пасярэдзіне свету спыніцца,
закрануўшы плячом Алатыр.
Успружыніцца ў лёт бліскавіцы,
асягнуўшы над прорвай масты.

Слухаць, слухаць – да колкіх трымценняў
дрогкай цішы ўсяленскай уздых
стуль, дзе зоркі блукаюць між ценяў
недагледжаных сноў маладых.

Незнарок зачапіцца за хмару
думкай-згадкай пра колішні час:
неба там калыхалася чарай –
і абрыньвала ў бездані нас.

Там харобра вынырвала поўня
шаравою маланкай з начы.
І здавалася, дрэвы запомняць,
як мы ў вечнасць даверна маўчым.

...Ці дажджынкі ці слёзы шапочуць
у далонях – у чоўнах жыцця?..
Абдыму Алатыр па-сірочы
на краёчку, скуль вёсны ляцяць.

*14.05.2018*

## У АБЛОКАХ

Як затрымацца на зямлі,
калі плыве ладдзя аблокаў
адсюль, дзе мары адцвілі, –
у абяцальную далёкасць?

Плыве туды, за небакрай,
па-над сумневамі і сумам,
адкуль чуцён птушыны грай,
скуль выпрадае бытнасць думы.

Як не зманіцца, не ўзляцець?
Між дрэў вясёлка, як арэлі.
А шчасце дыхае ледзь-ледзь,
што мы з табой адчайна грэлі.

А дні мільгаюць, як агні,
і патанаюць апраметна
там, дзе ўпадзе аджыласць згніць,
дарэшты страціўшы прыкметы.

Ды пад вакном віхурыць бэз.
У далеч – ветразі фіранак.
І я тулюся да цябе,
пакуль пунсова ўсходзіць ранак.

А сэрцы тахкаюць “люблю”,
а рукі ўскрыльваюць “кахаю”.
Мяне з табою і зямлю
ладдзя аблокаў калыхае.

*28.05.2017*

### УЗЫХОД

Заплывала ў вокны памяць.
З волі й зморы. З вышы й дна.
Прасціралася над намі
плашчаніцаю радна.

...І ўзышло вакно ў нябёсы,
пазбіраўшы боль і сум.
І ступіў світанак боса
на сцюдзёную расу.

Так ступае ў водсвет памяць –
па халодным гладкім шкле.
Набалелымі нагамі
патрапляе ў нечы след.

З падваконня, быццам з мосту
(ці то з вечнасці, ці скуль?..),
крылы ўскінуўшы наросхрыст,
увайшла яна ў раку.

У раку цяпла й любові,
смутку й жалю, мар і сноў,
дзе гуляе водгул слова,
скуль святлее ў свет вакно.

Бела-бела плыня лёсу,
як на покуці ручнік,
гаварыла безгалоса
да прыпалай светлыні.

Ды фіранкі, як арэлі,
памяць з ветрам узняслі.
Толькі ўслед знічы гарэлі,
нібы ў лёце матылі...

*02.07.2018*

## ***КОН***

Больш не трэба ўглядацца, прыжмурыўшы вочы,
утрапёна з цянёт прыклікаць.
Я пазнаю твой голас, пачуўшы аднойчы,
хоць сцішэлы, зблуканы ў вяках.

Я пазнаю твой шэпт у харалах літанняў
і дыханне тваё ў немаце.
І тады... І тады маё сэрца адтане:
як жа знекуль ты доўга ляцеў!

Як жа доўга было тут халодна-халодна –
нават вусны балюча расцяць.
Аніводнай заранкі, квяціны ніводнай –
толькі цёмны, як згуба, прасцяг...

А не трэба ў сустрэчы ні слоў, ні абдоймаў,
ні заклёнаў, ні поціску рук.
Як журкоча мой голас у свеце паўсонным:
я праменнем з табой гавару.

Я пачула анёльскіх шалоханне крылаў
над маркотнай дарогай начы.
І пакуль я з табой з ніадкуль гаварыла,
расхінулася сноў далячынь.

...Мы знайшліся з табой.
Не маўчы.
Не маўчы.

*19.09.2018*

## *ВАЛЬС ДАЖДЖУ*

*(слухаючы Шапэна)*

Я сыходжу ў дажджы.
У тумане знікаю.
І скажы, і скажы,
хто была я такая.

Ці хмурынка імжы
ці расіны зіхотка...
Калыхаюць дажджы
шэптаў цёплыя лодкі.

Я злятаю ў дажджы
з разгайданае кроны.
Сум лісцінай дрыжыць
над пустэльным пéронам.

Над перонам надзей,
над прыстанкам адчаю
дождж, як доля, ідзе:
сцеражэ й прывячае.

Не шукаюць дажджы
ні вакзалаў, ні станцый.
Лёгка любяць кружыць
развітальныя танцы.

Я знікаю ў дажджы.
Растаю ў небакраі.
Шлях далёкі ляжыць.
Дождж Шапэна мне грае.

*17.09.2018*

## *ВЫГНАННЕ*

*(па вяртанні з дарог Лесі Украінкі)*

Ты чакала мяне, Айчына,
стуль, дзе воля, як дзікі птах,
з ледзь расплюшчанымі вачыма,
рвецца ў роспач: паўстаць!.. світаць!?

Але дзе ж табе знаць, Айчына,
памяць водзячы нацянькі,
як затоеная ў лучыне
яскра ўспыхвае з-пад рукі,

як загубы і боль рашчынна
волю ўзрошчваюць з цемраты...
Ці жывая яшчэ, Айчына?
Ці відзежаю стала ты?

Мы чужыя табе, Айчына.
Ані пекла тут, ані рай.
Хоць маліся, крычы, маўчы мы –
паглынае Ўсё сон-дзіра.

На мяжы з табой, ноч-Айчына,
пастрывожаныя клады.
Стуль, дзе Воля нас прылучыла,
больш не вернемся мы сюды...

*10.09.2018*

### *У ДАРОЗЕ*

Слова дрыжала, дрыжала, дрыжала
празрыста.
Трымцела
на вуснах.
Нібы на вейчыне пудкай
перад упадам
адчайна
слязіна.
Гэтак і я з бераг-жалю, як з джала,
з вятрыскам
паўценем
сарвуся.
Німбы над вечнасцю гутаць,
да зарападу
прычаліць –
і згінуць.

Слова з прадоння, з прадоння,
з прадоння,
здалёку,
з туману
пазнання,
кроплінай памяці цёмнай
світанна
зляцела...
мне ў вусны.
Гэтак і я на сутонні
з ядомлі бяздомнай

і золкай,
падманнай
дазвання,
строма ўзбяруся над стомай,
у ранах
на целе... –
Дадому вярнуся.

*25.08.2018*

## ***ПРОДЧУНЬ***

Мы развітаемся моўчкі,
век мой-пустэльга,
там, дзе сцяліся па-воўчы
трэба і нельга –
у ланцугох абавязкаў
і забаронаў.
Там, дзе ссыпаецца ляскат
з трону ў пячоры.

Заўтра парадна настане:
пошчак – у скронях.
Але ж якое расстанне
споўніцца сёння!
Ані прамоў, ані горнаў,
змоў ці паразы!
Збродна збяруцца да трону
зграйнікі разам.

Будуць хмялёва ліслівіць –
шыі навысцяг –
там, дзе шчасліва зласлівец
душы ім выцяў.
З гэтых пячор, як з нябыту, –
ані сцяжыны.
Жменька імёнаў забытых,
гоман чужынны.

Зеўраюць дні, як варонкі,
злосныя знашча.
Гронак і зор незваротнасць.
Холад лядашчы.
Водмель. Бермудскі трохкутнік.
Траская багна.
Згон праметэяў прыкутых,
цемрыкаў прагных.

Залататронна, прыгонна –
па-надпячорна
нечысць выгульвае ў гонях
змоўнікаў чорных.

...Ноч разадзьму, быццам горан.
Выкую золак.
Сонца на дзедава ўзгор'е
ўзвершыцца з долу.

*16.08.2018*

## *НЕЗВАРОТНАЕ*

Чужы пасад. Забыты сад.
У голлі месяц завісаў,
нібыта ў ветру ў валасах.
Знічы ці яблыкі ў траве?
Тут заблукаў загубны век
у плыўкім прывідным сяйве.
У цішыні, як мёд, густой,
па-над карункамі мастоў,
па-над лятункамі лістоў,
што жыцці зводзілі ў адно,
рвучы й знітоўваючы зноў
у радаводу палатно,
счапіўшы думкі, мы з табой
перасягаем сум і боль –
і адлякоўваем Любоў.
Каб стала цёпла галасам
вяртацца ў той самотны сад,
дзе ў голлі месяц завісаў.
На той прароднены пасад
дзе спелі мроі ў верасах
і ў вечнасць вечар загасаў...

*23.07.2018*

## *ДЗІРВАН*

Кроплінай з Нябеснае ракі –
Бог маргнуў – скацілася слязіна
ў кругадзён бяспомныя пяскі,
у чакання сцятае міжзім'я.

Непрагляднай пусткай забыцця
месяц прабіраецца, як злодзей.

Зоркі памінальныя мігцяць
і аблокі схаладала ходзяць.

Ды відушча з цемрыва гадоў
ветах узіраецца мне ў вокны.
Расцярэбіць зжухлае гняздо –
і падранкам па-за светам змоўкне.

Уздыхне, як мніх каханню ўслед,
досвіткам струхнелым на гарышчы
ў дзірваны па плечы ўрослы дзед,
што з расшчэпы атамнай не выйшаў.

Дзе гасцінец, дзе гушчар густы –
тут нядоля і нябыт зблудзілі.
А з нябёсаў воблікі святых –
спалатнелай дзедавай радзіны.

І маўчаць распята дзед і сад.
І стаіўся час, напяўшы жылы,
дзе ўсяму зімець і загасаць,
чым яны калісьці даражылі...

*27.04.2018*

### ЧАКАННЕ

Нідзе ніхто ніколі і ні з кім
не поўз так доўга, доўга, доўга
мёртвым полем,
дзе скразнякі скуголяць, як ваўкі,
а людзі змоўклі. Не галосяць болей.

А людзі, людзі, людзі...
як быллё,
самім сабе схмялела засцяць вочы.
Якой магуты род змірэнча злёг,
да кропліны сцякаючы ў падсочку!
Ніхто ж ніколі тут і больш нідзе
не наракаў так соладка на долю,
што ўсё вядзе, вядзе, вядзе,
вядзе
праз хмызнякі ў сляды на мёртвым полі.

А ў полі тым хаваюць быльнягі
прарослую з-пад памяці валошку,
варожачы: “не згінь... не згінь...
не згінь...”,

збіраючы святла хоць трошку.
Трошку...
Хоць каліва, хоць жменьку, хоць прамень
у цемрадзі збіраючы любові...
Хто тое поле мёртвае міне,
падайце голас акрыялы й мне –
і ўзыдзе слова, слова, слова.
Слова...

*16.05.2018*

### *СУСТРЭЧА*

У сутонні мярэжлівым ценем
страпянецца галінка ў вакне.
А ў спляценнях – зіхценне, зіхценне:
Нехта просіцца ў дом да мяне.

Нехта цёплы, даверлівы, ясны,
ціхі-ціхі, як шэпты лісця.
Можа, золак, сцямнелы дачасна?
Ці зблукалая радасць жыцця?

Але як мне вярнуць таму золку
расплясканую ўпырск яснату?
Смутна звялі гаючыя зёлкі,
пакуль Нехта абвесціўся тут.

Сціхла мятлушка на падваконні,
сцяўшы крылцы ў самотны замок.
А з накрэсленых ценяў сутоння
Нехта просіцца жальна дамоў.

Схамянуся ў паўсонным зіхценні,
чужаніца й шчымліва свая:
сумны Нехта, заблуджаны ў ценях, –
гэта я? Гэта – я? Гэта – я.

*30.05.2018*

дэбют

Дар'я Значонак



...прыгавор
прывесці ў выкананне
неадкладна...

# У ноч на сямнаццатага ліпеня

***Апавяданне***

*Палонным, якія сто адзін год таму спусціліся ў Іпацьеўскі падвал*

– Дзе ты быў?

"Сёння! Ноччу! Гэта здарыцца ноччу!" – скавытаў ускалмачаны спаніэль, дрыжучы на парозе пакоя.

– Дзе ты бадзяўся, дурненькі? Мы з ног збіліся! – прашчабятала Настасся, узяўшыся абіраць з густой каштанавай поўсці травінкі. – Гэй, дзяўчаты, глядзіце! Знай-шоў-ся!

Рукі, рукі і рукі – мяккія, цёплыя, ласкальныя. Гэта абкружылі яго старэйшыя Настассіны сёстры.

– А хто гэта ў нас так любіць уцякаць? – Маша лагодна пачухвала яго за вухам. – Ну й храбрэц: ранкам хоць бы што, а сцямнее – вунь, трасецца як асінавы ліст!

Побач зацяўкаў чорна-рудзенькі Джымі, піхнуў носам у кудлаты бок, захоплена віляючы хвастом. "Ну што, ну як там, на двары? Нюхнуў волі – дык хоць бы расказаў! Але што ж ты такі дзіўны, братка?"

Спаніэль толькі ціхенька скуголіў, жаласна зазіраючы дзяўчатам у вочы. "Гэта ўжо ноччу, сёння ноччу, разумееце?"

Ён бачыў. Бачыў, як па-змоўніцку перамігваюцца ахоўнікі, як, спяшаючыся, пераходзіць ад паста да паста камендант. Чуў бразганне зброі, якую крадком перадавалі адзін аднаму. "Ноччу!" – шапацела з кожнага кута...

– А яны ж і не ведаюць! – пляснула рукамі Настасся і памчалася да дзвярнога праёма ў сумежны пакой. – Мама́, Алёша! Джой вярнуўся!

– Цішэй ты, гарэза, твой брат толькі-толькі заснуў...

– Не сплю я зусім! Джой, да мяне!

Спаніэль страпянуўся, павёў вушамі – і кінуўся на голас, ухіліўшыся ад Машынай рукі. Вось ён дакладна сцяміць! Так, ён проста павінен здагадацца!

– Ідзі сюды, – Алёша нецярпліва прыўзняўся на сенніку, які замяняў яму ложак. Ложкаў увогуле не меў у гэтым доме ніхто, акрамя аховы. – Давай жа, сюды!

Джой з віскатам тыцнуўся носам у яго далоні. "Тут небяспечна, пойдзем... Нельга заставацца, чуеш?"

– Што, напужаўся, старэча? А ну кладзіся блізенька, вось тут. Разам і паспім, ага?

Мама́ падняла галаву ад вязання:

– Аляксей! Джой усё-такі не пакаёвы сабачка. І не выключаю, што ён ізноў рыўся ў той агіднай памыйнай яме.

– Няхай сабе рыецца! Яму ж дазволена бегаць дзе заўгодна, не тое што нам.

Апошнюю фразу Мама́ прапусціла міма вушэй.

– Не думаю, што доктару гэта спадабаецца. І што скажа бацька?

– Скажа, што свайго сабаку трэба даглядаць. Ды паглядзі, як яго калоціць! Спакойна, Джой. Ну – ляжаць!

"Не, хадзем, хадзем адсюль!" – сабака ўхапіў яго за рукаў, пацягнуў...

– Джой, нельга! – рэзка прыкрыкнула Мама́.

Ён адскочыў, падняўшы поўсць на загрыўку, – больш ад нечаканасці, чым ад страху.

– Яшчэ адна падобная выхадка – і пойдзеш вон з пакоя, ясна табе?!

Ух, якія злосныя вочы, так бы і цапнулі! Але ён жа не бязглузды барбос, ён за самы кончык тканіны ўзяўся...

– Джой больш не будзе, праўда! Хай застанецца... Кладзіся зараз жа!

Усхвалявана пераступіўшы з лапы на лапу, сабака неахвотна скруціўся ў клубок ля самага сенніка. Алёша ашчаперыў яго за шыю і зашаптаў у калматае вуха:

– Не рабі так больш, добра? Мне ж ніяк нельга... І дарма ты швэндаешся сярод *гэтых*, так і прыстрэляць аднойчы. Яны ж на ўсіх нас глядзяць як на мярзоту!

Джой заскуголіў, драпаючы кіпцюрамі падлогу.

– Цс-с-с! Станеш шумець – праўда прагоніць! Спі давай. І будзь пасцярожней...

...Гулкія імклівыя крокі каменданта – і Джой імгненна падхапіўся, пацягнуў носам паветра. Няўжо небяспека, тая самая? Але ж не, тое за сценкай, тое ў пакоі доктара, а тут, у змроку, толькі чуваць спакойнае дыханне спячых.

– Чаму раптам пасярод ночы? Здарылася што? – прыглушаны неўразумелы голас.

– У горадзе трывожна. Белыя наступаюць, асабняк можа аказацца пад абстрэлам. Вам небяспечна заставацца на другім паверсе. Будзіце ўсіх зараз жа, і няхай збіраюцца!

– Толькі сям'ю будзіць? Але слугам...

– Я сказаў – усіх! І самі спускайцеся. Так, яшчэ: браць з сабой нічога не трэба, гэта лішняе. Галоўнае – паспяшайцеся!

Вось чуецца ў калідоры знаёмая цяжкаватая хада доктара. Крокі ўсё бліжэй, бліжэй... Паніка нарастае і ўсё больш прыгінае Джоя да падлогі. І – аглушальней за грукат грому – пачцівы стук у дзверы:

– Прашу прабачэння...

Падчас збораў Джой так мітусіўся пад нагамі, што прымудрыўся скінуць адзін з абразкоў Мама́ і быў выдвараны ў пакой дзяўчат. Але і тут яго трывозе не надалі аніякага значэння, хіба што бледная ад недасыпання Вольга, старэйшая з сясцёр, лёгенька патрапала яго па спіне, пераходзячы да вакна. (Зрэшты, разгледзець за ім магчыма было толькі вузенькую палоску цёмнага неба: увесь агляд закрываў высачэзны, ледзь не па самы дах, штыкетнік, узведзены ў два шэрагі.)

– Між іншым, дзесьці непадалёк ракоча матор, – напаўголасу сказала Вольга. – Нібыта грузавік... Вось бы нас урэшце вывезлі адсюль!

– На ўсё Божая воля, – уздыхнула Таццяна, гладзячы цёмную паласатую бульдожку Арціпу, якая мірна сапла на краечку яе пасцелі.

– Хто як хоча, а я апранаю дарожную сукенку! І сякія-такія рэчы не зашкодзіць прыхапіць... – Настасся рашуча корпалася ў сумачцы. – Чаго, уласна кажучы, і вам раю.

З сумежнага пакоя даляцеў бацькоўскі голас:

– Дзяўчаты, не бярыце шмат, добра? Нас прасілі быць улегцы.

Настасся хіхікнула ў кулак:

– Б'юся аб заклад, татачку толькі ў радасць, што нашы валасы год як зачыненыя ў чамаданах. Ну й марока з доўгімі, га? Да ранку можна валэндацца.

Таццяна дакорліва пахістала галавой:

– Ты, значыць, і на адзёр не супраць захварэць нанова? А ну збірайся! Так і насамрэч выйдзем не раней за світанне.

– Я дык збяруся, а вось калі ты забудзеш Арціпа, сама ж за ім і пабяжыш. Я адхрышчваюся адразу, у мяне Джымі!

– Нашто яго браць? Хай сабе адпачывае, усё роўна не дужа верыцца, што мы з'язджаем. Цішэй, Джой! Каго-каго, а цябе Алёша дакладна не пакіне...

...Рассохлая драўляная лесвіца, што вяла на першы паверх, суправаджала працэсію маркотным парыпваннем.

– Воля, падай руку, будзь ласкавая... – Мама́ асцярожна спускалася, падабраўшы спадніцы. – Нікі, толькі акуратней з ім, добра?

Джой, які ні на крок не адставаў ад Папа́, задраў галаву і заклапочана намацаў позіркам Алёшу, якога той нёс на руках. Што за напасць: варта хлопчыку зусім крышачку ўдарыцца – і ён ізноў на доўгія месяцы апынаецца ў ложку, а затым і ў крэсле-каталцы. Бездапаможны, як сляпы шчанюк, далібог. У лядашчага Джымі доля і то зайздросней – вунь, радасна вылуплівае вочы, заціснуты пад пахай у Настассі, якая спускаецца адной з апошніх, разам з пакаёўкай, камердынерам і кухарам.

Анфілада паўпадвальных пакояў ніжняга паверха прывяла ў апошні – з забітымі дошкамі дзвярыма проці ўвахода і цьмянай лямпачкай пад столлю.

– Дык, значыць, мы зусім і не з’язджаем? – расчаравана працягнула Настасся.

Мама́, якая ўсё яшчэ абапіралася на руку старэйшай дачкі, абвяла здзіўленым позіркам выцвілыя паласатыя шпалеры і закратаванае вакно.

– Але ж... тут зусім пуста, – прамармытала яна. – Раз нам прыйдзецца правесці тут некаторы час, ці нельга хаця б унесці крэслы? Алёша не можа стаяць.

Адзін з ахоўнікаў крыва ўхмыльнуўся, але не паспеў і рот адкрыць, як другі злосна штурхануў яго да дзвярэй:

– Што выскаляешся? Марш па крэслы для Аляксея Мікалаіча і Аляксандры Фёдараўны! – І паабяцаў пахмурна: – Шчас усё будзе...

Уладкавалася на сядзенні Мама́, падклаўшы для зручнасці падушачку, ззаду сталі дзяўчаты і слугі. Джой скурчыўся ля крэсла Алёшы і падазрона гырчаў на ахову, якая тоўпілася ў дзвярах.

Камендант памарудзіў, чакаючы, пакуль змоўкне дзявочае шушуканне. Урэшце дастаў з нагруднай кішэні паперчыну, складзеную ў чатыры столкі, акуратна разгарнуў – і загаварыў, чаканячы словы, быццам забіваў цвікі.

– Выконваючы волю рэвалюцыі, прэзідыум Уральскага абласнога Савета рабочых, сялянскіх і армейскіх дэпутатаў пастанавіў: Мікалай Аляксандравіч Раманаў, жонка яго Аляксандра Фёдараўна, дочкі Вольга, Таццяна, Марыя і Анастасія, сын Аляксей, а таксама чацвёра слуг прыгаворваюцца да смяротнага пакарання праз расстрэл. Прыгавор прывесці ў выкананне неадкладна.

Ахнула і заціснула рот Маша, хутка перахрысціліся Мама́ і Таццяна.

– Рыхтуйся! Цэлься!

Ахоўнікі ўскінулі сваю разнастайную зброю.

– Жыццё ваша скончана, – сказаў камендант і ўзняў маўзер.

Збялелы Папа́ зрабіў крок наперад:

– Але што...

– Агонь!

У падвале грымнула, і аглушаны Джой толькі і здолеў, што зашыцца пад крэсла Алёшы. Звалены першымі стрэламі, упаў дагары Папа́; нязграбна асела Вольга, чапляючыся за спінку матчынага крэсла; Джымі апынуўся на падлозе і з пранізлівым цяўканнем забегаў кругамі, прыпадаючы на пярэднюю лапу. З пакоя над імі адказала яму надрыўным выццём бульдожка Арціпа, якая прачнулася ад страляніны.

У парахавым дыме нечая стройная фігура кінулася, прыгінаючыся, убок. Новы залп – фігура нібы наляцела на перашкоду і рухнула сярод цел, раскінуўшы рукі. Куля выбіла вапну са скляпеністай столі, жыкнула ля галавы каменданта і працяла дзвярную створку.

– Стоп! Спыніць агонь! – гаркнуў ён. – Сцены каменныя, мы так адзін аднаго пастраляем!

А ў падвал, цяжка дыхаючы, уваліўся вартавы:

– Заткніце сабак! У Горным інстытуце ва ўсіх вокнах запалілася святло, і стрэлы добра чуваць звонку, і...

Застагнала на падлозе Таццяна, пакаёўка сутаргава закашлялася і прыўзнялася на локці. Настасся, якая паўсядзела ў куце, з намаганнем адняла галаву ад сцяны:

– Ну і хай чуваць, хай... Сюды прыйдуць, арыштуюць... Так вам, падлюгі! – І знянацку паспрабавала ўстаць, няцвёрда абапёршыся на калена.

Выпушчаная кімсьці куля дзінькнула, адляцела рыкашэтам і наглуха засела ў вушаку вакна. Настасся хіснулася, але не ўпала.

– Так вам... – хрыпла паўтарыла яна.

– Ды з чаго ў дзевак карсажы, чорт падзяры?!

У ход пайшоў штык, прымкнуты да вінтоўкі, і Настасся з прыдушаным выдыхам спаўзла па сцяне. Ахоўнік выспяткам адшпурнуў Джымі, які ўчапіўся быў у калашыну, схіліўся над целам і прысвіснуў:

– У ёй жа брыльянтаў у апратку ўшыта – ніводная куля не возьме! Відаць, і ў астатніх гэтак...

– Хто будзе марадзёрстваваць – самога да сценкі пастаўлю, – адрэзаў камендант. – Праверыць усіх, жывых – прыстрэліць. У галаву!

Варухнуўся на крэсле Алёша; Джой, апрытомнеўшы ад здранцвення, пацяху выпаўз вонкі і крануў носам павіслую руку. Кроў... ой, колькі крыві! Мусіць, цяпер гаспадару і зусім не ўстаць з пасцелі!

– Бягі, старэча. Бягі... – прашамацеў бясколерны голас.

Над самым вухам бахнула – раз, другі! – і Алёша цяжка саслізнуў з крэсла. Джой адскочыў, ступіў у лужынку ля цела доктара, шарахнуўся ў іншы бок... Над ім ускінуўся штык, і ён, ашалелы ад паху крыві і пораху, агаліў іклы, прыпаў да падлогі. Рыканне захрыпела ў ягоным горле, але сарвалася на жаласнае скавытанне і ўрэшце перарвалася. Падціснуўшы хвост, ён падаўся назад, да сцяны.

Змоўкла наверсе Арціпа, і ў жудаснай цішыні стала чуваць дзелавітае тарахценне грузавіка за вакном.

Камендант схаваў у кабуру маўзер і змерыў сабаку дапытлівым позіркам.

– Не чапай яго. Бач, маўчыць, разумее. Не чапай.

Прымружыўшыся, ён агледзеў нерухомыя целы на падлозе, запырсканыя шпалеры скрозь у дзірках ад куль, маўклівую расстрэльную каманду... І нечакана раз'ятрыўся:

– Што ўсталі?! Трупы вынесці, падлогу і сцены адшураваць, і каб да бляску! Хоць каплю крыві заўважу, хоць адзіную кулю знайду – прышыю асабіста!

...На пяты дзень Джой саслабеў настолькі, што не ўзняў з ганку і галавы, калі на парозе апусцелага дома, зладзеявата азіраючыся, з'явіўся нейкі плячысты барадач. За сабою ён з бразгатам цягнуў агромністы клунак.

– Усё пільнуеш? Ну й дарма: не дачакаешся гаспадароў-та. А ходзь са мной, жывёлка. Ф'ю-ф'ю, да мяне! Як цябе – Джэк?

Сабака заміргаў слязістымі вачамі і недаверліва павёў носам. Пахла ад новапрыбылага зусім як ад ахоўнікаў, але з яго клунка даносіўся найлепшы ў свеце водар, які сплятаўся з пахаў тых, хто так нядаўна быў побач.

Джой вільнуў хвастом, узняўся на дрыжачыя лапы і пакрысе, крок за крокам пабрыў услед за незнаёмцам. Пакінуты дом раставаў у пагусцелым прыцемку.

**Ад аўтара**

*Расстрэл царскай сям'і ў ноч з 16 на 17 ліпеня 1918 года ўзноўлены па дробных дэталях, але можа адрозніваца ад рэчаіснасці.*

*Джой, спаніэль цэсарэвіча Аляксея, – адзіны палонны Дома асаблівага прызначэння (дома Іпацьева), які застаўся жывы. Праз тыдзень пасля расстрэлу белыя ўзялі Екацярынбург. Палкоўнік Павел Радзянка, які ведаў царскую сям'ю, заўважыў сабаку ў ахоўніка Міхала Ляцеміна, у кватэры якога падчас расследавання былі знойдзеныя і многія асабістыя рэчы забітых. Радзянка адвёз Джоя ў Англію і перадаў сям'і караля Георга V, стрыечнага брата Мікалая II (па іншай версіі – даў прытулак ва ўласным маёнтку). Рэшту сваіх дзён Джой правёў у новага гаспадара і быў пахаваны ў Віндзарскім парку.*

## Георг Гайм



...Рашыцца лёс у гэтай крутаверці:
Адпор свабодных стрэнуць супастаты.
Не бойцеся і ў перамогу верце!..

# Марафон

*I*

Сыходзяць дзесяць тысяч з гор у дол –
Краса Элады, што ў крыві патоне.
Шыхты ідуць у ранішнім сутонні
І меддзю разліваюцца вакол.

Над імі – спевы ранішніх назол:
Кагорты жаўрукоў ім цвеляць душы –
Вясёлай песняй напаўняюць вушы,
То імкнучыся ўвысь, то зноў у дол.

Яшчэ дрымота свет не адпусціла,
Яшчэ ад сну не адышлі вятры,
Яшчэ ў Аўроры – і краса, і сіла,

Ды на Эўбеі – першы знак зары:
Выходзіць з мора соннае свяціла.
Наперадзе – бясконцыя шатры.

*Пераклад*
*з нямецкай*
*Ганны ЯНКУТА.*

***II***

Бурэе прыбярэжжа ад шатроў,
Што саранчой паселі на раўніне,
Куды ні глянь – судзіна на судзіне,
Вялізны флот узмор'е прапароў.

Чуваць ражкоў, рагоў і дудак роў,
І бліскае вайсковае начынне,
І вораг у атаку зараз рыне –
Ашчэрыўся абшар і стыне кроў.

Да ўладара падведзены вярблюд.
Чуваць, як у шатры сатрапа нема
Крычаць пра штосьці еўнухі з гарэма.

Усё гатова: царскі сімвал тут,
Вакол тыяры з чорнай скуры, шлемы,
А з брамы плынню выцякае люд.

***III***

У цэнтры – барадатых персаў хвалі,
Пры кожным – доўгі лук, кароткі меч,
Яны калісьці Кроза гналі прэч
І між пустынь Егіпта ваявалі.

Лівійцы на вярблюдах – ім падмога,
Трывалыя цяцівы іх – са сталі.
Тут скіфы, што касіц панаплятталі,
Такіх кароткіх стрэл няма ні ў кога.

Суданцы крочаць чорнаю сцяной,
Іх рыканне агідна рэжа слых,
І вавілонцы, што малююць хной

На лбах узоры з кропак і крывых,
А пугі, зладжана адна з адной,
Па спінах б'юць – звярыных і людскіх.

***IV***

Фракійская з шатроў выходзіць раць,
Што Лібера ўсхваляе і Прыяпа,
Наперад крочыць конніца сатрапа,
Рыхтуюцца сярпы ўраджай збіраць.

Бактрыйскі рог на тую сенажаць
Заве сланоў – і ёсць загад індусам
Іх з брамы гнаць шыпамі і прымусам:
Пагоншчыкі гатовы выязджаць.

А вось радосцы: грукаюць мячы,
Ствараючы вакол страшэнны галас,
На іх шчытах гарыць выява Феба.

За імі – крыцкія майстры прашчы,
Лампсакцы, у якіх на шлеме – фалас,
І грэкі, што чужога прагнуць хлеба.

***V***

Багацце ўсходу. Оргія раскошы.
Марскія хвалі плюхаюць на мелі
У чырвані, і золаце, і белі
Брані, адзення, коней, іхняй ношы.

Бясконцы крык. У войску – балаган,
Нібы раве табун – галодны, дзікі.
Мацнеюць зыкі і слабеюць зыкі,
Над зборышчам людзей, як ураган.

Равуць жывёлы, чуючы трывогу.
Жрацы, Кібеліны ўсхваліўшы грудзі,
Па кішках прадракаюць перамогу.

Уладцы скачуць, іх вітаюць людзі,
Упаўшы ніц на пыльную дарогу,
Каб іх сляды пацалаваць у брудзе.

***VI***

Адданыя прыроднай дысцыпліне,
Ідуць на поле бою афіняне,
Нібы на рынг, – на лютае змаганне,
І грук сандаляў чуецца ў даліне.

Вялікіх дэмакратый годны чын
І будучыню, што за вамі прыйдзе,
Да мора несяце цяпер на дзідзе –
Гармонію народаў і краін.

Рашыцца лёс у гэтай крутаверці:
Адпор свабодных стрэнуць супастаты.
Не бойцеся і ў перамогу верце!

Ганцы свабоды, гэты бой пачаты!
Навекі вы здабудзеце бяссмерце,
Увечары свае злічыўшы страты.

*VII*

Ад стрэл чарнее небасхіл празрысты,
Няма жывога месца на брані.
Шпурляюць катапульты камяні,
Рыпяць вінтамі моцныя балісты.

Сышліся войскі: шум і каламуць,
Адно ў адно ўпіліся па-сабачы,
А смерць святкуе і ў шарэнгах скача,
Што кіпцюрамі ворага дзяруць.

Чароды серпаносных калясніц
Раскідваюць людзей, калечаць целы,
І кроў фантанам пырскае з-пад спіц.

Сланоў у гушчу бітвы скіравалі:
Яны равуць ад болю звар'яцела
І ўсё вытоптваюць у дзікім шале.

*VIII*

У цэнтры грэцкіх войскаў – сумятня,
Сярэдзіна здае і адступае:
Адольвае лавіна іх сляпая,
Таранам б'е чужынская гайня.

Не ўбачыць многім заўтрашняга дня,
Адзін без шлема, з голай галавой
Вось-вось падзе пад цяжкай булавой,
А ў іншага прабітая браня.

Зламаць рады ўдалося эфіопам,
Са спін сланоў ліюцца агняпады
І скіфы набліжаюцца галопам.

Як прабіваецца праз гаць вада,
Так разрывае грэцкія атрады
Магутная чужынская арда.

*IX*

Але няхай! Арлом расправіць крылы
Падмога – чутны крок яе чаканы.

Ужо гучаць бадзёрыя пеаны,
І звонкі спеў вяртае грэкам сілы.

Чарговая ўсчалася куламеса:
Ляцяць у бок чужынцаў стрэлы Феба,
Глыбіні мора, і зямлю, і неба
Пранізвае магутны крык Арэса.

Ільвіная яго вянчае грыва,
Сячэ ягоны меч усё шырэй –
І персы адступаюць баязліва:

Нібы да караблёў іх здзьмуў барэй.
Разгортваецца жудаснае жніва –
Цяпер Арэс вядзе на полі рэй.

***X***

Гарачы поўдзень над зямлёй уздыме
Атрутны чад, нібы густыя хмары,
Што, як туман, ахуталі абшары –
І сонцу не прабіцца ў курадыме.

Смярдзіць крывёй, гніллём з усіх бакоў,
І змучаныя смагаю вар'яты
Паўзуць туды, дзе бой ідзе зацяты,
Абы крыві напіцца з мерцвякоў.

Сустрэўся элін з ворагам у пыле.
Параненыя ў грудзі і ў жывот,
Яны ў змаганне зараз жа ўступілі,

І эліна адолеў вораг люты.
Ён разануў нябожчыка па жыле
І наталіў крывёй свае пакуты.

***XI***

Ды не пазбег і ён такой жа долі –
Яго ў ахвяру ўзяў жахлівы кон.
Нагадвае іх смерць салодкі сон,
Што двух каханкаў паланіў на полі.

Пакрыты каршакамі ўвесь адхон:
Яны са скал сваёй чакаюць долі:
Бо неўзабаве будзе ім раздолле.
Не здасць пасты птушыны гарнізон.

Як толькі нехта на арэну рыне,
Ляцяць чароды іншых наўзамен –
Ад іх ужо аж чорна на раўніне.

Яны імчаць з Усходу на абед.
Прывабілі сюды іх кроў і тлен,
Заўсёднікаў застрашлівых бясед.

***XII***

Вось персы спачываюць убаку
І думаюць: за імі – перамога,
Бо перад імі больш няма нікога:
Іх вораг паў, іх вораг – у пяску.

Расхаджваюць мурыны ваяўніча
І адсякаюць рукі мерцвякам.
Наўкол пануюць лаянка і гам:
Без бойкі не падзеліцца здабыча.

Фракійцы, зняўшы з амфараў пячаткі,
Буркочуць штосьці аб чужых наймітах.
Ад шпораў скіфы вызваляюць пяткі.

Жуюць траву знямоглыя сланы,
І спальваюць наёмнікі забітых,
Каб у Гадэс маглі сысці яны.

***XIII***

Аднак узняў дазорца раптам шум,
Прыбегшы ў лагер: “Гэй, пад’ём! Да зброі!”
Імчыцца да наступнага ён строю,
На бітву завучы зляканы тлум.
Устаўшы, ваяры глядзяць у даль
І прыкладаюць рукі да вачэй,
Ды вогнішчы гараць усё зырчэй,
Разносячы навокал чад і смаль.

Тады фракійцу паднялі на плечы
Малога скіфа, каб зірнуў на поле.
Ён выглядае ворага ў сінечы,

Чакаюць ад яго навін у коле:
Ці рыхтавацца да чарговай сечы,
Шыхтамі разразаючы раздолле.

***XIV***

Ідуць хвіліны. Засцяць далягляд
Завесы дыму, ды зіхцяць праз дым
Шчыты і дзіды. Скіф крычыць сваім:
“Пад нашым лагерам чужы атрад!”

Крычыць ён, ды сыходзіць стрэлаў град
На крыкуна. Адна трапляе ў рот.
Ён падае, прабіты навылёт,
Ён прахам стаў, не пражыў напад.

Астатнія імчацца па мячы
І вырываюць у суседа ножны,
Спрабуе прашчнік лук увалачы,

А лучнікі хапаюцца за прашчы –
Узброіцца хутчэй спрабуе кожны.
Штурмуе калясніцы тлум лядашчы.

***XV***

Ды позна. Як авечак, рэжуць іх.
Нібы вада, што свішча з бурдзюкоў,
Ліецца з шыяў, цел, галоваў кроў.
Чарговы шэраг, бы заснуўшы, сціх.

Вось грэкам кроў даходзіць да кален,
Па гладкіх трупах слізгаюць сандалі:
Жняцы свой ураджай параскідалі.
Няма адпору. Лямант, смерць і тлен.

Як быдла ад сляпнёў, бягуць палкі,
Гарачка гоніць іх на пляж пусты.
“На борт! На борт!”– імчацца нацянькі

Праз багну, агароджы і кусты.
Таўкуць пярэдніх ззаду кулакі,
Губляюцца і шлемы, і шчыты.

***XVI***

Праз лагерную браму – не прабіцца.
Уцекачоў прыціснула да колля,
Курганы трупаў дыбяць наваколле –
Так б’е праз гаць бурлівая крыніца.

На здушаных, што тысячамі палі,
Плыве паток па лагерных завулках:
Шатры змывае ў рэчках і рачулках,
Што страшнаю лавінай гоняць хвалі.

Параненых з ляжанак іх змялі,
Дзяцей і жонак утапталі ў бруд.
Яднае ўсіх парыў: на караблі!

Натоўп імчыць уніз з-за касагора,
Шалёна топчучы насмерць маруд,
І, як рака, наўпрост спадае ў мора.

***XVII***

Трырэмы шумна цягне да вады
Стоплечы гурт, бязладны і марудны.
Цясняцца людзі, асядаюць судны
Пад цяжарам цюкоў і грамады.

Над палубамі ветразі ўзляцелі:
Іх сотня рук раскрыла за хвіліны.
Натоўп сячэ ўжо якарныя ліны,
Шасты схапіўшы, выплывае з мелі.

Шукаюць схоў у трумах ад нягод
Рабы, жанчыны, еўнухі, салдаты.
Усюды лямант, бегатня і склокі.

Але не маюць сэнсу іх уцёкі,
Бо наступаюць ім сланы на пяты:
Індыйскія калосы нішчаць флот.

***XVIII***

Гайдае караблі ад іх штуршкоў,
Вада булькоча з жудаснае цечы.
Грабцоў не бачна, чутны лямант нечы,
Абшыўка крышыцца з усіх бакоў.

Шасты трашчаць, нібыта сухастой.
Жывёлы ломяць мачты, трушчаць косці
І, выхапіўшы ў вэрхале кагосьці,
Ўздымаюць бедака, і енчыць той.

Ды ловіць хобат спрытная пятля,
Па біўнях б’юць сякераю штосілы.
То тут, то там мільгаюць гарпуны.

Вось скочылі індусы з карабля,
Падрэзалі пачварам ззаду жылы,
І асядаюць у ваду сланы.

### *XIX*

Плывуць трырэмы між жахлівых туш
На волю. Поўніць вецер парусы.
У труме – тлум, і гоняць галасы
Грабцоў да вёсел: “Гэй! У мора руш!”

Людзей на караблі – нібыта мух,
На палубе і мачтах. Ім тужліва.
Адна ў іх мэта – выплысці з заліва.
Запал іх знік і пазмрачнеў іх дух.

Паселі палкаводцы па кутах,
Не думаюць яны аб адплыцці,
Бо ім цяпер усе плююць у твар,

Бо ўласны лёс ім унушае страх:
На дыбу іх адправіць уладар.
Надзей няма: ад смерці не сысці.

### *XX*

Выходзяць грэкі на пустынны пляж,
Глядзяць на караблі ля далягляду,
Глядзяць, як паглынае сінь армаду
У далечы, дзе змазаўся пейзаж.

Ім бачыцца, нібы сядзіць на троне
У небе дух свабоды і спакою.
Глядзяць багі: цякуць яны ракою,
І асвятляе слава іх ад сёння.

Усе – юнак, мужчына і стары –
Сваіх сяброў усцешана абнялі
І дзякуюць багам за іх дары.

Пабожны спеў падхопліваюць далі,
Які ўзнялі ў даліне ваяры.
А Фідыпід завязвае сандалі.

### *XXI*

Бяжыць на захад дзень. Гусцее змрок.
З усходу крочыць ноч. Усталі зоры

З-за астравоў – іх карагод у моры
Люструецца. Прыбой чуваць здалёк.

Каля палеглых дрэмле шыхт жывых.
Раскрылася зямля, вакол – дымок,
Паўстаў вястун і кліча ўніз паток
Памерлых душ, вядзе ў бяздонне іх.

Самкнулася зямля за іх гуртом.
Слухмяна крочыць ціхая калона
За прывідам у свой падземны дом.

Яны ляцяць па шахтах несканчона.
Вядзе іх праз расколіны фантом
Да холаду і цемры Ахерона.

***XXII***

Хады, тунэлі, лёхі і мяхі,
Бясконцы вулей у дуплістым дрэве,
Хаваюцца ў жахлівых гэтым зеве.
Нясе палеглых хваля ў край глухі.

Яны ідуць праз брамы ў катухі,
У залі і ў маўклівыя палацы,
Дзе будуць разам з іншымі туляцца:
Для ўсіх памерлых тут – адны шляхі.

Наблізіліся мёртвыя да трона –
Аід уладна высіцца ўначы,
У моры хмар зіхціць яго карона.

А вось іх пасмяротныя каморы:
Адкрылі цені браму, плывучы,
І, быццам дым, запоўнілі пячоры.

Лаўрэнці Зізаній



...памятай
у справах усіх сваіх пра сваю
часіну апошнюю – і ніколі
зграшыць не зграшыш...

# Як рыба хвастом надае свайму целу рух

***Казанне на пахаванні Зоф'і, княгіні Чартарыйскай***

Маем з чаго, праваслаўныя хрысціяне,
і сапраўды дзівавацца,
і самаперш з таго,
што гледзячы на людзей,
што ўчора былі разам з намі,
а сёння
ляжаць нежывыя,
і раз за разам
ходзячы на пахаванні,
мы самі
сабе спажытку духоўнага
з гэтага гледжання не бяром.

*Са тарабеларускай*
*перастварыў*
*Алесь РАЗАНАЎ.*

Бралі б –
не песцілі б ганарлівасць
і думку высокую аб сабе
сваёй асабовасцю не жывілі б,
і ўбачылі б насамрэч
тое, што ёсць, такім,
якім яно ёсць,
як, узнятых,
нас паніжае і з тленам
змешвае смерць – бы няспынна
нагадвае правіла, што забылі,
аддаючыся выгодам
гэтага свету, ягоным
аздобам слугуючы:
гэта ўсё лёд,
які ў нейкі дзень растане.
А ўсякі дзень
мы мусілі б самі сабе даводзіць,
што не належыць
целу свайму
і ягоным корцям,
бы засляпіўшыся, дагаджаць,
усякі
дзень разумець – яно
нішчыцца смерцю, і марны
яго набытак;
яго набытак вада,
што выліваецца долу
і высыхае.

Дзе марнасць, там смерць...
Аднак,
вабамі гэтага свету захопленыя,
разважаем
(калі разважаем), дык самабольш
пра плыннасць жыцця,
яго зменлівасць і мінлівасць
і немінучасць смерці самой.
А тое, што мае
нам выпасці і што маем
займець пасля смерці сваёй,
застаецца
па-за развагаю і па-за ўвагаю,
дык не дзіва,
што самі мы застаёмся
без абароны духоўнае
і ў грахі –
ўсялякія – упадаем.

Каб асланіцца ад іх, заўжды
згадваем словы прароцкія:
“Што за спажытак
з крыві маёй, калі сам
стацца зямлёю маю?”
Таксама
слухаем пільна
Ісуса Сіраха, які гаворыць
нам ад асобы таго,
хто ўжо на тым свеце,
перасцярогу
адтуль даючы: “Памятай
на суд мой, бо й твой
гэтакі ж будзе: што ўчора
мне, тое сёння табе”.

Бо нічым другім
не настаўляецца гэтак
на добрае чалавек, як самою
развагай пра смерць
і пра тое,
што мае за ёю настаць,
калі апынецца ён на тым свеце.
Сябе
даверыўшы цалкам
гэтай развазе, вочы
расплюшчвае чалавек
на тое, што ўжо ўчыніў ён,
што чыніць цяпер, якім
ён ёсць насампраўдзе,
як рыхтавацца
мусіць, пакуль
тут застаецца, на страшны
суд Божы.

Што робім найперш – разважайма
з нагоды і без нагоды
пра смерць,
пра яе рахункі і памятайма
з прычыны і без прычыны
пра хуткацечнасць
часу людскога жыцця: яно
даецца на час,
адымаецца назаўсёды.
Адно прашу вас, рабіце
гэта не з тымі, каму Саламон
у кнігах сваіх, што завуцца
кнігамі Мудрасці, напрыпачатку

слова дае,
а з апосталам Паўлам.
Так, пішучы да Карынцянаў
у Першым пасланні ён зазначае:
“Браты,
час кароткі: тыя,
што маюць жонак, няхай
жывуць, як бы іх не мелі;
тыя, што плачуць, як бы
не плакалі; тыя,
што весяляцца, як бы
не весяліліся; тыя,
што набываюць, як бы
нічога не мелі; а тыя,
што карыстаюцца гэтым светам,
як бы не карысталіся, бо
мінаецца вобраз
гэтага свету”.
У словах
апостальскіх для сябе
знаходзьма спажытак:
у іх напамін пра смерць,
пра кароткасць
часу цяперашняга ...

У Саламона
знаходзім таксама
развагі і напаміны
пра смерць, ды аднак
яны належаць бязбожным
людзям і адваротным
чынам высноўваюцца.
Так, гаворыць
ён іхнімі словамі і прамаўляе
вуснамі іхнімі: “Дужа
кароткае й тужнае наша
жыццё, і не маюць людзі
лекаў ад скону свайго...
Хадземце
і спажывайма даброці,
якія маем, і карыстайма
удосталь, бы ў маладосці,
усімі даброцямі; дарагім
віном упіваймася, у пахошчах
купаймася, не мінайма
квету вясновага, ружай,
пакуль не звяне, вянчаймася;
хай ніхто
не пазбаўляе ўдзелу
сябе ў насалодзе нашай,
усюды пакінем
сляды сваёй весялосці;
каб дадавалася нам, прыгнятайма
праўдлівага бедняка,
не шкадуйма
ўдавы, і старцаў
сівых не стыдаймася...”
Бачым,
наколькі ад слоў
апостальскіх адыходзяць
словы бязбожных людзей
і адрозніваюцца, хоць гавораць
пра тое самае –
пра хуткацечнасць
людскога часу.

Так, з Эпікурам людзі
бязбожныя не чакаюць
жыцця наступнага веку,
а прагнуць
напоўніцу ўсе даброці
свае, як той
евангельскі багацей,
спажыць тут, у гэтым,
ім дадзеным, часе.
Павел,
апостал святы,
прапаведуючы жыццё
вечнае і да яго
навукай баганатхнёнаю ўсіх
людзей ведучы, навучае
нас як сусветны настаўнік,
каб мы сабе тут
доўгіх гадоў не шукалі,
каб шчасцем
гэтага свету не зваблівася,
а таксама
каб не баяліся нэндзы
ягонае: не трывае
у зманлівым свеце
тое абое доўга;
і, навучаючы, кажа,
каб мы цнатлівым
жыццём сваім,
Богу ўгодным, да годнай
смерці як след рыхтаваліся

сёння й штодня,
бо ведаць
не ведаем загадзя
дня і гадзіны
ейнага прыйсця, – да смерці,
што мае быць добраю.

Чалавека
ратуе сумленне: тады,
калі яно чыстае, й смерць
становіцца добраю і яго
прыветней, чым іншых
людзей з усіх царстваў
і княстваў зямных, сустракае,
адменней,
чым іншых усіх, прывячае.
Мае
з гэтага чалавек
богаслухмяны ўцеху
большую, чым хто іншы
з многіх набыткаў сваіх
ды аздобаў пышных;
даброці,
якімі яны ні былі б,
заўсёды
часовыя і сваіх
абраннікаў і каханкаў, гэтых
лядашчых людзей, у часіну
іхняе смерці не суцяшаюць,
не асвячаюць,
не памагаюць ім, а пакідаюць
саміх назусім.

Ну а хто
з чыстым сумленнем жыве,
самога
не пакідае яно, а з ім,
калі памірае ён, застаецца
і, ў вечнасць
беражна ўводзячы, прысвячае
у невымоўную мудрасць
і ахінае
славай святой.
Для таго,
каб спадобіліся ад Бога
гэтакай смерці годнай,
належыць,
мае наймілейшыя, пра яе
памятаць шчыра,
думаць аддана
і станавіцца
чыстымі перад ёю
ва ўсім.

Як лайба,
плыве, кармавым
выкіроўваючыся стырном,
і як рыба
хвастом надае
свайму целу рух,
гэтак і праваслаўны
хрысціянін, каб не зграшыць
і не схібіць, мае
паводзіцца ўсцяж – справаваць
усе свае дзеі,
усе намеры,
усе свае клопаты і вымогі
той канчатковасцю, да якой
далучаны, разважаць
пра выніковае – смерць.
Вось, кажа
Ісус Сірах: “Памятай
у справах усіх сваіх пра сваю
часіну апошнюю – і ніколі
зграшыць не зграшыш”.

Разважанне
пра смерць прыносіць
вялікі і дужа каштоўны
душэўны спажытак – з ёю
засвойваем перасцярогу,
каб не грашылі, бо грэх
уводзіць у вечную смерць;
далей: разважанне
пра тое, што мае
з ёй, а тады за ёю,
стацца з зямным жыхаром,
ад граху
адводзіць, а ў рэшце
рэшт выбаўляе і ад самой
смерці навечнай.

Нашым
прашчурам Гасподзь Бог
яшчэ ў раі прыгразіў
смерцю, каб, на яе

памятаючы, у грэх
не саступілі, сказаўшы
Адаму і Еве: “У дзень,
калі што скаштуеце з дрэва
спазнання дабра і зла,
памраце
смерцю”, – й калі зграшылі,
зноўку ім памяць
пра смерць абнавіў, акрыўшы
апраткаю мёртвых быдлят.
Пра гэта
Майсей Багавідца апавядае
у першай кнізе сваёй:
“І справіў
Гасподзь Бог Адаму
і жонцы яго скураныя
шаты і апрануў іх
у іх”.

Такім чынам
дадаў Гасподзь Бог
Усясутны людзям
меціну, каб ні дня
не забываліся на сваю
наканаванасць – смяротнасць
і, помнячы, як былі
прашчуры пакараны,
больш не грашылі.
Аднак
мы тое навыварат успрымаем
і, убіраючыся ў кажухі
аўчынныя альбо ў шкуры
рысяў і собаляў, на прычыну
быцця свайго гэташняга –
на смерць –
не толькі не памятаем,
а свой гонар
і веліч сваю ўсім гэтым
жывім, ну а займеўшы
уборы з ядвабу, што – кім?!. –
нікчэмнымі чарвякамі
прадуцца, замест
таго, каб спакорыцца,
каб спамятацца, узвышаем
сябе над сабою;
замест таго,
каб угледзець і распазнаць
загану сваю, як можам
ёй дагаджаем;
замест таго
каб кару, за грэх свой
займетую, абмываць
пякучымі слёзамі, славу
спрабуем з яе здабыць,
самалюбства
сваё пацешыць.

Сябе
маем сабе – у пыху
ўсяляемся, бы ў сваю
вотчыну, й гэтак
сваёй асабовасцю недарэчы
хвалімся, бы кайданамі
сваімі перад усімі
хваліўся б вязень, –
што адначасна
варта і смеху, і жалю;
смеху – бо трэба ж гэтак
усё пераблытаць, каб выхваляцца
тым, што далося
на ганьбу табе і за што,
калі не пакаешся, будзеш
плакаць веквечна;
жалю –
бо трэба ж гэтак
аб рэчах, што расстаюць,
як сон, і, як цень, мінаюць,
так гарапасіцца,
так бедаваць,
так клапаціцца і рупіцца
ўсе свае дні,
усе свае леты,
а тыя рэчы,
што маюць з намі
навекі вякоў заставацца, – аб іх
не толькі не дбаем,
хоць бы як-небудзь,
хоць бы час-почас,
калі-нікалі, а, што горш,
самою душою аслепшыся і
асляпіўшыся ўявай
відовішчаў маляўнічых, нібыта
няма іх для нас,
нас для іх, пакідаем
іх за абсягам увагі,
за полем думкі.

Гэтакі выбар
бяздумных людзей –
ён стратны, й хіба
усякі раз не аплача
яго чалавек багадбайны
як страту,
што прычыняецца ўсім.
Ды, аднак,
дбаючы пра сябе
і пра іншых, усё адно
усякі раз можам
з Божаю помаччу ўберагчыся
ад страты і згубы – калі
болей не будзем
грашыць як грашылі,
а будзем,
быццам сякераю, адцінаць
памяццю корці,
подумкі,
звычкі, што ў грэх
уводзілі нас і нанова
уводзяць, ды мець
пільнае вока
на тое, што ўгатавана
грэшнікам, што сабе
яны ўгатоўваюць самі;
а гэта пакуты
пякельныя, на якія
ты асуджаешся назаўсёды.

Ў Святым Пісанні
знаходзім шмат звестак
пра тое, як грэх людзей
зваблівае, як імі
ён авалодвае, шмат
сведчанняў, што ён чыніць,
а чыніць ён, размаіты,
заўжды тое самае – зло,
хай некаму, а ўсё роўна
заўсёды самому
тварэнню Божаму:
я згадаю
тут некаторыя, перапытаю...

Скажыце,
што прычынілася да таго
страшэннага спаду,
што захапіў
і зрынуў з нябесных вышыняў
анёлаў і што ніяк
выправіцца не можа?
Авох, не што іншае,
як адно
грэх ганарлівасці.
І калі
цар Вавілонскі Наўхаданосар
надта ж хваліўся сваім
горадам Вавілонам,
які ён узняў
у веліч сваю і ў славу,
хіба не тойсамы грэх
стаўся прычынаю,
што як вол
ён абы дзе, здзічэлы,
бадзяўся і скуб траву?
А тады
на Валтасара, ягонага сына,
калі той пабраў
з Іерусалімскага храма начынне
і, самапэўны, пачаў
з пасудку царкоўнага піць,
хіба
не гэты ж плюгавы
грэх ганарлівасці ў тую ж ноч
навёў раптоўную смерць-
загубу?
А што скажу
тут пра Антыяха – пра
егіпецкага цара?
Зацяты
ў сваіх памкненнях бязлітасных,
за свой грэх
уражаны лютай пакутаю,
гніючы, ён сваёй
волі накрэсліў вырак
і ў словы
тое, што ўведаў урэшце,
уклаў: “Належыць
слухацца Бога – смяротны
раўняцца не можа з Ім чалавек”.

Не толькі
згаданыя тут, а й другія
усе асабовасці, што былі
пакмечаны гэтым грахом,
гэтым згубным грахом

ганарлівасці, не займелі
спажытку з яго, а наўпроць –
былі пакараны суровай
карай ад Бога, бо, як
сведчыць прарок, Гасподзь
працівіцца ганарліўцам.
Я тут
не згадваю Пора, што быў
індыйскім царом і Богам
сябе найманоўваў; не
згадваю Ірада: Божы анёл
навёў на яго паразу;
не згадваю і таго
высокаразумнага фарысея,
што шмат
шкоды насеяў на чалавечым
палетку і спрычыніўся
да страты лагодані Божай
і цнотаў, – і многіх
другіх, ім падобных, зусім
не згадваю, а пакідаю
па-за разглядам і ўвагаю.

Вось,
мае наймілейшыя, бачыць
бачыце, што чалавеку
прыносіць грэх ганарлівасці,
й гэта толькі
адзін, мною вылучаны, калі ж
згадаць усе іншыя, далучыўшы
да гэтага, – колькі
іх выявіцца? І ўсе-ўсе
ўкарэньваюцца ў чалавека.
Якія
вялікія кары
яго чакаюць, калі
ён не пакаецца, калі не
адолее іх, ад іх
не адчэпіцца!..
Не гаварыце
сабе, што адно за грэх
пыхлівасці, ці ганарлівасці,
Гасподзь Бог
карае сваё тварэнне – ці меншы,
ці большы, усякі грэх
караецца, ды, аднак,
па-рознаму: большаю карай
за большы грэх, меншай
за меншы.
Як сведчыць
Святое Пісанне ўсцяж, Бог
міласцівы, і разам з тым,
у згодзе з самім Правасуддзем,
без пакарання
не пакідаецца аніводзін
учынены грэх – на гэтым
свеце альбо на тым.
А таксама
не пакідаецца без адплаты
ніводная цнота,
што спраўджваецца, – на гэтым
свеце альбо на тым.

Дастаткова
ў Святым Пісанні на тое маем
прыкладаў – і сярод іх
наступныя, што змушаюць
звяртацца да іх,
што чапаюць – кажу
й пытаюся ўголас: х і б а?!.
Хіба пакараны Адам і Ева,
прашчуры нашы, Богам
сурова гэтак
былі не за грэх –
грэх няўстрыманасці,
грэх неслухмянасці?
На сабе
нясём мы цяпер наступствы
гэтага пакарання.
Хіба не за грэх
братазабойства Каін
асуджаны Богам быў
на сямікротнае пакаранне?
Хіба
Садом і Гамора былі
спалены сераю і агнём,
з нябёсаў насланымі,
не за звыродны,
зроднены з імі, грэх?
І хіба
патоп затапіў суздром
не за грахі свет цэлы?
Хіба
стаўся не грэх прычынай
таго, што ўсё
Веньямінавае калена

у горадзе Гіва
вынішчылася дашчэнту?
І не за тое ж
горад Сіхем змярцвеў?!. –
У адпомсту
за згвалтаванне сястры сваёй
Сімяон
і Леві, сыны
Іакававы, пазабівалі
падступна сіхейцаў-мужчын.
І хіба
не праз гэты ж грэх цар Давід
шмат бедаў зазнаў?
А ягоны
сын Саламон, што ўважаўся
наймудрым, пачаў
ідалаў шанаваць?
І хіба
не тойсамы грэх
стаўся прычынаю, што Самсон
страціў сваю дзівосную моц
і вочы?
Хіба не грэх
чужаложніцтва ўвёў
старцаў дваіх у змову –
яе распазнаў
прарок Данііл, за яе
яны былі пакараны смерцю.
Хіба не за грэх
прагавітасці быў Ахар
з сямействам сваім у часы
Ісуса Навіна ўкаменаваны?
А гэтаксама
хіба не за гэтакі ж грэх Гіезы,
слуга Елісея-прарока,
у пакаранне
займеў праказу?
Хіба не сквапная прагавітасць
Іюду Іскарыёта
у роспач урэшце ўвяла,
што смерці
сабе зажадаў і ўдавіўся?..
Хіба не праз гэты ж
грэх смерцю раптоўнай
памерлі Ананія і Сапфіра,
калі схлусілі
перад апосталам Пётрам Богу?
Наогул,
хіба нешта іншае, як не повязь
з ідаламі, пакланенне
ім, абагаўленне
іх, кожны раз
жыдоў асуджала на згубу?

Згадаю
тут Божага ўгодцу
Майсея: усімі
намі муж Божы гэты
мусіў бы ў прыклад брацца,
каб не грашыць нам,
каб памятаць, што нішто
не пакідаецца без адплаты.
Бо нават яму,
абранцу свайму, упусціўшы
народ, што ён вёў з бязбожжа
ў Зямлю запаветную, Бог самому
яму тым часам
не даў увайсці праз адзіны
колішні грэх, што ўчыніўся
Майсеем, і то
з рэўнасці Божай ды са спагады
да абяздоленых, да паднявольных
сваіх братоў.
Дык чаму ж
тады мы, грахамі
паабчапляныя, жывучы
нядбала і пакаянне
ўсё адкладаючы з дня на дзень,
маем думаць альбо ніяк
не думаць, што застанемся
беспакараныя?
Насампраўдзе,
калі сваім
угодным абранцам не адпускае
Бог іхніх правінаў,
нам пагатоў,
калі не пакаемся, не адпусціць.
Тым больш і далей –
якая
адплата за грэх знаходзіць
нас тут, у жыцці, у часе,
адведзеным нам,
а якая
чакае ўжо там: пакута
пякельная ёй імя,
час, колькі доўжыцца ёй, –
бясчассе.

Ўсё гэта
ведаючы, ці не мусім
агледзецца, адхінуцца
ад злога, пакаяцца і пачаць
добрыя справы дзеіць?
Вось і Гасподзь наш,
Ісус Хрыстос,
кажучы, зазначае:
“І ўвойдуць
тыя ўсе, што тварылі
дабро, у жыццё
уваскрэсення”, – азначае
гэта: у царства нябеснае, –
“а ўсе тыя,
што зло чынілі, ў асуду
ўваскрэсення”, – азначае,
ў сваю чаргу, гэта:
у вечнае зніякнавенне.
Таму не след
каму б ні было пакладацца
на веру саму без добрых
учынкаў, бо адно толькі
абое разам
каштоўныя ў Госпада Бога,
а самі сабе й па сабе
не маюць вагі – хіба што
спрычыніцца нейкі вынятак
ці дзіва,
ці цуд, як гэта
з разбойнікам, што ўкрыжаваны
быў, адбылося.

Аднак пакладацца
на гэта адно, прадусім
не дбаючы альбо мала
дбаючы аб ачышчэнні
у пакаянні ад усялякіх
грахоў сваіх
ды ў дарадцы
замест праўдзівых
браць словы няпэўныя,
небяспечна.
Не ўсім, як таму
разбойніку на крыжы,
ўрэшце пашчасціць можа.
Няхай ніхто
не ўводзіць сябе ў няпэўнасць
і дні,
Богам узычаныя на тое,
каб выпраўляцца і спраўджвацца,
не марнуе,
не траціць абы на што.
Бо пра тое,
што дасца яму са смерцю
(далося, як бачым, таму
разбойніку багаславенне) і што
адымецца, ведаць
не ведаем загадзя.

Але звестку
ўсім нам падае
Евангелле Боскае: кожны
займее сваю адплату
згодна з учынкамі;
укладае
у словы перасцярогу: у судны
дзень загадае
Суддзя справядлівы ў нязгасны
агонь урынуць
таго, хто не мае шатаў
вясельных – учынкаў добрых.
А тых пецярых
дзявохнаў, што мець не мелі
з сабою алею, што азначае
спраў міласэрных, словам
няўцешным для іх, сказаўшы:
“Не ведаю вас”, прагоніць
ад боскай сядзібы сваёй
у ноч; гэтаксама
заўзятых казлоў, што не мелі
да іншых ні літасці,
ні спагады, праклёнам
пакмеціўшы іх, у нязгасны
агонь адашле.

Тады,
калі каемся і падрахунак
падводзім пражытаму,
бы куфэрак,
сябе адчыняем і пільна
глядзім-аглядаем,
дзе ёсць якія
учынкі, што нас
узвысілі б,
справы – што апраўдалі б.
Ні ў чым другім,

такім размаітым, а ў іх саміх
маем патрэбу найбольшую,
бо адно
стоячы каля веры й сябе
цешачы думкай, што ёй,
верай самой, уратуемся,
ўрэшце,
не толькі сябе не ўратоўваем,
а дадаёмся
да той асуды,
што ўжо заслужылі сваімі
ад'емнымі справамі
(ну а добрых
не можам знайсці ў сабе) –
да асуды
на мукі няўцешныя,
на пакуты...
"Не кожны,
хто кажа мне: Госпадзе,
Госпадзе!.. – будзе
уратаваны, а той,
што спраўджвае волю
Айца Майго, які ёсць
у нябёсах", – кажа
Гасподзь нам.

Згадаю таксама
тут голас, што Іаан
Багаслоў з нябёсаў
пачуў быў і запісаў
пачутае словамі, вось:
"Дабрашчасныя
тыя, што ў Госпадзе паміраюць;
ад гэтага дня, кажа Дух,
супачынуць
яны ад працы сваёй,
і дзеі
іхнія ўслед за імі
ідуць".

А з імі,
кажу, дабрашчасная сапраўды
й спадарыня, што заснула
у Госпадзе кагадзе: мы сёння
з ёю развітваемся – са святоўнай
Зоф'яй, княгіняю Чартарыйскай,
і ёй
цяпер прысвячаюцца словы,
што кажуцца.
Зоф'я – імя яе, і яно
азначае мудрасць:
суадпаведныя
імені, што ёй далося,
ды пакліканню, што прынялося,
ды слаўнаму ейнаму роду
і самі
ейныя справы – яны
вартыя ўганаравання.
З намі была і ад нас
пайшла, ўсё пакінуўшы, у айчыну
адвечную – супачыць
ад працаў сваіх, ад сваіх
змогаў і ад знямогаў,
пайшла,
дабрашчасная, да свайго
адвечнага Спадара
з любоўю, і вераю, і надзеяй –
і добрыя дзеі за ёю
ідуць услед.
Ідзе паслушэнства ў веры
святой хрысціянскай,
ідзе
стрыманасць годная разам
з пастом і малітвай,
ідзе
шчодрая міласціна, а з ёй
цярплівасць і міласэрнасць,
ідзе
пакора вялікая і вядзе
праўдзівасць з сабой,
ды набожнасць,
ды іншыя цноты,
ідзе за ёю
ейнае ўдоўства адданае,
з чысцінёю
з'яднанае, з помнай
сарамятлівасцю зродненае,
ідзе
за ёй невымоўная ўцеха
ад далучэння
да сакраментаў святых ...

О так,
дабрашчасная сапраўды
святоўная Зоф'я, што адышла
да Госпада – каб супачыць

ад працаў сваіх!
І як, у вянок
лучачы іх, называем
многіх святых дзеля іх
асаблівых цнотаў
найменнем адметным:
Іова – цярплівым,
Іосіфа – гожым,
Давіда – пакорлівым,
Іаана – Залатавусным,
іншага Іаана –
дык Міласцівым, альбо
іначай – Ялмужнікам, гэтак
і гэтую, існую ў размаітых
цнотах спадарыню, слушна
й дарэчы можам
назваць гэтым самым найменнем:
Ялмужніца, – і самаперш
дзеля яе міласэрных учынкаў:
усякаму чалавеку,
хто да яе зварачаўся
з просьбай жыццёваю, са спагаднай
рукі сваёй выдзяляла
шчодры дарунак
Божых пладоў.

Болей за тое – сама
знаходзіла і заўважала
патрэбы людскія, і людзям
спрыяла ў меру сваю
і нястаткі
іхнія тым, што мела
ў сабе і з сабою,
ўлагоджвала і запаўняла.
Зазначым,
не толькі шпітальных,
не толькі духоўных,
а ўсіх Хрыстовых
братоў і сясцёр як магла,
адданая, ратавала
і чым магла
усім ім дапамагала.
Заўсёды
трымала ў памяці словы –
наказ са Святога Пісьма:
“Не мінай
вачэй тых, што просяць”,
і пільна
трымалася іх.

За ўсё гэта
не толькі ад нас адных,
з ёй знаёмых,
ёй блізкіх
і ёй удзячных,
а, уважаем, і ад усіх
праведнікаў і святых
і саміх анёлаў
Божых, як тая Тавіта,
яна заслугоўвае ўхвалы
вялікай – і сам
Гасподзь наш Ісус Хрыстос
з Богам Айцом і Духам
Святым у царстве
нябесным сваім суцешыць
і ўславіць яе.
Як Ён кажа
у неадменнай сваёй абятніцы,
што захавана
ў Евангеллі ад Іаана,
святога абранцы:
“Хто служыць
Мне, упачцівіць
таго мой Айцец нябесны”,
і да таго ж
надзеліць дабротамі вечнымі
і невымернымі.
У святога
Мацвея чытаем:
“Што-кольвечы аднаму
з братоў маіх меншых
вы ўчынілі,
дык учынілі Мне”.
І яшчэ: “Прыйдзіце,
дабраславёнцы Айца Майго,
і ўспадкуйце
Царства, што ўгатавана
вам ад пачатку свету”.

Аднак і мы самі,
у згодзе
з павіннасцю хрысціянскай,
аб ёй
молімся Госпаду Богу,
каб тое,
што аб’яўлялася кагадзе,
ёю займелася без усялякіх
затрымак і перашкодаў.

Пры тым
з гэтай апошняй паслугай
спадарыні, што спачыла,
мы самі
робім таксама сабе паслугу
і прысвячаемся ў досвед
жыццёвы і набываем
спажытак духоўны.

Вось, дзівімся на яе –
учора
была яна разам з намі,
а сёння
няма ўжо яе і болей
ужо не будзе: і з намі
некалі тое ж
мусіць таксама стацца.
Што выпала сёння ёй,
разумеем,
нам гэтак ці так, але
выпадзе заўтра –
і давядзецца
з гэтым лядашчым светам,
хай нехаця, а назаўжды
усім нам і кожнаму развітацца.

Так ёсць,
і таму што так ёсць, прашу вас,
не занядбоўвайма й не забывайма
у пакаянні святым ачышчацца
і асвячацца, й самааддана,
пакуль яшчэ доўжыцца час,
зварачацца
з малітвай да Бога
Усемагутнага й ад сябе
кару, што ўгатавана
судом справядлівым за нашы
грахі і правіны,
ўлагоджваць і аддаляць.
Каб потым не давялося
(асцеражы,
Хрысце Божа!), калі
міне час адпушчаны, шкадаваць
нам шкадаваннем няўцешным
аб той сваёй
нядбайнасці згубнай,
аб той сваёй
сляпой неразумнасці і апынуцца,
урэшце, на векі
вечныя ў той
прорве пякельнай, дзе д’яблы
і боганячціўцы маюць
прыстанак мусовы свой.
Бачым: сплываюць
нашы гады, як вада,
і да нас
ужо не вяртаюцца – разам
з самімі намі.

Таму не марудзьма распазнаваць
сябе сваёй думкаю
і з сумленнем
зводзіць рахункі: убачым
у выніку, што ў нас мала
добрага набярэцца,
каб мы змаглі
адразу жыццё сваё
ўзвысіць і выправіць.
Судзіць Бог
не адно толькі справы
заганныя і благія,
але таксама і добрыя –
хто з якімі
намерамі й мэтамі
іх твары́ў.
Праз Давіда-прарока
Ён кажа ў псалме:
“Я суджу па праўдзе”.
Ўсе нашы ўчынкі,
і добрыя ў гэтым ліку,
будзе судзіць Ён,
глядзець,
якія яны насампраўдзе,
распазнаваць,
што іх паклікала і з якімі
памкненнямі хто іх
калі ўчыніў.

А тым часам
самі агледзімся ўважліва
і, пакаянне
прымаючы, ад грахоў
нажытых наважымся канчаткова
пазбавіцца й Божую ласку,
адпрэчаную грахамі,
зноў да сябе прыцягнуць...

Як можам
будзем прасіць аддана
Госпада Бога
Усетрымальніка, каб
Ён да сябе сузволіў
Сам навярнуць нас – нас,
што адхінуліся ад святых
яго запаветаў міжволі
ці самаволяю;
будзем прасіць, каб сэрца,
знячулае ў нас, нанова
адбудаваў і паправіў
і дух праўдзівы
у нашым нутры аднавіў;
будзем прасіць, каб Духам
Сваім валадарным,
ці гетманскім,
Духам Суцешнікам Параклітам,
правёў нас і вывеў
са слёзнай юдолі
гэтага свету, – аб гэтым
маліўся святы Давід
і казалі
прарокі, вясткуючы: "Навярні
нас, Госпадзе Божа,
наш Збаўца, – і мы
навернемся да Цябе".

Такімі
нямоглымі і слабымі
мы робімся, што ўжо нават
самі пакутаваць, каяцца
і з грахоў
сваіх выцярэблівацца без Тваёй
помачы, Госпадзе Божа,
не можам.
Хіба адно з ёй, Тваёй
ласкай і помаччу, гэта
ўсё здолеем спраўдзіць
і асягнуць – каб самім
спраўдзіцца і асягнуцца.

Што маем рабіць – заставацца
увагаю з Ім,
каб і Ён,
убачыўшы нашу слухмянасць,
нашу адданасць і здатнасць
памкнёную, захацеў
да нас навярнуцца і ласкай
Сваёю святою
нас ахінуць і ўвесці
ў збавенне.
Апостал Павел
піша ў лісце сваім да Піліпянаў:
"Бо спраўцам
ёсць у нас Бог, каб мы
хацелі й чынілі тое,
што даспадобы Яму".
Таму
не легкаважма ж на вагах
сваёй увагі
Божае ласкі: калі даецца –
яна запальвае сэрцы
і ўпрысвячае
з гэтай ці той нагоды
у пакаянне святое альбо абуджае
нашыя змыслы, каб мы ўчынілі
штось добрае...
Тады дбайна,
не адкладаючы, чыньма,
што маем чыніць, і службу
Божую не на
адчэпнае, не абы-як
выконвайма.
"Бо пракляты, –
кажа прарок ад аблічча
Божага, – кожны, хто негадзіва
Божую справу дзеіць".

Кароткі наш час:
наўзамен
не тлейма, а палымнейма
і самі
сябе ўзнагароджвайма самым
вялікім набыткам –
Божай хвалой.
Так, Павел,
апостал Божы, свой ліст
да Рымлянаў пішучы, павучае
нас: "У руплівасці
не паслабляйцеся, духам
успалымняйцеся,
Госпаду Богу служыце".
Бо выяўляе
Гасподзь наш нязменна
нашыя добрыя ўчынкі

і ў іх шукае
чыстыя калівы: і адна
гадзіна ў самаадданай
руплівасці перад Богам
большая, чымся сто
ў лянівай паслузе.
Не доўгі час
нашых заняткаў угодны Богу,
а вынік,
што асягае выйсце.

Каб уяўлялі, што можам
у сціслым часе
займець самабольшае
І згадаўшы
разбойніка, што ўкрыжаваны
быў, маем
як прыклад сабе таксама
блуднага сына, што ўрэшце рэшт
вярнуўся дадому,
ды мытніка, што
пакліканы стаўся, – за іх
шчырае пакаянне
Айцец нябесны
прыняў іх, усцешаны.
Памятайма,
як адпусціў умомант
многія віны й даўгі Магдалене
Марыі Гасподзь з-за ейнай
вялікай любові і як упэўніў
Закхея, а з ім ягоны
ўвесь дом у збавенні ...
Што трэба яшчэ, беручы
з прыкладаў іхніх сабе спажытак,
дык гэта
асцерагацца, каб па сваёй
аднойдзіне зноўку,
як пёс да ванітаў сваіх,
да грахоў
пакінутых не вярнуцца.
Інакш –
з такім пакаяннем не толькі
не выбавімся з грахоў,
а, што яшчэ горш, на сябе
гнеў Госпада Бога наклічам,
а ўслед за гневам,
пэўна й напэўна,
пакуту веквечную.
Хочам таго?!.
Для таго,
каб мець нам у службе Божай
карысць найвялікшую для душы,
не мноства гадоў набіраем
сабе і ў гэтым
мэту знаходзім, а палымянасць
духа ў сабе абуджаем і самі
ў ім аднаходзімся.
Хто, аднак, служыць
Госпаду Богу азябла,
той лішні Яму і не варты
службы самой.
Гаворыць
у Аб'яўленні святым Іаана
Евангеліста Гасподзь
гэткімі словамі:
"Ведаю твае дзеі;
ты не халодны і не гарачы,
але як што ты цёплы, цябе
выплюну з вуснаў сваіх".
І калі
такое суровае пакаранне
угатавана лянівым,
ці цёплым, дык што
будзе таму,
хто аб службе Божай
нат і не думае?
Асцерагаймася згубнае
багны нядбання
і, чысцінёй абмываючыся,
стварайма
сабе ўратаванне.
Раней ці пазней Пісанне
Божае мае
спраўдзіцца – і лянівы
слуга з другімі
бязбожнікамі займее
заслугу належную.

Зрэшты,
нават калі б не было
ніякіх пакутаў, угатаваных
грэшнікам, усё роўна
не выпадае азябла
служыць нам Таму, Хто з усёю
гарачынёй прысвяціў
самога сябе дарэшты

служэнню, каб мы займелі
збавенне, – Ісусу Хрысту,
Госпаду нашаму.
Яшчэ толькі
на свет аб’явіўшыся,
у немаўленстве,
ужо за нашы
грахі перасследы цярпеў –
ва ўцёкі
бацькі падаліся з ім у Егіпет.
Зважайма,
ў заўсёдным
дбанні аб нашым збавенні,
Ён на апошняй,
Тайнай, вячэры сказаў
апосталам нездарма
наступныя словы: “Вельмі
жадаў я спажыць
гэтую пасху з вамі”.
Дае нам ведаць
гэтымі словамі, што з вялікай
моцай жадання
нам зычыць збавення
і хоча, каб неўзабаве
займелі яго.
Калі й самі
гэтак аддана і нелянотна
рупіцца будзем аб тым сваім
вечным дабры, што нам
угатавана Хрыстом, то пэўна
й напэўна займеем
збавенне душам сваім –
з ласкі і чалавекалюбнасці
Госпада Бога і нашага Збаўцы
Ісуса Хрыста: Яму
супольна з Айцом і Святым
Духам усякая шана
й хвала на векі вякоў!
Амін.



ВЫТОКІ

Юры Пацюпа



...перад намі мастацкі твор
у поўным значэнні гэтага слова...

# Яшчэ адна ананімная паэма

У беларускай літаратуры XIX ст. ёсць свой літаратурны працэс, які не спыняецца, ідзе паралельна з сучасным. Літаратура гэтая жыве – рэгулярна знаходзяцца новыя творы, новыя версіі старых твораў, якіх ніхто і не спадзяваўся адшукаць. Здавалася б, самая вузкая, самая лакальная, самая вычарпаная дзялянка. Ужо і канкарданс да яе складзены, ужо меліся паставіць кропку, ажно – не. Як толькі паставілі кропку – яно і пасыпалася як з рога.

Менавіта гэты перыяд літаратуры я называю арганічным для беларускай мовы. У XIX ст. можна знайсці тое, чаго не знойдзеш ні раней, ні пазней. Мова – як расплаўлены метал, які яшчэ не застыў, не сфармаваўся, але дыхае, кіпіць і пераліваецца самымі нечаканымі адценнямі. Яна ўжо адышла ад старабеларускага актавага канону, але яшчэ не выпрацавала сучасных нормаў. І як бы паказвае ўсё, на што была здольная. Тут і рэдкія беларускія словы, і яшчэ не адсеяныя паланізмы, і напыленне рускай літаратурнай традыцыі, і першыя ластаўкі ўкраінізмаў. Часткі яшчэ дамінуюць над цэлым, але цэлае ўжо мае свае няўлоўныя граніцы. І нам не раз спатрэбіцца вяртацца

да гэтай крыніцы, да вытокаў, каб павучыцца быць самымі сабой, каб адпіць глыток першаснай мовы.

Твор, які я маю прапанаваць, нельга назваць невядомым. Але спытайце каго хоця, нават спецыяліста па XIX ст., і пра яго існаванне ці ўспомніць каторы? А ў прынцыпе, паэма (ці мо балада, вершаванае апавяданне) «Чортава сіла» вядомая даўно і не раз была знойдзеная, а потым не раз забытая зноў, толькі вось ніводнага разу ёй не пашчасціла (калі не лічыць некалькіх урыўкаў) патрапіць у друк.

Яшчэ Д.В. Зяленін у 1914 г. у апісанні рукапісаў Рускага геаграфічнага таварыства ў Пецярбургу паведамляў пра зборнік П.Ф. Альхімовіча 1892 г., у якім значыўся гэты твор, і нават цытаваў першую страфу:

*«Легенды въ стихахъ: 9) "Воскресеніе Христово и сошествіе Его въ адъ" <...>. 10) "Чортова сила": "Мужикъ лысый, дзѣдъ Пахомъ, на кабылу сѣвъ вярхомъ; ѣхавъ (2), ажъ глядзиць: пыпярогъ гара стаиць". 11) "Панская ласка" <...>. (Стихи эти искусственнаго происхожденія)»*[1].

Ведаў пра рукапіс Альхімовіча і А. Шлюбскі[2]. І, нарэшце, у газеце «Літаратура і мастацтва» ў 1939 г. М. Ларчанка і Л. Фіглоўская паведамлялі:

*«У ленінградзкіх архівах і бібліятэках мы змаглі выявіць некаторыя невядомыя арыгінальныя матэрыялы па беларускай літаратуры, якія маюць для нас навуковае і палітычнае значэнне. Разам з тым знойдзен цэлы рад паўвядомых старынных твораў, аб якіх у Беларусі мала хто ведаў, хоць яны і былі надрукаваны.*

*Сярод знойдзеных матэрыялаў асаблівую цікавасць прадстаўляюць арыгінальныя, яшчэ нідзе не надрукаваныя рукапісы мастацкіх твораў на беларускай мове: 1) "Панская ласка" – ананімная паэма аб прыгонніцкім ладзе, у якой даецца рэзкая крытыка паноў-прыгоннікаў; 2) "Воскресенне христово и сошествие его в ад" – ананімны парадыйны твор, які нагадвае сабою беларускую паэму "Тарас на Парнасе". Калі ў паэме "Тарас на Парнасе" парадыруюцца грэчаская і рымская міфалогія і дваранскія густы, дык у гэтым творы рэзка высмейваецца біблія, крытыкуецца рэлігія»*[3].

Ларчанка і Фіглоўская нават не ўспомнілі «Чортаву сілу», але, відавочна, гаворка і пра яе, пра Альхімовічаў зборнік. Аднак і гэтым разам паэме не пашанцавала. Ну ніяк не мог быць надрукаваны ў 1939 г. твор інфернальнай тэматыкі, ды яшчэ прасякнуты рэлігійнай дыдактыкай. Ад тае пары паэма і стала забытай. Толькі аднаго разу ў 1957 г. пра яе ўспомніў В. Барысенка, і нават працытаваў, пастараўшыся знайсці самую сацыялагічную страфу:

*«У вершаваным апавяданні "Чортава сіла" скрозь дэманалагічную фантастыку выступаюць рысы рэальнай прыгонніцкай рэчаіснасці. Міфічны вобраз "нячыстай сілы" служыць тут увасабленнем соцыяльнага зла. У намерах міфічнай істоты заняволіць "праведных" людзей выяўляюцца жыццёвыя імкненні эксплуататарскага класа сучаснага аўтару прыгонніцкага грамадства:*

Людзьмі стану упраўляць
І падаткі[4] накладаць...

---

[1] Зеленинъ, Д. К. Описаніе рукописей Ученаго архива Императорскаго русскаго географическаго общества. Вып. 1. – Петроградъ, 1914. С. 135. (Апісанне зборніка паводле Зяленіна: «Протасій Өедоровічъ Альхимовичъ, Сборникъ бѣлорусскіхъ народныхъ легендъ, былинъ и пѣсенъ, съ описаніемъ нѣкоторыхъ обрядовъ, обычаевъ, праздниковъ и игрищъ крестьянъ Себежскаго уѣзда. 284 стр. въ четверку и препроводительное письмо въ Общ. отъ 12 дек. 1892 г. Рукопись 1882–1890 г. Авторъ – непрѣменный членъ крестьянскаго присутствія, жительствующій в гор. Люцинѣ».)

[2] Шлюбскі, А. Этнаграфічная дзейнасьць Е.Р. Раманава // Запіскі Аддзелу гуманітарных навук. Кн. 2: Працы клясы філялёгіі. Т. 1. – Менск, 1928. – С. 361–362.

[3] Ларчанка, М., Фіглоўская, Л. Новыя матэрыялы аб беларускай літаратуры XIX стагоддзя // Літаратура і мастацтва. 1939. 9 сакавіка (№ 13). – С. 4.

[4] У арыгінале не падаткі, а пяцаткі.

А хто мне не пакарыцца,
Будзіць той ў смале тапіцца»[1].

Адкуль аўтар манаграфіі ўзяў гэтую цытату – невядома, можа, М. Ларчанка падзяліўся. Мабыць, Барысенка ўсё ж не працаваў у архіве, бо не толькі не падаў архіўнага адрасу твора, але вельмі прыблізна пазначыў месца яго захоўвання[2] і нават недакладна расчытаў.

Што становіць сабой паэма? Гэта твор невядомага аўтара, напісаны паводле фальклорных матываў. У даведніку ўсходнеславянскіх казкавых сюжэтаў паводле сістэмы Аарнэ-Томпсана гэты сюжэт значыцца як «Ланцуг Сатаны» (СУС 803): *«Хрыстос вызваляе з пекла грэшнікаў, але пакідае там цара Саламона, той прыкоўвае Сатану (Люцыпара) да ланцуга, які той няспынна грызе, аднак штогод пасля Вялікадня ён робіцца такі самы»*[3].

Сюжэт вядомы і ў Беларусі, і ў Украіне, і ў Расіі. Улічваючы тое, што паэма паходзіць з паўночна-ўсходніх беларускіх ускраін, дзеля параўнання цікава паказаць геаграфічна блізкую і ў той жа час этнічна далёкую версію пад назваю «Саламон у пекле», запісаную аж у Эстоніі – часткова на эстонскай, а часткова на рускай мове (у перакладзе на беларускую мову):

*«Хрыстос пайшоў бурыць пекла. Процьма народу сядзіць там. Хрыстос выпускае народ, а Саламону кажа: “Ты з сваёй хітрасцю сам выйдзеш”. Саламон застаўся і стаў намаўляць грэх: “Зробім мы такі моцны ланцуг, каб пасадзіць на яго Хрыста”. (Трэскі ад працы ў нядзелю ідуць на ланцуг, які чорт куе для Хрыста.* – Заўв. ў запісе*). Грэх двойчы спрабуе разарваць ланцуг, і той распадаецца. За трэцім разам Саламон ціха кажа: “Амін”. І стары грэх застаецца на ланцугу. Чэрці носяць трэскі ад працы ў нядзелю, каб растапіць ланцуг. Але калі прыходзіць Вялікдзень, ланцуг зноў робіцца моцным»*[4].

Супраць гэтага просценькага эпізоду з народнай Бібліі паэтычны твор невядомага аўтара больш разгорнуты, расквечаны аўтарскай фантазіяй, але сюжэтная аснова ў яго тая самая. Цешыць тое, што перад намі мастацкі твор у поўным значэнні гэтага слова, не чарговая публіцыстычная паэма-гутарка (што таксама няблага), а шчырая паэма-балада, паэма-казка, якімі не часта цешыла нас літаратура XIX ст. Пра час напісання паэмы ніякіх дадатковых звестак няма, але можна меркаваць, што пісалася яна ў другой палове XIX ст., можа, нават у канцы. Верш яе – лёгкі, мова – без усякіх архаізмаў, захаванаць – проста ўзорная. Наўрад ці яна ляжала нечапанай і нікому невядомай цэлае стагоддзе і чакала свайго часу.

Першае, што кідаецца ў вочы ў «Чортавай сіле», – налёт рускай літаратурнай традыцыі, перадусім пушкінскай стылістыкі. Не, гэта не перайманне гатовага, і ў той жа час нешта большае, чым звычайны ўплыў. Параўнайма: *А орешки не простые, // Все скорлупки золотые...* (А.С. Пушкін «Сказка о царе Салтане»). І ў «Чортавай сіле»: *І гара-та не прастая, // Ўся жалезам абвітая...* Тут аўтар выкарыстоўвае пушкінскую традыцыю так, як у фальклоры выкарыстоўваюцца формулы – з гатовых блокаў мантуе новы сюжэт. Прычым камбінуюцца не толькі блокі, але і асобныя словы ў блоках. А з іншага боку, невядомы беларускі аўтар як бы адгадвае «Залатую гару» рускага паэта XX ст. Юрыя Кузняцова, з якой

---

[1] Барысенка, В. Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. – Мінск, 1957. – С. 22.

[2] Барысенка зрабіў зноску: «Твор «Чортава сіла» захоўваецца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук СССР у Ленінградзе». У той час РГТ сапраўды ўваходзіла ў НАН СССР, але паводле такой спасылкі знайсці паэму не прасцей, чым голку ў стозе сена.

[3] Сравнительный указатель сюжетов: Восточнославянская сказка. – Л., 1979. – С. 202.

[4] ERA, Vene 1, 369/70 (5). Setumaa, Järvesuu v., S-Kuuliski k. Paul Voolaine (1929) Sisestas Salle Kajak 2018. (Выказваю падзяку Алене Боганевай за ўзычаны матэрыял.)

супадаюць некаторыя матывы «Чортавай сілы». Можна сказаць, традыцыя сама водзіць рукою паэтаў.

Другая стыхія, якая пануе ў паэме – дыялектная, тут ёсць усе рысы паўночна-ўсходняга дыялекту з характэрным для яго дысіміляцыйным аканнем: *пыпярогъ, заслыняиць, пыважаць, пылаживъ, зашлёпывъ, ня|рушь* (але *ни|замай*), гіпермяккім *[r']*: *хрёстъ*, і нават такой рэдкай з'явай, як цоканне: *пицатки*. На жаль, адаптацыя да сучаснага правапісу не дазваляе паказаць, як добра валодаў аўтар тонкасцямі гаворак Себежскага павета, перадаючы на пісьме нават асіміляцыйнае памякчэнне: *бьесся*. Элементы мясцовага кансанантызму, марфалагічныя і лексічныя асаблівасці паэмы мы пастараліся захаваць як мага больш поўна. Некаторыя рысы маўлення падобныя да рускага – не вынік кепскага ведання аўтарам беларускай мовы, а натуральныя ўласцівасці себежскае гаворкі. Не трэба ж забывацца, гэта самая ўскраіна беларускай этнічнай тэрыторыі, на сённяшні дзень – тэрыторыя Расіі. З іншага боку, у паэме можна сустрэць слоўцы, якія далёка не кожны з нас ведае: *пырыцца, туравіць*, і якія не шкодзіла б ужываць і ў літаратурнай мове.

Хто ж быў аўтарам паэмы «Чортава сіла»? Думаю, усякая спроба адказаць на гэтае пытанне будзе гаданнем. Пакуль што мы не маем нават намёку на аўтарства. І толькі шчаслівы выпадак, знаходжанне новых фактаў можа крыху праліць святло на прыналежнасць паэмы. Пэўна можна сказаць толькі тое, што аўтар «Чортавай сілы» не меў дачынення да польскай традыцыі, наадварот, ён атрымаў рускую адукацыю, добра ведаў рускую літаратуру, паходзіў з паўночнага ўсходу Беларусі, мажліва, з таго ж Себежскага павета, добра валодаў беларускай гутарковай мовай. Хутчэй за ўсё, асабліва калі ўлічыць ідэалогію твора, ён належаў да духоўнага стану.

Колькі слоў варта сказаць пра зборнік, дзе захоўваецца «Чортава сіла» і яго ўкладальніка. Гады жыцця Пратасія Фёдаравіча Альхімовіча невядомыя, вядома толькі тое, што ён належаў да праваслаўнага веравызнання, скончыў Полацкую духоўную семінарыю, меў ранг калежскага, а потым стацкага саветніка, узнагароджваўся ордэнамі Св. Станіслава і Св. Ганны трэцяй ступені. У Себежскі павет прыехаў з Віцебска ў 1882–1883 гг., а з 1890 па 1914 гг. жыў і працаваў чыноўнікам у Люцыне (цяпер тэрыторыя Латвіі)[1]. Альхімовіч, працуючы ў розных мясцовасцях, актыўна збіраў фальклор і дасылаў у Рускае геаграфічнае таварыства, іншыя ўстановы. Быў ён і адным з карэспандэнтаў Е.Р. Раманава. Не сказаць, каб Раманаў быў вельмі задаволены карэспандэнтам з Себежа, ён пакінуў цікавае сведчанне пра зборы Альхімовіча: «Даставіў шмат сваіх назіранняў, але, на жаль, надаў ім паўбелетрыстычную форму, пры якой цяжка адрозніць народныя творы ад псеўданародных»[2].

У звязку з апошняй заўвагай узнікае думка: калі Пратасій Альхімовіч меў схільнасць апрацоўваць фальклор, то ці не мог ён надаць народнаму сюжэту і вершаваную форму, інакш кажучы, быць аўтарам паэмы «Чортава сіла»? Тым больш, што асаблівасці маўлення не супярэчаць такому дапушчэнню. Выснова наколькі лагічная, настолькі небяспечная ў сваёй прастаце. Так шмат якіх збіральнікаў можна залічыць у аўтары, што і рабілася не раз, але без асаблівага поспеху. Ні давесці, ні аспрэчыць такое меркаванне нельга, калі няма іншых фактаў. Больш таго, у зборніку апрача фальклорных твораў змяшчаюцца і іншыя аўтарскія, якія ніяк не маглі належаць Альхімовічу – тое ж «Уваскрасенне Хрыстова», версію якога задоўга да Альхімовіча ведаў І. Насовіч[3].

---

[1] Мармыш, Т. Легенды Себежаўшчыны ў запісах П. Ф. Альхімовіча // Беларускі фальклор: Матэрыялы і даследаванні. – Мінск, 2019. С. 305–308.

[2] Романовъ, Е. Р. Бѣлорусскій сборникъ. В 9 вып. Вып. 8. – Вильна, 1912. С. 598.

[3] Бѣлорусскіе пѣсни, собранныя И. И. Носовичемъ // Записки Имп. Русск. геогр. об-ва по отд. этн. – СПб., 1873. Т. V. С. 86–89. Украінская ж версія «Уваскрасення Хрыстова» ўзнікла нібыта яшчэ ў XVIII ст.

Разважаючы такім спосабам, мы можам патрапіць у сітуацыю І. Цішчанкі, які прыпісваў Насовічу апублікаваныя Насовічам жа творы, сярод якіх былі і такія, што не маглі належаць публікатару, і такія, дзе публікатар сапраўды можа разглядацца як гіпатэтычны аўтар[1]. Сама кепска тое, што ў абедзвюх сітуацыях, і ў Цішчанкі з Насовічам, і ў нас з Альхімовічам, нельга правесці дакладнай мяжы паміж меркаваным аўтарам і вядомым нам збіральнікам. З іншага боку, суседства твораў магло быць невыпадковым. І менавіта «Уваскрасенне Хрыстова» магло натхніць збіральніка, паслужыць узорам для новага твора, як «Энеіда навыварат» відавочна натхняла аўтара «Тараса на Парнасе». Так ці інакш, ідэю аўтарства Альхімовіча я агучваю хутчэй як перасцярогу, чым як гіпотэзу, якой можна даваць веры, бачачы ў ёй пакуль што спакусу для мыслення, не абцяжаранага строгасцю довадаў.

Свой зборнік Альхімовіч абачліва перапісаў некалькі разоў і разаслаў па розных адрасох (можа таму ён і захаваўся). Мы не ведаем колькі ўсяго было копіяў, але дакладна вядома, што адна з іх захоўваецца ў Пецярбургу ў Рускім геаграфічным таварыстве (паводле якой і публікуецца тэкст паэмы)[2], а адна ў Кіеве ў Нацыянальнай бібліятэцы Украіны імя В.І. Вернадскага[3]. Інфармацыю пра «Чортаву сілу» па каліве збіраў Вячаслаў Мартысюк, спачатку ён звярнуў увагу на допіс Ларчанкі і Фіглоўскай, потым – на цытату Барысенкі. Вывучаючы бібліяграфічныя даведнікі, даследнік вызначыў больш вядомы пецярбургскі адрас зборніка, а ў апошні момант знайшоў і мала каму вядомы кіеўскі.

Альхімовічаў зборнік, які знайшоўся ў Кіеве, гэта, відавочна, той самы, пра які пісаў А. Шлюбскі: «Захоўваецца ў архіве Катэдры Этнографіі Інстытуту Беларускае Культуры»[4]. Мабыць, пасля вайны, калі з Германіі вярталі нарабаваныя архіўныя матэрыялы, ён і патрапіў у Кіеў, а не ў Мінск, адкуль быў вывезены. А Інбелкульт хутчэй за ўсё атрымаў зборнік з асабістага архіву Е. Раманава разам з 11–14-м тамамі і лістамі, якія захоўваліся ў сям'і, бо падрыхтаваныя да друку матэрыялы 15-га тома, як вядома, прапалі ў Стаўрапалі.

Даступіцца да архіваў геаграфічнага таварыства вельмі няпроста, таму мы з Вячаславам Мартысюком спрабавалі атрымаць копію з украінскага боку, але капіяванне ўсяго зборніка вымагала немалых грошай. Урэшце, справу дапамагла развязаць Тацяна Зямскова, якая жыве і вучыцца ў Пецярбургу (і, дарэчы, вывучае гісторыю беларускага ямба). На маю просьбу яна зрабіла копію старонак паэмы ў Рускім геаграфічным таварыстве, за што і выказваю ёй шчырую падзяку.

Сёлета ў выданні «Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні» былі апублікаваныя легенды са зборніка Альхімовіча, скапіяваныя яшчэ ў 1960-я гг. А. Гурскім[5], Т. Мармыш у прадмове да публікацыі змясціла ўсю вядомую на сённяшні дзень інфармацыю пра збіральніка. Але на гэтым не можа быць пастаўленая кропка. І першай справаю варта дабіцца таго, каб у Беларусі была поўная копія зборніка Альхімовіча. Маючы яго перад вачыма, можна прымяркоўваць тэксты і рабіць больш грунтоўныя высновы.

---

[1] Цішчанка, І. Хто аўтар ананімнай паэмы? // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1984. № 3. – С. 22–23.

[2] НА РГО, разр. 5, оп. 1, № 7, об. 36 – об. 39.

[3] Інститут рукопису Національної бібліотеки України імені В.І. Вернадського (ІР НБУВ). Ф. 389. Колекція документів з історії та культури Білорусі. 24 од. зб., 1848–1939 рр.

[4] «Сборник белорусских народных легенд, былин и песен, с описанием некоторых обрядов, обычаев, праздников и игрищ крестьян Себежского уезда Витебской губернии» (1882–1890). (Архіви, колекції та зібрання державних, громадських та релігійних установ у фондах Інституту рукопису Національної бібліотеки України імені В.І. Вернадського: путівник. – К., 2015. – С. 236.)

[5] Беларускі фальклор. – С. 309–318.

Што цікава, да зборніка Альхімовіча ў савецкі час фальклярысты звярталіся не раз, спасылкі на яго можна сустрэць у кнігах серыі «Беларуская народная творчасць»[1], аднак паэма праходзіла міма іх вачэй, як быццам яе і няма. Вячаслаў Мартысюк лічыць, што адмыслова зробленыя мікрафільмы недзе ўсё ж захоўваюцца ў Акадэмічнай бібліятэцы, але іх таксама трэба знайсці. Трэба шукаць самую розную інфармацыю пра паэму (а раптам нехта спамянуў аўтара!) і больш поўныя звесткі пра Пратасія Альхімовіча. Незалежна ад таго, як яго маем успрымаць, як збіральніка ці як пісьменніка. У наш час фальклярыстычная дзейнасць усё часцей пачынае вывучацца як форма пісьменства[2]. У такім ракурсе цікавымі становяцца не толькі тэксты і асоба інфарматара, але і асоба збіральніка, сам спосаб збірання і запісвання.

### *ЧОРТОВА СИЛА*

Мужикъ лысый, дзѣдъ Пахомъ,
На кабылу сѣвъ вярхомъ.
Ѣхавъ, ѣхавъ, ажъ глядзиць,
Пыпярогъ гара стаиць. –
И гара – та не прастая,
Вся жал̀ѣзомъ абвитáя,
Вéрхомъ въ небо упираиць,
Крáсно – сóлнца заслын̀яиць.
Злѣзъ съ кабы́ли дзѣдъ Пахомъ,
Начавъ биць гарý калóмъ:
Ты гарá, гара бальшáя,
Мѣста взяла на два края,
Прочь зъ дарóги атвярнися,
Прида мною раступися!
Якъ взгавóриць вдругъ гара:
За што бьесся старына?
За што цябѣ пыважаць,
За што зъ мѣста зварачаць?
А за то, што паспѣшаць
Треба, Христа сустрѣчаць!
Затраслася, затрищала
И развинулась гара…
На кабылу, старый, сѣвъ,
На дарогу пыглядзѣвъ,
Хрёстъ на перси пылаживъ,
И лягонька пытрусивъ. –
Съ права, зъ лѣва всё сцина,
А дарожинька длинна. –
Свѣту Божжаго ня видно,
Духу вольнаго ня слышно;
Пахнуць сѣрой, ды смалой,
Ды чартовской гылавней. –

### *ЧОРТАВА СІЛА*

Мужык лысы, дзед Пахом,
На кабылу сеў вярхом.
Ехаў, ехаў, аж глядзіць,
Папярок гара стаіць.
І гара-та не прастая,
Ўся жалезам абвітая,
Верхам ў неба упіраець,
Красна сонца засланяець.
Злез з кабылі дзед Пахом,
Начаў біць гару калом:
– Ты гара, гара бальшая,
Места ўзяла на два края,
Проч з дарогі адвярніся,
Прада мною расступіся!
Як ўзгаворыць ўдруг гара:
– За што б'ешся старына?
За што цябе паважаць,
За што з места зварачаць?
– А за то, што паспяшаць
Трэба Хрыста сустрачаць!
Затраслася, затрашчала
І развінулась гара...
На кабылу стары сеў,
На дарогу паглядзеў,
Хрост на персі палажыў,
І лягонька патрусіў.
Справа, злева ўсё сцяна,
А дарожанька длінна.
Свету Божага не відна,
Духу вольнага не слышна;
Пахнуць серай, ды смалой,
Ды чартоўскай галаўнёй.

---

[1] Гл. прыкл.: Беларускі народны тэатр. – Мінск, 1983. – С. 490.

[2] Кикас, К. Собирание фольклора как народная письменность: Становление социальной позиции письма в Эстонии 1890-х гг. // Миссия выполнима: Перспективы изучения фольклора. – Тарту, 2018. – С. 17–40.

Слышно стало, вдругъ, Пахому,
Старцу лысому сивому,
Бразнувъ бытца хто цыпями,
Страшно ляскаць ставъ зубами
И зашлёпывъ такъ грыбами,
Якъ сто коній капытами,
Тавкуць глину на трасини,
Намащеной изъ асины.
Глядзь: ажъ зъ лѣваго стигна,
Стаиць чёрна сатана;
Товсты́мъ цапо́мъ абвита́
И смалою залита. –
Сѣра зъ вушъ, зъ ноздрей валиць,
Пыдъ зубами цепь тращиць. –
Пахомъ смерци нибаявся,
За што чёрта ниспужався,
Хрестомъ Божжимъ асянився
Дый на чёрта напусьцився:
Што тутъ ро́бишь сатана?
Чи няхочишь ты хреста?
Зубы съ цѣ̀па чёртъ узнявъ,
И Пахому такъ сказавъ:
Няру́шь миня, низама́й,
Грызци цѣ̀па нимишай;
Мнѣ стае́цца ча́су мало,
Штобъ цѣпа́ маго ниста́ло;
Кали́ вспѣ̀ю пирагрызць
И съ сибя йё спусциць,
Пакуль церквы нитопруць,
Христовъ дзень низапаюць, –
Тады выду я атцюль,
Забяру маихъ казюль,
Людзьми стану управляць
И пицатки накладаць…
А хто мнѣ нипакаритца,
Будзиць той въ смалѣ тапитца. –
Буду рѣзаць на куски,
Косьци гнуць на палазки,
Кожу драць на мутузки. –
Астану́тца на зямли́
Зъ маи́мъ и́мемъ на чали́
Жыдъ, татаринъ, ды цыганъ,
И ня будзиць хрисціянъ.
Калишъ людзи упрыжаць –
Христосъ васкрёсъ засипаваць
Труды маи прыпадаюць
Но́ву цѣпь мнѣ накладаюць:
И знова цѣлый годъ
Прикладаю къ цѣпу ротъ
И грызу яго зъ всей мочи
Цѣлы дни и цѣлы ночи;

Слышна стала ўдруг Пахому,
Старцу лысаму сівому,
Бразнуў быцца хто цапямі,
Страшна ляскаць стаў зубамі
І зашлёпаў так грыбамі[1],
Як сто коней капытамі,
Таўкуць гліну на трасіне,
Намашчонай із асіны.
Глядзь – аж з левага сцягна,
Стаіць чорна Сатана;
Тоўстым цапом[2] абвіта
І смалою заліта.
Сера з вуш, з наздрэй валіць,
Пад зубамі цэп трашчыць.
Пахом смерці не баяўся,
За што чорта не спужаўся,
Храстом Божым асяніўся
Дый на чорта напусціўся:
– Што тут робіш сатана?
Чы не хочаш ты храста?
Зубы з цэпа чорт узняў,
І Пахому так сказаў:
– Не руш мяня, не замай,
Грызці цэпа не мяшай;
Мне стаецца часу мала,
Штоб цапа майго не стала;
Калі ўспею перагрызць
І з сябя яё спусціць,
Пакуль цэрквы не 'дапруць[3],
Хрыстоў дзень не запаюць –
Тады выйду я адсюль,
Забяру маіх казюль[4],
Людзьмі стану упраўляць
І пячаткі накладаць...
А хто мне не пакарыцца,
Будзець той ў смале тапіцца.
Буду рэзаць на кускі,
Косці гнуць на палазкі,
Кожу драць на мутузкі.
Астануцца на зямлі
З маім імем на чалі
Жыд, татарын, ды цыган,
І не будзець хрысціян.
Калі ж людзі упражаць[5],
«Хрыстос васкрос!» заспяваць –
Труды маі прыпадаюць
Нову цэп мне накладаюць.
І знова <я> цэлы год
Прыкладаю к цэпу рот
І грызу яго з ўсей мочы
Цэлы дні і цэлы ночы,

Штобъ работу заканчиць
И атсюля ускачиць,
Ко Христовому приходу;
Бо повставши Ёнъ изъ гробу,
Пройдзиць звѣсную дарогу
И придзець въ маю бярлогу;
Миня свѣтомъ убиваиць
Новой цѣпью абвиваиць!
Пыглядзѣвъ таты Пахомъ,
Скольки грызино чартомъ,
Пыглядзѣвъ ёнъ и вжахнувся
И атъ чёрта атшатнувся;
Цѣпь танюсинька на ёмъ,
Завтра, мусиць, кончиць днёмъ!
Слава Богу! гэта ночь
Скоро зайдзиць зы павночь,
Рано ву́тромъ попъ прыдзёць,
Церкву Божжу атапрёць,
Гробъ Христовъ ёнъ пынясе́ць,
Христосъ васкрёсъ запяе́ць;
Народъ зъ радосци пыдхвациць,
Чёртъ атселя неускачиць…
Такъ абдумавши Пахомъ,
Вдаривъ чёрта кулакомъ.
И сказавъ: няпырся зломъ,
Ни барися со Христомъ!
Народъ Бога панимаиць,
Цибя вѣкъ ёнъ приклинаиць. –
Пакуль зъ Богомъ будзимъ жиць,
Патуль табѣ зубъ нудзиць. –
Воля Божжія придзець,
Жидва къ табѣ атайдзець. –
Мацирь Божжія придзець, –
Хрисьціянъ съ сабой вазьмець.
Разазлився сатана,
Вскалахнулася сцина,
Пѣ̀ну зъ гу́бы ёнъ пусьци́въ
Цѣпь зубами ухвацивъ. –
Кровъ зъ зубо́въ яго́ плыве́ць,
Сѣ̀рный дымъ зъ наса́ идзе́ць,
А ёнъ цѣпь грызець, грызець,
И руками иё гнець…
А тымъ ча́сомъ, дзѣдъ Пахомъ,
Зла́ивъ чёрта лютымъ псомъ,
Туравивъ во свой приходъ,
Павясциць скарѣй народъ,
Што-бы це́ркву аткрывали,
Христа – Бога пыднимали,
Ягу славу величали;
А черта́ бы проклинали. –
Зъ гары выѣхавъ Пахомъ,
Глядзь – ажъ тутъ и Божжій домъ!

Штоб работу заканчыць
І адсюля ускачыць,
Ка Хрыстовому прыходу,
Бо паўстаўшы Ён із гробу,
Пройдзець звесную дарогу
І прыдзець ў маю бярлогу;
Мяня светам убіваець,
Новай цэп’ю абвіваець!
Паглядзеў тады Пахом,
Сколькі грызена чартом,
Паглядзеў ён і ўжахнуўся
І ад чорта адшатнуўся.
Цэп танюсенька на ём,
Заўтра, мусіць, кончыць днём!
Слава Богу! Гэта ноч
Скора зайдзець за паўноч,
Рана вутрам поп прыдзёць,
Цэркву Божу адапроць,
Гроб Хрыстоў ён панясець,
«Хрыстос васкрос!» запяець;
Народ з радасці падхваціць,
Чорт адселя не ускачыць...
Так абдумаўшы, Пахом,
Ўдарыў чорта кулаком.
І сказаў: – Не пырся[6] злом,
Не барыся са Хрыстом!
Народ Бога панімаець,
Цябя век ён праклінаець.
Пакуль з Богом будзем жыць,
Патуль табе зуб нудзіць.
Воля Божая прыдзець,
Жыдва к табе адайдзець.
Мацер Божая прыйдзець,
Хрысціян з сабой вазмець.
Разазліўся Сатана,
Ўскалыхнулася сцяна,
Пену з губы ён пусціў,
Цэп зубамі ухваціў.
Кроў з зубоў яго плывець,
Серны дым з наса́ ідзець,
А ён цэп грызець, грызець,
І рукамі яё гнець...
А тым часам, дзед Пахом,
Злаяў чорта лютым псом,
Туравіў[7] ва свой прыход,
Павясціць скарэй народ,
Штобы цэркву адкрывалі,
Хрыста-Бога паднімалі,
Ягу славу велічалі;
А чарта бы праклінаалі.
З гары выехаў Пахом,
Глядзь – аж тут і Божы дом!

Гара съ шумомъ прывалилась,
И балота встанавилось.
Съ таго году дзѣдъ Пахомъ,
Ѣздзивъ въ церкву всё вярхомъ,
Христа Бога выхвалявъ,
Пасты крѣпко сыблюдавъ,
И гарелки нивживавъ, –
Дзень вяликій ажидавъ. –
Кажный годъ ёнъ туравивъ,
Штобъ попъ службы ниспазнивъ,
А намъ то́е завищавъ,
Штобъ пра гэто всякій знавъ.

Гара з шумам правалілась,
І балота ўстанавілась.
С таго году дзед Пахом,
Ездзіў ў цэркву ўсё вярхом,
Хрыста-Бога выхваляў,
Пасты крэпка саблюдаў,
І гарэлкі не ўжываў –
Дзень Вялікі ажыдаў.
Кажны год ён туравіў,
Штоб поп службы не спазніў,
А нам тое завяшчаў,
Штоб пра гэта ўсякі знаў.

*Расшыфраваў Вячаслаў МАРТЫСЮК.*
*Падрыхтаваў да друку Юры ПАЦЮПА.*

---

[1] *Грыбы* – тут: губы.
[2] *Цэп* (рус. *цепь*) – ланцуг; тут цэп мужчынскага роду, але далей у тэксце – жаночага.
[3] *Казюля* – рагатка; тут: чорт.
[4] *...не 'дапруць* – ...не адапруць.
[5] *Упражыць* (рус. *упредить*) – апярэдзіць.
[6] *Пырыцца* – надзімацца.
[7] *Туравіць* – спяшацца; падганяць.

Анатоль Сыс



...мяне не білі рукаяткай пісталета па галаве,
мяне не палохалі, здзекуючыся, Курапатамі...

# Хто ж ён, Анатоль Сыс?

***Гутарка Алеся Ліпая і Анатоля Сыса***

***Да 60-годдзя Анатоля Сыса "Дзеяслоў" друкуе адно з першых ягоных інтэрв'ю, якое ён даў журналісту газеты "Знамя юности" Алесю Ліпаю ў кастрычніку 1988 года. Інтэрв'ю павінна было выйсці напярэдадні першых "Дзядоў", якія планавалі правесці "Тутэйшыя", і было своеасаблівай прыхаванай абвесткай. Зразумела, у той час у такім выглядзе інтэрв'ю з'явіцца не магло. Але само жаданне зрабіць яго і паспрабаваць надрукаваць выклікае павагу да аўтараў – маладых паэтаў. Ужо няма побач з намі і Алеся Ліпая. Але развагі і думкі, выказаныя 30 гадоў таму, хвалююць нас і сёння...***

Амаль што ўвесь тыраж паэтычнага зборніка Анатоля Сыса "Агмень", выдадзенага нядаўна ў серыі "Бібліятэка часопіса "Маладосць", раскуплены за некалькі тыдняў. Для першай кнігі, асабліва беларускай, поспех небывалы за апошнія год дваццаць. Праўда, імя аўтара даволі шырока вядомае, і не толькі па публікацыях яго вершаў у газетах і часопісах. Многія ведаюць Анатоля як аднаго з арганізатараў моладзевага літаратурнага аб'яднання "Тутэйшыя" пры СП БССР. І ў гэтай ролі погаласка малюе яго як таго, хто не паважае традыцыі і некаторых літаратараў старэйшага ўзросту, якія адно толькі спявалі дыфірамбы і замоўчвалі хваробы грамадства. "Прыкарытныя" – так іх ахрысцілі "Тутэйшыя" ў сваім "Маніхвэсьце".

Але чуткі – паняцце, якое аніяк не гарантуе пэўнасць. Хто ж ён, Анатоль Сыс? Пра гэта, думаецца, лепш спытаць у яго самога.



*Алесь ЛІПАЙ.*

– Пакуль быў жывы мой бацька, я яго вельмі любіў, але даволі рэдка я даваў яму магчымасць гэта адчуць. Ёсць у мяне такая рыса характару – жорсткасць, якая ўжываецца з сентыментальнасцю. Бывае, калі ідуць вершы, ваяўнічыя вершы, я адчуваю адчай, адчай да слёз... Не, я плачу не па сабе, а па загубленых пакаленнях творцаў...

Каго любіць? Радзіму? Але Радзімай для мяне заўсёды быў падпіты бацька. І той час, калі ён жыў – таксама Радзіма. Каго любіць? Прэзідэнта АН БССР Івана Навуменку? За тое, што ён мяне і маіх таварышаў па "Тутэйшых" літаральна выкінуў на праезную частку сталіцы з актавай залы Акадэміі, дзе прагнулі нас пачуць. Ці не так у свой час абышліся з першым прэзідэнтам гэтай жа Акадэміі Ігнатоўскім, а таксама з Ластоўскім, з Лёсікам... У мінулым годзе – з паэтам і філосафам Алегам Бембелем. З партыі і працы – толькі за тое, што нехта ў Лондане выдаў яго філасофскае даследаванне "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс". Але ж ён перад тым прыніжаўся, абіваючы парогі нашых выдавецтваў. Адкінулі. Разам з прадмовамі і пасляслоўямі Караткевіча, Панчанкі, Барадуліна.

Хто ж ён, Анатоль Сыс? Можа, адзін з прэтэндэнтаў быць выгнаным? Мяне пакуль не цягалі на допыты, мяне не білі рукаяткай пісталета па галаве, мяне не палохалі, здзекуючыся, Курапатамі... Таму я не асуджаю бацькоў, але і не шукаю для іх апраўдання. Майго бацьку загубіла гарэлка. Але яго пакаленне труцілі яшчэ больш жахлівымі наркотыкамі, імя якім касмапалітызм, ці прагнілы інтэрнацыяналізм, кар'ерызм, культ жывата і азадка...

Што загубіць мяне... нас – нашых дзяцей? Дык любіце нас такімі, якімі стварылі, дык маліцеся за нас – пісьменнікі, навукоўцы, партыйныя работнікі – калі вы сапраўды любіце Беларусь.

***– Калі ўжо ты згадаў пра "Тутэйшых", пра іх і будзе маё наступнае пытанне. Лічу, што рэдкі чытач ведае пра дзейнасць таварыства, газеты даносяць да яго толькі спрэчкі вакол вашай пазіцыі. Распавядзі, якія задачы перад сабой ставяць "Тутэйшыя", чым канкрэтна займаюцца?***

– "Літаратура – гэта Бацькаўшчына" – з гэтых словаў пачынаецца наш "Маніхвэст". Мы не чыста літаратурнае аб'яднанне. Тлумачыцца гэта тым, што ў свой час, то бок два гады таму, мы "адпачкаваліся" ад "Талакі", узяўшы з сабой пэўны досвед у справе ажыўлення, а лепш сказаць, рэанімацыі беларусаў.

Няхай я або нехта іншы з “Тутэйшых”, дапусцім, Міхась Скобла, не дачытаемся вершаў, але гэта кампенсуецца ў некалькі разоў нашымі паходамі “ў народ”. Не буду казаць за ўсіх “Тутэйшых”, скажу за сябе: у мінулым месяцы правёў два ўрокі роднай літаратуры ў другім беларускім класе сярэдняй школы нумар 20. Першага кастрычніка выступаў перад калгаснікамі і гасцямі Крошына на адкрыцці гісторыка-мастацкага музея ў мясцовым адрэстаўраваным касцёле. Разам з беларускай рок-групай “Мроя” быў тры дні ў Львове па запрашэнні “Лэвы”, самай моцнай адраджэнскай арганізацыі на Украіне. Цяпер мы рыхтуем сумесна з “Талакой” мітынг, прысвечаны памяці нашых продкаў – “Дзяды”.

Па традыцыі мітынг планавалася правесці 1 лістапада каля помніка Янку Купалу. Але ў гэтым годзе ў гаркаме партыі нам адмовілі, спаслаўшыся на тое, што там у гэты ж дзень будуць праводзіцца Дні Брэсцкай вобласці і адзначэнне “Дзядоў” не адпавядае намечанай праграме. А “Дзяды” ж на гэты раз будуць прысвечаныя ахвярам паўстання Кастуся Каліноўскага, сталінскім рэпрэсіям, партызанскай вайне ў Беларусі... Няўжо ўсё гэта абмінула Берасцейшчыну?

Мітынг мы ўсё ж адкрыем 30 кастрычніка ў 11.00 каля ўрочышча Курапаты. Ужо там. Я думаю, мы нікому не будзем перашкаджаць.

Што яшчэ расказаць пра “Тутэйшых”? Калі ўжо размова зайшла пра Дзяды, дык нагадаю, што мінулай восенню мы ўпершыню ў Беларусі зачыталі спіс партыйных, дзяржаўных дзеячаў, пісьменнікаў рэспублікі, якія сталі ахвярамі сталінскіх рэпрэсій. А як нас білі за тое, што мы гэтыя рэпрэсіі назвалі, на наш погляд, самым дакладным словам “генацыд”. І толькі артыкул Васіля Быкава ў “Савецкай Беларусі” спыніў збіццё, а пасля, недзе праз паўгода, і ў Маскве Валянцін Распуцін напісаў, што сапраўды, быў генацыд, генацыд супраць свайго ж народа.

***– Ну, а цяпер – пра тваю “галоўную справу” – творчасць. Анатоль, чаму менавіта “Агменем” ты назваў свой першы зборнік?***

– “Агмень” (“очаг” – па-расейску) – гэта метафара Радзімы. Часцінка маёй Радзімы, якую я насіў у сабе, якая саграваласа мяне падчас службы ў Польшчы. Прычым слова гэта амаль забытае намі. Я знайшоў яго толькі ў “Расейска-Крыўскім (Беларускім) слоўніку” Вацлава Ластоўскага, кнізе рэдкай. Бо адзін з абавязкаў пісьменніка – вяртанне сябе праз вяртанне страчанага народам.

***– Я ведаю, што вершам, якія ўвайшлі ў тваю кнігу, ужо не адзін год. Як ты цяпер, з вышыні большага майстэрства і жыццёвага досведу, да іх ставішся?***

– Амаль што ўвесь “Агмень” напісаны ў 82-84 гадах у арміі. Па іроніі лёсу, менавіта 1983 годам і пазначылі першую старонку кнігі, але пасля знайшлі памылку, выправілі ўжо ад рукі тройку на васьмёрку. Гэта бачна няўзброеным вокам. Як бы там ні было, зборнік выйшаў. Пакуль мне сустрэўся толькі адзін чалавек, які сказаў, што дарма я апублікаваў раннія вершы, маўляў, на гэта ёсць пасмяротны “збор твораў”. Я так не думаю. Стаўлюся да іх, як да маленькіх дзяцей, абдзеленых толькі таму, што яны нарадзіліся раней за мае сённяшнія вершы.

***– Мне падалося, што “Агмень” нібыта распадаецца на дзве часткі. У паэмах, на мой погляд, больш недасказанасці і сімвалізму, чым яны рэзка адрозніваюцца ад вершаў, якія я, напрыклад, прымаю хутчэй, чым “Алаізу” і “Агонь-Птушку”.***

– Я думаю, што ў цябе склалася памылковае меркаванне. “Алаіза” і паэма-абсурд “Агонь-Птушка” – гэта крылы кнігі. Яны вызначаюць яе тон. Яны, у нейкай ступені, – пратэст супраць жорсткасці, якую я сустрэў у арміі, а армія маіх часоў – гэта гусенічная машына, якая падмінае пад сябе ўсё і ўся... Гэтыя паэты – апагей настальгіі па Радзіме (толькі не напішы ў інтэрв’ю “настальгія”, а то ўзнікае асацыяцыя з Вазнясенскім, а яго вершы я не люблю). Скажу лепш – туга, боль, адчай і, разам з тым, разуменне іх непазбежнасці. Так, відаць, павінна быць...

***– А зараз, Анатоль, некалькі пытанняў, на якія, я лічу, ты не адказаў у зборніку, задаўшы іх…***

– Але прабач, паэт не павінен сваё разжоўваць. Іначай ён будзе прапаноўваць чытачу не вершы, а жуйку. І наогул, калі ў краіне таталітарныя парадкі, то паэтаў у ёй рэкамендуецца ізаляваць. Яны, сапраўды, вельмі любяць задаваць пытанні (у дадзеным выпадку я менш за ўсё маю на ўвазе сябе). Бывае, робяцца "нахабнымі". І калі на гэтыя пытанні не адказвае тое, якому па штаце гэта трэба рабіць – адкажа сам народ. І так адкажа...

***– І ўсё ж: "Навошта пра любоў крычаць?" – твой радок?***

– Мой. Усе пачаткоўцы заяўляюць пра сябе патрыётыкай, прычым неглыбокай. Тым больш беларускі паэт – ён не можа асэнсаваць сваю Радзіму на канкрэтным адрэзку беларускай гісторыі. А паэт жа пачынаецца з таленту – як паэт. І як чалавек – з адчування сваіх каранёў. Ён павінен урастаць у зямлю, чытачы павінны ўрастаць разам з ім. У Беларусі ж склалася такая палітычная, грамадская, культурная і моўная сітуацыя, што ў чытача няма патрэбы ісці за сваім нацыянальным паэтам накшталт Разанава, бо аніякай карысці ад гэтага яны не будуць мець. Магчыма, менавіта гэтая сітуацыя і абавязвае крычаць – шчыра, сэрцам крычаць пра любоў да Радзімы. Так, сёння патрэбныя і трыбунныя вершы, каб абуджаць у беларусах беларускае. Паглядзі – на вуліцы шум, лірыку не пачуюць.

***– "Зямля прыгожая кветкамі, моцная дрэвамі" – якая яна табой? – задаю зноў жа тваё пытанне з "Агменя".***

– Калі я стану гноем, тады пабачаць, ці стане мой прах культурным пластом (у археалогіі так называюць пласт зямлі, у якім засталіся матэрыяльныя сведчанні культуры той ці іншай эпохі. – *А.Л.*). Наогул, наша сённяшняе пакаленне, як любое пакаленне Адраджэння, павінна стаць гноем для наступных. Не патрэбна цяпер патрабаваць нараджэння паэта рангу Купалы. Трэба рыхтаваць яго нараджэнне. А можа, ён ужо нарадзіўся недзе пад Чарнобылем і чытае "Буквар", што выпраменьвае радыяцыю.

***– Ці змог бы ты спаліць свае вершы, каб абагрэць дарагога табе чалавека?***

– Змог бы, што я і зрабіў. Дарагі чалавек для мяне – чытач. Я і паліў свае вершы...

***– Ты думаеш, ад агню непрачытаных вершаў чытачу станавілася цяплей?***

– Яму стане цяплей. Я не ведаю, хто гэта сказаў, але ён сказаў, што самае лепшае полымя – полымя спаленых паэтам рукапісаў, бо яно асвятляе яго далейшы шлях.

***– Анатоль, некалькі словаў пра тваю будучую кнігу.***

– "Пан Лес", так яна будзе называцца, зноў жа метафара Радзімы. Але больш глыбокая, больш духоўная, чым "Агмень". Гэта ўжо філасофская праграма. Канечне, на маім узроўні і ўзроўні маладой беларускай паэзіі – праграма для беларуса, які хоча стаць такім, а не быць толькі тутэйшым.

*P.S. ад Анатоля Сыса.* Беларуская мова павінна стаць дзяржаўнай у рэспубліцы. Усе гэтыя праграмы аб развіцці двухмоўя ў Беларусі – гэта працяг той дыверсіі, якую задумаў яшчэ Сталін са сваімі марыянеткамі. Да таго часу мы культурна не будзем размаўляць і ведаць чужую мову, пакуль наша родная не ўрасце ў нашыя целы і душы. Няхай публікацыя маіх вершаў у "Літаратурнай газеце" будзе апошняй. Я забараняю перакладаць сябе на расейскую мову. І толькі калі беларуская мова стане раўнапраўнай сярод моў Саюза ССР – маё завяшчанне страціць сілу. Я хачу, каб беларусы мяне чыталі ў арыгінале!



Валянцін Акудовіч



...Бог не такі шчодры, каб аднаму чалавеку даваць і талент творцы, і талент чалавека...

# "Крыніца" і "Крыніца"

### *З новай кнігі "Трэба ўявіць Сізіфа шчаслівым. (Хронікі беларускага інтэлектуала)"*

*Працяг. Пачатак у №№95-99, 101.*

***

Па сутнасці, часопіс – гэта ягоныя аўтары. Вось чаму ў рэдакцыі няма больш важнай справы, як згуртаваць вакол выдання самых лепшых з тых, што ёсць у наяўным дыскурсе. А паколькі абсалютная бальшыня аўтараў ранейшай "Крыніцы" нам не пасавала, то пачынаць трэба было, лічы, ад пачатку. І першы, інавацыйны, крок у гэтым накірунку быў прапанаваны мной (от жа і люблю хваліцца).

Відаць, тут патрэбная невялічкая прэамбула, якая б патлумачыла, што за савецкім часам было "не прынята" друкавацца ў тых часопісах, у якіх ты працуеш. Так бы мовіць, паводле азначэння. Таму калі мы ў чарговы раз абмяркоўвалі, дзе нам шукаць самых-самых, я нечакана для ўсіх сказаў:

– Пад лаўкай.

Іншымі словамі, ладная частка найбольш адметных тагачасных аўтараў працавала цяпер у нашай рэдакцыі. Таму мая

прапанова была наступнай. Забыцца на савецкую этыку і ўсім друкавацца ў “Крыніцы”.

– І толькі ў “Крыніцы”, – удакладніў сувора, што той Саванарола. – А калі хто здрадзіць, то спаганяць з яго які-кольвечы штраф.

– Валянцін, дазвольце хаця б у газетах друкавацца. Хаця б у “ЛіМе”, – засмяяўся Разанаў.

– У газетах можна, – злагодзіўся весела. – Аднак не самае адметнае і не лішне часта.

Яшчэ трохі павесяліліся, а пасля сышліся ў згодзе – усе разам і без спрэчак. Бо сапраўды, ці не было б гэта дурноццем – раскідваць сваё дабро па розных выданнях, а самім падбіраць ну ніяк ужо не лепшае. І хаця эпоха глабальных пераменаў быццам спрыяла такому радыкальнаму перакруту, дзе нас толькі за гэта потым не чаўплі. Маўляў, друкуюць самі сябе за дзяржаўны кошт.

І тут як бы не выпала пярэчыць. Ды мы і не пярэчылі. Мы проста разумелі, што праз традыцыйную канцэпцыю дзяржаўнага часопіса *для ўсіх* у нас нічога вартага не атрымалася б... Да таго ж крытыкі хутка паменела, а затым яна і ўвогуле амаль счэзла. Бо ўвідавочнілася, што друкуем мы аўтараў адусюль, калі яны *нам* пасавалі. Менавіта *нам*, а не камусьці яшчэ. І нават Някляеў з гэтым нічога не мог парабіць...

Быў адзін выпадак...

Здаецца, не моцна памылюся, калі заўважу, што ўжо пасля года-другога нашай працы друкавацца ў “Крыніцы” зрабілася прэстыжна нават для літаратурных генералаў. Неяк народны пісьменнік Іван Пятровіч Шамякін пры сустрэчы паскардзіўся Някляеву, што яго, народнага пісьменніка, “Крыніца” абмінае ўвагай.

Някляеў вярнуўся ў рэдакцыю і кажа:

– Хлопцы, Іван Пятровіч жаліцца, што вы яго не друкуеце.

Мы абурыліся, замахалі рукамі: не наш ён, не наш – чужы, а яшчэ і бясталентны.

– Затое народны, знакаміты і як чалавек не з горшых. Шкада ж чалавека...

Пасля зацятай дыскусіі вырашылі галасаваць. Калі Іван Пятровіч пераможа, дык хай сабе... Возьмем грэх на душу.

Што праўда, мы ўжо на той душы мелі адзін грэх, толькі з адваротным знакам. Яшчэ за часамі першай “Крыніцы” кіраўніцтва рэдакцыі вымудрыла друкаваць газету “Ласковый май”, да таго ж нейкім шалёным накладам (ну і грошы там закруціліся немаленькія).

Я пра тую гісторыю мала што ведаю, таму і кранаць яе не буду. Скажу толькі, што з-за гэтага “Ласкового мая” Уладзімір Някляеў “в усмерть” рассварыўся з Адамам Глобусам і звольніў таго з працы.

Натуральна, мы ўсе памяталі пра гэтую лютую варажнечу, і хаця Глобус, у адрозненне ад Шамякіна, заставаўся цалкам *нашым*, нікому і да галавы не было прапанаваць яму надрукавацца ў часопісе...

А можа, ніякі гэта быў і не грэх. Бадай, нешта зусім іншае тут было – нешта глыбока чалавечае.

***

Харошых аўтараў шмат не бывае, і кожны новы набытак для рэдактара – свята. Асабліва, калі аўтар яшчэ мала вядомы каму, а ты ўжо адчуваеш: у гэтым хлопцу/дзяўчыне *нешта* ёсць. Дзякаваць Кону, у маёй рэдактарскай долі такіх выпадкаў хапала. Але калі зважаць толькі на “Крыніцу”, дык перад усімі будзе слушна вылучыць Андрэя Хадановіча. Аднак не спяшайцеся думаць пра паэта Хадановіча...

Кажучы мовай канцылярыту, аддзелам замежнай літаратуры ў нас загадваў выбітны празаік і перакладчык Алесь Асташонак (ён працаваў яшчэ ў першай “Крыніцы”). Хаця ад самага пачатку мы гэтую дзялянку апрацоўвалі ўдвох, пакаль-

кі ўся замежная філасофія і культуралогія заставаліся пад маім патранажам. У такой формуле супрацы была і свая рацыянальнасць, бо, скажам, Ніцшэ ці Камю мы маглі прэзентаваць не толькі як філосафаў, але і як літаратараў.

За не такія і доўгія гады існавання часопіса тут было надрукавана мноства выдатных тэкстаў таленавітых аўтараў. Разам з тым, калі зважаць на сістэмную прэзентацыю нейкага дыскурсу ўпаасобку, то, як мне здаецца, замежная літаратура (ва ўсіх сэнсах) была прадстаўленая ў нас найбольш багата і разнастайна. Да таго ж улічым, што раней у Беларусі на беларускай мове яе ўвогуле было вобмаль. А тут бярэмя за бярэмем.

Дзеля неабазнаных яшчэ згадаю, што мы не проста кідалі *іншамземцаў* на старонкі выдання, як сена на воз – навалам. Не. Бальшыня з іх мела персанальную гісторыю. Гэта значыць, што акрамя ўласна перакладзенага тэксту тут была і адмыслова разгорнутая біяграфія “Пра Яго” (аўтара), і літаратуразнаўчы артыкул ці вольнае эсэ, і цытатнік...

Карацей, структура была распрацаваная, лічы, дасканала і да таго ж улічвала магчымасці кожнага асобнага выпадку, як, скажам, пераклад знакамітага рамана Патрыка Зюскінда “Парфума”.

Калі мы ўжо добра напрацаваліся і нават адчулі стому (да таго ж я застаўся *на гаспадарцы* без Асташонка), у рэдакцыі аб’явіўся тады яшчэ мала каму вядомы Андрэй Хадановіч і сказаў, што хацеў бы далучыцца да стварэння “постацяў” замежнікаў. І не проста выказаў жаданне, а прапанаваў і рэалізаваў цэлую праграму: Бадлер, Ейтс, Малармэ, Паўнд, Апалінэр...

Было б відавочным перабольшваннем казаць, што ўжо тады я прадбачыў – Андрэю наканавана быць заснавальнікам новай школа беларускага перакладу. Хаця той імпэт ды майстэрства, з якімі ён падхапіўся рэалізоўваць сваю праграму, казалі пра адметныя магчымасці і не абы-які версіфікацыйны патэнцыял...

А пра паэта Андрэя Хадановіча я яшчэ не аднойчы буду згадваць... Зарукай таму хай паслугуе вершык, які ён склаў, калі мы ў адной байдарцы вандравалі па палескай рэчцы Сцвіга.

### *ПАЛЕСКІ ЦЫРУЛЬНІК*

*В.А.*

Сонца яму на скуры малюе зоркі і свастыкі,
а ён, паслаўшы апёкі да самай яснай халеры,
аказвае найвышэйшую клясу мастацкай гімнастыкі,
калі размотвае стужкай рулён туалетнай паперы.

Плыве за вадою й зрабіўся крыху цырульнікам,
бо неабачлівым рыбкам галовы стрыжэ да шыек,
хвасты падстрыгае русалкам, палескі унікум,
ператвараючы іх у спартсмэнак-паралімпіек.

Воўну з аблокаў стрыжэ і сплаўляе паверхняй ракі,
а рэшткі ўначы сабе цягне ў намёт пад голаў;
смак хлеба, якім ён корміць мясцовых дзяўчат з рукі,
аддае сродкам ад камароў – зрынутых зь неба анёлаў.

Ён ведае, дзе бярозкі растуць скрозь старыя пні,
нібы на голае цела мераюць фенечкі і маністы.
Калі ён заходзіць мыцца ў раку, у мыльнай пене сьляпні
канаюць, быццам замерзлыя ў горных сьнягох альпіністы.

Гарэлку ператварае ўначы ў навальнічны сок,
які цячэ лістотаю дуба ў жывым электрычным праменьні,
і кроплі здаюцца сухімі, як жоўты палескі пясок,
быццам сябры й сяброўкі кінулі зь неба па жмені.

***

Алесь Асташонак сам выбраў мяне ў сябры пасля таго, як часопіс "Беларусь" надрукаваў адзін з маіх першых ужо адмыслова беларускіх артыкулаў – пра сучасную нацыянальную прозу. Я нічога не меў супраць. Да таго ж у яго быў самы вялікі лоб у беларускай літаратуры. Хаця, мяркую, нават калі б у тым артыкуле я забыўся Алеся пахваліць, мы б усё роўна не ўніклі сяброўства. Настолькі яно выявілася натуральным, глыбокім ды чулым.

На тую пару Алесь знаўся сярод самых-самых яркіх празаікаў сваёй генерацыі. І гэта быў цалкам слушны прысуд. А вось рэдактар з яго аказаўся ніякі, бо ён любіў (акрамя геніяльнага эсэ Стральцова "Смаленне вепрука") адно тое, што сам піша/перакладае.

Ну і хай сабе, разважаў я ўжо ў "Крыніцы", абы рабіў тое, да чаго пакліканы...

Толькі што я згадаў, як зладзейскія дзевяностыя рассварылі Някляева з Глобусам. У выпадку з Асташонкам было яшчэ горш. У тыя гады яго любімую жонку Мілу фінансавыя махінатары абадралі як ліпку, і злодзеям усё яшчэ было мала. Крымінальнікі пачалі пераслед. Аднойчы яны схапілі і Алеся; падпольна сустрэўшыся са мной, ён распавёў, як яго катавалі, і паказваў шнары.

Не было іншай рады, акрамя як уцякаць з Мінска... Зразумела, Алесь планаваў вярнуцца. Не вярнуўся. Пісаў з Кіева доўгія лісты ці тэлефанаваў на вялікія грошы. Аднойчы нават пераклаў для "Крыніцы" раман Эжэна Іянэску "Адзінота" (адзін з маіх самых любімых раманаў увогуле). А потым знянацку памёр...

У той час, калі Алесь Асташонак яшчэ быў жывы, мне раз-пораз здавалася, што праз яго прагнуў вымкнуць да чытача геніяльны празаік... Не атрымалася. Але калі той наймацней грукаў у Алесевы рэбры, з'яўляліся тэксты, якія і стваралі падставу думаць пра гэта.

Зрэшты, падобна на тое, што ў Алеся да рэшты ўвогуле нічога не атрымалася. Што ні вазьмі: творчасць, сям'ю, кон, Радзіму – усюды і ва ўсім незавершанасць. Бадай, і найлепшай характарыстыкай яму будзе: геній незавершанасці.

У гэтым сэнсе ён абсалютна супрацьлеглы Анатолю Сысу. Пры *тыпалагічным* падабенстве бязладных жыццяў і *неўпарадкаваных* смерцяў, Анатоль Сыс пры жыцці вычарпаў свой творчы патэнцыял да астачы – і сышоў у невараць пусты, як цень.

Цалкам інакш у Алеся Асташонка. Ён – суплёт бліскучых пачаткаў (у прозе, драматургіі, эсэістыцы, перакладзе...), якія нідзе не спраўдзіліся напоўніцу. І рэч не ў тым, што яму не хапіла таленту, часу ці спагады жыццёвых абставінаў. Усё гэта ён меў не раўнуючы з многімі. Калі чаго яму і не ставала насамрэч, дык гэта хоць трохі *таўсцейшай* скуры.

У сваім жыцці не сустракаў, па-руску кажучы, больш "ранимого" чалавека. Пры гэтым ён аднолькава трагічна перажываў і пустую плётку пра сябе, і гвалт паноўнай улады над краінай. Неяк Алесь знік на некалькі дзён з рэдакцыі, а калі вярнуўся да справаў, дык патлумачыў, што ў адной незалежнай газеце пабачыў слова "кл**ю**б", і, каб хоць неяк ператрываць гэткі здзек з мовы, у яго не заставалася іншага выйсця, акрамя як тэрмінова бегчы ў краму. (Дзеля карэктнасці заўважу, што да *мяккага* варыянта тарашкевіцы, як у "Дзеяслове" Барыса Пятровіча, ён ставіўся досыць лаяльна. Але гэтае сапраўды ідыёцкае змякчэнне "л" ў замежных словах будзіла ў ім змрочнага шаленца.)

У ідэале празаік мусімець грубую, як у насарога, скуру. Каб не тое што скразнякі, а нават і віхуры знадворку не збівалі з роўнага дыхання, якім трымаецца

дыскурс яго ўласнага свету. Марсэль Пруст такой скуры не меў, таму наглуха *атынкаваў* сцены працоўнага кабінета коркавым дрэвам, каб нішто не замінала ўслухоўвацца ў самога сябе. Алесь Асташонак нічога падобнага не зрабіў (хаця было, што імкнуўся), і з гэтага ягоныя лёгкія былі бітма набітыя смуродам эпохі. І адно калі задуха трохі адпускала, ён пачынаў ліхаманкава збіраць у словы сваю пашкуматаную і ўскрай разбэрсаную моўчу. Гэта значыць, адчайна кідаўся да пісаніны, хрыплай, з надрывам і стогнам (што праўда, у самыя светлыя дні не пазбаўленай адметнага гумару) і не адыходзіў ад пісьмовага стала да наступнага прыступу задухі, ад якой спрабаваў вызваліцца алкаголем. Бывала, што і дапамагала, аднак не надоўга...

*P.S.* Сам не бачыў, другія пераказвалі, што ў Алеся быў сшытак, куды ён выцінаў і наклейваў не толькі ўсе артыкулы, а нават і самыя кароткія згадкі пра сябе ў прэсе. Мы часам пасміхаліся з гэткай яго гіпертрафаванай прагі славалюбства. А вось цяпер, успомніўшы Алеся, падумалася, што ў нейкай з сваіх сутнасцяў успаміны заўсёды ёсць тым самым *Алесевым сшыткам*. Безумоўна, і мае таксама...

***

Пасля ўцёкаў Алеся Асташонка ў Кіеў ягонае месца ў нашым кабінеце і штатную адзінку ў бухгалтарскіх каштарысах заняў Леанід Галубовіч. Ён стаў знакамітым адразу пасля першай паэтычнай кнігі “Таемнасць агню” (у прыклад адзін з лепшых вершаў адтуль):

Прычакаўшы глыбокага снегу,
Аб’язджаюць каня мужыкі:
Маладому, шалёнаму бегу
Дзве аглоблі сцінаюць бакі.

Ні на міг не правісне ляйчына.
Не папусціць свабоды рука,
І – туды, дзе глыбее лагчына,
Да апошняга правіць рыўка.

Вось ён – потны, загнаны, знямоглы –
Ад тугі і адчаю захроп...
Заўтра стане пакорна ў аглоблі
І без пугі не пойдзе ў галоп.

У адрозненне ад свайго папярэдніка, Леанід любіў аўтараў не менш за мяне. Таленавітага мог запрасіць у госці ці паехаць да яго на вёску. А вось замежную літаратуру і філасофію не надта каб любіў. Хаця гэта як быццам і не мела асаблівага значэння, бо Леанід ўзначаліў аддзел паэзіі, але...

Рэч у тым, што да мяне ў рэдакцыйны пакой раз-пораз завітвалі філосафы, культуролагі, інтэлектуалы розных кшталтаў з бясконцымі размовамі. А Леанід, нягледзячы на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве, заставаўся чалавекам вясковай культуры (пра што сам пісаў не аднойчы) і адэптам тады яшчэ татальна вясковай беларускай літаратуры. Не складана здагадацца, што ў сітуацыі нашых мудрагелістых сумоўяў ён пачуваўся не надта ўтульна. І, бывала, *помсціў* нам у сваіх з’едлівых зацемках. Хаця, як чалавек шчыры і самакрытычны, пісаў і такое:

“Мяняю стары перакідны каляндар 1996-га году на новы. Натрапляю на такія запісы. “Трэба хоць што-небудзь прачытаць з Гегеля! Сорамна перад В.А.” “Усёткі – прачытаць Гегеля!” “Неабходна прачытаць Гегеля”.

Усё гэта на працягу тыдня...

Прачытаў Гегеля. “Навуку лёгікі”. Не зразумеў...” (Тут і далей цытаты з кнігі “Зацемкі з левай кішэні”).

Леанід не ведаў, што Гегель зусім не мой філосаф, але весяліць тут іншае. Ён думаў, што варта змусіць сябе адкрыць філасофскую кнігу, і ты адразу зможаш яе чытаць, як кнігу прозы ці паэзіі.

Між тым, Леанід быў сапраўдным філосафам, як яго (і мой) любімы Васіль Розанаў, прынамсі ў “Апалых лісцях”. Вярэдлівы одум над сэнсам быцця і чалавека ў быцці ніколі яго не пакідаў ні ў вершах, ні ў паэтычна-філасофскіх зацемках. Прыкладам хай будзе хаця б вось гэтая, не аднойчы рознымі аўтарамі цытаваная, карацелька:

“...адно з двух: альбо ў нас ёсьць філязофія, альбо ў нас няма Акудовіча...”

***

Вясковец, электрык, у маладосці настолькі захапіўся алкагольнай вабай, што, як і Міхась Стральцоў, патрапіў у ЛПП (лячэбна-працоўны прафілакторый). Пакуль сядзеў (працаваў) ля Копыля пад аховай назіральнікаў, мінскае выдавецтва “Мастацкая літаратура” выдала яго кнігу “Таемнасць агню”, якая адразу сталася літаратурнай падзеяй. З радаснай нагоды Леанід раздабыў “фугас” (вялікую бутэльку) з як бы вермутам і пачаў чытаць вершы пацыентам, медсёстрам і нават самому “доктару”. Зразумела, яго чакала б не абы-якое пакаранне, каб назаўтра брат не прывёз запрашэнне ў Маскву на нараду маладых пісьменнікаў...

А потым ён зненавідзеў чарку, скончыў у Маскве вышэйшыя літаратурныя курсы пры Літаратурным інстытуце і ўсёй сваёй істай абрынуўся ў паэзію. Уласна, калі не лічыць жонкі і дачкі, дык у яго акрамя паэзіі нічога і нікога не было. Знакамітыя “Зацемкі з левай кішэні” выглядаюць таксама не столькі прозай, колькі вершамі ў прозе.

Хаця мы былі блізкімі і ў сваім рэдактарскім кабінеце разам выкурылі не адну скрыню танных цыгарэт, я не адважыўся б назваць яго сябрам. І рэч тут не ўва мне. Хутчэй за ўсё ён проста не меў таленту сяброўства. Разам з тым я паважаў яго як мала каго яшчэ. Была ў ім, калі заўгодна, нейкая анталагічная глыбіня і моц. А яшчэ экзістэнцыйныя шчырасць і адвага.

Дарэчы, пра цыгарэты:

“Хацеў пазычыць грошай на блок танных цыгарэт у каго-небудзь з рэдакцыі. Ні ў кога няма. І гэта насампраўдзе.

Але ж нейк жывём, пры ўсім тым і часопіс час ад часу выходзіць. За якія шышы – адзін Бог ведае... Такая ўжо дзіўная краіна выпала для жыцця і выжывання.

– Дай цыгарэту, Валянцін...

Працягвае апошнюю. Дымім... Думаем... Пішам...”

Праз нейкія паўгадзіны пасля нашага прыходу на працу кабінет ужо быў поўны цыгарэтнага дыму. І так з дня ў дзень. Але калі ў Леаніда паўсталі сур’ёзныя праблемы са страўнікам, прапанаваў:

– Валянцін, давай разам кінем паліць.

Я адмовіўся, а ён кінуў.

Потым Леанід кінуў пісаць вершы.

Пасля 40 гадоў пісаць вершы сорамна, сказаў. Тут я ўжо цалкам з ім пагадзіўся.

Леанід яшчэ выдаў кнігу паэзіі, якую так і назваў “Апошнія вершы”.

– Піць кінуў, курыць кінуў, вершы пісаць кінуў. Застаецца яшчэ адмовіцца ад сексу, і што тады ў цябе чалавечага застанецца? – пакепліваў я.

– Вершы ў сне сняцца, – сарамліва тлумачыў.

Відаць, з той жа прычыны Леанід не прамінаў ніводнай рэдакцыйнай вечарыны, якіх у нас хапала. І часам было заўважна, што, надыхаўшыся алкагольнай пары,

ён відавочна падвесяляўся. Пэўна, наступная зацемка і была напісаная пасля адной з нашых вечаровых забаваў.

“Акудовіч за добрым кампанейскім сталом можа піць усё без разбору: самагонку, гарэлку, віскі, каньяк, віно, пэпсі, чай, каву, мінеральную ваду і проста ваду з-пад крана, калі толькі нешта з гэтага пераліку наліта ў ягоную чарку...

– Валянцін, – часам просіш, – пабераж здароўе...

– На жаль, нічога вечнага няма, – няўзнак буркоча ён, развіваючы з безнадзейным у філасофіі, але ўдзячным слухачом сваю ідэю-фікс, што чалавека па сутнасці не было, няма й не будзе, а расхваляванаму, напітаму і ашаломленаму суразмоўцу потым безапеляцыйна даводзіць, што таго ўвогуле ўжо й цяпер няма... сёння, вось тут... пустое месца...

І таму нічога не застаецца, як пагаджацца, самнабулічна раскрываць рот і ківаць няўпэўненай галавой...

Прыгледзішся ўважліва збоку – і сапраўды чалавека поруч з Акудовічам няма... А Валянцін ёсць! Ён зноў падымае нечым налітую чарку, і да слёз не хочацца верыць, што аднойчы не будзе й яго”.

P.S. Прамінула дванаццаць год. Ужо даўно не было “Крыніцы”, і з Леанідам мы сустракаліся гады ў рады. Таму не ад яго, а з медыя даведаўся, што ў Галубовіча рыхтуецца зборнік новых вершаў.

Што ты Лёня нарабіў?! – схапіўся я за галаву. Сам разбурыў адзін з найбольш адметных міфаў беларускай літаратуры... Адчуваючы, што лепшыя вершы табой ужо напісаныя, ты ахвяраваў прагай вершапісання дзеля чысціні і цноты паэзіі. І хіба яшчэ адзін зборнік вершаў варты той ахвяры?!

Пра гэта і сказаў на прэзентацыі кнігі. Толькі што з тых маіх словаў?

Міфа няма!

***

Сярод *постацяў*, што я рыхтаваў для “Крыніцы”, вылучу Ігара Бабкова і запынюся на абавязковай у такім фармаце гаворцы з аўтарам.

“Ігару Бабкову трохі за трыццаць. Ён нарадзіўся і вырас у Гомелі. Скончыў БДУ (факультэт філасофіі) і там жа аспірантуру. Жанаты. Жонка прыгожая, завуць – Вольга. Любімы напой Ігара – кава. З моцных напояў аддае перавагу добраму віну (каньяком таксама не грэбуе). Гарэлку не любіць і ўжывае толькі ў скрайніх і безвыходных сітуацыях. На пачатку кожнай вясны пачынае марыць пра вандроўку на байдарках.

Магчыма, галоўнай падзеяй сваёй творчай біяграфіі лічыць кнігу паэзіі “Solus Rex”, за якую ТВЛ адразу ўзнагародзіла яго Гліняным Вялесам... Магчыма, Ігар мае рацыю і гэта сапраўды так. Хаця як на мяне, дык ягоныя эсэ і артыкулы, надрукаваныя ў “Нашай Ніве” і “ЗНО”, важаць ніяк не менш, а бадай і больш, чым паэтычны зборнік.

Бабкоў-празаік, з яго нешматлікімі апавяданнямі, пакуль застаецца ў засені Бабкова-філосафа і паэта. Фармальна гэта цалкам слушна, але я не выключаю, што менавіта ў прозе яму наканавана здзейсніцца па максімуму.

Я не ведаю, ці марыў Томас Стэрнз Эліат аб вандроўцы па Тэмзе і як ён ставіўся да кавы і віскі, але калі аднойчы ўздумалася спраецыраваць Ігара Бабкова на каго-небудзь з вялікіх, дык адразу згадаўся паэт, тэарэтык, крытык Томас Стэрнз Эліат...”

*– Ігар, цяпер, калі вы пазнаёміліся з прадмовай да нашай гаворкі, паспрабуйце яе адрэдагаваць: дапоўніць, скараціць, удакладніць.*

– Усялякае параўнанне абавязвае, Валянцін.

Вы напісалі гэтыя словы, і я ліхаманкава пачаў прыгадваць “што мяне чакае наперадзе”. Восем гадоў працы ў банку, Нобелеўская прэмія, раман з сакратар-

кай, якая маладзейшая за мяне на сорак гадоў. Дысертацыю я напішу, але не абараню, гэта зразумела. Застаецца высветліць, хто ў нас Джойс, хто Паўнд, а хто Самюэль Батлер Ейтс.

Калі казаць сур'ёзна, гэткія праекцыі непазбежныя і недастатковыя. Бо кожная асоба, кожнае жыццё мае свой *pattern*, як сказаў бы Эліат, і гэты *pattern* збольшага імперсанальны. У юнацтве мы яго прадчуваем, мы яго шукаем – і тады паўстаюць гэтыя праекцыі. Старыя грэкі звалі гэта конам – без усялякага вонкавага наканавання, і ніхто не адчуваў яго лепей, чым старыя кітайскія паэты.

Тое, што вы вырашылі пераказаць паспалітаму чытачу, – гэта біяграфічныя звесткі, факты, – па-за кантэкстам тае цэласнасці, што іх арганізоўвае, у якой гэтыя звесткі набываюць сэнс і значэнне. Таму я б не хлусіў, калі б сказаў, што ўсё гэта – няпраўда, ці, дакладней, – адно шкло, праз якое можна зазірнуць у маё жыццё. Але жыццё – гэта не шкло.

Мой кон – метафізіка (а не інтэлектуалізм), у самым шырокім сэнсе, ажно да рэлігійнага (я чань-будыст паводле "веравызнання").

Таму Томас Стэрнз са сваімі жахлівымі прароцтвамі канца свету для мяне адно перафраза постхрысціанскай секулярызаванай містыкі – рацыянальнай дарэшты і ў той жа час ненавіднай да рацыянальнага. У гэтым сэнсе параўнанне з Эліатам тыпалагічна няслушнае: тое, што ў мяне пісалася, – гэта метафізічны экспрэсіянізм, угрунтаваны ў іншым светаадчуванні. Рэч яшчэ і ў тым, што я быў выхаваны на традыцыі нямецкага рамантызму: метафізіцы – экспэсіянізму. Постаці Гёльдэрлін – Рыльке – Тракль – Цэлан для мяне надзвычай істотныя, можна сказаць сакральныя.

Зрэшты, я напэўна ў тым узросце, калі гэтыя праекцыі перастаюць пацiху што-колечы значыць, калі ты апынаешся сам-насам з сабой, з сваім жыццём.

(...)

*– З усіх беларускіх літаратараў, якіх я ведаю, вы, бадай, адзіны, хто мог бы сёння напісаць інтэлектуальны раман. Магчыма, я памыляюся і яшчэ нехта здольны на нешта падобнае. Бог яму ў помач. Але кожны, хто возьмецца за гэтую справу, мусіць не толькі хацець яе зрабіць, ён мусіць мысліць як дыхаць, а дыхаць як мысліць.*

*Зрэшты, я тут не маю намеру распавядаць пра сваё разуменне інтэлектуальнага рамана. Мая задача запытацца, што думае пра інтэлектуальны раман Ігар Бабкоў і калі ён яго напіша?*

– Тое, што я думаю пра інтэлектуальны раман, я ўсё роўна не патраплю вам сказаць. Бо думанне пра інтэлектуальны раман і ёсць інтэлектуальным раманам. У першых чатырох раздзелах трэба разабрацца, чым ёсць думанне як такое, потым даследаваць праблему інтэлекту і ягоных межаў, недзе напрыканцы сказаць штосьці пра раман як жанр, а ў пасляслоўі прызнацца, што аўтара няма і ніколі не будзе.

Я пішу (скажу шчыра) проста раман, а напішу яго, калі ён сам напішацца. (...)

*– Вышэй я казаў, што пакуль толькі ад вас чакаю інтэлектуальнага рамана. Але вы і адзін з нямногіх маладых інтэлектуалаў, з кім можна звязваць спадзевы на развой беларускай філасофіі. Апошнім часам вы зноў сталі пісаць, скажам так, філасофскія тэксты, што не можа не цешыць. Толькі цяпер, пасля татальнай паразы нацыянальнага руху, для мяне філасофскія тэксты між волі параўноўваюцца з дахоўкай на доме, ад якога не тое што крокваў і сценаў, а і падмурка амаль не засталося. Чарапіцу робім, а класці няма на што. Магчыма, ды і напэўна, мой песімізм залішне гранічны... Тым не менш, вось вам апошняе пытанне: праблема філасофскага (інтэлектуальнага ўвогуле) тэксту ў сітуацыі адсутнасці нацыянальнага тэксту.*

– Я не ўпэўнены, што вашая метафара мае рацыю. Філасофія не пачынаецца з глебы, не будуецца ад падмурка. Я адразу прыгадваю славутае вызначэнне

Андэрсана: нацыі як “уяўленыя супольнасці”. У гэтым сэнсе нацыянальны тэкст і нацыянальнае (?) мысленне, паўстаюць, наадварот не ад падмурка, а ад даху. Усялякае мысленне (і беларускае тут не выключэнне) грунтуецца на ўніверсалізацыі ўнікальнага. І праблема беларушчыны не ў тым, што яна не ўгрунтаваная ў глебе, а ў тым, што праблема “глебы” не ставіцца пад пытанне, не ўніверсалізуецца. І наадварот, універсальныя катэгорыі не зводзяцца на зямлю, не бяруцца “тут і цяпер”, як катэгорыі нашай сітуацыі і нашага мыслення.

Зрэшты, праблемы філасофскага тэксту ні для беларускай, ні для якой іншай еўрапейскай культуры не існуе. Усе мы думаем па-грэцку. Традыцыя еўрапейскага мыслення складаецца з каласальнай колькасці тэкстаў. Што толькі не прадумвалася цягам гэтай традыцыі, на што толькі не звяртала сваю ўвагу мысленне! Якіх кшталтаў і стыляў, якіх формаў і дыскурсаў яно не прымала. Як Пратэй, яно пераўтвараецца разам з спакменямі, застаючыся заўсёды ў іхнім цяні. І сёння, здаецца, ніхто не мае ілюзіі, што мысленне, філасофія – гэта сукупнасць усяго гэтага.

Філасофія – гэтка вечная магчымасць, альбо, як пісаў Гайдэгер – “ціхая ўлада магчымасці”.

А што можа быць лепшым за магчымасць?

*P.S.* 21 год таму ў прадмове да гэтай гутаркі з Ігарам я выказаў меркаванне: “Не выключаю, што менавіта ў прозе яму наканавана здзейсніцца па максімуму”.

Ці не праўда, як у ваду глядзеў.

***

Мне не было праблемы надрукаваць у тыднёвіку “Культура” матэрыял з нагоды юбілею (50 год) Алеся Разанава, бо пакуль яшчэ сам заставаўся намеснікам галоўнага рэдактара. Ніхто не запярэчыў і супраць дзіўнай, як для юбілею, назвы тэксту: “Біце нашы вітрыны, Паэт”. (*Школа* Бум-Ба-Літа прызвычаіла кіраўніцтва да ўсялякага...)

Вечарам у самым вялікім пакоі рэдакцыі “Крыніцы” быў багата накрыты стол...

Не буду пакуль тлумачыць, навошта, толькі наперад мусова трэба адцеміць некалькі момантаў. Насупраць дзвярэй у пакоі было вялізнае вакно, спінай да якога сядзеў “імяніннік”. Я месціўся каля дзвярэй, а побач са мной чорт прынёс і пасадзіў Анатоля Сыса (ужо на падпітку).

І яшчэ... З вандроўкі па гарах Прыпалярнага Урала я быў прыцягнуў калісьці дахаты некалькі важкіх друзаў крышталю (на шляху апынуўся закінуты руднік). Найбольшую з іх (у памер кулака) адабраў у падарунак юбіляру.

Калі наспела мая чарга казаць віншаванне, я разгарнуў яшчэ нікім не чытаную “Культуру” і агучыў мой віншавальны тэкст:

“Неяк жартам падумалася, што Алесь Разанаў ужо не паэт, а нацыянальная каштоўнасць. Я ведаю, сам Алесь Разанаў не спяшаецца станавіцца экспанатам музея сучаснага беларускага мастацтва, ён па-ранейшаму хоча быць паэтам, гэта значыць запатрабаванай падзеяй жывога літаратурнага працэсу. Аднак тут, падобна, нічога не паробіш, паўз уласную волю Алесь Разанаў ужо даўно на вітрыне, пад шклом. Усялякі раз, калі замежным гасцям паказваюць, чаго вартая сучасная беларуская паэзія, іх найперш вядуць да вітрыны з шыльдай «Алесь Разанаў». Тое самае адбываецца, калі беларуская літаратура гасцюе ў блізкім ці далёкім замежжы – вітрыну цягнуць з сабой...

Як мне здаецца, феномен значнасці вершаванняў Алеся Разанава звязаны найперш з тым, што ён выявіў чацвёртае (метафізічнае) вымярэнне да гэтага трохмернай (фальклорна-сацыяльна-псіхалагічнай) беларускай паэзіі.

Гэтае павелічэнне аб’ёму беларускай паэзіі на цэлае вымярэнне і ёсць Алесь Разанаў.

Аднак зважаючы на вершаванне Алеся Разанава як на метафізічнае, трэба ясна ўсведамляць, што ўся ягоная метафізіка скінутая ў анталогію, дакладней – у анталагічнае быццё беларускага слова. Гэта не метафізіка зорнага неба, астральных целаў, трансцэндэнцыі ўвогуле, а метафізіка гліны, каменя, зерня і самога слова.

І яшчэ... На Беларусі заўсёды было багата паэтаў, якія пісалі выдатныя вершы. Але мы маем толькі некалькі выключэнняў, калі паэт ствараў уласную паэтыку. Адно з такіх рэдкіх выключэнняў – Алесь Разанаў...

Разгорнутая гаворка пра паэтыку Алеся Разанава тут будзе і не да часу, і не да месца. Заўважу толькі, што ў яе аснове вельмі жорсткая структура, як у крышталя. Верагодна, якраз з гэтага атрымліваецца, што ўвесьчасна імкнучыся быць надзённай падзеяй літаратурнага жыцця, Алесь Разанаў як бы сам, уласнымі рукамі муміфікуе сябе дзеля вечнасці. Пэўна, апошняе і падсунула мяне да думкі, што ён ужо не паэт, а нацыянальная каштоўнасць, гэта значыць тое, што не падлягае часу.

Я не пэўны, што Алесь Разанаў некалі зможа знішчыць мумію вечнасці ўнутры сябе (сваёй паэтыкі), але вось у чым я ўпэўнены, дык гэта ў тым, што ён, пакуль *будзе*, будзе і будзе біць тыя шыбы вітрынаў вонкі, за якія мы засоўваем яго, каб мець *для сябе* каштоўны экспанат.

Біце нашы вітрыны, Паэт! Я гатовы падносіць Вам камяні”.

Сказаўшы апошнія словы, працягнуў праз доўгі стол Алесю Разанаву тую друзу. І ў той жа момант падхапіўся Сыс, выкруціў у мяне з рукі крышталь і з крыкам: “Я за цябе разаб’ю, Алесь” – размахнуўся, каб кінуць друзу ў вакно.

Дзякаваць Богу, нехта перахапіў яго руку, друза плюхнула якраз у самы вялікі торт, заляпаўшы кавалкамі смакаты дзяўчат, а Сыса мы натоўпам ледзьве вытаўклі за дзверы рэдакцыі...

***

Не ведаю, як і з чаго так сфармавалася мая *чалавечая* канстытуцыя, толькі я быў адораны ўмельствам захапляцца людзьмі – жанчынамі і мужчынамі. Хаця мужчынамі больш і часцей.

Можа, яно ў мяне было і раней, толькі ўпершыню заўважыў за сабой такое, калі пачаў хадзіць у горы. Маім настаўнікам і кіраўніком быў Аляксандр Латакурскі. Потым ён стаўся першым майстрам спорту Беларусі ў нашым відзе турызму.

Высокі, дужы, вясёлы, жыццядайны... Усё, што ён толькі мог зрабіць сам, ён сам і рабіў, ніколі нават не зважаючы, што ягоны наробак у многіх сітуацыях мог быць большы, чым усяго нашага хаўрусу разам. І гэтак што ў гарадскім жыцці, што ў гарах.

Напэўна, маё захапленне моцна кідалася ў вочы, бо сябры нават пачалі раўніва папікаць: маўляў, ну што ты бачыш у ім такога? Мужык як мужык.

А ў дадатак яшчэ нагадвалі пра заганы майго куміра, на якія я не зважаў.

Я нічога не казаў у адказ, бо словамі такое захапленне чалавекам не тлумачыцца. Як каханне, як сяброўства, як любоў да Бацькаўшчыны...

Мінаюць гады, захапленне, як кожная эмоцыя, пакрысе ацярушваецца долу. А вось павага і ўдзячнасць застаюцца...

Паміж майстрам спорту Латакурскім і паэтам Някляевым няма ані каліўца падабенства, але неяк весела падумалася: каб я быў жанчынай, дык, напэўна, закахаўся б у Някляева. Настолькі быў ім захоплены, апынуўшыся ў “Крыніцы”.

Відаць, ён гэта хутка адчуў і адгукаўся прыязнасцю. Не аднойчы распавядаў сам-насам рознае такое, што не кожнаму другому можна было распавесці. Здаралася, пасля агульных пасядзелак у рэдакцыі мы заставаліся ўдвох да глыбокай ночы. Размаўлялі пра ўсё, найбольш пра літаратуру. Бывала, ён чытаў новыя вершы. Амаль ніколі моцна не спрачаліся. Дарэчы, аніяк не пляткарылі – у нас абодвух гэтага не было. Некалькі разоў ён нават адвозіў мяне да хаты на

таксоўцы, бо для гарадскога транспарту было ўжо запозна, а тады сваіх грошай на таксі я не меў.

Агулам кажучы, у тую пару мне з ім было фантастычна ўтульна і свабодна, нягледзячы на тое, што я і блізу не меў пачуцця роўні з ім.

Значна пазней, пасля эміграцыі Някляева ў Польшчу, рушэння ў прэзідэнты, зняволення, турмы, судзілішча я неяк напішу, што сярод беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Някляеў мае, відаць, самую багатую на падзеі біяграфію. А яшчэ і талентаў лёс нагрузіў яму ў дарогу праз жыццё цэлае бярэмя.

Някляеў таксама вучыўся ў Літаратурным інстытуце і таксама не застаўся ў Маскве. Пісаў вершы па-руску, аднак нехта з мэтраў паэзіі пераканаў, што яму трэба вярнуцца да роднай мовы. Яго паэмы ў свой час мяне неверагодна ўражвалі, а “Індыя” і па сёння застаецца любімай. Гэта пры тым, што яго лепшай паэмай мне бачыцца “Ложак для пчалы”. І не толькі ў яго, але і ва ўсёй беларускай паэзіі, калі пачынаць адлік пасля “Новай зямлі” Якуба Коласа.

А яшчэ, пакуль Някляеву не забаранілі эфір, ён натвараў столькі тэкстаў-хітоў для песен, што не пералічыць. Між іншым, некаторыя, як “Гуляць дык гуляць”, зрабіліся народнымі.

З партыйнай трыбуны Някляеў чытаў свае пафасныя вершы генеральнаму сакратару ЦК КПСС, у часы “перабудовы” стварыў два бліскучыя часопісы пад адной назвай “Крыніца”, у дадатак узначаліў тыднёвік “Літаратура і мастацтва”, а неўзабаве быў абраны яшчэ старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі (на той час гэта была вельмі важкая пасада).

Натуральна, такая абсалютызацыя літаратурнай улады мала каму падабалася. Між іншым, нам таксама, бо за мноствам справаў Някляеў амаль забыўся на часопіс. Натуральна, мы і без яго ўпраўляліся, толькі нам да таго ж зарплату перасталі плаціць. Карацей, усё гэта, як і шмат чаго іншага, урэшце рэшт спарадзіла цэлы суплёт розных бедаў. Аднак пра гэта трохі пазней...

*P.S.* Бадай, найлепш з тых начных чытанак запомніўся (натуральна, толькі сэнсам запомніўся) вось гэты верш:

У пакоі, замглёным ад дыму,
Непрытомным амаль ад віна,
Трое
поўныя шклянкі падымуць
І налітае вып'юць да дна.

Утаропяцца ў сцены. Запаляць.
Вочы ў вочы няўтульна зірнуць.
Ні за што не зачэпіцца памяць –
І яны наліваюць і п'юць.

Трое – з Менску, з Бярэсця, з Гародні –
Ледзьве знаюць адзін аднаго,
Дык з чаго яны п'юць так гаротна?
Проста так.
Проста п'юць.
Ні з чаго.

Бо пакуль на абшарах Айчыны,
Што ўсё толькі збіраецца быць,
Аніводнай не знойдзеш прычыны,
Каб не піць.

*P.P.S.* Праз колькі год з гэтага ды іншых тады чытаных мне вершаў Зміцер Вайцюшкевіч створыць выдатны музычны альбом і папросіць мяне напісаць на вокладку тэксцік. Я пагадзіўся, аднак папярэдзіў, што ў зададзеным фармаце нічога ў мяне не атрымаецца.

Як у ваду глядзеў – не атрымалася. А дзеля чаго згадаў пра гэта, дык і не ведаю...

***

Сваю кнігу "Дыялогі з Богам" я падпісаў: "Уладзіміру Някляеву, якога аднолькава моцна любяць Бог, Д'ябал і аўтар гэтай кніжыцы".

Някляева ў Някляеве так шмат, што яму ніколі не хапала аднаго вымеру – двух таксама не хапала. І адной ролі (маскі) тым болей было замала. Між іншым, Паэт у ім не абавязкова быў наперадзе ўсяго. Леанід Дранько-Майсюк неяк вельмі трапна заўважыў: найперш Някляеў акцёр, і таму ён не можа без сцэны.

У нейкім годзе напярэдадні Калядаў мы бадзяліся з Някляевым па зіхоткіх вулках начнога Уроцлава. Потым ён сказаў:

– Гэта вам даволі сабрацца ў тры-пяць чалавек і чытаць адзін аднаму свае тэксты. А мне патрэбныя зала, стадыён, плошча...

Авантурна заўважу: цалкам верагодна, і ў палітыку Някляеў уплішчыўся перадусім таму, што імкнуўся "з усім народам гутарку весці". Тым болей, што літаратура ўжо на вачах губляла сваю ўніверсалісцкую функцыю быць свецкім Саборам для ўсяго соцыуму...

Алесь Разанаў – нешта зусім іншае. Мне з ім так утульна, як з Някляевым ніколі не было, – ці толькі зрэдчас ды акрайчыкам. Ды і не магло быць. Здаецца, ён увогуле ад усіх чалавекаў быў як бы адслонены небам. Мяно "Небажыхар" яму пасавала абсалютна. (Праўда, прамаўлялі яго па рознаму: хто з экстазам, а хто здзекліва.)

Не, Разанаў не патрабаваў да сябе адмысловага піетэту – гэты піетэт сядзеў ува мне самім, як цвік.

Звыкла кажучы, на ўсё жыццё запомніўся адзін момант. Яшчэ толькі пачаўшы працаваць у "Культуры", я надрукаваў пра ягоныя "Вершаказы" артыкульчык (хутчэй, невялікае эсэ). Потым ён завітаў у рэдакцыю, і мы ўпершыню пабачыліся, а калі я правёў яго на вуліцу і запаліў цыгарэту, то ўбачыў, што метраў праз сто Разанаў азірнуўся і нейкі час углядаўся ў мой бок.

Разанаў на мяне азірнуўся! Ад шчасця ледзьве не прысеў. А як ачомаўся, дык чамусьці сам сабой згадаўся радок з Фолкнера: *Няшчасная тая жанчына, на якую ніводны мужчына не азірнуўся двойчы.*

Таму не было нічога дзіўнага, што як мы згуртаваліся ў "Крыніцы", дык загалоўнай творчай фігурай тут мне бачыўся не галоўны рэдактар Някляеў, а Разанаў. Якім жа было маё здзіўленне, калі неўзабаве высветлілася, што сугадна са мной мяркуе не шмат хто. Ды, відаць, і сам Разанаў не быў пэўны ў сваім вяршынстве. Я так падумаў, калі аднойчы ў адзіноце ён з захапленнем прачытаў мне на памяць верш Някляева. (На жаль, цяпер у мяне таго верша няма пад рукой.)

А значна пазней нечакана ўзважылася: "Цалкам верагодна, што Разанаў і Някляеў аднолькава таленавітыя. Проста ў іх розныя мэтавыя аўдыторыі. Разанаў – паэт для багоў, Някляеў – дзеля жывых людзей".

Можа яно і насамрэч так, толькі чаму аднойчы ранкам падумалася ні з чаго: *прачнуцца праз тысячу год і пачытаць Разанава...*

***

Лепей з бруднага хлява колькі дзён выносіць гной, чым пісаць, як мы ўсе разам перасварыліся. Ды так брутальна, што і згадваць прыкра (а месцамі нават

агідна). Я б з палёгкай прамінуў гэты сюжэт (колькі ўсяго благога застаецца ў патаемным!), ды нешта ўва мне самім моцна пярэчыць: хоць контурам, але мус...

Грошай не было, Някляева не было, а спякота была. Пякельная. Нехта напісаў у адпаведныя органы ананімку (данос) на Някляева. Па сёння, здаецца, невядома, хто гэта быў і што там было напісана. Пачаліся розныя праверкі. Нас выклікалі на "размову", прасілі пісаць тлумачэнні з той ці іншай нагоды (я таксама пісаў). У рэзюмэ заўважылі нястачу зношаных дывановых дарожак, чайнага сервізу і нечага трохі больш істотнага ў фінансавай дакументацыі... Агулам казалі ці не пра дзве тысячы долараў страты, хаця гэта былі толькі чуткі.

Само паводле сябе ўсё гэта не выглядала такой ужо вялікай драмай, аднак яно нешта зрушыла ў нас саміх. Мы раз'юшыліся і пачалі сварыцца міжсобку. Нехта запрапанаваў прасіць у міністэрства змены галоўнага рэдактара. Кандыдатурай быў прапанаваны Алесь Разанаў.

Рэдакцыйная каманда расклалася на дзве групы. Разанава моцна падтрымлівалі Леанід Галубовіч і Анатоль Сідарэвіч. Някляева – Леанід Дранько-Майсюк (апантана). Я спрабаваў трымацца сярэдзіны. Вінаваціў і адных, і другіх, пры гэтым у пэўныя моманты спрабаваў іх абараняць. Блізкім да трацейства быў і Уладзімір Арлоў. Прынамсі, так выглядала...

Нават не разумею, як у мяне атрымалася не згубіць любоў да ўсіх нас разам (улучна з Някляевым і Разанавым) пасля ўсяго таго, што за тыя дні я наслухаўся, набачыўся і сам нагаварыў.

Бог не такі шчодры, каб аднаму чалавеку даваць і талент творцы, і талент чалавека. Так не аднойчы думалася мне ў тыя некалькі пякельных тыдняў...

Пэўна, якраз у такую спякоту герой Альбера Камю без дай прычыны забіў негра ("Чужаніца").

Скончылася ўся гэтая гісторыя тым, што Някляеў схаваўся ад уладаў у Польшчы, а на кандыдатуру Разанава, як я ўжо раней казаў, не пагадзілася міністэрства. Замест яго нам прапанавалі Галіну Булыка. Праміне не так ужо і шмат часу, і яе зменіць паэтка Ала Канапелька (неверагодна харошы і здольны да арганізацыйных справаў чалавек). У яе спакваля атрымалася ўпарадкаваць усе нашыя бязладдзі, і можна было працаваць далей. Хаця, як кажуць японцы, разбіты кубак не склееш, а калі і склееш, дык ён не звініць.

Толькі і *без звону* доўга працаваць нам не дазволілі. Часы пачаліся яшчэ горшыя ад былых. Улада стварыла холдынг "Літаратура і мастацтва" і ці не ва ўсіх выданнях холдынга змяніла галоўных рэдактараў. Знянацку камісіяй з двума гідкімі дэпутатамі Вярхоўнага Савета прыйшлі і да нас мяняць нашу Алу на нейкага свайго курдупеля. (Гэта была яшчэ тая зборня!)

Выслухаўшы іх, я падпёр крэслам дзверы, патлумачыўшы, што ніхто адсюль не сыдзе, пакуль не скажу ўсё, што пра іх думаю.

А далей *Астапа панесла.* Сваю доўгую раз'юшаную прамову я не памятаў, ужо выскачыўшы за дзверы. Адно памятаў, што нагаварыў дык нагаварыў: і пра іх нялюдскую ўладу, і пра іх саміх, і чорт ведама чаго яшчэ там. А наастачу сказаў, што болей нагі маёй не будзе ў гэтай рэдакцыі. І паспрабаваў грымнуць дзвярыма, толькі з тымі вялізнымі і маруднымі дзвярыма ніякіх грымотаў не атрымалася. Шкада...

Дарэчы, праз некалькі дзён здарылася нечаканае. Следам за мной звольнілася ўся рэдакцыя, улучна з прыбіральшчыцай.

Наколькі я ведаю, калектыўнага сыходу літаратурнай рэдакцыі паводле палітычных матывацый раней у Беларусі яшчэ не было.

Прамінула няшмат часу, і нехта запрапанаваў зладзіць прэс-канферэнцыю, каб распавесці пра гэтае паскудства ўсяму свету. Прадстаўнікі ўсіх пакрыўджаных рэдакцыяў сабраліся ў нашым пракураным кабінеце, і я зачытаў усім прысутным, але перадусім журналістам, тэкст *Заявы*:

“У знак пратэсту супраць прызначэння кіраўніцтвам холдынга “ЛіМ” асобаў, варожых беларускай літаратуры і незалежнай Беларусі...

У знак пратэсту супраць гвалтоўнага звальнення галоўных рэдактароў часопісаў “Крыніца”, “Полымя”, Нёман“, “Маладосць”...

Мы, супрацоўнікі часопіса “Крыніца”, пакідаем нашае выданне.

Але перад гэтым мусім выказаць свой недавер Саюзу пісьменнікаў Беларусі (Старшыня Вольга Іпатава) і Міністэрству інфармацыі (Міністр Міхаіл Падгайны), якія не змаглі абараніць дзяржаўныя часопісы (...) ад нашэсця прафесійна некампетэнтных, творча няздарных і маральна сумніўных людзей.

І апошняе... Нам сорамна за тых нашых калегаў, якія паспяшаліся заняць месцы зрэпрэсаваных галоўных рэдактараў ці ўвайшлі ў ганебны хаўрус з кіраўніцтвам холдынга.

*Подпісы...”*

***

Так атрымлівалася, што і ў Маскве, і ў Мінску сярод маіх сяброў найбольш было не празаікаў ці філосафаў, а паэтаў. І калі яны друкавалі кніжкі, то звычайна падпісвалі мне асобнік вершамі.

У мяне свая кніжка (“Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека”) з’явілася позна, вельмі позна – у 48 год. Тады я працаваў у “Крыніцы”, дзе нават празаікі былі паэтамі. Разважаючы над праблемай першых у сваім жыцці аўтографаў, мне нечакана заманіла таксама вымудрыць прысвячэнні сябрам і калегам у форме вершаў. Я так і зрабіў, а цяпер сюды пераніцую.

Мяркую, гэта неблагая ідэя, каб выказаць шчырую падзяку тым, хто столькі крынічанскіх год адорваў мяне радасцю сустрэч і пяшчотай развітанняў.

*Прысвячэнні сябрам*

### ***ПЕРАДУСІМ***

Я –
толькі месца
сустрэчы
і рэшта спатканняў
(іншыя меркаванні
лічыце лухтой)...
І з гэтага
там,
дзе мяне не стане, –
не знікне
ніхто.

*Алесю АНЦІПЕНКУ*

Пазвоніць Алесь
і скажа:
– Паедзем у лес,
а потым грыбоў
насмажым.

Паедзем...
Не лес,
а сонца бярлога.
Пэўна,
тут недзе
сцежка
да Бога.

Колькі хопіць
ног,
абшукаю спрэс...
Калі ёсць
блізу Бог,
то Бог –
гэты Лес.

Ды пра тое
казаць
я Алесю
не буду.
Лес – каб маўчаць
ці крычаць
з перапуду.

Потым грыбоў
насмажым,
і пад чарку
Алесь:
– Беражы нас Бог! –
скажа...
Я падумаю:
Лес!

## СОН

*Уладзіміру АРЛОВУ*

Па белым ходніку
басанож,
у зялёных кашулях
і з ветрам пад пахамі
мы аднекуль ідзём
ці кудысьці вяртаемся...
Цёпла нагам
і плячу ўтульна,
толькі нейкая млосць на сэрцы,
і я азіраюся –
за намі шурпаты асфальт.

– Глядзі, – кажу я, –
там нельга хадзіць басанож...
– Але можна пісаць белай крэйдай
«Жыве Беларусь», – кажаш ты.
І мы рушым далей
па белым ходніку,
у зялёных кашулях
і з ветрам пад пахамі.

*Алесю АСТАШОНКУ*

Саступі ў цішыню,
асланіся
на парэнчу прочырку,
вочы затулі павекамі,
стаіся,
каб нават юрлівы хлопчык,
што шукае сябе ў забавах
дзіцячага веку,
не прачуў шолах моўчы
скрозь шапаценне
лісця.

Цішыня
соладка пахне
верасам і канюшынай,
палеглых атаваю...
Брукам на Менск
нячутна грукочуць машыны,
млява пчолы збіраюць
слодыч спякотнага дня.
Хлопчык у цень твой,
быццам у засень шалашыны,
схаваўся ад полымя
пякучага
авадня.

Там і прыснуў,
у абдымках эрасу –
вуснамі варушыць
суніцы хлопчык...
А над канюшынай і верасам
ужо вырасла
чорная хмара моўчы.

Што паробіш,
трэба хлопца будзіць
(яму жыць і расці), –

хай бяжыць да шашы
ад залевы...

Пачакай тут адзін
(і збялелы),
дотык моўкнасці.

*Ігару БАБКОВУ*

Мы падаем з нябёсаў
лёгка
і, далікатныя,
як дзьмухаўцы,
снім у чаканні,
пакуль нас дагоніць
наша падзенне,
цяжар якога
перайначыць
сон
у камяні.

*Леаніду ГАЛУБОВІЧУ*

Ля вакна, як і ты,
да відна...
Хіба ноччу паэты
начуюць?
Жонка спіць,
богі рыфмаў не чуюць...
Холадна!

Колькі змроку –
як кінуць вокам
(за тры дні на кані
не аб'едзеш)...
Сонца будзе адно
па абедзе,
ды і то
недзе збоку...

Ля вакна
хоць акраец відна,
мабыць, сёння ўжо
не счакаю
і засну,
не пабачыўшы краю,
дзе наўсцяж чалавеку
холадна.

*Леаніду ДРАНЬКО-МАЙСЮКУ*

Ты суцяшаеш аблокі,
я рамантую тралейбусы,
але, здараецца,
на беразе Свіслачы,
ля альтанкі для скразнякоў,
мы п'ем з табой піва,
лушчым салёную рыбу
і няўважліва сочым,
як верхаводкі
скачуць па небе,
упоперак якога плывуць
(на правым баку)
тралейбусы і аблокі.

*Уладзіміру НЯКЛЯЕВУ*

Верас цвіце,
чарот люляе Цнянка...
Пусты, як рыба
па нерасце,
гляджу ў пустую
шклянку.

Там кропля,
чмялю на пахмелку,
яшчэ засталася,
але
чалавек – не пчала,
чалавеку
і мора
ўсяго па калена.

З берага ў рэчку
пайду,
на дно ля карча
прылягу,
хоць не аматар
піць я ваду,
бо вада не патоліць
смагу.

Буду ляжаць,
што той
цэп,
якім сто гадоў малацілі.

Ад стомы найлепей
хавацца ў рацэ,
ад бруду – найлепей
у ціне...

Выйду на бераг –
верас цвіце,
чмель балюе ў шклянцы...
Запалю
і з цыгарэтай
у дрогкай руцэ
пайду на цягнік
да бліжэйшай
станцыі.

*Алесю РАЗАНАВУ*

Я бачыў высокага чалавека,
ён нічым не адрозніваўся ад іншых,
адно першым з'явіўся на даляглядзе
і потым,
калі ўсе астатнія прамінулі ды зніклі,
яго яшчэ доўга было відаць.

### *У РЭШТУ*

Колькі там часу
міне...
І неяк без мору
ды гільяціны
аднойчы
не стане
Уладзі,
трох Алесяў,
двух Леанідаў,
Ігара з Валодзем
і мяне –
Валянціна.

*(Працяг будзе).*



Адам Глобус



...часам узнікае спакуса назваць Пабла Пікаса – Д'ябло Picasso...

# Пікаса

***Словы пра найлепшага з мастакоў***

## Сонечнасць

У творах Пікаса шмат сонца. Ён народжаны ў сонечнай краіне. Ён жыў і працаваў у краінах, поўных сонца. Напісаныя і намаляваныя ім рэчы і істоты напоўнены святлом і выпраменьваюць святло... Сонца-твар. Сонца-рыса. Сонца-птушка. Нават сонца-чорт ёсць у Пабла Пікаса.

## Цэмент

Чым больш прыглядаюся да іспанскай культуры, тым больш бачу ў ёй цэменту. Такое адчуванне, што цэмент – асноўны матэрыял у іспанскамоўным свеце. Ён у іх паўсюль. У жывапісе Пікаса і Веласкеса. У саборах. Могілкі ў іх называюцца "цэментэрыя". Можа, гэта ўсё з-за таго, што гляджу на Іспанію праз творы Пікаса? Але, каб я глядзеў на яе праз жывапіс Хуана Грыса, яна б была яшчэ менш сонечная, а больш шэрая і больш цэментная.

## Кітай



*Адам Глобус. “Неакласічнае...” 2015 год.*

У музей Пікаса вялікая чарга, не раўняючы як у маўзалей Леніна за часамі СССР. Большасць чаргі складаецца з кітайцаў. Раней усе еўрапейскія музеі былі напоўнены японцамі, але цяпер замест іх паўсюль кітайцы, між іншым – іх значна болей. Музей так перапоўнены кітайцамі, што складаецца адчуванне, нібы ты не ў Барселоне, а ў Пекіне на перасоўнай выставе Пабла Пікаса. Сярод гледачоў з Кітая шмат інвалідаў у калясках, сярод японскіх турыстаў я інвалідаў-вазочнікаў не сустракаў.

## Лежэ

Паважаеш мастака, цікавішся ягонай творчасцю, вывучаеш асяродак, дзе ён жыў і працаваў, а потым даведваешся пра нейкую малапрыемную дэталь. Яна ну ніяк не ўпісваецца ў старанна выбудаванае ўяўленне пра творцу. Напрыклад – Фернан Лежэ працаваў у засмечанай майстэрні, дзе не прыбіралася гадоў трыццаць. Для мяне канструктывіст Лежэ быў эталонам чысціні, як мінімаліст Мандрыян і пурыст Карбюзье. Нават на розных фота аскетычная майстэрня Лежэ ў Лізоры з невялічкім працоўным сталом і вялізнай бочкай для смецця выглядала чыстай. Беларусачка Надзя, якая стала другой жонкай Фернана, расказала пра страшэнны бруд, пыл і попел у майстэрні майстра. Расказала, як ёй, каб прыбраць майстэрню, давялося надзяваць маску. Згадка маскі пераканала мяне ў шчырасці Надзі, і я засмуціўся; калі для Пабла Пікаса непрыбранасць і барахлолюбства з’явы натуральныя, дык для Лежэ і ягоных светлых палотнаў патрэбна чысціня.

## Пост

Паглядзеў выставу “Пост Пікаса” ў ягоным барселонскім музеі. Можна здагадацца, што сам Пабла Пікаса лепш глядзіцца за “Пост Пікаса”. Каб замацаваць праўдзівасць падобнай здагадкі, магу сказаць: Пабла глядзіцца не проста лепш, а значна лепш. Усё і сапраўды спазнаецца ў параўнанні.

## Подпісы

У майстэрні Пікаса стаяла шмат карцін без подпісаў. Подпіс ставіўся майстрам, калі карціна прадавалася. Карціна Пікаса з подпісам каштуе больш за карціну без аўтографа. Зразумела, што подпіс можна і падрабіць, як усю карціну цалкам, дарэчы. Падрабляюць і подпісы, і карціны, і не толькі творы геніяльнага Пікаса падрабляюць. Самаробных Пікаса на арткірмашах процьма. Усё гэта мне згадалася, калі я вырашыў падрабіць подпіс аднаго літоўскага жывапісца. На сцяне маёй віленскай кватэры вісіць ягонае няскончанае палатно, а подпісу на ім няма. Каб тое палатно выставіць на аўкцыёне з подпісам, дык можна было б і добра зарабіць. Я набыў патрэбныя фарбы, набыў разбаўляльнік, падрыхтаваў адпаведны пэндзаль. Вывучыў усе подпісы літоўскага майстра. Зрабіў на паперы эскізы ягоных аўтографаў у розных памерах. Падабраў самы сумаштабны. Прыклаў да палатна і зразумеў, што подпіс падрабляць не стану. З подпісам палатно моцна пагаршаецца; а пагаршаецца яно

таму, што пачынае прэтэндаваць на завершанасць. Яно не скончанае, яно толькі распачатае, у ім ёсць свежасць пачатковасці. Калі я пастаўлю подпіс – свежасць знікне. Подпіс у такім варыянце павышае кошт карціны, але зніжае яе жывапісныя і мастацкія якасці. Калі быць шчырым, дык і подпісы на карцінах Пабла Пікаса мяне ніколі моцна не хвалявалі.

## Падпарадкаванасць

Вобразы, народжаныя фантазіяй, цяжка перанесці на палатно. Часам іх і немагчыма ўвасобіць у жывапіс. Ты намагаешся, ты прымушаеш фарбу падпарадкавацца тваёй волі, ты шматкроць перарабляеш розныя фрагменты, а карціна робіцца толькі горш. Можна занурыцца і ў адчай. Каб выйсці з адчайнай зануранасці, трэба адкінуць амбіцыі і пайсці ўсед за пэндзлем, пайсці ўслед за фарбамі са сваёй палітры, каб прыйсці да сваіх колераў, да сваіх новых вобразаў і сваёй скончанай карціны. Пра падобнае выказаўся і Пікаса: “Жывапіс мацнейшы за мяне. Ён прымушае мяне рабіць тое, што ён хоча”.

## Холад

Фатографу Брасаю Пікаса казаў: “Мне некалькі разоў за жыццё даводзілася пакутваць ад холаду! У Барселоне я паліў уласныя малюнкі, каб крыху сагрэцца...” У маім жыцці падобнага холаду яшчэ не было і, спадзяюся, не будзе. Таму не наракаю на лёс і не зайздрошчу побыту свайго любімага Пабла Пікаса.

## Матэрыя

Пікаса любіў рэчы. Шанаваў рэчаіснасць і рэчывы. Ён быў страшэнны матэрыяліст ды ўласнік, а праз гэта і пабойваўся злодзеяў. Страх перад крадзяжамі цяпер захоўваецца ў музеях Пабла Пікаса.

## Чорт

У 1966 годзе да дня народзінаў Пікаса ягоны вялікі прыхільнік Ілля Эрэнбург напісаў: “Некалі вельмі даўно, гледзячы на ягоныя палотны, я назваў яго, жартаўліва, чортам. Іспанцу лёгка вымавіць гэтае рускае слова, і кожны раз, калі я да яго прыязджаю, ён усміхаецца і кажа: “Я – чорт”. Чорт зазвычай падаецца хітрым і злосным, але Пікасса шчыры і добры чорт”. Чытаючы пра Чорта-Пікаса, мне згадаўся іншы мастак – Чарткоў, якога стварыў Гогаль у аповесці “Партрэт”. Калі адкінуць містыку, дык кожны, хто крэмзае і чэрціць, кожны, хто чорнай фарбай ці чорным алоўкам малюе на палатне ці паперы, у нейкай ступені – чорт. Хітрадушныя цемрашалы яшчэ казалі, што ў чорнай друкарскай фарбе жыве сам д’ябал. Такім чынам у чэрці можна залічваць усіх, хто крэсліць, малюе, піша і друкуе. Усіх, хто нясе асвету, можна залічыць да чарцей і нячысцікаў. Дзіўна, што туды так лёгка не залічваюцца тыя, хто страляе, забівае і знішчажае.




*Адам Глобус. “Рэчы ад Пабла”. 2015 год.*

## Карыкатура

Вайна – з’ява цяжкая. Вайна заўжды карыкатурная. Нават пано Пабла Пікаса “Герніка”, прысвечанае жахам вайны, нішто іншае як вялізная карыкатура на чалавецтва.

## Брак

Сяброўка Пікаса – Гертруда Стайн запісала ягонае жорстае выказванне: “Брак і Джойс – дзве загадкі, зразумелыя кожнаму”. Наконт Джойса не магу не пагадзіцца. Ірландская загадка Джэймса Джойса і сапраўды зразумелая, калі паверыць, што чарговы Уліс змог нарадзіцца і ў нейкім там Дубліне. Загадка Жоржа Брака больш складаная, бо яна і загадка самога Пікаса. Менавіта з Бракам Пабла Пікаса вынайшаў кубізм. Яны разам пачалі ствараць і стварылі на палотнах новую кубістычную рэальнасць. Загадку Брака можна зразумець толькі ў тым выпадку, калі зразумеш усяго, як ёсць, Пікаса, а гэта задача складаная і патрабуе доўгай працы.



*Адам Глобус. “Аматары выпіць за Пікаса”. 2014 год.*

## Сапраўднасць

Сярод шматлікіх выказванняў Пікаса, якія пазапісвалі аматары ягонай творчасці, ёсць і такое: “У мастацтве не існуе ні мінулага, ні будучага”. Сапраўды ў творах мастацтва ёсць толькі цяперашні час, спыненае імгненне, вечнае тут і вечнае цяпер. Таму мастакі любяць і натхняюцца тым, што ёсць, днём сённяшнім, святлом дадзеным. Мастака радуе сапраўднасць, тутэйшасць і рэальнасць. Пабла Пікаса, безумоўна, адзін з самых сапраўдных і праўдзівых мастакоў у свеце.

## Ліфт

Свой малюнак “Канец шляхоў (Анёл смерці)”, падфарбаваны акварэллю недзе ў 1899-м годзе, Пікаса вытлумачыў наступным чынам: “Багатыя едуць на неба ў карэтах, а бедныя валакуцца пешкі”. У 19-м стагоддзі грамадскі транспарт быў і сапраўды ў недаразвітым стане. Каб Пікаса маляваў “Анёла смерці” напрыканцы 20-га стагоддзя, дык абавязкова зрабіў бы для старых людзей і самы распаўсюджаны сучасны транспарт – ліфт. Думаю, шмат хто захоча выправіцца на неба да анёлаў менавіта ліфтам, а не пешкі ці ў карэце.

## Самаробнае

У мастацтве гледача заўсёды вабілі рознага кшталту варыяцыі ды імправізацыі. Копіі ды падробкі таксама цешаць і радуюць людзей. Лепей паразглядаць аматарскую карціну, змаляваную з “Таемнай вячэры” Леанарда, чым засмечваць памяць арыгіналамі нейкага там Цюцюрына ці Кукузьміча. Таму і сам я раблю шмат малюнкаў з Пікаса і пад Пікаса. Ёсць у гэтых працах і камерцыйны сакрэт, бо акрамя матываў Пабла Пікаса мае малюнкі маюць фактуру, фарбы і непаўторнасць арыгінальнага

твора. Гэта вам не шматтыражная рэпрадукцыя, між іншым. Дарэчы, калекцыянер-пачатковец, набываючы майго самаробнага Пікаса, можа задаволіць адразу дзве патрэбы – патрэбу ў творы генія і патрэбу ў арыгінальнай непаўторнасці набытка. Зрабіць гэта можна за досыць невялікую суму. У свой час сам Пабла Пікаса даваў падобную магчымасць аматарам Веласкеса і Эль Грэка, аматарам Латрэка і Энгра.

## Знаёмцы

Паглядзеў фільм пра Пікаса, у якім было шмат размоў з добрымі знаёмцамі майстра і рознымі мастацтвазнаўцамі.

Мяне замаркоцілі апавяданні пра смерць, якую Пікаса моцна і неяк зусім па-дзіцячы баяўся. Яе ўсе баяцца, але страх мастака перад уласным сыходам быў перабольшана замоцны.

Парадавала тое, што Пікаса захапляўся хіпі. Любіў іх музыку і вопратку, любіў на Міжземнаморскіх пляжах пагутарыць з хіпанамі ды хіпушкамі. Ну і, вядома, ён шмат маляваў хіпі – даўгавалосых, барадатых, з гітарамі і флейтамі, яркіх, у капелюшах. Гэтыя малюнкі і карціны я бачыў раней, але не ведаў, што яны намаляваны з хіпі. Думаў, што гэта вобразы музыкантаў і артыстаў.

Пэўнае непаразуменне выклікалі размовы пра аперацыю, якую зрабілі старому мастаку. Пасля той аперацыі Пікаса страціў магчымасць займацца паўнавартасным сэксам. Мастацтвазнаўцы спрабавалі звязаць гэтую драматычную падзею з эратычнымі і парнаграфічнымі малюнкамі вялікага майстра. У мастацтвазнаўцаў нічога цікавага не атрымалася, бо эротыку і парнаграфію Пабла Пікаса маляваў няспынна цягам усяго свайго доўгага жыцця.

## Пярэбары

Пікаса пераехаў з мінорнай Барселоны, асветленай прахалоднай поўняй, у мажорны і сонечны Парыж. Разам з Пікаса выбраліся на сонца і ягоныя блакітнакроўныя цыркачы. Большасць мастакоў спрабуе выбрацца са сцюдзёных ценяў у цёплае святло. Ван Гог перабраўся з Галандыі ў Францыю, Гаген – з Францыі на Таіці, Рэрых – з Расеі ў Індыю...

## Трагічны тыдзень

У юнацтве Пікаса зрабіў малюнак “Хрыстос, які благаслаўляе д’ябла”. Малады мастак добра адчуваў рэвалюцыйныя настроі, што ахоплівалі ягоную радзіму; настроі, што выліліся ў барселонскі Трагічны тыдзень, які адбыўся ў ліпені 1909 году. Стыхійныя народныя пратэсты перараслі ў бунт і ўсеагульную забастоўку, якая хутка змянілася жорсткімі ўзброенымі сутыкненнямі з паліцыянтамі. У час бунтарскіх і баявых дзеянняў было спустошана і спалена шмат хрысціянскіх сабораў. Свой юначы малюнак з Хрыстом і д’яблам Пікаса заўсёды вазіў з сабой, хоць амаль усе творы з таго перыяду пакінуў на захаванне ў барселонскіх



*Адам Глобус. “Жанчына Пікаса глядзіць на карыду”. 2015 год.*

сваякоў. Ці збіраўся Пікаса напісаць карціну з надзвычайным рэлігійным сюжэтам? Ніхто не ведае. Але гэты малюнак ён захоўваў разам з каштоўнымі фотаздымкамі праз усё сваё доўгае жыццё.

## Спакуса

Часам узнікае спакуса назваць Пабла Пікаса – Д'ябло Picasso.




*Адам Глобус. "Жанчына Пабла з барселонскай вуліцы". 2015 год.*

## Даша

У мяне шмат знаёмцаў, якія вучыліся на мастакоў. Вучыліся доўга, а мастакамі не сталі. Жыццё так паварочваецца, што планы ў чалавека мяняюцца моцна. Збіраўся стаць мастаком, а стаў журналістам. Збіраўся стаць журналістам, а стаў таксоўшчыкам. Збіраўся стаць таксоўшчыкам, а стаў вартаўніком на пошце... Гэты знаёмец збіраўся стаць выкладчыкам малявання, а стаў журналістам у часопісе "Спецназ". Ёсць і такая работа – пісаць пра вайскоўцаў у чырвоных берэтах. Піша. Зарабляе. Нават на падарожжа ў Парыж зарабіў. Прыехаў у Парыж з дачкою. Прыйшоў у музей Пікаса. Ногі самі прывялі. Ногі памятаюць, як гадзінамі стаялі каля мальберта. Ногі прывялі і сталі ў чаргу. Вялізная чарга ў той момант была ў музей. Дачка Даша паглядзела на чаргу і папытала: "Табе гэта трэба?" Мой знаёмец паглядзеў на Дашу і сказаў: "Не трэба!" Так ён канчаткова і развітаўся з намерам стаць мастаком.

## Ухваленні

Пікаса быў з тых, хто любіў усхваленні. Ён не проста любіў кампліменты, ён яшчэ і не пераносіў крытыкі. Калі ў маладосці ён яшчэ трываў крытыку ад Жоржа Брака, дык пазней ён яе не цярпеў зусім і абмежаваў стасункі з тымі, хто мог яго пакрытыкаваць... Пабла Пікаса даўно няма, але сур'ёзная крытыка ў ягоны бок усё яшчэ маўчыць, нібыта ён жывы і можа моцна пакрыўдзіцца.

## Маладосць

Разглядаючы фотаздымкі з Пікаса, заўважыў, што майстар усё жыццё заставаўся ўражлівым хлопчыкам. Ягоныя круглыя вочы ніколі не гублялі здатнасці здзіўляцца.

## Барселона

У Барселоне шмат самых розных мастакоў жыло, жыве і жыцьме. Барселона можа страціць мастака і не заўважыць. Адным больш ці адным менш – не так і істотна, калі гэты мастак не Пікаса. Нават страціўшы Пабла Пікаса, Барселона працягвала і працягвае ганарыцца сваім сынам. Барселона пабудавала для Пікаса музей у палацы. Пабла Пікаса ўслаўляў барселонцаў на сваіх палотнах, а цяпер барселонцы ўслаўляюць Пікаса, бо ён – выключны.

## Элементы

Кожны мастак старанна складае свой свет з пэўнага набору элементаў. Пікаса – выдатны прыклад, каб гэтыя элементы ўбачыць і пералічыць. Пачну з нацюрмортаў... Груша. Яблык. Цыбуліна. Шар. Куб. Конус. Свечка. Чэрап чалавека. Чэрап каня. Чэрап быка. Гітара. Скрыпка... У краявідах Пікаса шмат... Аблокаў. Дрэваў. Дамоў. Мора. Месячнага святла... Ёсць у Пікаса і ўласны бестыярый, дзе гуляюць... Кот. Сабака. Асёл. Конь. Бык. Ягня. Голуб. Рыба... І ўсё ж найперш Пікаса цікавіць чалавек... Хлопчык. Дзяўчынка. Арлекін. П'еро. Цыркач. Жабрак. Аголеная жанчына. Жанчына ў хітоне. Жаночы твар. Музыка... Ёсць у Пікаса і месцы, дзе ён знаходзіць сваіх герояў... Цырк. Тэатр. Карыда. Пляж...

## Вучні

Пікаса – найпапулярнейшы з мастакоў. У яго вучацца, у яго шмат эпігонаў. У яго магла быць найвялікшая школа ці нават акадэмія, але ён не працаваў выкладчыкам. Мастакі вучацца на творах Пікаса. Ён – узорны мастак, але ніхто з мастакоў не піша ў сваёй біяграфіі: "Вучыўся ў Пабла Пікаса".

## Далі

Наколькі я люблю і шаную Пікаса, роўна настолькі я не прымаю Далі. Нават у тых працах, дзе Далі пераймае тэхніку і прыёмы, блізкія да Пікаса, ён для мяне застаецца і чужы, і халодны, і нават гідотны. Здавалася б, усё мусіць быць крыху інакш, бо мне блізкія хрысціянскія сюжэты, якія выкарыстоўваў Далі, – таемная вячэра з Хрыстом, Мадонна, укрыжаванне. Але ў выкананні Далі гэтыя сюжэты мне малацікавыя. Далі заўсёды падтрымліваў Каталонію і яе незалежнасць ад Іспаніі, але і нацыяналізм у выкананні Сальвадора Далі мне чамусьці не блізкі. Леварадыкальныя погляды Пікаса мне бліжэй. Прытым, маё прыняцце Пікаса і непрыняцце Далі адбываецца на падсвядомым, фізіялагічным узроўні. Далі – чужы, Пікаса – свой. Далі не прымаецца з усімі ягонымі дасягненнямі, а Пікаса прымаецца з усімі ягонымі хібамі.

## Смерць

Малады Пікаса быў захоплены тэмай смерці. Блакітны перыяд у ягонай творчасці пазначаны менавіта гэтымі матывамі... Месячнае мёртвае святло... Таварыш у труне... Жабракі... Пахаванне... Здавалася, што ён і не выйдзе з гэтай тэмы. Выйшаў. Пазнаёміўся з артысткамі. Захапіўся жыццярадаснымі фарбамі імпрэсіяністаў, фарбамі Гагена, Латрэка і Ван Гога. Любоў да Эль Грэка адышла ў мінулае. Праз кабарэ, праз тэатр і цырк Пабла Пікаса выйшаў да жыццярадаснасці, да новага Ружовага перыяду. Толькі тэма смерці зноў і зноў вярталася да яго. Захоплівала, калі ён маляваў карыду. Захоплівала, калі ён пісаў палатно, прысвечанае зруйнаванаму гораду баскаў – Герніцы.




*Адам Глобус. "Рыбы Пікаса". 2015 год.*

## Жывыя кветкі



*Адам Глобус. "Сябрук Пікаса". 2015 год.*

"Вы з Беларусі? Так далёка ехалі? Як там у вас у Беларусі?" – "Ціха. У нас больш-менш спакойна. Гарачай вайны няма..." – "А сюды зайшлі дзеля чаго?" – "А дзеля чаго заходзяць у музеі?" – "Сапраўды... Што гэта я... Можа, вы нешта канкрэтнае хочаце ў нас паглядзець?" – "У вас добры Эль Грэка..." – "Я вас расчарую. Эль Грэка сёння ў нас няма... Ягоныя палотны ў падарожжы па свеце. Карціны падарожнічаюць, як людзі. Эль Грэка ўвесь час вандруе..." – "А Пікаса на месцы?" – "Так! Пікаса якраз на месцы. Пройдзеце па прыступках уніз, там знойдзеце працоўны стол Русіньёля. Мы на ім заўсёды ставім жывыя кветкі. Побач з букетам на сцяне ўбачыце Пікаса..." – "«Карыду?»" – "Так. Там вісіць «Карыда»..." – "Дзякуй!" – "Прыемна было пагаварыць... па-руску... Звярніце ўвагу: побач з Пікаса там графіка Хірасіга і Хокусая..." – "Дзякуй... Хокусая я абавязкова пагляджу ўважліва". – "Вы яшчэ зойдзеце да нас?" – "Зайду... З дачкой..."

## Ромб

Усе ведаюць "Чорны квадрат" Казіміра Малевіча. Ведаюць, што "Чорнаму квадрату" папярэднічаў кубізм. Уласна, з кубістычнага жывапісу і нарадзіўся супрэматызм з "квадратамі". Калі ўважліва паўглядацца ў кубістычныя палотны Пікаса, дык можна вылучыць з іх чысты ромб. Таму варта сказаць, што ромб Пікаса нарадзіў квадраты Малевіча.

## Парменід

"Бог – нерухомы, завершаны і мае форму шара", – сцвярджаў Парменід. Мне – мастаку, які шмат часу прысвяціў вывучэнню кубістычнага жывапісу Пікаса і Брака, у формуле Парменіда бачыцца не шар, а белы куб на белай плоскасці.

## Карыкатуры

Я добра стаўлюся да самых розных карыкатур, за выняткам тых, што напісаны алейнымі фарбамі на палатне. Зрэшты, і да такія карыкатур я стаўлюся выдатна, калі гэта "Таемная вячэра" Эміля Нольдэ ці "Герніка" Пабла Пікаса.

## Смецце

Сучасны абстрактны жывапіс лёгка падзяляецца на дзве гурбы. У адной гурбе пасартаванае і ўпарадкаванае смецце, а ў другой смецце навалена без складу і ладу. Да першай гурбы я адношу палотны Вазарэлі і Мандрыяна, Малевіча і Родчанкі, а таксама Мартынчыка і Русавай, да другой гурбы – палотны Полака і Тапіеса, а яшчэ і Фалея. Ніводная з гурбаў мяне ніколі моцна не натхняла, бо я прыхільнік іншага

падыходу да смецця. Падыходу, якім карыстаўся Пікаса. Ён браў на сметніку старыя і непатрэбныя рэчы і рабіў з іх рэчы новыя і ўзорныя. Са старога веласіпеднага сядла і старога веласіпеднага руля Пабла Пікаса зрабіў выдатную галаву быка.

## Веласкес

Пікаса даведаўся ў Веласкеса пра тое, што інфанты падобныя да караблёў, і яны не абы-якія караблікі – яны каравэлы.

## Вяртанне

Пазычанае трэба вяртаць. Здаецца, усе ведаюць пра патрэбу вяртання, але мала хто напраўду вяртае пазыкі. У Пікаса ёсць разважанне на гэты конт: "У нейкі дзень я бяру сядло і руль, складаю іх адно да аднаго і раблю галаву быка. Вельмі хораша. Але што трэба было зрабіць адразу? Варта было выкінуць галаву быка. Выкінуць яе на вуліцу, у канаву, не важна куды, але выкінуць. Потым ідзе нейкі рабочы. Ён яе падбірае. І бачыць, што, напэўна, з гэтай галавы быка ён мог бы зрабіць сядло і руль для ровара. І робіць... Гэта было б шыкоўна. У гэтым – дар метамарфозы". Пікаса неаднойчы расказваў пра выкіданне сваёй зробленай з дэталяў ад ровара галавы быка. Расказваў, як галаву быка знаходзіць падлетак, якому патрэбна было сядло. Яшчэ Пікаса казаў, што творы, зробленыя з марскіх каменьчыкаў, варта выкідаць у мора. Казаць казаў, але ніколі нічога не выкідаў. Добра, што ён задумваўся пра вяртанне і казаў пра яго, бо іншыя не вяртаюць, не кажуць і не думаюць.

## Міфы

Мінатаўр быў адным з улюбёных герояў Пікаса. Не аднойчы Пабла Пікаса казаў, што Мінатаўр – гэта ён сам. Чалавек з галавою быка паўстае на малюнках Пікаса ў самых розных ролях і самых нечаканых сюжэтах: на карыдзе, у майстэрні мастака разам з натуршчыцай, на марскім пляжы, у сцэнах гвалту... Шмат хто не ўспрымае і не прымае такога атаясамлівання мастака з героем, а выказванні Пікаса трактуе як звычайны жарт. Я схільны паверыць вялікаму майстру, бо і сам у розных ступенях люблю атаясамлівацца з героямі, якіх малюю. Для мяне з самых розных міфалагічных герояў найбліжэйшы біблійны Адам, і не толькі Адам з каханай Еваю, а і Адам хлопчык – Адамчык, які любіць бацькоўскі свет і адорвае рэчы імёнамі.



*Адам Глобус. "Рэчы Пабла з 1908-га". 2015 год.*

## Бараноўскі

Жывапісец Анатоль Бараноўскі казаў вучням, каб яны ўвесь час імкнуліся нешта дадаваць да выявы на палатне. Карціны самога Бараноўскага страшэнна перагружаныя гэткімі дадаваннямі, удакладненнямі, папраўкамі. На ягоных палотнах шмат і нават

зашмат фарбы. Яна ляжыць цяжкой, шурпатай і ў большасці варыянтаў брудна-шэрай скарынкай. Шкада, што Анатоль не прыняў тэзу Пабла Пікаса, што жывапіс – гэта “сума разбурэнняў”, а не “сума дапаўненняў”. Я добра стаўлюся да свайго настаўніка Бараноўскага, але ў гэтай справе займу бок Пікаса, бо згодны, што трэба не толькі дадаваць і дапаўняць, трэба мець мужнасць, каб адымаць малазначнае і непатрэбнае. На малюнку павінен заставацца неабходны мінімум, і не больш за тое.

## Збіральніцтва

“Што такое ў сутнасці мастак? Збіральнік, які робіць для сябе калекцыю, сам малюе карціны, якія спадабаліся яму ў іншых. З гэтага менавіта пачынаю і я, а потым атрымліваецца нешта новае”, – расказваў Пікаса пра сябе, а ў яго атрымалася расказаць і пра новае, пра постмадэрнізм з бясконцым ланцугом варыяцый ды імправізацый, паўтораў і цытаванняў, пародый і версій. Праўда, сюды не трэба дадаваць і залічваць тых з мастакоў, хто збірае толькі грашовыя знакі, а праз іх недахоп у калекцыі – пацiху малюе сабе наўпрост свежыя банкноты.

Аляксей Пяткевіч



...як жа паэтычна магутна і прыгожа загаварыў Купала ў гэтай кнізе!..

# Як вярталі Паэта

***Як укладалі "Спадчыну": Да 135-годдзя ад нараджэння і 75-годдзя смерці Янкі Купалы / Укладанне, падрыхтоўка тэкстаў, уступнае слова, агульнае рэдагаванне Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча; каментары Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча. — Мінск: Кнігазбор, 2018. — 290 с. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кніга 35).***

На адной з паліц маёй хатняй бібліятэкі месціцца вельмі салідны том паэзіі Янкі Купалы. 563 старонкі павялічанага фармату. Праўда, у мяккай вокладцы, што сведчыць найперш пра фінансавыя цяжкасці выпуску. На верхняй вокладцы – сціслая, не перагружаная колерам і фактураю кампазіцыя з каласоў і васількоў. Гэта Мюнхенскае выданне 1955 года, што мае загаловак: "Спадчына. Выбар паэзіі Янкі Купалы".

У маім экземпляры на чыстым аркушы, які раздзяляе вокладку і тытул, ёсць подпіс: "А. Надсон". Так абазначыў сябе першы, напэўна, уладальнік кнігі, вядомы беларускі эмігранцкі дзеяч у Лондане. Затым яна перавандравала да пісьменніка Сакрата Яновіча. Мы сябравалі. І ў адзін з чарговых прыездаў у Беласток я сустрэўся з С. Яновічам, які падараваў гэтую кніжную каштоўнасць мне: маўляў, табе яна больш патрэбная.




Гэта было дзесьці ў канцы 70-х гадоў. Я працаваў на кафедры беларускай літаратуры ўніверсітэта імя Я. Купалы, з 1990-га – на кафедры беларускай культуры. І чытаў кнігу запоем. Мне цікава было не толькі тое, што яна вельмі прадумана і арыгінальна складзена. Галоўнае – тут было нямала вершаў, прычым вельмі моцных, якія ў нас не друкаваліся. І пайшлі гэтыя вершы ў мае студэнцкія лекцыі, у даклады на "Купалаўскіх чытаннях". Асабліва эфектна загучалі такія вершы са сцэны ўніверсітэцкай актавай залы падчас Купалаўскіх вечарын, якія мне даводзілася арганізоўваць. Увогуле эмігранцкае выданне Купалы працавала ў мяне няспынна і досыць вынікова.

Прайшлі гады. І вось трохі нечакана ў 2018 годзе ў выдавецтве "Кнігазбор" з'яўляецца кніга вядомых даследчыкаў беларускай паваеннай эміграцыі Наталлі Гардзіенкі і Лявона Юрэвіча "Як укладалі "Спадчыну" – пра гісторыю падрыхтоўкі і выдання згаданага Купалавага збору. Выхаду кнігі шчасліва паспрыяў той факт, што Беларускі архіў-музей літаратуры і мастацтва атрымаў з Нью-Ёрка, з Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ) адпаведныя архіўныя матэрыялы. Змест кнігі Н. Гардзіенкі і Л. Юрэвіча складае ліставанне двух укладальнікаў "Спадчыны" Вітаўта Тумаша і Станіслава Станкевіча, а таксама артыкулы Н. Гардзіенкі і Л. Юрэвіча, што ідуць на пачатку, пра культурнае жыццё беларускай эміграцыі той пары, калі рыхтаваўся Купалаў том. Артыкулы добра ўводзяць чытача ў атмасферу спраў і інтарэсаў тагачаснай эміграцыі і дапамагаюць зразумець лісты.

Лісты, як вядома, цікавыя заўсёды самі па сабе: гэта ж дакументы чалавечых жыццяў. А тут – жыцці такіх буйных і шматгранных асоб, як В. Тумаш і С. Станкевіч, што заўсёды заставаліся ў цэнтры інтэлектуальна-творчых спраў беларускай эміграцыі і змаглі многа зрабіць на гэтай дзялянцы. Да таго ж яны былі блізкімі па духу людзьмі, добра разумеліся, скончылі адзін і той жа Віленскі ўніверсітэт. Таму ў лістах – не толькі клопат пра выданне Я. Купалы. Тут шмат разнастайных назіранняў, ацэнак, разваг пра людзей эміграцыі, пра друкаваныя выданні, пісьменнікаў, грамадскія арганізацыі і інш. Гэта своеасаблівая крыніца ведаў пра беды і радасці жыцця на чужыне. Прычым абодва аўтары лістоў жывуць ідэяй гуртавання беларусаў і стараюцца падтрымаць кожнага ў яго грамадска-патрыятычнай працы. Так, В. Тумаш досыць падрабязна распавядае пра захапленне Міколы Панькова, які збірае звесткі аб гісторыі беларускай перыёдыкі і мае ў сваёй бібліяграфічнай картатэцы ўжо 1300 адзінак. Гістарычны адлік вядзе, пачынаючы ад "Мужыцкай праўды". В. Тумаш занепакоены лёсам гэтай картатэкі, якую трэба было б дапрацаваць і выдаць.

Аднак жа асноўны змест лістоў, якія пісаліся і дасылаліся на працягу 1952–1955 гадоў, складае падрыхтоўка і выданне паэзіі Купалы. Праўда, пры БІНіМе была створана спецыяльная камісія, якой належала заняцца Купалам. Але, як сцвярджае Л. Юрэвіч, камісіі ў рэальнасці не было. І ўвесь цяжар працы ўсклаўся на дзвюх асоб – В. Тумаша, які жыў у Нью-Ёрку і ўзначальваў там БІНіМ, і С. Станкевіча, які жыў пераважна ў Мюнхене і рэдагаваў там газету "Бацькаўшчына". Вось паміж імі і завязалася такая інтэнсіўная і працяглая перапіска. Лічыцца, што складальнікам кнігі з'яўляеццца В. Тумаш, а выдаўцом – С. Станкевіч. Першы і напісаў "Уводнае Слова" да тома, дзе тлумачыцца структура выдання, выказваецца падзяка шэрагу асоб, якія дапамагалі (напэўна, толькі практычна) у працы. Але подпісу В. Тумаша пад тэкстам "Словам" няма, а ідзе грыф установы – "Інстытут навукі і мастацтва". Ды не гэта вельмі істотна. Укласці паэтычную спадчыну Купалы ў адзін том і паказаць пры гэтым, як было задумана, усё лепшае і

найбольш характэрнае для паэта – справа надзвычай складаная. Калі б яе рабіў адзін В. Тумаш, то не было б такой вялікай перапіскі з С. Станкевічам, якога В. Тумаш усё больш уцягваў у працу, што станавілася, па сутнасці, супольнай. Тым больш, абодва разумелі (асабліва С. Станкевіч, вопытны літаратуразнавец, доктар філалогіі), што папярэдне падрыхтаваны В. Тумашам матэрыял, разбіты на ідэйна-тэматычныя раздзелы, патрабуе яшчэ сур'ёзнай дапрацоўкі. Раздзелы гэтыя былі важным інструментарыем прэзентацыі Купалы-паэта. Кожны раздзел павінен быў увасабляць нейкую асобную грань светаадчування аўтара, не павінен быў страціць самастойнасці. Тут дарэчы ўспомніць выданне Я. Купалы 2008 года, якое ажыццявіў вядомы маскоўскі беларусіст Аляксей Каўка, што сабраў разам дэманстратыўна адраджэнскія творы паэта (даваў яшчэ паралельна з арыгіналам пераклады на рускую мову). Як жа паэтычна магутна і прыгожа загаварыў Купала ў гэтай кнізе! А прагучаў, па сутнасці, усяго адзін матыў. Тумаш жа са Станкевічам вылучылі ў лірыцы паэта аж 10 раздзелаў-матываў. І так намерыліся паказаць мастацкае багацце паэзіі Я. Купалы, яе глыбокую ансамблевасць. Пры гэтым раздзелы не павінны былі прыкметна адасабляцца. Аўтары стараліся, каб у загалоўках не было факталагічнай канкрэтыкі. Выкарыстоўваліся нейкія радкі, іх фрагменты з вершаў Я. Купалы. Толькі ўсю гэтую канструкцыю трэба было шліфаваць. Які твор даваць (і ў які раздзел), а які апусціць – было прадметам шматлікіх абмеркаванняў, узгадненняў, спрэчак. Падрыхтоўка выдання зацягвалася. І заняла, як бачым, тры гады. У 1955 годзе Тумаш пісаў Станкевічу на лірычнай трохі ноце: “Надаела кніга, то пэўна. Працы й часу затрачана нямала. Самой перапіскі ў гэтай справе, перадусім з Табой, набралася ўжо ня менш хіба як тэксту самой кнігі. Як некалі справа будзе ўжо закончаная, думаю ўсю перапіску вылучыць, скласьці ў месца ды для архіўных патрэбаў даць апрацаваць: том, думаю, будзе мала меншы за самую Купалаву кнігу” (с. 254–255).

Затрымлівалася выданне таксама з-а артыкула пра жыццё і творчасць Я. Купалы, што павінен быў ісці ў кнізе перад тэкстамі паэта. Заказаны быў такі артыкул Янку Ліманоўскаму. Быў ён досыць прыкметнай фігурай на эміграцкім палетку. Перад вайной друкаваў у Мінску апавяданні, аповесці, літаратурна-крытычныя артыкулы. Працаваў намеснікам дырэктара Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР, ведаў Янку Купалу. Але Я. Ліманоўскі падвёў складальнікаў, бо артыкул аказаўся слабым у літаратуразнаўчых адносінах, ды і аўтар не абмінуў увагаю ўласныя творчыя інтарэсы. Артыкул забракавалі, што выклікала нервовую рэакцыю Ліманоўскага, скаргі ў друку. Пачалася валтузня, якая толькі шкодзіла справе. Нарэшце В. Тумаш угаварыў С. Станкевіча ўзяць такі артыкул на сябе. Нават дапамагаў яму ў працы, падрыхтаваўшы біяграфію Я. Купалы. Артыкул у С. Станкевіча атрымаўся грунтоўным і прыкметна ўмацаваў кнігу Купалавай спадчыны.

Даследчык разглядае творчае развіццё паэта ў цеснай сувязі з грамадска-палітычным жыццём краю і паказвае Купалу як глыбокага выказніка духу народа, яго спрадвечных спадзяванняў. Купала ў трактоўцы С. Станкевіча наскрозь лірычны мастак слова, нават у сваіх паэмах і драматычных творах. Працягваючы гэтаю думку, аўтар зазначае: “З гледзішча на глыбіню і сілу лірызму, шчырасць і непасрэднасць пачуццяў, разнастайнасць эмацыянальных адценняў Купала не мае сабе роўных не толькі ў сучаснай яму беларускай літаратурнай творчасці, але і наогул ува ўсёй нашай літаратуры”. Шмат увагі ўдзяляе даследчык мастацкай палітры Я. Купалы, яго паэтыцы. Назіранні аўтара на гэтую тэму арыгінальныя і цікавыя. Вось пра інтымную лірыку Я. Купалы: “Насычаная мяккімі і лагоднымі, часта меланхалічнымі пачуццямі, Купалава лірыка кахання вызначаецца глыбокай шчырасцю, беспасрэднасцю, а над усё – успомненымі ўжо выідэалізаванымі духовымі рысамі жанчыны, як і такімі ж адухоўленымі рысамі самога пачуцця кахання”. Нямала новага сказаў С. Станкевіч пра сувязь Купалавай творчасці з

беларускай народнай міфалогіяй, пра адраджэнскі светапогляд паэта і аўтарскае “я” ў яго творах, пра матыў “безназоўнага” і інш. Артыкул займае 48 старонак тэксту кнігі і з’яўляецца, па сутнасці, манаграфічным даследаваннем творчасці Я. Купалы.

Падрыхтаваная Н. Гардзіенка і Л. Юрэвічам кніга пра выданне Купалавай спадчыны – рэтраспектыўнае культуралагічнае яго ўспрыманне. Кніга сведчыць, што многія з’явы нашай культуры вартыя таго, каб вяртацца да іх дзеля лепшага іх разумення. І яшчэ яна сведчыць, што нацыянальная культура адна, дзе б яна ні ствралася – па той бок дзяржаўнай мяжы ці па гэты. Таму так добра ўспрымаюцца ў кнізе каментарыі, асабліва шматлікія біяграфічныя даведкі. Яны так патрэбныя – і пра вядомых людзей, і пра невядомых, бо ўсе яны прычыніліся да адной вялікай справы. Кніга ж “аўтараў-складальнікаў” – каштоўны ўнёсак у айчыннае купалазнаўства.



Зіна Гімпелевіч



*...куды б я ні ехаў,*
*заўсёды прыеду дадому...*

# Лёс не спыніць

***Юрась Шамецька. Непрадказальнае. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 116 с.***

Барыс Пастарнак вызначыў два асноўныя тыпы аўтараў у рускай літаратуры, якія могуць быць ужытыя да любых нацыянальных твораў. Першы тып уласцівы Гогалю, Дастаеўскаму і Талстому. На думку пісьменніка, гэтыя аўтары галоўным чынам імкнуліся застацца ў памяці нашчадкаў. У выніку іх творчасць была завязаная на падрыхтоўцы да асабістай смерці як працэсу трагічнага і напружанага. Яны быццам бы ўвесь час «рыхтаваліся да смерці, турбаваліся, шукалі сэнс, падводзілі вынікі»[1]. Другі тып – Пушкін і Чэхаў. Нягледзячы на тое, што гэтыя пісьменнікі добра разбіраліся ў пытаннях «мэтаў чалавечага жыцця» і штодзённых праблемах індывідуумаў, тым не менш яны – пры ўсім сваім таленце – не маглі вырашыць гэтыя «складаныя» пытанні. «...Гэтыя двое [Пушкін і Чэхаў] да

[1] Boris Pasternak. Doctor Zhivago. (Glazgow: Harper Collins Publishers, 1988). – p. 259.




канца свайго жыцця былі занятыя вырашэннем бягучых, індывідуальных задач, пастаўленых перад імі іх пакліканнем як пісьменнікаў, і падчас выканання гэтых задач яны спакойна жылі сваім жыццём, ставячыся і да свайго жыцця, і да сваёй працы як да асабістай справы»[2]. Каб працягнуць думку Пастарнака, хацелася б засяродзіцца на тым факце, што Пушкін і Чэхаў ніколі не імкнуліся адысці ад рэчаіснасці. Наадварот, абодва былі тымі, каго сёння называлі б "праваабаронцамі". Бо да кожнай несправядлівасці ў адносінах да сваіх суграмадзян яны ставіліся як да сваёй асабістай справы. Сёння існуе вялікая колькасць пісьменнікаў і паэтаў, якія належаць да адной з груп, пра якія пісаў Пастарнак. Пры гэтым Пастарнак не спрабаваў параўноўваць вышыню ці іх якасць на прыкладзе пяці гігантаў сусветнай літаратуры. Ён проста адзначыў складаную розніцу ў іх стылі жыцця і творчасці згодна з фразай, якая прыпісваецца Андрэ Маруа: «стыль – гэта сам чалавек». Стыль Юрася Шамецькі, безумоўна, належыць да другога тыпу, вызначанага Пушкіным і Чэхавым.

Ю. Шамецька – эрудыт. Дадаткова да сваіх прафесійных поспехаў у галіне кампутарных навук і інжынерыі ён свабодна валодае ведамі ў сусветнай літаратуры, гісторыі, музыцы, архітэктуры і выяўленчым мастацтве. Пры гэтым яго жыццёвы і паэтычны стыль непераборлівы, асаблівы і зразумелы любому, хто любіць і шануе паэтычна выяўленыя сапраўдныя эмоцыі.

Зборнік мае кароткі лірычны ўступ. Гэта тры вершы, якія не толькі адлюстроўваюць асноўныя тэмы кнігі, але і акрэсліваюць змест наступных чатырох раздзелаў. Кожны раздзел мае назву, якая тлумачыць змест. Назва першага верша супадае з загалоўкам усёй кнігі – "Непрадказальнае". Шамецька вызначае ў ім сваё разуменне жыццёвых каштоўнасцяў. Аўтар заяўляе пра сваю мэту – шукаць сэнс і ўзаемнасць у жыцці – і называе элементы, якія з'яўляюцца важкімі на яго асабістым шляху. Яны ўключаюцца ў яго ўласную памяць, заснаваную на атрыманых ведах і веры ў Бога. Паэт упэўнена заяўляе: «не цураюся неба смелага» (с. 5). Ён таксама не забывае пра вечнасць і адчувае сувязь з ёй праз узаемную добразычлівасць: «А ад нас застаецца лепшае на шляхах, заўжды супярэчлівых» (с. 5). У другім вершы паэт адкрывае чытачу «кухню» ўласных твораў, дзе ён шукае гук, да якога мажліва дакрануцца і перадаць ідэю ці эмоцыю аднадумцу. Сапраўды, яго вершы, напоўненыя ўнутранай музыкай (меладычныя рыфмы, прасодыя), выяўляюць глыбокія веды, што выступаюць у якасці скарбаў майстэрні паэта. Але не толькі. Мы таксама можам параўнаць яго творы з выяўленчым мастацтвам у розных яго праявах: часам яго словы нагадваюць акварэль альбо графіку ці гравюру, нават станковы жывапіс, асабліва ў паэмах. Гэтая сувязь асаблівым чынам выяўляецца ў апошнім вершы ўступа – «Мая прастора». Тут паэт-мастак распавядае, як дзве сферы яго асабістага жыцця – Беларусь і Канада –ператварыліся ў адзіную карціну. І ў далейшых творах аўтар паказвае Беларусь і Канаду так, быццам яны – дзве розныя часткі мозгу. Аднак падобнае параўнанне добра пасуе па сэнсе, бо гэтыя паловы ёсць арганічнымі часткамі аднаго цэлага.

У першым раздзеле, «У Менску я не заблукаю», прадстаўлены дванаццаць вершаў, кожны з якіх вызначае аўтарскую, амаль «апостальскую» веру ў родны горад. Тэма выяўленчага мастацтва працягваецца ў другім вершы, дзе яго пачатак супадае з аднайменным вершам Марка Шагала «Мой горад». Паэт таксама ўзгадвае значны помнік архітэктуры – мінскі музей выяўленчага мастацтва, – бачыць і

[2] Тамсама.

апісвае яго ў розных колерах, слухае музыку свайго горада і, адначасна, адчувае прысутнасць вышэйшай сілы ў расхінутых над ім нябёсах.

Кантрастныя колеры белага і чорнага абрамляюць наступны верш і, пры гэтым, дадаюць яму шырокі і глыбокі філасофскі настрой. Ю. Шамецька згадвае тут доказы Фамы Аквінскага пра існаванне Бога. Цікава адзначыць, што ў адрозненне ад Канта, які адкінуў пяць доказаў Аквінскага і стварыў адзіны на базе ўяўлення аб маральнасці, паэт дадае да Аквінскага свой уласны доказ – «дабрыню, што ў нашых думках вольных ужо чакае новага гучання» (с. 13). Наступныя вершы гэтага раздзела – як пейзажы любімага горада паэта, паказаныя ў розныя парабіны года. Пейзажы напоўненыя колерамі, музыкай і гукамі Мінска. Апошнія два вершы ўзмацняюцца дакладным адрасам падзякі: «Я дзякую Богу за міласць», а таксама заяўляюць пра любоў да яго музы (жонкі), якая ў вершы «Падарожжа» прадстаўлена як уласны талісман.

Назва другога раздзела гаворыць сама за сябе: "Куды б я ні ехаў, заўсёды прыеду дадому, або Перэгрынацыя ў сучаснасці". У раздзеле прадстаўлены дваццаць адзін верш. Але, нягледзячы на прысутнасць той самай паэтычнай схемы, як і ва ўступе, так і ў першым раздзеле, адчуваецца, што вершы напісаны па-іншаму. У дадатак да сваіх дзвюх любімых краін Ю. Шамецька дзеліцца з чытачом адкрыццём культурных каштоўнасцяў Еўропы і ЗША, дзе ён адчувае сябе "як дома". Выяўленчае мастацтва, музыка, архітэктура і культура ўвогуле кожнага месца, якія аўтар наведвае, разгортваюць новы погляд паэта на разуменне жыцця. Тут Шамецька – чалавек свету. А любоў да новага – няхай гэта паэтычныя малюнкі ад сустрэчы з акіянам альбо каналамі Венецыі, штучнай (зробленай чалавекам) або натуральнай прыгажосці – пранізвае ўсе вершы цыкла. Пры гэтым, у кожным з сваіх падарожжаў паэт узгадвае свой дом і сваю маці. Сапраўды, кветкі герані ў Бруге выклікаюць цёплыя ўспаміны пра матулю, якая з любоўю вырошчвала такія ж самыя кветкі ў хаце (с. 41). Тафіна (заходняе ўзбярэжжа выспы Ванкувер) з яе акіянам і дзікай прыродай натхняе паэта ўспомніць пра маці, якая ў гэты момант мые посуд у Беларусі. Сімвалічна, што вобраз маці ўзмацняе адчуванне аўтарскай прысутнасці дома, куды б ён ні ехаў. Трохчасткавы верш «Шпацыр па беразе Ціхага акіяна» напісаны паводле музычнай формы «ронда». Ён пачынаецца са спеваў славы акіяну – «Я цябе душой заўжды пачую...», працягваецца гімнам вечнасці і замыкае кола думкамі пра ўнутраны свет, дзе галоўнае ў жыцці – «настрой душы, аблашчаны любоўю» (с. 46-47). Натуральнасць паэтычнай музычнасці раскрываецца ў адным з апошніх вершаў гэтага раздзела, «Слухаючы Філіпа Гласа». Паэт у сваёй пашыранай метафары раскрывае сакрэт дару кампазітара, кажучы, што «мы – музыкі дзейная частка», з таго самага моманту, калі адчувае гукі як сувязь з небам (з Богам) (с. 55).

Назва трэцяга раздзела «Мой Мінск – Атава» аб'ядноўвае і спалучае два родныя гарады паэта ў адну асабістую прастору. Тут бясконцасць жыццёвага шляху, дзе вершы існуюць нібы своеасаблівыя прыпынкі на гэтым шляху. Кожны з дваццаці аднаго верша раздзела мае галоўнага героя, альбо асобу, альбо месца (горад ці краіну). Вершы прысвечаны прыродзе, музыцы, Богу, «магічнай лёгкасці існуючага», асобам сусветнай культуры, сярод якіх мастакі (Шагал і Малевіч), філосафы розных часоў (Ямамота Цунэтома і Людвіг Вітгейштэйн), мадэрнісцкі паэт Шарль Бадлер і геніяльны паэт-філосаф Іосіф Бродскі. Тут усе яны – адна сям'я і сябры-аднадумцы.

«Твой голас мілы я яшчэ пачую...» – заключная частка зборніка. Як і папярэдні, гэты раздзел складаецца з дваццаці аднаго верша. Здаецца, што нумар дваццаць адзін мог бы стаць своеасаблівым сімвалам няспыннага паэтычнага запалу Ю. Шамецькі. Сапраўды, юнацкі лірычны тэмперамент паэта цалкам спалучаецца са сталасцю атрыманых на працягу жыцця ведаў.

Першы верш раздзела, «Ліст», дэманструе несмяротнае ўзаемнае юнацкае каханне, якое паэт апісвае ў сваім лісце да каханай. У ім ён спявае гімн сучаснасці і будучыні закаханых:

Мы разам... Ты заўсёды побач...
Лёс не спыніць і не зрабіць прасцей.
Я напісаў шчаслівы ліст – напомніць,
як доўга нам яшчэ ісці далей (с. 89).

Наступны верш, «Пажары восені тваёй», не менш маляўнічы і аптымістычны. Ён аб'ядноўвае бачанне восеньскай прыроды і ўзаемнасць лёсу закаханых: "Лёс нам дарыў з нязменнай верай усё, што меў...» (с. 90). Тая ж самая падзяка каханай жанчыне і лёсу працягваецца і ў заключнай частцы раздзела і гучыць асабліва моцна ў вершах «Твой голас мілы я яшчэ пачую...», «У маіх вершах ты шукаеш дзіўнай музыкі вытокі...» (с. 92-93), а таксама ў вершах «Дом» і «Твой дзень » (с. 104-105). Тэма кахання спалучаецца з натхняльнымі словамі Вергілія: «Любіць жанчыну трэба больш натхнення, чым верш прыгожы напісаць» (с. 106).

На заключэнне падкрэслім і вылучым выдатную, і таму цяжкую для перакладу, мову паэта. Яна багатая, спраўная і ёмкая. Аматары паэзіі безумоўна ўпадабаюць новую кнігу Ю. Шамецькі, якая прынясе ім эстэтычнае задавальненне.



Леанід Галубовіч



...Старыя сцежкі зарастуць,
Другія вытапчам нанова...

# Мера светлага шчырага слова

***Уладзімір Мароз. Выбранае. У 3 т. – Мінск: Галіяфы, 2018. – (Кнігарня пісьменніка).***

У кожнага паважанага і плённага літаратара наступае час, калі ён задумваецца над падсумаваннем свайго творчага набытку – выданнем *выбранага*, а то, як Ніл Гілевіч, і ўвогуле ўласнага поўнага збору твораў. Вядома, што такое практыкавалася за савецкім часам і дзяржавай фінансавалася. Асабліва ў пашанотныя круглыя юбілеі тых вылучных пісьменнікаў і паэтаў, якія за межы надзённай дзяржаўнай палітыкі ў сваіх тэкстах не выходзілі. Цяпер такое амаль немагчыма. Хіба што ў прыўладным СПБ для самых-самых узорных праваднікоў палітычнай лініі кіраўніцтва дзяржавы. Аднак здараюцца рэдкія выпадкі, калі і “недзяржаўны” аўтар мае матэрыяльную магчымасць для выдання сваіх твораў, няхай і невялікім накладам, і карыстаецца ёю (дарэчы, упомнены вышэй Ніл Сымонавіч выдаў свае 23 тамы тыражом не болей як у 100 асобнікаў кожны). Дык вось, паэт, пісьменнік і кінасцэнарыст Уладзімір Мароз да свайго юбілею вырашыў сабраць лепшае з напісанага і выдаць тое, *выбранае* ім, у трох тамах. Гэты




літаратурна-мастацкі плён 65-гадовага творцы (паэзія, проза, сцэнарыі і эсэ) пабачыў свет у выдавецтве “Галіяфы” ў 2018 годзе ў выдатным паліграфічным аздабленні невялікім накладам (80 асобнікаў). Тамы, трэба прызнаць, важкія і гожыя, у афармленні іх прыклала свой талент і дачка аўтара, мастачка Марына Мароз. Да таго ж выданне мае адмысловы чытэльны шрыфт і, што рэдкасць, амаль пазбаўлена граматычных і стылістычных памылак.

Кароткую, але змястоўную прадмову да “выбранага” Уладзіміра Мароза напісаў вядомы наш крытык і літаратуразнаўца Міхась Тычына. Вось некаторыя базісныя вытрымкі адтуль: *“Праўдзівае асэнсаванне падзей далёкіх і блізкіх часоў, памкненняў людскіх і крыжовага беларускага шляху. (...) ... пачатак X стагоддзя, якое ў кнізе У. Мароза завяршаецца ў XX стагоддзі. (...) ...арганічны непаўторны свет беларускай асобы, выяўлены ў мастацкіх вобразах”*. Вядомы крытык даводзіць, што аўтар спрабуе асэнсаваць нашу гісторыю ў паэтычных, літаратурна-мастацкіх і кінематаграфічных вобразах. І, канечне ж, заўважае М. Тычына, нельга прамінуць вобраз самога аўтара, бо насамрэч выданне (асабліва першыя два тамы) пабудавана на аўтабіяграфічным падмурку.

Вось такі азнаямляльны зачын да рэцэнзіі.

Далей пагаворым пра змест і вартасці трохтомніка шырэй і больш заглыблена. Бадай, пачну з прызнання, што, калі мне прапанавалі яго адрэцэнзаваць, я неяк кіславата пасміхнуўся, маючы чытацкі і рэдактарскі вопыт азнаямлення з такімі аб’ёмнымі выданнямі (а ў дадзеным выпадку гэта 1300 старонак тэксту), але *крытычная інтуіцыя* ўрэшце схіліла мяне да згоды. І, не паверыце, калі я стаў чытаць, а пачаў я, сам не ведаю чаму, з другога тома, дзе змешчаны *аповеды жыцця*, па сутнасці аўтабіяграфічная проза У. Мароза, мяне адразу ж захапіла вірлівай плынню і пацягнула на самае дно даволі меладраматычнага жыцця гэтага аўтара. Народжаны ў пасёлку Косава ў сям’і бацькоў-інтэлігентаў (нацыянальна заангажаваных настаўнікаў), блізу палаца Пуслоўскіх і радзімы Тадэвуша Касцюшкі, выхаваны ў час школьных вакацый бабуляй у Мікалаеўшчыне, на радзіме Якуба Коласа, – такі юнак не мог не зацепліць у юнай душы агмень любові да крэўнай Бацькаўшчыны сваёй – Беларусі. Завочна я быў знаёмы з бацькам У. Мароза Вікенціем Іванавічам ужо на самым схіле яго жыцця – гэтым няўрымслівым нацыянальным інтэлігентам, педагогам (ліставаўся з ім, працуючы ў рэдакцыі “ЛіМа” і рыхтуючы да друку яго адраджэнскія артыкулы). Дзяцінства і юнацтва выпісана аўтарам вельмі натуральна, я сказаў бы, шчыра-сентыментальна, з поўнай доляй даверу. Гэта прываблівае і ў пэўнай меры нават *прыручае* чытача, робіць яго сваім, перад якім аўтару не сорамна прызнацца і ў добрых намерах і міжвольных грахоўнасцях. Усё гэта разам, з дакладнасцю ў дэталях, трымала мяне ў пастаяннай зацікаўленасці да эмацыйна закручаных сюжэтаў і ўвогуле да ўсіх насычаных праўдзівымі падзеямі і ўчынкамі праяў аўтарскага жыцця.

*“Я з’явіўся на свет з расплюшчанымі вачыма. Так ужо цікавіў ён мяне з самага пачатку!”* Гэткая першапачатковая заява дае падставы паверыць у align рознабаковую адоранасць У. Мароза – ад малявання да паэзіі, прозы і кінематографа. Шлях да праявы гэтых яго талентаў быў звілісты і няпросты. Па сутнасці, другі том “выбранага” змяшчае ў сабе асноўныя кірункі гэтага шляху – ад нараджэння аўтара да сённяшніх дзён. Тут – і бацькі, і таварышы, і навучальныя ўстановы

(архітэктурны факультэт БПІ, Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве, праца ў “Мінскпраекце” і на “Беларусьфільме”), і хмельна-віхлястыя прыгоды ўласнага жыцця. Між іншым (таксама маю такі згубны вопыт) аўтар, як сапраўдны дэгустатар, апісвае пах і смак, моц і хмель гарэлачных і вінных напояў таго і сённяшняга часу. Адмыслова выпісаны і сам працэс пасядзелак, застолляў і выпівання (аўтар “Сіняй кнігі” тут і блізка *не валяўся*). Прывяду такую згадку:

*Нарэшце пакаштую іх хвалёную “Смірноў”. ...пайшло добра. Гарэлка была гарэлкай, горла, як і павінна быць, крыху дзёрла. Да таго ж прынесена была і чырвоная ікра, што надавала дзеі з нянаскім напоем у савецкай кватэры пэўную долю шыку. (...) Моц напою адчувалася, хоць хмель не браў. (...) ...віскі – дагэтуль упэўнены, што жытнёвая майго дзеда водар мела лепшы, і ром, які цісне цукрам на сэрца, што разумееш пазней, і джын, пры ўжыванні якога ад адчування адэкалону ратаваў толькі прысмак ядлоўцу, да якога я маю сімпатыю.*

Ад сярэдзіны 70-х аўтар адзначае, *“што выпівалі мы на той час ці не кожны дзень”*. Нават ёсць такі асобны аповед “«Сталічная» сярэдзіны сямідзясятых”. Казытліва пацвельвае чытацкую душу такі пасаж аўтара ў адным з дзённікавых расповедаў (пра вучобу ў БПІ, “Развітанні з залікоўкай”): *“Я шмат піў (можа, не столькі шмат, як часта)”*. Вельмі шчырыя, жывыя і трапныя вобразы калег, сяброў і знаёмых. Адметнай мастацкай вартасцю ўразіў лірычна-сентыментальны аповед-успамін “Маскоўскае лета”. Альбо як не зацікавіцца аповедам “Дваццаць адзін дзень”, вусцішна-таямнічым на сваім зачыне, нібыта ў лепшых класічных дэтэктывах: *“Было яшчэ халаднавата, таму па шостай гадзіне з дзвярэй інстытута “Мінскпраект” выйшаў малады чалавек у чорным паношаным паліто і ў чорным капелюшы з вельмі шырокімі палямі, з пацёртай папкай пад пахаю. Гэта быў я”*.

Не менш прыцягальныя сваёй шчырай апісальнасцю і замежныя вандроўкі У. Мароза, якіх было нямала. Пачынаючы з найбольш блізкага (*“Трапіць у Вільню – і яна стане тваёй, роднай”*), да паездак у Чэхію, Ізраіль, Нямеччыну, Італію, Францыю, ЗША... Напярэдадні адной з вандровак аўтар успамінае, як *“...адзін раіў мне яшчэ ў тыя далёкія часы, калі я збіраўся ў свой першы звяртальны выезд: “Дэталі глядзі. Ну, ручка там у дзвярах ці бачок унітаза. Запамінай. А лепш занатоўвай адразу. Потым напішаш”*. Не сказаць, каб падобных дробных дэталяў бракавала ў вандроўнай прозе У. Мароза, але ўсё ж яны былі дадатковым адценьваючым дапаможным матэрыялам да галоўных і грунтоўных разваг і высноў, якія аўтар выносіў з тых творчых ды і турыстычных замежных вылазак. Ён, па меры здольнасці, падрабязна апісвае свае візуальныя і адчувальныя праявы замежнага жыцця: быт, архітэктуру, узаемаадносіны людзей, ментальнасць, уласнае пачуванне ў іх асяродку... І заўсёды – у падтэкстах – краевугольным каменем – Айчыны *край*... Балюча, пакутліва, настальгічна і любагойна...

І хоць на пачатку знаёмства з томам, як я ўжо пісаў вышэй, неяк клопатна было залазіць у мемуарнае варушэнне і настальгічную жарсць аўтарскіх успамінаў, аднак пра затрачаны на чытанне час у рэшце рэшт не пашкадаваў. Гэта вартая ўвагі проза, асабліва для людзей, беларускіх па духу. Напісаная *ад нажа* (без унутранага цэнзара). Раздумаўшыся, я не без асцярогі, але ўсё выкажу суб’ектыўную думку, што на вочы мы маем своеасаблівы, я назваў бы, па аналогіі з выяўленчым мастацтвам, *інсітны* стыль, у якім, часцей за ўсё, без намогі піша У. Мароз (“*інсіта* – гэта тая простасць і непасрэднасць мовы для рафінаванага гледача, што стала загадкавай і прыцягальнай каштоўнасцю”, цытую па Вікіпедыі). Аўтар, у адрозненне ад многіх беларускіх пісьменнікаў, абсалютна не хавае праяў сваіх натуральных чалавечых пачуццяў ва ўсіх жыццёвых сітуацыях, у тым ліку і ў непрыглядных і нават грахоўна-інтымных. Нельга не адзначыць эсэ “Матрыца Беларусь”, дзе Уладзімір Мароз разважае пра духоўнае жыццё чалавека і нашу нацыянальную планіду. З чаго складваецца тая спрадвечная матрыца, якую мы – беларусы – называем крэўнай? З

мовы, традыцый, звычак, своеасаблівасцей бытавання і духоўнай прамацярынскай еднасці... І ўжо на сыходзе разваг пра гэты том (дарэчы, ён мае назву "Тры сшыткі") працытую фрагмент з аўтарскіх пошукаў вызначэння літаратурнай творчасці, і нечаканую падказку ў гэтым пытанні, на якую ён аднойчы натрапіў, чытаючы раман Міхаіла Анчарава "Самшытавы лес": *"...у гэтым рамане знайшоў адказ на тое, для чаго піша чалавек. Піша ў надзеі, што якраз яго слова будзе той апошняй кропляй, што на шалях дабра і зла перахіліць вагу ў бок дабра. Што цікава – у такім вымярэнні мераю апошняй кроплі можа быць не вышыня таленту, а якраз светлае слова. Хто яго скажа, чыя гэта будзе кропля – нікому невядома. А можа, якраз твая? (...) Таму і пішаш. Настолькі лёг глыбока ў душу адказ, што стаў ужо нібыта тваім уласным, знойдзеным табою".*

Пяройдзем да вершаванай творчасці У. Мароза, якая змешчана ў першым томе пад назвай "Другога не дадзена". Вершы ў ім па змесце таксама вельмі блізкія да жанру лірычнага жыццяпісу. Паэтычнае выбранае (хоць пры выбары аўтару можна было б быць і самакрытычней) складаецца з дзевяці вершаваных зборнікаў паэта, якія былі выдадзены аўтарам да гэтага часу. Адразу зазначу, што ў некаторых вершах шмат дробных, малазначных, а то і бытавых падрабязнасцей – і малавата загадкавасці, таямнічасці і метафарычнай дзіваты... Хоць не-не ды натрапіш на свежую і незацяганую вобразнасць: *"святое, без падробкі пачуццё"*; *"абрысы спелых ног"*; *"сыры краявід у акне"*, альбо адмысловую рыфму: *"прыгожага – прыварожвае", "калодзежы – у згодзе жыў"* ці на чароўную алітэрацыю ў вершы "Спас-Еўфрасіння": *"Бялізну дзяўчо паласкала,/ Цякла Палата ля жытла"...*

Выдатны верш (у тым ліку і як песенна-баладны тэкст) "Беларускі шлях". Цікавыя знаходкі здараюцца ў вершы "Сцяжынкі":

А кола – скрып, а кола – круць,
Свой рэй вядзе неадмыслова.
Старыя сцежкі зарастуць,
Другія вытапчам нанова.

Але ўсё ж першы радок верша ўспрымаецца мною як міжвольнае наследаванне расейскаму паэту М. Рубцову, і выклікае з памяці яго радкі: "Сапоги мои – скрип да скрип/ Под березою..."

"Салодка-горкая паэма" (пра першае каханне, з упамінаннем уласнага імя), рэалістычная данельга рэч. Трэба чытаць, там ёсць усё – ад цноты да эратычнага ўтрапення, ад закаханасці да любові...

У вершах з пятага зборніка "За брамай забытых мелодый" пераважае гістарычна-адраджэнская і духоўна-хрысціянская тэматыка. Шукаючы сябе ў паэзіі, У. Мароз не хаваецца за туманным вэлюмам мудрагелістай няўцямнасці:

Чакаю, дачакацца б
Жаданай прастаты.

А вось гэтая страфа яшчэ з першага яго (калектыўнага) зборніка "Крыло":
*"Я хачу дарог – /Выпіць да канца наканаванне, /Каб сказаць, што змог / Разгадаць загадку існавання".*

Ён пэўны ў галоўных пастулатах нашага зямнога жыцця:

Ну а гімны гучаць у сусвеце,
Там штосьі рушыцца, штось паўстае.
Набрыдзь сыдзе, а родныя дзеці
Не забудуцца маткі свае.

Шосты зборнік (“Дабрадаць”, 2006) напоўнены ідылічнымі сямейнымі матывамі і лірычнымі сялянскімі вобразамі Айчыны, а наступны (“Шляхцянка-восень”, 2012) прысвечаны пошукам любові і гармоніі, як у асабістым жыцці, так і ў грамадстве. Вершы пра зямныя падарожжы паэта (прынамсі, у Ізраіль – Віфліем і Іерусалім), складаюць асноўную частку зборніка “Крыжы на ростанях” (2014) , у якім вылучаюцца біблейскія і хрысціянскія матывы, ды вянок санетаў “Крыжы на ростанях” (гэта гістарычны і духоўны экскурс па ўласнай нацыянальнай свядомасці, а таксама спробы напісання хоку і свабодныя верлібравыя маналогі пад рубрыкай “евангельскія згадкі”). Пераймаецца аўтар і развагамі над класічнымі і новымі формамі ў красным пісьменстве (*“Лепш змайструю я вершыкі складныя.../ Няхай на продаж, толькі каб ад сэрца, /А не эстэцтва дзеля, проста так.”*), а таксама, на гэтым фоне, спрабуе прыадкрыць чытачу ўласную “вершатворную кухню”:

Аніяк не спакушайся тэкстам,
Проста слухайся душы свае.
Не турбуйся формай, ані зместам,
А пішы, як Бог табе дае.

Дзявятая і апошняя па часе “Графічная кніга паэта” (2018) – *“радок чырвоны новага жыцця...”* Тут, у “Вольна-бела-вольным трыпціху” У. Мароз яшчэ раз вяртаецца да літаратурнай палемікі, настойваючы на сваім разуменні паэтычнага мастацтва:

Лёгка пісаць вольныя вершы,
Бо нескладана схавацца за ўяўнай шматзначнасцю,
Заценіць сэнс уяўнай глыбакадумнасцю,
Не абцяжарвацца рытмамі і рыфмамі,
Што ўсё ж ёсць першаснай адзнакай паэзіі.

Сказаць, што я згодны з гэтымі “догмамі” вершаскладання, было б няпраўдай. Паэзія – не возера з застоенай вадой, паэзія – крыніца, рака, мора, акіян – хуткацечная, імклівая, зменлівая, хвалістая... Зрэшты, ніхто ж і не адмаўляе класічную высокамастацкую традыцыйную паэзію. Тым больш, і гэта дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што ў самім вершаваным томе У. Мароза дастаткова адметных, арыгінальных і таленавітых твораў.

Трэці том, які называецца “Беларускі мур” *(жыццяроздумы, мініяцюры)*, можна назваць асветніцкімі эсэ. Стыль іх традыцыйна-класічны, блізкі да публіцыстыкі і вусных расповядаў і спавяданняў. Сюжэтныя і кампазіцыйныя карціны рэчаісныя, дэталі і фактура дакладныя (вока і памяць у аўтара, адназначна, ясныя і трывалыя) і ў той жа час тэксты не выглядаюць стэрэатыпнымі (за кошт аўтарскай адкрытасці і сумленнасці ў апісанні ўласнага жыцця). Што праўда, не магу не выказаць адну істотную заўвагу: даволі часта ў тэкстах сустракаюцца аўтабіяграфічныя самапаўторы. Дык з чаго ж, з якога замесу складаецца “Беларускі мур”? З прастаты, шчырасці і веры. У. Мароз спрабуе распавесці пра сваё ўласнае ўспрыманне нашай нацыянальнай гісторыі, беларускай культуры і духоўнасці (найперш, хрысціянства і менталітэту). *“У невялікі сціплых аповедах мы пройдзем шляхам беларускіх стагоддзяў, нагадаем славутыя імёны і найважнейшыя падзеі мінуўшчыны. Гэта будзе своеасаблівы ланцужок, дзе звенчакі – вякі беларускай гісторыі. Ці калі хочаце, гэта катэхізіс, тое неабходнае, што трэба ведаць, каб мець гонар называцца беларусам”* – так вызначыў свой найбольш важкі і істотны гістарычны экскурс у наша нацыянальнае мінулае У. Мароз, назваўшы яго “Беларускі шлях”. Я дадаў бы, што гэта сціслая кампіляцыя гістарычнага

аўтарскага досведу для даходлівага чытацкага ўспрымання. Мяркую, не пакінуць чытача абыякавым і запісы вандроўкі аўтара ў Ізраіль на месца нараджэння Хрыста, і суб'ектыўныя начыркі пра хрысціянскае паяднанне беларусаў, і заклік да стварэння своеасаблівай уніі і адзінавернага храма. Палемічныя і эмацыйныя артыкулы пра беларускую шляхту і шляхецтва ("Блакітная кроў"), пра нашу правінцыяльную памяркоўнасць і беларушчыну ў асяродку інтэлігенцыі, у прыватнасці, сярод пісьменнікаў, якую аўтар называе векавечным фундаментам нацыі. Шмат увагі У. Мароз адводзіць беларускім гістарычным асобам і постацям. Распрацаваныя да культуралагічных нарысаў сцэнарыі дакументальных фільмаў пра хрысціянскага асветніка і паэта Кірыла Тураўскага, князя Вітаўта, паэта-лацініста Міколу Гусоўскага, духоўнага настаўніка філаматаў Міхала Баброўскага і першага расійскага консула ў Японіі беларуса Іосіфа Гашкевіча, пра беларуса, "вялікага асветніка" Чылі, Ігната Дамейку. Закранаюць увагу развагі пра апокрыфы Максіма Багдановіча, складаны лёс вядомага музыкі Міколы Равенскага, пра гісторыка Міколу Ермаловіча і філосафа і літаратуразнаўцу Уладзіміра Конана, пра пісьменніка Віктара Казько і мастака Уладзіміра Савіча, пра паэта Леаніда Дранько-Майсюка... Ёсць спробы параўнальных супастаўленняў аўтара пра час і людзей у рамане Уладзіміра Някляева "Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без", а таксама сяброўскія згадкі пра таленавітага рускамоўнага паэта са Слуцка Пятра Кошаля. Заканчваецца том гэткім сцэнарна-літаратурным "папуры", мініяцюрамі пад назвай "Ніву ўзарэ араты". Вельмі насычаныя факталагічнымі матэрыяламі і асабістымі лірычна-эмацыйнымі пасыламі літаратурныя тэксты.

Пасля прачытання трохтомніка склалася ўражанне, нібыта ўсё жыццё я пражыў поруч з Уладзімірам Марозам – у яго хатах дзяцінства, у яго кватэрах, на яго лецішчы ў коласаўскім Панямонні ў Мікалаеўшчыне, быў неадлучным ценем пры яго застоллях, бяссоннях, творчых пакутах і замежных вандраваннях... Мне думаецца, што я пэўным чынам зразумеў і яго самога як чалавека і творцу, і яго бачанне і ўсведамленне нашага беларускага жыцця-быцця, як праміналага, так і сённяшняга, а ў некаторых светапоглядных творах – і магчымае заўтрашняе...

Агулам, з усяго тут суб'ектыўна прааналізаванага літаратурнага плёну аўтара, можна высноваць бясспрэчную думку, што перад намі адметны творца і адданы патрыёт Беларусі, адзін з самаадданых і бескарыслівых працаўнікоў на яе духоўнай і культурна-гістарычнай ніве...

# Апошні першы снег

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Зора Кіпель. Укладанне, каментары Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі эміграцыі: кніга 1). — 280 с.**

Кніга "Зора Кіпель" — гэта аповед пра жыццё і дзейнасць амерыканскай беларускі, бібліёграфа, даследчыцы сярэднявечнай літаратуры. Аповед, заснаваны на яе ўласных тэкстах, успамінах пра яе, а таксама на архіве, што захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Гэтае выданне — ушанаванне памяці спадарыні Зоры (1927–2003) і вяртанне ў айчынную інтэлектуальную прастору яе да сёння належна не ацэненай літаратуразнаўчай спадчыны.




**Вера Лойка. Апошні першы снег: апавяданні, эсэ. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; вып. 119). – 112 с.**

"Апошні першы снег" – дэбютная кніга, тэксты якой пісаліся цягам дваццаці гадоў. Апавяданні Веры Лойка вытрыманыя ў традыцыйна-класічным стылі і строга адпаведныя яму па сваёй літаратурнай форме. Узаемаадносіны паміж людзьмі ў постсавецкім грамадстве, іх думкі, пачуцці і ўчынкі, якія фармуюць філасофію жыцця беларускага этнасу – галоўная ідэйная скіраванасць твораў пісьменніцы. Артыкулы і эсэ, што складаюць другую частку выдання, распавядаюць пра жыццё вядомых людзей нацыянальнай і сусветнай літаратур (А. Васілевіч, А. Асташонка, С. Унсет), а таксама пра мастацкую творчасць, цесна звязаную з навакольным светам і жывой прыродаю.




**Сяргей Пясецкі. Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі (ад 17 верасня 1939 г.). Пераклад з польскай Алеся Астраўцова. — Мінск: Медысонт, 2019. — 256 с.**

*"Ноч была чорнай, як сумленне фашыста, як намеры польскага пана, як палітыка англійскага міністра. Але няма на свеце сілы, якая стрымала б салдатаў непераможнай Чырвонай Арміі, што радасна і з гонарам ідуць вызваляць з буржуазнага ярма сваіх братоў — сялянаў і рабочых усяго свету"* – гэтак пачынаецца раман Сяргея

Пясецкага, які найчасцей з усяе творчай спадчыны пісьменніка выдавалі незалежныя выдавецтвы ва ўсім свеце. “Запіскі...” з’яўляюцца адным з найбольш паслядоўных, знішчальных, бескампрамісных, але ў той жа час таленавітых і па-сапраўднаму смешных (гумар, што праўда, “чорны”) прыкладаў сатырычнага адлюстравання антычалавечай сутнасці таталітарнай савецкай сістэмы. Гэта другое выданне культавага рамана па-беларуску. Сродкі на яго былі сабраныя праз краўдфандынгавую пляцоўку *Ulej.by*.

**Барыс Пятровіч. ...Роўна і трошкі ўправа: фрэскі розных гадоў. — Мінск: Кнігазбор, 2019. — 192 с.**




“Фрэскі” – аўтарскі жанр Барыса Пятровіча. Адметнасць гэтых твораў у тым, што яны “пішуцца яны за адзін раз, як і малююцца ў храме – пакуль не высахла тынкоўка. І не перапісваюцца, бо нельга ўвайсці ў адзін і той жа настрой двойчы”. Адметнасць жа кнігі “...Роўна і трошкі ўправа” не толькі ў тым, што яе выданне сталася прыемнай неспадзяванкай для аўтара (сябры літаратара падаравалі яму на дзень народзінаў патаемна падрыхтаваную імі і надрукаваную кнігу), але і ў тым, што вядомы творца нечакана раскрываецца ў ёй як... паэт. Паэт з адметным стылем, з нечаканымі мастацкімі знаходкамі і нават – вынаходніцтвамі. Большасць твораў, што склалі зборнік, – верлібры паводле формы. Да некаторых з іх (“Апа-калі?..”, “пачатакёсцьканец”, “Шляхі”, “Настальгія”, “Вечнасць” і інш.) добра пасавала б такая жанравая пазнака, як “паэмы”. Паэтка Валянціна Аксак напісала ў *Facebook*: “Чытаю новую кнігу верлібраў “...Роўна і трошкі ўправа”. Штовечар – па некалькі старонак. Смакую – як дарагое віно”. Запрашаем усіх аматараў сапраўднае паэзіі да дэгустацыі гэтае кнігі!

*...калі ты ідзеш адзін...*
*час запавольваецца –*
*ты крочыш, а ён спыняецца, стаіць*
*і глядзіць табе ўслед*
*ты азіраешся і не бачыш нікога*
*вочы твае спатыкаюцца*
*аб дрэва далёкае – на ўскрайку жыцця*
*чапляюцца за жаваронка ў небе*
*дрэва адно і жаваронак адзін*
*і ты адзін ва ўсім свеце*
*пад адзінотным сонцам...*

***(“Шляхі”)***



# Нашыя аўтары

**Арлоў Уладзімер** — празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала», «Танцы над горадам» і інш. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010), «Залаты Апостраф» (2015), імя Ежы Гедройца (2018). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Акудовіч Валянцін** – філосаф, эсэіст. Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Код адсутнасці». Лаўрэат прэміі Беларускага ПЭН-цэнтра (Прэмія імя Алеся Адамовіча) (2001), літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2007), прэміі «Залатая літара» (2012). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў мястэчку Свіслач на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Брава Алена** – празаік, журналіст. Аўтарка кніг прозы «Каменданцкі час для ластавак», «Тапіць дзяўчынак тут дазволена», «Змяя, пакрытая пёрамі птушкі сонца», «Імя ценю — святло», «Дараванне». Нарадзілася ў 1966 годзе ў Барысаве, дзе і жыве.

**Гайм Георг** – нямецкі паэт, адзін са стваральнікаў новай паэтычнай мовы і самых яркіх прадстаўнікоў нямецкага экспрэсіянізму. Пісаць пачаў у 12 гадоў, у 1911 г. выдаў зборнік вершаў «Вечны дзень» (рэшта твораў выйшла пасмяротна). Пражыў усяго 24 гады (1887–1912).

**Галубовіч Леанід** – паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гапееў Валеры** – журналіст, празаік. Аўтар кніг «Пастка на рыцара», «Урокі першага кахання», «Ведзьміна тоня», «Праклён», «Ноч цмока», «Пазл» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2016), прэміі Цёткі ў намінацыі (2018). Нарадзіўся ў пасёлку Восава на Рагачоўшчыне ў 1963 годзе. Жыве ў Івацэвічах.

**Гімпелевіч Зіна** – літаратуразнаўца. Ганаровы прафесар Канадскага ўніверсітэта Ватэрлоа, былая прэзідэнт і ганаровы прэзідэнт Канадскай асацыяцыі славістаў, адна з заснавальніц Фонда дапамогі беларускім дзецям, пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы. Нарадзілася ў 1949 годзе ў Мінску. Жыве ў Канадзе.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** — празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «Зваротная перспектыва», «Казкі» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** — паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне», «У храме хараства і смутку», «Арабінавая ноч» і інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе на хутары Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Зізаній Лаўрэнці** (? — 1634) – педагог, лінгвіст, багаслоў, палеміст. Настаўнік брацкіх школ у Львове, Берасці, Вільні. У 1596 г. выдаў у Вільні першы ў Беларусі і на Украіне буквар «Наука ку читаню и розуменю писма словенского», які ўключаў «Лексіс...» – беларускі тлумачальны слоўнік. «Граматыка...» Зізанія — адзін з першых помнікаў усходнеславянскай філалогіі. У 1626 прывёз у Маскву напісаны па заданні патрыярха Філарэта «Катэхізіс» (выдадзены ў 1627), дзе на беларускай мове выкладаў звесткі па прыродзе і даў блізкае да пратэстантызму тлумачэнне царкоўных дагматаў. Яго погляды былі абвешчаны ерэтычнымі.

**Значонак Дар'я** – празаік. Скончыла БДТУ (спецыяльнасць «Выдавецкая справа»). Выпускніца Школы маладога літаратара пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Нарадзілася ў 1996 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Ліпай Алесь** – паэт, журналіст. Першы стрынгер Радыё Свабода ў Беларусі (з 1989 году). Стваральнік і генеральны дырэктар прыватнай інфармацыйнай агенцыі БелаПАН. Аўтар кнігі паэзіі «Пад снегам», «Рэшта». Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы

